БЕЛАРУСКАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК

АДДЗЕЛ ГУМАНІТАРНЫХ НАВУК

КАМІСІЯ ДЛЯ ЎКЛАДАНЬНЯ СЛОЎНІКА ЖЫВОЙ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Уклажыў М. В. ШАТЭРНІК

ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ.

Мікола Шатэрнік

# КРАЁВЫ СЛОЎНІК
# ЧЭРВЕНШЧЫНЫ

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ

М. Я. БАЙКОВА й праф. Б. І. ЭПІМАХА-ШЫПІЛЫ.

Гэта выданьне надрукована ў ліку 2000 экз.

Provincial Dictionary

КРАЁВЫ СЛОЎНІК

Living White-Russian Language

Увага. Націскі ў слоўніку над беларускімі словамі, надрукованымі тлустым шрыфтам, з прычыны адсутнасьці ў друкарні адпаведных літар з націскам, паказаны курсыўнымі літарамі. *Камісія для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы.*

МЕНСК — 1929

ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСКАЕ АКАДЭМІІ НАВУК

ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ.

Мікола Шатэрнік

# КРАЁВЫ СЛОЎНІК ЧЭРВЕНШЧЫНЫ

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ

М. Я. БАЙКОВА й праф. Б. І. ЗПІМАХА-ШЫПІЛЫ.

Менск, 2011

# Прадмова

У 1920-я гг. беларускія мовазнаўцы найперш выраршалі практычныя задачы, якія стаялі перад імі ў сувязі з правядзеннем палітыкі беларусізацыі. І толькі пераважна пазней заняліся ўласна навуковымі даследаваннямі. Пераломным у плане стаўлення да навуковых лінгвістычных штудый быў 1926-ы год, калі была праведзена Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі. Аднак ракурсы, не арыентаваныя адзіна на вымогі культурнай або дзяржаўнай практыкі, а засяроджаныя на пастаноўцы і вырашэнні буйных навуковых задач, прысутнічалі ў лепшых беларускіх мовазнаўчых працах і раней.

Да ліку такіх узораў належала ініцыяваная Сцяпанам Некрашэвічам у 1925 г. падрыхтоўка «вялікага» слоўніка жывой беларускай мовы, якая спалучала ў сабе амбітны навуковы пафас (укладанне «поўнага» слоўніка асобнай мовы заўсёды няпростае) з вялікай карпатлівай збіральніцкай работай. Праект выконвала спецыяльна створаная ў Інстытуце беларускай культуры камісія. Адным з напрамкаў дзейнасці камісіі быў «франтальны» збор народнай лексікі, арганізаваны пры дапамозе шматлікіх тагачасных краязнаўчых арганізацый. У лютым 1926 г. С. Некрашэвіч выступіў з дакладам «Мовазнаўчая праца краязнаўчых арганізацый» на Першым усебеларускім краязнаўчым з'ездзе, дзе растлумачыў вялікае значэнне далучэння краязнаўцаў да выканання лінгвістычных задач. Планы і вынікі дзейнасці слоўнікавай камісіі, скіраваныя на збіранне лексічнага матэрыялу, не могуць не ўражваць і сёння. Камісія пастанавіла ўкласці дзесяць краёвых слоўнікаў (адпаведна з колькасцю тагачасных акруговых краязнаўчых таварыстваў), тры слоўнікі для Заходняй Беларусі і тры слоўнікі для Гомельшчыны, Смаленшчыны і Невельшчыны. Калі па стану на люты 1926 г. слоўнікавая камісія мела каля 80 тысяч картак-слоў, выпісаных пераважна яе супрацоўнікамі з тагачаснай літаратурнай мовы, то к канцу 1927 г. картатэка слоўніка налічвала ўжо больш за 400 тысяч адзінак, пры гэтым укладзена яна была ўжо з апорай на працу вялікай колькасці людзей. Па закліку Інстытута беларускай культуры зборам беларускіх слоў у гэты час займаліся каля 2500 чалавек! На жаль, з-за трагічных падзей 1930-х гг. гэты грандыёзны праект беларускай лінгвістыкі не быў ажыццёўлены...

У той час, як спачатку галоўным напрамкам дзейнасці ў галіне рэгіянальнай лексікаграфіі была падрыхтоўка «краёвых» слоўнікаў, якія адлюстроўвалі лексіку тагачасных адміністрацыйных акруг (складаліся з 10—12 раёнаў), пазней прыйшлі да высновы, што ёсць сэнс рыхтаваць таксама і слоўнікі асобных раёнаў. Укладанне акруговых слоўнікаў было немагчымае без удзелу ў гэтай рабоце вялікай колькасці людзей (што не заўсёды атрымлівалася арганізаваць зусім якасна), а меншыя слоўнікі маглі рыхтаваць невялікія калектывы, нават асобныя выканаўцы. Найбольш дасканала выкананыя працы Інбелкульт быў гатовы друкаваць.

Да ліку такіх прац належаў падрыхтаваны на працягу 1927 г. настаўнікам Навасёлкаўскай школы Пухавіцкага раёна Мікалаем Шатэрнікам (1890—1934) «Краёвы слоўнік Чэрвеньшчыны», які налічваў каля 9 тысяч слоў.

Народжаны ў вёсцы Старына былога Ігуменскага павета (цяпер Чэрвеньскі раён), выпускнік Смілавіцкай царкоўнапрыходскай школы і Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі (1914), М. Шатэрнік працаваў у розных школах на Міншчыне: у Смілавічах, Чэрвені, у вёсцы Ляды Чэрвеньскага раёна, у вёсках Дукора і Навасёлкі Пухавіцкага раёна. Добрае веданне мясцовай лексікі, а таксама агульная захопленасць тагачасным размахам краязнаўчай работы дазволіла яму падрыхтаваць слоўнік, які хоць і грунтаваўся пераважна на запісах у в. Старына, быў няпоўным (што аўтар сам усведамляў), аднак быў выкананы на высокім навуковым узроўні. Супрацоўнікі камісіі жывой беларускай мовы М. Байкоў і Б. Эпімах-Шыпіла аддалі належнае «дыялекталагічнай правільнасці» зробленых М. Шатэрнікам запісаў, іх «суцэльнасці і адналітнасці». Дакладнасць выкарыстаных пры ўкладанні слоўніка запісаў зрабіла добрую паслугу пачынальніку беларускай філалогіі, акадэміку Яўхіму Карскаму, які, грунтуючыся на прыведзеных у працы ілюстрацыях, у 1930 г. апублікаваў дыялекталагічны нарыс Чэрвеньскага раёна. Слоўнік не страціў свайго навуковага значэння і сёння. Напрыклад, на яго аснове можна зрабіць пэўныя вывады наконт таго, у якім выглядзе бытавалі ў 1920-я гг. у народнай мове некаторыя запазычаныя словы.

І, вядома ж, слоўнік М. Шатэрніка каштоўны тым, што ў ім зафіксаваны як агульнанародныя словы, вядомыя на ўсёй тэрыторыі Беларусі, так і багатыя россыпы народнай лексікі Чэрвеньшчыны. Слоўнік Шатэрніка можа быць прыдатны для сучасных карыстальнікаў беларускай мовы, якія не хочуць абмяжоўвацца «дыстыляванай» літаратурнай мовай, а імкнуцца авалодаць ёй ва ўсёй яе красе і разнастайнасці.

*Сяргей Запрудскі*

БЕЛАРУСКАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК
АДДЗЕЛ ГУМАНІТАРНЫХ НАВУК
КАМІСІЯ ДЛЯ ЎКЛАДАНЬНЯ СЛОЎНІКА ЖЫВОЙ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

# КРАЁВЫ СЛОЎНІК
## ЧЭРВЕНШЧЫНЫ

Улажыў
М. В. ШАТЭРНІК

Пад рэдакцыяй
М. Я. Байкова і Б. І. Эпімаха-Шыпілы

МЕНСК — 1929
ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСКАЕ АКАДЭМІІ НАВУК

Чэрвенскі краёвы слоўнік зьяўляецца адным з ліку беларускіх краёвых слоўнікаў, вызначаных да выданьня Камісіяй для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы [б. Інстытуту Беларускай Культуры, яшчэ да рэорганізацыі яго ў Беларускую Акадэмію Навук, і сярод прац Камісі ідзе сьледам за Віцебскім Краёвым слоўнікам, укладзеным М. І. Касьпяровічам на падставе слоўных матар'ялаў, сабраных Віцебскім Акруговым Таварыствам Краязнаўства, пад непасрэдным кіраўніцтвам і рэдакцыяй Камісіі і выданым у 1927 г.

Чэрвенскі краёвы слоўнік, як і ранейшы Віцебскі краёвы слоўнік, укладзены паводле прынцыпаў, устаноўленых Камісіяй для ўкладальнікаў краёвых слоўнікаў і з мэтодолёгічнага боку мае наступныя асаблівасьці: а) беларускія словы ў асноўнай калюмне беларускага тэксту, набранага на тлусты шрыфт, запісаны паводле існуючага цяпер літаратурнага беларускага правапісу; б) у слоўніку даюцца не тлумачэньні беларускіх слоў па беларуску-жа, а пераклады іх на расійскую мову; в) прыклады ў слоўніку запісаны паводле фонэтычнага запісу з захаваньнем асаблівасьцяй мясцовага вымаўленьня.

Чэрвенскі краёвы слоўнік апрацаваны пад непасрэдным кіраўніцтвам Камісіі настаўнікам Навасёлкаўскай школы Пухавіцкага раёну, родам з в. Стáрына, М. В. Шатэрнікам і, як індывідуальная праца краязнаўца, адрозьніваецца ад раней выданага Віцебскага краёвага слоўніка, які зьяўляецца вынікам масавай працы цэлага Краязнаўчага Таварыства.

Абмежаваньне вузкім Чэрвенскім раёнам і непасрэднае веданьне мясцовай народнай гаворкі дазволілі т. Шатэрніку выканаць вымогу аб дыялектолёгічнай правільнасьці яго запісаў і надалі разам з тым яго працы тую суцэльнасьць і адналітнасьць, якімі яна адрозьніваецца параўнальна з Віцебскім слоўнікам.

Аднак і слоўныя запісы М. Шатэрніка ня могуць разглядацца, як вычэрпваючыя, і маюць значэньне толькі як *матар'ялы* для вывучэньня народнай гаворкі Чэрвеншчыны.

Пры рэдагаваньні гэтых матар'ялаў Камісія зварочвала сваю ўвагу пераважна на правільнасьць запісу беларускіх слоў у асноўнай калюмне тэксту і літаратурнасьць перакладаў; прыклады пакідаліся, як правіла, ў запісе ўкладальніка. Адно прынцыповае адхіленьне было зроблена ў запісе прыйменьніка *з (с)*, які заўсёды даецца ў цьвёрдым вымаўленьні супраць запісу яго т. Шатэрнікам у пэўных мясцох (перад мягкімі) з зьмягчэньнем.

Тэхнічныя ўмовы друку слоўніка пры абмежаванай колькасьці шрыфту не дазволілі дасылаць гранкі слоўніка для корэктуры самому аўтару, дзеля чаго памылкі, якія маглі быць дапушчаны ім у процэсе працы, змогуць быць выпраўлены і пропускі дапоўнены толькі ў далейшых выданьнях слоўніка.

*Камісія для ўкладаньня слоўніка*
*жывой беларускай мовы.*

10 жніўня 1929 г.

Червенскі краёвы слоўнік зьмяшчае ў сабе словы, якія сустракаюцца ў жывой народнай мове Сьмілавіцкага, Пухавіцкага і пэўнай часьці Шацкага р. р., што ўваходзілі раней у склад Чэрвенскага (б. Ігуменскага) павету. У слоўнік увайшоў матар'ял з розных 25 вёсак, галоўным чынам Сьмілавіцкага р., а пераважна з вёскі Стáрына, мае родзіны.

Праца над зьбіраньнем слоўнікавага матар'ялу праходзіла пад кіраўніцтвам Камісіі для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы Інстытуту Беларускае Культуры пры беспасярэдных зносінах з самой Камісіяй, якая наважыла выдаць маю працу асобнаю кніжкаю, зважаючы на каштоўнасьць такога выданьня з навуковага погляду.

Апрача звычайных моўных зваротаў, словы ілюстраваны народнымі прыказкамі, прыгаворкамі і народнымі параўнаньнямі („*Малы, ік вузял*", „*Ідзе ды йдзе, ік тая вада*"); у слоунік увайшло таксама досыць і т. зв. ідыётызмаў,—спэцыяльных беларускіх выразаў („*Іці за блізкі сьвет*" „*Здацян на ўсе рукі*" і інш.).

Мэтод зьбіраньня слоў у мяне, можна сказаць, быў адзіны — мае ўласныя назіраньні над мовай. Праўда, троху матар'ялу дастаўлена мне і іншымі асобамі, але я заўсёды меў магчымасьць праверыць гэты матар'ял, працуючы ў азначаных раёнах і ведаючы дыялектычныя асаблівасьці іх гаворак.

Тыя шпаркасьць і завіханьне, якімі адзначаецца сучасны момант жыцьця, а ў роўнай меры і тая нагрузка рознастайнымі занятками, якія праводзіў я, як настаўнік і загадчык вясковай сямілеткі, бязумоўна, адбіліся на маёй працы: я ўпэўнен, перша за ўсё, што няпоўнасьцю зафіксаваны рэдкія і цікавыя словы жывой гаворкі Чэрвеншчыны; магчыма, што даны ня ўсе значэньні некаторых асобных слоў; магчыма, што ёсьць і інш. недахопы. Але я правуюся менавіта гэтай самай сьпешкаю жыцьця; такія працы, як укладаньне слоўніка жывой народнай мовы, хоць і невялікага аб'ёму, патрабуюць вельмі шмат часу, шмат маруднай і спакойнай працы

Спадзяюся, што ўсе недахопы, якія заўважу я сам і якія адзначыць крытыка, будуць з часам выпраўлены, бо на даным разьмеры мой слоўнік ня спыніцца: я маю сваёй няўхільнай задачаю працу гэту працягваць і папаўняць.

Вельмі трудна было разьвязаць пытаньне з правапісам слоў. Слоўнікавая Камісія ухваліла пісаць словы, набраныя ў слоўніку тлустым

шрыфтам, згодна сучаснага літаратурнага беларускага правапісу, а ў тэксьце прыкладаў я трымаўся пераважна фонэтычнага запісу, за выключэньнем тых выпадкаў, калі запісваліся звонкія зычныя, злучнік *каб*, прыймеьнікі *аб, над, пад, пярад (перад)*, дапаможнік *ж*, якія пісаліся мною ўсюды згодна літаратурнага правапісу. Для паказаньня моцнага аканьня, якім адзначаецца ўвесь абшар Чэрвеншчыны, ненаціскное *е* ва ўсіх складох перад націскам і пасьля націску абазначаецца мною ў тэксьце літарай *я*.

У заключэньне выказваю шчырую падзяку за дапамогу мне ў процэсе працы парадамі навуковага характару Навуковаму Сакратару Камісіі для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы т. М. Байкову і дырэктару гэтай Камісіі Бр. Іг. Эпімаху-Шыпіла, якім належыць і рэдакцыя майго слоўніка, а таксама і ўсім асобам, да якіх я зварачаўся за дапамогаю; асабіста дзякую свайму аднафамільцу наст. Андр. Шатэрніку, які дапамагаў мне парадамі адносна слоў з в. Ста́рына.

*Мік. Шатэрнік.*

31 жніўня 1927 г.
С. Навасёлкі, Пухавіцк. р., Менск. акр.

## Сьпіс скарчэньняў.

*выкл.* — выклічнік
*гл.* — глядзі
*дзс.* — дзеяслоў
*дзс. безас.* — дзеяслоў безасабовы
*ж.* — іменьнік жаночага
*м.* — „ мужчынскага роду
*н.* — „ ніякага „
*аг.* — „ агульны
*мн.* — „ множнага ліку (plurale tantum)
*зб.* — „ зборны
*звар.* — зваротак
*злуч.* — злучнік
*ліч.* — лічэбнік
*літ.* — літаратурнае слова
*прм.* — прыметнік
*прм. в. ст.* — прыметнік вышэйшай ступені
*прм. н. ст.* — „ найвышэйшай ступені
*прс.* — прыслоўе
*прс. в. ст.* — прыслоўе вышэйшай ступені
*прс. н. ст.* — „ найвышэйшай ступені
*пам.* — памяншальнае слова
*пав.* — павялічальнае „
*прыйм.* — прыйменьнік
*Прык.* — Прыказка
*пр.* — прыраўнай
*скар.* — скарочана
*В.* — Вёска
*П.* — Пасёлак
*С.* — Сяло
*Х.* — Хутар
*Сьміл. р.* — Сьмілавіцкі раён
*Пух. р.* — Пухавіцкі „
*Шацк. р.* — Шацкі „

Увага. Націскі ў слоўніку над беларускімі словамі, надрукованымі тлустым шрыфтам, з прычыны адсутнасьці ў друкарні адпаведных літар з націскам, паказаны курсыўнымі літарамі.

**Парадак літар у слоўніку.**

А, Б, В, Г, Д (Дз, Дж), Е (Ё), Ж, З, І (Й), К, Л, М, Н, О, П, Р, С, Т, У (Ў), Ф, Х, Ц, Ч, Ш, Ы, Ь, Э, Ю, Я.

# А.

**А, аб** (перад гл. зычнымі **ап**, перад аднасклад. з дзьвюма зычнымі ў пачатку **аба**), *прыйм.*—1) о, об. Я а божум сьвеця нічога ня ведаю. Ё тут аб чом казаць! Аб тоя-ж і я кажу. Бацькé клапоцяцца аба мне. *В. Старына,* —2) в смысле предл. *с.* Гаруя аб адной картоплі. *В. Старына.*

**А,** *злуч.*—и. Казянінкі а Пўдзіцак—адна хвіля: увосянь такая гразішча, што ня вылязьці. *В. Старына.*

**А,** *выкл.*—а. 1) для выраж. удивления. А—а! во дык дзіва!—2) догадки. А—а, бачыш, як яно; я й ня ведаў!—3) негодования. А, ліха на вас!—4) переспроса. А? што ты там кажаш? *В. Старына.*

**Аба,** *злуч.*—*гл.* **Абò.** Аба я пайду, аба ты йдзі. *В. Раўнапольле, Сьміл. р.*

**Абабрацца,** *дзс.*—1) вызваться на что. Абаброўся етакі-то разумны, ня трэба!—2) очиститься. Ніяк ня'бабрацца ад гразішчы. *В. Старына.*

**Абабэніць, абабэнчыць,** *дзс..безас.*—вздуть (живот) от об'ядения. Абабэніла жывот. *В. Старына.* Сымонаву аўцу абабэнчыла. *Пас. Дубраўка, Пух. р.*

**Абадзьмуты**—*гл.* **Абдзімàць.**

**Абадзьмуцца,** *дзс.*—надуться, насупиться. Абадзьмуўся, ік тая курыца, ды сядзіць. *В. Старына.*

**Абадзьмуць,** *дзс. безас.* — вздуть (о животе). Каб цібе абадзьмула! *В. Старына.*

**Абазвацца**—*гл.* **Абзывàцца.**

**Абалона, ы,** *ж.*—верхний слой дерева до сердцевины. Няважны стол: дошкі з аднае абалоны. *В. Старына.*

**Абалоністы,** *прм.*—сделанный из верхних слоев дерева. Ня купляй абалоністага цэбра. *В. Старына.*

**Абалонка,** і, *ж.*—оконное стекло. Дзіця выбіла абалонку. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Абапал,** *прыйм.*—по обе стороны. Абапал дарогі стаяць бярозы. *В. Старына.*

**Абапнуцца,** *дзс.*—окрыться. Абапніся хустаю, ато холадна. *В. Старына.*

**Абаранак,** нка, *м.*—баранка. Ня плач: куплю дзірачку з абаранка (жарт да малога). *В. Старына.*

**Абараніць,-цца,***дзс.*—защитить,-ться. Чуць абараніўся ат сабак. Каб ня'баранілі, прытаўклі-б яго. *В. Старына.*

**Абарачацца,** *дзс.*—вращаться среди кого; бывать в каких-либо местах. Дзе-та абарачаяцца наш сынок? *В. Старына.*

**Абарачвацца,** *дзс.* (*зак.* **абярнўцца**)—поворачиваться к кому. Ня'барачвайся назад, ня пазірай. Аберняцца задам, ды маўчыць. *В. Старына.*

**Абарачваць,-цца,** *дзс. (зак.* **абярнўць,-цца,** *прм.* **абèрнуты**)—опрокидывать,-ться. Хадзім абарачваць вазѐ. Абернам воз. Воз абярнуўся. Міска абернута на лаўца. *В. Старына.*

**Абарванец,-нца,** *м.* — оборванец, оборвыш. Па сяле ходзіць нейкі абарваняц. Ах ты абарваняц! *(лаянка). В. Старына.*

**Абарваны**—*гл.* **Абрываць.**

**Абармот**, а, *м.* *(лаянка)*—большой плут. Абармот ты, гультай! *В.Старына.*

**Абарона,** ы, *ж.*—защита. Ламачыну якую вазьмі—і то будзя абарона. Ого, у немцаў вялікая абарона! *В. Старына.*

**Абарсаць** *лапаць дзс.*—втянуть в ушки лаптя „аборы" Абарсаю лапці ды буду абувацца. *В. Белае, Пух.р.*

**Абачнасьць,** і, *ж.*—внимание. Хай маё пяройдзя: некаліся чалавек будзя мець абачнасьць і на міне. *В. Старына.*

**Аббіваць,** *дзс. (зак.* **абабіць,** *прм.* **абабіты)**—околачивать. Сундук абабілі зялезам. Ік засяваюць, дык сьцелюць першы абабіты снапок. *В. Старына.*

**Абблутаць**, *дзс. (прм.* **абблутаны)**—опутать. Ік абблуталі каня лейцамі, дык тады толька ўлавілі. Марынка ходзіць у вузкай спадніцы, ік абблутаная. *В. Старына.*

**Аббрэхваць,** *дзс. (зак.* **аббрахаць)**—оговаривать, возводить клевету. Толька бегая па сяле ды аббрэхвая суседзяў. Ужо ўсё ўсьпеў аббрахаць пра міне. *В. Старына.*

**Аббягаць,** *дзс. (зак.* **аббегчы)**—обегать. Конь уцякоў, а я стоў яго аббягаць. Трэба кругом аббегчы. *В. Старына.*

**Абважваць,** *дзс. (зак.* **абважыць)**—обвешивать. Ік станя абважваць каждага па каплі, дык і то шмат зьбярэцца. Міне абважылі чуцьня на хунт. *В. Старына.*

**Абваліць,-цца,** *дзс.* — обрушить, -ться. У вадрыня абваліўся дзядок. *В. Раўнапольле, Сьміл. р.*

**Абвінавачваць,** *дзс. (зак.* **абвінавaціць)**—обвинять. У судзе абвінавацілі яго на тры рублé. *В. Старына.*

**Абвінуць,** *дзс.*—обвить, обвязать. Парэзаў паляц: трэба абвінуць чым. *В. Старына.*

**Абгабляваць,** *дзс. (прм.* **абгаблёваны)**—обстругать доску или кусок дерева. Добра абгаблюй ету дошку, каб была гладкая. Зуслон гладзінька абгаблёван. *В. Старына.*

**Абгаліць,** *дзс.*—обрить, остричь. Усю галаву абгаліў сабе. *В. Крамяні, Пух.р.*

**Абганашыць,** *дзс. (прм.* **абганошаны)**—дочиста ощипать что. Даўзваньня абганашылі садок. Гаспадыня ўсе грады абганашыла сьвіньням. Але ўся дулька абганошана. *В. Старына.* (*Пр.* **Адганашыць).**

**Абганіць,** *дзс.*—опозорить. Абганіў, абганіў пярад людзьмі й рабі з ім, што хочаш. *В. Старына.*

**Абганяць** *картоплю*—окучивать картофель. Мы толькі ашчэ раз абагналі сваю картоплю. *В. Старына.*

**Абгарадзіць,-цца**, *дзс. (прм.* **абгароджаны)**—огородить,-ться. Кругом абгарадзіўся ат суседзяў. Двор абгароджан чыстаколам. *В. Старына.*

**Абгарэць,** *дзс.*—обгореть. Уся качарга абгарэла. *В. Старына.*

**Абглядаць,** *дзс. (зак.* **абглядзець,** *прм.* **абгледжаны)**—1) осматривать. Мужчыны абглядаюць жыта. Абглéдзяўшы коні, хлопцы паселі. *В. Падбярэжжа, Пух. р.*—2) оправлять, приводить в порядок. На зіму трэба хату абглядзець. Калі хлеў абгледжаны, дык цяплей скаціня. *В. Старына.*

**Абгортваць,** *дзс. (зак.* **абгарнуць,** *прм.* **абгорнуты)**—окучивать, обсыпать землей, золой или песком. Нашы абгортваюць капусту. Абгарні гаршчок жарам. Капуста лепяй удаецца, калі яна абгорнута. *В. Старына.*

**Абграбаць,** *дзс. (зак.* **абгрэбці)**—огребать. Надта абграбаць воза ня трэба, а з большага абгрэбці ды хутчэй ехаць. *В. Старына.*

**Абгрызаць,** *дзс. (зак.* **абгрызьці,** *прм.* **абгрызены)**—1) обгрызать. На, во абгрызі костку. Уся яблынка абгрызяна зáйцамі.—2) ощипывать траву. Конь во няхай абгрызая каля град. *В. Старына.*

**Абдзімаць,** *дзс. (зак.* **абадзьмуць,** *прм.* **абадзьмуты)**—очищать дуновением воздуха. Абдзімаць

картоплі ат попялу ня трэба: яна чыстая. Вазьмі абадзьмутаю картопіну ды еж. *В. Старына.*

**Абдзірош,** а, *м.*—порванная одежда, отрепье. Скінь ты еты абдзірош. *В. Дукарка, Сьміл. р.*

**Абед,** у, *м.*—обед. Для'днаго абеду сем міль едам. (*Прык*). Просім к нам на'бед. *В. Старына.*

**Абельтух,** а, *м.*—неразборчивый в пище, обжора (презрительно). Абельтух ёты ўсю калатўшу паесьць. *С. Амёльна, Пух. р.*

**Абернуты**—*гл.* **Абарачваць.**

**Аберуч, аберучкі,** *прс.*—обеими руками. Вазьмі місу абéруч. Абéручкі трымайся. *В. Старына.*

**Абжынаць,** *дзс. (зак.* **абжаць,** *прм.* **абжаты)**—сжинать раньше хлеба́ на соседних полосах около чьей-либо одной полосы. Абжалі людзі наша жыта. Хай сабе абжынаюць. Нейчы авёс стаіць адзін абжаты. *В. Старына.*

**Абжыцца,** *дзс.*—обжиться. Стала лепяй: ужо троха абжыўся на новум месьця. *В. Старына.*

**Абзадачыць (азадачыць),** *дзс.*—дать задаток при покупке. Паеду, каб дзе хлеба абзадачыць. *В. Слопішча, Шацк. р.* Нашы ўжо азадачылі пасяку. *В. Старына.*

**Абзначыць,** *дзс.*—сделать заметку. Трэба абзначыць, аткуль касіць. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Абзывацца,** *дзс. (зак.* **абазвацца)**—окликаться. Нехта ў леся далёка абзываяцца. Абазвоўся разы са два ды змоўк. *В. Старына.*

**Абібок,** а, *м. (пав.* **абібочына)** байбак (*лаянка*). Ах ты гультаіна, абібок! Абібочына ета толька ведая ляжаць цэлы дзень. *В. Старына.*

**Абіраць,** *дзс.* (*зак.* **абабраць)**—1) очищать. Абярыця картоплі на вячэру. *В. Старына.*—2) щипать. Пара абіраць вішні. *В. Старына.*—3) обкрадывать. Нехта залез у каморку і ўсё абаброў да йголачкі. *В. Старына.*

**Аб'ірхаваць,** *дзс.*—нашить в полушубке „ірхі" *(гл.* **ірха** ). Кажух гатоў, толька ашчэ аб'ірхаваць. *В. Старына.*

**Абкараваць,** *дзс.*—очистить от коры. Абкаруй харашэнька тапарышча. *В. Старына.*

**Абкасіць,** *дзс.*—откосить часть чужого смежного сенокоса. Ігнат абкасіў нашы Пяраходы. *В. Старына.*

**Абквэцаць,-цца,** *дзс. (прм.* **абквэцаны)** — опачкать, -ться чем-либо чорным (дёгтем, сажею). І собіла-ж табе етак абквэцацца! Усе рукі абквэцаны ў дзёгаць. Ходзіць абквэцаны, ік Шмуйла. *В. Старына.*

**Абкеўзаць,-цца,** *дзс. (прм.* **абкеўзаны)**—обмарать, -ться, размазывая что-либо, мазюкая. Чыста ўсё дзіця абкеўзалася ў кашу. Абкеўзаныя анучы, а ён абувая. *В. Старына.*

**Абкідаць,** *дзс. (зак.* **абкідаць,** *прм.* **абкіданы)**—1) обсыпать песком или землей. Сягоньня трэба абкідаць капец. Капец быў слаба абкіданы, дык картопля троха й прымерзла. *В. Старына.*—2) обшивать края в куске полотна. Ашчэ толька прóразку трэба абкідаць (у election сароцца). *В. Старына.*

**Абкладаць,** *дзс.* (*зак.* **абкласьці)**—обкладывать. На зіму хату прыдзецца абкладаць кастрыцаю. Каб хоць саломаю абкласьці, дык і то-б цяплей было. *В. Старына.*

**Абклейваць,** *дзс.* (*зак.* **абклеіць)**—оклеивать. Абклейваям сьцены папераю. *В. Старына.*

**Абкруціць,** *дзс.*—1) обвернуть. Абкруці шыю шалікам. *В. Старына.*—2) обмануть. Такі абкруціў міне ён: ня дадоў рубля. *В. Старына.*

**Абкрыць, -цца,** *дзс.*—окрыть, -ться. Абкрыйся ты якою плацінаю, ато дрыжыш. *В. Старына.*

**Аблавухі,** *прм.*—с большими ушами. Конь нейкі аблавухі. Купіў аблавухаю шапку. Шчанё ты аблавухая! *В. Старына.*

**Аблажыць,** *дзс.*—1) покрыть. Хмары аблажылі ўсё неба.—2) свалить дерево. Аблажыў етакаю-то хвою! *В. Старына.*

**Аблазіць,** *дзс.* (*зак.* **аблезьці)**—линять. Ашчэ новая спадніца, а чыста ўся аблезла. Ета шатын-

ка нядобрая—хутка аблазіць. *В. Старына.*

**Аблак**, а́, *м (мн.* **аблакѐ**, *пам.* **аблачо́к)**—облако. На сонца найшоў абла́к. Увосянь саўсім нізка ходзяць аблакѐ. Маленькі аблачо̀к: чуць відаць. *В. Старына.*

**Абламаць**—*гл.* **Абломліваць.**

**Аблаяць**, *дзс. (прм.* **аблаены)**—обругать. Аблаяў, ік толька хацеў. Аблая, ік цюцьку. Напрасна аблаяны чалавек. *В. Старына.*

**Аблегчы**, *дзс.*—заболеть, слечь. Аблягла мая гаспадыня. *В. Старына.*

**Аблезлы**, *прм.*—1) полинявший; оголенный от шерсти или волос. Вуй які гадкі хлопяц: нейкі аблезлы твар!—2) в бранном смысле. Жаба ты аблезлая, куды ты лезяш?! *В. Старына.*

**Аблетак, аблетнік**, а, *м. зб.* - сухие дрова, пролежавшие лето. Добра гарыць аблетнік. *С. Амельна, Пух. р.* У Вінцэся цэлая павець аблетак. *В. Старына.*

**Аблётаць**, *дзс.*—облететь; в смысле быстро обойти, побывать у кого. Усё сяло аблётаў і нідзе ня дастоў капейкі. *В. Старына.*

**Абліваха**, і, *ж.*—слякоть. На дварэ абліваха, халадэча. *В. Старына.*

**Аблізваць,-цца**, *дзс. (зак.* **аблізаць, -цца)**—1) облизывать,-ться. А Цімох толька аблізваяцца, ік кот. —2) в бранном смысле. Аблізала хвароба нашага хлопца. *В. Старына.*

**Абліччa**, а, *н.*—лицо, физиономия. Па абліччу відаць, што Васількоў сын! *В. Старына.*

**Аблічыць**, *дзс.*—сосчитать, пересчитать. Аблічыма копы ды будам дзяліць сена. *В. Старына.*

**Абломліваць,-цца**, *дзс. (зак.* **абламаць, - цца)**—обламывать, - ться. Траву рві ўградах, толька капусты ня'бломлявай. *В. Старына.* Абламаласі цэлая прасла плоту. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Аблузаць**, *дзс. (прм.* **аблузаны)**—очистить от кожуры. Аблужыма троха пасолі на полудзянь. Бяры аблузаны гарбузік. *В. Старына.*

**Аблук**, ка, *м.*—цельный липовый лубок для закладывания ящика и стенок в крестьянской телеге, кладется также и на сани. Залажы ў. калёсы аблук. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Аблупіць**, *дзс.* (*прм.* **аблуплены)**—облупить, содрать кожу. Мясьнік аблупіў карову. Каб цібе ваўкѐ аблупілі! У казы аблупляна паўбока. Жаба ты аблупляная! *В. Старына.*

**Аблушчыць**, *дзс.*—отделить кожуру или мякоть от семян. Трэба гарбуз аблушчыць да насушыць гарбузікаў. *В. Матарова, Сьміл. р.*

**Аблямаваць**, *дзс. (прм.* **аблямованы)**—окаймить края юбки, кофты, воротник или рукава. А я сваю спадніцу абля(і)мавала аксамітам. Абля(і)мованыя рукавэ крапчэй. *В. Старына.*

**Аблямоўка**, і, *ж.*—кайма. Пазыч мне на'блямоўку еты кавалачак. *В. Старына.*

**Абляпаць,-цца**, *дзс.* — загрязнить, -ться; обмарать,-ться. Калёса абляпаў і сам абляпаўся ў гразь. *В. Старына.*

**Абманшчык**, а, *м*—птица крапивник (Motacilla troglodites). У нашуй крапівя жыве абманшчык. *В. Забалоцьце, Сьміл. р.*

**Абманьваць,-цца**, *дзс. (зак.* **абмані́ць, - цца)** — обманывать - ться. Абманьвая цыган людзей: во так і жыве. Раз, другі абманіш, а боляй ня паверацць. Троха абманіўся я, але нічога ня паробіш. *В. Старына.*

**Абмараць,-цца**, *дзс.* (*прм.* **абмараны)**—обмарать,-ться. Абмароўся, ік сьвінчо, у гразь. Рукі абмара̀ныя, а ён барджэй садзіцца жраць. *В. Старына.*

**Абмарока**, і, *аг.* — назойливый. А якая-ж ты абмарока: атстань ляпяй! *В. Старына.*

**Абмацаць**, *дзс.* — ощупать. Ганна, абмацай смаліну там на печы! *В. Старына.*

**Абмуляць**, *дзс.* (*прм.* **абмулены)**—насаднить кожу. Абмуляў пля-

чукѐ вяроўкаю. У каня абмуляна сьпіна кульбачкамі. *В. Старына.*

**Абмываць**, *дзс.* (*зак.* **абмыць**)—обмывать. Абмый ты сваю морду. Абмыйма ногі. *В. Старына.*

**Абмылка**, і, *ж.*—ошибка. За абмылку б'юць па затылку. *Прык. Самін, Пух. р.*, (*Пр.* **Ахмылка**).

**Абмяргаваць** - *літ.* **абмеркаваць**, *дзс.* (*прм.* **абмярговаӣы**)—обсудить. Хацелі ехаць у Сібір, але абмяргавалі ды застанавіліся. Ікраз ўсё было абмяргỏвана, падстрỏяна. *В. Старына.*

**Абмятаць** *пчолы* — очищать ульи весною после зимовки пчол. Сягоньня Андрэй абмятая пчолы. *В. Старына.*

**Абножка**, і, *ж.*—пыльца, котор. пчолы носят на ножках в улей. Сягоньня пчала з абножкаю добра йдзе. *В. Старына.*

Або, *злуч.*—1) разделительный—или-или. Або я, або ты, толька ня разам. *В. Старына.*—2) при вопросе. Або я ведаю што? *В. Старына.*—3) причинный: потому что, в смысле „бо" Ня скажу, або ня ведаю. *В. Старына.*

**Абодва**, **абудва**, *ліч.* — оба. Ёсьць два Юр'і, ды абодва дурні: адзін галодны, другі халодны. *Прык. С. Дукора, Сьміл. р.* Ашчэ братэ̀ ня дзяліліся: жывуць абудва разам. *В. Старына.*

**Абодзьдзе**, я, *н. зб.*—ободья. На месьця шмат было абодзьдзя. *В. Старына.*

**Абозьня**, і, *ж.*—сарай для повозок и телег. Хурман пашоў у вабозьню. *В. Скобраўка, Пух. р.*

**Абоі**, яў, *мн.*—обои. Вельмі-ж стройныя абоі купілі—с кветкамі. *В. Старына.*

**Абора**, ы, *ж.*—1) большой хлев в именьи. Каровы стаяць у ваборы.—2) ремешок, которым стягивается лапоть и привязывается к ноге. Парвалася ў лапці абора. *В. Старына.*

**Абосы**, *прм. гл.*—**Бо́сы**.—босой. Ходзіць абосы. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Абот** (*мн.* **Аботы**)—*гл.* **Бот**. Патапталіся мае аботы. *В. Турэц. Сьміл. р.*

**Абрабляць**, *дзс.* (*зак.* **абрабіць**, *прм.* **аброблены**)—обрабатывать. Што самі абрабляям, а што наймаям. Кадоўбчык акуратна аброблян. *В. Старына.*

**Абрадзіцца**, *дзс.*—разрешиться от бремени. Зараз абродзіцца наша нявестка. *В. Старына.*

**Абраз**, а́, *м.* (*мн.* **абразэ**, *пам.* **абразік**)—икона. Абразоў і абразікаў поўная хата. *В. Турэц, Сьміл. р.*

**Абразанцы**, аў, *мн.* — обрезанная картофельная кожица. Занясі, Міколка, каровя абразанцы! *В. Харавічы, Сьміл. р.*

**Абразаць**, *дзс.* (*зак.* **абрэзаць**)—1) обрезывать, очищать картофель. Абраза́ям бульбу на вячэру. *В. Дукарка, Сьміл. р.* 2) в бранном смысле. Каб твая мяць абрэ̀зала! *В. Старына.*

**Абракацца**, *дзс.* (*зак.* **абракціся**)—давать обет. Каб ачуняць, абраклася даць на'беднкю. *В. Старына.*

**Абрамяняць**, *дзс.* (*зак.* **абрамяніць**)—повременить, отсрочивать. Прашу, каб мне абрамянілі з пазычкаю хлеба. *В. Старына.*

**Абробіць,-цца**, *дзс.* (*прм.* **аброблены**)—обмарать,-ться. Абробіўся ў гразь, ік з балота выляз. Так абробіў боты, што й ня дачысьціцца іх. Калёса аброблявы ў гразь. *В. Старына.*

**Аброць**, і, *ж.*—уздечка. Садраласі с каня аброць. *В. Крамяні, Пух. р.* (*Пр.* **Вобрыць**).

**Абруд**, у, *м.* (*мн.* **абрудэ**)—нижняя часть деревянной посуды, от дна. У цэбры выламаўся абруд. Вядро цячэ ў вабрудзя. *В. Турэц, Сьміл. р.*

**Абрус**, а, *м.* (*пам.* **абрусак**)—скатерть. Наткалі модных абрусоў. *В. Старына.* На стол заслалі белы абрусак. *В. Скрыль, Пух. р.*

**Абрусны** *ручнік*—полотенце для навешивания на иконах. Абрусны ручнік вісіць на вобразя. *В. Слопішча, Шац. р.*

**Абрывак**,-рыўка, *м.*—оторванный лоскут, вообще часть чего. Во етыя абрыўкі добра будуць на

анучы. Калі німа вяроўкі, дык дай хоць які абрывак. *В. Старына.*

**Абрываць,-цца**, *дзс.* (*зак.* **абарваць, -цца**, *прм.* **абарваны**)—обрывать, обтрепывать одежду. Чыста ўсю адзежу абарвоў у леся. Абарвоўся, аж страмна глядзець. Нашто табе абрываць ніткі? Ходзіць абарваны, ік той старац. *В. Старына.*

**Абрывіна**, ы, *ж.*—лощина у горы. Скінаўся з гары ў вабрывіну. *В. Забалоцьце, Сьміл. р.*

**Абрыдаць**, *дзс.*—надоесть, опротиветь. Казоў, казоў—аж абрыдала яго слухаць! *В. Старына.*

**Абрыдліва, абрыдоны**, *прм.*—надоедливый. Абрыдліва, нягодны ён хлапёц. *В. Скрыль, Пух. р.* Якоя-ж абрыдоная дзіця, пярастань ты дурэць! *В. Старына.*

**Абрындвацца**, *дзс.*—обрываться махрами. Доўгая спадніца абрындваяцца. *В. Скрыль, Пух. р.*

**Абрыскаць,-цца**, *дзс.* (*прм.* **абрысканы**)—обрызгать,-ться. І калёса абрыскаў, і сам абрыскаўся ў гразь. Абрысканая хуста дажджом. *В. Старына.*

**Абрэзкі,-каў**, *мн.*—обрезки. Кравец нарабіў абрэзкаў. Усё пашло на'брэзкі. *В. Матарова, Сьміл. р.*

**Абскубаць**, *дзс.* (*зак.* **абскубці**)—1) обрывать, выдёргивать. Добра абскубі хіб у парсюка: там вялікая шчаціньня. Ня магла яна чысьцей абскубці курыцы. *В. Старына* —2) оправлять воз или стог сена, соломы. Абскубаць воза ня трэба: сена ня будзя цярушыцца. Абскубі воз, ато ў пуню ня ўлезя. *В. Старына.*

**Абслухоўваць**, *дзс.* (*зак.* **абслухаць**) — выслушивать. Во калі добры дохтар: абслухая й распытая праз усё. *В. Старына.*

**Абсмоктваць**, *дзс.* (*зак.* **абсмактаць**, *прм.* **абсмоктаны**)— обсасывать. Дай малому костку абсмактаць. Абсмоктаныя косьці выкінь. *В. Старына.*

**Абсмэркаць,-цца**, *дзс.* (*прм.* **абсмэрканы**)—обсморкать,-ться. На што ты мне бот абсмэркаў? Вой як ён абсмэркаўся! Так і ходзіць абсмэрканы. *В. Старына.*

**Абстругаць**, *дзс.* (*прм.* **абстругаты**)—обстрогать. Гладзінька абстругоў дошку. Абструганыя абручэ папсавоў. *В. Старына.*

**Абстрыгчы,-чыся**, *дзс.* — обстричь, -чься. Трэба абстрыгчы мальца і самому абстрыгчыся. *В. Старына.*

**Абсудзіць (асудзіць)**, *дзс.*—осудить судом. Дарма што й поп, але абсудзіў чалавек яго. Асудзілі за патраву. *В. Старына.*

**Абсыпацца**, *дзс.* (*зак.* **абсыпацца**)—опадать (о листьях). Абсыпаяцца ўжо ліcьця. *В. Старына.*

**Абсыпаць**, *дзс.* (*зак,* **абсыпаць**)—осыпать. Абсыпалі хату прызбаю. *В. Старына.*—Абсыпала губы, плечы—появилась сыпь на губах или на другом месте. Малому абсыпала ўсе губкі! *В. Старына.*

**Абсыхаць**, *дзс.* (*зак.* **абсохнуць**)—обсыхать. Трэба расставіць снапэ, каб троха абсохлі. *В. Старына.*

**Абсячы**, *дзс.*—обрубить. Хіба каб лёд абсячы, ато можна кінуцца ў колодзіж. *В. Старына.*

**Абтынкаваць**, *дзс.* (*прм.* **абтынкованы**)—оштукатурить. Калі абтынкаваць хату, дык яно лепяй. *В. Старына.*

**Абудавацца**, *дзс.*—обстроиться. Кругом усе людзі абудаваліся. Абудавоўся, як мая быць. *В. Старына.*

**Абудзіць**, *дзс.*—разбудить. Нашто ты абудзіў дзіця? *В. Старына.*

**Абурыцца**, *дзс.*—возмутиться, притти в негодование. Ік абурыўся на міне дзядзька, ды давай лаяцца! *В. Старына.*

**Абурыць,-цца**, *дзс.* (*прм.* (**абураны**)—обрушить,-ться; обвалиться. Вецяр абурыў слуп. Хата зараз абурыцца. Азярод так і ляжыць абураны. *В. Старына.*

**Абух**, а, *м.* обух. Але крэпкі абух у тваём тапары. *В. Старына.*

**Абуць** *у лапці*,—провесть в денежных делах; обманом довесть до нищенства. Ня выбірайця етага п'яніцы за прадсядацяля: абуя ён вас у лапці. *В. Старына.*

**Абхарчавацца,** *дзс.*—потравить весь корм. Хай пазьней будзя восянь: ня так абхарчуюцца людзі с кормам. *В. Старына.*

**Абхвастаць,** *дзс.*—1) отхлестать. За што абвхастоў хлапцà? *В. Старына.*—2) вымолотить зерно, обивая снопы. Снапоў дзісятак абхвастоў жыта. *В. Старына.*

**Абхлё(ю)пацъ,-цца,** *дзс.* (*прм.* **абхлё(ю)паны**) — обрызгать,-тся грязью. Добра абхлёпаўся ў гразь. *В. Бор, Сьміл. р.* Абхлюпала спадніцу, што й ня пазнаць. Абхлюпаная сьвіта. *В. Старына.*

**Абходзіцца,** *дзс.* (*зак.* **абыйціся**)— 1) обходиться с кем. Ніхто так ня'бходзіцца з бацькам.—2) обходиться без кого. Абыйдуся, абойдамся й бяз цібе. *В. Старына.*

**Абходзіць,** *дзс.* (*зак.* **абыйці**)—1) обходить мимо. Усім доў па чарца, а міне абышоў.—2) обходить кругом. Кругом абходзьця. *В. Старына.*

**Абцас,** у, *м.*—каблук. Ад бота атарваўся абцас. Паваліў ды давай абцасам гнесьці. *В. Бор, Сьміл. р.*

**Абцерабіцца,** *дзс.*—с трудом освободиться от неприятности. Вот дзе нáпасьць: чуць абцярабіўся ат етых судоў! *В. Старына.*

**Абцерабіць** *дзс.* (*прм.* **абцярэблены**) —очистить дерево от сучьев. Адзін і сьсек і абцярабіў увесь дуб. Абцярэбляна бярозка да'днанаго сучка. *В. Старына.*

**Абцінаць,** *дзс.* (*зак.* **абцяць,** *прм.* **абцяты**) — общипывать. Жарабётка абціная сабе авёс. У курыцы абцяты хвост. *В. Старына.*

**Абцуге,** оў, *мн.* (*пам.* **абцужке**),—клещи. Падай, сынку, абцугè вырваць цьвіх. Заваліліся нейдзя нашы абцужкè. *В. Старына.*

**Абцягваць,** *дзс.* (*зак.* **абцягнуць**)— 1) обтягивать рукой или граблями висящие на возу или на стоге клочки сена или соломы. Абцягні троха салому на возя. Шмат абцягваць стога ня трэба, —2) оправлять одежду. Абцягні спадніцу, каб лепяй вісела. *В. Старына.*

**Абцяць,** *дзс.*—обрезать в разговоре. Так абцёў яго, што атразу змоўк! *В. Старына.*

**Абчыканіць,** *дзс.*—осадить в разговоре. Нябось, скора цябе абчыканіў прадсідацяль! *В. Бор, Сьміл. р.*

**Абшарыць,** *дзс.*—хорошенько кругом обыскать. Трэба добра абшарыць, дык знойдам. *В. Старына.*

**Абшмальцаваць,** *дзс.* (*прм.* **абшмальцованы**)—засалить, залоснить. Чыста ўсю адзежу абшмальцавоў. Абудва рукавэ ў сьвіця абшмальцòваны. *В. Старына.*

**Абшмараваць,** *дзс.* (*прм.* **абшмарованы**)— обтереть. Ік відзіш абшмаравоў новаю вяроўку. Абшмарòваныя штанэ̀ надзеў. *В. Старына.*

**Абшмуляць,** *дзс.* — ссаднить, ободрать. Да крыві абшмуляў пальцы важкàмі. *В. Старына.*

**Абшморгаць,** *дзс.* — обтереть. Абшморгаў усе рукавэ аб стол. *В. Старына.*

**Абшуканства,** а, *н.*—*гл.* **Ашуканства.** Німа праўды на сьвеця: адно абшуканства. *С. Дукора, Сьміл. р.*

**Абшукаць,** *дзс.*—1) обыскать вокруг. Абшукоў усе куткé і нідзе ня нашоў тапара.—2) обмануть. Хацеў абшукаць міне, але ня на таго нарвоўся. *В. Старына.*

**Абшчыпаць,** *дзс.*—ощипать. Абшчыпалі да'днае вішанькі. *В. Старына.*

**Абы,** *прыстаўка ў злучэньні з іншымі часьцінамі мовы*—лишьбы. Абы-дзе кіня, а посьля шукая. Абы каго ні папоў, дык і давай гаманіць. Абы-калі можна зайці да нас. Абы-куды пайду, толька ня тут буду. Абычыё, толька ня сваё. Плявузгая абы-што, а ўсе слухаюць. Абы-як зрабіў—і баста. *В. Старына.*

**Абы,** *злуч.*—1) лишь-бы. Абы здароўя, грошы будуць.—2) потому что. Пухня з голаду, абы хлеба німа. *В. Старына.*

**Абычай,** чаю, *м.* обычай. Што край, то новы абычай. *Прык. В. Дайнава, Пух. р.*

**Аб'яжджаць,** *дзс.* (*зак.* **аб'ехаць** і **аб'езьдзіць**)—об'езжать. Нічога ня будзя: прыходзіцца аб'яжджаць роў. Аб'ехаў рыцьвіну. Трэба аб'езьдзіць новыя сані. Аб'езьдзіць жарабка. *В. Старына.*

**Абязьвечыць,** *дзс.* (*прм.* **абязьвечаны**)—изувечить. Ня сунь рукі ў цапэ, ато сам сібе абязьвечыш. Навекі абязьвечан чалавек. *В. Старына.*

**Абяліць,** *дзс.*—снять кору, чтобы была видна белая древесина. Калі абеліш пагаўё, дык яно будзя лягчэйшая. *В. Слопішча, Шац. р.*

**Абяцанка,** і, *ж.*—обещание. Абяцанка—цацанка, а дурному радасьць. *Прык. В. Старына.*

**Абяцаць,-цца,** *дзс.* (*прм.* **абяцаны**)—обещать,-ться. Абяцоўся, а патом і забыўся. Абяцаная шапка на вушы ня лезя. *Прык.* Ета работа мне ўжо абяцана. *В. Старына.*

**Абячаяк,** чайка, *м.,* **абяча(э)йка,** і, *ж.*—ободок, образующий края сита, решета, кузова или „века" для „дзяжы" Сагнуў арэшнявы абячаяк. *В. Турэц, Сьміл. р.* У веку паламалася абячайка. *В. Старына.* У века трэба новая абячэйка. *В. Галацак, Сьміл. р.*

**Авечка,** і, *ж.* (*пам.* **авечачка**)—овца. Авечкі бягуць дамоў. Пярабегла наша авечачка. Авечка ты дурная! (*лаянка*). *В. Старына.* (*Пр.* **Аўца**).

**Авечны** *пастух*—пастух, пасущий овец. Авечны пастух ужо гоніць. *В. Старына.*

**Авеччы,** *прм.*—овечий. Авечны гной лёгкі. *В. Старына.*

**Авэй,** *выкл.*—тьфу! Авэй, авэй! які-ж ты дурны, братка! *В. Старына.*

**Ага, ага-ж,** *выкл.*—да, так. Ага, я вазьму. Ага папоўся, зладзюк! Ага-ж, я казоў, што етак будзя! *В. Старына.*

**Агарнуць,** *дзс.*—покрыть, охватить со всех сторон. Барджэй дажынайма, а то й ноч нас тут агорня. *В. Старына.*

**Агарод,** у, *м.*—огород. Усё высахла ў вагародзя даўзваньня. Маці пашла на'гарод. *В. Старына.*

**Агародніна,** ы, *ж. зб.*—овощи. Сягоньлята ўрадзіла агародніна: агуркé, капуста—усё добрая. *В. Старына.*

**Агідлы,** *прм.*—противный. Агідлы ты мне стаў. *В. Бор, Сьміл. р.*

**Аглабня,** і *ж.*—оглобля. Увядзі каня ў ваглобні ды запрагай. *В. Старына.*

**Агладзіць,** *дзс.*—откормить (лошадь). Жаробку троха агладзіў—сытая. *В. Слопішча, Шац. р.*

**Агледжаны**—*гл.* **Аглядаць.**

**Агледзіны,** дзін, *мн.*—смотрины. Нашы паехалі на'гледзіны аж у Дукору. *В. Лешніца, Сьміл. р.*

**Аглухці,** *дзс.*—оглохнуть. Бацька пад старасьць аглух. Ета-ж можна аглухці ат такога стукату. *В. Старына.*

**Аглушыць,** *дзс.*—оглушить. Ік жарнаў пó галавя, дык чыста аглушыў. *В. Старына.*

**Агляд,** у, *ж.*—осмотр. Пашлі на'гляд жыта. *В. Старына.*

**Аглядацца,** *дзс.*—управляться со скотом. Ужо вечар: трэба пайсьці аглядацца. *Б. Слопішча, Шац. р.*

**Аглядаць,-цца,** *дзс.* (*зак.* **аглядзець, цца,** *прм.* **агледжаны**)—осматривать,-ться. Пашлі аглядаць патраву. Ня ўсьпеў і аглядзецца, ік на табе: зноў ліха! Садок агледжаны, дык і садавінà ўрадзіла. *В. Старына.*

**Агоньчык,** а, *м.*—огонёк. А вэнь агоньчык! *В. Старына.*

**Агорклы,** *прм.*—опротивевший, надоевший. Які агорклы чалавек! *В. Старына.*

**Агоркці,** *дзс.*—в перен. см. сильно надоесть, опротиветь. Агоркла мне жыцьця такоя. *В. Старына.*

**Агоўтацца,** *дзс.*—1) очиститься от грязи. Ніяк ня'гоўтацца ад гразі. *В. Старына.*—2) освоиться. Агоўтайся ды жыві памаленьку. *В. Старына.*

**Аграда**, ы, *ж.*—ограда. Кругом дварà камянная аграда. *В. Старына.*

**Агроднік**, а, *м.*—огородник. Хіба ў агродніка трэба дастаць расады. *В. Старына.*

**Агрыб(е)яць**, *дзс.*—сильно состариться. Саўсім агрыбяў чалавек. *В. Старына.*

**Агрызак**, зка, *м.*—огрызок. Выкінь вон агрызак з яблыка. *В. Бор, Сьміл. р.*

**Агрызацца**, *дзс.* (*зак.* **агрызнуцца**)—огрызаться, грубо отвечать. Вот сынок: агрызаяцца з бацькам. Сабака агрызнуўся ды даў драла. *В. Вострава, Сьміл. р.*

**Агрэст**, у, *м.*—крыжовник (Ribes grossularia L). У садку пасадзілі агрэсту й малін. *В. Старына.*

**Агрэх**, у, *м.*—пропущенные бороною ряд или плугом борозда на пашне. Ік на сьмех пабаранована: адны агрэхі. *В. Старына.*

**Агулам**, *прс.*—1) вообще. Агулам чалавек нічога ня робіць.—2) оптом. Агулам купляй—дзяшавей будзя. *В. Старына.*

**Агульна**, *прс.*—огулом. Агульна німа чаго вінавáціць усіх. *В. Старына.*

**Агульны**, *прм.*—общий. У нас сянакос з братам агульны. *В. Старына.*

**Агурковы**, *прм.*—огуречный. Пайдзі выրві агурковага цьвету. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Агурок**, рка, *м.* (*пам.* **агурочак**)—огурец. (Cucumis sativus L.) Сяголята зарадзілі агуркè. Улетку добра йзесьці й агурочка с цыбулькаю. *В. Старына.*

**Агурочнік**, у, *м.*—огуречные листья и стебли. Наламала гаспадыня агурочніку ў квас. *В. Старына.*

**Агурочны** *расол*—просоленая накисшая вода, в которой квасились огурцы. Удоўся агурочны расол—смашны. *В. Старына.*

**Ад (ат)**, *прыйм.*—от. Атайдзі ты ад мяне. *В. Вострава.* Ат каго йдзеш? *В. Старына.*

**Адазвацца**, *дзс.*—откликнуться. Калі клічуць, дык трэба адазвацца. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Адаткаць**, *дзс.*—закончить ткать. Я ужо ататкала адно палатно. *В. Турэц, Сьміл. р.*

**Адбалабаніць**, *дзс.*—с криком поговорить; поговорить вздорное, неправду. Адбалабаніў сваё ды пашоў. *В. Старына.*

**Адбараніцца**, *дзс.* - защититься. Чуць адбараніўся ат ваўкоў. *В. Старына.*

**Адбівацца**, *дзс.* (*зак.* **адбіцца**)—1) отделяться, отставать. Ягнё адбілася ат чарады.—2) отвыкать, Саўсім ён адбіўся ат свае сям'і. 3) отбиваться (от рук). Адбіўся ат рук: нічога ня хоча рабіць. Кот адбіўся ат рук: і блізка ня патходзіць. *В. Старына.*

**Адбіваць**, *дзс.* (*зак.* **адбіць**)—1) отбивать в смысле отнимать. Хлопцы адбілі ат Лаўрэна дзеўку.—2) клеймить дрова, бревна. Лясьнік ужо адбіў дрова: можна вазіць.—3) сильно удариться. Усе грудзі адбіў, ік скінаўся с печы. *В. Старына.*

**Адбіраць**, *дзс.* (*зак.* **адабраць**)—1) отнимать. Нашто адбіраць, нашто атаброў у дзіцяці цацку?—2) отбирать, брать меру чего. Атаброў шаснастку грэчкі. *В. Старына.*

**Адбой**, ю, *м.*—1) ответный удар. Ік доў адбой, дык аж кацёлка разьбілася.—2) клеймо для дров и др. лесного материала. Нешта й ня відаць адбою на дровах. *В. Старына.*

**Адбягаць**, *дзс.* (*зак.* **адбегчы, -чыся**) отбежать. Трэ'бала ў бок адбèгчы. Надта-ж ужо далёка адбегся Ня ўсьпеў адбегчыся. *В. Старына.*

**Адвага**, і, *ж.*—отвага. Ета-ж трэба атвага: аднаму ўночы пайці на могілкі. *В. Старына.*

**Адважлівы**, *прм.*—отважный, смелый. Атважлівы ты чалавек: хоць у мора лезяш. *В. Скрыль, Пух. р.*

**Адважваць**, *дзс.* (*зак.* **адважыць**, *прм.* **адважаны**) — отвешивать. Атважця мукі с пуд. Атважця солі хунтаў з дзісятак. Што атважана, забірайця проч. *В. Старына.*

**Адважнік,** а, *м,*—отважный человек. Знойдзяцца на яго атважнік,—правучыць. *В. Старына.*

**Адважны,** *прм.*—отважный, смелый. Ой ня кажы, ён атважны чалавек, гатоў на ўсё пайці. *В. Старына.*

**Адважыцца,** *дзс.*—решиться. Хто з ім атважыцца чапацца, з благім чалавекам. *В. Старына.*

**Адвакат,** а, *м.*—адвокат, *насм.*—защитник кого. Й адвакат ня памог на судзе. Найшоўся адвакат етакі, бяз цібе абойдамся. *В. Старына.*

**Адвальваць, -цца,** *дзс.* (*зак.* **адваліць,-цца**) — 1) отмыкать,-ться. Ня ўмею я етым ключом атвальваць. Лёгка атвальваюцца сенцы. Ці хто атваліў, ці самі атваліліся ўночы дзьверы.—2) отваливаться, отставать. Ат прыпячку атвалілася цагліна. Ляпі, а яно атвальваяцца.—3) ослабевать (о морозе). Ня'твальваяцца, ліха на яго, мароз: ужо с тыдзянь трымая. Каб хаця троха атваліўся мароз, ато й с хаты ня вылязьці. *В. Старына.*

**Адварачваць,-цца,** *дзс.* (*зак.* **адвярнуць,-цца**)— отворачивать,-ться. Чаго ты атварачваясься ат міне? Бяжыма атварачуваць коні ат шкоды. Атвярні там і майго каня. *В. Старына.*

**Адвесьціся,** *дзс.*—отойти в сторону. Во аж куды атвёўся с канём. *В. Старына.*

**Адведкі,** дак, *мн.*—навещение родильницы. Арына пашла с пірагом к куме на'тветкі. *В. Старына.*

**Адводзіць,** *дзс.* (*зак.* **адвесьці**)—отводить. Усё атводзіць яго ў бок ды нешта шэпча на вуха. Даляй трэба атвесьці дзіця ат печы. *В. Старына.*

**Адвозіць,** *дзс.* (*зак.* **адвезьці**)—отвозить в смысле отдавать долг. Зоўтра будам атвозіць Ігнату акалот. Німа часу атвезьці брацэніку салому, што пазычоў. *В. Старына.*

**Адгаварвацца,** *дзс.* (*зак.* **адгаварыцца**) — отговариваться, отказываться. Ня'дгаварвайся: ета твая работа! *В. Старына.*

**Адгаварваць,** *дзс.* (*зак.* **адгаварыць**) —отбивать. Я адгавар(у)ваць ня буду: купляйця сабе. У дзеўкі адгаварылі жаніха. *В. Старына.*

**Адгадваць,** *дзс.* (*зак.* **адгадаць**)—отгадывать. Сам й адгадвай сваю загадку, а я ня хачу. *В. Старына.*

**Адгадзіць,** *дзс.*—отблагодарить. Пазыч грошай, ня бойся, некаліся адгаджу. Ня ведаю, як і адгадзіць вам за ласку. *В. Старына.*

**Адганашыць,** *дзс.* — весьма много нарвать чего. Вот адганашылі хлопцы дуль, ік залезьлі ў садок! *В. Старына.*

**Адгарадзіць, -цца,** *дзс.*—отгородить, -ться. Цялятам адгарадзілі асобянна. Ат етакіх суседзяў лепяй адгарадзіцца. *В. Старына.*

**Адгасьціць,** *дзс.*—хорошо, долго погостить. Пара й дамоў, адгасьцілі добра. *В. Старына.*

**Адгрызацца,** *дзс.*—резко отвечать. Вот дзе сынок—адгрызаяцца з бацькам! *В. Старына.*

**Адгрызаць,** *дзс.* (*зак.* **адгрызьці**)—отгрызать. Хай конь тут адгрызая траву. Етага зубамі ня'дгрызьці. *В. Старына.*

**Адгрымець,** *дзс.*—отгреметь (о громе). Ня будзя боляй грому: адгрымеў сваё. *В. Старына.*

**Адгырквацца,** *дзс.*—грубо отвечать. Як табе ня сорам адгырквацца с старым чалавекам! *В. Старына.*

**Аддаваць,** *дзс.* (*зак.* **аддаць**)—1) отдавать. Куды ўзёў нож: аддай назад.—2) резонировать. У вялікум пакоі добра аддае голас. Скрыпка ня'ддае голасу. *В. Старына.*

**Аддалеч,** *прс.* — издали. Аддаляч стань ды глядзі. *В. Старына.*

**Аддохці,** *дзс.*—издохнуть (о многих). Аддохлі ўсе куры. *В. Старына.*

**Аддратаваць,** *дзс.*—сильно избить нагайкой, кнутом или веревкой. От аддратавоў я свайго малога бізуном! *В. Старына.*

**Аддрэнчыць,** *дзс.*—отстегать. Маўчы, ато аддрэнчу, ік ката. *В. Старына.*

**Аддзел**, у, *м.* — двор, образовавшийся после раздела семьи. Брат жыве на'дзьдзеля. *В. Дукарка, Сьміл. р.*

**Аддзякаваць**, *дзс.* — отблагодарить. Ня ведаю, чым і адзьдзякуваць за вашу ласку. *В. Старына.*

**Аддубасіць**, *дзс.* — сильно побить. Аддубасілі Мікітку добра, — век ня забудзя. *В. Старына.*

**Ад(н)дыхаць**, *дзс.*—(*зак.* **ад(н)дыхнуць**)—отдыхать. За работаю німа калі й аддыхнуць. Аддыхніма троха. *В. Старына.* Утаміўсі, трэ' андыхнуць. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Аджарыць**, *дзс.*—довольно сильно побить. Здорава аджарыў хлапца папружкай. *В. Старына.*

**Аджон**, у, *м.*—отработка жатвою. Пазычылі хлеба на'джон. *В. Старына.*

**Аджымаць** *плацьце* — мыть отмокшее за ночь белье в первый раз. Матка аджымая плацьця. *В. Старына.*

**Аджынаць,-цца**, *дзс.* (*зак.* **аджаць**)— 1) отрабатывать долг жатвой. Жонка пашла аджынаць пазыку.— 2) прожинать часть полосы. Во аж куды ўжо аджаліся бабы! *В. Старына.*

**Аджыць**, *дзс.*—выжить, поправиться. Была саўсім прыбілі ката, але аджыў. *В. Старына.*

**Адзежа**, ы, *ж.*—одежда, платье. Шмат наспраўлёў сваім дзеўкам адзежы. Ні адзежы, ні ежы нічога. *В. Старына.*

**Адзежына**, ы, *ж.* (*пам.* **адзежынка**)— одежина (одна вещь). Каб хаця якая адзежына была ў хаця, нічога німа. *В. Старына.*

**Адзеньне**, я, *н.*—одеяние, одежда. Адзеньня й грошай чоршта навёз з Амэрыкі. *В. Старына.*

**Адзеты**, *прм.*—одетый. Ашчэ пакуль адзеты, абуты й ня галодны. *В. Старына.*

**Адзёнак**, нка, *м.*—*гл.* **Адонак.** Пад стог зрабілі новы адзёнак. *В. Вострава, Сьміл. р.*

**Адзёр**, адрў, *м.*—корь. Хлопчык хварэя на адзёр. Дзіця ляжыць у вадры. *В. Старына.*

**Адзінакавы**, *прм.* — одинаковый. Адзінакавая наша багацьця: маё й тваё. *В. Старына.*

**Адзінанцацяра**—собир. числ. **адзінанцаць.** Вывялася толька адзінанцацяра пылянятак. *В. Старына.*

**Адзінанцаць**, *ліч.* — одиннадцать. Хлапцу адзінанцаць год. *В. Старына.*

**Адзініца**, ы, *ж.*—единица. Адзініцы адгулёў, а ціпер буду двойкі гуляць. (З гульні ў каменчыкі). *В. Старына.*

**Адзінота**, ы, *ж.*—одиночество, уединение. Жыве на'дзіноця й ня баіцца нікога. *В. Старына.*

**Адзінюткі**, *прм.*—одинешенек. Адзін адзінюткі й стаіць наш ячмень. *В. Старына.*

**Адзічаць**, *дзс.*—одичать. Адзічоў наш кот. *В. Старына.*

**Адкавуліць**, *дзс.*—отрезать большой кусок хлеба. Пастух аткавуліў сабе ў вярэньку с паўбулкі хлеба. *В. Старына.*

**Адказ**, у, *м.*—ответ. Ні атказу, ні прыказу. *Прык.* Ня вядома, які дадуць мне атказ на маё прашэньня. *В. Старына.*

**Адказаць**, *дзс.*—завещать что на словах пред смертью. Бацька атказоў сыну ўсе грошы *В. Старына.*

**Адкалоць**, *дзс.*—заколоть (поросёнка). Аткалолі парасята, каб ня цягнулі сьвіньні. *В. Старына.*

**Адкалупіць**, *дзс.*—отковырнуть. Аткалупі сабе троха масла на хлеб. *В. Старына.*

**Адкамячыць**, *дзс.*—хорошенько помять, побить кого. Аткамячылі яму хлопцы добра, ня будзя боляй рызыкаваць. *В. Старына.*

**Адкараскацца**, *дзс.*—отвязаться от кого. Чуць аткараскаўся ат яго. Ня'ткараскацца ад благаты етаі. *В. Старына.*

**Адкасаць**, *дзс.*—отвернуть засученные рукава рубахи или штанов. Аткашы рукавэ ды кідай работу. Аткасоў штанэ: там німа вады. *В. Старына.*

**Адкаснуцца,** *дзс.*—отойти, отвязаться. Аткасьніся ат міне, чаго вяжасься! *В. Старына.*

**Адкачацца,** *дзс.*—проболеть. У бальніцы аткачоўся з месяц. *В. Старына.*

**Адкідаць,** *дзс.* (*зак.* **адкінуць**)—1) отбрасывать. Трэба аткінуць сьнег ад ганку.—2) раскрывать весною „копец“ с картофелем. Бацька аткідае капец на‘гародзя.—3) лечить огневицу (простудные прыщи), омывая их водой, в которой мочат руки при посадке хлеба и в которую еще нарочно кладут горящие угли с печи, когда садят хлеб. Зьбегай, Міхалька, к дзядзіня, хай аткіня табе вогнік. *В. Старына.*

**Адкідзік (ч),** а, *м.*—полное веретено пряжи; два **аткідзікі(чы)** свиваются в один **пачынак.** Наста напрала два аткідзікі. *В. Вострава, Сьміл. р.* У Вагапы нейкія маленькія аткідзічы. *В. Старына.*

**Адкірмашаваць,** *дзс.*—побывать на базаре. Добра аткірмашавоў і гарэлкі выпіў. *В. Старына.*

**Адклад,** у, *м.*—отлагательство, отсрочка. Атклад ня йдзе ў лад. *Прык. В. Старына.*

**Адклейваць,-цца,** *дзс.* (*зак.* **адклеіць,-цца**)—отклеивать,-ться. Аткле́йваяцца сама папера ат сьцяны. Боляй дай клею, ато аткле́іцца. *В. Старына.*

**Адкрасаваць,** *дзс.*—отцвесть. Жыта ўжо аткрасавала. Аткрасавала ўжо лецячка сваё. *В. Старына.*

**Адкрасьці,** *дзс.*—своровать что, незаметно снося в сторону. Аткралі торбачку с салам. *В. Старына.*

**Адкрасьціся,** *дзс.*—незаметно отделиться от товарищей. Аткроўся ад гурту ды пашоў адзін. *В. Старына.*

**Адкуль,** *прс.*—откуда. Аткуль ідзеш? Аткуль?—С пад кур. *В. Старына.*

**Адлазіць,** *дзс.* (*зак.* **адлезьці**)—1) отставать от чего. Атлезла падашва.—2) отходить. Атлезь ты ат міне. *В. Старына.*

**Адлега,** і, *ж.*—оттепель. На дварэ атлега: можна й слабей прапаціць. *В. Старына.*

**Адлічаць,-цца,** *дзс.* (*зак.* **адлічыць, -цца**) *русізм*—отличать, -ться. Сянакос Яўхімавых нічым ня‘тлічаяцца ад другіх. Атлічыўся наш сынок добра *В. Старына.*

**Адлічваць,** *дзс.* (*зак.* **адлічыць,** *прм.* **адлічаны**)—отсчитать. Атлічвая грошы. Атлічыў сваё, дык і бяры. Адна залатоўка ўжо атлічана. Бяры атлічанаю капу снапоў. *В. Старына.*

**Адлупіць,-цца,** *дзс.*—отодрать,-ться. Атлуплю, ік таго ката. Ад бота атлупіўся падносак. *В. Старына.*

**Адлупцаваць,** *дзс.*—побить. Добра атлупцавоў хлапца, хай ня дурэя. *В. Старына.*

**Адлюдзкаваць,** *дзс.*—*гл.* **Людзкаваць.** Нў й атлюдзкавоў раз я ў Мінску! *В. Старына.*

**Адма(у)ляваць,** *дзс.* (*прм.* **адма(у)лёваны**)—1) нарисовать красками. Атмалявоў карцінку—аж глядзець! Вот атмулёван паніч на патрэця,—ік жывы стаіць!—2) удачно сделать что. Сталяр так добра вырабіў стол, ік адмулявоў усяроўна. *В. Старына.*

**Адмяньціць,** *дзс.*—хорошенько побить. Атмяньцілі, дык атмяньцілі—больш ня будзя чапацца. *В. Старына.*

**Адмясіць,** *дзс.*—здорово намять бока. Атмясіў яму паленам ня шкадуючы. *В. Старына.*

**Аднавор,** у, *м.*—один раз паханое поле. Авёс пасеяў у аднавор. *В. Старына.*

**Аднадзіць,** *дзс.*—отучить. Чуць атнадзілі карову лазіць у вагарод. *В. Старына.*

**Аднакава,** *прс.* одинаково. Усюдых мне аднакава. Зямлі-ж аднакава ў нас і ў вас. *В. Старына.*

**Аднастайны,** *прм.*—одного качества, одинаковый. Ат абедзьвіх кароў малако аднастайная. *В. Старына.*

**Аднекуль,** *прс.* откуда-то. Атнекуль прывалокся кот у хату. *В. Старына.*

**Адно,** *прс.*—только. Адно ўсё крычыць: дай есьці, дай піць. *В. Старына.*

**Аднолетак,** тка, а, *м.* — одногодок. Цяляткі аднȯляткі, але наша лепшая. *В. Старына.*

**Адным чынам**—в смысле,—одним словом. Адным чынам, пагулялі добра. *В. Старына.*

**Адолець,** *дзс.* — одолеть, осилить. Адзін чуць адоляў міску буракоў. *В. Старына.*

**Адонак,** нка, а, *м.*—подкладка из веток для стога сена. Стог стаіць на вісокум адонку. *В. Старына.* (*Пр.* **Адзёнак**).

**Адпадаць,** *дзс.* (*зак.* **адпасьці**) — отпадать. Прышоў Пятрок—атпоў лісток; прышла Ільля—атпала два; а прышла Прачыстая—усё поля ачысьціла. *Прык. В. Старына.*

**Адпалоса(у)ваць,** *дзс.* — отполосовать ремнем или поясом, сильно избить. Ік хваціў бацька рэмянь, то также атпалоса(у)ваў хлапцȧ! *В. Старына.*

**Адпарыць,** *дзс.*—сильно побить. Так атпарылі рызыканьціку, што чуць дамоў пашоў. *В. Старына.*

**Адпасьціць, цца,** *дзс.* — откормить, -ться. За лета добра атпасьціўся конь. Атпасьціў на чужом дабры сваю худзізну. *В. Старына.*

**Адпачасваць,** *дзс.* — отхлестать. Сьціхні ты плакаць, ато зараз атпачасвую. *В. Старына.*

**Адпачынак,** нку, *м.*—покой, отдых. Старому пара ўжо на'тпачынак. Атпачынку таго німа ніколі. *В. Старына.*

**Адперыць,** *дзс.*—сильно побить поленом. Ну й атперылі-ж паленам Хвадзея! *В. Старына.*

**Адпірацца,** *дзс.* (*зак.* **адперціся**)—отпираться в прямом и переносном значении. Парасята мусіць самі атперліся ды выскачылі с хлева. Атпіраяцца, што нічога ня ведая. *В. Старына.*

**Адпіраць,** *дзс.* (*зак.* **адперці**)—завезть, занесть что далеко или скоро. Нашто ты воз атпёр аж у самы канец?—'К відзіш, атпёр іх на станцу. *В. Старына.*

**Адпіргнуць,** *дзс.* —быстро оттолкнуть ногой или рукой. Вэнь аж куды атпіргнуў кошык! *В. Старына.*

**Адпіхаць, -цца,** *дзс.* (*зак.* **адпіхнуць**) —отталкивать. Што ты вельма атпіхаяся? Атпіхні ету жабуцьку, хай ня лезя сюды. *В. Старына.*

**Адплаціць,-цца,** *дзс.* — отплатить. Ніяк ня'тплаціцца ат Сімана за гарэлку. *В. Старына.*

**Адповедзь,** і, *ж.*—ответ со взбучкою. Такую доў яму атповядзь, што дзісятаму закажа! *В. Старына.*

**Адпоўшыць,** *дзс.*—надавать затрещин. Атпоўшыў па першая чысло. *В. Старына.*

**Адпраніць,** *дзс.* — сильно побить Добра атпраніў я Сымону,—век будзя помніць. *В. Старына.*

**Адпрасіцца,** *дзс.*—отпроситься. Пасу коні, але атпрасіўся ў хлопцаў дамоў. *В. Старына.*

**Адпрацаваць,** *дзс.*—достаточно потрудиться. Бацька атпрацавоў сваё, хай сынэ ціпер робяць. *В. Старына.*

**Адпрыччыць,** *дзс.*—отучить от дому кого. Сораму ён ня зная: будзя датуль хадзіць, пакуль ня'прыччаць. Атпрыччылі яго ўжо—боляй ня ходзіць к нам. *В. Старына.*

**Адпудзіць,** *дзс.* — отпугнуть. Начлежнікі чуць отпудзілі ваўкоў ат сібе. *В. Старына.*

**Адпэньдзіць,** *дзс.* (*польск.* **odpędzić**) — выпроводить. Атпэньдзілі мы сваіх гасьцей, хай едуць здаровы. *В. Старына.*

**Адпяразваць,-цца,** *дзс.* (*зак.* **адпяразаць,-цца**)—распоясывать, -ться. Атпяраз(у)вай кажух ды лезь за стол. Атпяразоўся пояс. *В. Старына.*

**Адрабляцца,** *дзс.* (*зак.* **адрабіцца**)—отделываться (от кого). Чуць я атрабіўся ат п'янага. *В. Старына.*

**Адрабляць,** *дзс.* (*зак.* **адрабіць**)— 1) отделывать какую либо вещь. Вот майстра атрабіў вазок!—2) кончить работать. Бацька ўжо атрабіў сваё.—3) отплатить долг

работаю. Трэба Вінцэсю атрабіць за каня. *В. Старына.*

**Адрабляць-мя,** *дзс.* (*зак.* **адрабіць -мя**)—отрабатывать за долг. Калі ня хочаш аддаць-мя, дык трэба адрабіць-мя. *В. Смалярня, Шацк. р.*

**Адработ,** у, *м.* (*мн.* **адработкі**)—плата работаю за долг. Пазычылі хлеба на'траб'от. *В. Старына.*

**Адрагатаць,** *дзс.*—много посмеяться. Ну й атрагаталі-ж дзеўкі з Апанаса! *В. Старына.*

**Адразаць,** *дзс.* (*зак.* **адрэзаць**)—отрезать. Адрэж хлеба. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Адразу,** *прс.*—сразу. Атразу работа пашла, ік па маслу. *В. Старына.*

**Адраіць,** *дзс.*—отсоветовать. Хацеў нажыць сабе ету кароўку, але людзі атраілі. *В. Старына.*

**Адратаваць,** *дзс.*—спасти. Быў захлынуўся ў вадзе, дык чуць атраталі. *В. Старына.*

**Адрываць,-цца,** *дзс.* (*зак.* **адарваць, -цца**) — отрывать,-ться. Атрэж етыя канцэ, ато ўсяроўна будуць атрывацца. Ад біла атарваласі калыбель. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Адрына, андрына,** ы, *ж.*—холодная постройка для складывания сена и соломы. Цэлую адрыну наклалі канюшыны. *В. Старына.* Прынёс із андрыны сена. Згарэла андрына с сенам і снапамі. *В. Раўнапольле, Сьміл. р.*

**Адрысаваць,** *дзс.*—отчертить. Роўнінька атрысуй, пакуль згабляваць. *В. Старына.*

**Адсаджваць,** *дзс.* (*зак.* **адсадзіць**) 1) отучивать телёнка от матки, засаживая его в отдельную загородку. Мы ўжо атсадзілі сваё цялё.—2) сильно удариться. Тодар чыста ўсе грудзі атсадзіў. *В. Старына.*

**Адсеяць,-цца,** *дзс.*—1) закончить посев. Усе людзі ўжо атсеяліся, а гультай толька пачыная.—2) вторично засеять. У лагчыня вымакла жыта: трэба атсеяць хіба лёнам. *В. Старына.*

**Адскакваць,** *дзс.* (*зак.* **адскочыць**)— 1) отскакивать. Ды давай усе хуччэй атскак(у)ваць у бок. Каб ня'тскочыў, дык і яму папала-б. *В. Старына.* — 2) скоро отростать (о траве). Посьля дажджу, занач, так і атскочыла трава. *В. Старына.*

**Адсмаліць,** *дзс.*—1) крепко побить. Ну й атсмаліў-жа яму папружкі! —2) быстро проехать или пройти. 'К відзіш атсмаліў пяць вёрст. —3) удачно ответить. Так атсмаліў яму, што той і ня ведая, што казаць. *В. Старына.*

**Адсоўваць,-цца,** *дзс.* (*зак.* **адсунуць, -цца**)—отодвигать,-ться. Нашто атсоваяш мачаньня? Атсунься, каб было дзе сесьці. *В. Старына.*

**Адспавядаць,** *дзс.*—переносно: дать взбучку. Так атспавядоў етага смаркача, што боляй ня будзя чапацца. *В. Старына.*

**Адстагнаць,** *дзс.*—отстонать, отболеть. Каб табе атстагнаць тоя, што ты ўзёў у мінe! *В. Старына.*

**Адступнае,** нага, *н.*—деньги, котор. даются, чтобы возвратить проданное, или-же, чтобы отклонить другого покупателя, отступное. Дай мне атступнага, ды купляй сабе. *В. Старына.*

**Адсудзіць,** *дзс.*—1) вернуть судом. Так ня вазьму, дык судом атсуджу.—2) присудить. Адсудзілі ад двара пашу. *В. Старына.*

**Адсыпацца,** *дзс.* (*зак.* **адсыпацца**)— 1) отваливаться рассыпаясь. Атсыпаяцца прыпячак.—2) в переносном знач.: изводиться, издыхать. Куры нешта сталі атсыпацца. Каб ты атсыпалася такоя дзіцятка! *В. Старына.*

**Адсыпаць,** *дзс.* (*зак.* **адсыпаць**)— 1) отсыпать что излишнее. Атсып троха аўса, ато шмат наброў.— 2) давать плату зерном. Ганчару атсыпаў ячменям за дзьве міскі. *В. Старына.*

**Адсыпка,** і, *ж.*—плата за посуду, отмеренная, отсыпанная, самой купленой посудой раз, два или сколько сторгуются. Купіла гаршчок на'тсыпку. *В. Старына.*

**Адсьцёбаць,** *дзс.* — отстегать чем-либо гибким. Глядзі, чалавеча, ато атсьцёбаю дубца! *В. Старына.*

**Адсьцілаць,** *дзс.*—стлать (лён). Наравы павезьлі атсьцілаць лён. *В. Белае, Пух. р.*

**Адсюль,** *прс.*—отсюда. Атыйдзі ты атсюль, ня замінай! *В. Старына.*

**Адтаваць,** *дзс. (зак.* **адтаць**)—оттаивать. Атлега, дык і вокна аттаюць. Хай троха аттаня квашаніна. *В. Старына.*

**Адтарабаніць,** *дзс.*—насмешл, отвезть скоро, спровадить кого. Аттарабаніў наш сусед цешчу дамоў. *В. Старына.*

**Адтуль,** *прс.* — оттуда. Ні атсюль, ні аттуль ліха ўзьнялося. *В. Старына.*

**Адтылаваць,** *дзс.* — осадить назад. Аттылуй назад каня. *В. Матарова, Сьміл. р.*

**Адубелы,** *прм.*—околелый (употр. в бранном смысле). Каб ты адубелы прыехаў назад! *В. Старына.*

**Адубець,** *дзс.* — остыть, перемерзнуть. Еш, ато крупнік адубея. Такі холад—чыста ўвесь адубеў. *В. Старына.*

**Адукаваць,-цца,** *дзс.* (*прм.* **адукованы**)—образовать, воспитать. -ться. Ігнат пабыў у горадзя, дык адукавоўся. Наш прадсядацяль, відаць, адукованы чалавек. *В. Старына.*

**Адурніць,** *дзс.* — одурачить. Хоча мяне адурніць. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Адучваць** *дзс. (зак.* **адучыць**) — в узком смысле: отучивать ребёнка от груди. Барбара ўжо атучыла саваё дзіця, трэба й нашаго атучуваць. *В. Старына.*

**Адусюль,** *прс.*—отовсюду. Атусюль наехала людзей на кірмаш. *В. Старына.*

**Адхадзіць,** *дзс.*—1) с трудом спасти от смерти. Ік схваціў жывот у малога, дык чуць атхадзілі.— 2) устать от ходьбы. Чыста ўсе ногі атхадзіў ходзячы. *В. Старына.*

**Адхаяць,** *дзс.* — с трудом спасти от смерти. Ужо даходзіў, чуць атхаялі. *В. Старына.*

**Адхвастаць,** *дзс.* — 1) отхлестать. Ня лезь, хлопча, у чужы садок, ато атхвашчу.—2) сильно удариться. Ік паваліўся, дык усе грудзі атхвастоў. *В. Старына.*

**Адхінаць,-цца,** *дзс.* (*зак.* **адхінуць, -цца**)—отклонять,-ться. Ня'тхінайся ты ат міне́.—2) отлучаться. Гаспадар нейдзя атхінуўся на гумно. *В. Старына.*

**Атхіснуцца,** *дзс.* — отклониться, отойти. Адхіснуліся ад мяне ўсе сябры. *В. Вострава, Сьміл. р.*

**Адходзіць,** *дзс.* (*зак.* **адыйці**) — 1) отходить. Машына ўжо атходзіць. Атышла нядзелька.—2) в безл. смысле, о хорошей жизни. А што яму атходзіць: есьць гатовы хлеб. *В. Старына.*—3) протоптать по траве на сенокосе межу. Роўнінька атыйдзі мяжу. *В. Лядцо, Пух. р.*—4) о косе — стать мягким лезвию, затупиться. Саўсім атышла каса: ані ня бярэ травы. *В. Старына.*

**Адхукаць,** *дзс.*—1) отогреть теплым дыханием. Чуць атхукаў рукі — так была замерзьлі.—2) с трудом вылечить. Чуць атхукалі дзіця. *В. Старына.*

**Адціскаць,** *дзс. (зак.* **адціснуць**)— отдавливать. Паляц баліць — дык ня трэ'бала аццыскаць. Маці аццыснула сыр у клінку. Аццыснаў хвост кату. *В. Старына.*

**Адцягваць,** *дзс. (зак.* **адцягнуць,** *прм.* **адцягнуты**)—1) оттаскивать. Аццягні ету ламачыну ў бок. Ня'цьцяг(у)вай далёка бярвіна. Вэнь аж куды аццягнута ступа.—2) оттягивать (проволоку). Аццягні большы канец дроту. *В. Старына.*

**Адчаканіць,** *дзс.*—дать удачный ответ. Ік аччаканіў яму, дык атразу змоўк. *В. Старына.*

**Адчубасіць,** *дзс.*—отдубасить. Аччубасілі раз, а ён ашчэ лезя. *В. Старына.*

**Адчэпліваць,-цца,** *дзс. (зак.* **адчапіць,-цца,** *прм.* **адчэплены**) —

1) отцеплять. Нешта ня‘ччэпляваяцца паліца ат плуга.—2) отвязаться, отстать от кого. Аччапіся, чаго ты прыстоў да міне?! Нітка аччэпляна ат трэскі. *В. Старына.*

**Адчыняць,-цца,** *дзс.* *(зак.* **адчыніць,-цца,** *прм.* **адчынены)** — отворять, открывать. Нятрэ‘ было аччыняць яму дзьвярэй. Аччыніліся варота. Аччыняйця варота — едуць чэрці з балота. Жартачкі: цэлу ночь юшка была аччыняна! *В. Старына.*

**Адчэпнае,** ага, *н.*—отступное. Хвэльчар доў аччэпнага. Доў на‘ччэпная *В. Старына.*

**Адшараваць,** *дзс.*—оттереть грязь, пятно, натирая песком. Закарэў гаршчок—ніяк ня‘тшараваць. *В. Старына.*

**Адштапаваць,** *дзс.* — поколотить, побить. Атштапавоў палкаю па першая чысло. *В. Старына.*

**Адшчыкнуць,** *дзс.*—оторвать плод, лист. Атшчыкні яблык. *В. Старына.*

**Адшчэпліваць,-цца,** *дзс.* *(зак.* **адшчапіць,-цца)**—снимать дверь с крючка. Хто там у хаця: атшчапіця дзьверы. Вот дзьверы зрабіў: самі атшчэпляваюцца! *В. Старына.*

**Адыхтар,** *прс.* (літ. **адыстар** з лац. adinstar) — как раз. Але Івуля адыхтар, ік бацька. *В. Раўнапольле, Сьміл. р.*

**Ад‘есьціся,** *дзс.*—откормиться. Во як растаўсьцеў — ат‘еўся на чужом хлебя. *В. Старына.*

**Ад‘яда,** ы, *аг.*—отрава—сварливый, надоедливый человек. Ат‘яда ты майго сэрца, што ты ясі міне вечна?! *В. Старына.*

**Ад‘етуль,** *прс.* — отсюда. Ат‘етуль дарога паварачвая на Мінск. *В. Старына.*

**Адэ-эст!** *выкл.*—окрик пастуха на коров, когда те гонятся к стаду или отгоняются от потравы. Адэ-эст куды!... Адэ-эст сюды!... *В. Вострава, Сьміл. р.*

**Аж,** *злуч.*—ан, что даже,—вообще усилительная частица. Так угрэўся, аж пот пашоў. Бабы паўкручваліся сягоньня аж да пеўняў. *В. Старына.*

**Ажарабіцца,** *дзс.*—ожеребиться. На етум тыдні ажарэбіцца кабыла. *В. Старына.*

**Ажно,** *злуч.* — вот. Ажно гляджу: йдзе мая баба. *В. Старына.*

**Ажымкі,** мак, *мн.*—жмыхи. Сямён купіў ажымак іс сем‘я. *В. Матарова.*

**Ажыцца,** *дзс.*—*гл.* **Абжыцца.** Ажыўся на новум месьця й нічагуткі. *С. Дукора, Сьміл. р.*

**Ажэвіны,** він, *мн.*—ежевина (Rubus caesius L.) Хадзіў у ажэвіны, але мала назьбіроў. *В. Вострава, Сьміл. р.*

**Азадак,** дка, *м.* — задняя часть тела. Ік гопнаўся аб лёд, дык увесь азадак адбіў. *В. Старына.*

**Азадачыць,** *дзс.*—*гл.* **Абзадачыць.**

**Азгрывы,** *прм.* — возгривый. От нейкі азгрывы хлопяц: мусіць ніколі ня мыяцца. *В. Раўнапольле, Сьміл. р.*

**Азірацца,** *дзс.* *(зак.* **азірнуцца)** — осматриваться. Ідзі ты атсюль ды ня‘зірайся. Што ты йдзеш азіраючыся, ік злодзяй? Ашчэ нечага назад азірнуўся. *В. Старына.*

**Азызлы,** *прм.*—опухший. Твар зрабіўся азызлы, сам увесь страшны. *В. Старына.*

**Азызнуць,** *дзс*—опухнуть; употребл. и как бранное. Уся шчака азызла: пчала ўкусіла. Каб ты азыз! *В. Старына.*

**Азярод,** а, *м.*—приспособление в виде большого высокого забора из жердей для сушки снопов, гречихи и проч. Нашы снапэ ашчэ ў вазяродзя. *В. Старына.*

**Азярэдзіць,** *дзс.*—вешать снопы и проч. в **азярод** для сушки. Хадзём азярэдзіць грэчку. *В. Старына.*

**Азяць, азьму**—*гл.* **Узяць.** Азьму пілу ды пайду ў лес. *В. Клятное, Пух. р.*

**Ай,** *выкл.*—ой. 1) пры выражении испуга, боли. Ай ратуйця! Ай баліць!—2) при выражении брезгливости. Ай, які гадкі хлапе́ц! Ай, кінь ты лепяй плявузгаць. *В. Старына.*

**Акалечыць,-цца,** *дзс.* (*прм.* **акалечаны**)—искалечить,-ться. Ня кідай бараны на дварэ; ашчэ скаціна акалечыцца. Акалечаная каніна ня гадзіцца ў работу. *В. Старына.*

**Акалот,** у, *м.*—снопы ржи, вымолоченные посредством обивания,—идут на кули. Маю акалоту на куле́ капы са тры. *В. Старына.*

**Акамянелы,** *прм.* — окаменевший. Ляжыць акамянелы, ік памёршы. *В. Старына.*

**Аканіца,** ы, *ж.*—ставня. Раман парабіў вокна з аканіцамі. *В. Старына.*

**Акаціцца,** *дзс.*—об'ягниться. Акацілася наша адна авечка. *В. Старына.*

**Акаянны,** *прм.* — окаянный. Пагадзі-ж ты, гад акаянны, акаянная твая сіла! *В. Старына.*

**Акзамент,** у *м.*—экзамен. Акзамянт здоў за сельскаю школу, будзя падавацца ў сямілетку. *В. Старына.*

**Акіян,** а, *м.*—океан. Аж дзіва, як ехалі праз акіян у Амэрыку. *В. Старына.*

**Акладня,** і, *ж.*—отвал плуга. У плузі пращмаравалася акладня. *В. Вострава, Сьміл. р.* (*Пр.* **Накладня**).

**Акоп,** у, *м.*—окоп. З месяц сядзеў у вакопах на вайне. *В. Старына.*

**Акорак,** рка, *м.*—пробка. Згубіўся з бутэлькі акорак *В. Скрыль, Пух. р.*

**Акот,** у, *м.*—волоски из колосков хлебных злаков. Набраласі за сарочку акоту. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Акравак,** акраўка, *м.*—обрезок лыка или материи. Дзед сплёў нейкія лапці з акраўкаў. *В. Старына.*

**Акраз,** *прс.* (*літ.* **якраз**)—как раз, в меру. Мне шавец пашыў акраз добрыя боты. *В. Вострава, Сьміл. р.*

**Акраец,** акрайца, *м.*—краюха (хлеба). Падарылі старцу акраяц хлеба. *В. Старына.*

**Акрыўдзіць,** *дзс.*—обидеть. Нихто ня хоча свайго брата акрыўдзіць. *В. Старына.*

**Акрыяць,** *дзс.*—окрепнуть силами. воспрянуть духом. Акрыеў посьля хваробы, дык ізноў за сваё. *В. Старына.*

**Акуляры,** аў, *мн.*—очки. Акуляры пачапіў на нос. Ходзіць, ік пан, у вакулярах. *В. Старына.*

**Акурат,** *прс.*—как раз. Чый ета конь? —акурат, ік наш. *В. Старына.*

**Акуратны,** *прм.*—1) аккуратный в работе. Відаць,-што акуратная гаспадыня.—2) исполнительный. Акуратны чалавек: што сказоў, то й зрабіў. *В. Старына.*

**Аксаміт,** у, *м.*—бархат. Купіла аксаміту на'блямоўку. *В. Старына.*

**Акцызьнік,** а, *м.*—акцизный чиновник. Акцызьнік аштрапавоў Гіляра за гарэлку. *В. Старына.*

**Акэшкаць,-цца,** *дзс.*—очистить,-ться. Троха акэшкаліся ад гразі. Акэшкала сенцы ат сьмецьця. *В. Старына.*

**Але,** *злуч.*—да, но. Прыдзяш к нам? Але! Прыду, але каб дома былі. Але—паехаў на валѐ. *В. Старына.*

**Алей,** ю, *м.*—постное масло. Патпраўця капусту алеям. Каша з алеям. *В. Старына.*

**Алехавы,** *прм.*—ольховый. Насек воз алехавых дроў. *С. Дукора, Сьміл. р.*

**Алешнік,** у, *м.*—ольховый лес. Поля стала зарастаць алешнікам, *В. Старына.*

**Алешневы,** *прм.*—ольховый. Зрабіў алешнявы коўш. Высяк алешнявы кол. *В. Турэц, Сьміл. р.*

**Алешына,** ы. *ж.*—ольховое дерево. Ета алешына гадзіцца толька на дрова. *В. Старына.*

**Аліва,** ы, *ж.*—масло. Трэба купіць алівы на малатарню. *В. Старына.*

**Алігант,** а, *м.*—франт, форсун. Ых, надзеўся Сідар у новая—алігант *В. Старына.*

**Альбо**, *злуч.*—или. Рабі-ж ты як-небудзь: альбо так, альбо етак. *В. Старына.*

**Альховіна**, ы, *ж.*—ольховое дерево. Кадоубчык зрабілі з альховіны. *В. Забалоцьце, Сьміл. р.*

**Альховы**, *прм.* — ольховый. *Пр.* **Алехавы**, **Але́шневы**. Чырвоны, ік коўш альховы. *В. Старына.*

**Алюдзець**, *дзс.*—вырасти, стать более развитым. Пабыў хлопяц у чужых, дык алюдзяў. *В. Старына.*

**Амарыканец**, нца, *м.*—американец; так называют и белорусса, побывавшего в Америке. Аўдоцьця вышла замуж за‘марыканца. *В. Старына.*

**Амбон**, у, *м.*—амвон. Поп кажа казаньня с‘амбону. *В. Старына.*

**Аметнік**, а, *м.*—небольшая пристройка около продольной стены риги, куда ссыпаются „амеці“. Надуло ў ваметнік сьнегу. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Амеці**, яй, *мн.*—мелкая мякина. Замяшай каровя амецяй. *В. Турэц, Сьміл. р.*

**Амін**—аминь, конец. Тут табе й амін будзя. *В. Старына.*

**А мо‘**—а может быть. А мо‘ ета і проўда? *В. Старына.*

**Амшарына**, ы, *ж.*—моховое болото. Сянакос няважны: адна амшарына. *В. Старына.*

**Амягнуць**, *дзс.*—сильно надоесть. Амягла мне ета язда. *В. Старына.*

**Амяжыць,-цца**, *дзс.*—утомить,-ться. Ганёў, ганёў, пакуль ня амяжыў. Амяжыўсі бегаючы. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Амяла**, ы, *ж.*—мятлик луговой (Poa pratensis L). На маём сянакося нічога ня расьце, апроч амялы. *В. Клятное, Пух. р.*

**Амяленьне**, я, *н.*—остатки льна с кострой, полученные при мятьи его. Амяляньням па‘птыкалі хату на зіму. *В. Старына.*

**Анадоечы**, *прс.—гл.* **Надоечы**. Анадоячы хадзіў у воласьць. *В. Загай, Пух. р.*

**Анбрычак**, чка, *м.—гл.* **Імбрычак**. Нагрэлі вады цэлы анбрычак. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Ангельскі**, *прм.*—английский. Хіба ангельскі брусок атточыць сякеру. *В. Слопішчы, Шацк. р.*

**Ангіл**, а, *м*, **анёл**, а, *м.* (*пам.* **анёлак**)—ангел. Чалавек табе ня ангіл. Дзіця стройная, ік анёлак. *В. Старына.*

**Андаваць**, *дзс.—гл.* **Аддаваць**. Ня трэ, было андаваць сваіх грошай. Пара суседу хлеб андаць. *В. Слопішчы, Шацк. р.*

**Андарак**, а, *м.*—юбка. Набрала на‘ндарак у палоскі. *В. Старына. Пр.* **Арандак**.

**Андрына**, ы, *ж.—гл.* **Адрына**.

**Андрэйка** і, *м.*—божья коровка (насекомое — Coccinella). На руцэ сеў андрэйка. *В. Старына.*

**Андынара**, ы, *ж.*—плата за батрацкую службу натурою. За панам у дварэ давалі андынару, а ціпер саўхозы сталі, дык даюць жалваньня. *В. Старына.*

**Андыхаць**, *дзс.—гл.* **Аддыхаць**.

**Анёж**, *злуч.*—ну да, а то как-же. Анёш як: я-ж так і зраблю. *В. Старына.*

**Ані**—1) употр. в качестве союза. Ані цыбулькі, ані ўкрышыць. *Прык. В. Лешніца, Сьміл. р.*—2) обозначает отрицание в существовании чего-либо. У хаця нічога німа, скаціна галодная, а ён а н і д б а я. Пазычыў Атрахім у міне грашай і а н і г а д к і: забыўся, што трэба аддаць. Сталяр добра склеіў стол, што а н і з н а к у. *В. Старына.*

**Анізваньня**, *у сэнсе прысл.* — нисколько. Хлеба ня‘сталося анізваньня. А н і ў з в а н ь н я ня баіцца цібе ніхто. *В. Старына.*

**Анікога**, **анікагутка** — совершенно никого. У хаця анікога, усе пашлі. Анікагутка ня было на двარэ. *В. Старына.*

**Аніўзнак**, *прс.*—без всякого знака, незаметно. Урэзаў штуку й аніўзнак. *В. Загай, Пух. р.*

**Аніяк**, *прс.*—никак. Аніяк ня падняць бярвіна. *В. Старына.*

**Аніякі**, *займ.*—совершенно никакой. Аніякага гонару ў яго німа. *В. Старына.*

**Анталяжы**, аў, *мн.*—тоже, что **карўнкі**—кружева. Хрысьціна зрабіла скацярсьць з анталяжамі. *В. Старына.*

**Антробы**, аў, *мн.—гл.* **Вантробы**.

**Ануча**, ы, *ж.* (*пам.* **анучка**)—тряпка вообще, а также для окручиванья ног. Вакно заткнулі анучамі. Глядзі, ато вось хвазану анучаю ў вочы. Анучы павылазілі з лапцей. Абуў белыя анучкі. *В. Старына.*

**Анучнік**, а, *м.*—скупщик тряпья. Анучнік езьдзіць па сялў—трэба йголак купіць. *В. Старына.*

**Анцыхрыст**, а, *м.*—1) антихрист. Пярад канцом сьвету прыдзя анцыхрыст. — 2) немилосердный. Анцыхрыст еты за капейку шкуру з жывога зьдзярэ. *В. Старына.*

**Аньцілера**, ы, *ж.*—артиллерия. Служыў у ваньцілеры. *В. Стаыына.*

**Анегда**, *прс.*—иногда.—Анэгда я хаджу ў госьці к мацяры. *В. Бор. Сьміл. р.*

**Ападаць**, *дзс.* (*зак.* **апасьці**)—опадать; оседать (о тесте). Лисьця ападая. Хай цеста ападзѐ, тады будам саджаць хлеб. *В. Старына.*

**Ападкі**, аў, *мн.*—падалица (о фруктах). Хадзім у садок зьбіраць ападкі. Купіў нейкіх горкіх ападкаў, што нельга й есьці. *В. Старына.*

**Апал**, у, *м.*—отопление. З апалам цяжка ў нас: лесу німа блізка. *В. Старына.*

**Апаласкаць**, *дзс.* (*прм.* **апалосканы**)—обмывать (чаще в смысле мойки белья). Работы ў сям'і шмат: трэба абшыць усіх, апаласкаць і ўсё...—Апалашчы ложку. Старая дагледжана акуратна: накормляна й апалоскана. *В. Старына.*

**Апаліцца**, *дзс.*—обжечься. Хведар у пажары дык увесь апаліўся. *В. Старына.*

**Апаліць**, *дзс.*—отопить. Каб апаліць ету хату, шмат трэба дроў. *В. Старына.*

**Апалойка**, і, *ж.*—половинка квашеной капустной головки. З нашаі капусты будуць добрыя апалойкі. *В. Вострава. (Пр.* **Палуйка**).

**Апалонік**, а, *м.*—1) разливальная ложка. Німа апалоніка, чым наліваць блінэ. Дзед есьць апалонікам.—2) головастик. На балоццы ўжо ё апалонікі. *В. Старына.*

**Апанаваць**, *дзс.*—овладеть, напасть, окружить. Ік апанавалі міне сабакі, дык чуць ня загрызьлі. Ночка ўжо й апанавала нас у полі. *В. Старына.*

**Апантаны**, *прм.*—одурелый, сумашедший. Бегая, ік апантаны. *В. Старына.*

**Апанятаваць**, *дзс.*—произвесть осмотр с понятыми потравы, вообще вреда. А як ты думаў: апанятую, ацаню, ды на суд падам. *В. Старына.*

**Апарасіцца**, *дзс.*—опороситься. Ці зараз ваша сьвіньня апаросіцца? Наша ўжо апарасіўшыся. *В. Старына.*

**Апараца**, ы, *ж.*—операция. Будуць рабіць апарацу, дык атрэжуць нагу. *В. Старына.*

**Апарыць,-цца**, *дзс.* — облить,-ться кипятком. Уцякай, каб ня'парыць нагі. Апарыўся—ціпер насіся. *В. Старына.*

**Апека**, і, *ж.*—опека, забота. Німа над малымі апекі. *В. Старына.*

**Апенька**, і, *ж.*—опёнок (гриб—Agaricus melleus Vahl). Бабы пашлі ў вапенькі. *В. Старына.*

**Апечак**, чку, *м.* — фундамент печи. Мулярэ зрабілі камены апечак *В. Дукарка, Сьміл. р.*

**Аплік**, а, *м.*—крючок в платье. Пашыла гестку на'плікох. Высах, ік аплік. *В. Старына.*

**Апліканка**, і, *ж.*—курица африкаской породы. Завялі сабе апліканак—будуць несьці крэпкія яйцы. *В. Старына.*

**Аплікансკі**, *прм.*—африканский (о курах). Выбраў аплікансκага мацака. Крэпянькі, харошанькі канёк, ік апліканская яѐчка. *В. Старына.*

**Аплывуда**, ы, **аплыцька** і, *аг.*—медлительный, неповоротливый и в то же время некрасивый. Цягнецца ззаду, як аплывуда *В. Раўнапольле, Сьміл. р.* Аплыцька ты! Куды ты варт?! *В. Старына.*

**Аплявуха**, і, *ж.*—затрещина. Пачаставоў яго аплявухаю добра. Дам аплявухі! *В. Старына.*

**Аплявушыць,** *дзс.*—дать затрещину. Ік аплявушыў яго, аж закруціўся. *В. Старына.*

**Аплятанік,** а, *м.*—глиняный горшок, оплетенный проволкою. Куцьця варыццаў вапляťаніку. *В.Старына*

**Аплятаць,** *дзс.* (*прм.* **аплецены**)—скреплять глиняный горшок проволочной сеткой. У нас Іцка аплятая гаршкé. Каб ён (гарщчок) быў аплецяны, даўжэй паслужыўба. *В. Старына.*

**Аподка,** і, *ж.*—дно в улье, колоде. На апоцца са жменю было пчол няжывых. *В. Лядцо. Пух. р.*

**Аполак,** лка, *м.* — горбыль, плосковыпуклая доска, крайняя из бревна. Трэба купіць аполкаў, каб абгарадзіцца. *В. Старына.*

**Апоўзіны,** ін, *мн.*—скручаные ветки, которые кладутся на вершину стога. На стог ашчэ трэба палажыць апоўзіны, ато раскідаяцца верх. *В. Лядцо, Пух. р.*

**Апошні,** *прм.*—последний. Апошні раз кажу табе: ня рабі ты етага! *В. Старына.*

**Апрануць,-цца,** *дзс.*-- одеть,-ться. Німа чаго на плечы апрануць. Апраніся во хоць хустаю. Пашылі кажушок—будзя ў што апрануцца. *В. Старына.*

**Апратны,** *прм.*—опрятный. Ета дзіця чыстая, апратная. *В. Вострава, Сьміл. р.*

**Апруцянець,** *дзс.* — стать прутом, околеть. От каб ты апруцянèў с такім катом!—усё сала паеў на скавардзе. *В. Раўнапольле, Сьміл. р.*

**Апрыкраць,** *дзс.*—сильно надоесть. Так цяжка жыць, што проста апрыкрала. *В. Старына.*

**Апрыч,** *прыйм.*=літ. **апроч**—кроме, без. Гуляйця, дзевачкі, апрыч міне. *В. Старына.*

**Апрэгчыся,** *дзс.* *(кляцьба)*—сдохнуть, околеть. Хай ты апражыся, такоя дзіцятка! *В. Старына.*

**Апустошыць,** *дзс.* — опустошить. Сынкé ўсю гаспадарку апустòшылі. *В. Старына.*

**Апушыць,** *дзс.*—вздуть желудок. Ня жары ўсяго, ато ашчэ апỳшыць. Ат канюшыны апушы̀ла карову. *В. Старына.*

**Апцас,** у, *м.*—*гл.* **Абцас.**

**Апыніцца,** *дзс.*—очутиться. Ік вырваўся жарабок, дык аж за сялом апыніўся. *В. Старына.*

**Апырскваць,** *дзс.* (*зак.* **апырскаць**)—обрызгивать. Маці апырсквая капусту на'гародзя, каб чэрві ня елі. Апырскай добра рой, дык тады ня ўцячэ. *В. Старына.*

**Апытаць,** *дзс.*—расспросить, разузнать. Трэба ў людзей апытаць, каб дзе дастаць пастушка сабе. *В. Старына.*

**Апэцкаць, -цца,** *дзс.* (*прм.* **апэцканы**) — замарать,-ться. Увесь апэ̀цкаўся ў муку. Ходзіць пастаянна апэ̀цканы. *В. Старына.*

**Апякун,** à, *м.*—опекун, заботник. Нечага мне ўказваць: нашоўся апякун такі! *В. Старына.*

**Апяразаць,** *дзс.*—стегнуть. Так апяразòў хлапцà пугаю, што той аж закруціўся. *В. Старына.*

**Апярэдзіць,** *дзс.* — опередить. Усе хурманкі апярэдзілі міне. *В. Старына.*

**Апячыся,** *дзс.* — обжечься. С агнём трэба асьцярожна, каб ня'пячыся. Дзіця апяклося ў пажары. *В. Старына.*

**Арабіна,** ы, *ж.* — рябина обыкновенная (Sorbus aucuparia L.) Пад вакном расьце арабіна. *В. Жораўкі, Сьміл. р.*

**Арандак,** à, *м.*—*гл.* **Андарак.** Наткала арандакоў сабе й дзяўчатам. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Арандаковы,** *прм.*—сделанный из „арандака"—юбки. Падай арандаковаю анучу. *В. Слонішча, Шацк. р.*

**Араты,** ага, *м.*—пахарь. Я сам і касéц, і араты, і баранавалок. *В. Старына.*

**Араць,** *дзс.*—пахать. Пара араць нà зіму. Канюшынішча цьвёрда арэцца. Аручы зґубіў пугу. Калі хочаш, арыма паркаю: мой і твой конь. *В. Старына.*

**Арган,** а, *м.*—оргàн. У касьцéля дык пяюць і аргàн ашчэ йграя. *В. Старына.*

**Арганісты,** ага, *м.*—органист. Арганістага німа, дык і німа каму йграць у касьцéля. *В. Старына.*

**Аржаны**, *прм.* — ржаной. Вышла аржаная мука. Аржаны хлеб. *В. Старына.*

**Аркуш**, а, *м.* 1) лист (бумаги). На прашэньня пашло аркуш паперы. *В. Старына*;—2) артос, раздаваемый в Фомино воскресенье—на „праводную нядзелю“. Прынёс с цэрквы аркуша. *В. Старына.*

**Арлянё**, няці, *н.*—орлёнок. Малоя, а б'ецца, ік арлянё. *В. Старына.*

**Арол**, арла, *м. (мн.* арлэ)—орёл. Арлэ ў нас ня вядуцца. *В. Старына.*

**Арудаваць**, *дзс.*—командовать, заправлять. Нечага мною арудаваць! Ого, Яўсей багатыр: арудая цэлаю валокаю зямлі! *В. Старына.*

**Арх(п)а**, ы, *ж.*—веялка. Авёс прапусьцілі праз арху. *В. Старына.* Купілі сабе новаю арпу. *В. Скобраўка, Пух. р.*

**Арх(п)аваць**, *дзс.* — очищать зерно веялкою Архуям пшаніцу. *В. Старына.* Ня добра арпуя іх арпа. *В. Скобраўка, Пух. р.*

**Аршоўскі**, *прм.*—варшавский. Баба купіла сабе аршоўскаю хусту. *В. Старына.*

**Арыхмецікa**, і, *ж.*—арифметика. Здатны хлопяц: арыхмеціку й то добра вучыць. Па'рыхмеціца ён першы вучальнік. *В. Старына.*

**Арышт**, у, *м.*—арест. Уцёк с-пад арышту. Коні ўзялі пад арышт. *В. Старына.*

**Арыштаваць**, *дзс. (прм.* **арыштованы**)—арестовать. Маўчы лепяй, ато ік міляныкага, арыштуюць. Сядзіць нейдзя арыштованы трэйція суткі. *В. Старына.*

**Арыштанскі**, *прм.* — арестантский. Саслалі мазурыка етага ў варыштанскія роты. *В. Старына.*

**Арыштант**, а, *м.*—1) арестант, узник. Задарма папоўся чалавек у варыштанты.—2) в бранном смысле: злодей, преступник. Пачакай-жа, арыштант ты, больш ты ня будзяш майго дабра травіць! *В. Старына.*

**Арыштанцюга**, і, *м.*—презрительно **арыштант**. Арыштанцюга еты на ўсё табе пойдзя. *В. Старына.*

**Арэх**, а, *м.*—орех лесной, лещина обыкновенная (Corylus Avellana L.). Хлапцэ пабеглі ў варэхі. Доў масла с арэх. *В. Старына.*

**Арэшневы**, *прм.*—ореховый. Пагнулі арэшнявыя абручэ. Выразаў арэшнявы кій. *В. Старына.*

**Арэшына**, ы, *ж.*—орешина. С аднае арэшыны вышла два абручэ. *В. Старына.*

**Асадка**, і, *ж.*—оправа. Вот добрая ў стрэльбя асадка! Дастоў патрэт з асадкаю. *В. Старына.*

**Асадзіць**, *дзс.*—оправить—дать черенки к ножу, рамки на картину и проч. Панясу нож к кавалю асадзіць. Асадзіўшы патрэцік дык лепяй. *В. Старына.*

**Асака**, і, *ж.*—осока, преимуществ. обыкнов. (Carex vulgaris L.) и лисья (Carex vulpina L.). У етым годзя парасла вялікая асака. *В.Жораўкі, Сьміл. р.*

**Асалавець**, *дзс.*—осоловеть. Саўсім асалавеў Цімох і ня чуя, што гаворaць мужчыны. Сядзіць асалавеўшы. *В. Старына.*

**Асвойчыць, -цца**, *дзс.* приручить, -ться. Чужы кот асвойчыўся ды жыве ў нас. Асвойчыў сабаку, дык ён і ня кусаяцца. *В. Старына.*

**Асёлак**, лка, *м.*—лужайка на усадебных участках, между огородами. Коні ходзяць у васёлку. Асёлак будам касіць. *В. Старына.*

**Асілак**, лка *м.* — богатырь, силач. Асілак у вадной руцэ паднімая пяць пудоў. Дужы, ік асілак. *В. Старына.*

**Асіна**, *ж.*—осина (Populus tremula L.). Парэзалі асіну на ночвы. *В. Старына.*

**Асінавы**, *прм.*—осиновый. Асінавамі дрывамі ня награяш печы. *В. Старына.*

**Асіпці**, *дзс. (прм.* **асіпшы**). Нашто п'еш сьцюдзёнаю ваду—хочаш асіпці? Асéпла ў горля. Я ціпер асіпшы. *В. Старына.*

**Аскаболак, аскабалак**, лка, *м.*—отколотый кусок дерева, полена. Аскаболкам так-жа добра доў сабаку! Аскаболкам жарні яму па нагах. *В. Старына.*

**Аскома,** ы, *ж.*—оскомина. Ашчэ яблыкі зялёныя: адна толька аскома ат іх. *В. Старына.*

**Аслабаняць,-цца,** *дзс. (зак.* **аслабаніць,-цца)**--освобождать,-ться. Усю бяднату аслабанілі ат прыдналогу. Чуць аслабаніўся ат вастрога. Ат штрапу аслабаняць ня будуць. *В. Старына.*

**Аслабець,** *дзс.*—ослабеть. Саўсім мая баба аслабела. *В. Старына.*

**Аслупеньне,** я, *н.*—столбняк. Найшло на яго нейкая аслупеньня: маўчыць дый годзя. *В. Старына.*

**Аслупець,** *дзс.*—остолбенеть. Чаго ты маўчыш: хіба аслупеў?! *В.Старына.*

**Аслухаць,** *дзс.*—услышать. Я аслухаў: у вадном сяле прадаюць новы зруб на сенцы. *В. Слопішчы, Шацк. р.*

**Асмакавацца,** *дзс.*—войти во вкус. Бачыш, як конь асмакавоўся: лезя ды лезя ў вавёс. *В. Старына.*

**Асмаліць,-цца,** *дзс.*—опалить,-ться; ожечь,-чься. Чуць ня'смаліў сабе валасоў лучынаю. Асмалілі сьвіньню. Увесь асмаліўся ў пажары ды чуць ня памёр. *В. Старына.*

**Асмолак,** лка, *м.*—смоляное полено. Асмолкі будуць добра на патпалку. *В. Старына.*

**Аснаваць,** *дзс. (прм.* **аснованы)**—приготовить основу для тканья. Хоўра ўчора аснавала кросна. *В. Вострава, Сьміл. р.* Кросна аснóваны ў дзесяць пасам. *В. Старына.*

**Аснова,** ы, *ж.*—основа в тканье. Толька на'снову хваціла нітак. У сукне парцяная аснова. *В. Старына.*

**Асноўніцы,** ніц, *мн.*—приспособление для снованья тканья: две пластинки с колышками, прибитые к стене по углам. Згінунулі асноўніцы—німа як снаваць кроснаў, *В. Турэц, Сьміл. р.*

**Асоба,** ы, *ж.*—личность. Ціпер Юрка стоў вялікая асоба. *В. Старына.*

**Асобенна,** *прс.*—отдельно. Братэ ўжо падзяліліся й жывуць асобянна. *В. Старына.*

**Асосак,** ска, *м.* — телячья кожа Аддоў татарыну асосак на выраб. *В. Старына.*

**Асот,** у, *м.*—осот огородный (Sonchus oleraceus L.) и полевой (Sonchus arvensis L.). Уеўся асот у грады—усё паглушыў. У картоплі чоршта асоту. *В. Старына.*

**Асочлівы,** *прм.*—сочный. Гэта трава асочлівая. *В. Слопішчы, Шацк. р.*

**Аставацца,** *дзс. (зак.* **астацца)**—оставаться. Аставайцяся здаровы — пайду ўжо дамоў. Астоўся ззаду на вярсту. *В. Старына.*

**Асталоп,** а, *м. (пав.* **асталопіна)**—остолоп. Асталоп еты табе робіць што! Чаго-ж ты пазіроў, асталопіна ты?! *В. Старына.*

**Асталявацца,** *дзс.*—устроиться, обосноваться. Бусял асталявоўся жыць на бярозя. *В. Старына.*

**Астаньні,** *прм.* **(=літ. астатні)**—последний. Астаньні раз я табе. кажу: паслухай міне. *В. Старына.*

**Астача,** ы, *ж.*—остаток. Астачу таксама падзялілі на ўсіх. *В. Старына.*

**Астоіцца,** *дзс.*—отстояться. Хай вада астоіцца, дык мут сам сойдзя. *В. Старына.*

**Асудзіць,** *дзс.—гл.* **Абсудзіць.**

**Асушак,** шка *м.* — сухой кусок хлеба. Каб хаця які асушак хлеба папасьці да з вадою йзесьці. *В. Старына.*

**Асьлепці,** *дзс.*—ослепнуть. Калі етак рабіць, дык можна будзя й асьлепці. Пад старасьць саўсім чалавек асьлèп. *В. Старына.*

**Асьмеліцца,** *дзс.*—осмелиться. Як ты асьмеліўся так казаць на міне? *В. Старына.*

**Асьмеркціся,** *дзс. безас.* — смеркнуться. Добра ўжо асьмерклася, пакуль дамоў прышлі. *В. Старына.*

**Асьміна,** ы, *ж.*—мера=$^1/_8$ бочки, =3 п. ржи,=48 кг. Прадоў на стрыхоўку асьміну жыта. *В. Старына.*

**Асьцюк,** à, *м. (мн.* **асьцюке)**—шелуха от зерен в хлебе. Хлеб с адныміі асьцюкамі. *В. Старына.*

**Асьцюкаваты**, *прм.*—с шелухою от зерен. Хлеб нейкі асьцюкаваты. Пярапечка смашная, але асьцюкаватая. *В. Старына.*

**Асьцярога**, і, *ж.*—осторожность. У такой справя трэба асьцярога. Асьцярога ня пашкодзіць. *В. Старына.*

**Асьцярожны**, *прм.* (*прс.* **асьцярожна**)—осторожный. Асьцярожна, сынку, йдзі па кладца. Асьцярожны чалавек і слова лішняга ня скажа. *В. Старына.*

**Асыкацца**, *дзс.* (*зак.* **асыкнуцца**)—отговариваться, бурчать. Дак ета ты ашчэ мне будзяш асыкацца, я-ж табе пакажу! Асыкнуўся раз, другі дый толькі таго. *В. Вострава, Сьміл. р.*

**Асыпацца**, *дзс.* (*зак.* **асыпацца**)—осыпаться. Асыпаяцца лісьця. Асыпаліся йгрушы. *В. Старына.*

**Асядаць**, *дзс.* (*зак.* **асесьці**)—осаживаться. Ня хадзі па хаця, хай асядзя пыл. Рой асеў на ліпя. *В. Старына.*

**Асяніна**, ы, *м.*—сбор по осени платы натурою для кузнеца. Сяло згадзіла сабе каваля на'сяніну. *В. Старына.*

**Асянчук**, ў, *м.*—плохо удавшееся сено. Гэтым летам было кепская надвор'я, і мы шмат нарабілі асянчуку. *С. Амельна, Пух. р.*

**Асяродак**, дку, *м.* — сердцевина. У яблыні ўвесь асяродак выгніў. *В. Жораўкі, Сьміл. р.*

**Ат**, *выкл.*—эх, эх-ма, выражающие досаду, неудовольствие. Ат, ё тут што слухаць! Ат, толька што робіць! Ат, добра й так будзя! *В. Старына.*

**Атава**, ы, *ж.* (*пам.* **атаўка**)—отава. Другі раз скасілі атаву. *В. Старына.* Атаўка—сену прыбаўка, да ня ўмеў скасіць яе Саўка. *Прык. В. Дукарка, Сьміл. р.*

**Атварог**, у, *м.*—творог. Наеўся атварогу с пірагом. *В. Старына.*

**Ато**, **ато-б**, *злуч.*—то, а так. Маўчы, ато бяда будзя. Ня ведаў, ато-б і я прышоў.

**Ато-ж**, *выкл.*—вот, вот какой. Ато-ж дурны хлапец! *В. Старына.*

**Ато (ўжо)**, *прс.*—вот уж. Ато ўжо думаў, што бяда будзя. *В. Старына.*

**Ато-ж як**, *прс.*—а то как-же. Ато-ж як ты хацеў? *В. Старына.*

**Атопак**, пка, *м.* — стоптанный лапоть. Пастаянна цягаяцца ў ватопках. Выкінь атопкі на сьметнік. *В. Старына.*

**Атос**, а, *м.*—тяж из веревочек или железных прутьев для натягивания оглобли к концу оси. Такі цяжкі воз наклоў, аж атосы парваліся. *В. Старына*

**Атрапаць**, *дзс.* (*прм.* **атрэпаны**)—отрепать. Атрапала дзьве куклы лёну. Мой атрэпаны ўвесь лён. *В. Старына.*

**Атрапенець**, *дзс.* (*ад польск.* **utrapienie**)—взбеситься. Чаго ты атрапеняў, крычыш вельма?! *В. Старына.*

**Атрута**, ы, *ж.*—1) отрава. Атруты яму патсыпалі, дык атразу й кончыўся.—2) плохое кушанье. Ну й квас—атрута нейкая!—3) в бранном смысле. Атрута ты мая, што ты міне губіш! *В. Старына.*

**Атрутнік**, а, *м.*—побранка на лентяя, на сварливого и вообще на надоедливого. Атрутнік ты, што ты ўсё ляжыш, чаму нічога ня робіш! Атрутнік еты ўжо ўсіх пазагрызоў у хаця.—*В. Старына.*

**Атруціць,-цца**, *дзс.* (*прм.* **атручаны**)—отравить,-ться. Ня выцерпяў чалавек такога жыцьця ды атруціўся. Жонка атруціла мужыка. Дзеўка памерла атруціўшыся. Сабака, мусіць, атручаны. *В. Старына.*

**Атрэпь'е**, п'я, *н. зб.*—1) негодные остатки при трепаньи льна. З лёну шмат вышла атрэп'я.—2) полотно худшего качества. Хадосься выткала дзьве губкі атрэп'я. *В. Старына.*

**А ўжо-ж**, *выкл.*—разумеется, ну да. А ўжо-ж так. А ўжо-ж, хай будзя так. *В. Старына.*

**Аўстрыяка**, і, *м.*—австриец. Папоўся ў плен к аўстрыякам. *В. Старына.*

**Аўсюк**, у, *м.*—овёс живой (Avena fatua L). Аўсюку шмат павыскаквала ў ваўсѐ. *В. Старына.*

**Аўсянішча**, а, *н.*—овсяное жнивьё. Коні пасуць на‘ўсянішчы. *В. Старына.*

**Аўсянка**, і, *ж.* -1) овсяная каша, Наеўся аўсянкі з малаком.—2) овсяная солома. З аўсянкаю каровы леняй ядуць. *В. Старына.*

**Аўца**, ы, *ж.*—овца. Прапала наша адна аўца. *В. Старына. (Пр.* **Авечка**).

**Аўчарнік**, а, *м.*—овечий хлев. Воўк паткапоўся ў ваўчарнік. *В. Старына.*

**Аўчына**, ы, *ж.* (*пам.* **аўчынка**)—овчина. Купіў пяць аўчынак на кажух. Аднае аўчыны будзя мала на рукавѐ. *В. Старына.*

**Аўчыньнік**, а, *м.*—скорняк. Забыўся ўзяць ат аўчыньніка бірку. *В. Старына.*

**Аф(хв)арбаваць**, *дзс.* (*прм.* **аф(хв)арбованы**) — окрасить. Максіму афарбавалі порткі. *В. Слопішчы, Шацк. р.* Сама ахварбавала спадніцу. Стол ахварбованы. *В. Старына.*

**Ах**, *выкл.*—ах, ох. 1) при выражении горя, печали. Ах ты, горачка маё!—2) при выраж. удовольствия. Ах, які смашны квас, ня ўесьціся! *В. Старына.*

**Ахапак**, пка, *м.*—охапка. Паткінь каню ахапак сена. *В. Старына.*

**Ахаяцца**, *дзс.*—обчиститься, прибраться. Ніяк ня‘хаяцца ат етаі гразі. *В. Старына.*

**Ахвота**, ы, *ж.*—охота. Ні да чóга нешта німа ахвоты. *В. Старына.*

**Ахвотна**, *прс.*—охотно. Так ахвотна робіць, што аж люба глядзець! *В. Старына.*

**Ахвочы**, *прм.*—охотный, жадный. Чаму, ён ахвочы на чужоя! *В. Старына.*

**Ахвяра**, ы, *ж.*—жертва, обет. Дала на‘хвяру: мо‘ ачуняя дзіця. *В. Старына.*

**Ахвяравацца**, *дзс.*—дать обет. Каб выздаравяць, ахвяравоўся схадзіць у манастыр. *В. Старына.*

**Ахлыстваць** (*грошы*), *дзс.*—зарабатывать много. А што, ён сталяр на ўсе Сьмілавічы, ахлыствая добрыя грошы. *В. Старына.*

**Ахмылка**, і, *ж,*—ошибка. І сам ня помню, як я ўвадроў такую ахмылку! *В. Старына.* (*Пр.* **Абмылка**).

**Ахмыляцца**, *дзс.* (*зак.* **ахмыліцца**)—ошибаться. Кажды раз ўсё будзяш ахмыляцца,—дык нічога ня выдзя. Ахмыліўся трохі сказаць. *В. Старына.*

**Ахнуць**, *дзс.* ахнуть. Аж ахнаў чалавек ад дзіва. *В. Старына.*

**Ахрак**, а, *м.* (*пав.* **ахрачышча**)–1) плевок мокроты. Уся падлога ў вахракох. Ахрачышчы тыя па шапца.—2) насмешка и ругань на слабосильного. Анан наш—чысты ахрак. Вой ахрак ты, адзін рады ня дасі мяшку! *В. Старына.*

**Ахрыпці**, *дзс.* (*прм.* **ахрыпшы**)—охрипнуть. Етак можна ахрыпці, калі будзяш крычаць на ветры. Я ахрыпшы. Ахрып-Архіп. (*Прыгаворка*). *В. Старына.*

**Ахрысьціць**, *дзс.*—окрестить. Кумэ ахрысьцілі дзіця. *В. Старына.* Наша малоя яшчэ ня‘хрышчана, ды мусіць, і хрісьціць ня будам. *В. Старына.*

**Ахутаць,-цца**, *дзс.* (*прм.* **ахутаны**)—окутать. На зіму ахуталі саломаю прышчэпы, каб ня памерзьлі. Ахутаўся ў рызьзё. Дзіця добра ахутана. *В. Старына.*

**Ацанаваць**, *дзс.*—оценить. Шкоду ацанавалі на тры рублe. *В. Старына.*

**А ці; а ці-ж**—разьве; ли. А ці ты кончыў работу? А ці-ж я ведаю што? *В. Старына.*

**Аціхаць**, *дзс.* (*зак.* **аціхнуць**)—утихать. Вецяр стоў аціхаць. Няхай хоць троха бура аціхня. *В. Старына.*

**Аціліцца**, *дзс.*—отелиться. Наша карова ўжо аціліліся,—ацеліцца на етум тыдні. *В. Старына.*

**Ацярушыць, -цца**, *дзс.*—отряхнуць, -ться. Шапку ацярушы, дый увесь ацярушыся ат сьнегу. *В. Старына.*

**Ачамера**, ы. *ж.*—надоеда. Вот дзе ачамера: лезя ды лезя ка мне. *В. Старына.*

**Ачамярэлы**, *прм.*—надоедливый. Такая-ж ачамярэлая дзіця, проста бяда з ім! *В. Старына.*

**Ачамярэць**, *дзс.*—1) опротиветь, надоесть. Аж ачамярэла яго слухаючы.—2) одуреть. Галава ачамярэла мая. *В. Старына.*

**Ачапацца**, *дзс.*—в шутливом тоне—, оправиться. А дарма: пахварэя ды ачапаяцца. *В. Старына.*

**Ачмуціць**, *дзс.*—одурить. Ачмуціла дзеўка хлопца. *В. Старына.*

**Ачумець**, *дзс.*—очуметь. Што ты ачумеў: сёньня-ж аўторак, а ня сярада! *В. Раўнапольля, Сміл. р.*

**Ачуньваць**, *дзс.* (*зак.* **ачуняць**)—выздоравливать. Яму ужо ня'чуньваць. Чуць ачунёў. *В. Старына.*

**Ачурацца**, *дзс.*—отречься. Ачуроўся й бацькі й маткі. Ачураясься ты й сваіх, ік дам. *В. Старына.*

**Ачухацца**, *дзс.* (*рус.* очухаться)—прийти в себя. Чуць ачухаўся ад гарэлкі. *В. Старына.*

**Ачэп**, а, *м.*—верхнее бревно в продольной стене постройки, на которое ставятся стропила. У пуньца ўсё старое бярвеньня выкінулі, толька ачэпы пакінулі, каб лепяй было крохвы ставіць. *В. Старына.*

**Ашаламуціць,-цца**, *дзс.*—ошеломить, -ться. Адна чарка ашаламуціла. Ашаламуціўся чалавек: ня ведая, куды йці. *В. Старына.*

**Ашалелы**, *прм.*—ошалевший. Ета-ж проста ашалелы чалавек, з ім нельга гаварыць. Бегая, ік ашалелы. *В. Старына.*

**Ашалець**, *дзс.*—ошалеть, взбеситься. Ашалеў сабака. Ашалеўшы: етулькі грошай выдаць! Хіба ашалеўшы, етак рабіць. *В. Старына.*

**Ашальмаваць**, *дзс.*—обокрасть, обобрать обманным способом. Ашальмавалі сынке бацьку, усё пабралі сабе. *В. Старына.*

**Ашалявацць**, *дзс.* (*прм.* **ашалёваны**)—обшить досками. Ашылявалі хату, дык шмат цяплей. Ганак ашылёваны *В. Старына.*

**Ашлапіць**, *дзс.*—о лошади,—расставлять ноги при езде по дороге над небольшими лужами. Днём во ехаць, дык конь хоць дзе яшчэ й ашлапіць лужыну. *В. Старына.*

**Ашпарыць**, *дзс.*—ошпарить. Ашпарылі ложак с клапамі. *В. Старына.*

**Аштырыцца**, *дзс.*—очутиться (от слова **штырыць**—толкнуть). Ік піргну, дык недзьдзя аштырысься! *В. Старына.*

**Ашуканства**, а, *н.*—обман. Пачакайжа, я табе ня дарую твайго ашуканства! Ашуканствам веку ня пражывеш. *Прык. В. Старына.*

**Ашуканец**, нца, *м.*—обманщик. Ня вер етаму ашуканцу, ня давай грошай наперад. *В. Старына.*

**Ашукаць,-цца**, *дзс.* — обмануть, -ться. Ашукоўся я, што так дзешава прадоў жыта. Ня жыў, каб ня'шукаць чалавека. *В. Старына.*

**Ашушкаць**, **ашустаць**, *дзс.*—обмануць, обхитрить. Вось дык ашўшкаў ты мяне! *В. Вострава, Сьміл. р.* Ашўсталі п'янага: задарма купілі кажух. *В. Старына.*

**Ашчаболак**, лка, *м.*—осколок полена. Атлезь, ато заробіш ашчаболка па нагах. *В. Старына.*

**Ашчапенец**, нца, *м.*—большой скупец. Вот дзе ашчапеняц: і панюхаць ня дасьць. *В. Загай Пух. р.*

**Ашчарэпіць**, *дзс.*—обхватить крепко руками или лапами. Ашчарэпіў, ік мядзьведзь, ды трымая. *В. Старына.*

**Ашчэ**, *прс.* = літ. **яшчэ**—еще. Ашчэ прыдзя кóза да вóза. *Прык. В. Старына.*

**Ашыйна**, *прс.*—не очень, необязательно. Ашыйна нам ехать с табою. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Ашыяк**, йка, *м.*—карковина. Во ета сала із ашыйка: *В. Старына.*

**Аюсь!** *выкл.* — окрик на свинью. Аюсь у хлеў! *В. Старына.*

**Аюц!** *выкл.*—окрик на поросят. Аюц вон! у хлеў пашлі, каб вы падохлі! *В. Старына.*

**Ая-яй!** *выкл.*—междометие удивления. Ая-яй, які сьнег паляпіў вялікі! *В. Старына.*

# Б.

**Ба**, *злуч.—гл.* **Бо.**

**Баба**, ы, *ж.*—1) бабушка—мать родителей. Бацькѐ памерлі, а дзеці асталіся жыць пры бабя.—2) старая, седоволосая женщина. А, яна ўжо старáя: баба гадоў пад семдзісят.—3) замужняя женщина. Сам хлопяц удàлы і бабу сабе такую падаброў. На вуліцы сабраліся адны бабы.—4) повивальная бабка. Хадора пашла бабаю к Еўца. *В. Старына.*

**Баба**, ы̀, *ж.*—1) нетолстая и небольшая колода, на которую кладут бревно на санях. Ускіньця-ж бабу̀ на сані, ато нельга будзе й бярвеньня класьці. 2) орудие для вбивания свай. На мост прыцягнулі бабу̀ забіваць палі. *В. Вострава, Сьміл. р.*

**Баба-Яга**—сказочная злая старуха с костяной ногою. Скажу табе казку пра Бабу-Ягу. *В. Старына.*

**Бабёр**, брà, *м.*—бобр. А бабёр-жа плача, ік чалавек. Зьвяліся ў нас бабрэ̀. *В. Старына.* Усе бабры̀ дабры̀, адна выдра кепска. *Прык. В. Слопішча, Шацк. р. Пр.* **Бабрáк.**

**Бабін**, *прм.*—бабушкин. Што міру, то й бабіну сыну. *Прык.* Ета хуста бабіна. *В. Старына.*

**Бабінкі**, нак, *мн.*—угощение бабки-повитухи и др. близких женщин после принятия и купанья ребенка. Дзядзіну-ж трэба паклікаць на бабінкі. *В. Старына.*

**Бабіць**, *дзс.* — принимать ребёнка. Хто-ж у вас будзя бабіць? *В. Старына.*

**Бабіч**, *м.*—ребенок, родившийся от повитухи. Вот баба: сама радзіла дзіця—будзя бабіч. *В. Старына.*

**Бабка**, і, *ж.*—1) 10-15 снопов, поставленых для просушки и накрытых одним из них колосьями вниз. Снапэ паставілі ў бабкі. Нажала тры бабкі.—2) наковаленка, на которой клеплют косу. Німа бабкі пакляпаць касу.—3) гриб берёзовик (черный гриб). Набрала цэлы кошык адных ба́бак. 4) Кушанье из растёртого картофеля, крупы и сала. Маша сьпякла смашнаі бабкі.—5) стрекоза (Libellula). Над ракою шмат лётая бабак. *В. Старына.*

**Бабок**, бка, *м.*—трилистник водяной (Menyanthes trifoliata L.). У канаві нарвалі бабку карові. *В. Вострава, Сьміл. р.*

**Бабоўе**, я, *н. зб.*—1) вымолоченные стебли боба. Укінаў аўцам наначь бабоўя. 2) земля, бывшая под бобом. Сяголята грады будуць на бабоўі. *В. Старына.*

**Бабравіна**, ы, *ж.*—место, где водятся бобры. Дакасілі аж да бабравіны. *В. Старына.*

**Бабрак**, кá, *м.—гл.* **Бабёр.** У рацэ̀ хлопцы бачылі бабракà. *В. Жораўкі, Сьміл. р.*

**Бабскі**, *прм.* — бабий. А, ета ўсё бабскія гаворкі. *В. Старына.*

**Бабух**, *выкл.*—бух. Бабух у палонку! *В. Старына.*

**Бабухнуць**, *дзс.*—упасть. Бабухнаў у ваду,—чаго-ж цібе гнала туды. *В. Забалоцьце, Сьміл. р.*

**Бабыль**, я̀, *м.*—бобыль. Антон жыве бабылём. *В. Старына.*

**Бабылька**, і, *ж.*—бобылка. Ведама, бабылька: гаруя ўвесь век свой. *В. Старына.*

**Бабырка**, і, *ж.*—рыба пескарь. Налавіў плотак, галаўнёў і бабыркі. *В. Жораўкі, Сьміл. р.*

**Бавіцца**, *дзс* .— 1) задерживаться. Ідзі, ды ня баўся. Доўга там ня буду бавіцца.—2) забавляться, играть. Ік малы ўсяроўна, бавіцца з дзецьмі. *В. Старына.*

**Бавэлна**, ы, *ж.*—хлопчатобумажные нитки, продаются в моточках различного цвета. Бавэлнаю патыкала пасьцелкі. *В. Старына.*

**Багамолны**, *прм.*—богомольный. Які ты стоў багамолны! *В. Старына.*

**Багамольле**, я, *н.*—1) еврейский молитвенный убор. У Іцкі хлопцы аткралі багамольля.—2) насм., одежда. Ушчапіў на сібе нейкая ба-

**Драгва**, ы. *ж.—гл.* **Дрыгва**. Німа як скаціне хадзіць: там адна драгва. *С. Навасёлкі, Пух. р.*

**Дражніць, -цца,** *дзс.* — дразнить, -ться Ня дражні сабак ты, ціхінька йдзі! Дражніцца з дзіцям, ік мапы. *В. Старына.*

**Драла** — давай удирать. Выскачыў с хаты ды драла. *В. Старына.*

**Драмаць,** *дзс.*—дремать. Ціха: дзед дрэмля! *В. Старына.*

**Дранка,** і, *ж.*—одеяло, сделанное из разноцветных лоскутиков. Мы ночы ўкрываямся рабаю дранкаю. *В. Турэц, Сьміл. р.*

**Дрань,** і, *ж.*, **драніцы**, ніц, *мн.*—дрань—кровельный материал из длинных узких дощечек. Хата пакрыта дранью. *В. Рудзенск, Сьміл. р.* На йстопку дастоў драніц. *В. Старына.*

**Драпаць,** *дзс. (аднакр.* **драпануць,** *пр. польск.* drapać—царапать),—старательно итти. Драпаў, драпаў, чуць прышоў парою дамоў. Выр-ваўся да як драпане—толька й бачылі яго! *В. Старына.*

**Драпачэ,** оў, *мн.* — пружинная борона. Драпачамі дзяруць дзёран. *В. Скрыль, Пух. р.*

**Дратаванка,** і, *ж.* — плеть, свитая из пеньковых волокон и обвитая для крепости отдельно свитой веревочкой. Добра ўкапнаў яму дратаванкі! *В. Старына.*

**Дратаваць,** *дзс.*—1) сильно избивать плетью или веревкой. Ік стоў яго дратаваць, дык чуць жывого пусьціў.—2) топтать посевы, траву. Коні ходзяць па жыця, дратуюць яго. *В. Старына.*

**Дратва,** ы, *ж.*—дратва. Слабаю дратваю прышыта латка. *В. Старына.*

**Дратэ,** оў, *мн.* — веялочные сита. Устаўця дратэ каласаваць амеці. *В. Харавічы, Сьміл. р.*

**Драць, -цца,** *дзс.*—1) обдирать,-ться, Бацька дзярэ лыкі. Кара лёгка дзярэцца.—2) чесать лён. Маці дзярэ лён.—3) делать крупу. Павезлі драць крупы.—4) быстро итти. Дроў, дроў,—чуць прышоў. Дзярэ, аж пыл курыць!—5) царапать,-ться. Нашто-ж ты дзярэш яго сваімі капцюрамі?. Дзярэцца, ік той кот.—6) сильно кричать, орать, громко говорить. Чаго ты дарам горла дзярэш: цібе ніхто ня слухая. Дзярэцца на ўсё горла, аж чэрці яго бяруць! *В. Старына.*

**Драцяны,** *прм.*—проволочный. Купілі драцяныя сіты. Пуга крэпкая, усяроўна ік драцяная. *В. Старына.*

**Драч,** а, *м.*,—1) (=**дзяргач**—Crex)—коростель. На балоця крычыць драч.—2) плотницкий инструмент для обозначения линий паза. Пазыч мне драча: бартаваць бярвеньня буду. *В. Старына.*

**Драчэць,** *дзс. безас.*—чесаться, зудеть. У вуху вельма драчыць. Нешта драчыць у горля. *В. Старына.*

**Дроб,** у, *м.* (*пам.* **драбок**)—маленький кусочек, щепотка. Дай хлеба й дроб цукру. Укінь ашчэ драбок солі. *В. Старына.*

**Дробны, дромны,** *прм.* — мелкий. Нешта дробная картопля. *В. Старына.* Дробная жыта. *В. Вострава, Сьміл. р.*—2) мизерный, невзрачный. Ігнат дробны с твару. *В. Старына.* Дромны хлопчык. *В. Вострава, Сьміл. р.*

**Дробязь,** і, *ж.*—мелочь. Ігрушы—адна дробязь. *В. Старына.*

**Дрова,** аў, *мн.*— дрова́. Паедам у дрова. Дрывамі закідалі ўсю па вець. *В. Старына.*

**Дрож,** у, *м.* — дрожь. Такі дрож праброў міне на дварэ! *В. Старына.*

**Дрожджы,** эй, *мн.*—дрожди. Пірагі сьпяклі на дражджах. Бяз дражджэй ня падышло цеста. *В. Старына.*

**Дросень,** сьня, *м.* (=**драсён**)—трава горчак, почечуйная трава (Polygonum Persicaria L). На балоццы ўзёўся дросянь. *В. Старына.*

**Дрот,** у, *м.*—проволока. На слупох нацягнут дрот. Каб дзе кавалак дроту папасьці. *В. Старына.*

**Дроўка,** і, *ж.*—корова, отелившаяся в три года. Наша Рагуля—дроўка. *С. Амельна, Пух. р.*

**Другая прачыстая**—праздник 8 сент. На етум тыдні ў пятніцу будзя другая прачыстая. *В. Старына.*

**Дружба**, ы, *ж.*—дружба. Дружбу помні, а злосьць забывай. *Прык. В. Дайнава, Пух. р.*

**Дружка,** і, *ж.*—шаферица. А я ў Марылі на вясельлі была за дружку. *В. Старына.*

**Дружко**, à, *м.*—распорядитель мужчына на свадьбе; обыкнов. бывает повязан через плечо „рушніком". Хай ужо дружко заводзіць маладую на пасад. *В. Старына.*

**Дружны,** *прм.*—старательный. Таццяна такая дружная дзяўчына! Дружны конік. *В. Старына.*

**Друз,** у, *м.*—1) перебитая и засохшая комочками земля. Грады чысты друз, а яна садзіць агурке. Хлеб ня ўдоўся,—ік друз.—2) мусор с землей. З двара вывязьлі ўвесь друз. *В. Старына.*

**Друзачка,** і, *ж.*—мелкая часть чего. Усё пабілася, разьляцелася, ня 'сталося й друзачкі. *С. Навасёлкі, Пух. р.*

**Друкаваць,-цца,** *дзс.*—печатать,-тться. Піша, усяроўна ік друкуя. Кніжкі друкуюцца ў горадзе. *В. Старына.*

**Davidчок**, чкà, *м.*—дубинка, вообще толстая суковатая палка. Адзін буду йці, дык трэба ўзяць які дручок с сабою. *В. Старына.*

**Дрыгаценьне,** я, *н.*—дрожание. У рукі прышло дрыгаценьня. *В. Старына.*

**Дрыгаць**, *дзс.*—дрыгать ногами. Пакаціўся, ды дрыгая нагамі. *В. Старына.*

**Дрыгва**, ы̀, *ж.*—трясина. Аб'едзь ету дрыгвỳ. *В. Дукарка, Сьміл. р.* (*Пр.* **Драгва**.)

**Дрыгун,** à, *м*—тот, кто дрыгает ногами. Вот дзе дрыгун: абы што—пакоціцца ды дрыгая нагамі. *В. Старына.*

**Дрыжаць**, *дзс.*—дрожать. Спужоўся, аж дрыжыць. *В. Старына.*

**Дрыжыкі,** аў, *мн.*—дрожь. Во калі спужоўся, аж у дрыжыкі кінула яго! *В. Старына.*

**Дрыль,** я, *м.*—лобзик. Дрылям пракруціў дзірку. *В. Старына.*

**Дрыляваць,-цца,** *дзс.* — сверлить, -ться лобзиком. Ня ў том месьця дрылюяш. Як туга дрылюяцца. *В. Старына.*

**Дрындуха,** і. *ж.* (*пам.* **дрындушка**)—презр.,—частушка. Сьпей другую песьню, а то пяеш адны дрындухі. Ня песьня, а дрындушка. *В. Старына.*

**Дрыпаць,** *дзс.*—итти, бежать мелким шагом. Конь дрыпая, ік курыца. Хутчэй ты там дрыпай. *В. Старына.*

**Дрыстаць,** *дзс.*—ходить поносом. Наеўся ўсякаі зеляні ды дрышча. *В. Старына.*

**Дрыстун,** á, *м.*—1) насм.,—ходящий поносом. Вой які дрыстун: дрышча ды дрышча!—2) бран. слово на выходящих из границ гнева, но бессильных. Дрыстун ты, хто цібе баіцца?! *В. Старына.*

**Дрыстуха,** і, *ж.*—понос. Напала на яго дрыстуха. *В. Старына.*

**Дрэбы,** аў, *мн.*—*гл.* **Драбы**. От-жа захудала скаціна: адны дрэбы тарчаць! *В. Старына.*

**Дрэбязь,** і, *ж.*—*гл.* **Дробязь**. Што ета за яблыкі—нейкая дрэбязь. *В. Матарова, Сьміл. р.*

**Дрэва,** а, *н.*—1) дерево растущее. Важная дрэва вырасла.—2) лесоматериал. Пад павецьцю ўсякага дрэва валяяцца. *В. Старына.*

**Дрэгаць,** *дзс.*—колотить при езде. Вот-жа дрэгая на калёсах! *В. Вострава, Сьміл. р.*

**Дрэнны,** *прм.* (*прс.* **дрэнна**)—плохой. Міхаль дрэнны чалавек. А чым табе дрэнна жывецца? *В. Старына.*

**Дрэнчыць,** *дзс.* (*польск.* dręczyć—мучить) 1) стегать, собств. малых ребят. Злавіў у садку чужога хлапца ды давай дрэнчыць.—2) сильно хотеться. Ай як табе дрэнчыць пайці! *В. Старына.*

**Дрэнь,** і, *ж.*—дрянь. Усякая дрэнь лезя ў вочы. *В. Старына.*

**Дрэпаць,-цца,** *дзс.*—чесать, царапать,-ться. Кот дрэпая ў дзьверы. Што ты ўсё дрэпаяська ў галаве? *В. Старына.*

**Дрэўкі,** вак, *мн.*—короткие поленья дров для „комінка". Пайдзі насячы дрэвак на комінак. Ета смольная палена будзя на дрэўкі. *В. Старына.*

**Дуб**, а, *м.*— дуб. (Quercus) У лесі сьсек дўба. *В. Жораўкі, Сьміл. р.*

**Дубальтовы**, *прм.*—двойной. Палажылі дубальтоваю падлогу. *В. Лешніца, Сьміл. р.*

**Дубальтоўка**, і, *ж.*—двухствольное ружьё. З дубальтоўкі забіў воўка. *В. Старына.*

**Дубасіць**, *дзс.* — крепко избивать, тузить. Падаброў пад сібе ды давай дубасіць. *В. Старына.*

**Дубец**, бца̀, *м.*—розга. Глядзі, ато заробіш дубца. Б'ецца дубцом. *В. Старына.*

**Дуга**, і, *ж.*—дуга. Зламалася ў возя дуга. *В. Старына.* Ня пацягня дуга, дык пацягне пуга. *Прык. В Забалоцьце, Сьміл. р.*

**Дуда**, ы̀, *ж.*—1) белорусский народный музык. инструмент; состоит из сопелки и духового мешка. Даўней ігралі на дуду.—2) перен., глупая женщина. Дуда ты дурная! *В. Старына.*

**Дудзець**, *дзс.*—играть на сопелке—свирели. Хлопяц у дудку дудзіць. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Дудка**, і, *ж.*—свирель из просверленного дерева или из тростника („чарота"), а также из соломинки. Умея лоўка на дудку іграць. *В. Старына.*

**Дужацца**, *дзс.*— бороться. Хлапцэ дужаюцца. *В. Старына.*

**Дужы**, *прм. (скар.* **дуж***)*—сильный. Дужы, ік мядзьведзь. *В. Старына.* З дужым ня бія, з багатым ня судзіся. *Прык. С. Дукора, Сьмілав. р.* Хто дуж, той і пруж (знач. правы). *Прык. В. Старына.*

**Дужэйшы, дужэй**, *прм. в. ст.*—сильнейший. Альхім самы дужэйшы хлопяц. Над яго німа ў сяле нікога дужэй. *В. Старына.*

**Дўжэразны**, *прм.*—весьма сильный. Ён дык дужэразны: адзін хвою паднімя. *В. Старына.*

**Дукавацца**, *дзс.*—кривляться. Ня дукуйся ты надта! *В. Старына.*

**Дуля**, і, *ж. (пам.* **дулька**) 1) груша садовая большая (Pirus communis L). На, йзьеш дульку. На зіму насушылі дуль. — 2) фига. На табе дулю ў нос! *В. Старына.*

**Дума**, ы̀, *ж.* — дума, мысль. Нейкая цяжкая думá залезла ў галаву. *В. Старына.*

**Думаць, - цца**, *дзс.* — думать,-ться. Ашчэ нешта ён думая. Усяк думаяцца чалавеку. А ты як думаясься, так яно й будзя. *В. Старына.*

**Дуньдзіць**, *дзс.*—с азартом сосать. Вунь цялё карову дуньдзіць. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Дупель**, я, *м.* — дупло. Ў ігрушы выгніў дупяль. *В. Старына.*

**Дуплісты**, *прм.*—дупловатый. Дуплістая дзічка. Дуплісты дуб. *В. Старына.*

**Дуракаваты**, *прм.*—глуповатый. Наш сусед дуракаваты. *В. Матарова, Сьміл. р.*

**Дурань**, рня, *м.*—дурак. Вялікі пад неба, а дурань, як трэба. *Прык.* Валачэ вот, як дурань дзьверы. *Прык. В. Вострава, Сьміл. р.*

**Дурасьць**, і, *ж.* — дурь. Ой глядзі: выганю ўсю дурасьць с цібе! Усё дурасьць робіць. *В. Старына.*

**Дурата**, ы̀, *ж.*—глупость. Ўсё дурата, ато трэ'бала-б свае канюшыны пакінуць на насеньня. *В. Старына.*

**Дурна**, *прс.* — плохо, нехорошо, только в смысле поступка, без значения обморока. Дурна, што ня ўзёў з сабою полудня. *В. Старына.*

**Дурнап'ян**, у, *м.* — белена (Datura stramonium L). У пшаніцы шмат дурнап'яну. Панаядаліся бліноў з дурнап'янам, дык чуць ня паўміралі. *В. Старына.*

**Дурніла**, ы, **дурніца**. ы, *аг.*—дурак, глупый, глупая. Слухай, што кажа еты дурніла. Дурніца ты, дурніца, што ты робіш?! *В. Старына.*

**Дурніцца**, *дзс.* — дурачиться. Даволяй табе ўжо дурніцца. *В. Старына.*

**Дурнішча**, ы, *аг.*—дурачище. Дурнішча ты, йдзі што-небудзь рабі. *В. Старына.*

**Дурнота**, ы, *ж.*—глупость. Зарабіў-ба грошай, каб ня свая дурнота. *В. Старына.*

**Дурны**, *прм.*—1) глупый. Дурны, ік бот. *Прык.* Пашлі дурнога, а за ім другога. *Прык. В. Старына.*—

2) полуумный. Па сяле ходзіць дурны. *В. Старына.*

**Дурыць,** *дзс.*—беспокоить, дурить. Ня дуры ты мне галавы сваімі чаравікамі! *В. Старына.*

**Дурыцца,** *дзс.*—дурачиться. Ну, ня дурыся лішняя. *В. Старына.*

**Дурэзьлівы,** *прм.*—шаловливый, дурашливый. Міхалёвы дзеці вельма-ж дурэзьлівыя. *В. Дукоршчына, Сьміл. р.*

**Дурэць,** *дзс.*—1) шалить. Залішняя дурэяш, дзяціна!—2) привередничать. Добра жывецца, а ты ашчэ дурэяш, чалавеча. *В. Старына.*

**Дух,** у, *м.*—1) дух. Каб і духу твайго тут ня было!—2) комнатный воздух. У хаця цяжкі дух. *В. Старына.*

**Дух раніць**—оказывать к кому любовь, расположение в высшей степени, идя за него даже на жертву. Ой яна любіць яго: проста дух за ім роніць! *В. Старына.*

**Духата,** ы, *ж.*—душный воздух. Ета-ж задавіцца можна ат етакаі духаты. *В. Матарова, Сьміл. р.*

**Духе,** оў, *мн.*—жизнь, дыхание. Духе с цібе ўперад выпра (выганіць), пакуль ты ета ў міне палучыш! *В. Старына.*

**Духе выняць,**—измотать, измучить в сильной степени. Пакуль дажджэсься ты дабра, дык і духе с цібе вымя. *В. Старына.*

**Духе заняць** — затаить, прервать дыхание. Маўчыць—і духе яму заняло. *В. Старына.*

**Дуць,** *дзс.*—бить, избивать. Дуй яго, растакога сына! *В. Старына.*

**Душа,** ы, *ж.*—душа. Гаўрыла споў, а мужчыны сядзелі. Бачыць Іван, што блутаяцца ў траве нейкая казяўка, узёў скепку, палажыў, каб яна пярапаўзла цяраз ямку. А Гаўрыла прачнуўся ды кажа, што хадзіў па мастох. Дык ета яго душа была. *В. Старына.*

**Душна,** *прс.*—душно. Сягоньня душна. *В. Старына.*

**Душнік,** á, *м.*—отверстие для прохода воздуха, вентилятор. У капцы ашчэ трэба зрабіць душнік. *В. Старына.*

**Душыцца,** *дзс.* — 1) сильно кричать, орать. Чаго ты душысься на ўсё горла! — 2) ссориться. Сядзяць у хаця ды душацца цэлы дзень. — 3) много работать. Аж душацца людзі за етаю работаю— і ўсё ім мала! *В. Старына.*

**Душыць,** *дзс.* — душить, давить за горло. Схапіў ды давай душыць яго за горла. Дзе цібе чэрці душаць? — ідзі ў хату! — 2) притеснять. Панэ душылі даўней людзей то паншчынаю, то атработам. *В. Старына.*

**Ды,** *злуч.* — и. Паселі ды давай гаварыць. *В. Старына.*

**Дыдалем,** *прс.* — прахом. Хай яно дыдалям пойдзя! *В. Старына.*

**Дый,** *злуч.* — да и. Піў, піў дый годзя сказоў. Яму кажы, а ён ня слухая дый годзя. *В. Старына.*

**Дык (дак),** *злуч.* — так. Ну дык што скажаш на ета? Дак як-жа яно будзя? Як пашлі, дак пашлі, дый зайшлі ў самы гушчэр. *В. Старына.*

**Дылда,** ы, *аг.* — высокорослый, глуповатый. От дзе выросла дылда дурная! *В. Старына.*

**Дылёўка,** і **дыля,** і, *ж.* — толстая доска в 3 дм. и больше. Нарэзалі на вокна дылёвак. *В. Старына.* С аднае калоды вышла чатыры добрыя дылі. *С. Дукора, Сьміл. р.*

**Дымець,** *дзс.* — порошить. Ат, трэха дыміць сьняжок. *В. Старына.*

**Дыхавіца,** ы, *ж.* — одышка. Рабіў, рабіў, пакуль дыхавіцы сабе ня нагноў. Нагноў каню дыхавіцу. *В. Старына.*

**Дыхаць,** *дзс.* — дышать. Чуць дыхая чалавек. *В. Старына.*

**Дыхляк,** à, *м.*—бранное на слабосильного мужчину, парня. Дыхляк ты, ня с тваею сілаю тут управіцца! *В. Старына.*

**Дыхляціна,** ы, *ж.* — мясо павшего животного. Купіў нейкаі дыхляціны, ды хоча, каб усе елі. *В. Старына.*

**Дыхта,** ы, *ж.*— фанера. Наклеілі паперу на дыхту. *В. Скрыль, Пух. р.*

**Дыхту даць (задаць)** — сильно дасадить или напугать. Задам табе такога дыхту, што й духе с цібе выпра! Доў яму добрага дыхту, будзя помніць! *В. Старына.*

**Дышаль,** дышалю, *м.*—дышло. У плузя атагнуўся дышаль. Кола бяз дышалю. *В. Харавічы, Сьміл. р.*

**Д'ябал,** бла, *м.* — дьявол, сатана. От д'ябал нейкі, што ён вырабляя! А д'яблі яго ведаюць, што з ім рабіць. *В. Старына.*

# Е Ё.

**Ё,** ёсь, *ёсьцека, ёсьць,* ест, *дзс. дапам.* — есть. Што ё, то ўсё добра. *В. Старына.* Добра, у каго ёсь грошы. *В. Забалоцьце, Сьміл. р.* Хоць і ёсьцяка, але ня дам табе. Ёсьць ведама, што так і трэба. *В. Старына.* Вынюхай, што там у іх ест. *М. Сьмілавічы, Сьміл. р.*

**Едкі,** *прм.*—с аппетитом ядущийся. Ета сена едкая, ня падумай ты таго. *В. Старына.*

**Ежджаны,** *прм.*—сани, телега, возок, бывшие в употреблении. Ня варта купляць ежджаных драбінак. *В. Старына.*

**Ез,** а, *м.*—перегородка на реке из лозовых прутьев в виде плетня, чтобы задерживать рыбу для ловли. Мы зрабілі два язы. *С. Амельна; Пух. р.*

**Ёкаць,** *дзс.*—икать. Як моцна ёкаяш ты. Ёкнаў аж я йспужоўся. *В. Раўнапольле, Сьміл. р.*

**Елачка,** і, *ж.*,—1) уменьш. от *Елка.* Сьсек елачку комін выціраць.—2) полевой хвощ (Equisetum arvense L.) У жнеўніку шмат елачкі. *В. Старына.*

**Елка,** і, *ж.*—ель (Picea excelsa L.) С аднае елкі вышла колода таўшчэразная і два бярвіны добрых. Пад елку трэба схавацца ад дажджу. *В. Старына.*

**Ёлкі,** *прм.*—пригорьклый, горьковатый. Сала ёлкая, аж нельга есьці. Ёлкі здор. Ёлкая масла. *В. Старына.*

**Ёлуп,** а, *м.* (*польск* jołop)—остолоп, олух. Ета толька такі дурны. ёлуп, ік ты, так зробіць. *В. Раўнапольле, Сьміл. р.*

**Ёмка,** *прс.*—1) проворно, скоро. Хоць стары конь, але ашчэ ёмка бяжыць—2) удобно. Во, етак ёмка сядзець. *В. Старына.*

**Ёмкі,** *прм.*—проворный. Хлопяц вельма ёмкі. Наш стары ашчэ ёмак. *В. Старына.*

**Енк,** у, *м.* (*польск.* jęk)—вопль. Вот у хаця енк—аж із вуліцы чуць! *С. Дукора, Сьміл. р.*

**Енчыць,** *дзс.* — 1) вопить, сильно кричать. Баба ўсё нешта енчыць жыватом. Енчыць, аж пярарываяцца.—2) усиленно, с плачем даже, просить. Енчыць—дай сала. *В. Старына.*

**Есьці,** ем, ясі, есь, ядом, ясьцé, ядуць, *дзс*—есть. Есьці ўжо пара. Есьць, ік ня ў сібе. Ядом крышанэ з расолам. Мала ты ясі, чалавеча,—трэба боляй! Чаму вы ня ясьцè свае капусты? Ешця боляй, ня саромяйцяся! *В. Старына.* Кот у кутку нешта есь сабе ціхінька. *В. Раўнапольле, Сьміл. р.*

**Есьціся,** *дзс.* — грызтись, постоянно ссориться. А мой (жонка жаліцца на мужыка) дык бяспярастаньня есца ды есца. Сьпярша жылі добра, а патом і пачалі есьціся адно з другім. *В. Старына.*

**Етак,** *прс.* — этак, так. Етак і я зраблю. *В. Старына.*

**Етакі,** *прм.* = літ. **гэтакі** — этакий, такой. Етакая й наша картопля дробная. Падумаяш, етакі-то разумны! *В. Старына.*

**Етачкі,** *прм.*—ласк. **етакі.** Во етачкі во кавалачак узёў — ні боляй. *В. Старына.*

**Етулька,** *прс.*—столько. Ета трэба етулька дабра напсаваць?! *В. Старына.*

**Еты,** *займ.*=літ. **гэты** — этот. Еты Дзянісок варт нечаму. Ета наша хата. *В. Старына.*

**Ёўня,** і, *ж.*—1) овин. Кузьма пашоў ёўню цепліць.—2) мера снопов

для сушки их в овине и молотьбы (около 3 коп). В натоящее время с введением молотилок **ёўні** выводятся; имеется на деревне около десятка овинов для сушки льна. Насадзілі ёўню лёну. Змалацілі ёўню жыта. *В. Старына.*

**Ёцка**, і, *аг. (пам.* **ёцачка***)*—малый поросеночок. Ёцкі, ёцкі, ёцкі! Якоя маленькая ёцачка! *В. Старына.*

## Ж.

**Жа, ж** — же, вспомогательная усилительная частица. Ік пачоў-жа ён яго лупцаваць! Вот-жа які ты! Я-ж тут, браця, ня пры чом! *В. Старына.*

**Жаба,** ы, *ж.* — 1) лягушка. Ужо жабы закракталі: будзя вясна.—2) ангина и стоматиты—заболевания полости рта и зева. Первое заболевание называется **„жаба сухая“,** а второе—**„жаба мокрая“.** Лечатся заговорами:

„Жабку замаўляю,
Із рота выганяю:
Урочную, сугаворную,
Падумную і падзіўную“. *С. Навасёлкі, Пух. р.*—3) болезнь горла у коров. Наша карова захварэла на жабу. *В. Старына.*—4) употребляется, как бранное. Жаба ты аблезлая, куды ты прэсься?! *В. Старына.*

**Жабіны начоўкі (начовачкі), палаячкі,**—известковая двухстворчатая раковина речной перловицы. Дзеці на сынажаці назьбіралі жабіных начовачак. Гуляя з жабінамі палаячкамі. *В. Старына.*

**Жабіцца,** *дзс.* — о слоях дерева,—трескаться и вследствие этого размякчаться. Стала жабіцца дуга. *В. Старына.*

**Жабраваць,** *дзс.* — нищенствовать. Зьбяднеў чалавек, дык і пашоў жабраваць. *В. Старына.*

**Жабурыньне,** я, *н. зб.*—лягушачья икра. На балоццы плавая жабурыньня. Памыў ногі жабурыньням, каб былі белыя. *В. Старына.*

**Жабуцька,** і, *ж.,* **жабянё,** яці, *н.*—лягушонок, бран. на детей. Кабжа хлопяц, ато жабуцька ашчэ... Вот дзе жабянё праціўная! *В. Старына.*

**Жаваранак,** нка, *м.*—жаворонок. Ужо пяе жаваранак — з выраю прылёцяў. *В. Старына.*

**Жадзён** *(чему), скар. прм.*— жадный к чему, сильно нуждающийся. Гаруя чалавек: жадзён куску хлеба. Ня жадны мы ні салу, ні малаку. *В. Старына.*

**Жадны,** *прм.* — 1) жадный по натуре. Як жадны наш Майсей, дык такога чалавека, мусіць, і на сьвеця німа.—2) ни один (при отрицании). Ані жаднаі капейкі німа. *В. Старына.*

**Жакетка,** і, *ж.* — жакетка. Міхась хварсіць у новуй жакецца. *В. Старына.*

**Жаласна,** *прс.* — жалостно. Маладзіца так-жа плача жаласна!... *В. Старына.*

**Жаласьлівы,** *прм.* — сердобольный. Які ты жаласьлівы, братка; шкадуяш гультая етага! *В. Старына.*

**Жаласьць,** і, *ж.* — жалость, сожаление. Ня мая чалавек еты жаласьці ані каплі. *В. Старына.*

**Жалезьнік,** а, *м.*—чугунный горшок. Зварылі железьнік бульбы. *В. Дукарка, Сьміл. р. (Пр.* **Зялезьнік).**

**Жаліцца,** *дзс.* — жаловаться. Жаляцца людзі, што цяжка жыць. *В. Старына.*

**Жалкаваць,** *дзс.* — сожалеть. А, німа чаго ўжо вельма жалкаваць: ці такоя ашчэ бывая гора! *В. Старына.*

**Жалоба,** ы, *ж.*— траур. У Васілёвых жалоба: яны ня пусьцяць гуляць. *В. Старына.*

**Жалобны,** *прм.* — траурный, заупокойный. Нашы сягоньня пашлі на жалобнаю абедню. *В. Старына.*

**Жаль,** ю, *м.* — жалость Такі-ж жаль абгарнуў яе, што ня ўцерпіла ма-

ладзіца ды заплакала. *В. Старына.*

**Жалязка,** а, *м.* — утюг. Распалі мне жалязка гладзіць. *В. Бор, Сьміл. р.*

**Жалязьняк,** à, *м.* — железная лопата. Жалязьняком пакапалі глыбокую яму. *В. Жораўкі, Сьміл. р.* (*Пр.* **Зелязьняк**).

**Жандар,** а, *м.* — жандарм. Жандары прыяжджалі лавіць бунтаўшчыкоў. *В. Старына.*

**Жаніх,** à, *м.* (*пам.* **жанішок**) — жених. У дзеўкі аж два жаніхе. Бачыш, які жанішок! *В. Старына.*

**Жаніць,-цца,** *дзс.* — женить,-ться. Жаніся, пакуль дурні ня зьвяліся. *Прык. В. Загай, Пух. р.* Жаню сына. *В. Старына.*

**Жанкі,** жанòк, *мн.* — женщины. На сход сабрàліся жанкі. *В. Клятное, Пух. р.*

**Жаноцкі, жаночы,** *прм.* — женский, относящийся к замужним женщинам. Пастуху далі жаноцкаю сьвіту. *В. Старына.* Мар'я (дзеўка) надзела жаночаю катанку. *В. Лешніца, Сьміл. р.*

**Жанчына,** ы, *ж.* — женщина. Адна жанчына ў гаспадарца нічога ня зробіць. *В. Старына.*

**Жар,** у, *м.* — горящие угли. У печы шмат жару. *В. Старына.*

**Жарабё,** яці, *н.* — жеребенок. Жарабё ашчэ йсьсе матку. Напісана: кабыла лысая, жарабё рабоя—паеў воўк абоя. *Жарт. В. Старына.*

**Жарабіцца,** *дзс.* — жеребиться. Кабыла будзя скора жарабіцца. *В. Старына.*

**Жарабок,** бкà, *м.* — жеребец. Купілі дарагога жарабка *В. Старына.*

**Жардзіна,** ы, *ж.* — *гл.* **Жэрдка.** Нехта адну жардзіну выцяг іс плоту. *В. Старына.*

**Жарнуць,-цца,** *дзс.* — сильно ударить,-ться. Жарнаў яму ў морду. Жарнаўсі галавою, аж іскры пасыпаліся. Собіла яму етак жарнуццы галавою! *В. Крамяні, Пух. р.*

**Жаробка,** і, *ж.* — жеребица. Будам гадаваць самі жаробку. *В. Старына.*

**Жарства,** ы, *ж.* — крупный песок, гравий. Хлеб трашчыць, ік жарства. *В. Старына.*

**Жартаваць,** *дзс.* — шутить. У гурці добра жартаваць. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Жартаўнік,** à, *м.* — шутник. Ой які-ж жартаўнік ты, як насьмяшыў міне! *В. Старына.*

**Жартачкі,** аў, *мн.* — шуточки. Жартачкі, етулька грошай выдаць на глупства! *В. Старына.*

**Жартоўны,** *прм.* — шутливый. Жартоўны чалавек наш дзядзька. *В. Скрыль, Пух. р.*

**Жарты,** аў *мн.* — шутки. Добрыя твае жарты — біць дзіця пó галавя! Ета жарты; так выпсаваць гэблік! *В. Старына.*

**Жарыць,** *дзс.* — 1) быстро итти. Хвадзей некуды жарыць на кані.— 2) сильно колотить, бить. Ік стоў жарыць малатком па дошца, аж пакалолася. *В. Старына.*

**Жарэбная** (*кабыла*), — жеребная кобыла. Твая, мусіць, жарэбная кабыла—тоўстая. *В. Старына.*

**Жаўна,** ы, *ж.* — зелёный дятел, жовна (Picus). На дрэвя сядзела жаўна. *В. Клятное, Пух. р.*

**Жаўтапёс, жаўтёпасак,** ску, *м.*—песчаная почва, по верху которой, один желтый песок. Нічога на том жаўтапёся ня ўрадзіла. *В. Старына.* На прызбу насыпалі жаўтапёску. *В. Вострава, Сьміл. р.*

**Жаўток,** ткà, *м.*—желток. У яйцы ё бялок і жаўток. *В. Старына.*

**Жаўтуха,** і, *ж.*—желтуха (болезнь).

„Над гарою, над крутою стаіць ракіта,
Пад ракітаю ходзіць дзяўчына
І жаўтухі ў Марціна выгаварвая"...

*З загавору. С. Навасёлкі, Пухар.*

**Жаўтушка,** і, *ж.* — птица иволга. Злавіў жаўтушку. *В. Старына.*

**Жах,** у, *м.*—ужас. З вялікага жаху проста ўмлеў чалавек. *В. Старына.*

**Жахацца,** *дзс.* (*зак.* **жахнуцца**)— ужасаться, страшиться. Вада халодная, аж дзіця жахаяцца. Дзіця ў вадзе жахнулася ды захварэла. *В. Старына.*

**Жахаць,** *дзс. (зак.* **жахнуць)**—сильно и быстро рубить, колотить, а также и бить. Жахая тапаром па калодзя—і рады ня дасьць. Ік жахнаў у вуха, дык аж пяракруціўся! *В. Старына.*

**Жбан,** а, *м.,* **жбанок,** нка́, *м.*—кувшин с ручкой. Да пары жбан ваду носіць, як атарвецца, дык паб'ецца. *Прык. С. Навасёлкі, Пух. р.* Выпілі жбанок квасу. *В. Старына.*

**Жбаночак,** чка, *м.*—1) пам. ад **жбан, жбанок.** Сабрала жбаночак сьмятаны. *В. Старына.*—2) цветок колокольчик (Campanula patula L.) На гумне парасьлі вялікія жбаночкі. *В. Забалоцьце, Сьміл. р.*

**Жвавы, жвалы,** *прм.*—проворный, живой. Вельма ты жвавы, ня будзь такі! *В. Слопішча, Шацк. р.* Марынка — жвалая кабета: усё добра зробіць. Добры конік: жвалянькі. *В. Старына.*

**Жвайка, жвака,** і, *ж.*—жвачка. Карова жуе жвайку. *В. Жораўкі, Сьміл. р.* Карова згубіла сваю жваку. *В. Матарова, Сьміл. р.*

**Жваць,** *дзс.*—жевать. Жве ён, як ня сваім ротам. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Жгур,** а, *м.*—подвязка из кусочка материи, а также сплетенные из ниток и пришитые к „лясёнца" и „спадніцы" концы для завязки. Трэба падвязаць панчохі жгурамі. У спадніцы доўгія жгурэ. Ат лясёнкі па'трываліся жгурэ. *В. Старына.*

**Жлукта,** ы, *ж.*—1) кадка на трёх ножках (высот. до 1/2 арш.) для выпаривания белья. Наліў цэлаю жлукту вады й плацьця ня ўлезя.—2) употребляется также в насмешку над жадным в еде. Вот дзе жлукта: ўсю капусту паеў. *В. Старына.*

**Жлукціць,** *дзс.* — 1) выпаривать белье. Занасілася плацьця: прыдзецца яго жлукціць.—2) в переносн. знач.—с жадностью есть. О дзе жлукціць: зараз цэлаю міску йзьзесьць. *В. Старына.*

**Жменя,** і, *ж. (пам.* **жменька)**—горсть. Пасып курам жмені са дзьве ячменю. Дастала ў людзей жменьку круп. *В. Старына.*

**Жмурыцца,** *дзс.* — жмуриться. Ня добра усё жмурыцца. Жмурыцца, ік кот. *В. Старына.*

**Жмук, жмут,** а, *м.*—1) пук, клок (волос). Ік тузянуў, дык цэлы жмук валасоў вырваў. *В. Старына.*—2) связок. Назьбіроў жмук ануч. *В. Старына.* Цэлы жмут адзежы ляжыць. *В. Голацак, Сьміл. р.*

**Жнеўнік,** у, *м.*—ржаное поле. Статак ходзіць па жнеўніку. *В. Старына.*

**Жніво,** а̀, *н.*—жатва. Сяголята рана пачалося жніво. *В. Старына.* Хто ў жніво халадку шукая, той галадая. *Прык. Х. Самін, Пух. р.*

**Жняя,** і, *ж.* (*пам.* **жнейка**)—жница. На авёс прынанёў тры жняі. Матруна—добрая жняя. *В. Старына.* Дзе араты, плача, там жнейка скача. *Прык. В. Дукарка, Сьміл. р.*

**Жогла,** ы, *аг.*—плут. Ах, жогла, хацеў абдурыць міне! *В. Старына.*

**Жолуд,** а, *м.*—желудь. З дуба асыпаюцца жалудэ. *В. Старына.*

**Жонка,** і, *ж.* (*мн.* **жонкі**)—жена. Які мужык, такая й жонка. *Прык.* На вуліцу павыходзілі ўсе жонкі. *В. Старына.*

**Жончын,** *прм.* — женин, принадлежащий жене. Жончын кажух, Жончына хуста. *В. Старына.*

**Жораст,** у, *м.* — *гл.* **Жарства.** Навазілі жорасту, каб падмуроўку ў ў хаця рабіць. *В. Старына.*

**Жорны,** аў, *мн.*—жернова. Даўней самі крупы рабілі на жорны. *В. Старына.*

**Жоўкнуць,** *дзс.* — желтеть. Нешта жоўкнуць нашы агурке. *В. Старына.*

**Жоўтыя краскі,**—*гл.* **Курыная сьлепата** (Ranunculus acer L.). Ік ё жоўтыя краскі, дык і масла будзя жоўтая. *В. Старына.*

**Жоўць,** і, *ж.*—желчь. У парасюка была вялікая жоўць. *В. Старына.*

**Жраць,** *дзс.*— жрать. Жаруць ды жаруць цэлы дзень—і дзе яно ў іх дзяецца? Жарэ, аж нос гнецца, за вушамі трашчыць. *В. Старына.*

**Жудасна**, *прс.*—жутко. Аднаму не'к жудасна начаваць у гумне. *В. Старына.*

**Жужма**, ы, *ж.*—кипа. Купілі жужму паперы. *С. Дукора, Сьміл. р.*

**Жужмець**, *дзс.* — о реке, — быстро бежать с шумом и пеной. Рака жужміць. *В. Жораўкі, Сьміл. р.*

**Жу(ы)ковіна**, ы, *ж.*—перстень. Сам выліў із волава жуковіну. *В. Старына.* Хлопцы садралі ў дзеўкі жыковіну. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Жулік**, а, *м.*—жулик. Вялікі с цібе жулік. *В. Старына.*

**Жур**, у, *м.* (*пам.* **журачок**)—редкий горячий кисель. Цэлаю міску навадзілі журу. Пасьнедалі журачку. *В. Старына.*

**Жура**, ы, *ж.* — кушанье, приготовленное из сырой воды, окрошек хлеба, постного масла и соли. На полудзянь нарабілі журы. *В. Старына.*

**Журавіна**, ы, *ж.* (*пам.* **журавінка**)—ягода клюква (Vaccinium Oxycoccus L). Дзёўкі пашлі ў журавіны. Ягада журавінка. *В. Старына.*

**Жураўёў**, *прм.*—журавлиный. Нашоў жураўёва гняздо. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Жураць**, *дзс.*—пригарывать, обугливаться и чернеть. Ат печы будзя жураць сьцяна. Журая анучa, лежачы на чарэні. *В. Старына.*

**Журлівы**, *прм.* —любящий „журыць". Журлівая мая сьвякруха. *В. Старына.*

**Журыцца**, *дзс.*—грустить. Даволяй табе ўжо журыцца. *В. Старына.*

**Журыць**, *дзс.*—слегка бранить, выговаривать, усовещивать. Жўрыць міне сьвёкар як дзень, так ноч. *В. Старына.*

**Жывасіл**, у *м.*—*гл.* **Дзівясіл** (Inula helenum L). Маці насушыла пук жывасілу. *В. Клятное, Пух. р.*

**Жывасол**, у, *м.*—сок из просоленных мясных и сальных продуктов. У саля шмат жывасолу. *В. Старына.*

**Жывенькі**, *прм.* (*скар.* **жывенек**)—живёхонек. Дарма, будзяш жывеняк, жывенькі. *В. Старына.*

**Жывец**, жыўца, *м.*—прицепленная на крючок живая рыбка для приманки другой рыбы. Налавіў шмат рыбы на жыўца. *В. Лядцо, Пух. р.*

**Жывіца**, ы, *ж.*—1) полоска из маловыдубленной кожи; просмоленная веревочка. Добраю ссукоў жывіцу. Каб дзе напасьці кавалачак жывіцы на хамут.—2) смола. З елкі цячэ жывіца. —3) сапожная смола, сваренная с жиром и воском. Добра натры дратву жывіцаю *В. Старына.*

**Жывот**, ватà, *м.* — живот. Баба захварэла на жывот. *В. Старына.*

**Жывушчы**, *прм.*—живучий. Жывушчы, ік кот. *В. Старына.*

**Жыдзейшы**, *прм. пр. ст.*—более жидкий. У міся крупнік жыдзейшы, ік у гаршку. *В. Старына.*

**Жыдок**, дкà, *м.*—синичка (птичка). Улетку рэдка ўбачыш жыдка. *В. Скрыль, Пух. р.*

**Жыжа**, ы, *ж.*—1) редкий, жидкий навоз. У каго жыжа цячэ з двара, у таго дурная галава. *Прык. В. Забалоцьце, Сьміл. р.*—2) детск. слово: огонь и вообще все горячее. Ня бяры етага, дзіцятка,—ета жыжа, пальчыкі апячэш. *В. Старына.*

**Жыжка, жычка**, і, *ж.*—1) ленточка красного или зеленого цвета, повязываемая на воротник рубахи. Пачапіў на шыю жыжку. Прывязоў к каўняру жычку.—2) жижа. Зьлей з булёну жыжку, ато вельма рэдкі. *В. Старына.*

**Жыковіна**, ы, *ж*—*гл.* **Жуковіна.**

**Жыла**, ы, *ж.* (*пам.* **жылка**)—1) жила в теле. Із жылы цячэ кроў.—2) подземный ручеёк. С-пад карча цячэ жыла. *В. Жораўкі, Сьміл. р.* —3) скупой. Ну й жыла еты Антон: ніколі табе нічога ня дасьць. *В. Старына.*

**Жыраваньне**, я, *н.*—кормление. Гусі пашлі на жыраваньне. *В. Старына.*

**Жыраваць**, *дзс.*—кормиться. Куры сабе жыруюць на'гародзе. *В. Старына.*

**Жытні,** *прм.*—ржаной. Ісьпяклі жытні хлеб. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Жытніца,** ы, *ж.*—ржаная салома. Салома жытніца траўлівая. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Жытнішча,** а, *н.*—поле, бывшее под рожью. На жытнішчы пакідалі картоплю. *В. Старына.*

**Жыўнасьць,** і, *ж.* 1)—питание, корм. Пылянятам на дварэ німа ніякаі жыўнасьці.—2) питательность. Яда ета слабая: німа ў ёй ніякаі жыўнасьці. *В. Старына.*

**Жыўцом,** *прс.* —жывьем. Хоць ты жыўцом лезь у магілу: так прыпякло ета жыцьця. *В. Старына.*

**Жыцік,** а, *м.*—плевел оп'яняющий (Lolium temulentum L). У выльне адзін жыцік. *В. Старына.*

**Жыць,** *дзс. (безас. дзс.* **жывецца)**—жить. Трэба так жыць, як набяжыць. *Прык. В. Забалоцьце, Сьміл. р.* Жыве, ік кот с сабакам. Ат, жывом памаленьку. А чым яму кепска жывецца: хлеба німа ці што? *В. Старына.*

**Жыцьце,** я, *н.*—жизнь, житьё. Жыцьця маё—адно гора. *В. Старына.*

**Жэбры,** аў, *мн.*—жабры. Рыба дыхая праз жэбры. *В. Старына.*

**Жэгчы,** *дзс.*—жечь, перепаливать. Дакуль ты будзяш маё нутро жэгчы? *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Жэмяць,** і, *ж.*—мелкота, применяется к малым детям. Набок, жэмяць! *В. Крамяні, Пух. р.*

**Жэрабе,** я, *н.*—жребий. Аляксандра выцягнаў вялікая жэрабя. *В. Старына.*

**Жэрдзе,** я, *н. зб.* — жерди. Мужчыны паехалі па жэрдзя. *В. Старына.*

**Жэрдка,** і, *ж.*—жердь. На плот ашчэ трэба дзьве жэрдкі. *В. Старына.* (*Пр.* **Жардзіна**).

**Жэўжык,** а, *м.*—резвый мальчуган. Ах, жэўжык еты! як ён ўмея падражнявацца с старымі! *В. Старына.*

## З.

**За,** *прыйм.*—1) в значении „во время“ За Мікалаям (царом) ета было. За паншчынаю было. Ашчэ за маей памяцьцю рабілі паншчыну.—2) в значении предл. „в“. У гаспадарца ўсё йдзе за парадкам. *В. Старына.*

**Забабоны,** наў, *мн.*—предрассудки, суеверия. Ета ўсё бабскія забабоны. Слухай ты бабскіх забабонаў! *В. Старына.*

**Забавіцца,** *дзс.*—задержаться. Пашоў па дзелу ды троха забавіўся. *В. Старына.*

**Забажыцца,** *дзс.*—начать усиленно божиться для отрицания чего. І забажыўся, і замаліўся, што нічога ня ведая. *В. Старына.*

**Забаранаваць,** *дзс.*—заборонить. Забаранавоў ячменю ганьке. *В. Старына.*

**Забараняць,** *дзс. (зак.* **забараніць,** *прм.* **забаронены**)— запрещать. Рабі, што хочаш, ніхто табе ня забараняя. Забаранілі на атавя пасьціць. Сяголята Глушня (урочище сенокоса) забароняна. *В. Старына.*

**Забарсаць,** *дзс.*—продеть „абору“ в ушки лаптя. Ня ўмеяш ты забарсаць лапця. *В. Старына.*

**Забарсьні,** ней, *мн.*—перекрестная завязка „абор“ на ступне. Зашмаргай забарсьні. *В. Белае, Пух. р.*

**Забаўляць,-цца,** *дзс.* (*зак.* **забавіць,-цца)** — развлекать,-ться; занимать,-ться. Забаўляй-жа, хай ня плача дзіця. Забаўляяцца з дзецьмі, ік малы ўсядно. Каб дзіця чым забавіць, дык яно ня плакала-б. Во няхай забавіцца, пагуляя. *В. Старына.*

**Забачыць,** *дзс.*—посмотреть. Йдзі забач, што тут робіцца. *В. Старына.*

**Забіваць,-цца,** *дзс.* (*зак.* **забіць,-цца**)—1) убивать кого. Біця, колька ўлезя етаму гаду, толька на сьмерць ня забівайця. Забіўся чалавек на сьмерць.—2) вколачивать. Забіў у сьцяну цьвіх. *В. Старына.*

**Забіцца,** *дзс.*—запрятаться. Во аж куды ён забіўся, думая,—й ніхто ня знойдзя. *В. Старына.*

**За блізкі сьвет**—в большую даль. Ніхто ня пойдзя туды, за блізкі сьвет. *В. Старына.*

**Заблiскаць,** *дзс.*—заблестеть. Заблiскала маланка. *В. Старына.*

**Заблішчаць,** *дзс.*—заблестеть, от освещения другим источником света. Заблішчала шклянка на сонцы. *В. Старына.*

**Заблутаць,-цца,** *дзс.* — 1) запутать, -ться. І трэба-ж яму (каню) так заблутацца ў вяроўку! Заблутаў канец у нітках і ня найці. —2) замотать дыру. Заблутай кашэль, ато бульба сыпляцца. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Забляхаваць,** *дзс.* —заплатать дыру „бляхаю"—жестью. Трэба забляхаваць троха крышу, а то працеквая. *В. Лядцо, Пух. р.*

**Забора,** ы, *ж.* (*пам.* **заборка**)—складка в платье, обуви. Спадніца з заборамі. У сароцца ў заборах толька адны вошы. Пашыў боты на заборках. *В. Старына.*

**Забубніць,** *дзс.*—1) забарабанить. Нехта забубніў у вакно.—2) громко заговорить. Кацярына забубніла на ўсю хату. *В. Старына.*

**Забудаваць,-цца,** *дзс.* (*прм.* **забудованы**)—застроить. Якуба вызабудавалі ўвесь пляц. Ён добра забудавоўся: паставіў новы ток і пуню. У іх усё гумно забудована. *В. Старына.*

**Забыцца,** *дзс.*—забыть. Забыўся падзякаваць. *В. Старына.*

**Забяліць,** *дзс.* (*прм.* **забелены**)—приправить кушанье молоком или сметаною. Забялілі крупнік. Ядуць забелянаю зацірку. *В. Старына.*

**Завада,** ы, *ж.*—недоразумение, волокита. Атразу трэба добра ўгаварыцца, каб посьля ня было завады. *С. Дукора, Сьміл. р.*

**Заважыць,** *дзс.*—стать весить. Адзін мех заважыў пяць пудоў. *В. Старына.*

**Завала,** ы, *ж.*—1) задвижка для ключа. Завалаю завалілі хату. *В. Вострава, Сьміл. р.*—2) в перен. см.—лентяй. От дзе завала халерная, ляжыць цэлы дзень, нічога ня робіць! *В. Старына.*

**Завалакчы,** *дзс.*—затащить. Аж куды яны завалаклі бярвіно, аднаму-б ня завалакчы яго. *В. Старына.*

**Завалаць,** *дзс.*—затащить кого насильно. Ік бачыш, завалалі яго ў паліцу. *В. Старына.*

**Завалка,** і, *ж.*—*гл.* **Завала,** 1. У сенцы зрабілі новаю завалку. *В. Старына.*

**Завальваць,-цца,** *дзс.* (*зак.* **завaліць,-цца,** *прм.* **завалены**)—замыкать посредством задвижки, засова. На што на дзень завальваць сенцы? Абы сьцямнела, дык яны завальваюцца ды лажацца спаць. Ня забудзься, завалі сенцы. Ток заваляны. *В. Старына.*

**Заварацень,** тня, *м.*—*гл.* **Заверацень.** У санях трэба зьмяніць старыя заваратні, ато яшчэ дзе ў дарозя аглоблі па'трываюцца. *В. Дайнава, Пух. р.*

**Заварушыцца,** *дзс.* — зашевелиться. Дзіця заварушылася ды скінулася з лаўкі. *В. Старына.*

**Завеньдзіць,** *дзс.* (*польск.* zawędzić)—закоптить. Дымам завеньдзілі хату. *В. Старына.*

**Заверацень,** тня, *м.*, **заверцень,** ценя, *м.*—завертка из ивовых прутьев или куска веревки для прикрепления оглобли к саням. Едучы з лесу парвоўся завярацянь. *В. Харавічы, Сьміл. р.* Адзін завярцянь чуць ліпіць: добра што хоць дамоў прыехаў. *В. Старына.*

**Завесы,** саў, *мн.*—петли у дверей. Купілі завесы на дзьверы. *В. Старына.*

**Завея,** і, *ж.*—вьюга. Такая завея, аж сьвету ня відаць. *В. Старына.*

**Завівальніца,** ы, *ж.*—женщина, завивающая волосы невесте при одевании ее к венцу. Дзе-ж наша завівальніца, хай ідзе завіваць маладую? *В. Старына.*

**Завідна,** *прм.* — засветло. Завідна ашчэ дамоў прыехалі. *В. Старына.*

**Завінуцца,** *дзс.* — 1) старательно приняться за работу. Ік завінуліся, дык ік відзіш кончылі рабо-

ту.—2) наброситься на кого с бранью. А ён ні с сяго, ні с таго й завінуўся на яе. *В. Старына.*

**Завіруха**, і, *ж.*—1) сильная вьюга. Вот расхадзілася завіруха!—2) суматоха. Такую завіруху паднялі, што бяда! *В. Старына.*

**Завірыч**, а, *м.*—инструмент для натягивания обручей. Німа завірыча, чым нацягнуць абручэ. *В. Харавічы, Сьміл. р.*

**Завіхацца**, *дзс.*—стараться, усердствовать в работе. Робіць, завіхаяцца, аж пот леяцца. *В. Старына.*

**Завіхнуцца**, *дзс.*—намериться ударить. Ужо й завіхнуўся—чуць, чуць ня разануў. *В. Старына.*

**Завод**, у, *м.*—племя, порода (о животных). Каб дзе дастаць парасё на гадоўлю добрага заводу. *В. Старына.*

**Заводзіцца**, *дзс.* (*зак.* **завесьціся**)—вступать в драку. Абы што, дык і заводзіцца з людзьмі біцца. Мужчыны за неваштa завяліся: зараз будзя бойка. *В. Старына.*

**Заводзіць маладую на пасад**,—свадебный обряд, заключающийся в следующем: на „заручынах“ перед от‘ездом к венчанью „маладая“ становится одной ногой на крышке „дежи“ с зерном ржи и кланяется иконам в углу, потом всем родным и присутствующим в избе; после этого „дружко“ говорит три раза: „Родныя бацька й маці і ўсе добрыя людзі, блаславіця маладую на пасад заводзіць!“—„Бог бласловіць!“ отвечают все три раза. Дальше „дружко“ даёт „маладой“ в руки платочек и обводит её вокруг стола три раза; „маладая“ обыкновенно „галосіць“, Вельма-ж галасіла Матруна, 'к яе заводзілі на пасад. *В. Старына.*

**Заводны**, *прм.*—племенной, породистый (о животном). У дварэ ўсе каровы заводныя. *В. Старына.*

**Завоз**, у, *м.*—большая очередь приехавших с возами. У млыня вялікі завоз: мусіць сягоньня й ня памялю. *В. Старына.*

**Завозна**, *прс.*—тоже, что и „завоз“. Ого, у кузьні завозна! каб хаця дапаўдня патачыць сярпэ. *В. Старына.*

**Завойкаць**, *дзс.*—заойкать. Завойкаў, што ў баку баліць. *В. Старына.*

**Заворваць**, *дзс.*—запахивать; начинать пахать. Пайду сягоньня заворваць. *В. Старына.* А я буду ў сяраду заворуваць. *В. Бор. Сьміл. р.*

**Завочна**, *прс.*—за глаза. Хвэльчар доў лякарства завочна. *В. Старына.*

**Завошта-ж**,—за что-же. Завошта-ж яны пасварыліся?—Ні завошта. *В. Старына.*

**Завушніца**, ы, *ж.*—серьга. Тацяна пакалола вушы зацягваць завушніцы. *В. Старына.*

**Завэдзгаць,-цца**, *дзс.* (*прм.* **завэдзганы**) — запачкать, - ться. Умудрыўся завэдзгаць етак шапку. Стол завэдзганы — як-жа есьці. *В. Старына.*

**Завядзеньне**, я, *н.*—установленный порядок. У іх такоя ўжо завядзеньня. *В. Старына.*

**Завялікі**, *прм.*—немного большой. Троха завялікі кавалак будзя. *В. Старына.*

**Завярнуць**, *дзс.* (*прм.* **завернены**)—заложить чем, занять кем. Завярнулі ўсю пуню канюшынаю. Заверняна ўсё места народам. *В. Старына.*

**Завярнуць,-цца**, *дзс.* (*прм.* **завернуты**)—1) заворотить,-ться. Завярні каня назад. Цесна на дварэ, німа як і завярнуцца. Калёса завернуты назад.—2) побывать где, показаться куда. Ты ў міне боляй тут ня завернясься! *В. Старына.*

**Завяршыць**, *дзс.*—закончить метать стог сена вершиною последнего. Завяршылі стог ды пашлі дамоў. *В. Старына.*

**Загаварваць**, *дзс.* (*зак.* **загаварыць**)—унимать боль чего или течение крови, произнося заговор. Умея загаварваць ад гадзюкі, ат шалё-

нага сабакі... Балелі зубы, а ік загаварыла Агата, дык атразу й пырасталі. *В. Старына.*

**Загав*е*ць,** *дзс.* — заговеться Зоўтра трэба й нам загавець. *В. Старына.*

**Загав*е*ць** *душою* — помереть. Каб ты душою загавеў! *(Кляцьба).* Етак можна й душою загавець. *В. Старына.*

**Заг*а*дваць,** *дзс.* (*зак.* **загад*а*ць**)— приказывать. Загадоў мне тата работу. *В. Старына.*

**Загадз*е*, з*а*гадзя,** *прс.*—заблаговременно. Загадзе трэ'бала ўсё разьдзяліць, а тады ехаць браць. Трэ'бала загадзя ўсё прыгатаваць. *В. Старына.*

**Загадз*і*ць,** *дзс.*—задобрить, угодить. Загадзіў у воласьці, дык і далі лесу. *В. Старына.*

**Зага*і*ць,-цца,** *дзс.* — залечить,-ться (о ране). Чуць загаіў больку на назе. Пакуль жаніцца, усё загаіцца. *Прык. В. Старына.*

**Загалас*і*ць,** *дзс.*—громко заплакать. Ік загалосіць-жа яна, да загалосіць, аж самому шкода становіцца! *В. Старына.*

**Загаман*і*ць,** *дзс.*—шумно заговорить. Усе разам і загаманілі. *В. Старына.*

**Заганар*ы*цца,** *дзс.* — загордиться, зачваниться. Заганарыўся й гаварыць ня хоча. *В. Старына.*

**Заг*а*ніць,** *дзс.*—обесчестить. Саўсім заганілі дзеўку. *В. Старына.*

**Загарадз*і*ць,-цца,** *дзс.*—загородить, -ться. Дзяркачамі шляху ня загародзіш. *Прык. В. Белае, Пух. р.* Кругом загарадзіўся. *В. Старына.*

**З*а*гарадзь,** і, *ж.*—загороженное место для пастбища на выгоне или гумне. Упусьці цяля ў загарадзь. *В. Матарова, Сьміл. р.*

**З*а*гарадка,** і, *ж.*—1) перегородка. Трэба паправіць загарадку ў каровах. *В. Старына.*—2) жердочка для заграждения дороги. Едзя. як на сьвіньні, дажа й загарадкаў ня загародзіць. *В. Дайнава, Пух. р.*

**Загарн*у*ць,** *дзс.*—загрести. Большы брат усё загарнуў у сваe рукі. *В. Старына.*

**Загартав*а*ць,** *дзс.* (*прм.* **загартованы**)—закалить сталь. Каваль добра загартавоў тапор. Нарог ужо лішня загартованы. *В. Старына.*

**Заг*а*та,** ы, *ж.*—обкладка на зиму стен избы из купин, соломы и досок. На зіму хату аблажылі загатаю. *В. Старына.*

**З*а*гваздка,** і, *ж.* — чека. С пярэдняі восі згубілася адна загваздка. *В. Старына.*

**Загіб*е*ць,** *дзс.*—погибнуть, загибнуть. Ета-ж загібець можна ў такую мяцеліцу. *В. Старына.*

**Заг*і*нуць,** *дзс.*—пропасть. Загінаў чалавек німа ведама дзе. *В. Старына.*

**Загнесьці,** *дзс.*—задавить. Коні бягучы загнялі парасё. *В. Старына.*

**Загнюс*і*ць,** *дзс.* (*прм.* **загнюшаны**)— замарать, испортить. Нашто загнюсіў ваду? Нечым загнюшана капуста. *В. Старына.*

**Заг*о*н,** у, *м.*—пашня, ограниченная бороздами, шириною приблизительно около 3 м. Палоса аб два загоны. *В. Старына.*

**Загр*а*дка,** і, *ж.—гл.* **Заложнік.** Вірок ляжыць у заградца. *В. Старына.*

**З*а*грудкі,** *прс.*—брать за платье у груди во время драки. Сьпярша так сварыліся, а патом і загрудкі схваціліся. *В. Старына.*

**Загрукац*е*ць,** *дзс.*—застучать, загреметь в отдалении. Калёса толька загрукацелі. *В. Старына.*

**Загрукаць,** *дзс.*—застучать, загреметь сильно. Ік загрукаў гром, аж страшна. *В. Старына.*

**Загрымац*е*ць,** *дзс.*—загреметь. От гром вялікі загрымацеў! *В. Старына.*

**Загр*ы*зьці,** *дзс.*—1) загрызть. Ваўке загрызьлі кабылу.—2) забранить. Жонка сусім загрызла мужыка свайго. *В. Старына.*

**Загуб*і*ць,** *дзс.*—1) утратить. Ня ўмеў шанавацца: загубіў сваё шчасьця.—2) погубить, лишить жизни. Загубіш ты міне бяс пары, чалавеча! *В. Старына.*

**Загул*я*цца,** *дзс.* — долго гулять, проводить праздно время. Не-

шта-ж загулёўся наш хлопяц: доўга німа яго. Загулёўся сам, а работа стаіць. *В. Старына.*

**Загультаіцца**, *дзс.*—залентяйничать. Ізноў ён загультаіўся. *В. Старына.*

**Загуменьне**, я, *н.*—место за гумном. Авечкі ходзяць па загуменьні. *В. Старына.*

**Загурасьціць**, *дзс. (прм.* **загурашчаны)** — завалить. Загурасьцілі сенцы пасудкам. Загурашчана ўся хата ломам. *В. Старына.*

**Зад**, у, *м.*—задняя часть тела. У жарабка круглы зад. *В. Старына.*

**Задавацца**, *дзс.*—чваниться. Задаецца ён надта й падайці да міне ня хоча. *В. Старына.*

**Задажджыцца**, *дзс. безас.* — затянуться надолго дождливой погоде. Калі часам задажджыцца, дык прападзе сена. Мусіць, надоўга задажджылася. *В. Старына.*

**Задаражка**, і, *ж.*—доска в виде ставни для засовывания окон. Зачыні задаражкаю вакно. *В. Краняні, Пух. р.*

**Задарма**, *прс.* — совершенно дешево, почти даром. Ета-ж задàрма ты купіў карову. *В. Старына.*

**Задаць**, *дзс.* — хорошенько побить, побранить. Задоў яму добра, будзя ведаць! *В. Старына.*

**Задворак**, рку, *м.*—задняя часть двора. Сьвіньня нейдзя ходзіць на задворку. *В. Старына.*

**Задзёрысты**, *прм.*—задорливый. Які хлопяц задзёрысты! *В. Дукоршчына, Сьміл. р.*

**Задзівіцца**, *дзс.*—сильно удивиться. Аж задзіваўся чалавек. *В. Старына.*

**Задзіра**, ы, *м.*—задира. Ну й задзіра ты! *В. Старына.*

**Задзяўбці**, *дзс.*—заклевать. Курыца задзяўбла пылянё. *В. Старына.*

**Заднікі**, аў, *мн.*—зады в сапогах. У маіх ботах заднікі ашчэ крэпкія. *В. Старына.*

**Задніца**, ы, *ж.*—веревка для увязки воза, бывает обыкнов. сзади. Зьвілі новаю задніцу. *В. Дукарка, Сьміл. р.*

**Задніць**, *дзс.* — вставить дно в посуду. Трэба задніць цэбар. *В. Старына.*

**Задок**, дкà, *м.*—1) задняя часть телеги, повозки. Мех ляжыць у задку.—2) задняя часть мяса с убитого животного. Купілі цялячы задок. *В. Старына.*

**Задратаваць,-цца**, *дзс.*—засечь подковой заднюю мягкую часть копыта или ободрать кожу на ноге другим копытом. Конь задратавоў у дарозя капытэ. Конь задратавоўся. *В. Раўнапольле, Сьміл. р.*

**Задрыжаць**, *дзс.* — задрожать. Ік асіна, задрыжоў—так спужоўся. *В. Старына.*

**Задрыпа**, ы, *аг.*—мужчина или женщина замаранная, обрызганная грязью. Служ. бран. Задрыпа ты, куды лезяш! *В. Старына.*

**Задрыпаць**, *дзс. (прм.* **задрыпаны)**—обрызгать грязью. Увесь падол задрыпала. Ходзіць задрыпаная, ік авечка. *В. Старына.*

**Задрыстаць,-цца**, *дзс.* — замарать, -ться калом. Ведама п'яны, пашоў на двор ды задрыстоўся. Задрыстоў усе штанэ. *В. Старына.*

**Задрэнчыць**, *дзс. безас.*—сильно захотеться. Што табе задрэнчыла гуляць? *В. Старына.*

**Задумаць**, *дзс.*—задумать. Нешта-ж ён задумаў рабіць. *В. Старына.*

**Задушкаваць,-цца**, *дзс.* — недопустить к чему воздуха; истомиться от недостатка воздуха. Задушкавоў картоплю ў капцы, дык чыста ўся пагніла. *В. Старына.* Задушкавалася рыба каля мосту. *В. Лядцо, Пух. р.*

**Задыдніць**, *дзс.* — начать быстро удирать. Ік задыдніў—толька й бачылі яго! *В. Старына.*

**Заедна**, *прс.* — совместно, заодно. Братэ падзяліліся, але ашчэ заедна ядуць. *В. Старына.*

**Заенчыць**, *дзс.* — завопить, сильно закричать. Заенчыў жыватом. *В. Старына.*

**Заесьці**, *дзс.* — 1) заесть, загрызть. Сабакі чуць ня заелі катá.—2) досадить постоянной бранью.

Заеў ён сваю жонку. *В. Старына.*

**Заесьціся**, *дзс.*—1) в'есться во что. Вяроўка заелася, ніяк ня 'твязаць.—2) войти в сильную злобу. Ік заеўся, дык чуць ня затоўк яго. *В. Старына.*

**Заечча капуста, заеччы мак**,—раст. хлопушник (Silene inflata. Gm.). На гумне парасла заечча капуста. *В. Турэц, Сьміл. р.* Заеччага маку нарвалі ды ляскаюць. *С. Навасёлкі, Пух. р.*

**Заеччы**, *прм.*—заячий. У жыця ёсьць заеччыя котлішчы. *В. Турэц, Сьміл. р.*

**Зажалкаваць**, *дзс.*—заскучать. Зажалкавоў Сьцяпан па жонца. *В. Старына.*

**Зажарыць**, *дзс.*—сильно надоесть. Сёньня мухі добра зажарылі статку. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Зажураць**, *дзс.*—пригореть, обуглиться слегка и почернеть. Зажурала сьцяна ат печы. *В. Старына.*

**Зажынкі**, нак, *мн.*—обряд при начале жатвы: одна хозяйка с хлебом, солью и яичницею идет в поле и нажинает первый сноп ржи, который ставится в красном углу и стоит там до молотьбы. У Базылёвых сягоньня зажынкі. *В. Старына.*

**Зажыцца**, *дзс.*—обжиться. На што тая вайна: людзі троха зажыліся, стала лепяй. *В. Дайнава, Пух. р.*

**Зазіраць,-цца**, *дзс.*—засматривать, -ться. Ня зазірайся на чужых дзевак. Чаго ён усё зазірая сюды? *В. Старына.*

**Зазлаваць,-цца**, *дзс.*—рассердиться. Ік зазлуе да закрычыць! Зазлавоўся я на іх. *В. Старына.*

**Зазнаць**, *дзс.*—1) начать знать. Я яго такім і зазноў.—2) испытать. З малых лет зазноў гора. *В. Старына.*

**Зазначаць**, *дзс.* (*зак.* **зазначыць**, *прм.* **зазначаны**)—делать знак, имеющий значение границы. Зазнач, пакуль касиць. Зазнач, пакуль атрэзаць. Тут-ж было зазначана, а ён пыракасіў. *В. Старына.*

**Зазорна**, *прс.*—стыдно. Аж зазорна стала яму. *В. Старына.*

**Заімжэць**, *дзс. безас.*—заморосить (о дожде). Мусіць на цэлы дзень заімжэў дождж. Заімжылася сягоньня. *В. Старына.*

**Зайздрасьць**, і, *ж.*—зависть. То зайздрасьць—усё хоча сабе прыбраць. *В. Старына.* На ўсё чалавек мая зайздрась. *В. Матарова, Сьміл. р.*

**Зайздросна**, *прс.*—завидно. А табе мусіць самому зайздросна. *В. Старына.*

**Зайздросны**, *прм.*—завистливый. От зайздросны: ік есьць, дык кажды раз папярхнецца. *В. Старына.*

**Зайздросьнік**, а, *м.*—завистник. Вот зайздросьнік: усё ўсадзіў-ба ў сваё горла. *В. Старына.*

**Зайздросьніца**, ы, *ж.*—завистница. Думаяш, ета зайздросьніца дасьць табе што?! *В. Старына.*

**Зайка**, і, *м.*—заинька. Зайка бегая ды грэяцца. *В. Старына.*

**Займаць**, *дзс.* (*зак.* **заняць**)—1) в спец. см.—залучать животных в стадо. Займайма каровы ды ганіма дамоў.—2) безлич.,—занять речь или дыхание. А каб табе заняло: сьціхні ты! Бачыш: і заняло яму, маўчыць. Ік доў яму ў плечы грымака, дык аж духе заняло. *В. Старына.*—3) трогать. Ня займай майго,—ня тваё.—4) занимать чьё место. Я выйду на двор: глядзіця, каб ніхто ня займоў майго места. *В. Старына.*

**Займацца**, *дзс.* (*зак.* **заняцца**)—1) заниматься делом, работою. Займіцяся вы чым, ня дурэйця. Занёўся работаю, німа калі й паесьці.—2) водиться с кем, связываться. З благім чалавекам лепяй ня займайся. *В. Старына.*

**Займішча**, а, *н.*—предмет, создающий тесноту, занимающий большое место. Выкінь ты вон ета займішча. *В. Старына.*

**Заінець**, *дзс.*—заиндеветь. Заінялі дрэвы. *В. Старына.*

**Заірдзецца**, *дзс.*—закраснеться. Баба аж заірдзелася ад злосьці. *В. Старына.*

**Зайцавы**, *прм.*—заячий. На сьнягу відаць зайцавы сьлядэ. *В. Старына.*

**Зайціся**, *дзс.*—1) лишиться чувств. Дзіцянё чуць ня зайшлося ат плачу.—2) онеметь, оцепенеть. Вада халодная, аж рукі зайшліся. *В. Старына.*

**Закажанелы**, *прм.*—покрытый нечистотою, опущенный с виду. Нейкая закажанелая парасё. *В. Старына.*

**Закажанець**, *дзс.*—покрыться нечистотою, опуститься с виду. Саўсім закажанялі дзеці бяз догляду. *В. Старына.*

**Заказаць**, *дзс.*—оповестить заблаговременно. Бацюшка заказоў, каб на прачыстаю ўсе прыходзілі ў цэркву. *В. Старына.*

**Заказерыць** *вочы*,—закатить глаза и смотреть удивленно. Заказерыў вочы, ік вядзьмак, ды пазірая. *В. Старына.*

**Заказьнік**, а, *м.*—заповедный лес. Гэты лес заказьнік: тут ня можна страляць дзічы. *В. Смалярня, Шацк. р.*

**Закаласіцца**, *дзс.*—начать колоситься. Жыта ўжо закаласілася. *В. Старына.*

**Закапыліць** *губы*,—сделать жест губами, когда что-либо не понравится. Бачыш ты яго: і губы закапыліў! *В. Старына.*

**Закаравець**, *дзс.* — пропитаться грязью. Анучы закаравялі: нельга абуваць. *В. Старына.*

**Закарэць**, *дзс.*—покрыться слоем грязи. Ночвы закарэлі. Закарэла дзіця. *В. Старына.*

**Закасаваць**, *дзс.* (*прм.* **закасованы**)—1) аннулировать закон, распоряжение. Усе даўнейшыя законы закасавалі. Што ўперад было, ўсё ціпер закасована.—2) зачеркнуть. Напісоў, ды нешта закасавоў.—3) превзойти в чем кого. Сын ужо й бацьку закасавоў. *В. Старына.*

**Закасваць,-цца**, *дзс.* (*зак.* **закасаць, -цца**)—засучивать (рукава, штаны, юбку). Закасаў рукавэ, каб ня памараць у гліну. Закасалася баба аж па пуп ды йдзе па вадзе. *В. Старына.*

**Закатулак**, лку, *м.*—место в хлеве, отгороженное для свиней. Выгань парасята з закатулку. *В. Харавічы, Сьміл. р.*

**Закаўрашы**, аў, *мн.*—отвороты в рукавах. Але й закаўрашы ў тваём кажусі вялікія! *В. Крамяні, Пух. р.*

**Заквэцаць, -цца**, *дзс.* — замарать, -ться во что-либо чорное: грязь, сажу и проч. Заквэцаў рукі ў дзёгаць. Чыста ўвесь заквэцаўся ў гразь. *В. Старына.*

**Закеўзаць**, *дзс.*—замарать, замуслить (о детях). Дзіця закеўзала ўсю сарочку. *В. Старына.* (*Пр.* **Закоўзаць**).

**Закіданы**, *прм.*—недосмотренный, плохо выкормленный. Ён-ба й дарма быў конік, яле закіданы. *В. Старына.*

**Закідаць**, *дзс.* (*зак.* **закінуць**)—1)—забрасывать. Некуды закінаў тапор ды ня найці ціпер.—2) обделывать гряды, выбирая борозды. Ня работніца я, калі ня здалею баразны ужо закідаць *В. Старына.*

**Закілзаць**, *дзс.* (*прм.* **закілзаны**)—взнуздать. Закілзай каня, ато разьнясе. Жарабок закілзаны й то ня хоча стаяць. *В. Старына.*

**Закінуты**, *прм.*—заброшенный. Вэнь аж куды закінуты ракаўкі. *В. Старына.*

**Закінуцца**, *дзс.*—завалиться, запропасть. Нейдзя закінулася мая шапка. *В. Старына.*

**Закірмашаваць,-цца**, *дзс.*—1) задержаться на базаре. Закірмашавоўся сягоньня наш Мікіта: нешта доўга німа з места.—2) начать часто навещать базар. Во закірмашавоў стары: ідзе ды йдзе ў Сьмілавічы. *В. Старына.*

**Закісаць**, *дзс.* (*зак.* **закіснуць**)—заквашиваться. Закіс булён. *В. Старына.*

**Заклад**, у, *м.*—1) залог. На заклàд купіў мукі. Кажух аддоў у заклáд.—2) пари. Што дасі ў зàклад, калі я ня так кажу? Давай пойдам на зáклад! *В. Старына.*

**Закладаць,** *дзс.*—закладывать, заделывать (дыру). Закладая дзіркі ў плоця. *В. Харавічы, Сьміл. р.*

**Заклакаваць** *стрэльбу,* — закласть порох в ружье клочьями кудели или ваты. Давай заклакуям стрэльбу ды стрэлім. *В. Харавічы, Сьміл. р.*

**Заклапаціцца,** *дзс. (прм.* **заклапочаны)**—озаботиться. Заклапаціўся наш стары: вышаў корм скаціня. Пастаянна ён ходзіць заклапочаны. *В. Старына.*

**Заклінаваць,** *дзс.*—загнать клинья. Заклінавалі шасьцярню ў малатарні. *В. Старына.*

**Заклінаць,-цца,** *дзс.* — усиленно клясть,-ться. Закліная хлопца, што вырваў на градах брушку. Заклінаяцца, што ня ён узёў. *В. Старына.*

**Заклыгаць,** *дзс.*—захромать. Нешта заглыгала наша карова. *В. Старына.*

**Закляты,** *прм.*—заклятый, заколдованный. Нейкая заклятая места ета: ня шанцуя мне тут. *В. Старына.*

**Закон,** у, *м.*—закон. Закон, што дышла: куды павярнуў, туды й вышла. *Прык. В. Старына.* Закон дурню ня пісан. *Прык. В. Дукарка, Сьміл. р.*

**Закот,** у, *м.*—1) бревенчатый потолок. У клеці вельма ўжо выгінасты закот.—2) щит из бревен. У таку выкінаўся закот. *В. Старына.*

**Закоўзаць,** *дзс.*—*гл.* **Закеўзаць.** Закоўзаў усе рукавэ. *В. Старына.*

**Закрактаць,** *дзс.*—сов. от **крактаць.** Закракталі жабы ў балоця: будзя цёпла. *В. Старына.*

**Закрасаваць,** *дзс.*—зацвесть (о ржи). Закрасавала жыта. *В. Старына.*

**Закрутка,** і, *ж.*—деревянная завертка для запирания дверей. Закруці-ж закрутку, каб сьвіньні ня вылязьлі. *В. Старына.*

**Закрыліна,** ы, *ж.*—доска, прикрепленная к концу соломенной крыши для задержки соломы. Вецяр сарвоў адну закрыліну з пуні. *В. Старына.*

**Закрыўдаваць,** *дзс.* — обидеться. Так-жа закрыўдавоў на міне кум, што бяда! *В. Старына.*

**Закрэмсаць,** *дзс.*—зарезать тупым ножом. Закрэмсалі пеўня к дасеўкам. *В. Старына.*

**Закурняўкаць,** *дзс.*—замяукать. Кот закурняўкаў на гары. *В. Старына.*

**Закураць,** *дзс.*—закоптеть. Чыста ўся хата закурала ад дыму. Закураў камінок у ляншя. *В. Старына.*

**Закурэць,** *дзс.*—повалить столбом (о пыли). Конь панёсься, толька пыл закурэў. *В. Старына.*

**Закуска,** і, *ж.*—перен.,—нагоняй, побранка. Доў яму добраі закускі. *В. Старына.*

**Закута,** ы, *ж.*—давнишнее наказание, заключающееся в том, что в дом виновного присылались на хлеба „закутнікі"—бедняки от 1 до 5 челов. У Паўлюковых была закута. *В. Старына.*

**Закутак,** тку, *м.*—глубь угла. Залез у закутак ды сядзіць. *В. Старына.*

**Закутнік,** а, *м*—бедный человек, проживающий „закутаю". Дзямян жыве ў закутніках. *В. Старына.*

**Зала,** ы, *ж.*—*гл.* **Золасьць.** От холад, зала! *С. Амельна, Пух. р.*

**Залаб, залабкі,** *прс.*—за волосы около лба (брать). Схваціў залаб ды давай цягаць. Тузаюцца залабкі. *В. Старына.*

**Залажыцца,** *дзс.*—пойти в пари. Залажыліся на кватэрку гарэлкі. *В. Старына.*

**Залаз,** у, *м.*—неопределенное количество снопов, повешенных в „азярод", шириною прибл. в 4—5 снопов; когда навешают один „залаз" снопов до верху, тогда снова „залазяць" на „азярод". Ячменю вышла ў нас два залáзы. *В. Старына.*

**Залазаваць,** *дзс.*—начать менять зубы (о лошади). Наш жарабок залазавоў. *В. Старына.*

**Залапацець,** *дзс.*—быстро побежать (о лошадях). Коні спудзіліся ды ік залапацяць—толькі й бачылі іх! *В. Старына.*

**Залапіць,** *дзс.*—заплатать. Залапіў кажух, *В. Старына.*

**Залатнік,** а, *м.*—различные заболевания матки у женщин (перегиб, выпадение); лечат заговорами.
„Ах залатнік! у Макрыны
па касьцях ня хадзі,
жывата ня сушы
й галавы ня тамі".
З загавору. *С. Навасёлкі, Пух. р.*

**Залатоўка,** і, *ж.* — пятиалтынный, 15 коп. На залатоўку купіў дзецям булкі. *В. Старына.*

**Залатуха,** і, *ж.*—золотуха,— худосочие, малокровие. У Яўхімавых дзяцей залатуха. *В. Старына.*

**Залетась,** *прс.*—в позапрошлый год. Ета ашчэ залетась было. *В. Старына.*

**Залеташні,** *прм.*— позапрошлогодний. Ігнат прадоў залеташні хлеб. *В. Старына.*

**Залеяцца,** *дзс.*—1) погаснуть (об углях). Залеяўся жар у ямца.—2) загрязнуть (о телеге). Калёса залеяліся ў глеі.—3) отравиться (водкою). Піў, піў, пакуль аж ня залеяўся. *В. Старына.*

**Заліваха,** і, *аг.*—постоянный пьяница. Нашоў каго сабе ў таварышы—заліваху етага. *В. Старына.*

**Заліпаць,** *дзс.*—затягиваться жидкостью. Воз заліпая ў гразі. *В. Старына.*

**Залітаваць,** *дзс.*— запаять. Трэба залітаваць конаўку, ато цячэ. *В. Старына.*

**Заліцца,** *дзс.*—утопиться, постепенно заливаясь водою. Карова залілася ў выжары. *С. Амельна, Пух. р.*

**Залішне,** *прс.*—излишне, черезчур. Нечага дурэць, дзяціна, залішня! *В. Старына.*

**Заложнік,** а, *м.*—полка с вырезами для втыкания ложек. Заткні лжкі ў заложнік. *В. Бор, Сьміл. р. (Пр.* **Заградка**).

**Залоза,** ы, *ж.*—1) железа. Папухлі залозы ат праступы.—2) в бранном употреблении. Хай табе яно залозамі вылязя! *В. Старына.*

**Залом,** у, *м.*, **заломак,** мку, *м.*—переломленные и завязанные стебли ржи и др. посевов с целью нанесения хозяину полосы вреда данным колдовством. У жыця нехта заламоў заломак. Пракоп ізжоў заломак, дык здохла корова. *В. Старына.*

**Залопаць,** *дзс.*—захлопать. Певянь залопаў крыльлямі ды ік закрычыць! *В. Старына.*

**Залоўка,** і, *ж.*—золовка. Залоўка пакрала ў нявесткі рушніке. *В. Старына.*

**Залупіць,-цца,** *дзс.* — 1) задраться (о коже). Залупілася шкурка каля ногця.—2) задавить, задрать животное. Каршун залупіў курыцу. *В. Старына.*

**Заляйцаць** *каня, дзс.*— привязать к уздечке запряженной лошади вожжи—„лейцы". Заляйцай каня ды едзь. *В. Голацак, Сьміл. р.*

**Залякатаць,** *дзс.*—затарахтеть. Калёса залякаталі па сухой дарозі. *В. Белае, Пух. р.*

**Заляпаць,** *дзс.* (*прм.* **заляпаны**)— 1) застучать. Заляпаў па плоця палкаю.—2) обдать грязью. Увесь кажух заляпаў ў гразь. Ета-ж уся твая сьвіта заляпана ў гразь. *В. Старына.*

**Заляскаць,** *дзс.*—затрещать. Заляскаў пугаю. *В. Старына.*

**Замакаць,** *дзс.* (*зак.* **замокнуць**)— промокать. Замакаюць куле пад страхою. Замокла наша сена. *В. Старына.*

**Замала,** *прс.*—маловато. Троха замала намалаціді хлеба. *В. Старына.*

**Замарачыцца,** *дзс.*—сов. от **марачыцца**. Чыста галава мая замарачылася. *В. Старына.*

**Замарачэньне,** я, *н.* — омрачение. Зрабілася нейкая замарачэньня ў галаве. *В. Старына.*

**Замаркоціцца,** *дзс.* — затосковать. Замаркоціўся хлопяц. *В. Старына.*

**Замарока,** і, *ж.*—слишком тяжёлая хлопотливость, забота, приводящая в тупик. Было мне ўчора з дзецьмі замарокі! *В. Старына.*

**Замарудзіць,** *дзс.*—замедлить. Троха часу замарудзіў, але дарма. *В. Старына.*

**Замарыцца**, *дзс.*—замориться. Чыста замарыўся, сякучы дрова. *В. Старына.*

**Замаўляць**, *дзс. (зак.* **замовіць**)—заговаривать. Міхаль наш умея кроў замаўляць. Цімох замовіў мне зубы. *В. Старына.*

**Замаўчаць**, *дзс.*—замолчать. Замаўчы ты лепяй. *В. Старына.*

**Замест, заместа**, *прс.*—вместо. Заместа яго пашоў другі. Замест каня буду трымаць дзьве каровы. *В. Старына.*

**Замёт**, у, *м.*—бревенчатая ограда. Як сабака, пяраскочыў замёт. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Заметнік**, а, *м.*—длинный закром в „таку", образованный стенкой тока и стенкой овина. Цэлы заметнік адных толька жытных умяцяй. *В. Старына.*

**Замількаць**, *дзс.*—замелькать. Нешта замількала. *В. Старына.*

**Замінаць**, *дзс.*—мешать. Атыйдзі, ня замінай рабіць. *В. Старына.*

**Замірэньне**, я, *н.*—перемирие. Усё вайна ды вайна, хай-бы хоць якое было замірэньня. *В. Старына.*

**Замітусіцца**, *дзс.*—замелькать, замигать. Замітусілася нешта ў ваччу. *В. Старына.*

**Заможны**, *прм. (прс.* **заможна**)—зажиточный. Андрэй Паўлюкоў—заможны гаспадар. На пасяца ўсе жывуць заможна. *В. Старына.*

**Замсьціць**, *дзс.*—отомстить. Замшчу-ж я табе за тваё зладзейства. *В. Старына.*

**Замужжа**, а, *н.*—замужество. Нядобрая, маладзіца, маё замужжа. *В. Старына.*

**Замураваць**, *дзс. (прм.* **замураваны**)—1) заделать кирпичем. Пан у сьцяну замураваў дзеўку. У склепя замурованы грошы.—2) покрыть снегом. У хаця замуравала вокна. *В. Старына.*

**Замурзаць,-цца**, *дзс. (прм.* **замурзаны**)—замарать,-ться (о лице). Малы чыста ўвесь замурзаўся. Дзіця тварык замурзала. Абмыйця дзіця, ато нейкая замурзаная. *В. Старына.*

**Замыліць**, *дзс.*—нарочно закруглить лезвие, острый конец кола и проч. Замыліў сякерку. *В. Старына.*

**Замятаць**, *дзс.*—мести. Замялі вуліцу к сьвяту. *В. Старына.*

**Замяшаць** *цеста*,—перемешать растертый картофель мукой для корма свиней. Кабану ашчэ трэба замяшаць вядро цеста. *В. Старына.*

**Занадта**, *прм.* слишком, черезчур. Занадта ўжо расходзіўся ты. *В. Старына.*

**Занаравіцца**, *дзс.* — заупрямиться. Ік занаравіўся конь, дык і з места ня кране. *В. Старына.*

**Заніц**, *прс.*—1) за ништо, совершенно даром. Заніц усё дабро пашло; заніц усё прапала. *В. Старына.*—2) много. У Марціна ўсяго заніц. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Занудзіцца**, *дзс.*—затосковать, запечалиться. Занудзілася маладзіца па свайму чалавеку. *В. Старына.*

**Зануздаць**, *дзс.*—взнуздать. Зануздоў жарабка—і то нельга ехаць. *В. Старына.*

**Занурыцца**, *дзс.*—изнуриться. Даўзваньня занурыліся коні. *В. Старына.*

**Заныдзець**, *дзс.*—истомиться от тоски. Заныдзяла дзеўка па свайму жаніху. *В. Старына.*

**Занядужаць**, *дзс.*—захворать. Занядужала мая гаспадыня. *В. Старына.*

**Занятак**, тку, *м.*—занятие. У каждага ё свой занятак. *В. Старына.*

**Запаветрыцца**, *дзс.*—погибнуть от мора, поветрия. А каб яно запаветрылася с такім надвор'ям! *В. Старына.*

**Запаганіць**, *дзс.*—загрязнить. Усю ваду запаганілі—нельга й піць. *В. Старына.*

**Запазуха**, і, *ж.*—место за пазухой. Панапіхоў запазухі гарохам. *В. Старына.*

**Запазьніцца**, *дзс.*—опоздать. Троха запазьніўся прыці. *В. Старына.*

**Запакаваць**, *дзс.*—запаковать. У сена запакаваў цьвіхе. *В. Старына.*

**Запал**, у, *м.*—сильный гнев, раздражение. Чаго толька ня робіць чалавек у запалу! *В. Старына.*

**Запаланець, запалаць,** *дзс.*—запылать, вспыхнуть заревом. Сягоньня вельма было неба запаланела, ік сонца ўсходзіла. Ік запалаў пажар, дык чуць рады далі. *В. Старына.*

**Запаласкаць,** *дзс. (прм.* **запалосканы)**—замыть. Трэба запаласкаць спадніцу, ато нейдзя ўмарала. Сарочка запалоскана. *В. Старына.*

**Запаленьне,** я, *н.*—воспаление. Хварэя на запаленьня лёгкіх. *В. Старына.*

**Запаліць,** *дзс.*—зажечь. Запаліця цяпло. *В. Старына.*

**Запалкі,** лак, *мн.*—спички. Купілі запалак. *В. Старына.* (*Пр.* **Сярнічкі**).

**Запалохаць,** *дзс.*—запугать. Ня бойся, ня запалохаяш вельмі міне. *В. Старына.*

**Запамагчыся,** *дзс.*—зажиться, вспомоществовать себя. Ня запаможасься чужым дабром. *В. Старына.*

**Запамога,** і, *ж.*—вспомоществование. Мала з дзевак запамога. *В. Старына.*

**Запамятаць,** *дзс.* — помнить. Калі ета было, я ня запамятаю. *В. Старына.*

**Запанаваць,** *дзс.*—зажить с достатком. Ось хіба калі я запаную. *В. Старына.*

**Запанець,** *дзс.*—загордиться. Запанеў Мікола, ні с кім ня хоча гаварыць. *В. Старына.*

**Запарам,** *прс.*—1) одним приёмом. Запарам выпіў чарку.—2) непрерывно повторяя. Запарам два разы схадзіў у той канец. *В. Старына.*

**Запарваць,** *дзс. (зак.* **запарыць)**—заливать кипятком. Ашчэ каровам ня запарвала цаброў. Чорнуй каровя запарыла аўсянаі мякіны. *В. Старына.*

**Запарушыць,** *дзс. (прм.* **запарушаны)**—засорить (глаза). Ня пазірай угару, ато вочы запарушыш. Запарушана маё адно вока. *В. Старына.*

**Запас,** у, *м.*—запас. Запас бяды ня чыніць. *Прык. В. Старына.*

**Запаскудзіць,** *дзс. (прм.* **запаскуджаны)**—загадить. Усю хату запаскудзілі гліная. Міска запаскуджана: як з яе есьці? *В. Старына.*

**Запасуваць,** *дзс.*—в первый раз выгонять скот в поле. Пастух запасувая ў Івана. *В. Вострава, Сьміл. р.*

**Запасьлівы,** *прм.*—запасливый. Во дзе запасьлівы чалавек: усяго ў яго знойдзяш. *В. Старына.*

**Запаўзьці,** *дзс.*—заползти. Аж куды запаўзло дзіця. *В. Старына.*

**Заперачаць,** *бзс.* — препятствовать. Рабі, што хочаш, я табе ня запярачаю. *В. Старына.*

**Запечак,** чку, *м.*—часть крестьянских полатей около печи, куда сваливают одежу, хлам, и где играют дети. Ну, дзеці, марш у запячак: ваша там места, а ня каля стала. *В. Старына.*

**Запечак,** чку, *м.*, **запечча,** а, *н.*—небольшое пространство между печью и стеной, чтобы последняя не загоралась. Кот залез у запечак. *В. Крамяні, Пух. р.* Паклалі анучы сушыць у запечча. *В. Дукарка, Сьміл. р.*

**Запірацца,** *дзс.* — 1) запираться дверью. Рана вы заперліся. — 2) не хотеть что-либо высказывать, таиться. Ня запірайся, кажы. *В. Старына.*

**Заплікаць,-цца,** *дзс. (зак.* **заплікнуць,-цца,** *прм.* **заплікнуты)** — застегивать, - ться. Харашэнька заплікайся, ато вецяр. Ня заплікнуць сьвіты: рукі памерзьлі. Штанэ ня заплікнутыя. *В. Старына.*

**Заплоцьце,** я, *н.*—место за забором. У заплоцьці парасла вялікая крапіва. *В. Бор, Сьміл. р.*

**Заплюхаць,-цца,** *дзс. (прм.* **заплюханы)**—забрызгать грязью. Собіла ёй заплюхаць етак спадніцу. Надзела заплюханы андарак. *В. Старына.*

**Заплюшчыць** *вочы*, *дзс.*—заслепить, закрыть глаза. Ік сьляпы, заплюшчыў вочы. *В. Старына.*

**Запоіны,** ін, *мн.*—первая свадебная беседа, когда жених в доме невесты угощается со сватами и

роднымі. У суботу к нам сватэ прыдуць на заповіны. *В. Старына.*

**Заправа**, ы, *ж.*—мясо или жировые продукты, что кладутся в пищу для приправы. Німа ніякаі заправы: ні здору, нічога. *В. Старына.*

**Запрапасьціцца**, *дзс.*—запропасть. І дзе яно запрапасьціласі, дык чорт яго ведая. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Запраторыць**, *дзс.*—запрятать. Некуды запраторылі йголкі і німа чым шыць. *В. Старына.*

**Запраўды**, *прс.*—действительно, поистине. Калі ты запраўды ня вінават, дык чаго-ж чырванеяш? *В. Старына.*

**Запраўляць**, *дзс.* (*зак.* **заправіць**, *прм.* **запраўлены**)—приправлять пищу мясом или жирами. Усю вёсну запраўлялі здорам. Німа чым заправіць капусты. Каша запраўляна маслам. *В. Старына.*

**Запрашаць**, *дзс.* (*зак.* **запрасіць**, *прм.* **запрошаны**)—приглашать. Дзядзька й цётка запрашаюць вас на вясельля. Швагір запрасіў міне на гарэлку. Усе сваяке запрошаны ў госьці. *В. Старына.*

**Запрэт**, у, *м.*—запрещение. Далі запрэт, каб ня вазілі дроў на места продаць. *В. Старына.*

**Запускі**, аў *мн.*—заговенье. У чацьвер будуць запускі. *В. Старына.*

**Запусьціцца**, *дзс.*—в специальном см., о корове,—перестать давать молоко. Запусьцілася наша карова. Добрая карова: запускаяцца ўсяго на якія тыдні два. *В. Старына.*

**Запушыць**, *дзс.* (*прм.* **запушаны**)—забросить. Куды запушылі сьвіту маю? Нейдзя запушана шапка—і ніяк ня знайду. *В. Скобраўка, Пух. р.*

**Запхнуцца**, *дзс.*—переносно: с трудом зайти, заехать куда. Дарога дрэнная—чуць запхнуўся з возам на места. *В. Старына.*

**Запхнуць**, *дзс.*—запихнуть. Запхнуў нейдзя рукаўкі й ня знайці іх. *В. Старына.*

**Запыкаць**, *дзс.*—1) запыхкать при куреньи. Зыпыкаў люлькаю.—2) забормотать. Запыкаў, запыкаў і ня разабраць нічога. *В. Старына.*

**Запырскаць**, *дзс.*—забрызгать. Во й дожджык запырскаў. *В. Старына.*

**Запэўніць**, *дзс.*—уверить. Міне запэўнілі, што ўсё добра будзя. *В. Старына.*

**Запэцкаць,-цца**, *дзс.* (*прм.* **запэцканы**)—запачкать-ться. Чыста ўсю адзежу запэцкаў. У цібе шчака запэцкана ў тук. *В. Старына.*

**Зара**, ы, *ж.*—заря. Ужо стала брацца на зару. *В. Старына.*

**Зарабляць**, *дзс.* (*зак.* **зарабіць**, *прм.* **зароблены**)—1) зарабатывать (плату). Ціпер людзі шмат зарабляюць падводамі ў Рудзенск. Зарабіў, ік пан Заблоцкі на мыля. *Прык.* Заробляны працаю рубельчык.—2) в переносн. см.—получить нагоняй, потасовку. Глядзі, ато хутка ты ў міне заробіш па вушах! *В. Старына.*

**Заработак**, тку, *м.*—заработок. Бацька паехаў у заработкі. *В. Старына.*

**Зарава**, а, *н.*—зарево. За сялом відаць зарава: ці ня пажар дзе? *В. Старына.*

**Зарагатаць**, *дзс.*—громко засмеяться. Усе ік зарагочуць!.. *В. Старына.*

**Зарадзіць**, *дзс.*—хорошо уродить. Зарадзі, божа, нам жыта жаці. Хлеб добра зарадзіў. *В. Старына.*

**Зараз**, *прс.*—сейчас. Пажджы, я зараз прыду. *В. Старына.*

**Зараза**, ы, *ж.*—переносно: скверный человек,—бранное слово. Зараза ты халерная, чаго ты ка мне лезяш! *В. Старына.*

**Зарандаваць**, *дзс.*—заарендовать. Зарандавоў цэлаю валоку. *В. Старына.*

**Зараніца**, ы, *ж.*,—утренняя звезда. Зараніца ўжо патухла. *В.Клятное, Пух. р.* „Прашу госпада бога й прачыстыя маткі, і зары—зараніцкі". *З загавору. С. Навасёлкі, Пух. р.*

**Заранья**, *прс.*—весьма рано, до восхода солнца. Устоў я сягонь-

ня зараньня: чуць стала віднец. *В. Старына.*

**Зарасьнік,** у, *м.*—заросль. Каровы некуды ўбіліся ў зарасьнік. *В. Старына.*

**Зараўніць,** *дзс. (прм.* **зароўнены)**—заровнять неровности. Зараўніў гумно, што сьвіньня парылі. Дарожка зароўняна. *В. Старына.*

**Зарваць,** *дзс. безас.*—слово употребл. при клятьбе. Ціха, каб табе зарвала яно! *В. Старына.*

**Заржаць,** *дзс.*—заржать. Заржалі коні: мусіць воўка пачулі. *В. Старына.*

**Зарніца,** ы, *ж.*—утренняя заря, время до солнечного восхода. З зарніцаю вывяў каня на пашу. *В. Лядцо, Пух. р.*

**Заробіць,** *дзс.*—обмарать. Усе рукі заробіў у дзёгаць. *В. Старына.*

**Зарубіна,** ы, *ж.*—засечка, зарезка для отметки. На палцы дзьве зарубіны. *В. Старына.*

**Заруп**і**цца,** *дзс.*—забеспокоиться, начать заботиться. Заруп**і**ўся наш гаспадар, каб дзе грошай дастаць. *В. Старына.*

**Зарупіць,** *дзс. безас.* — приспичить. Зарупіла табе йзноў пабегчы на вуліцу. *В. Старына.*

**Заручыны,** н. *ж.* — вторая часть свадьбы, когда убираютъ невесту к венцу. Ужо звалі на заручыны. *В. Старына.*

**Зарызыкаваць,** *дзс.* — зафорсить. І зноў зарызыкавоў Юрачка. *В. Старына.*

**Зарыцца,** *дзс.*—зариться. Ого, як ён зарыцца на чужоя! *В. Старына.*

**Зарэць,** *дзс.*—светать. Пачало зарэць. *В. Старына.*

**Засакатаць,** *дзс.*—1) начать „сакатаць"—кричать свойственно курице. Курыца засакатала: хоча несьціся.—2) переносно: громко, быстро заговорить. Засакатала—і ліха яе матару разьбярэ!—3) застучать (о телеге). Аж калёса засакаталі... *В. Старына.*

**Засаладзіць,** *дзс.*—засластить. Так засаладзіў, аж горка стала. *В. Старына.*

**Засапціся,** *дзс.*—засопеть. Аж засопся, пакуль прыбег. Хто етак бяжыць, каб засапціся! *В. Старына.*

**Засарамаціць,** *дзс.*—застыдить. Чыста засарамацілі хлапца. *В. Старына.*

**Засаромяцца,** *дзс.*—застыдиться. Засаромяўся, ік малы ўсяроўна. *В. Старына.*

**Засаўка,** і, *ж.*—засов. На нач засунулі дзьверы засаўкаю. *В. Старына.*

**Засек,** а, *м.* (*пам.* **засечак)**—1) закром. Насыпалі цэлы засек грэчкі.—2) отделение портмонэ, кошелька. Партаманецік на тры засечкі. *В. Старына.*

**Заскаваць,** *дзс.* (=літ. **зацкаваць)**—затравить сабаками. Заскавоў парасё сабакамі. *В. Старына.*

**Заскародзіць,** *дзс.* (*прм.* **заскароджаны)**—заборонавать перед пахотой зябь или пар. Заскародзіў гоні папару. Уся палоса заскароджана. *В. Старына.*

**Заскварваць,** *дзс.* (*зак.* **засквbooрыць,** *прм.* **засквараны)**—заливать пищу жареным салом (сварками с жиром). Хай астаецца якая крошка сала на весну, каб было чым засквapваць. Булён засквapылі. Засквараная зацірка ня вельма што смашная. *В. Старына.*

**Заскрыгаць,** *дзс.*—заскрежетать. Аж зубамі заскрыгаў ад злосьці. *В. Старына.*

**Засланка,** і, *ж.*—заслонка (у печи). Зачыні печ засланкаю. *В. Старына.*

**Засланяць,** *дзс.* (*зак.* **засланіць)**—затемнять. Атступіся троха, ня засланяй. *В. Старына.*

**Заслаць,** *дзс.* (*прм.* **засланы)**—застлать. Ложак заслала новаю пасьцелкаю. *В. Старына.* Стол засланы абрусом. *В. Вострава, Сьміл. р.*

**Заслон (зуслон, зыслон),** а, *м.*—небольшая скамейка. Вядро стаіць на заслоня. *В. Турэц, Сьміл. р.* Прысядзь во на зуслоня. *В. Старына.* Падстаў зыслон, ато так ня ўзьлезяш на печ. *С. Дукора, Сьміл. р.*

**Засмажыць**, *дзс.*—зажарить. Засмажылі грыбкоў на вячэру. *В. Старына.*

**Засмуціцца**, *дзс. (прм.* **засмучаны)**—запечалиться. Засмуціўся, наш сынку. Ходзіць ён нешта засмучаны. *В. Старына.*

**Заспакойвацца,** *дзс. (зак.* **заспакоіцца)**—успокаиваться (о погоде). К ночы ўсё заспакойваяцца. Хай заспакоіцца троха, тады пойдам. *В. Старына.*

**Застава,** ы, *ж.*—1) залог. Ня было грошай, дык аддоў кажух у заставу, але ўзёў хлеба.—2) застава при в'езде в город или деревню. Нас стрэла застава. *В. Старына.*

**Заставацца,** *дзс. (зак.* **застацца)**—оставаться. Засталосі толькі адно гальлё. *В. Крамяні, Пух. р.* Адзін застоўся дома. Далёка ззаду застоўся. Марылька засталася ў хвасьце аж недзьдзя. *В. Старына.*

**Застагнаць,** *дзс.*—застонать. Ізноў застагноў хворы. *В. Старына.*

**Застанавіцца,** *дзс.* — остановиться. Думалі ехаць у заработкі ды застанавіліся. *В. Старына.*

**Застаронак,** нка, *м.*—часть сенного сарая (*пуні*), перегороженная по высоте 2—3 бревнами. Салома ляжыць у застаронку. *В. Дукоршчына, Сьміл. р.*

**Заствацъ,** *дзс.*—затемнять. Атхініся ат лянпы, ня заствай. Стоў ды застуя. *В. Старына.*

**Застоіцца,** *дзс.*—застояться (о лошади). Застоіўся жарабок, дык ня ведая, як выбрыкваць. *В. Старына.*

**Застрома,** ы, *ж.*—помеха (человек). Убілася ета застрома ды стаіць. *В. Матарова, Сьміл. р.*

**Застудзіна** ы, *ж.*—студень. Чыста ўся застудзіна выкіпяла. *С. Дукора, Сьміл. р.* (*Пр.* **Квашаніна**).

**Застудзіць,-цца,** *дзс.*—сильно простудить,-ться. Застудзіў грудзі, дык кашаль. Мусіць застудзіўся, што захварэў. *В. Старына.*

**Заступацца,** *дзс. (зак.* **заступіцца)**.—защищать, ограждать кого. Хаця заступайся за другіх—сібе глядзі. Каб ня заступіліся свае мужчыны, дык нашпокалі-б яму на месьця. *В. Старына.*

**Заступаць,** *дзс.* (*зак.* **заступіць)**—замещать, заменять. Ён заступіў брата свайго на рабоця.—2) в спец. см.—ослепить, затемнить глаза. Ці ня заступіла табе вочы, што нічога нешта ня бачыш? *В. Старына.*

**Застываць,** *дзс.* (*зак.* **застыць)**—остывать, затвердевая. Добра застыла квашаніна. *В. Старына.*

**Засунуць,** *дзс.*—засунуть, задвинуть. Засунь юшку на нач. *В. Старына.*

**Засупоніць** *каня, дзс.*—связать клещи хомута на лошади ремешком или веревочкой. Засупонь каня лепяй. *В. Стаырна.*

**Засцаць,** *дзс.*—смочить что мочою. Дзеці засцалі ўсю пасьцелку. *В. Старына.*

**Засцыка,** і, *аг.*—п'яница (бран.). Засцыка ета вечна цягняцца на места. *В. Старына.*

**Засыкаць,** *дзс.*—зашипеть (о змее). Засыкала гадзюка ў траве. *В. Старына.*

**Засыціць,** *дзс.*—засластить воду медом. Во ціпер добра засыціў: салодка. *В. Старына.*

**Засьвяціць,-цца,** *дзс.* — засветить, -ться. Маланка засьвяціла. Засьвяцілася зорка. *В. Старына*

**Засьцяжка,** і, *ж.*—застёжка. Сем насьцяжак ды ўсѐ бяз засьцяжак. *Прык. С. Навасёлкі, Пух. р.*

**Засьценак,** нка, *м.* — небольшая усадьба. Прыехалі людзі к нам із засьценка, што за Пятровічамі. *В. Старына.*

**Засьцерагаць,** *дзс.*—предостерегать. Хай бог крыя й засьцярагая ат такоі бяды! *В. Старына.*

**Засьцерка,** і, *ж.*—ленточка для застягивания воротника в рубашке. Ты мне парваў засьцяркі. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Засяваць,** *дзс.* (*зак.* **засеяць)**—засеять. Сягоньня засявалі жыта. Усю палосу засеялі аўсом. *В. Старына.*

**Затаіць,** *дзс.*—утаить. Затаіў мае грошы й ня прызнаецца. *В. Старына.*

**Затануць**, *дзс.*—потонуть. Каб ён затануў, палажыў нейдзя тапор ды ня найду! Каб ты затанула такоя дзела! *В. Старына.*

**Затаўка**, і, *ж.*—жир со внутренностей свиньи, служащий приправою к еде. Зварылі пасолі з затаўкаю. *В. Старына.*

**Затаўчы**, *дзс.* — затолкать. Затаўклі, мусіць, етага п'яніцу нейдзя на месьця. Вот таўчэ—мусіць хоча яго затаўчы. *В. Старына.*

**Заткала**, а, *н.* — затычка для закупоривания бочки, боченка. Згубіласі ад бочкі заткала. *В. Кramяні, Пух. р.*

**Затлуміць**, *дзс.*—1) задавить, свести со свету. Сабакі затлумілі сьвіньню. Каб твая маць затлуміла! *В. Старына.*—2) уморить. Чыста затлуміў ён міне сваею работаю. *В. Старына.*

**Затока**, і, *ж,*—залив. Ужо замерзла затока: рыбы нельга лавіць. *В. Турэц, Сьміл. р.*

**Затон**, у, *м.*—залив. Паставіў нерат у затоня. *С. Амельна, Пух. р.*

**Затор**, у, *м.*—1) бочарный инструмент. Зламоўся затор, робячы вядро.—2) разовая заделка муки для получения спирта. Выгналі затор гарэлкі. *В. Старына.*

**Заторгаць**, *дзс. безас.*—задергать. Нешта заторгала ў руку мне. *В. Старына.*

**Затрымліваць**, *дзс.* (*зак.* **затрымаць**) —задерживать. Ня затрымлівайця нас, пускайця. *В. Старына.*

**Затужыць**, *дзс.*—заскорбеть. Затужыў дзед по бабя. *В. Старына.*

**Затузаць**, *дзс.*—затормошить. Чыста затузалі сабакі сьвіньню нашу. *В. Старына.*

**Затупаць**, *дзс.* (*прм.* **затупаны**) — 1) затопать ногами. І затупаў нагамі атразу.—2) покрыть следами ног. Затупалі ўсю падлогу. Уся хата зутупана. *В. Старына.*

**Затурыць**, *дзс.*—загнать. Вэнь аж куды затурыў авечак. *В. Старына.*

**Затым** *прс.*—1) потому. Затым казак гладак, што пад'еў ды набак. *Прык.*—2) затем. Затым аставайцяся здаровы! *В. Старына.*

**Затынкаваць**, *дзс.* —заштукатурить, заделать. Затынкавалі ў дзьвярах дзіркі. *Пас. Дубраўка, Пух. р.*

**Заўголак**, лку, *м.*—место за углом постройки. Сьвіньня пабеглі ў заўголак. *В. Старына.*

**Заўдавець**, *дзс.*—овдоветь. Ужо год, ік заўдавеў. *В. Старына.*

**Заўзяты**, *прм.*—ретивый, старательный. Ого, Тадос такі заўзяты, што першы ўсюды йдзе. *В. Старына.*

**Заўпартаваць, заўпарціцца**, *дзс.*— заупрямиться. Які-ж хлопяц: ік заўпартавоў, дык і ўсё ўжо кончана. Ік заўпарціцца—ні за шта ня будзя рабіць. *В. Старына.*

**Заўсёды**, *прс.*—всегда. Заўсёды ў яго чаго ды ня хапая. *В. Старына.*

**Заўчасу**, *прс.* — заблаговременно. Заўчасу саброўся ў дарогу. *В. Старына.*

**Заўчора**, *прс.*—третьего дня. Заўчора мы хадзілі на сена. *В. Старына.*

**Захаваць**, *дзс.*—припрятать, запасти. На вёсну захавоў троха канюшыны. *В. Старына.*

**Захад**, у, *м.*—запад. На захадзя неба аж чырвана. *В. Старына.*

**Захадзіцца**, *дзс.* — забеспокоиться, бегая и суетясь вообще. Захадзілася маладзіца—і ня ведая, што рабіць. *В. Старына.*

**Захаладаць**, *дзс.*—похолодать. Атразу як захаладала. *В. Старына.*

**Захапіць**, *дзс.*—захватить. Усё захапіў у свае рукі *В. Старына.*

**Захінаць,-цца**, *дзс.* (*зак.* **захінуць, -цца**)—1) завертывать, закрываться. Захіні свае грудзі. Захініся ты лепяй.—2) спрятаться за предмет. Захініся во за вугал ды рабі, што трэба. *В. Старына.*

**Захліпаць**, *дзс.*—1) прерывисто заплакать. Ужо й захліпаў: вельма жаласьлівы.—2) замерцать. Нешта захліпала лянпа. *В. Старына.*

**Захлынуцца**, *дзс.*—захлеснуться, залиться водой. Чуць быў ня ўтапіўся: ужо й захлынуўся, але падхвацілі. *В. Старына.*

**Захлюпаць**, *дзс.*—забрызгать грязью. Усю сьвіту захлюпаў. *В. Старына.*

**Захмарыцца,** *дзс.*—покрыться тучами. Захмарылася ў том баку, мусіць будзя дождж. *В. Старына.*

**Захмурнець,** *дзс.*—сделаться сумрачным. Захмурнеў конь, ік зьезьдзіў у Мінск. *В. Старына.*

**Заходзіцца,** *дзс.* (*зак.* **зайціся**)—1) сильно ныть от боли. Нешта заходзяцца мае зубы.—2) коченеть от сильного холода. Такі халадзішча, аж рукі зайшліся.—3) лишаться чувств. Ік стала плакаць дзіця, дык чуць ня зайшлося. *В. Старына.*

**Захундаваць,** *дзс.*—тщательно закрыть, закутать. Картоплю добра захундавалі на зіму. *В. Старына.*

**Захуньдзіць,** *дзс.*—угостить хорошенько. Калі захундзіш мне добра, дык памагу. *В. Старына.*

**Захутаць,** *дзс.* (*прм.* **захутаны**)—закутать. Добра захутай ногі, каб не памерзьлі. Картопля акуратна захутана саломаю—мароз ня дастаня. *В. Старына.*

**Зацень,** ю, *м.*—затененное место. У етум зацяні нішто ня расьце. *В. Старына.*

**Зацерціся,** *дзс.*—затереться. Зацёрся рушнік. *В. Старына.*

**Зацірка,** і, *ж.*—небольшие галушечки, скатанные из муки, сваренные на воде и залитые молоком или жиром. На вячэру зварылі пшанішнаі заціркі. *В. Старына.*

**Заціснуць,-цца,** *дзс.* (*прм.* **заціснуты**)—зажать,-ться. Моцна заціснаў вузял. Пылянё заціснулася дзьвярамі. Вяроўка так заціснута, што ня 'твязаць. *В. Старына.*

**Зацішак,** шку, *м.*—укромное место, защищенное от ветра. Давай сядам у зацішку. *В. Старына.*

**Зацмыгаць,** *дзс.* (*прм.* **зацмыганы**)—затаскать работою лошадь, человека. Зацмыгаў ён свайго каня дашчэнту. Купіў нейкаю зацмыганаю кабылу. Зацмыгаў бабу работаю. *В. Старына.*

**Зацугляць,** *дзс.* (*прм.* **зацугляны**)—взять лошадь на удила. Зацуглёў жарабца. Зацуглёўшы будзя спакайней. Вот дзе конь: зацугляны і то ня стаіць. *В. Старына.*

**Зацухліць,** *дзс.*—замазать с лоском. Зацухліў усю рубашку. *В. Старына.*

**Зацыраваць,** *дзс.* (*прм.* **зацыраваны**)—заштопать. Зацыравала ў панчося дзірку. Адна рукаўка зацырована, а другая не. *В. Старына.*

**Зацьвісьці,** *дзс.* — покрыться плесенью. У хаці зацьвіла столь і куткі. *В. Валае, Пух. р.*

**Зацьменьне,** я, *н.*—затмение. Будзя зацьменьня сонца.—2) перен.—помрачение. Зацьменьне на цібе нейкая найшло. *В. Старына.*

**Зацягаць,-цца,** *дзс.* — 1) затаскать, заносить. Зацягоў пры рабоця новаю жакетку. — 2) утомить, -тьcя, таская что-н. или вообще работая. Чыста зацягоўся, носячы салому. Зацягоў коніка. *В. Старына.*

**Зацягнуць,-цца,** *дзс.*—1) затащить, -тьcя куда-либо. Во аж куды зацягнуліся каровы. Куды ета ты зацягнуў той кругляк?—2) протянуть (нитку в иглу). На, зацягні нітку ў іголку. *В. Старына.*

**Зацярушыць,** *дзс.* (*прм.* **зацярушаны**) — запорошить. Зацярушыў вока. Нечым зацярушан квас. *В. Старына.*

**Зацяць** (*яму ёй*), *дзс.*—в безличн. зн.—отнять язык. Бачыш, ціпер маўчыць, зацяло яму. *В. Старына.*

**Зачакаць,** *дзс.*—пообождать. Зачакай, пойдам разам. *В. Старына.*

**Зачапіць,-цца,** *дзс.* (*прм.* **зачэплены**)—1) зацепить,-ться. Вяроўка зачапілася за граблі. Нітка зачэпляна за трэску.—2) затронуть в разговоре. Ён міне першы зачапіў. *В. Старына.*

**Зачараваць,** *дзс.*—заворожить, очаровать. Усяроўна ік хто яго зачаравоў: так увязоўся за етаю дзеўкаю. *В. Старына.*

**Зачаць,** *дзс.*—начать. І зачоў на яго валіць усяк (зн. лаяць). *В. Старына.*

**Зачварыць,** *дзс.* (*прм.* **зачвараны**)—затравить собаками. Пастух зачварыў сьвіньню сабакамі. Да сьмерці зачварана парасё сабакамі. *В. Старына.*

**Зачуць,** *дзс.*—послышать. Абы зачуў якую песьню, дык і пяе яе. *В. Старына.*

**Зачыкільгаць,** *дзс.*—заковылять. Ік зачыкільгоў, толька и бачылі яго *В. Старына.*

**Зачынка,** і, *ж.*—*гл.* **Пастка.** Злавілі мыш у зачынку. *В. Дукоршчына, Сьміл. р.*

**Зачыняць,** *дзс.* (*зак.* **зачыніць,** *прм.* **зачынены**) — затворять, закрывать. Зачыні дзьверы. Бацька кроў—дзьверы зачынёў, а ты хаты ня зачыняш. *Прык. С. Дукора, Сьміл. р.* Печ зачыняла засланкаю. *В. Старына.*

**Зачырванецца,** *дзс.* — закраснеться. Аж зачырваўнеўся, ліха на яго, ад злосьці. *В. Старына.*

**Зачысьціцца,** *дзс.*—запропаститься. Бадай ты зачысьцілася, які холад стоў! Каб яна зачысьцілася, блыха ўлезла ды кусая! *В. Старына.*

**Зашаляваць,** *дзс.*—обшить досками. Ашчэ ў вадном месьця трэба троха зашыляваць. *В. Старына.*

**Зашастаць,** *дзс.*—зашелестеть колосьями, соломой или подобным чем. Нешта зашастала ў сеня. *В. Старына.*

**Зашкліць,** *дзс.* (*прм.* **зашклёны**)—застеклить. Зашклілі пабітая вакно. Адно вакно зашклёна. *В. Старына.*

**Зашкодзіць,** *дзс.* — принести вред, Ня еш зялёных ігруш; ашчэ зашкодзяць. *В. Старына.*

**Зашмараваць,** *дзс.* (*прм.* **зашмарованы**)—замазать, запачкать. Чыста ўсе рукавэ зашмаравоў. Надзеў нейкія штанэ зашмарованыя. *В. Старына.*

**Зашмаргам,** *прс.*—о способе завязывания узла, не вытягивая из завязи конца, что дает возможность легче развязывать. Завязвай пояс зашмаргам, а то ік намокня, дык ня развяжаш. *В. Старына.*

**Зашнураваць,-цца,** *дзс.* — зашнуровать,-ться. Зашнуравала чаравікі. Зашнуравалася ў гарсэт. *В. Старына.*

**Зашпарыць,** *дзс.*—посеять большое количество чего. Ат сьценкі аж да гасьцінцу зашпарылі картоплі. *В. Старына.*

**Зашпыліць,** *дзс.*—зашпилить. Хоць шпылькаю зашпылі сарочку. *В. Старына.*

**Зашумаваць,** *дзс.*—закипеть пенясь. Заціркa зашумавала. *В. Старына.*

**Зашчаміць,** *дзс.* (*прм.* **зашчэмлены**)—прищемить. Ік зашчаміў нагу ў зялезы, дык чуць вырваў. Паляц зашчэмлены ў дзьверы. *В. Старына.*

**Зашчапка,** і, *ж.*—щеколда. Атарвалася зашчапка ад дзьвярэй. *В. Старына.*

**Зашчымець,** *дзс.*—болезненно сжаться, заныть. Так прыціснуў пальцы, аж зашчымелі. *В. Старына.*

**Зашчытак,** тка, *м.* — фронтон постройки, находящийся в углу, образуемом краями крышы. У хаця новы зашчытак. *В. Голацак, Сьміл. р.*

**Зашчэпляваць,-цца,** *дзс.* (*зак.* **зашчапіць,-цца,** *прм.* **зашчэплены**)—брать дверь на „зашчапку". Ашчэ спаць ня лажымся—ня трэба зашчэпляваць дзьвярэй. Нанач заваліліся й зашчапіліся. Ня'тчыніш вакна: яно зашчэпляна. *В. Старына.*

**Заяда,** ы, *аг.*—неуживчивый человек. З етаю заядаю ня ўжывесься ты. *В. Старына.*

**Заядлы,** *прм.* — *гл.* **Заўзяты.** Іван заядлы на работу. *В. Старына.*

**Заяхкаць,** *дзс.*—сов. от **яхкаць.** Ік заяхкая сабака ды пабяжыць за зайцам!.. *В. Старына.*

**Збаёдаць,** *дзс.*—свести со свету, уходить. Збаёдаў ён сваю жонку. *В. Старына.*

**Збаўляць,-цца,** *дзс.* (*зак.* **збавіць -цца**)—1) избавлять,-ться. Чуць збавіўся ат етага злодзяя. — 2) уменьшать цену. Збаў троха цану. *В. Старына.*

**Збаяцца,** *дзс.* — убояться. От дзе трус: ужо й збаёўся. *В. Старына.*

**Зблажэць,** *дзс.*—стать худым, болезненным. Саўсім зблажэла дзеўка. *В. Старына.*

**Зблізку**, *прс.*—вблизи. Зблізку дык добра відаць. *В. Старына.*

**Зблутаць**, *дзс.* (*прм.* **зблутаны**)—спутать. Зблутаў усе ніткі. Зблутан ячмень за гарою. *В. Старына.*

**Зблявацць**, *дзс.* — стошнить, выблевать. Дзіця зблявала. *В. Старына.*

**Збожжа**, а, *н.*—зерновые хлеба. Людзі ўжо збожжа пажалі. Збожжам занялі ўсе кадаўбэ. *В. Старына.*

**Збоку**, *прс.*—в стороне. Я тут збоку - прыпёку. *Прык. В. Старына.*

**Збольшага**, *прс.* — сделать что в главнейшем, в важнейшем, в более заметном. Збольшага згроблена, ато пакінаў так. *В. Старына.*

**Зборня**, і, *ж.*—собрание для развлечения или др. цели. У Васілёвых вечна зборня. *В. Старына.*

**Зборы**, *мн.*—складки в юбке или ином платье. Ня цягні за'ндарак, бо паўрываяш зборы. *В. Белае, Пух. р.*

**Зборышча**, а, *н.* — сбор. Зборышча на начлег ня вялікая: узёў кажух ды паехаў. *В. Старына*

**Збоўтаць**, *дзс.*—сболтать. Збоўтала ўсё разам ды варыць. *В. Старына.*

**Збочыць**, *дзс.*—свернуть в сторону. Збоч і ты троха. *В. Старына.*

**Збрадлівы**, *прм.*—вороватый, применяется к животным, которые любят украдкою отлучаться от стада и причинять потравы, вообще вред. Збрадлівая іх карова: пастаянна ўцячэ ад пастуха на канюшыну. Вой які кот збрадлівы: як ня пільнуяськя—усяроўна малако вып'я. *В. Старына.*

**Збракавацць**, *дзс.* (*прм.* **збракованы**) — забраковать. Збракавалі, дык і ў салдаты ня пашоў. Распрадаецца збракованы тавар. *В. Старына.*

**Збруя**, і, *ж.*—збруя. Пашыў на каня новаю збрую. *В. Старына.*

**Збрыдаць**, *дзс.*—опротиветь, надоесть. Сварыліся, аж пакуль ня збрыдала ім. *В. Старына.*

**Збузавацць**, *дзс.*—смять, скомкать, испортить что, занимаясь шалостями. Ня ўсьпеў надзець, ік ужо збузавоў новаю шапку. *В. Старына.*

**Збунтавацць,-цца**, *дзс.* — 1) сбить, -ться с толку. Ён міне збунтавоў. У вадном месьця толька збунтавоўся. — 2) взбунтавать, - ться. Збунтавоўся ўвесь народ. *В. Старына.*

**Збурыць**, *дзс.*—слить, смочить водою с сильным напором. Дождж збурыў усю адзежу. *В. Старына.*

**Збурыць**, *дзс.* — сбросить сверху. Збурыў з гары клёпкі. Збурылі страху. *В. Старына.*

**Збуцьвець**, *дзс.*—сгнить от сырости или лежа в воде. Бярвяно збуцьвяла пад карою. *В. Матарова, Сьміл. р.*

**Збуяць**, *дзс.* — Зарости зеленью. (о кортофеле, конопли). Чыста ўся картопля збуяла, мусіць гною пярадоў. Збуялі каноплі—нічога ня будзя насеньня. *В. Старына.*

**Збывацць**, *дзс.* (*зак.* **збыць**)—сбывать. Добры быў конік да прышлося збыць. *В. Старына.*

**Збыту ня давацць**,—не давать покою. Проста збыту ня дае дзіця: плача ды плача. Ён-жа табе збыту ня дасьць с сваімі грашамі. *В. Старына.*

**Збэрсаць**, *дзс.* (*прм.* **збэрсаны**) — нечисто сжать. Ат, збэрсалі, спаскудзілі палосу. Жыта збольшага збэрсана. *В. Старына.*

**Збэсьціць**, *дзс.* — обесчестить. Збэсьцілі людзі дзеўку. *В. Старына.*

**Звадыяш**, а, *м.* (*жан.* **звадыяшка**) — мужчина или женщина слетники, заводящие ссору, драку. Ня чапай етага звадыяшка. Звадыяшка тая толька брахаць любіць. *В. Старына.*

**Зважыць**, *дзс.* (*прм.* **зважаны**) — взвесить. Трэба зважыць, колька тут будзя аўса. Адзін мяшок зважан. *В. Старына.*

**Звалакціся**, *дзс.*—стащиться куда. Некуды звалаклася карова з двара. Звалокся кот наш. *В. Старына.*

**Зваліцца**, *дзс.*—свалиться. Зваліўся с страхі. *В. Старына.*

**Звалтузіць**, *дзс.*—истормошить, измять. Сьвіньня звалтузілі ўсе сарочкі. *В. Старына.*

**Званец**, нцà, *м.* — раст. погремок. (Alectorolophus Gm. або Rhinanthus Crista galli L.). У жыцьця адзін званец. *В. Старына.* Увёўся ў жыта званец, дык хлебу канец. *Прык. В. Капейна, Сьміл. р.*

**Званіца**, ы, *ж.* — колокольня. Скінаўся із званіцы ды забіўся на сьмерць. *В. Старына.*

**Званчэй**, *прс. в. ст.*—звонче. Еты званок званчэй зьвініць. *В. Старына.*

**Званчэйшы**, *прм. в ст.*—более звонкий. Выбірай касу, якая званчэйшая. *В. Старына.*

**Зварот**, у, *м.*—оборот. Німа ніякага звароту, дык і цяжка жыць. На зварот німа капейкі. *В. Старына.*

**Зварухнуць,-цца**, *дзс.* — пошевельнуть,-ться. Ляжыць і ня зварухнецца. Сядзіць ані зварухнецца. *В. Старына.*

**Зварушыць**, *дзс.*—сдвинуть с места, тронуть. Зварушыў часэ, дык ціпер ня хочуць іці. *В. Старына.*

**Зварыць,-цца**, *дзс.* — сварить,-ться. Картопля ўжо зварылася. Зварылі булёну. *В. Старына.*

**Звар'яцець**, *дзс.*—помешаться. Звар'яцяў чалавек. Хіба ты звар'яцёў: што ты робішь? *В. Старына.*

**Звашаваць**, *дзс.* — глубко порыть. Свіньня ўсё гумно звашавалі. *В. Старына.*

**Зводзіць**, *дзс.* (*зак.* **зьвесьці**)—1) сводить. Хлопцаў зьвялі ў бойку.— 2) обманывать. Рыгор зьвёў дзеўку, Зьвёў дарам чалавека. *В. Старына.*

**Зводнік**, а, *м.* (*жан.* **зводніца**)— мужчина или женщина сплетники. Слухай ты етага зводніка! Агата—ђершая зводніца на сяле. *В. Старына.*

**Звузіць**, *дзс.*—с'узить. Шыла сарочку ды троха звузіла. *В. Старына.*

**Звучаць**, *дзс.*—приучать. Малога ня трэба звучаць шкодзіць. Звучылі змалку етак рабіць, а ціпер і блага. *В. Старына.*

**Звыкаць**, *дзс.*—привыкать. Звык, каб яму падалі ўсё гатовянькая. *В. Старына.*

**Звычай**, ю, *м.*—обычай. У яго ўжо такі звычай, каб няпрыменна зачапіць чужоя. *В. Старына.*

**Звыш**, *прс. у сэнсе прым.* — сверх. Што звыш рубля, то маё. *В. Старына.*

**Згабляваць**, *дзс.*—обстругать. Троха згаблявоў дошку—будзя гладзей. *В. Старына.*

**Згадзіцца**, *дзс.* — пригодиться. Хай валяюцца кругляке, мо' на што згодзяцца. *В. Старына.*

**Згадзіць,-цца**, *дзс.*—условить,-ться, согласиться. Сяло згадзіла сабе каваля. Ахрэм згадзіўся на каровы (нанялся пасти коров). *В. Старына.*

**Згаіць**, *дзс.*—залечить. Ніяк ня згаіць свае болькі. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Згалець**, *дзс.* — обнищать. Сьпіўся, згалеў і прапоў чалавек. *В. Старына.*

**Згамаць**, *дзс.* (*дзіцяч.*) —с'есть. Згамай увесь крупнічак. *В. Старына.*

**Зганьбаваць**, *дзс.*—осрамить. Саўсім зганьбавалі Мікатавага каня на месьця. *В. Старына.*

**Зганіць**, *дзс.*—опозорить. Дарма заганілі маю работу. *В. Старына.*

**Згарнуць**, *дзс.* (*прм.* **згорнуты**) — свернуть, собрать в одно место; сгрести в одно место. Картоплю згарнулі ў кучу. Ячмень на таку так і ляжыць згорнуты ў кучу. *В. Старына.*

**Згатавацца**, *дзс.*—свариться. Капуста ужо згатавалася. *В. Старына.*

**Згвалціць**, *дзс.* (*прм.* **згвалтованы**)— изнасиловать. Салдаты згвалцілі дзеўку. Была згвалтована, пярапужана, дык і памерла. *В. Старына.*

**Згінуць**, *дзс.*—пропасть. Згінь ты, мара, прападзі! Сядзь на гліня, дык ня згіняш. *Прык. С. Амельна, Пух. р.*

**Зглямэздаць**, *дзс.*—спортачить. Зглямэздаў сабе калёса ды езьдзіць. *В. Лядцо, Пух. р.*

**Зглeдзіць,** *дзс.*—чуть завидеть. Толька зглeдзіў бацьку, дык і пабег к яму. *В. Старына.*

**Зглуміць,** *дзс.* — испортить. Зглуміў етакі то кавалак дзерава! *В. Старына.*

**Зглытаць,** *дзс.*—с жадностью выпить. Адзін зглытоў малако, а мне ня пакінаў. *В. Старына.*

**Згнюсіць,** *дзс.* (*прм.* **згнюшаны**)—изгадить, испортить. Згнюсілі мне падлогу. Толька хата згнюшана етаю гульнёю. *В. Старына.*

**Згода,** ы, *ж.*—согласие, мир. Німа ў іх згоды: усё сварацца. *В. Старына.*

**Згодзен,** *скар. прым.* — согласен. Хто згодзян, хай бярэцца за работу. *В. Старына.*

**Згоніны,** ін, *мн.*—худший сорт зерна с сорняками. Згоніны ляжаць на таку. *В. Беласе, Пух. р.*

**Згоцаць,** *дзс.*—быстро куда сходить или с'ездить. 'К бачыш згоцаў у той канец. *В. Старына.*

**Зграбны,** *прм.*—изящный, стройный (говорится только о вещах). Зграбныя грабелькі. Зграбны вазочак. *В. Старына.*

**Згрэбла,** а, *н.*—скребница (железная щетка). Трэба купіць новая згрэбла каня чысьціць. *В. Старына.*

**Згуба,** ы, *ж.*—*гл.* **Загуба**. Згуба ты мая, згуба! *В. Старына.*

**Згубіць,** *дзс.*—потерять. Згубіў грошы с партаманетам.—2) извести со свету. Ён задумаў згубіць свою жонку. *В. Старына.*

**Згубнік,** а, *м.* (*жан.* **згубніца**) — бран. на потратившего, промотавшего что. Згубнік еты усю гаспадарку зараз рашыць. Згубніца ты мая: ты мне жыць ня даеш. *В. Старына.*

**Згультаяваць,** *дзс.* — слентяйничать. Згультаявоў такі—ня зрабіў. *В. Старына.*

**Згурасьціць** *дзс.* (*прм.* **згурашчаны**)—скомкать в ворох, свалить в одно место. Аўсянку й аржаную салому—усю згурасьцілі разам. Адзежа так і ляжыць згурашчана. *В. Старына.*

**Здавацца,** *дзс. безас.*—казаться. Чаго толька ня здавалася яму на могілках! Здаецца, усё зрабіў, як трэба. Мала што табе здаецца. *В. Старына. (Пр.* **Здэцца**).

**Здавён-даўна,** *прс.* — с давнишних пор. Дарога тут была здавён-здаўна. *В. Старына.*

**Здаволіць, -цца,** *дзс.* — удовлетворить, -ться. Еў, еў, аж пакуль ня здаволіўся. Чорт яго ўсіх здаволіць! *В. Старына.*

**Здагадацца,** *дзс.* — догадаться, сообразить. Здагадоўся, чалавеча, уцячы, ато доў-ба! *В. Старына.*

**Здалёк,** *прс.* — издалека. Атнекуль здалёк прыехалі людзі. *В. Старына.*

**Здалець,** *дзс.* — иметь силы одолеть, выполнить работу. Стары ўжо ня здалея рабіць. Я ўжо ня здалею. *В. Старына. (Пр.* **Здолець**).

**Здалягосьць,** *прс.* — заблаговременно. Здалягосьць сягоньня надумаў схадзіць у рыбу посьля работы. *В. Дайнава, Пух. р.*

**Зданьне,** я, *н.*—привидение. Бачылі нейкая зданьня, дык чыста ўсе папужаліся. *В. Старына.*

**Здаравезны, -венны,** *прм.* — очень сильный. Здаравезны мужчына. *С. Дукора, Сьміл. р.* Здаравенны хлопяц, ік мядзьведзь. *В. Старына.*

**Здаражэць,** *дзс.*—подорожать. Ізноў здаражэла крамніна. *В. Старына.*

**Здарацца,** *дзс.*—случаться. Мо' што здарылася ў дарозя, што етак доўга німа нашага хлапца. *В. Старына.*

**Здарожыцца,** *дзс.*—устать от дороги. Чалавек здарожыўся, хай адцыхне. *В. Старына.*

**Здароўкацца,** *дзс.* — здороваться. І здароўкацца ня хоча са мною! *В. Старына.*

**Здарэньне,** я, *н.*—происшествие. Ну й здарэньня-ж было з намі! *В. Старына.*

**Здатны,** *прм.* (*скар.* **здацен**)—способный. Здатны да ўсякаі работы. На ўсё здацян хлопяц. Ого, ён здацян на ўсе рукі! *В. Старына.*

**Здаўмецца,** *дзс.*—сообразить. Як-жа ета я раней ня здаўмеўся так зрабіць. *В. Старына.*

**Здаўна,** *прс.*—издавна. Ета паша здаўна была за намі. *В. Старына.*

**Здацца,** *дзс.*—быть нужным, потребным. На што ты мне здоўся? *В. Старына.*

**Здолець,** *дзс.*—*гл.* **Здалець.** Чуць здоляў падняць ношку сена. *В. Старына.*

**Здольнік,** а, *м.*—соучастник. Так раньше назывался принятый в семью чужой мужчина с равной долей имущесгва, как и остальные члены данной семьи. Дзед мой жыў тут за здольніка. *В. Старына.*

**Здольны,** *прм.*—способный. Здольны ён хлопяц на ўсякаю работу. *В. Старына.*

**Здор,** у *м.*—сало от внутренностей. С парсюка шмат здору вышла. У пападзьдзі на жываце адзін здор. *В.Старына.*

**Здрапаць,** *дзс.*—сов. от **драпаць.** Аж у канец сяла ўжо ўсьпеў здрапаць. *В. Старына.*

**Здратаваць,** *дзс.* *(прм.* **здратованы)**—истоптать посев. Коні здраталі ячмень. Чыста ўся пшаніца здратована. *В. Старына.*

**Здрыгануцца,** *дзс.*—содрогнуться, поколебаться. Аж зямля пад ім здрыганулася. *В. Старына.*

**Здрэнчыць,** *дзс.*—измучить побоями. Здрэнчыў дзіця на горкая яблыка. *В. Старына.*

**Здужаць,** *дзс.*—осилить. Наброў, ік здужаць панесьці. *В. Старына.*

**Здурнець,** *дзс.*—одуреть, оглупеть. Пад старасьць сусім чалавек здурнеў. *В. Старына.*

**Здымаць,** *дзс.*—снимать. Ня трэ'бала здымаць патрэціка, хай-ба вісеў. *В. Старына.*

**Здырдзіцца,** *дзс.*—протянуть ноги при смерти. Усе ня даждуцца, калі старая здырдзіцца. *В. Старына.*

**Здыханьне,** я, *н.*—падеж на животных. Німа на цібе здыханьня, на такога каня! *В. Старына.*

**Здыхаць,** *дзс.* (*зак.* **здохнуць, -хці**)—околевать, издыхать. Будзя здыхаць з голаду, а рабіць ня хоча. Етак можна, чалавеча, і здохнуць. Здохла кацянё. *В. Старына.*

**Здыхляк,** а̀, *м.*—заморенный, слабый мужчина. Што мне значыцца падужаць етага здыхляка?! *В. Старына.*

**Здыхлячына, здыхліна,** ы, *ж.* 1) мясо павшего животного, падаль. Ваўке ядуць здыхлячыну.—2) заморенная лошадь. Конь здыхлячына, а ён ашчэ хоча воз везьці. Здыхліна ета адных драбінак ня пацягня. *В. Старына.*

**Здэцца,** *дзс.*—*гл.* **Здава̀цца.** Здэццы бачылісі с табою. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Зеленкаваты,** *прм.*—немного недозрелый, зеленоватый. Авёс яшчэ троха зялянкаваты, але жаць можна. *В. Старына.*

**Зельле,** я, *н.* *(пам.* **зельлейка)**—1) лекарство. Нейкая горкая зельля.—2) скверный, сварливый человек. Ну й зельля ета Марынка! Ого, ета, зельляйка: паслухая яно цібе! *В. Старына.*

**Зелязьняк,** а̀, *м.*—лопата, у которой железные только края в виде каймы. Вазьмі зялязьняк ды капай. *В. Старына. (Пр.* **Жалязьняк).**

**Зеляна,** *прс.*—зелено. Аж у ваччу стала зеляна. *В. Старына.*

**Зерне,** я, *н.*—зерно. Колас вялікі, а зерня малоя. *В. Старына.*

**Зёлкі,** лак, *мн.*—лечебные травки. Стоў піць зёлкі, дык і паправіўся. *В. Старына.*

**Зеў,** зеву, *м.*—1) пространство между верхними и нижними нитками в „кроснах“. Мае кросна добрыя: вялікі зеў. У кроснах зявэ малыя—чаўнок вязьня.—2) начало дыхательного горла. Горла ў зявох баліць.—3) презр., пасть, горло. Расчыніў свае зявэ. *В. Старына.*

**Зжаліцца,** *дзс.*—сжалиться. Зжаліўся ўжо, пашкадавоў. *В. Старына.*

**З-за,** *прыйм.*—из-за. Нехта шпурнуў з-за вугла камяням. *В. Старына.*

лепш зробіш, дык бяры ды рабі. *В. Старына.*

**Лепятаць,** *дзс.*—лепетать. Ляпеча нешта—нічога ня разабраць. *В. Старына.*

**Лепятун,** а̀, *м.*—тот, кто лепечет. Ай, ляпятун еты, хай-ба ён ляпяй сьціх, ато ўжо аж праціўна слухаць. *В. Старына.*

**Лесавы,** *прм.*—лесной. Гэта птушка лясавая. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Леска,** і, *ж.*—лестница. Палез па лесцы на вішню. *В. Забалоцьце, Сьміл. р.*

**Лескатаць,** *дзс.*—щелкать (говор. об аисте). На бярозя бусял ляскоча. *В. Старына.*

**Летась,** *прс.*—в прошлый год. Летась быў добры ўраджай. *В. Старына.*

**Лётаць,** *дзс.*—летать; бегать. Птушка лётая. Хлапец цэлы дзень лётая па вуліцы. Лётая, ік ганчак. *В. Старына.*

**Леташні,** *прм.*—прошлогодний. Леташні ашчэ хлеб ядом. Летась—леташняя, а сяголята—сяголятняя. *В. Старына.*

**Летка, лецечка,** а, *н.*—уменьш. от **лета.** Леткам будам купацца. Цёплая сяголята лецячка. *В. Старына.*

**Летні,** *прм.* (*пам.* **летненькі**)—слегка подогретый (о воде.) Летняю бяры ваду,—гарачаі ня трэба. Абмый больку ў летнянькуй вадзе. *В. Старына.*

**Ліварэ,** ɗў, *мн.*—большая щепа, скалываемая с бревна. Паеду ў лес ды зьбяру ліварэ ат свайго бярвеньня. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Лізацца,** *дзс.*—1) старательно причесываться, прихорашиваться. Ліжацца пастаянна пярад люстэркам.—2) подлизываться. Нечага лізацца: усяроўна ня дам. *В. Старына.*

**Лізгаць,** *дзс.*—есть, еле дотрагиваясь зубами, подлизывая. Еж ты палюдзку, ня лізгай. Трава ашчэ малая: каровы толька лізгаюць. *В. Старына.*

**Лізун,** а̀, *м.*—1) лакомка, лизоблюд. Бачыш, як лізун есьць сьмятану!—2) прихорашивающийся мужчина. Ой лізун, годзя табе ўжо лізацца: пазнаюць! *В. Старына.*

**Лізуха,** і, *ж.*—1) лакомка, лізоблюдка. Лізуха ета ўсё падчысьціла.—2) прихорашивающаяся женщина. Малая, а ўжо відаць, што будзя лізуха: любіць пазірацца ў люстэрак. *В. Старына.*

**Лік,** у, *м.*—счет. Грошай у яго бяз ліку. *В. Старына.*

**Лінь,** я, *м*—линь (Tinca). Лінь залапатаў у крызя. *Б. Лядцо, Пух. р.*

**Ліпаўка,** і, *ж.*—кузов из липовой коры. Із етага луба выйдзя добрая ліпаўка. *В. Старына.*

**Ліпець,** *дзс.*—еле жить, дышать. Баба мая саўсім слабая: чуць ліпіць. *В. Старына.*

**Ліпнуць,** *дзс.*—1) прилипать. Гразь ліпня к калёсам,—проста бяда!—2) приставать, подходить к лицу. Надзеў усё новая, а яно саўсім табе ня ліпня. *В. Старына.*

**Ліповы,** *прм.*—липовый. Ат прастуды добра піць ліповы цьвет. Нарэзаў ліповых дошчак. *В. Старына.*

**Лісавы,** *прм.*—хитро-ласковый. Андрэіха такая-ж лісавая,—вот падкоціцца к табе й вымарачыць што. *В. Старына.*

**Лісіца,** ы, *ж.*—1) лисица, лиса. Лісіца ад дажджу й пад „бараду" хавалася: ня ўсякая, казала, капля дастаня. *Б. Дукарка, Сьміл. р.*—2) гриб лисичка. (Cantharellus, cibarius, Fries). Нашы жонкі пашлі ў лісіцы, мо' троха й назьбіраюць. *В. Старына.*

**Ліст,** а́, *м.* (*пам.* **лісьцік**)—1) древесный листок. З дрэў ападая ліст. Вазончык наш завёў і лісьцікі апусьціў.—2) письмо. В наст. вр. очень редко употребляется, кроме песен.

„Да быліначку буйны вецяр калыша,
брат да сястры ліст па лісту піша".

*Б. Забалоцьце, Сьміл. р.*—3) лист в книге. Парваліся ў кніжца лістэ. *В. Старына.*

**Лістаць,** *дзс.*—перелистывать книгу, тетрадь. Ня лістай там кніжкі, а ўрок чытай. *В. Старына.*

**Лісьлівы**, *прм.* — льстивый А якая ты лісьлівая! *В. Слопішча, Шацк. р. (Пр.* **Лісавы)**

**Лісьце**, я, *н. зб.*—листья. Нашы паехалі ў лес зграбаць лісьця. *В. Старына.*

**Ліха**, а, *н.*—злая беда, несчастье. Ат ліха ціха, але й дабра ня чуваць. *Прык. В. Старына.*

**Ліхадзей**, я, *м.*—лиходей. Ня давай свайму ліхадзею нічога. *В. Старына.*

**Ліхата**, ы, *ж.*—*гл.* **Ліха**. Ета-ж трэба, етакая ліхата найшла. *В. Старына.*

**Ліхенькі**, *прм.*—худенький, слабенький. Мой сынок, які ты ліхенькі! скажы, што ў цябе баліць? *Б. Клятное, Пух. р.*

**Ліхі**, *прм.*—злой, плохой. Ліхога й сьмерць ня бярэ. *Прык.* У ліхую гадзіну прышоў ты, чалавеча! *В. Старына.*

**Ліхтар**, а, *м.* (*польск.* lichtarz, *з ням.* Leuchter)—фонарь. Закураў ліхтар. *В. Старына.*

**Ліцаваць**, *дзс.* — перешивать наизнанку. Леняй новая шыць, ік старая ліцаваць. *В. Старына.*

**Ліць,-цца**, *дзс.*—лить,-ться. Лі ваду на рукі, а ня ў цэбар. Я добра лею. Із міскі леяцца на стол, а ты ня бачыш. Боляй ліця, ня шкадуйця. *В. Старына.*

**Лічба**, ы, *ж.* (*польск.* liczba) — число. Скажы, якая ета лічба? *В. Старына.*

**Лічыць**, *дзс.*—считать. Лічы так: раз, два—булдава; тры чатыры—пачапілі; пяць, шэсьць — хлеб есьць; сем, восім—сена косім; дзевяць, дзесяць — торбу вешаць (або ў насьмешку: дзевак ці хлопцаў вешаць). *Дзіцячая забаўка. В. Старына.*

**Лішай**, я, *м.*—лишай. Лечится заговорами.

„Лішай—сьвіньням мяшай,
лапату кінь,—лішай згінь!“
*С. Навасёлкі, Пух. р.*

**Лішак**, лішку, *м.*—излишек. Лішак хлеба прададом. У саміх ня вялікія лішкі—ашчэ ім дай. *В. Старына.*

**Лішка**, і, *ж.*—нечетное число. Адгадай: ці цот, ці лішка? *В. Старына.*

**Лішніца**, ы, *ж.* — излишнее, излишек. Ня будзя сяголята лішніцы хлеба. *В. Старына.*

**Лішня**, *прс.* — излишне. Ня дурэй лішня. *В. Старына.*

**Логва**, а, *н.*—логовище. Мядзьведзь усю зіму сьпіць у логвя. *В. Старына.*

**Ложак**, жка, *м.* — койка, кровать. Нашы дзеўкі сьпяць на ложку. *В. Старына.*

**Ложка**, і. *ж.* (*русізм*=**лыжка**). Караваяя ложка рот дзярэ. *Прык.* Лякарства сказалі піць па'дной ложца. *В. Старына.*

**Лозка**, і, *ж.* — лозовая заросль. У лосца назьбіроў грыбоў. Выцярабілі лоску ды заралі. *В. Старына.*

**Лой**, ю, *м.*—овечье сало. Намазаўся бліноў з лоям. *В. Старына.*

**Локаць**, локця, *м.*—1) локоть, наружный сгиб руки. Рука баліць у локці. Сам сібе за локаць ня ўкусіш.—2) мера=прибл. 11 верш. =65 см. Купіла паркалю тры локці. *В. Старына.*

**Локшына**, ы, *ж.*—лапша. Бабы накачалі локшыны. *В. Старына.*

**Лом**, у, *м.*—презр.,—домашняя рухлядь. У хаця валяяцца чоршта ўсякага лому. *В. Старына.*

**Лопат**, у, *м.*— лопот. Чуваць нейкі лопат. *В. Старына.*

**Лопацца**, *дзс.*—орать, драть глотку. Чаго ты лопаясься там?! *В. Старына.*

**Лопаць**, *дзс.* — хлопать крыльями. Певянь лопая крыльлями, зараз запяе. *В. Старына.*

**Лопнуць**, *дзс.*—треснуть. Каб ты лопнула етакая дзіцятка. *В. Старына.*

**Лопух**, у, *м.* (Lappa major Gaerh., або Arctium majus Sch.)—лопушник, репейник. Назьбірай сьвіньням лопуху, хай ядуць. *В. Старына.*

**Лотак**, лотака, *м.*—деревянная трубка, вставленная в берёзу или клен для стека березовицы в сосуд. Трэба прачысьціць лотак, ато нешта бярозавік ня капая. *В. Старына.*

**Лотаць,** і, *ж.* — раст., калужница (Caltha palustris L) *Б. Заярыньне, Пух. р.*

**Лоўж,** лаўжа, *м.* — куча хворосту. Гальлё пасьцягвалі ў лаўжэ. *В. Старына.*

**Лоўка,** *прс.*—ловко, отлично. Лоўка ты зрабіў сундук. *В. Старына.*

**Лоўкі,** *прм.* (*скар.* **ловак**)—1) ловкий (человек). Лоўкі хлопяц—маладзец! Ловак, як вол да карэты. *Прык. С. Навасёлкі, Пух. р.* —2) о вещи: удобный для обращения, брания. Лоўкі зуслончык выдзялаў. Лоўкая сякерка. *В. Старына.*

**Луб,** а, *м.*—луб. С аднаго луба пашыў дзьве каробкі. Дождж цэдзіць, ік із луба. *В. Старына.*

**Лубаваты,** *прм.*—твердый, подобный лубу. Лубаватая, падла, кара! *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Лубін,** у, *м.*—лупин (Lupinus L). Ня хваціла свайго лубіну пасеяць на'дной палосяя. *В. Старына.*

**Лубка,** і, *ж.*— лубок, лубяная коробка. Сьвяньціць нанесьлі ў лубца. *В. Матарова, Сьміл. р.*

**Лубяніць,** *дзс.*—об яйце: издавать глухой звук. Пуха ў тваём яйцы, ік дошка, лубяніць. *В. Старына.*

**Лубянка,** і, *ж.* — 1) коробка, ёмкостью 5—6 гарнцев. Журавін назьбіралі цэлаю лубянку. *С. Дукора, Сьміл. р.*—2) колыбель из лубка. Дзіця ляжыць у лубянца. *В. Старына.*

**Лубяны,** *прм.* — лубяной. Лубяная каробка. Лубяная калыбель. *В. Старына.*

**Луг,** у, *ж.*—щелок. Лугам змыла галаву. Трэба нарабіць лугу на плацьця. *В. Старына.*

**Лудзіць,** *дзс.* — зря терять время. Ня лудзіця часу дарам, а рабіця што-небудзь. *В. Старына.*

**Лудня,** і, *ж.*—потеря зря времени. А, з етакаю работаю толька адна лудня! *В. Старына.*

**Лужына,** ы, *ж.*—лужа. Каля ганку стаіць лужына вады. *В. Старына.*

**Лузаць,** *дзс.* — очищать от шелухи. Бяры, лузай пасолю на полудзянь. *В. Старына.*

**Лук,** а, *м.*—лук со стрелой (детская игрушка). Хлапцэ страляюць з лука. *В. Старына.*

**Лука,** і, *ж.*—изгиб реки. На луцэ парасла добрая трава. *С. Амельна, Пух. р.*

**Лукатка,** і. *ж.* — зигзаг, Дарога цягняцца лукаткаю. *В. Старына.*

**Лукашачкі,** чак, *мн.*—маленькое корыто для корма курей. Лукашачкі раскалоліся; німа ў чом курэй пакарміць. *В. Белае, Пух. р.*

**Луна,** ы, *ж.* — несчастие, бедствие. Луна нейкая найшла: мошка ўсё ў полі паела. *В. Старына.*

**Лупаты,** *прм.* — 1) с большими некрасивыми губами. Дзеўкі ня любяць лупатага. *В. Старына.*—2) пучеглазый. От лупаты: вочы ўсяроўна, ік наверся растуць! *В. Раўнапольле, Пух. р.*

**Лупіцца,** *дзс.*—сильно кричать. Чаго ты лупісься, ік у леся? *В. Старына.*

**Лупіць,** *дзс.*—1) сдирать кожу. Разьнік лупіць карову.—2) брать высокую цену. У крамя за малую глупасьць лупяць, колька хочуць. *В. Старына.*

**Лупцаваць,** *дзс.* (*аднакр.* **лупцануць**)—хлестать плетью, палкою. Уп'ецца ды лупцуя сваю жонку. Вось лупцану табе важкамі! *В. Старына.*

**Лупцоўка,** і, *ж.*—битьё. Маўчы, ато дам добраі лупцоўкі! *В. Старына.*

**Лупы,** луп, *мн.*—большие некрасивые губы. Чаго надзьмуў свае лупы? (зн. обиделся). *В. Старына.*

**Луска,** і, *ж.*—1) чешуя. Абскрабі с сялядца луску. — 2) шелуха. Насеньнікі—адна луска. *В. Старына.*

**Луста,** ы, *ж.*—ломоть хлеба. Хоць у руках луста, але грошаў пуста. *Прык. В. Сьвінка, Пух. р.*

**Лут,** а, *м.*, **луціна,** ы, *ж.* — лыко с молодой липки. Вот доўгая луціна! Выразаў добры лут, будзя чым лапаць падплесьці. Хлопяц выцягнаўся, ік лут. *В. Старына.*

**Луцьце,** я, *н. зб.*—*гл.* **Лут.** Купіў на месьця луцьця на лапці. Паедам у луцьця (зн., драть лыко). *В. Старына.*

**Лучок,** лучка́, *м.* — полотнище, натянутое на полукруг и прикрепленное к косе для отбрасывания гречихи, которую косят обыкновенно с „лучком". Трэба к касе прыстроіць лучок: буду грэчку касіць. *В. Старына.*

**Лучыцца,** *дзс. безас.* — случиться. Так лучылася мне, нічога ня паробіш. *В. Старына.*

**Лучыць,** *дзс. безас.*—попасть. Спаткнуўся: лучыў на сук. *В. Старына.*

**Лушнік,** а̀, *м.*—приспособление для освещения избы, сохранившееся в южн. части быв. Червенского (Игуменского) у.; состоит из особой клетки, сплетенной из железн. полос, в которой разводят огонь. Запаліця лушнік: прасьці будам. В. *Запярыньне, Пух. р.*

**Лушчыць,** *дзс.*—раскалывать, бить. Лушчыць адно яйцо за'дным. *В. Старына.*

**Лыгі,** лыг, *мн.* — ноги с толстыми икрами. Выставіла, сьцерва, свае лыгі, ік бы іх ніхто ня бачыў! *В. Старына.*

**Лыгоўка,** і, *ж.—гл.* **Луг.** У лыгоўца хай атмакая плацьця. *В. Старына.*

**Лыка,** а, *н.* *(пам.* **лычка)** — лыко. Назапасіў сабе лык, што будзя лапцей на ўсю зіму. Лыка ты сьвінноя! (*лаянка*). *В. Старына.* За чужоя лычка рамяшком плаціць. *Прык. Х. Самін. Пух. р.*

**Лыковы,** *прм.*—сделанный из лыка. Падай мне лыковы верч. *В. Слапішча, Шацк. р.*

**Лынды** *біць,* — бездельничать, валяться. Толька ляжыць да лынды б'е, а рабіць нічога ня хоча. *В. Старына.*

**Лыніць,-цца,** *дзс.* — снимать с лыка верхнюю кору; делается это только тогда, когда нужны мягкие лыки, как для веревки и пр. Ня лынь, ня псуй мне палосься! Лут добра лыніцца. *В. Старына.*

**Лыпаць** *вачамі,* — хлопать глазами. Лыпая вачамі, ік цюцька. *В. Старына.*

**Лысы,** *прм. (скар.* **лыс)** — лысый. Галава ў яго лысая, хоць ты боб малаці.—*І ня лыс,* — был таков. Віш ты яго: майго наеўся, напіўся, а ціпер і ня лыс. *В. Старына.* Барыс і ня лыс, а Марыся бараніся. *Прык. В. Загай, Пух. р.*

**Лытка,** і, *ж.*—икра ног. Глядзі, ато сабака ашчэ за лытку рване. Ня думайся: і ў цібе лытка дрыжала! (зн., и ты боялся). *В. Старына.*

**Лыткі** *кароткі,* — „руки коротки". На ета, браця, кароткі твае лыткі! *В. Старына.*

**Лэпаць,** *дзс. (зак.* **лэпнуць)**—1) ощупывать. Лэпая, ік сьляпы ўсяроўна.—2) хлопать. Якоя там біў яго: лэпнаў разы са два па дупя. *В. Старына.*

**Льга,** *прс.* — возможно. Калі льга будзя, прыедзь дамоў у госьці. *В. Старына.*

**Любата,** ы, *ж.*—наслаждение, приятность. Любата йзьзесьці агурочак улетку! *В. Старына.*

**Любаценьне,** я, *н.* — наслаждение, приятность в высш. ст. Так добра пагулялі — адно любаценьня! *В. Старына.*

**Любачка,** і, *ж.*—милочка; употребл. при обращении. А мая ты любачка, я-ж табе добра кажу: паслухайся міне! *В. Старына.*

**Любезьнік,** у, *м.* — приворотное зелье, настой которого дают пить парню, чтобы приворотить его к девице. Мусіць любезьніку далі хлопцу, што йзноў пачоў любіцца з дзеўкаю. *В. Старына.*

**Любенькі,** *прм.* — ласк. от **любы.** Употребл. женщинами. Мае вы любянькія, памажыця мне мяшке пакласьці на воз! *В. Старына.*

**Любіцца,** *дзс.*—любить друг друга. Цярэшка любіцца з Яўгіньняю. *В. Старына.*

**Любка,** і, *ж.*—милая, употребл. при обращении. А мая ты любка, як ты добра гаворыш, аж ахвота цібе слухаць! *В. Старына.*

**Любошч,** ы, *ж.* — любовь. Такая ў іх любошч, што адно бяз другога й дня ня можа прабыць! *В. Старына.*

**Любы,** *прм.*—любимый. Калі мужык любы, дык усё добра будзя. *В. Старына.*

**Людзка,** *прс.*—пристойно, по человечески. Робіць людзка, аж глядзець міла. *В. Старына.*

**Людзкаваицца,** *дзс.* — быть среди хороших людей, в хорошем обществе. Хай людзкуяцца дзяўчына, хай ідзе гуляя. Во дзе людзкуяцца чалавек! *В. Старына.*

**Людзкі,** *прм.* — пристойный, человеческий в лучшем см. Не, ня людзкі ты хлопяц! Ня людзкая твая работа. *В. Старына.*

**Людзкі,** *прм.*—принадлежащий другим людям. Людзкая скацінка гладкая, а на нашу аж страшна пазіраць: такая худая! Людзкоя поля ўжо даўно ўробляна. *В. Старына.*

**Людцэ,** оў, *мн.*—ласк. **людзі.** Усе людцэ бяруцца за работу. У людцоў і на полі робіцца, і дома парадак ідзе. *В. Старына.*

**Люлька,** і, *ж.*—1) курительная трубка. Мужчыны закурылі люлькі ды пачалі гаманіць. — 2) колыбель. Дзіця хай пасядзіць у люльца. *В. Старына.*

**Люля,** і, *ж. (дзіцяч.)*—колыбель. Ідзі, дзеткі, ў люлю спаць! *В. Старына.*

**Люляць,** *дзс.*—колыхать. Памаленьку люляй дзіця, ня качай моцна. *В. Старына.*

**Люстэрак,** рка, *м.*, **люстэрка,** і, *ж.*— зеркало. Вечна пазіралася-б яна ў люстэрак! *В. Старына.* Палядзіся ў люстэрку, які ты харошы: ік абязьяна! *В. Дукоршчына, Сьміл. р.*

**Люты,** *прм.* — лютый, раз'яренный. Ня чалавек ты, а зьвер люты. Кідаяцца да малога, ік зьвер той люты. *В. Старына.*

**Ля,** *прыйм.* — сокр. **каля** = около. Садзіся ля міне. *В. Старына.*

**Лявоніха,** і, *ж.* — танец. Лявоніху йграй нам, а полькі ня хочам. *В. Старына.*

**Ляворвар,** а, *м.*— револьвер. З ляворвара стрэліў. *В. Старына.*

**Лягота,** ы, *ж.*—льгота. Па лягоця ў салдаты ня пашоў. Сяголята шмат каму далі ляготы с прыдналогам. *В. Старына.*

**Лягчаць,** *дзс.*—кастрировать. Будам лягчаць свайго жарабка. *В. Старына.*

**Лягчэй,** *прс. в. ст.* — легче. Бяры што лягчэй несьці. *В. Старына.*

**Лядашты,** *прм.*—скверный, плохой, неудачный. Лядашты наш лён — ня ўдоўся. Лядаштая твая работа. *В. Старына.*

**Лядаяк,** *прс.* (*польск.* lada-jak) — неудобно, нехорошо. Хоць ты й сын, але троха лядаяк, што сам бярэш маё сена. *В. Старына.*

**Лядыш,** а̀, *м.*—кусок льда. Узёў ды шпурляяцца лядышамі. *В. Старына.*

**Ляжак,** а̀. *м.* — лежак печи на чердаке. Дыміць наш ляжак. *В. Старына.*

**Ляжанка, ляжайка,** і, *ж.* — выступ печи для лежанья; имеет свою отдельную топку. Дзед сьпіць на ляжанца. Трэба прапаліць у ляжайца. *В. Старына.*

**Лязо,** а̀, *н.*—лезвие. У брыцьвя пашчарбілася лязо. *В. Старына.*

**Ляйцаць,** *дзс.*—вожжать. Ты бяры ляйцай каня, а я па сена пайду. *В. Старына.*

**Ляйчына,** ы̀, *ж.*—вожжа. Ляйчыною падгані каня. *В. Старына.*

**Лякацца,** *дзс.* (*польск.* lękać się)— пугаться. Ня лякайся: буду страляць. *В. Старына.*

**Лялька,** і, *ж.*, **ляля,** і, *ж. (дзіц.)*— кукла. Дзеці гуляюць у лялькі. Конь, ік лялька. Ня плач: на, лялю. *В. Старына.*

**Лямец,** ля̀мца, *м.* — войлок. Воўну звалілі на ля̀мяц. *В. Старына.*

**Лямцовы,** *прм.* — войлочный. Дзед ходзіць у лямцовуй шапца. *В. Старына.*

**Лямцоўка,** і *ж.*—войлочная шапка. І летам, і зімою цягая лямцоўку. *В. Старына.*

**Лямячнік,** а, *м.*—мастер по выделке войлока, валенок и пр. Па сяле ходзяць лямячнікі, — трэба й к сабе пазваць. *В. Старына.*

**Лянпа,** ы, *ж.*—лампа. Закурала лянпа, дык і ня гарыць добра. *В. Старына.*

**Ляны,** *прм.* — ленивый (о лошади). Сьцерва, кабыла саўсім ляная: бяз пугі й слухаць ня хоча. *В. Старына.*

**Ляпа,** ы, *ж.*—насм.,—широкий рот. Ік воўк, расчыніў сваю ляпу. *В. Старына.*

**Ляпайла,** ы, *аг.*—говорящий вздор. Нечага слухаць етага ляпайлу, што ён маніць. *В. Старына.*

**Ляпаць,** *дзс.* (*зак.* **ляпнуць**)—1) стучать чем-либо плоским. Ня ляпай ты дзьвярамі. — 2) говорить вздор. Яму што: абы ляпаць языком. От дурань: ляпнаў, а ціпер і сам ня рад! *В. Старына.*

**Ляпеш,** ляпяшá, *м.*—опреснок. Сягодні німа хлеба, дык сьпякла ляпеш. *В. Запярыньне, Пух. р.*

**Ляпіць** *дзс.*—(о снеге) падать большими хлопьями. Сьнег лепіць—сьвету божага ня відаць. *В. Старына.*

**Ляпнуцца,** *дзс.* — шлёпнуться. Ляпнаўся пузам у гразь. *В. Старына.*

**Лярва,** ы, *ж.* (*лаянка*) — стерва. Лярву ету, кабылу, і ня ўкарміць. *В. Старына.*

**Лясёнка,** і, *ж.* — небольшая простынька с плетеными по углам концами; для ношения травы и проч. Нажала лясёнку травы каровам. Пазьбірай трэскі ў лясёнку. *В. Старына.*

**Ляскаць,** *дзс.* (*зак.* **ляснуць**) — 1) щелкать, трещать. Ляская зубамі, ік воўк. Ляская пугаю.— 2) трескать, лопать. Ляснаў камінок у лянпя. *В. Старына.*

**Лясь!** *выкл.*—шлёп, тресь. Лясь яму па мордзя раз, другі!.. Толька запалілі лянпу — камінок атразу лясь! *В. Старына.*

**Лясьнік,** à, *м.* — лесной сторож. Лясьнік па'дбіроў тапарэ ў мужчын у леся. *В. Старына.*

**Лясьнічыха,** і, *ж.* — жена лесника. Лясьніка дома ня было, а лясьнічыха. *В. Старына.*

**Ляўша,** ы, *ж.* — левая рука, работающая лучше правой. Бяры сваею ляўшою. *В. Старына.*

**Ляўшун,** à, *м.*—левша. Ляўшун робіць толька леваю рукою, а ня праваю. *В. Старына.*

**Ляцець,** *дзс.* 1) лететь. Ляцяць дзікія гусі. Птушкі лèцяць з выраю.—2) быстро итти, бежать. Куды ты ляціш? *В. Старына. (Пр.* **Лётаць**).

**Ляшчотка,** і, *ж.*—пощёчина. Маўчы, дзяціна, ато заробіш ляшчотак. *В. Старына.*

## М.

**Ма'быць,** *прс.* — может быть. Сягоньня, ма' быць, будзя дождж. *В. Старына.*

**Мага,** і, *ж.* — возможность. Бяжы, як мага, хутчэй. *В. Старына.*

**Магнэс,** у, *м,*—магнит. Ік магнэсам, цягня яго туды. *В. Старына.*

**Магчы,** *дзс.*—мочь. Калі буду магчы, дык зраблю. *В. Старына.*

**Мадыгавацца,** *дзс.* — выделываться, кривляться. Ах як мадыгуяцца, чуць на галаве ня ходзіць! *С. Навасёлкі, Пух. р.*

**Маёнтак,** тку, *м.* (*польск.* majątek)— имение. Пан уцёк із свайго маёнтку, ік прышлі бальшавіке. *В. Старына.*

**Мазаць** *блінэ,* — смазывать горячие блины топленым салом или маслом. Дзеці вельма любяць мазаць блінэ. *В. Старына.*

**Мазгаўня,** і, *ж.* — голова (презр.). Мазгаўня твая дурная! *В. Старына..*

**Мазге,** оў, *мн.*—мозг. Расквасіў галаву, аж мазге пацяклі. *В. Старына.*

**Маздан,** а, *м.* (*польск.* mazgaj) — глупая голова. От маздан дурны: паламоў етакая добрая пугаўё! Нашто-ж ты слухаўся етага маздана дурнога?! *В. Старына.*

**Мазуль,** я, *м.* — мозоль. Мазуль намуляў на назе. *В. Скрыль, Пух. р.*

**Мазур,** а, *м.* — замараха. Мазур ты, ізноў умазаўся, ік той чорт! *В. Старына.*

**Май,** ю, *м.*—1) месяц май. Халодны сяголята май. Май—коням сена дай, сам на печ уцякай. *Прык.*— 2) зелень, которою убирают избы и дворы на троицын день. Наламалі маю хату прыбіраць. Хлапцэ пашлі ў май (знач., в лес нарезать зелени). *В. Старына.*

**Майстраваць,** *дзс.*—мастерить, устраивать. Лукаш майструя калёса. Троха што-небудзь і сам умея майстраваць. *В. Старына.*

**Майсьцер,** а, *м.*—мастер. Ён майсьцяр на ўсе рукі. *В. Старына.*

**Макава расінка,** — малейшая крошка. Ашчэ макаваі расінкі ня было ў роця. *В. Старына.*

**Маказын,** у, *м.*—амбар с запасным хлебом; в до-революц. время „маказыны" были по волостных центрах. Хлеб з маказына нейкі тухлы. *В. Старына.*

**Макаўка,** і, *ж.* — верхушка дерева. Хвоя валілася ды трэснула яму по галавя макаўкаю. *В. Старына.*

**Макацёрт** трà, **макацер,** тра, *м.*— глиняная посудина для тёркі мака. Німа свайго макатра, у чом маку сьцерці. *В. Старына.* Цэлы макацяр нацерлі маку. *В. Скрыль, Пух. р.*

**Макрыца,** ы, *ж.*—мокрица (Stellaria media L). Макрыца заглушыла ўсю капусту. *В. Старына.*

**Макушка,** і, *ж.*—1) головка мака. Добры мак: вялікія макушкі.— 2) вершина дерева, горы. Узабраўся на самаю макушку.—3) верх головы. Трэснаў яму па макушца. *В. Старына.*

**Маладзеж,** ы, *ж.*—молодежь. Уся маладзеж на вуліцы гуляя. *В. Старына.*

**Маладзейшы** *прм.* — 1) моложе. Ты-ж маладзейшы за міне на тры гадэ.—2) младший. Ён самы маладзейшы брат. *В. Старына.*

**Маладзёнак,** нка, *м.*—юноша, молокосос. Я-ж табе ня маладзёнак— жарты строіць з міне! *В. Старына.*

**Маладзік,** à, *м.* (*пам.* **маладзічок**)— новолуние. На том тыдні будзя наставаць маладзік. Настоў маладзічок. *В. Старына.*

**Маладзіковая** *нядзеля* — воскресенье во время новолуния. Хіба ўжо ў маладзіковаю надзельку схаджу ў цэркву. *В. Старына.*

**Маладзіца,** ы, *ж.* — молодая женщина. Вот Тэкля ўдалая маладзіца! *В. Старына.*

**Маладняк,** à, *м.* — молодой лесок, поросль. Маладняк узёўся добра расьці, за гадоў колька й будзя лес. *В. Старына.*

**Маладосьць,** і, *ж.* — молодость. Загубіў ты маю маладосьць. Каб табе горкая маладосьць была! *В. Старына.*

**Маладуха,** і, *ж.* — молодая женщина, молодайка. Маладуха наша нешта зразу стала хвост аткідаць. *В. Старына.*

**Малады,-дая,** *прым. у сенсе ім.*— жених, невеста. Малады стройны, ну й маладая-ж стройная! *В. Старына.*

**Малайчына,** ы, *м.*—молодчина. Малайчына ты, калі так! *В. Старына.*

**Мала-мала,** *прс.*—слишком немного, ничтожное количество. А мала-мала што ня хапая. *В. Старына.*

**Маланка,** і, *ж.*—молния. Спачатку маланка блісьня, а патом пярун ік задасьць!.. *В. Старына.* Ня грому бойся, а маланкі. *Прык. В. Дайнава, Пух. р.*

**Маласьціна,** ы, *ж.* — малость. Маласьціны чаго тут і ня хапая. *В. Старына.*

**Малатарня,** і, *ж.* — 1) молотилка. Добра ў каго ё свая малатарня: ня трэба цягацца з дабром па чужых гумнах. — 2) переносно: говорун,-нья. Сьціхні ты малатарня: ляпая ды ляпая цэлы дзень языком! *В. Старына.*

**Малаток,** ткà, *м.*—молоток. Дай малатка цьвіх забіць. *В. Старына.*

**Малаціць** *языком,* — пустословить, болтать. Малоціць языком, ік тая малатарня. *В. Старына.*

**Малацьбіт**, а̀, *м.* — рабочий, занимающийся молотьбою; перен. сильный мужчина. Ого, етакі малацьбіт: ён за дваіх панясе! *В. Старына.*

**Малачай**, ю, *м.* — 1) трава молочай малый (Euphorbia exigua L.). Назьбірай сьвіньням малачаю. Бабы пашлі ў малачай.—2) болезнь у детей—молочница. Дзіця захварэла на малачай. *В. Старына.*

**Мала што**, *прс.* — мало ли что, пустяки. Мала што людзі брэшуць! *В. Старына.*

**Маленства**, а, *н.*—детство, малолетство. Ён ашчэ з маленства ік пашоў з дому, дык аж даетуль ня чуць, дзе знаходзіцца *В. Старына.*

**Малец**, льца, *м.* — подросток, паренёк. Сямён ужо ладны маляц. А чый-жа ета маляц? *В. Старына.*

**Маліставаць**, *дзс.* — старательно, усиленно просить. Нечага маліставаць: уся роўна ня дам. *В. Старына.*

**Малітан**, у, *м.* = *літ.* **мультан** — бумазея. Набрала на спадніцу малітану. *В. Старына.*

**Малітанавы**, *прм.* — бумазейный. Малітанавая катанка. *В. Старына.*

**Маліцца**, *дзс.*—молиться. Нашто нам богу маліцца, калі ён нас баіцца? *Прык. С. Навасёлкі, Пух. р.*

**Малка**, *прс.*—малое количество, ничтожество. Бяз малка тры рубле выдаў на месьця. *В. Старына.*

**Мална**, ы̀, *м.* — татарский мулла. Вэнь мална галёкая з бажніцы. *В. Старына.*

**Малодзіва**, а, *н.*—молозиво. Напяклі малодзіва. *В. Старына.*

**Малоць** *языком,—гл.* **Малаціць** *языком.* Меля баба языком. *В. Старына.*

**Малы**, *прм.*—малый; служ. обращением к детям и лошади с ласкою. Малога палажы ў люльку. Малыя, пашлі ат'етуль вон! Но, малы, варушыся! *В. Старына.*

**Малюпанькі**, *прм.* — малёхонький. Нейдзя выпараў малюпанькага грыбка. *В. Старына.*

**Мамка** і, *ж.*—ласк. от **мама**, **маці**. Ня плач: мамка прыдзя, дасьцьесьці. *В. Старына.*

**Мана**, ы, *ж.*—вранье, ложь. Ета-ж мана, няпроўда! *В. Старына.*

**Манаткі**, аў, *мн.*—домашний скарб. Сабірай свае манаткі ды выбірайся вон! *В. Старына.*

**Манашка**, і, *ж.*—монашка. Што ета за дзеўка: сядзіць у хаця, ік тая манашка,—вышла-б да пагуляла! *В. Старына.*

**Мандраваць**, *дзс.* = *літ.* **вандраваць**, — кочевать, путешествовать; расхаживать. Мандруя цэлы дзень с кутка ў куток. *В. Старына.*

**Мандрымоны**, аў, *мн.* — излишне выдуманное (в еде, одежде и пр.). Ня люблю я тваіх мандрымонаў! *В. Старына.*

**Манеж**, а, *м.*—пристройка при току, в которой лошади вертят привод молотилки. Сяргей у манежы паганяя коні. *В. Старына.*

**Манежыць**, *дзс.* — школить. Годзя табе манежыць каня свайго! *В. Старына.*

**Маніць**, *дзс.* — 1) врать, лгать. Маніць, як шыя. *Прык. В. Скрыль, Пух. р.* — 2) подзывать собаку. На што маніш чужога сабаку? *В. Старына.*

**Мань**, я, *аг.*, **маньцель**, я̀, *м.*, **манюка**, і, *аг.,* — лгун, обманщик. Мань ты нясусьветны, што ты плявузгаяш?! Вот дзе маньцель: маніць і ня чырванея! Маніш ты, манюка! *В. Старына.*

**Маньцелька**, і, *ж.* — лгунья, обманщица. Ня слухайця, дзевачкі етаі маньцелькі: маніць яна вам! *В. Старына.*

**Мара**, ы̀, *ж.*—1) привидение. Згінь ты, мара, прападзі!—2) навязчивый. Атчапіся ты ат міне, мара ты! *В. Старына.*

**Маракаваць**, *дзс.* — 1) обдумывать, прикидывать в уме. Як ты маракуяш: што тут нам рабіць? — 2) нарекать, обижаться. Напрасна ты на міне маракуяш: я тут ні пры чом. *В. Старына.*

**Марац,** ма́рца, *м.* — месяц март. Сьцюдзёны марац. Прайшла ўжо палавіна марца. *В. Старына.*

**Марацъ, -цца,** *дзс.*—1) марать, -ться. Ня марай ты рук. Вельма-ж мараяцца адзежа пры етуй рабоця. —2) испражняться (о ребенке). Нешта часта дзіця мараяцца: ці ня жывоцік баліць? *В. Старына.*

**Марачыцца,** *дзс.* — утомлять сознание, затуманивать его. Даволяй табе ўжо марачыцца над етымі кніжкамі! *В. Старына.*

**Марачыць,** *дзс.* —1) дурить. Кінь ты, чалавеча, марачыць галаву мне!— 2) приставать с просьбою или разговорами. Вот марочыць чалавек: пазыч яму грошай, а іх і ў самога німа. *В. Старына.*

**Мардавацца,** *дзс.*—утомляться, мучиться работою. Ня мардуйся адзін: я пасоблю. *В. Старына.*

**Мардасы,** аў, *мн.* — презр., лицо, рожа. Ня лезь, дам па мардасах! *В. Старына.*

**Мардаты,** *прм.* — толстомордый. Мардаты, ік татарын. *В. Старына.*

**Маркач,** а̀, *м.* — баран производитель. Ну й худыя-ж баранэ маркачэ! *В. Раўнапольле, Сьміл.* р.

**Маркотна,** *прс.* — грустно. Не'к маркотна мне сягоньня. *В. Старына.*

**Маркоціцца** *дзс.* — грустить. Годзя табе ўжо маркоціцца: бяжы на вуліцу, пагуляй. *В. Старына.*

**Мармытаць,** *дзс.* — бормотать. Мармоча нешта сабе пад нос, ік мядзьведзь. *В. Старына.*

**Марнавацъ, -цца,** *дзс.*—1) портить, -ться, приходить в негодное состояние. Ня марнуй ты свае адзежы, ня кідай абы-дзе! Пры етакуй рабоця шмат марнуяцца дабра дарам. — 2) убивать время. Толька час с табою марную дарам. Шкода толька таго часу, што дарам марнуяцца. *В. Старына.*

**Марнець,** *дзс.* — становиться болезненным, худым. Марнея дзеўка, седзячы ў бацькоў. *В. Старына.*

**Марня,** *прс.* — напрасно, без пользы. Марня ўсё гіня, прападая. *В. Старына.*

**Марсануць,** *дзс.* — быстро удрать, как взвидеть. Як марсане—толька й бачыў!.. *В. Старына.*

**Марскаць,** *дзс.* — быстро бросать что-н. мелкое. Памалу сей ты, ня марскай етак. *В. Старына.*

**Марудзіць** *дзс.* — медлить, оттягивать время. Ну, ня марудзь мне часу, давай работу! *В. Старына.*

**Марудна,** *прс.*—затруднительно, медлительно. Аднаму троха марудна каціць камянь. Тонкія ніткі—дык марудна рабіць панчохі. *В. Старына.*

**Марцаваць,** *дзс.*—бегать весною в марте (о котах). Кот марцуя: крычыць нейдзя на гары. *В. Старына.*

**Маскаль,** я̀, *м.*—солдат. Наш дзядзька служыў у маскалёх. *В. Старына.*

**Маслачка,** а, *н.* — маслице. Якоя жоўцінькая маслачка! *В. Старына.*

**Масьлёнка,** і, *ж.*—молоко без жиров, что остается после сбивания масла. Дзецям дай масьлёнку, хай ядуць с хлебам. *В. Старына.*

**Масьляк,** а̀, *м. (пам.* **масьлячок**)— гриб масляник. Папаліся мне адны масьляке. Масьлячка знашоў. *В. Старына.*

**Масьціцца,** *дзс.* — пристраиваться сесть. Куды ты мосьцісься: тут німа табе места. *В. Старына.*

**Масьціць,** *дзс.*—1) устилать мостовую или пол. Юрай гвозьдзіць, а Мікола мосьціць. *Прык.* Будам масьціць свае сенцы.—2) устраивать сиденье в телеге. Масьці добрая сядзеньня, каб мякка было ехаць.—3) ставить, укладывать к.-л. предмет в тесноте. Куды ты мосьціш жбанок? тут і так цесна. Німа ўжо куды боляй масьціць у падмурак каменьня. *В. Старына.*

**Масьць,** і, *ж.* — 1) мазь. Хвэльчар доў жоўтаі масьці. — 2) масть-окраска. Жарабок чорнаі масьці. Якоі масьці ваша карова? *В. Старына.*

**Масяндзовы,** *прм.*—бронзовый. У папружца масяндзовая спражка. Масяндзовы пярсьцёнак. *В. Старына.*

**Мата,** ы, *ж.* — циновка из соломы, пучки которой перевязаны веревочками; зимой навешивается на окна и на двери. Сплёў на вокна мату. *В. Старына.*

**Матавіла,** а *н.*—мотовило. Зьвілі ніткі на матавіла. *В. Старына.* (*Пр.* Дзядок).

**Матарыял,** у, *м.* — материал, преимуществ. плотницкий. Давайця толька матэрыял, а за намі работа стаяць ня будзя. На хату ня хапіла матэрыялу. *В. Старына.*

**Матачка,** і, *ж.* — ласк. от **маці.** А мае-ж вы матачкі, што-ж ета будзя?! *В. Старына.*

**Маташ(ч)нік,** а, *м.*—маленькая клеточка для засаживания пойманной пчелиной матки. Матку заперлі ў маташнік. *В. Лядцо, Пух. р.* Матка ўцякла з матачніка. *В. Старына.*

**Матка,** і, *ж.*—ласк. от **маці.** Ніхто так ня дагледзіць свайго дзіцяці, ік родная матка. У каго матка, у таго галоўка гладка. *Прык. В. Старына.*

**Маток,** тка, *м.*—моток (ниток). Ніткі сохнуць у маткох. Зьві ніткі ў маток. *В. Старына.*

**Матузок,** зка, *м.*—уменьш. от **мотуз.** Падпяражыся хоць якім матузком. *В. Старына.*

**Матушка,** і, *ж.*—матушка (попадья) Тоўстая ў нашага папа матушка! *В. Старына.*

**Матыка,** і, *ж.*—мотыга. Зламалася матыка, абкідаючы картоплю. *В. Старына.*

**Матыліца,** ы, *ж.*—1) ночная бабочка. С травы выляцяла матыліца.—2) болезнь печени у овец и крупн. рогатого скота. (Distomatosis). Усе авечкі пахварэлі на матыліцу. *В. Старына.*

**Матыль,** я, *м.* — бабочка. Матылёў чоршта лётая на'гародзя. Злавіў матыля. *В. Старына.*

**Маўчаць,** *дзс.*—молчать. Усе маўчаць, ік вароны. Маўчыць, ік у рот вады наброўшы. *В. Старына.*

**Мах,** у, *м.*—промах. Ня дасьць ён маху ніколі. *В. Старына.*

**Махавік,** а, *м.* — гриб моховик. Дар'я назьбірала кошык махавікоў. *В. Старына.*

**Махала,** а, *н.* — предмет для отмахивания. От-жа куры лезуць у грады: хоць ты махалам на іх махай. *В. Старына.*

**Махар,** а, *м.* — обманщик, плут. Глядзі еты махар абдуя цібе, 'к відзіш. Нашоўся етакі-то махар! *В. Старына.*

**Махляваць,** *дзс.*—плутовать. Нечага махляваць: колька старгаваліся, дык і плаці. *В. Старына.*

**Махляр,** а, *м.* — плут. Глядзі, чалавеча, каб еты махляр цібе ня падвёў *В. Старына.*

**Махні-драла,**—дать стрекача. Усе папужаліся, а ён махні-драла. *В. Старына.*

**Махорка,** і, *ж.*—махорка. Дай закурыць махоркі. *В. Старына.*

**Махрэ,** оў, *мн.*—гвоздика пышная (Dianthus superbus L.). *В. Узгорак, Пух. р.*

**Мацак,** а, *м.*—крепкое яйцо, которым разбивают другие яйца во время забавы на пасху „біць яйца". Я сваім мацаком выбіў аж дзесяць яец. Дай пакуштаць свайго мацака. *В. Старына.*

**Мацаць, -цца** *дзс.* — щупать, -ться. Нечага мацаць, і так відаць. Хлопцы мацаюцца з дзеўкамі. *В. Старына.*

**Маці,** і, *ж.* — мать. Маці хоча, каб дачку замуж аддаць. Папрасі, хай маці дасьць есьці. *В. Старына.*

**Мацілінне,** я, *н.* — тонкая, лёгкая, как паутина, ткань. Ета мацілінья ня будзя цібе грэць. Людзкага чаго яна набрала: нейкага маціліньня. *В Старына.*

**Маціяша,** ы, *м.* — мессия; насмешл., еврейский новорожденный. Марголя радзіла маціяшу. *В. Старына.*

**Мацней,** *прс. в. ст.*—сильнее. Мацней крыкні, дык пачуюць. *В. Старына.*

**Мацнейшы**, *прм. в. ст.* — самый сильный. Яго голас мацнейшы ад усіх *В. Старына*.

**Мацунак**, нку, *м. (польск.* mocunek)— мощность, крепость. Во ета дык мацунак: ніякая сіла ня возьмя. *В. Старына.*

**Мачаньне**, я, *н.* — особый соус из сала кусочками в разболтанной муке. Добра наеўся мачаньня з блінамі. *В. Старына.*

**Мачыха**, і, *ж.*—мачиха. Кепска етым сіроткам жыць пры мачыся. *В. Старына.*

**Машонка**, і, *ж.*—мошна. Хто сьпіць да сонца, у таго хлеб у машонца. *Прык. В. Загай, Пух. р.*

**Машына**, ы, *ж.*—1) машина в обыкн. знач. Немцы выдумалі новаю машыну. —2) ж.-дор. поезд, чугунка. Машынаю хутчэй ехаць. *В. Старына.*

**Машыраваць**, *дзс.* — маршировать. Вунь салдаты машыруюць. *В. Старына.*

**Машэнства**, а, *н.* — мошенничество. От пашло на сьвеця машэнства, проста бяда! *В. Старына.*

**Мезяны палец**,—мизинец. Парэзала сярпом мезяны паляц. *В. Старына.*

**Меньне**, я, *н. (польск.* mienie) — имущество. Хай вам бог дасьць усякага меньня! *В. Старына.*

**Меняй**, *прс.* — меньше. Каму досталося боляй, а каму меняй. *В. Старына.*

**Мерг(к)аваць**, **-цца**, *дзс.*—1) прикидывать в уме, соображать. Мяргуй, каб усім добра было. *В. Старына.* Усё мяркуя, як гэта зрабіць. *В. Слопішча, Шацк. р.*— 2) разделываться с кем. Самі мяргуйцяся, мужчыны, каб нікому крыўды ня была! *В. Старына.*

**Мерзьці**, *дзс.*—мерзнуть. Такі дурны; будзя мерзьці на дварэ, а ў хату ня зойдзя пагрэцца. *В. Старына.*

**Мерка**, і, *ж.*—1) мера. Скупая твая мерка.—2) сантиметр, измерительная лента портного. Кравец зьнімая мерку. *В. Старына.*

**Меркітавсць**, *дзс.* — говорится об овцах, когда они принимают баранов производителей. Авечкі ўжо мяркітуюць. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Меркятаць**, *дзс.*—кричать подобно малому болотному бекасу ("баранку"). Ых, як мяркеча дзікі баранок! *В. Раўнапольле, Сьміл. р.*

**Места**, а, *н.*—1) место. Ета маё места, ня садзіся тут. — 2) местечко. У ету нядзелю на месьця быў вялікі кірмаш. *В. Старына.*

**Местачковы**, *прм.* — относящийся к местечку. Мястачковыя ўсё раскуплялі ў капярацівя, а сялавым нічога й ня'сталося. *В. Старына.*

**Месяц**, а, *м. (пам.* **месячык**) — луна. Ашчэ ня ўзышоў месяц. Сьвеціць месячык. *В. Старына.*

**Месячны**, *прм.*—лунный. Месячная ноч: добра відна. *В. Старына.*

**Мех**, а, *(пам.* **мяшэчак**)—1) мешок. Насыпаў мех жыта на продаж. Мяшэчак круп зрабіў. Пазавязвай мяхе добра.—2) неповоротливый человек. Мех еты сеў — дык і прыкіпеў. *В. Старына.*

**Мецца, (маюся, маесься)**, *дзс.*—1) поживать, чувствовать себя, здравствовать. Як жа вы маяцяся: ці здаровы? *В. Старына.*—2) намереваться, иметь в виду что-либо сделать. Меўся ў лес ехаць, да німа як. *В. Старына.*

**Мець, (маю, маеш)** *дзс.* — иметь. Трэба сваё мець начыньня, каб ня хадзіць к людзям. Што маю, то й даю. *В. Старына.* Мею цэлага чырвонца. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Мець** *вока на каго*—сердиться. Я маю на цібе вока: ня буду с табою гаварыць. *В. Старына.*

**Мешалка**, і, *ж.*—деревянная узкая лопата для размешивания теста свиньям. Уцякай, ато мешалкаю дам па нагах! *В. Старына.*

**Мешанка**, і, *ж.*—корм для коров, состоящий из перемешанных картофеля и мякины. Карова цэлаю зімку стаіць над мешанкаю. *В. Старына.*

**Мігацець, мігцець,** *дзс.*—ярко блестеть; сверкать. Пачысьцілі самавар — аж мігціць. Зорка мігаціць. *В. Старына.*

**Мігт,** у, *м.*—миг. У вадзін мігт зрабіў. *В. Старына.*

**Між,** *прыйм. з творн. скл.*—между. Міжградамі й каноплямі пасеям бобу. Хай ета будзя між намі, каб боляй ніхто ня ведаў. *В. Старына.*

**Міжыкалядзь,** і, *ж.* — святки от рождества до крещения; в это время бывает много примет относительно работы и удачи в хозяйстве, в скоте. На міжыкалядзь ня можна шыць. На міжыкалядзь увечара ня можна прасьці. *В. Старына.*

**Мізэра,** ы, *аг.* (*лацінск.* miser) — жалкий, худой. Вот урадзіласі мізэра! *В. Крамяні, Пух. р.*

**Мізэрны,** *прм.* — жалкий, худой. Якоя-ж мізэрная дзіцянё! *В. Старына.*

**Мікаць,** *дзс.* (*зак.* **мікнуць**) — запинаться, неясно говорить. Ня вучыся, ік цялё, мікаць. Нешта мікнаў ён, я й нічога ня панёў. *В. Старына.*

**Міласьлівы,** *прм.*—милостивый. Такая добрая міласьлівая кабета! *В. Старына.*

**Міласэрдзе,** я, *н.*—милосердие. Кат ты: німа ў цібе міласэрдзя. Сястра міласэрдзя. *В. Старына.*

**Міліца,** ы, *м.*—милиция. Пайду заяўлю на цібе ў міліцу. Міліца цібе арыштуя. *В. Старына.*

**Мілка,** і, *ж.* — милочка. Мілка' ты мая! *В. Старына.*

**Мілы,** *прм.* (*скар.* **міл**) — милый Мілы ён чалавек, мілая жанчына. Воўку і куст міл. *Прык. В. Загай, Пух. р.*

**Мількаць,** *дзс.* (*зак.* **мількнуць**)— мелькать. Мількая нештá, а ня разабраць, што яно. Нешта мількнула ў кустох: мо' часам воўк. *В. Старына.*

**Мінаць,** *дзс.* (*зак.* **мінуць**) — миновать. Нікога ня буду мінаць, к усім буду заходзіць. Добра, каб мінула нас ета ліха! *В. Старына.*

**Міндаль,** ѝ, *м.*—медаль. Пачапіў на грудзі залаты міндаль. У яго ўсе грудзі ў міндалёх. *В. Старына.*

**Мініськер,** а, *м.*—министр. Ня дапускалі дзўней ня толька да цара, а й да мініськера. Шалёны быў нейкі мініськер. *В. Старына.*

**Мінтрэга,** і, *ж.* (*польск.* mitręga)— задержка, тревога. Паднялі мінтрэгу на ўсё сяло. *В. Старына.*

**Мінтрэжыць,-цца,** *дзс.* (*польск.* mitręźyć)—тревожить,-ться. Нашто мінтрэжыць хворага чалавека? Німа чаго тут лішня мінтрэжыцца. *В. Старына.*

**Мінуціна,** ы, *ж,*—увел. от минута. І мінуціны німа яму, каб сесьці ды пасядзець. *В. Старына.*

**Мінуцінка,** і, *ж.*—уменьш. от минута. Вот пачакай адну мінуцінку, я зараз кончу рабіць ды пойдам разам. *В. Старына.*

**Мінушкі,** шак, *мн.* — селезёночник (Chrysosplenium alternifolium L). *В. Блужа, Пух. р.*

**Мір,** у, *м.*—1) мир—покой. Зараз вайна кончыцца, тады зробяць мір.—2) громадное собрание народа. Ета-ж мір народу саброўся. *В. Старына.*

**Міраваньне,** я, *н.*—помазание миром. Сягоньня на вячэрні будзя міраваньня. *С. Дукора, Сьміл. р.*

**Маравацъ,-цца,** *дзс.* — помазывать, -ться миром. Поп ік стоў міраваць, дык ён і ўцёк, ня захацеў міравацца. *В. Старына.*

**Міравіны,** н, *мн.*—мировая. Давай зробім міравіны, ды ня будам боляй сварыцца. *В. Старына.*

**Міргаць,** *дзс.* (*зак.* **міргнуць**) — 1) моргать. Ня міргай ты часта вачамі. Міргнуць вокам ня ўсьпеў, ік ён ужо тут.—2) давать знаки морганьем. А ён збоку стаіць ды міргая мне, каб я маўчоў. *В. Старына.*

**Міса,** ы, **міска,** і, *ж,*—миска. У міся падала на стол яешню. Ізьзёў міску булёну. *В. Старына.*

**Місюгін,** а, *м.* (*з яўрэйск.*)—сумашедший. Місюгін еты халерны ашчэ хацеў падманіць міне! *В. Старына.*

**Мітусіцца**, *дзс.*—1) рябить в глазах. Уваччу мітусіцца—нічога ня бачу.—2) суетиться. Бегая, мітусіцца па хаця. *В. Старына.*

**Міханоша, ы,** *м.*—носильщик мешка с собранным подаянием, когда „каня водзяць", „казу водзяць", а также и при „валачобніках". Назьбіралі шмат, аж міханоша замарыўся. *В. Старына.*

**Млець**, *дзс.*— обмирать, млеть. Аж млея баба, ік убачыла свайго мужыка. *В. Старына.*

**Млечны**, *прм.*—молочный. Добрая, млечная карова іх. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Мліва**, а, *н.* — молотьё. За мліва заплаціў хунтамі. Мала было мліва, дык, ік бачыш, змалоў сваё. *В. Старына.*

**Млосна**, *прс.*—дурно, тошно. Аж млосна робіцца ад гарачыні. *В. Старына.*

**Млосьць** і, *ж.* — расслабление. Млосьць нейкая, ня хочацца й крятацца. *В. Старына.*

**Млын**, у, *м.*—мельница. Павязу ў млын малоць. Шмат хурманак каля млыну: мусіць завозна. *В. Старына.*

**Млявасьць**, і, *ж.* — изнеможение от жары, истома. Горача, млявасьць бярэ, нічога ня хочацца рабіць. *В. Старына.*

**Млявы**, *прм.*—томный, расслабленный. Саўсім млявы зрабіўся, і з места падняцца ня магу. *В. Старына.*

**Мова**, ы, *ж.*—способность слова. Сымону отняло мовы: нічога ня гаворыць. Каб табе мовы заняло! *(кляцьба). В. Старына.*

**Могілкі**, лак. *мн.*—кладбище. Уночы страшна йці на могілкі. Каля могілак пасяліўся й ня баіцца. *В. Старына.*

**Мода**, ы, *ж.*—повадка. Папоў моду—чужую канюшыну травіць. Дурная ў яго мода: пастаянна ету папяросу цягня ды цягня. *В. Старына.*

**Можа**, *(скар.* **мо')** *прс.*—может быть, возможно. Можа й так добра будзя. А можа й мне пападзе рублёўка! Мо' й так, а ня ведаю. *В. Старына.*

**Мой, мая**, *займ.*—вместо выражений: мой мужык (муж), мая жонка (жена). А мой сягоньня паехаў у дрова. І мая-ж етак сама выдумая нейкаю паветру ды носіцца. *В. Старына.*

**Моль**, і, *ж.*—моль (Tinea). Моль у каморы чыста ўсю адзежу паела. *В. Старына.*

**Момант**, у, *м.*—момент. У момант усё гатова. *В. Старына.*

**Мора**, а, *н.* — море. Далёка туды ехаць, аж за мора. Добра коні ходзяць, ік па моры. *В. Старына.*

**Морг**, а, *м.*—мера земли=0,71 гк. =$^2/_3$ дзес. Яму на прырэзках папоўся морг добрага сянакосу. Пасеяў два марге жыта. *В. Старына.*

**Морда**, ы, *ж.*—1) морда животного. Калі кот напаскудзіць, дык вазьмі да мордаю вытаўчы тоя места, дык боляй ня будзя етак рабіць. У сабакі нашага маленькая морда.—2) физиономия, харя. Дай яму ў морду! Чаго ты крывіш сваю тоўстаю морду? *В. Старына.*

**Моркаўка**, і, *ж.*—морковь огородная (Daucus Carota L.). Парасла моркаўка, ік таўкачэ. *В. Раўнапольле, Сьміл. р.*

**Моршчыцца**, *дзс.*— морщиться. Чаго ты моршчысься: бяры ды еж. *В. Старына.*

**Мотар**, а, *м.*—палка для носки ушатов, ведер. Паламоўся мотар, нясучы цэбар. Маўчы, ато заробіш мотара! *В. Скрыль, Пух. р.*

**Моташна**, *прс.* — тошно, тоскливо. Галава баліць, дык і моташна. *В. Старына.*

**Мотуз**, а, *м.*—шнурок, отрезок веревки. Парвоўся ў прасьніцы мотуз. Мотузам атсьцёбаў малога. *В. Старына.*

**Моўчыкам**, *прс.*—молча. Сядзі моўчыкам, дык лепяй будзя. *В. Старына.*

**Моц**, ы, *ж.*—1) мощность, сила. Ня думайся, ён мая вялікаю моц: яго ўсе баяцца.—2) крепость. Квас увайшоў у самаю моц. *В. Старына.*

**Моцна,** *прс.* —1) сильно. Моцна выцяў, аж сіняк усхапіўся.—2) громко. Чытай моцна, каб усе чулі. —3) шибко. Коні бягуць моцна. *В. Старына.*

**Моцны,** *прм.*—мощный, сильный. Моцны стук. Моцны мой божа! — 2) крепкий. Моцны квас. *В. Старына.*

**Мошчаны,** *прм.*—с выстланным полом. У Базылёвых мошчаная хата. *В. Старына.*

**Мудраваньне,** я, *н.*—излишняя выдумка. Лішняя мудраваньня—дураваньня. *Прык. В. Старына.*

**Мудраваць,** *дзс.*—мудрить. Ня мудруй надта, рабі папросту. *В. Старына.*

**Мудрыцца,** *дзс.* — ухищряться. Ат пылу стала так цёмна, што як ні мудрыся — нічога ня ўбачыш. *В. Старына.*

**Мудрэй,** *прм. в. ст.*—мудрее. Мудрэй над яго ў нас нікога німа. Наш Андрэй усіх мудрэй. *Прык. Х. Самін, Пух р.*

**Мужчынка,** а, *м.* — ласк., мужчына. Глядзіця-ж, мужчынкі, каб прышлі ка мне на работу! Мужчынкі, памажыця ўскінуць мяхе на воз! *В. Старына.*

**Мужык,** à, *м.*—супруг, муж. Жонка й мужык—роўныя яны абоя. Здаровая яна баба: пяражыла двух мужыкоў. *В. Старына.*

**Музыка,** і, *м.*—музыкант. На йгрышча хлопцы нанялі музыку. На вясельлі ігралі два музыкі. *В. Старына.*

**Мука,** і, *ж.*— мученье. Адна мука з ім—ды годзя. *В. Старына.* Найдзяш мукі на сваю рукі. *Прык. В. Запярыньне, Пух. р.*

**Мука,** *і, ж.* (*пам.* **мучка**)—мука́. Калі мука цячэ, дык і няўмека сьпячэ. *Прык. Х. Самін, Пух р.* Белінькая наша мучка. *В. Старына.*

**Мукаць,** *дзс.*—мычать. Мукая галодная кароўка. *В. Старына.*

**Мулка,** *прс.* — 1) твердо, жестко. Мулка спаць на етум ложку.— 2) тяжело, трудно. Як яму мулка брацца за работу. Але як табе мулка ўставаць! *В. Старына.*

**Мульгацца, муляцца,** *дзс.*—тяготиться, не желать чего. Толька мульгаяцца, ік скажуць яму што рабіць. Нечага муляцца: табе дасталося, дык і бяры. *В. Старына.*

**Муляваць,** *дзс.* (*прм.* **муляваны**) — расписывать красками; рисовать. Пападзе які карандаш ці вугаль ды мулюя. Справіў муляваны вазок. Муляваныя лаўкі. *В. Старына.*

**Муляк,** á, *м.*—натёртое место. У каня на сьпіне ат кульбачак муляк. *В. Старына.*

**Муляр,** а, *м.* — печник. Трэба пазваць муляра печ пастроіць. *В. Старына.*

**Муляяцца,** *дзс. безас.* — очень хочется чего. Вот яму ўсё муляяцца: хочацца ета ўзяць. Ах, як табе муляяцца, каб уцячы с хаты! *В. Старына.*

**Муляць,** *дзс.*—натирать. Вот муляя нагу. *В. Старына.*

**Мур,** у, *м.*—1) каменная стена. Кругом вастрога высокі мур.—2) каменный дом. У муры жыць няздорава. *В. Старына.*

**Мураванка,** і, *ж.*—небольшая кирпичная постройка. У саўхозя пчолы на зіму ставяць у мураванку. *В. Старына.*

**Мураваны,** *прм.*—сделанный из кирпича, камня. У горадзя ўсе дамэ мураваныя. *В. Старына.*

**Мураваць,** *дзс.*—строить из кирпича, камня. Муруюць новыя казармы. *В. Старына.*

**Муражына,** ы, *ж.* (*пам.* **муражынка**)—луговое сено лучшего качества без примеси другой травы. Вот дзе добрая сена: адна муражына! Дай жарабяці муражынкі. *В. Старына. (Пр.* **Мурог).**

**Мураніца,** ы, *ж.*—кирпичный (каменный) дом. Панскаю мураніцу занялі пад школу. *В. Старына.*

**Мурашнік,** у, *м.*— муравейник. Ня 'глядзіўся ды лёг каля мурашніку. Скочыў у мурашнік з нагамі. *В. Старына.*

**Мурзаты,** *прм.*—с запачканным ли-

цом, губамі. Так і ходзіць малоя мурзатая. *В. Старына.*

**Мурзаць,-цца,** *дзс.*—марать, особенно лицо, губы. Ня мурзай ты рукавоў у мачаньня. Ня есьць, а толька мурзаяцца. *В. Старына.*

**Мурло,** а, *н.*—презр., толстое, здоровое лицо. Ых, дзе мурло! так і просіць цагліны. *В. Старына.*

**Мурог,** у. *м.—гл.* **Муражына.** Мурагу накасілі вазоў пяток. *В. Старына.*

**Мурожнае сена,** — лучшее луговое сено. Наш конь абы-якога сена ня есьць, толька мурожная. *В. Старына.*

**Мурцоўка,** і, *ж.*—яичница с мукою. Нагатавалі на сьнеданьня мурцоўкі. *В. Забалоцьце, Сьміл. р.*

**Мурын,** а, *м.*—негр, чорный человек. Умазаўся, ік той мурын. *В. Старына.*

**Мусіць,** *дзс.*—1) иметь необходимость. Нічога ня паробіш, мушу так рабіць, як ты хочаш. Уехалі ў такую гразь, што мусілі на сабе мяшкі пяраносіць. — 2) *дзс. безас.* — должно быть. Мусіць, будзе дождж. Мусіць, ета твая работа. *В. Старына.*

**Мут,** у, *м.*—муть, нечистота в жидкости. Ня пі вады, хай мут сойдзя. *В. Старына.*

**Мухамора,** ы, *ж.*—гриб мухомор. Трэба назьбіраць мухамораў, каб мух падавіць. *В. Старына.*

**Мучальнік,** а, *м.* (*жан.* **мучальніца**)—мученик. Вот дзе мучальнік: чаго ён толька ня нацярпеўся! Мучальніца яна, мучыцца весь век свой. *В. Старына.*

**Мучан,** á, *м.*—толокнянка обыкнов. (Arctostaphylos Uva ursi L). Боровая ягода, совершенно подобная бруснике; навар стебля с корнем дает чорную краску для льняной материи. Палатно ачарнілі ў мучане. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Муштра,** ы, *ж.*—муштра, проборка. Дасьць вам бацька муштры ўсім! *В. Старына.*

**Муштраваць,** *дзс.*—муштровать. Дзяцей ня шкодзіць муштраваць. Надта ты ўжо муштруяш сваю жонку. *В. Старына.*

**Мыза,** ы, *ж.*—рыло, рожа, морда, (бранное). За етакія словы палучыш у мызу! Так і заехаў яму ў мызу, нічога ня кажучы. *В. Старына.*

**Мыкаць,** *дзс.*—неразборчиво, невнятно говорить. Пыкая, мыкая,— і нічога ня разабраць. *В. Старына.*

**Мыліца,** ы, *ж.* — нога-деревяшка. На мыліцы ходзіць. *В. Старына.*

**Мыркаць,** *дзс.*—бормотать. Ня чуваць, што ты там мыркаяш. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Мысьлік,** а, *м.*—особая круглая стамеска для пробивания дыр в жести и тонком железе. Трэба мысьлікам набіць дзіркі ў бляся. *В. Старына.*

**Мысьляна,** *прс.* — мыслимо. Дзе-та мысьляна, каб за глупасьць плаціць шалёныя грошы! *В. Старына.*

**Мышаке,** коў, *мн.*—мышиные испражнения. У муцэ адны мышаке. *В. Старына.*

**Мышасты,** *прм.* (*пам.* **мышасьценькі**)—пепельный, как у мыши, цвет. Мышастая цялушка. Мышасьцянькі конік. *В. Старына.*

**Мэндлік,** а, *м.*—то же, что **Бабка** в 1-ом знач. Снапэ паставілі ў мэндлікі. *С. Навасёлкі, Пух. р.*

**Мэнчыць,-цца,** (*польск.* męczyć, męczyćsię) *дзс.* — сильно мучить, -ться. Ня мэнчы ты етага ката. Дзіця толька мэнчыцца бяз маткі. *В. Старына.*

**Мягнуць,** *дзс.*—сильно ударить чем по мягкой части тела. Мягнаў яму пад бок паленам, аж кеўкнаў. *В. Старына.*

**Мядзьвёдак,** дка, *м.*—1) медвежонок. Во ета шчанё тоўсьцінькая, ік мядзьвёдак. *В. Старына.*— 2) приспособление в виде рамы для вставки веретена с нитками, чтобы свивать их на клубок. Устаў пачынак у мядзьвёдак да ві. *В. Вострава, Сьміл. р.*

**Мядзьведзь,** я, *м,*—медведь. У нашум леся водзяцца й мядзьведзі. *В. Старына.*

**Мядніца,** ы, *ж.*—медный таз. Гальляш мыяцца ў мядніцы. *Пас. Дубраўка, Пух. р.*

**Мязг*а***, і, *ж.*—мезга, камбий. Ік ня было чаго есьці, дык елі даўней мязгу з яловаі кары. *В. Старына.*

**Мяккі**, *прм.* (*пам.* (**мякінькі**, *прс.* **мякка**) — мягкий. Добры, мяккі сяньнік. Мякінькая булка. Любіць, каб смашна есьці да мякка спаць. *В. Старына.*

**Мякчэй**, *прс. в. ст.*—мягче. Мякчэй сьцялі пасьцель. *В. Старына.*

**Мяла**, а, *н.*—1) пест. Даць яму кія й мяла—і таго ашчэ мала. *Прык. В. Старына.*—2) глупец, тупица. Мяла ты дурноя; ты-ж ня тоя робіш! *В. Старына.*

**Мяліца**, ы, *аг.*—большой глупец, тупица. От нейкая мяліца: нічога ня панімая, хоць ты яму ў лоб страляй. *В. Старына.*

**Мянёк**, мянька, *м.* — рыба налим (Lota). Налавіў цэлаю торбачку мяньkoў. *В. Старына.*

**Мянт*а*шка** і, *ж.* — особый брусок для точения косы, состоящий из деревянной пластинки, по обе стороны которой наклеен точильный песок. Мянташка ня бярэ касы. *В. Старына.*

**Мянт*а*шыць** кас*у*, — точить косу „мянташкаю“, быстро потягивая последнюю по обе стороны острия. Касу трэба ўмець, як мянташыць. *В. Старына.*

**Мяньц*і*ць** *языком,—гл.* **Малоць** *языком.* Меньціць баба языком ды й толька. *В. Старына.*

**Мяняць**, *дзс.*—менять, обменивать, Хто мяняя, у таго хамут гуляя. *Прык. С. Навасёлкі, Пух. р.*

**Мярзьляк**, а́, *м.*—1) мерзлый предмет. Картопля—адны мярзьляке.—2) зябкий. Вой які мярзьляк: у кажуху і то яму холадна! *В. Старына.*

**Мяртвы**, *прм.*—мертвый. Мяртвага зараз будуць прыбіраць ды класьці ў дамавіну. *В. Старына.*

**Мяртвых вял*і*кдзень**,—день радоницы. На мяртвых вялікдзень пойдам на могілкі. *В. Старына.*

**Мяс*і*ць,-цца**, *дзс.*—1) месить в обыкн. знач. Пара дзяжу мясіць. Цяжка месіцца цеста. —2) мять кого кулаками, ногами. Падаброў пад сібе ды давай мясіць кулакамі. Месіць яго ботамі. *В. Старына.*

**Мясьц*і*на**, ы, *ж.*—место. Добрая тут мясьціна: жыць можна. *В. Старына.*

**Мятл*і*ца**, ы, *ж.* — полевица обыкнов. (Agrostis vulgaris L). Мятліца—хлебу палавіца, а званец—хлебу канец. *Прык. С. Навасёлкі, Пух. р.*

**Мятлюк**, а̀, **мятлік**, а, *м.* — мятлик обыкнов. (Poa trivialis L) и луговой (Poa pratensis L). Пара ўжо касіць на кургане: мятлюк сохня. На ялавіня мятлік парос. *В. Старына.*

**Мятн*у*шка**, і, *ж.*—вербейник (Lysimachia vulgaris L). *С. Навасёлкі, Пух. р.*

**Мяцеліца**, ы, *ж.*—1) мятель. Усхадзілася вялікая мяцеліца—2) танец. Дзеўкі пашлі скакаць мяцеліцу. *В. Старына.*

**Мяш*а*нец**, нца, *м.*—человек, родившийся от родителей разных наций. Ажаніўся на цыганца — дзеці будуць мяшанцы. *В. Старына.*

**Мяш*а*ць**, *дзс.*—1) смешивать. Ня мяшай ўсяго ў вадну кучу.—2) пахать вторично. Пара ўжо мяшаць на ячмень.—3) мешать в работе. Ня мяшайця мне, дзеці! *В. Старына.*

# Н.

**На**; **н*а*це**, *выкл.* — на, бери; возмите. На, йзьзеш дульку. Наця вам ваша, і ня хочу вас боляй знаць. *В. Старына.*

**Наабір*а*ць**, *дзс.* — 1) начистить картофеля. На‘біралі картоплі на вячэру. — 2) нарвать вишен и пр. На‘біроў вішань з гарняц. *В. Старына.*

**Наадвар*о*т**, *прс.* — наоборот. На’тварот надзеў сіваму каню вобрыць. *В. Старына.*

**Набадзяцца,** *дзс.*—наволочиться. Набадзёўся ён па сьвеця шмат. *В. Старына.*

**Набегчы,** *дзс.* — 1) набежать на кого. Собіла яму набегчы на дзіця.— 2) перепасть в руки чему: деньгам и пр. Калі-ня-калі й набяжыць якая капейка. *В. Старына.*

**Набедавацца,** *дзс.*—натерпеться бед, горя. Набядавоўся чалавек бяз хлеба. *В. Старына.*

**Набердкі,** дак, *мн.* — шлея. Справіў сырымятныя набярдкі каню. Запрог хамут бяз набярдак. *В. Старына.*

**Набівацца,** *дзс.* *(зак.* **набіцца***)* — напрашиваться. Ашчэ с сваім даброи ды буду набівацца! Я ня прасіў яе, яна сама набілася мне с сваею работаю. *В. Старына.*

**Набіліцы, набілкі, набільніцы,** *мн.* — рамка для бёрда в кроснах. Зрабіў новянькія набіліцы ў кросна. *В. Крамяні, Пух. р.* Вузкія набілкі: бёрда ня лезя. *В. Старына.* Пакалоліся набільніцы, ткучы кросна. *В. Вострава, Сьміл. р.*

**Набіраць,** *дзс.* *(зак.* **набраць***)* — покупать материю. Паедам на места дзеўкам набіраць на катанкі. Наброў корту на штанэ. *В. Старына.*

**Набіцца,** *дзс.* — найти толпой. У хату набілася народу, аж ня пралезьці. *В. Старына.*

**Набіць,** *дзс.* — побить. За што ты набіў хлапца майго? *В. Старына.*

**Набліжацца,** *дзс.* *(зак.* **наблізіцца***)*— подходить близко (о предметах в большом количестве или одиночных, но громадных). Набліжаяцца войска. Саўсім наблізілася хмара. *В. Старына.*

**Наблудзіць,-цца,** *дзс.*—наблуждать, -ться. Ну й наблудзіліся мы ў лесся здорава, чуць на бераг выбіліся! Наблудзілі мы тую ноч, пакуль на дарогу ўзьбіліся. *В. Старына.*

**Наблутаць,** *дзс.* — напутать. Як ён зьвіў етыя ніткі на клубок: не'к наблутаў ды й толька! *В. Старына.*

**Набой,** ю, *м.* — заряд в огнестрельном оружии. Цэлы набой усадзіў у зайца. *В. Старына.*

**Набохацца,** *дзс.* — налопаться. Набохаўся, аж прэ з яго. *В. Старына.*

**Набраклы,** *прм.* — набухший. Набраклыя дрова, дык яны ня гараць. Набраклы дуб цяжкі. *В. Старына.*

**Набракці,** *дзс.* — набухнуть от воды, от сырости. Ня кідай дошчак на дварэ, а то могуць набракці. Набраклі дзьверы. *В. Старына.*

**Набрахаць,** *дзс.* — насплетничать. Чаго толька ня набрэшуць людзі! *В. Старына.*

**Набрацца,** *дзс.* — 1) много наесться. Наброўся, ік тая сьвіньня. Наброўся, ік жаба гразі. — 2) много потрудиться, нагореваться. От наброўся, пакуль прышоў дамоў па етакуй благой дарозя! Наброўся чалавек гора. *В. Старына.*

**Набрыдаць,** *дзс.* — сильно надоесть. Ну й набрыдаў-жа ты мне, чалавеча! *В. Старына.*

**Набрыняць,** *дзс.* — набухнуть от сырости. Дзьверы набрынялі, дык ня зачыняюцца. *В. Старына.* *(Пр.* **Набракці***).*

**Набурыць,** *дзс.* — намочить в постель. Хлапец набурыў у ложак. *В. Старына.*

**Навадзіцца,** *дзс.* — 1) много поводить кого. Навадзіўся я коняй, кароў наганёўся, і ўсяго нарабіўся. — 2) наесться чего жидкого. Навадзіўся сыты; навадзіўся кісялю. *В. Старына.*

**Навадзіць,** *дзс.* — 1) много поводить кого. Колька ты там навадзіў таго каня? — адно лета. — 2) налить, наполнить сосуды жидкостью до краев. Навадзілі міску журы. *В. Старына.*

**Наважыць,-цца,** *дзс.* — решить,-ться. Як наважыў, так і зрабіў. Наважыўся-такі паставіць на сваём. *В. Старына.*

**Навалаводзіць,-цца,** *дзс.*—наводить, навозиться. Навалаводзілі яны міне, пакуль я дабіўся свайго. Мала я навалаводзіўся з імі? *В. Старына.*

**Навалач,** ы, *ж.* — презр., — пришедший со стороны человек. Прыцяглася навалач на нашу галаву! *В. Старына.*

**Навалiць,** *дзс.* — 1) навалить. Цэлы двор навалiлi каменьня. — 2) намарать испражнениями. Карова навалiла каля ганку. *В. Старына.*

**Навалочка,** i, *ж.* — наволочка. На падушках новыя навалочкi. *В. Старына.*

**Навальвацца,** *дзс. (зак.* **навалiцца***)* — набрасываться на кого с бранью, с криком или со смехом. Нечага навальвацца на дзiця, яно й так баiцца. Усе iк навалiлiся на яго, дык аж ня ведая, куды дзявацца! *В. Старына.*

**Навалэндацца,** *дзс.* — нашляться. Навалэндаўся за дзень усюды. *В. Старына.*

**Наварочаць,** *дзс.* — набросать, наносить. Наварочалi цэлы двор карчоў. Вуй, колька яны шмат наварочалi сена! *В. Старына.*

**Наварочваць,-цца,** *(дзс. зак.* **навярнуць,-цца***)* — направлять, -ться. Ня наварочвай шмат у той бок шула. Нешта ўсё к мяжы наварочваюцца слупке. На мiне навярнi рашэцiну. *В. Старына.*

**Наведацца,** *дзс.* — навестить, наведаться. Наведаўся к сыну. Трэба наведацца ў лясьнiчаства, мо' прадаюць лес. *В. Старына.*

**Навекi,** *прс.* — навеки. Крэпка зроблянa — навекi будзя. Замацавоў на векi-вечныя. *В. Старына.*

**Наверзьцiся,** *дзс.* — нежеланно натолкнуться. I собiла-ж етаму злодзяю наверзьцiся на нас, каб ат яго ашчэ хавацца! Навёрзься на мiне нейкi нязнакомы. *В. Старына.*

**Навет,** *прс.* — даже. Ня ўзёў чужога навет i на капейку. *В. Старына.*

**Навечар,** *прс.* — (на) время от полудня до солнечного заката. Павяду конi пасьцiць навечар. *В. Старына.*

**Навiваць,** *дзс. (зак.* **навiць***)* — навертывать основу кросен на столбик (навой). Мацi з дзеўкамi навiвая кросна. Зараз наўём ды ткаць будам. *В Старына.*

**Навiна,** ы, *ж.* — 1) новость. Расказвая, дзе якiя навiны чуў. — 2) новая пашня. Чаму, на навiне будзя ўражай. — 3) впервые употребляемая зелень. Iдзi пакаштуй навiны — сьвежанькага хрэну! *В. Старына.*

**Навой,** я. *м.* — столбик для навертывания пряжи в кроснах. З навоя ўся пража сышла. *В. Старына.*

**Навотлег,** *прс.* — наотмашь. Iк доў навотляг, дык i пакацiўся. *В. Старына.*

**Навотшыбе,** *прс.* — в стороне, в отдалении. Хата стаiць на вотшыбя. *В. Старына.*

**Навошта,** *прс.* — почему. Навошта табе ета здалося? *В. Старына.*

**Навука,** i, *ж.* — 1) наука, учение. Лёгка даецца яму навука. — 2) урок, наставление. На другi раз яму будзя добрая навука. *В. Старына.*

**Навучаць,** *дзс.* — наставлять. Матка дачку навучая. *В. Старына.*

**Навучны,** *прм.* — ученый. Рабiн дык вельма-ж навучны. *В. Старына.*

**Навыварат,** *прс.* — наизнанку. Надзеў сарочку навыварат. *В. Старына.*

**Навылет,** *прс.* — навылет. Навылят прабiла куляю нагу. Навылят прашмаравоў бляху. *В. Старына.*

**Навыперадкi,** *прс.* — на перегонки. Бяжыма навыпярадкi: хто каго папярэдзiць. *В. Старына.*

**Навыпорваць,** *дзс.* — повыискать. Нейдзя навыпорваў маленькiх грыбкоў. *В. Старына.*

**Навязваць,** *дзс. (зак.* **навязаць***)* — пускать пастись лошадь на привязи. Ня трэ'бала навязваць каня каля град, ато пататоў бураке. На гумне навязоў каня. *В. Старына.*

**Нагавор,** у, *м.* — наговор. Нечага слухаць чужых нагавораў. *В. Старына.*

**Нагаласiцца,** *дзс.* — наголоситься. Даволяй табе ўжо плакаць — нагаласiлася. *В. Старына.*

**Нагаманiць,-цца,** *дзс.* — 1) наговорить,-ться. Нагаманiлiся за вечар. — 2) побранить. Троха нагаманiў на сваю жонку. *В. Старына.*

**Наганашыць,** *дзс.* — нарвать с дерева плодов. Наганашыў цэлаю зупазуху дуль. *В. Старына.*

**Нагарнуць,** *дзс.* — нагрести. Нагарнуў гарняц вішань аж із верхам. *В. Старына.*

**Нагаспадарыць,** *дзс.* — нахозяйничать. Што ён ашчэ нагаспадарыў тут?! *В. Старына.*

**Нагаспадыніць,** *дзс.*—побыть хозяйкою в доме. Мала нагаспадыніла мая жонка — с першага дзіці памерла. *В. Старына.*

**Нагатаваць,** *дзс.* — 1) наварить. Нагатавалі ўсякаі стравы. — 2) наготовить, призапасить. Нагатавоў дзерава на калёса. *В. Старына.*

**Нагледзіць,-цца,** *дзс.* — насмотреть, -ться. Наглецзіў добраю бярэзіну. Чаго толька там ня нагледзіўся! *В. Старына.*

**Нагліца,** ы, *аг.* — нахальник. Вот дзе нагліца: й сораму яму німа! *В.Старына.*

**Нагліцаю,** *прс.* — нахально. Вот нагліцаю так і лезя да яго біцца! *В. Старына.*

**Наглуміць,** *дзс.* — напортить. Наглумілі шмат хлеба. *В. Старына.*

**Наглы** *(польск.* nagły*), прм.* —скоропостижный. Памёр ён наглаю сьмерцю. *В. Старына.*

**Наглядаць,** *дзс.* — надсматривать. Наглядай за маімі конямі. *В. Старына.*

**Нагодкі** *(замест* **наготкі***)*, дак, *мн. (пам.* **нагодачкі***)* — ноготки (Calendula officinalis L.). На градах троха пасеяла нагодак. Расьцьвілі нагодачкі. *В. Старына.*

**Нагола,** *прс.* — наголо. Разьдзеўся нагола. *В. Старына.*

**Нагрукаць,** *дзс.* — нашуметь, настучать. Нагрукаў, настукаў на малых, дык маўчаць. *В. Старына.*

**Нагэмзаць,** *дзс.* — начиркать. Нагэмзаў нешта й ня разабраць. *В. Старына (Пр.* **Накрэмзаць).**

**Над,** *прыйм.* — для обозначения превосходн. степ. Над Тадэвушавага німа каня ў сяле:—от добры конь. Над яго німа ў сяле лаўчэй. *В Старына.*

**Надагад,** *прс.* — наугад. Ня ведаючы надагад ня зробіш. *В. Старына.*

**Надакучыць,** *дзс.* — надоесть, наскучить. Аж надакучыла сядзець да ждаць яго. *В. Старына.*

**Надалужыць,** *дзс.* — 1) затратить зря время. Толька з ім час надалужыш. *В. Старына.* — 2) заменить одно другим, чтобы дольше продержаться. Сена мала — прыдзецца сечкаю надалужыць. — 3) отомстить. Пачакай, я табе за ета надалужу! *С. Навасёлкі, Пух. р.*

**Надаляй,** *прс.* — на дальнейшее время. Няхай будзя запас надаляй. *В. Старына.*

**Надарваць,-цца,** *дзс.*—1) надорвать, повредить. Так цяжка, аж жывот надарвоў. — 2) немного оторвать,-ться. Надарві троха ніткі. Надарвоўся канец вяроўкі. *В. Старына.*

**Надась,** *прс.* — *(гл.)* **Надоячы.** Надась толька што пяклі хлеб, — ізноў паелі. *В. Турэц, Сьміл. р.*

**Надаць,** *дзс.* — 1) наделать чего-либо. Надоў пылу цэлаю хату. Ах, надоў ты работы тут! — 2) побить кого. Добра надоў яму ў каршэнь. — 3) испортить воздух. Нехта ўжо ўзноў надоў, аж нос верня. *В. Старына.*

**Надвечар,** *прс.* — подвечер. Не'к надвечар ужо было. *В. Старына.*

**Надворак,** рку, *м.* — двор в усадьбе. Скаціна ходзіць па надворку. *В. Старына.*

**Надвор'е,** я, *н.* — погода. Халодная надвор'я, проста бяда. Нешта німа цёплага надвор'я. *В. Старына.*

**Надгаладзя,** *прс.* — впроголодь. Надгаладзя так і прабыў цэлы дзень. *В. Старына.*

**Надзежнік,** а, *м.*—широкое квадратное полотнище для покрытия „дзяжы". Дзяжа накрыта надзежнікам. *В. Старына.*

**Надзёўбацца,** *дзс.* — наклеваться. Куры добра надзёўбаліся. *В. Старына.*

**Надзея,** і, *ж.* — надежда. Кепская на цібе, браця, надзея! *В. Старына.*

**Надзеяцца,** *дзс.* — надеяться. Німа чаго дарам надзеяцца. *В. Старына.*

**Надзівавацца, надзівіцца,** *дзс.*—надивиться. Вот надзіваваліся-ж там людзі! Наглядзеўся, надзівіўся ўсяго там. *В. Старына.*

**Надзіць**, *дзс.* — привлекать. І што яго надзіць хадзіць к ёй гуляць? *В. Старына.*

**Надзімаць,-цца**, *дзс.* (*зак.* **надзьмуць,-цца**) — 1) надувать что воздухом. Каб шмат ня надзімоў посіка, ён-ба ня лопнаў. Надзьмуў шчокі. — 2) сердиться. Надзьмуўся, ік мыш на крупы. Чаго ты ўжо надзьмуў свае лупы? *В. Старына.*

**Надоячы**, *прс.* — давеча. А ета-ж надоячы я была ў вас. *В. Старына.* (*Пр.* **Надась**).

**Надрукаваць**, *дзс.* — напечатать. Надрукавалі шмат кніжак. *В. Старына.*

**Надрываць,-цца**, *дзс.* — 1) надрывать,-ться силами, здоровьем. Ня цягні адзін, ня надрывайся. Надрывая чалавек сваё здароўя, працуя дзень-пры-дні.—2) немного отрывать,-ться. Ня варта было надрываць канцоў,—дык хваціла-б шнура. *В. Старына.*

**Надрыжацца**, *дзс.* — надрожаться от страха. Надрыжаліся, ік пажар быў, аж ціпер страх бярэ. *В. Старына.*

**Надта**, *прс.* — очень, весьма. Надта ты разумны. Надта ёмкі. *В. Старына.*

**Надтачыць**, *дзс.* — прибавить, приточить конец чего. Трэба надтачыць важке. Надтачыў шула. *В. Старына.*

**Надумаць,-цца**, *дзс.* — замыслить. Што ты надумаў з етага рабіць? Надумаўся хлопяц жаніцца. *В. Старына.*

**Надурыць** *галаву*, — забить голову. Добра й так надурыў галаву за вечар. Надурылі яны мне галаву за дзень. *В. Старына.*

**Надурэцца**, *дзс.* — нашалиться. Ну, малыя, надурэліся за дзень досыць, — ціпер пашлі спаць! *В. Старына.*

**Надходзіць**, *дзс.* (*зак.* **надыйці**) — приближаться (во времени). Ужо надходзіць сьвята, трэба біць сьвіньню. Надышлі калядкі. *В. Старына.*

**Нажабіцца**, *дзс.* (*прм.* **нажаблены**) — размякчиться немного. Нажабілася дуга. Нажабляны полаз, — як ты паедзяш? *В. Старына.*

**Нажумрыцца**, *дзс.* — нажраться. От нажумрыўся яблыкаў! *В. Старына.*

**Нажыраваць,-цца**, *дзс.* — наесться. Куры нажыраваліся, аж валяке паўпірала. Качка нажыравала воля. *В. Старына.*

**Нажыць,-цца**, *дзс.* — 1) пожить долго. Мала нажыўся чалавек: захацеў скора памерці. Колька яна нажыла: замуж вышла ды памерла. — 2) нажить, приобресть что. Каб як нажыць свайго коніка, тады-б лягчэй было. Нажыўся ўсякага дабра. *В. Старына.*

**Нажышча**, ы, *ж.* (*павял. ад* **нага**) — ножища. Хоча сваю нажышчу ўсадзіць у дзяціны бот. Нажышчы тыя, ік калодкі. *В. Старына.*

**Назаляць**, *дзс.* — досаждать. Ня назаляй ты мне, назола! *В. Старына.*

**Назапасіць**, *дзс.* — много запасти. Назапась сена да Міколы, дык ня бойся зімы ніколі. *Прык. В. Скрыль, Пух. р.*

**Назаўсёды**, *прс.* — навсегда. Ета тваё назаўсёды й будзя. *В. Старына.*

**Назіраць**, *дзс.* — надсматривать. Назірай харашэнька, каб статак ня лез у шкоду. *В. Старына.*

**Назіркам**, *прс.* — наглядая. А ён назіркам за ім ды й падгледзіў усё. *В. Старына.*

**Назнарок**, *прс.* — нарочно. Ён назнарок ніколі ня зробіць кепскага. *В. Старына.*

**Назначыць**, *дзс.* — пометить. Назначылі баранчыка чырвонаю істужкаю. Назначылі курыцу — адсеклі хвост. *В. Старына.*

**Назола**, ы, *аг.* — надоедливый, докука. Такая-ж назола: цэлаю раньніцу дурыць мне голаву, — атчапіся! *В. Старына.*

**Назубіць**, *дзс.* — отточить зубья в серпе. Ня рэжа серп — трэба назубіць. *В. Старына.*

**Назьбіраць,-цца**, *дзс.* — 1) насобирать,-ться. Назьбірала кошычак ягад. Назьбіралася поўну хату людзей.—2) с трудом нагрызться

травы. За дзень каровы троха й назьбіраліся. *В. Старына.*

**Назьдзекваца,** *дзс.* — достаточно поиздеваться. Ці мала назьдзекваліся йз нас людзі? Назьдзекуваліся над ім, колька хацелі, ды пусьцілі. *В. Старына.*

**Найгорай,** *прс.* — наихуже. А найгорай дык ета нашаму Апанасу. *В. Старына.*

**Найлепей,** *прс.* — наилучше. Найлепяй будзя от так. *В. Старына.*

**Найманьне,** я, *н.* — нанимание. Дзе ты набярэсься на ўсё таго найманьня — грошай шмат трэба. *В. Старына.*

**Наймаць,** *дзс. (зак.* **наняць***)* — нанимать. С саўхоза прыехалі ў сяло наймаць на картоплю. Нанёў дзьве жняі. *В. Старына.*

**Наймітка,** і, *ж.*—1) наемница, батрачка. У іх вялікая гаспадарка, аж дваіх наймаюць: парабка й наймітку.—2) домашняя прислуга. Вазьмі сабе наймітку ды няхай табе слугуя. *В. Старына.*

**Найчасьцей,** *прс.*—чаще всего. Найчасьцей ён паварачваяцца ціпер у гумне ля пчол. *В. Старына.*

**Наказваць,** *дзс. (зак.* **наказаць***)* — передавать словесно извещение. Ік трэба будзя, дык будам наказуваць, каб прыходзілі к нам. Німа кім наказваць: сам прыходзь. Накажыця нашаму Міхалю, хай каня вядзе с поля дамоў. *В. Старына.*

**Накалоць, -цца,** *дзс. (прм.* **наколаты***)*—немножко расколоть что, расколоться чему. Накалі трошка дошку, дык тынк будзя лепяй трымацца. Ступачка накалолася. Жбанок, мусіць, троха наколаты, абы цячэ. *В. Старына.*

**Накідаць,** *дзс. (зак.* **накідаць***)*—накладывать на телегу навоз. Удваіх будам накідаць гной. Накідалі воз,—вязі на поля. *В. Старына.*

**Накідка,** і, *ж.*—надбавка. Дай яшчэ ў накідку пару яблыкаў і цукерку. *В. Старына.*

**Накінуць,** *дзс.* — сделать надбавку. Важця ды на паперу накіньця. *В. Старына.*

**Накірмашавацца,** *дзс.* — долго или много побывать на базаре. Накірмашавоўся я сягоньня ў Сьмілавічах: зранку аж да самага вечару быў! *В. Старына.*

**Наклад,** у, *м.* — излишек в езде, ходьбе, плате. Тудэю ехаць ня вялікі наклад, але затоя сушэй. *В. Старына.*

**Накладаць,** *дзс.* — о плуге: починять отвал. Павязу к кавалю плуг накладаць. *В. Старына.*

**Накладка,** і, *ж.* — тяжесть (полено, дерн), накладываемая на борону, чтобы лучше, глубже боронить. Ік каля мяжы будзяш вадзіцца, палажы на барану накладку. *В. Старына.*

**Накладна,** *прс.* — излишне в езде, ходьбе, плате. Тудэю трохі накладна будзя йці. Дарага вы просіця,—мне троха будзя накладна плаціць. *В. Старына.*

**Накладня,** і, *ж.* — отвал плуга. На плуг трэба новаю накладню даваць. *В. Старына (Пр.* **Аккладня***).*

**Накласьці,** *дзс.* — 1) уложить, накласть. Палюдзку ня ўмея воза снапоў накласьці. Наклоў воз, ік з места дзьвігнуць. — 2) побить кого. Так добра наклалі яму, чуць панёс. *В. Старына.*

**Наклікаць,** *дзс.* — накликать. Маўчы, ато наклікаяш бяду. *В. Старына.*

**Наклыгваць,** *дзс.* — прихрамывать. Конь наклыгвая на задняю нагу. *В. Старына.*

**Наклыпацца,** *дзс.*—наглотаться жадно. Наклыпаўся адных галушак. *В. Старына.*

**Накоўтацца,** *дзс.*—наглотаться, налопаться. Накоўтаўся крышаноў іс салам, дык і заціркі ня хоча. *В. Старына.*

**Накпіць,** *дзс.*—наиздеваться. Ня слухай яго: ён хоча накпіць с цібе. *В. Старына.*

**Накруціцца,** *дзс.* — 1) навернуться (о беде). Аткуль ета бяда накруцілася на нас? — 2) накружиться, навертеться. Накруціўся, аж галава баліць. *В. Старына.*

**Накручваць,** *дзс. (зак.* **накруціць)**— навертывать, накручивать. Ня накручвай боляй вяроўкі. Годзя табе накручуваць ўжо еты шнур. Накруціла вялізнаю шпулю. *В. Старына.*

**Накрыж,** *прс.* — накрест, крестообразно. Палажы палены накрыж. *В. Старына.*

**Накрэмзаць,** *дзс.* — насм., написать неразборчиво. Накрэмзаў—што й сам нічога ня разьбярэ. *В. Старына (Пр.* **Нагэмзаць).**

**Накуксіць,** *дзс.*—насовать „куксамі". Накуксілі пад бок табе добра. *В. Старына.*

**Накулдыкацца,** *дзс.* — вдоволь накувыркаться. Надурэліся, накулдыкаліся дзеці. *В. Старына.*

**Налажыцца,** *дзс.* — приобресть навык. Ік наложыцца, тады работа хутчэй пойдзя. *В. Старына.*

**Наламацца,** *дзс.*—приучиться к чему. Троха наламоўся гаварыць папольску. *В. Старына.*

**Належыць,** *дзс.* — 1) принадлежать. Ета ўсё поля належыць да саўхоза. — 2) в безлич. см., надлежать. Усё зробляна, як належыць. *В. Старына.*

**Налета,** *прс.* — на следующий год. Налета, калі хто будзя жыў, будам рабіць іначай. *В. Старына.*

**Налётацца,** *дзс.*—налетаться, сильно набегаться. Налётаўся за дзень за'вечкамі. *В. Старына.*

**Налізацца,** *дзс.*—нализаться. Калі ня наеўся, то й ня наліжасься. *Прык. В. Старына.*

**Наліснік,** а, *м.* — тонкая оладья. К вясельлю напяклі налісьнікаў. *В. Старына.*

**Налічыць,** *дзс.*—насчитать. Налічыў толька восьмяра куранят, а астальных німа. *В. Старына.*

**Налузаць,** *дзс.*—наочищать от шелухи. Трэба налузаць бобу да зварыць. Налузоў сабе насеньнікаў. *В. Старына.*

**Налыніць,** *дзс.* — приготовить лыки для чего, сняв с них верхний слой грубой коры. Налыніў акраўкаў на посьцілку. *В. Старына.*

**Налягацца,** *дзс. (зак.* **налегчыся)**— вплотную наклоняться на кого или на что. Ня налягайся мне на плечы. Так ня можа пастаяць, трэба каб на стол налегчыся. Чаго ты налёгся на міне — я ня люблю. *В. Старына.*

**Налягаць,** *дзс. (зак.* **налегчы)** — 1) побольше употреблять чего. Надта ня налягайця на муку з вобмяшкаю: зараз уся выйдзя. Ня налягайця на'дно сала: яго й так ужо німа.—2) старательно работать. Сталі налягаць на работу, каб хутчэй кончыць. Трэба лепяй налегчы на сянакос, ато жніво пачалося. *В. Старына.*

**Намагаць,** *дзс. (зак.* **намагчы)** — 1) побольше употреблять чего взамен другого. Хлеба мала, дык будам картопляю намагаць. Сена мала было, але прышлося сім-тым намагчы—так і выкідаўся.—2) напрягать все усилия. Давай, хлопцы, намогам на ету вагу, падняць вугал. *В. Старына.*

**Намардавацца,** *дзс.* — намучиться. Намардавоўся чалавек, хай аддыхне *В. Старына.*

**Намарачыць, -цца,** *дзс.* — надурить, -ться. Намарачыў ён мне толька галаву сваею гаворкаю. За дзень добра намарачыўся з дзецьмі. *В. Старына.*

**Намаржня,** і, *ж.* — недлинная жердинка, насаженная в санях на копылы—столбики, над полозьями. У сані трэба даваць новыя намаржні. Зачапі повад за намаржню. *В. Старына.*

**Намесьнік,** а, *м.* —помощник управляющего в небольшом имении, в до-револ. время. Як ты прыганяяш на работу, ік той намесьнік даўней. *В. Старына*

**Намёт,** а, *м.* — тонкое льняное полотенце; вешается на иконы, а также служит для повязывания головы. Вэнь нейкая баба пашла ў намёця. Дала ў цэркву на вобраз намёт. *В. Старына.*

**Намінтрэжыцца,** *дзс.*—натревожиться. Ці мала намінтрэжыліся людзі, ік была тая вайна?! *В. Старына.*

Не'кажа



**Намуляць,** *дзс.* — насаднить. Намуляў нагу, аж нельга хадзіць. *В. Старына.*

**Намуштраваць,** *дзс.*—пробрать. Намуштравоў добра етага гіцля. *В. Старына.*

**Нанач,** *прс.*—наночь. Па дарозя заехалі нанач у нейкая сялцо. *В. Старына.*

**Нанова,** *прс.*—наново, вновь. Прыдзецца пярарабляць усё нанова. *В. Старына.*

**Напавер,** *прс.* — в кредит. Дастоў хлеба напавер. Ціпер у крамах напавер ня продаюць. *В. Старына.*

**Нападацца,** *дзс.*—1) набегаться. Нападаўся хлапец за дзень за статкам, ік быў у падпасычах. — 2) наработаться. За дзень нападаясься з етаю работаю на полі, а ўвечар дома йзноў што-небудзь рабі.—3) нахлопотаться. Ці мала я нападаўся, пакуль дастоў тую пазыку! *В. Старына.*

**Нападаць,** *дзс.* — 1) набрасываться, накидываться на что. Мухі так і напалі на цукар.—2) набрасываться с бранью на кого. Нашто нападаць вельма на малога? *В. Старына.*

**Напазычаць, -цца,** *дзс.* — надавать, -ться или набирать, -ться много в долг. Напазычоў людзям свайго начыньня, а ціпер хадзі сыскивай. Чорт яго напазычаяцца каждаму! Даволяй і так ужо напазычоў,—хаця-б аддаць. Ня напазычаясься-ж кажды раз. *В. Старына.*

**Напакутвацца,** *дзс.* — настрадаться. Ці мала ён напакутваўся, пакуль дзеці падрасьлі да сталі памагаць? Напакутуваліся сяголята людзі с сенам—усё было заліло. *В. Старына.*

**Напал,** *прс.* — пополам. Разрэзалі яблык напал. Пярарэж дошку напал. *В. Старына.*

**Напа(г)луміць,** *дзс.* — напомнить, дать указание. Але ўсякі час трэ' напалуміць. *В. Крамяні, Пух. р.* Нехта яму напаглуміў: сам-ба ня дагадоўся етак зрабіць. *В. Старына.*

**Напарстак,** стка, *м.*—напёрсток. Бяз напарстка пакалола пальцы, шыючы. *В. Старына.*

**Напаскудзіць,** *дзс.*—напачкать, насорить. Вот сьмярдзіць: мусіць кот нейдзя напаскудзіў. Сваею работаю толька ў хаця напаскудзілі. *В. Старына.*

**Напастоліць,** *дзс.* — удовлетворить кого, давая что. Ліха яго ўсіх напастоліць! *В. Старына.*

**Напасьля,** *прс.* — после. Напасьля ўсіх прышоў. *В. Старына.*

**Напасьць,** і, *ж.* — напасть, неожиданное бедствие. От напасьць нейкая: за двоя сутак усе парасята паздыхалі! *В. Старына.*

**Напасьць,** і, *ж.*—навет, подозрение. Дарам на чалавека напасьць ты наводзіш. *В. Старына.*

**Напаўзьці,** *дзс.* — наползти. І трэба-ж етым мурашкам напаўзьці сюды! *В. Старына.*

**Напачатак,** *прс.*—сначала, на почин. Напачатак скосім за ракою. На пачатак набяром большага каменьня. *В. Старына.*

**Наперад,** *прс.* —1) впереди. Ты йдзі наперад, а я ззаду. — 2) прежде, заранее. Наперад нечага загадваць, як яно будзя. *В. Старына.*

**Наперакор,** *прс.* — наперекор. Усе баяцца яго, ніхто й слова яму напяракор ня скажа. *В. Старына.*

**Наперціся,** *дзс.*—нажраться. Напёрся аднае картоплі з расолам. *В. Старына.*

**Напілаваць, -цца,** *дзс.* — напилить, -ться. Напілавалі дошчак на падлогу. Напілавоўся дроў, аж рукі баляць. *В. Старына.*

**Напільнік,** а, *м.*—напилок. Тупы напільнік: ані ня бярэ пілы. *В. Старына.*

**Напінаць,** *дзс.* *(зак.* **напнуць***)* — напяливать. Ня напінай туга палатна пругамі. Не'к-жа такі напнуў маю жакетку на сібе. *В. Старына.*

**Напладзіць, -цца,** *дзс.*—наплодить, -ться. Напладзілася чоршта блох у хаця. Чэрві напладзілі матылёў. *В. Старына.*

**Наплесьці,** *дзс.* — 1) наплесть чего. Макар наплёў кошыкаў. — 2) насплетничать. Наплесьці на чалавека ня наўда, але як посьля ў вочы пазіраць. *В. Старына.*

**Напляву̇згаць,** *дзс.* — наговорить вздору, чепухи. Нечага слухаць, што другія із зайздрасьці напляву̇згалі на яго—ён хлопяц харошы. *В. Старына.*

**Напляжыць,** *дзс.*—нарубить. Напляжыў цэлаю павець дроў. *В. Старына.*

**Напоркацца,** *дзс.*—напороться, наискаться. Напоркаўся, пакуль знашоў у траве колца. *В. Старына.*

**Напоркаць,** *дзс.*—1) напороть. Напоркай уперад дзірачак у шкураце, а тады шый. — 2) мало сделать. Што ты тут напоркаў — адны ганькі ўзароў. *В. Старына.*

**Напоўніцу** *ѐсьці,* — есть с аппетитом, полным ртом. Каровы напоўніцу ядуць трушанку. *В. Старына.*

**Напранущца,** *дзс.*— одеться. Напранісі, каб было цяплей. *В. Краманi, Пух. р.*

**Напрацавацца,** *дзс.* — натрудиться. Напрацавоўся наш бацька за свой век. *В. Старына.*

**Напросткі,** *прс.*—напрямик. Ідзі напросткі: бліжай будзя. *В. Дукарка, Сьміл. р.*

**Напроці,** *прс.*—против. Ідзі ў етыя варота, што напроці нас. *В. Старына.*

**Напроціў,** *прс.* — наперекор. Такі паслухмяны хлапец,—і слова напроціў ня скажа! *В. Старына.*

**Напружыцца,** *дзс.*—напрячься. Напружыўся, аж счырванеў увесь. *В. Старына.*

**Напрыгацца,** *дзс.*—много напиться. Напрыгаўся квасу, аж ababэніла яго. *В. Старына.*

**Напрэгчы,** *дзс.* — нажарить. Добра, каб напрэгчы гароху есьці. Напрэглі бобу. *В. Старына.*

**Напсаваць,** *дзс.*—напортить. Ета ня жартачкі напсаваць столькі дабра! *В. Старына.*

**Напухці,** *дзс.*—напухнуть. Лепяй ня чапай етага места, ато горайможа напухці. Напухла шчака. *В. Старына.*

**Напхаць, -цца,** *дзс.*—1) набить что. Напхоў сяньнік сьвежаю саломаю.—2) нажраться. Ік сьвіньня, напхоўся картоплі. *В. Старына.*

**Напырск,** у, *м.* — слегка заслащенная медом вода для обрызгивания осевшего роя. Прынясі ў вядзёрца напырск рой апырскаць. *В. Старына.*

**Напэўна,** *прс.* — наверное. Напэўна сказаць ня магу. *В. Старына.*

**Напялегвацца,** *дзс.* — пожить в довольстве, в холе. Але мала ён напялегваўся: малады памёр. *В. Старына.*

**Напярэсьцяжкі,** *прс.* — напрямик. Каб пайці напярэсьцяжкі, мо' хутчэй было-б. *В. Старына (Пр. Напросткі).*

**Нарабіць, -цца,** *дзс.* — 1) наделать чего. Сам нарабіў усякага пасудку. — 2) напроказничать, натворить беды. Будзя табе, нарабіў бяды!—3) наработаться, натрудиться. Даволяй я ўжо нарабіўся, хай сынэ ўжо робяць *В. Старына.*

**Наравісты,** *прм.*—капризный. Падла, наравістая кабыла, толька брыкаецца. *В. Старына.*

**Наравіцца,** *дзс.*—упрямиться. Конь наровіцца, ня хоча цягнуць. *В. Старына.*

**Наравіць,** *дзс.*—норовить. Так і наровіць, каб папасьці ў вока. Кажды наровіць сам сабе. *В. Старына.*

**Нараджаць,** *дзс.* — народить. Сука нараджала шчанят. *В. Старына.*

**Нарадзіць,** *дзс.* — наколдовать. Лепяй з ім ня чапайся, ато ашчэ нарадзіць. *В. Старына.*

**Нарадка,** і, *ж.*—колдовство в виде какого-либо предмета. Нехта, мусіць, падкінаў нарадку — хустачку з вузельчыкамі. *В. Старына.*

**Нараіць,** *дзс.* — насоветовать. Дзякуй ім, людзі нараілі, як трэба рабіць. *В. Старына.*

**Наракаць,** *дзс.* — нарекать. Нечага дарам наракаць на каго, калі ня ведаяш, хто тут вінават. *В. Старына.*

**Нарасьць,** і, *ж.*—нарост. Якая-ж вялікая нарасьць у каня на назе! На яблынца нейкая нарасьць узялася. *В. Старына.*

**Нараўне,** *прс.* — наравне, одинаково. Абоя нараўня—адно благоя й другоя ня лепшая. Баба а чорт нараўня. *Прык. В. Старына.*

**Наробіць,** *дзс.* — испачкать испражнениями. Малоя наробіла на лаўку. *В. Старына.*

**Нарог,** а, *м.*—лемех, сошник. У плузя зьезьдзіўся нарог. *В. Старына.*

**Наруганьне,** я, *н.* — прекословие. Я цібе, хлопча, 'к бачыш, атучу ат етага наруганьня! *В. Старына.*

**Наругацца,** *дзс.*—прекословить. Ніхто ня наругаяцца свайму бацьку. *В. Старына.*

**Нарушыць,-цца,** *дзс.*—тронуть,-ться с места. Нарушыў часэ, — ціпер папраўляй. Нешта нарушылася ў сярэдзіня. *В. Старына.*

**Нарыхтаваць,-цца,** *дзс.*—наготовить, приготовить,-ться. Нарыхтавоў мяшке ў млын. Куды нарыхтавоўся йці? *В. Старына.*

**Нарыца,** ы, *ж.* — 1) болезнь у лошадей, когда появляются на шее, на плечах и холке гнилые места и делаются провалы (иногда с поражением мозга в костях) от нагнета сбруей. У каня на грэбяні нарыца. *В. Старына.*— 2) в ругательном см. От нарыца ета кабыла: ік спудзілася да панесла ў бок!.. *В. Старына.*

**Нары(т)шнікі,** аў, *мн.*—*гл.* **Набердкі.** Парвалісі пянчаныя нарышнікі. *В. Крамяні, Пух. р.* Нарытнікі-то твае добрыя, але на каня малы. *В. Турэц, Сьміл. р.*

**Нарэчыцца,** *дзс.*—натолкнуться. Добра, што нарэчыліся свае людзі, ато ўтапіў-ба каня з возам у рацэ. *В. Старына.*

**Насакатацца,** *дзс.* — 1) накудахтаться (о курице). Гані курыцу вон, даволяй яна ўжо тут насакаталася. — 2) наболтаться. Бабы добра насакаталіся сабраўшыся. *В. Старына.*

**Насарамаціць,-цца,** *дзс.* — насрамить,-ться; настыдить,-ться. Насарамаціў шэльму пярад усімі мужчынамі. Толька сам насарамаціўся пярад людзьмі. *В. Старына.*

**Насенка,** і, *ж.* — семенной клевер или картофель. С паўганькоў пакінаў канюшыны насенкі. У пограбя асталася картопля насенка. *В. Старына.*

**Насенны,** *прм.* — семянной. У кадоўбчыку насенны авёс. Насенная пшаніца. *В. Старына.*

**Насеньне,** я, *н.*—1) семена различн. хлебов. Сяголята шмат у каго ня хваціла насеньня. — 2) в перен. см., скверный человек. От насеньня! німа халеры на яго!.. *В. Старына.*

**Насеньнік,** а, *м.* — семечко тыквы (**гарбза**). Насушылі торбачку насеньнікаў. *В. Старына (Пр.* **Гарбўзік).**

**Насёрбацца,** *дзс.*—наесться жидкого, производя при гэтом особые звуки от потягивания пищи ртом. Насёрбаўся крупніку з малаком. Насёрбаўся буракоў. *В. Старына.*

**Насілы, насілкі,** лак. *мн.* — носилки для сена и соломы. У хлеў укінаў двоя насілак саломы. *В. Старына.* Сена трэ'йсьці насіць, а тут насілы нехта ўзяў. *С. Амельна, Пух. р.*

**Насіцца,** *дзс.*—1) носиться,—быстро ходить или бегать, суетясь. Носіцца, ік кот с сялядцом. Носіцца, ік курыца з яйцом.—2) в перен. см., чваниться, гордиться. Што выбралі яго за старшыню, дык ня ведая, як насіцца! *В. Старына.*

**Наскаваць** *(каго кім), дзс.*—натравить собакою. Наскавоў сабакам парасят. *В. Старына.*

**Наскокам,** *прс.* — с налёту, внезапно. Наскокам наляцеў на яго ды атаброў. *В. Старына.*

**Наскочыць,** *дзс.* — наскочить. А што: наскочыў на свайго? *В. Старына.*

**Наскрозь,** *прс.*—насквозь, напролёт. Дошка ня тоўстая: цьвіх пройдзя наскрозь. *В. Старына.*

**Наскубацца, наскубціся,** *дзс.*— нагрызтись травы. Жарабётка наскубалася аўса. Німа тут травы, чаго наскубціся. *В. Старына.*

**Насланьне,** я, *н.*—наслание—несчастие или стихийное бедствие от чаровства или иной силы. Насланьня нейкая, ці якоя ліха, што скаціна ня вядзецца: што ні купі, усё здохня. Ета-ж насланьня нейкая ад госпада бога, еты дождж бясконца! *В. Старына.*

**Насмуродзіць,** *дзс.*—1) испортить воздух. Вуй як нехта насмуродзіў, аж нос верня! — 2) напортить в работе или мало сделать. Нарабіў ты! насмуродзіў ты, а ня нарабіў! *В. Старына.*

**Насок,** ска́, *м.*—более острая верхушка яйца. Яйцо крэпкая ў наску. *В. Старына.*

**Настальваць,** *дзс. (зак.* **насталіць***)*—накладывать на что сталь. Панясу к кавалю настальваць тапарэ. Насталіў сякерку, серп. *В. Старына.*

**Настаўнік,** а, *м.,* **настаўніца,** ы, *ж*—учитель, учительница. Сын мой служыць за настаўніка. Вучыцца на настаўніка. У школу к нам прыслалі настаўніцу. *В. Старына.*

**Настаяцца,** *дзс.*—настояться. Настаёўся, пакуль палучыў грошы. *В. Старына.*

**Настояць** *гною,*—наделать, стоя в хлеве, навоза. Хай у хляве конь будзя: боляй гною настоіць. Мала нешта карова настояла гною. *В. Старына.*

**Настрамак,** мка, *м. (пам.* **настрамачак***)*—небольшой, но высокий воз соломы или сена. Настрамак канюшыны накасіў. Добрыя два настрамачкі сена прывёз. *В. Старына.*

**Настраміць,** *дзс.*—насрамить. Вылаяў яго, настраміў пярад людзьмі, дык боляй ня будзя лазіць у садок. *В. Старына.*

**Настырацца,** *дзс.*—ссориться. Вот загародзімся, дык ня будуць лазіць у вагарод чужыя сьвіньня, куры й ня будам боляй настырацца с суседзямі. Каму ета ахвота з людзьмі настырацца? *В. Старына.*

**Настыцца,** *дзс.*—намерзнуться. Настыўся на дварэ, пайду пагрэюся ў хату. *В. Старына.*

**Насунуць,** *дзс.*—1) надвинуться (о туче). От насунала хмара—дасьць зараз дождж!—2) испортить воздух. Ета-ж ты насунаў—ды яшчэ маўчыць. *В. Старына.*

**Насыпка,** і, *ж.*—наволочка, в которую непосредственно насыпается пер'е. Рэдкія насыпкі, дык вылазіць с падушак пер'я. *В. Старына.*

**Насыціць,** *дзс.* — засластить воду медом. Насыцім міску вады ды будам есьці с хлебам. *В. Старына.*

**Насьцёбаць,** *дзс.*—настегать, нахлестать. За што ты дарам насьцёбаў хлапца майго пугаю? *В. Старына.*

**Натаройкацца,** *дзс.* — поспорить с кем несер'ёзно, но долго. Ідзі дамоў—натаройкаўся ўжо! *В. Старына.*

**Натаўчы,** *дзс.*—1) натолочь. У ступя вазьмі ды натаўчы маку. Натаўклі куцьці ступу.—2) сильно побить кого. Натоўк морду яму, аж чырвоная пацякла.—3) утомить сильно ноги. За дзень натоўк ногі, аж ня пацягнуць. *В. Старына.*

**Натварыць,** *дзс.* — начудить, наделать беды. Што-ж ета ты натварыў? будзя табе! *В. Старына.*

**Наткнуцца,** *дзс.*—наткнуться. У леся наткнуўся на воўка. *В. Старына.*

**Натлуміць,-цца,** *дзс.*—1) накричать, -ться. Сьціхні ты, мала натлумілася! (на дзіця).—2) натравить собакою. Сабакам добра натлуміў сьвіньню — боляй ня пойдзя на наш двор.—3) надуриться. Даволяй натлуміў галаву з імі. *В. Старына.*

**Натрапіць,-цца,** *дзс.*—случайно напасть на что, попасться чему. Хадзіў, хадзіў па леся, чуць натрапіў на грыбэ. Каб натрапіўся які ахвотнік, прадоў-ба яму сваю камізэльку. *В. Старына.*

**Натрудзіць,** *дзс.*—переутомить член тела. Натрудзіў вельма руку, дык баліць. *В. Старына.*

**Натрымцецца,** *дзс.*—сильно надрожаться от страху. Ці мала я за сваім п'яніцаю натрымцелася?! *В. Старына.*

**Натуга,** і, *ж.*—напряжение, усилие. З вялікаі натугі падарвоў жывот. *В. Старына.*

**Натужыцца,** *дзс*—напрячься. Ік натужыўся добра, дык і вырваў кол. *В. Старына.*

**Натукаць,** *дзс.*—накричать на кого, набранить, притопывая ногами. Натукаў, натукаў на малога, дык і маўчыць. *В. Старына.*

**Натуліцца,** *дзс.*—наклониться, налечь на кого. Чаго ты натуліўся на міне, аж карак ірвеш? *В. Старына.*

**Натуляцца,** *дзс.* — 1) наклоняться на кого. Ня натуляйся на міне. —2) набродиться. Колька ета ён натулёўся па сьвецях, аж страх падумаць! *В. Старына.*

**Натура,** ы, *ж.*—характер. Благоі ён натуры чалавек. *В. Старына.*

**Натурбаваць,-цца,** *дзс.*— утрудить, набеспокоить,-ться. Дарам толька чалавека натурбавоў. Ня вельмі што ты там натурбавоўся—работа ня цяжкая. *В. Старына.*

**Наўда,** ы́, *ж.*—небольшая важность, небольшое уменье. Лапці плесьці наўчыцца—ня наўда вяліка. Наўда вялікая мне, што ён начальнік! *В. Старына.*

**Наўдачу,** *прс.*—едва-ли. Наўдачу, ці застанам яго дома. *В. Старына.*

**Наўза,** ы, *ж.—гл.* **Ноўза.** У етум вульлі шмат наўзы. *В. Лядцо, Пух. р.*

**Наўзавадзь,** *прс.*—вскачь. Коні панесьліся наўзавадзь. *В. Старына.*

**Наўзахапке,** *прс.*—наперебой. Наўзахапке ядуць ігрушы. Наўзахапке пахваталі яблыкі. *В. Старына.*

**Наўкос,** *прс.* — наискось. Граніца йдзе наўкос. Прымай наўкос. *В. Старына.*

**Наўмысьля, наўмысьня,** *прс.*—умышленно, намеренно. Ета-ж наўмысьля зрабіў ён. Ня наўмысьня разьбіў шклянку. *В. Старына.*

**Наўрад (ці),** *прс.*—вряд-ли. Наўрад ці будзя так, як кажаш. *В. Старына.*

**Наўскапыта,** *прс.*—галопом, вскачь. Ік доў наўскапыта, аж пыл пакурэў! *В. Старына.*

**Наўскасяк,** *прс.*—наискось. Дарога йдзе наўскасяк. *В. Старына (Пр.* **Наўкос***).*

**Наўскідаць,** *дзс.*—накласть, побить. Наўскідалі яму, коліка добра. *В. Старына.*

**Наўсьцяж,** *прс.*—цугом. К вянцу запрэглі коні наўсьцяж. *В. Старына.*

**Наўцекі,** *прс.*—драла, давай удирать. Схапіў ды хутчэй наўцекі. *В. Старына.*

**Нахапаць,-цца,** *дзс.* — нахватать, -ться. Вуй колька ён нахапоў сабе яблыкаў! Лётаў па дварэ, нахапоўся ветру, а ціпер кашляя. *В. Старына.*

**Нахапіцца,** *дзс.*—неожиданно взяться туче, ветру. Ік нахапілася хмара, дык усе барджэй за сена ўзяліся!.. Ік нахапіўся віхар да стоў ірваць страху!.. *В. Старына.*

**Нахіляць,-цца,** *дзс. (зак.* **нахіліць, -цца***)*—наклонять,-ться в сторону. Нешта ўсё сьцяна нахіляяцца ў той бок, мусіць каменьне пашло ўніз. Ашчэ нахілі сюды бярозу ды падрэжам. Плот саўсім нахіліўся, зараз аберняцца. *В. Старына.*

**Нахінаць,-цца,** *дзс. (зак.* **нахінуць, -цца***)*—нагибать,-ться. Нашто нахінаць шмат вядра: ваду разьлееш. Ня нахінайся нізка—пралезяш. Ніжай нахіні галаву. Яблынка нахінулася ўніз. *В. Старына.*

**Нахлашч,** *прс.* — настежь. Нашто дзьверы расчыні ў нахлашч? *В. Старына.*

**Нахліпацца,** *дзс.*—наплакаться. Дзіця нет ведама колька нахліпалася, пакуль маці прышла. *В. Старына.*

**Нахмарыцца,** *дзс. безас.*—покрыться тучами. Нахмарылася на дождж. *В. Старына.*

**Нахмурыцца,** *дзс.*—насупиться. Чаго ты етак нахмурыўся, здарылася што нядобрая, ці што? *В. Старына.*

**Нахураваць,** *дзс.*—побранить кого с криком. Нахуравоў на сваю бабу, дык сьмірнейшая стала. *В. Старына.*

**Нацерабіцца,** *дзс.* — наработаться, очищая ветки. Нацярабіўся за дзень, аж рукі баляць. *В. Старына.*

**Нацерабіць,** *дзс.*—наочищать веток (для топлива). Нацярабіў вазок гальля. *В. Старына.*

**Нацiраньне,** я, *н.*—натирание. Хвэльчар доў нейкага нацiраньня. *В. Старына.*

**Нацухліць,** *дзс.*—много намылить. Нашто етак шмат мыла нацухліў на рукі? *В. Старына.*

**Нацухмоліць,-цца,**—слишком много намылить,-ться. Ых, як нацухмоліўся! *В. Старына.*

**Нацыркаць,** *дзс.*—немного надоить молока. Із чарку нацыркала малака. *В. Старына.*

**Нацэліцца,** *дзс.*—наметиться. Ікраз быў нацэліўся по галавя шпокнуць. *В. Старына.*

**Нацэўнік,** а, *м.*—манжетка, связанная из шерстяных ниток и плотно обхватывающая руку у кисти („цэўку“). Надзень нацэўнікі: цяплей будзя ў рукі. Згубіўся адзін нацэўнік. *В. Старына.*

**Нацягаць,-цца,** *дзс.* — натаскать, -ться. Усякага дабра нацягоў ат людзей. Нацягоўся за дзень, аж ног ня павалакчы. *В. Старына.*

**Нацягваць,** *дзс. (зак.* **нацягнуць**)— 1) натягивать. На калёса трэба новыя шыны нацягваць. Адно калясо нацягнуў.—2) протягивать время (относит. кормёжки). Сена мала, дык прыдзецца нацягваць сечкаю. Хлеба ня лішня,—будам нацягваць прываркам. *В. Старына.*

**Нацягіч,** а, *м.*—бочарный инструмент для натягивания обручей. Німа нацягіча, чым нацягнуць абруч. *В. Старына.*

**Нацяньке,** *прс.*—напрямик. Хто ходзіць нацяньке, той губляя дзяньке. *Прык. В. Раўнапольле, Сьміл. р.*

**Нацярушыць,-цца,** *дзс.* — напорошить,-ться. Па гумне нацярушыў саломы. У малако нацярушылася сьмецьця. *В. Старына.*

**Начальства,** а, *н.*—начальник, начальство. Ня вялікая с цібе начальства! *В. Старына.*

**Начаць,** *дзс.* — начать. Хто начоў, хай той і канчая. *В. Старына.*

**Начван,** á, *м.* — 1) насм., большое брюхо. Вываліў свой начван.— 2) мальчик или девочка с большым животом. Ну, пашлі, начванэ, ат стала, хай людзі садзяцца! *В. Лядцо, Пух. р.*

**Начварыць,** *дзс.*—натравить собаками. Пастух начварыў сьвіньню сабакамі, каб ня ўцякала дамоў. *В. Старына.*

**Начлег,** у, *м.*—ночлег. Павялі коні на начлег. Некуды коні паўцякалі з начлегу. *В. Старына.*

**Начлеж(зь)нік,** а, *м.*—тот, кто водит лошадей на „начлег“. Начлежнікі стравілі маю канюшыну. Хлапчук падрос—будзя ўжо свой начлезьнік. *В. Старына.*

**Начмуціць,** *дзс.*—надурить. Начмуцілі яму, што й да суботы ня разбярэцца! *В. Старына.*

**Начніцы,** іц, *мн.*—бессонница. Излечивается различными заговорами у детей и взрослых.

„Зорачкі—сястрыцкі!
вазьміце надзеі начніцкі—
начныя, дзянныя, прыпадныя,
прыгаворныя“.

З загавору ад начніцы ў дзяцей. *С. Навасёлкі, Пух. р.*

**Начоўкі,** вак, *мн.*—небольшое корыто для мытья и мойки белья. Памый галаву хоць у начоўках. *В. Старына (Пр.* **Ночвы**).

**Начынка,** і, *ж.*—фаршировка. На закуску была парасяціна з начынкаю. *В. Старына.*

**Начыньне,** я. *зб.* — различный инструмент. У майго бацькі ё ўсякага начыньня. *В. Старына.*

**Начыняць,** *дзс. (зак.* **начыніць**)— фаршировать. К вяліканьню начынілі парасё. Німа парасяці,— німа чаго й начыняці. *В. Старына.*

**Нашапкавацца,** *дзс.*—усердно напроситься, снимая шапку, умоляя кого о чем. Нашапкавоўся

ён ці мала, пакуль дастоў сабе разок сянакосу! *В. Старына.*

**Нашаткаваць,** *дзс.* — нашинковать капусты. Нашаткавалі сялядзёўку капусты. *В. Старына.*

**Нашатырыцца,** *дзс. (прм.* **нашатыраны***)* (станавіцца шатрóм).— 1) насторожиться. Нечага конь нашатырыўся да ўсё ў бок пазірая. —2) приподняться. Канюшына, ік высахла, дык уся чыста нашатырылася, аж на воз нельга класьці. Ціпер ячмень нашатыраны, хай атляжа, тады будам складаць. *В. Старына.*

**Нашвэндацца,** *дзс.*—натаскаться. За дзень даволяй нашвэндаўся. *В. Старына.*

**Нашкодзіць,** *дзс.*—навредить. Глядзі, каб там кот ня нашкодзіў у каморы. *В. Старына.*

**Нашпігаваць,** *дзс* — назудить. Нашпігавоў каня, дык ня то што бяжыць, а, ік птушка, ляціць, *В. Старына.*

**Нашпыляць,** *дзс.* — настегать. Нашпылёў папружкі плаксуну етаму. *В. Старына.*

**Нашумець,** *дзс.* — побранить кого. П'яны ўваліўся ў хату, накрычоў, нашумеў на ўсіх ды пашоў. *В. Старына.* Троха нашумеў на малых, дык ня так дурэюць. *В. Старына.*

**Нашча,-ком,** *прс.*—натощак. Ат самага ранку нашча. Я ашчэ нашчаком. *В. Старына.*

**Нашчапаць,** *дзс.*—мелко наколоть (дров, лучины). Нашчапоў за вечер пук лучыны. Нашчапай мне на комінак дробных дрэвак. *В. Старына.*

**Нашчэнт,** *прс.*—дотла, вдребезги. Нашчэнт град зьбіў ярыню. Нашчэнт разьбіўся гаршчок. *В. Старына.*

**Нашы,** — 1) члены одной семьи, старшие, младшие или равные, — когда они находятся в отдалении. Панясу нашым вады на поля. Нашы паехалі на сена. — 2) раздельный дом брата или племянника. Зьбегай к нашым, пазыч сярнічак. Маці нейдзя ў нашых гуляя. *В. Старына.*

**Нашыцца,** *дзс.* — натолпиться. Вот нашылася народу ў хату, аж ня прабіцца! *В. Старына.*

**Неакуратны,** *прм.* — неаккуратный. Якая-ж яна ня'куратная жанчына! *В. Старына.*

**Небалазе,** *прс.* — не хорошо, худо. За дурною галавою ды нагам нéбалазя. *Прык. В. Старына.*

**Небарака,** і, *м.* — страдалец, бедняга. Нагаравоўся ён там, нябарака! *В. Старына.*

**Невялікі,** *прм.*—небольшой. Нявялікая шчасьця с цібе. *В. Старына.*

**Негадзяшчы,** *прм.* — негодный. Нягадзяшчая ета дзерава на дошкі. *В. Старына.*

**Недавейкі,** ек, *мн.*—недоочищенное зерно. На таку асталіся нядавейкі. *В. Старына.*

**Недавéрак,** рка, *м. (польск.* niedowiarek), — неверующий; скверный человек. Нядавярак еты ашчэ дзе заб'е на дарозя. *В. Старына.*

**Недагрызак,** зка, *м.* — недоеденный кусок. Ніхто тваіх нядагрызкаў есьці ня будзя. *В. Старына.*

**Недаедкі,** каў, *мн.* — недоеденные куски. Нядаедкаў накідалі цэлы стол. *В. Старына.*

**Недалёка,** *прс.*—недалеко. А ўжо нядалёка ехаць. *В. Старына.*

**Недалугі,** *прм.*—незадачливый, слабосильный. Пятрок нядалугі гаспадар. Нядалугая жанчына. *В. Матарова, Сьміл. р.*

**Недасол,** у, *м.* — недосоленное кушанье. Нядасол — на стол, а пярасол—пад стол. *Прык. В. Старына.*

**Недастатак,** тку, *м.* — недостаток. Сварка ў іх усё з нядастаткаў. Сена будзя нядастатак. *В. Старына.*

**Недатопак,** пка, *м.*—достаточно подношенная обувь. Еты нядатопак можна й вон выкінуць: саўсім слабы. Запраторылі мае нядатопкі некуды, й німа чага абуць. *В. Старына.*

**Недачоскі,** аў, *мн.* — недочесанный лён. З етых нядачоскаў нічога ня выйдзя. *В. Старына.*

**Недзьдзе,** *прс.* — где-то далеко. Ік шпурнуў яго, дык аж недзьдзе апыніўся. *В. Старына.*

**Нежык,** а, *м.* — накожная сыпь у детей от купанья в слишком горячей воде. Запарылі дзіцяці нежык (знач., от горячей, парной воды появилась сыпь—нежык). *В. Старына.*

**Незабаўка,** і, *ж.* — отсутствие затяжки (во времени). Нязабаўка й самому туды сходзіць паглядзець. *В. Старына.*

**Незгаворны,** *прм.* — несговорчивый. От нязгаворны чалавек ён! *В. Старына.*

**Нездалека,** і, *аг.* — слабосильный. Бацька стары, а сын нядалека, дык і прападая гаспадарка. *В. Старына.*

**Нездаравяка,** і, *аг.*—постоянно недомогающий. Адну дачку маям і тую нядаравяку. Іх сын—нейкі нездаравяка. *В. Старына.*

**Незір,** *прс.*—без оглядки, не осматриваясь. Пойдзяш ты ў міне, чалавеча, с хаты незір. *В. Старына.*

**Незнарок,** *прс.* — ненарочно, неумышленно. Нязнарок наступіў яму на нагу. Нязнарок штырхнуў яго. *В. Старына.*

**Нейдзе,** *прс.*—где-то. Нейдзя палажыў тапор ды забыўся. Нейдзя цягаюцца дзеці па вуліцы. *В. Старына.*

**Нейкі,** *прм.*—какой-то. От нейкі дурніца ён. Нейкі нязнакомы чалавек. *В. Старына.*

**Нейчы,** *прм.* — чей-то. Нейчы чужы тапор узёў. Нейчаю чужую шапку надзеў. *В. Старына.*

**Не'к,** *прс.* = **нeяк** — как-то. Не'к ня так яно выходзіць, як трэба. *В. Старына.*

**Некалі,** *прс.* — некогда. Некалі мне гуляць: трэба работу канчаць. *В. Старына.*

**Некаліся,** *прс.* — когда-то. Некаліся людзі добра будуць жыць. Некаліся тут француз ваявоў. *В. Старына.*

**Некулька,** *прс.* — несколько. Заплаціў рубля й некулька капеяк. *В. Старына.*

**Нелады,** оў, *мн.* — нелады, отсутствие согласия. Нялады ў іх з жонкаю, мусіць будуць разводзіцца. *В. Старына.*

**Нельга,** *прс.*—нельзя. Сюдэю нельга прайці: вельма гразь вялікая. *В. Старына.*

**Нелюдзь,** і, *аг.*—нелюдим. Нелюдзь нейкі — ніколі йс чалавекам ня загаворыць. *В. Старына (Пр.* **Нялюднік).**

**Нема крычаць (раўці), нямым голасам крычаць**—сильно орать. Аж нема крычыць, ліха на яго! Нема раве, аж пярарываяцца. Ік сталі яго гнесьці, аж нямым голасам пачоў крычаць да прасіцца. *В. Старына.*

**Немач,** ы, *ж.* — болезнь, немощь. Немач нейкая успала на етых курэй: вот дохнуць ды й толька. Каб цібе немач ела! *(кляцьба). В. Старына.*

**Ненавідны,** *прм.* — ненавидимый. Нянавідны які ты хлопяц. *В. Старына.*

**Ненажора,** ы, *аг.* — ненасытный. Нянажору ету ня ўкарміць. *В. Старына.*

**Ненарокам,** *прс.* — ненарочно. Нянарокам выцяў яго. Нянарокам кажуць людзі. *В. Старына.*

**Непагода,** ы, *ж.* — непогода. У еткаю няпагоду ніхто нікуды ня пойдзя. *В. Старына.*

**Непазорны,** *прм.*—невзрачный. Няпазорны жбаночак — ня хачу й купляць. *В. Старына.*

**Непакора,** ы, *аг.* — непокорный, упрямец. Няпакора ета ня паслухая цібе, хоць ты яму німа ведама што... *В. Старына.*

**Непарадак,** дку, *м.* — беспорядок. У хаці няпарадак. *В. Старына.*

**Непаслухмянства,** а, *н.* — непослушание. Чаму-б яму ня зрабіць так, — але-ж, няпаслухмянства. *В. Старына.*

**Непаслухмяны,** *прм.* — непослушный. Нейкія благія, няпаслухмяныя вашы дзеці. Няпаслухмяны хлапец. Няпаслухмяная дзяўчына. *В. Старына.*

**Непаслушэнства,** а, *н.*—непослушание. Што ета за няпаслушэн-

ства—бацькі ўжо ня хочаш слухацца?! *В. Старына.*

**Непераліўкі,** *прс. (польск.* nie przelewki)—не на шутку. Пачоў біцца, але боляй мужчын падбегла; — дык бачыць, што няпяраліўкі—ды ходу. *В. Старына.*

**Нераст,** у, *м.*—метание икры. Лінь пашоў на нераст. *В. Лядцо, Пух. р.*

**Нераставаць,** *дзс.* — метать икру. Рыба ўжо пашла няраставаць. *В. Лядцо, Пух. р.*

**Нерат,** а, *м.*—особая сеть для ловли рыбы и птиц. Папоўся ў нерат— ні ўзад, ні ўперад. *Прык.* Шчупака злавіў у нерат. Вярабейчык папоўся ў нерат. *В. Старына.*

**Несамавіты,** *прм.*—несамостоятельный, не имеющий внутренних достоинств. Нясамавіты чалавек ня ўмея гаспадарыць. Квас нейкі нясамавіты. *В. Старына.*

**Неспадзявана,** *прс.* — неожиданно. Няспадзявана прыехалі госьці. *В. Старына.*

**Неспадзяваны,** *прм.*—неожиданный. Прышоў к нам няспадзяваны госьць. Во й будуць табе няспадзяваныя грошы. Няспадзяваная гарэлка. *В. Старына.*

**Неспадобна,** *прс.* — не по вкусу. Хоць няспадобна, але трэба проўду сказаць. *В. Старына.*

**Неспакой,** ю, *м.* — неспокойствие. Адзін толька няспакой з малымі дзецьмі. *В. Старына.*

**Несыць,** і, *ж.* — ненасытный. Конь нейкая несыць: і есьць шмат і добра, а худы. *В. Старына.*

**Не'ткуль,** *прс.*—не откуда. Не'ткуль дастаць грошай, так і будам. *В Старына.*

**Не'ткулькі,** *прс.*—неизвестно откуда Не'ткулькі яна грыбоў насушыла. *В. Старына.*

**Нетшта,** *прс.*—весьма много, огромное количество. Нетшта народу зьехалася на кірмаш. *В. Старына.*

**Неўмалотны,** *прм.*—со слабой урожайностью (что определяется во время молотьбы). Авёс вяліхі парос, але няўмалотны. Няўмалотная грэчка. *В. Старына.*

**Неўрадлівы,** *прм.* — неурожайный. Няўрадлівы еты год. Неўрадлівая лета. *В. Старына.*

**Неўсьцярога,** і, *ж.* — неосторожность. Няўсьцярога бяду робіць. *В. Старына.*

**Нехрысьць,** і, *аг.*—презр., некрещенный. Што ён бога баіцца, нехрысьць еты? *В. Старына.*

**Нехта,** *займ. (пам.* **нехтачка**)—кто-то. Нехта вінават, што ён гламазда, ня так зрабіў. Нехтачка прыдзя к нам. *В. Старына.*

**Нецярплівы,** *прм.* — нетерпеливый. Які-ж ты, дзяціна, няцярплівы! *В. Старына.*

**Нечвіць,** і, *ж. у аг. сэнсе*—прожора, От дзе нечвіць, ік ня ў сібе есьць ды есьць! *В. Старына.*

**Нечысьць,** і, *ж.* — презр., нечисть. Нечысьць есьць, ня памыўшы рук. У хаця нечысьць. Прысьнілася нейкая нечысьць. *В. Старына.*

**Нешпар,** у, *м.* (польск. nieszpor, *з лацінск.* vesper—вечер) — вечерня у католиков. Нашы пашлі ў касьцёл на нешпар. *В. Старына.*

**Нешта,** *займ. (пам.* **нештачка**) — нечто, что-то. Ну, нешта-ж да будзя з нашага суда! Хадзі, нештачка скажу табе на вуха. *В. Старына.*

**Нё'ж,** *выкл.* — а то как-же. Нёш як будзя!... Нёш як ты думаяш! *В. Старына.*

**Неяк,** *прс.*—как-то. Вот неяк-жа ён ўмудрыўся дастаць сабе лесу на хату. *В. Старына. (Пр.* **Не'к**).

**Ніадсюль-ніадтуль,** *прс.* — ни отсюда—ни оттуда. Ніатсюль—ніаттуль наляцела бяда. *В. Старына.*

**Ніва,** ы, *ж.*—нива, пашня. Каб ніва радзіла, трэба яе добра абрабіць. *В. Старына.*

**Нівесьць,** *прс.* — невесть, неизвестно. Нівесьць, аткуль узялося ліха. *В. Старына.*

**Ні гадкі,** *прс.* — как ни в чем не бывало, как с гуся вода. Нарабіў кепства—і ні гадкі! *В. Старына.*

**Нідзе,** *прс.* — нигде. Нідзе й места ты ня знойдзяш сабе. *В. Старына.*

**Ні званьня**, *прс.* — совершенно ничего. Ні званьня ня 'сталося, нічога. *В. Старына.*

**Нізіна**, ы, *ж.* — низменность. Самая нізіна, дык і замачыла жыта. *В. Старына.*

**Нізка**, і, *ж.* — связок небольших предметов: грибов, бус и пр. Насушылі тры нізкі добрых грыбоў. Купіла нізку пацярак. *В. Старына. (Пр.* **Вясло**).

**Нікаць, нігаць** *дзс.*—высматривать, искать, быстро вертя головой. Вот дзяўчына—наўчыласі ат мацяры нікаць! *В. Крамяні, Пух. р.* Чаго ты там нігаеш на паліцы. *В. Старына.*

**Нікодым**, у, *м.* — паникадило. Запалілі большы нікодым, што пасярод царквы. *С. Дукора, Сьміл. р.*

**Ніколі**, *прс.* — никогда. Ніколі дамоў ня позна. Ніколі етак ня было, мусіць і ня будзя. *В. Старына.*

**Нікуды**, *прс.* — никуда. Нікуды ня пайду, дома буду. *В. Старына.*

**Німа**, *адмоўе* — нет. Німа хлеба — жаніся, німа дроў—будуйся. *Прык. В. Лядцо, Пух. р.*

**Німа ведама**—невесть (кто или что). Надзейся, ік німа ведама хто. *В. Старына.*

**Німа чаго**—нечего, не следует, не стоит. За ета сьпірацца німа чаго. *В. Старына.*

**Німашака** *(пам.* **німашачка**), — *гл.* **Німа**. Німашака цюцюну закурыць. Вашага нічога ў міне німашачка. *В. Старына.*

**Німа што**, — *гл.* **Німа чаго**. На ета глядзець німа што, рабі як трэба. *В. Старына.*

**Ніт**, у, *м. (мн.* **нітэ**)—1) часть ткацкого станка. Прытачыла ніт на тры пасмы.—2) железный болт. Бальку ўзялі на нітэ, каб ня пакалолася. У калёса доў добрыя нітэ. *В. Старына.*

**Ніўзаметку**, *прс.* — незаметно. Ніўзаметку выкідалася дзіця. *В. Старына.*

**Ніц**, *прс.* — ничком. Дзіця кінулася ніц. Упоў пярад ім ніц. *В. Старына.*

**Ніцалаза**, ы, *ж.*—ницелоз, ива ползучая (Salix repens L.). З ніцалазы—добрыя венікі. *Пас. Дубраўка, Пух. р.*

**Ніцма**, *прс.*—стремглав. Дзеці кінуліся ніцма да дому. *В. Голацак, Сьміл. р.*

**Нічагусенькі, нічагуткі**, *прс.* — 1) ласк. ничего. Круп нічагусянькі ня'сталося. Усё пяравялі—нічагуткі німа, хоць зубы на паліцу кладзі.—2) в см. хорошо. А дарма: болька зажыве й нічагусянькі будзя. Нічагуткі—па етуй бядзе жыў будзяш. *В. Старына.*

**Нішчымны**, *прм.* — неприправленный, постный (о еде). Зварыла квасу нішчымнага. Капуста нішчымная—і есьці ня хочацца яе. *В. Старына.*

**Нішчыць,-цца**, *дзс.* — уничтожать, истреблять,-ться. Ня глядзіць ён гаспадаркі, нішчыць яе. Што ета будзя: ета-ж усё нішчыцца, звадзіцца с сьвету?! *В. Старына.*

**Ніяк**, *прс.*—никак. Ніяк нельга падняць рукі. *В. Старына.*

**Ногаць**, ногця, *м.*—ноготь. Ён дзярэцца ногцямі, ік кот кіпцюрамі. *В. Старына.* У яго с-пад ногця гразі ня дастаняш. *Прык. С. Навасёлкі, Пух. р.*

**Ножынкі**, нак, *мн.* — ножницы. Малога абстрыглі ножынкамі, ік авечку. *В. Старына.*

**Нокаць**, *дзс.* — погонять лошадь, говоря „но". Нокай на каня, хай трухая. *В. Старына.*

**Нораў**, нораву, *м.*—упрямый характер с капризами. Выганю, чалавеча, увесь нораў с цібе! *В. Старына.*

**Ноўза**, ы, *ж.*—соты, не занятые медом, но годные. Трэба ўкласьці ў пусты вуляй ноўзы, мо' сядзя рой. *В. Старына (Пр.* **Наўза**).

**Ноч**, ы, *ж.*—ночь. У ночы прыехалі дамоў. Якая ноччу язда! *В. Старына.*

**Ночвы**, ваў, *мн.*—корыто для мойки белья. Налі лыгоўкі ў ночвы ды намачы сарочкі. *В. Старына. (Пр.* **Начоўкі**).

**Ношка**, і, *ж.*—охапка сена или соломы, что несут на плечах. Навязоў ношку мурагу, чуць узьняць. *В. Старына.*

**Нуда,** ы, *ж.* — тоска, печаль. Напала нейкая нуда на яго, нічога й есьці ня бярэ. З нуды аж вошы нашлі па ём. *В. Старына.*

**Нудзіцца,** *дзс.* — тосковать, горевать. Бяз бабы стоў нудзіцца чалавек. *В. Старына.*

**Нудзіць,** *дзс. безас.*—тошнить. Стала нудзіць: мусіць, нешта йзьзеў гнюсноя. Ці ня'д грыбоў етых толька міне нудзіць. *В. Старына.*

**Нудна,** *прс.* — тоскливо, печально. Ведама, дзяўчына маладая: нудна ёй цэлы дзень у хаця сядзець. *В. Старына.*

**Нукаць,** *дзс.*—говорить „ну". Нечага нукаць. *В. Старына.*

**Нутро,** а̀ *н.* — внутренности. От смашная, аж па нутры пакацілася! Гарэлкаю ўсё нутро папсавоў. *В. Старына.*

**Нутрэц,** раца̀, *м.* — жеребец со скрытым внутри одним яйцом, или у которого осталось одно яйцо после кастрирования. Нутрэц пазаядоў усіх чыста коняй. К нутрацу баюся й падходзіць: ашчэ заб'е. *В. Старына.*

**Ныгаць,** *дзс.*—перебирать еду, тыкать в нее. Яешні яму дала, а ён ныгая, ня хоча есьці. Парасята ня ядуць, а толька ныгаюць. *В. Старына.*

**Ныдзець,** *дзс.*—паршиветь, худеть. Ныдзяюць нешта парасята, саўсім блага ядуць. Ныдзяла, ныдзяла сьвінка ды й здохла. *В. Старына.*

**Ырпаліць,** *дзс.* — быстро бросать взгляды, высматривая. Як ырпаліць яна вачамі па куткох! *В. Крамяні, Пух. р.*

**Ныць,** *дзс.*—ныть, щемить. Аж сэрца ныя, ік падумаяш пра ета няшчасьцья. Усё ўсярэдзіня, баліць. *В. Старына.*

**Нэндза,** ы, *ж. (польск.* nędza).— нужда, горе. Напала на цібе нэндза нейкая, што аж рукі склоў. *В. Старына.*

**Нэндзіцца,** *дзс.*— горевать, печалиться. Нэндзіцца ён, а чаго — і сам ня ведая. Нэндзіцца дзіця німа ведама чаго. *В. Старына.*

**Нэндзны,** *прм. (польск.* nędzny) — печальный. Нешта ты сягоньня нэндзны: ці табе трэба што, ці баліць у цябе што? *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Нэньчыць,** *дзс.*—плакаться. Чаго вы, дзеткі, нэньчыця? *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Нюхаўка,** і, *ж.* — презр., нос. Паб'ю ўсю нюхаўку табе. *В. Старына.*

**Нябога,** і, *ж.*—племянница. Нябога пазвала міне на вясельля. Пайду к нябозя пасабляць касіць. *В. Старына.*

**Нябож,** а, *м,*—племянник. Нябож убачыў міне на месьця ды напаіў гарэлкаю. *В. Старына.*

**Нябошчык,** а, *м. (пам.* **нябошчычак)** *(польск.* nieboszczyk) — покойник. Нябошчыка ўжо абмылі, будуць надзяваць ды ў труну класьці. Бывала, бацька нябошчычак што ні возьмя, дык уся зробіць. *В. Старына.*

**Нябошчыца,** ы, *ж.* — покойница. Маці нябошчыца ня благая была. *В. Старына.*

**Нявейка,** і, *ж.* — невеенный хлеб. Ядуць нявейку, а багатырэ завуцца! *В. Старына.*

**Нявехна,** ы, *ж.* (*пам.* **нявехначка**)— невестка. Ну й нявехна ў цібе благая: грызіцеся кажды дзень. Ёмкая работніца наша нявехначка. *В. Старына.*

**Нявольнік,** а, *м. (жан.* **нявольніца**)— невольник. Якая я ў цібе жонка, калі я ў цібе нявольніца: ўсё ат міне хаваяш пад замком. *В. Старына.*

**Нявыдоба,** ы, *ж.* — *гл.* **Няўдобіца.** Зямлі шмат у Старыня, але адна нявыдоба, надта ня разжывесься. *В. Старына.*

**Нягоднік,** а, *м.,* **нягодніца** ы, *ж.* — негодяй, -йка. Нягоднік еты толька шкоду людзям робіць. Пачакай-жа, нягодніца, ня паслухайся ты міне ашчэ раз! *В. Старына.*

**Нягодны,** *прм.*— скверный, злой. От які нягодны хлопяц: каждага ён зачэпіць, нікога ня прапусьціць! Нягодная дзяўчына яна, — набрахаць на другіх умея! *В. Старына.*

**Нягоцька,** і, *ж.*—плохая, дождливая осенняя погода. Кепская сягоголята восень: скрозь нягоцька, мочыць, німа як і картоплі выбіраць. *В. Старына.*

**Нядбайнік,** а *м.*, **нядбайніца,** ы, *ж.* —нерадивец, нерадивица. Малады, здаровы мужчына, а які нядбайнік: ані нічога ня хоча рабіць. Які мужык нядбайнік, такая й яна нядбайніца. *В. Старына.*

**Нядбалы,** *прм. (польск.* niedbały) — нерадивый, небрежный. Такі нядбалы: ні за што ня хоча й рук зачапіць. *В. Старына.*

**Нядоля,** і, *ж.* — недоля, неудача. Усё нядоля мая робіць так. *В. Старына.*

**Нядошліца,** ы, *ж.* — недоросль, недоразвившаяся слабая женщина. Такая нядошліца ня гадзіцца на работу. *В. Бор, Сьміл. р.*

**Нядошлы,** *прм.* — недоразвившийся, слабый. Ведама, нядошлы: яму ўсё ня пад сілу. *В. Старына.*

**Нядуж,** *скар. прм.* — болен. Стары нешта стоў нядуж. *В. Старына.*

**Няёмка,** *прс.* — неудобно, стеснительно. Няёмка тут сядзець. Няёмка самому пачынаць гаварыць. *В. Старына.*

**Нязграбны,** *прм.* — неизящный, некрасивый, неуклюжий. Нязграбныя твае рукі. Нязграбныя-ж ты зрабіў калёса! *В. Старына.*

**Няздара,** ы, *аг.* — неимеющий дара (способности) к чему. Няздара ета й кліна ня завострыць палюдзку. *В. Старына.*

**Нязьлюбіць,** *дзс.* — возненавидеть. Нязьлюбіла яна свае падчарыцы. Карова нязьлюбіла цяляці ды ня дае йссаць. *В. Старына.*

**Някемны,** *прм.* — непамятливый. Някемны-ж ты, чалавеча, — сам хавоў ды ня ведае дзе! *В. Старына,*

**Нялёгкая,** *ж.* — злая сила. Нялёгкая прынесла яго сюды! *В. Старына.*

**Нялішкі,** *у сэнсе прс.*— не особенно много. Пазычыў-ба табе хлеба, але ў самога нялішкі. *В. Старына.*

**Нялюднік,** а, *м.*, **нялюдніца,** ы, *ж.* — нелюдим,-мка. Удоўся нейкі нялюднік, што людзей баіцца. Нялюдніца тая баіцца й с хаты выткнуцца. *В. Старына (Пр.* **Нелюдзь).**

**Нямаль,** *прс.* — едва. Нямаль усе грошы выдаў. *В. Старына.*

**Нямыцька,** і, *аг.* — замарашка. Нямыцька, ідзі памыйся, тады будзяш есьці. *В. Старына.*

**Нянаракам,** *прс.* — *гл.* **Ненарокам.** Ета ён нянаракам табе зрабіў. *В. Карзуны, Сьміл. р.*

**Няпроўда,** ы, *ж.* — неправда. Няпроўду ты кажаш, ня етак яно было. *В. Старына.*

**Няпрыменна,** *прс.*—непременно. Глядзі-ж, няпрымянна зрабі мне ета! *В. Старына.*

**Няпрытомны,** *прм* — беспамятный, бессознательный. Бегая, ікняпрытомны. *В. Старына.*

**Няпрыхотна,** *прс.*—неприлично. Не'к няпрыхотна, каб стол быў у сьвята ня заслаңы. *В. Старына.*

**Няпэўны,** *пам.* — ненадежный. Ён няпэўны чалавек: сказоў, але можа й ня зрабіць. Дарога ціпер цяраз раку няпэўная. *В. Старына.*

**Нярана,** *прс.* — поздно. На дварэ, мусіць, ужо нярана: трэба йці статку даваць. Нярана ўжо—пара дамоў ехаць. *В. Старына.*

**Няраха,** і, *ж.* — неряха. Узёў замуж нейкаю няраху: у хаця гразі па вушы. *В. Старына.*

**Нясовесны,** *прм.*—бессовестный. Які нясовясны ён чалавек: пазычыў грошай ды ня хоча аддаваць. *В. Скобраўка, Пух. р.*

**Нясусьветны,** *прм.* — не виданный „сьветам"—людьми. Шэльма еты нясусьветны, ашчэ хоча судзіцца са мною. Гультай ты нясусьветный! *В. Старына.*

**Няўдалы,** *прм.* — неудачный. Няўдалы наш лён. Няўдалая пшаніца. *В. Старына.*

**Няўдача,** ы, *ж.* — 1) неудача. Раз будзя няўдача, два, а трэйці мо' й павязе. — 2) незавидные, неказистые парень или девица. Папоўся мне жаніх, нейкая няўдача, — што я з ім буду рабіць?

*В. Старына.* За няўдачу даюць прыдачу, а добрую й так возьмуць. *Прык. С. Амельна, Пух. р.*

**Няўдобіца,** і, *ж.* — неудобная земля. Цяжка жыць тут: зямля — адна няўдобіца. *С. Навасёлкі, Пух. р.*

**Няўжо, няўго,** *пытаньне,* — неужели. Няўжо ета проўда? — А няўжо-ж як!.. — *В. Старына.* Няўго-ж ніхто нічога на ведая? *В. Клятное, Пух. р.*

**Няўздолець,** *дзс.* — не иметь силы одолеть. Бацька ўжо наўздоляя цібе выцяць. *В. Старына.*

**Няўмека,** і, *аг.* — неумелый. Раз няўмека, дык і ня бярыся за работу, каб сапсаваць. У няўмекі — рукі калекі. *Прык. В. Старына.*

**Няумысьля,** *прс.* — неумышленно. Няўмысьля зрабіў так. *В. Старына.*

**Няўпамкі,** *прс.* — не в память. Мне ета нешта й няўпамкі. *В. Старына.*

**Няўпраўка,** і, *ж.* — невозможность управиться с чем. Аднаму ў гаспадарца няўпраўка. Ашчэ с сенам няўпраўка. *В. Старына.*

**Няўрокам,** *прс.* — не на сглаз, чтобы не сглазить. Няўрокам кажучы, вам на скаціну шанцуя. *В. Старына.*

**Няўшкоду,** *прс.* — так и следует, не во вред. Абсудзілі — і няўшкоду злодзяю. *В. Старына.*

**Няхай,** *дапамож.*—пусть, пускай. Усё няхай ды няхай, — ды так яно й асталося няробляная. *В. Старына.* Няхай — нядобры чалавек. *В. Капейна, Сьміл. р.*

**Няхват,** у, *м.* — недостаток. Корму будзя няхват. *В. Старына.*

**Няхлюйства,** а, *н.* — неряшливость. Кароста яго заела,—а ўсё няхлюйства. *В. Старына.*

**Няхлюя,** і, *аг.* — неряха. Вот няхлюя — ходзіць ня мыўшыся. *В. Старына.*

**Няхрышчаны,** *прм.* — некрещенный (о детях). Дзіця памерла няхрышчаная. *В. Старына.*

**Няхрышчоны,** *прм.* — некрещенный (об иноверцах). Туркі — няхрышчоныя й ашчэ шмат ё няхрышчоных. *В. Старына.*

**Няць** *веры* — верить. Ня хочу няць веры етаму. Ня йму табе веры ні на грош. *В. Старына.*

**Нячыстая** *сіла* — злой дух. Нячыстая сіла цібе прынесла сюды. Прыгнала яго нячыстая! *В. Старына.*

**Няядкі,** *прм.* — не аппетитный. Няядкая сена ані: конь і ў рот браць ня хоча. *В. Старына.*

## О.

**О-о,** *выкл.* — о-о. О-о, я ня то абы хто! *В. Старына.*

**О-ё-ёй!** *выкл.*—ай-ай-яй! О-ё ёй, які ты разумны ў міне нашоўся! *В. Старына.*

**Ой-вой,** *выкл.* — ой, ой. Ой баліць, ратуйця! *В. Старына.*

**От,** *дапамож.* — вот. От табе й на— усё яго панства прапала! *В. Старына.*

**Охо-хо!** *выкл.*— ох. Охо-хо, старасьць ня радасьць! *В. Старына.*

## П.

**Паабедаць,** *дзс.* — плотно закусить. Калі па'бедалі, дык сабірайцяся ехаць. *В. Старына.*

**Паабураць,-цца,** *дзс.* — поопрокидывать,-ться; пообрушать,-ться. Вецяр па'бuроў платэ. Бабкі за гумном па'бураліся. *В. Старына.*

**Пааддыхаць,** *дзс.* — поиздыхать. Пагібяль на іх, нешта па'ддыхалі нашы парасята. *В. Старына.*

**Пааджымаць,** *дзс.*—помыть в первой воде грязное белье. Па'джымала ў цёплуй вадзе плацьця. *В.Старына.*

**Паадкідаць,-цца,** *дзс.* — поотбрасывать,-ться. Па'ткідай сьнег ад ганку. Уся гліна па'дкідалася, што пяпілі. *В. Старына.*

**Паадсыпацца,** *дзс.*—*гл.* **Пааддыхаць.** Па'тсыпаліся, ліха на іх, усе нашы пылянята! *В. Старына.*

**Паакочвацца,** *дзс.* — оягниться (об овцах). У Халімонавых па'кочваліся ўсе авечкі. Па'кочваюцца й нашы, ік прыдзя пара. *В. Старына.*

**Паараць,** *дзс.* — вспахать. На зіму па'ралі, ціпер будам малаціць. *В. Старына.*

**Паарыштоўваць,** *дзс.* — арестовать многих. Усіх зладзеяў па'рыштоўвалі ды атправілі ў Мінск. *В. Старына.*

**Паатручваць,-цца,** *дзс.* — поотравливать, -ться. Мышы, мусіць, па'тручваліся: ня чуваць нешта. *В. Старына.*

**Пабажыцца,** *дзс.* — побожиться. От маньцель — ашчэ и пабажыўся! Яму пабажыцца, ік сьвіньні перднуць! *В. Старына.*

**Пабак,** а, *м.* — недлинная толстая веревка для прицепливания к хомуту лошади плуга, бороны, дышла молотилки; бывает обыкнов. в паре. Парвоўся адзін пабак. Доўга прывязаў ты пабаке. *В. Старына.*

**Пабаранаваць,** *дзс.* *(прм.* **пабаранованы)** — побороновать. Два разы пабаранавоў сваю картоплю. Як ета пабаранована, ік на сьмех! *В. Старына.*

**Пабасьці,-ціся,** *дзс.*—поколоть,-ться крапивой. Ня йдзі сюдэю: тут ногі аб крапіву пабадзеш. Голымі рукамі ня рві травы: пабадзесься аб крапіву. *В. Старына.*

**Пабацькаўскі,** *прс.*—поотцовски. Рабі ты пабацькаўскі, дык будзяш жыць на сьвеця. *В. Старына.*

**Пабачыць,-цца,** *дзс.*—повидать,-ться. Пабач, што тут робіцца. Яны хочуць, каб як пабачыцца. *В. Старына.*

**Пабегчы,** *дзс.* — побежать. Надзеўся аж ня пабегчы. Дзяўчата пабеглі ў грыбэ. *В. Старына.*

**Пабедаваць,** *дзс.* — погоревать. Пабядавалі троху ды й толька таго. *В. Старына.*

**Пабіцца,** *дзс.* — 1) побиться, расколоться. Пабілася новая місачка.— 2) подраться. Хлапцэ за невашта пабіліся. *В. Старына.*

**Пабіць** *на раны* — поделаться от неизвестной причины язвам, ранам. Чыста ўсю нагу пабіла на раны. *В. Старына.*

**Паблажэць,** *дзс.* — 1) испортиться. Нешта ён паблажэў, уперад быў лепшы. — 2) похудать. Паблажэла наша дзеўка посьля хваробы. *В. Старына.*

**Паблішчаць** *у вочы,* — поторчать пред глазами. Паблішчыць у вочы ды пойдзя. *В. Старына.*

**Паблутаць,-цца,** *дзс.* *(прм.* **паблутаны)** — попутать, помять. Нашто ты паблутаў пражу ў кроснах? Паблуталіся ніткі. Ат сьценкі ўвесь лён паблутаны. *В. Старына.*

**Пабожаму,** *прс.* — по-божески. Трэба мець совясьць, трэба рабіць пабожаму! *В. Старына.*

**Побольшаць,** *дзс.* — увеличиться. Шмат пабольшаў дзянёк. Ноч ужо пабольшала. *В. Старына.*

**Побольшыць,** *дзс.* — увеличить что. Сьвітка мала: трэба яе пабольшыць. Каб як шапку пабольшыць, ашчэ троха панасіў-ба. *В. Старына.*

**Пабоўтаць** *(плацьце),*—помыть, болтая в воде, бельё. К калодзіжу трэба несьці пабоўтаць плацьця. Аж у двух вадах пабоўтала плацьця. *В. Старына.*

**Пабрахаць,** *дзс.* — полаять. Сабака пабрэша ды сьціхня. — 2) наговорить ругательств. Ты маўчы ляпяй: ён пабрэша ды пойдзя. *В. Старына.*

**Пабрыціць,-цца,** *дзс.*—побрить,-ться. Пабрыціў вусы, каб у рот ня лезьлі. Ці ня сам ты етак пабрыціўся, што каля вуха валасэ тарчаць? *В. Старына.*

**Пабудаваць,** *дзс.* — построить. Зарабіў сабе грошай ды пабудавоў новаю хату. *В. Старына.*

**Пабукацца,** *дзс.* — постукаться лбами (о баранах, козлах). Хай пабукаюцца баранэ. Казельчыкі пабукаліся. *В. Старына.*

**Пабуцьвець,** *дзс.* *(прм.* **пабуцьвеўшы)** — подгнить от сырости. Пабуцьвяла бярвеньня, лежачы на

дажджы. Пабуцьвеў зруб у калодзіжы. Етыя дошкі ня тавар:—пабуцьвеўшыя. *В. Старына.*

**Пабучнець,** *дзс.* — потолстеть от лучшего питания. Ік сталі лепяй каровя даваць, дык атразу папраўілася, пабучнела. *В. Старына.*

**Пабэрдзаць, пабэрсаць,** *дзс.*— неаккуратно что сделать: сжать, сгрести, скосить и т. д. Ну й панчоху ты робіш: вочкі ўсяроўна, як куры пабэрдзалі! *В. Дайнава, Пух. р.* Нячыста пажалі: пабэрсалі з большага ды й толька. *В. Старына.*

**Пабяляньне,** я, *н.* — полуда чугунной посуды. Ад гаршка отстала пябяляньня. *В. Крамяні, Пух. р,*

**Павадок,** дка́, *м.* — уменьш. **повад.** Німа павадка, чым увязаць мяшке. Пры вобрыці кароткі павадок. *В. Старына.*

**Павадыр,** а̀, *м.* — вожак (нищих). Ён-жа малым быў у старцоў за павадыра, а ціпер гаспадар. *В. Старына.*

**Павадыроў,** *прм.* — принадлежащий **„павадыру"**. Ета старцава, а ета павадырова торба. Павадыроў кій. *В. Старына.*

**Паважаць,** *дзс.* — уважать. Етакага чалавека ўсе паважаюць. *В. Старына.*

**Павала,** ы, *аг.* — поваленное бурей дерево; перен.,—лежебок. Павала ета ляжыць цэлы дзень. Ляжыць, ік павала. *В. Старына.*

**Павалаводзіць,** *дзс.* — поводить за нос. Ці мала ён ашчэ міне павалаводзіў, пакуль аддоў грошы! Павалаводзілі нас здорава, пакуль дабіліся толку. *В. Старына.*

**Павалакці,-ціся,** *дзс.* — потащить, -ться. Вот цяжкоя бярвіно: аднаму чуць павалакці! Адзін етага воза ня павалачэш. Вэнь кабыла паваплаклася ў шкоду. *В. Старына.*

**Павалаць** *дзс.* —*(польск.* powołać), 1) позвать, попросить. Ік павалаюць, дык пайду на вясельля.— 2) потребовать. Хвадзея ў міліцу павалалі. *В. Старына.*

**Паваліна,** ы, *ж.* — *гл.* **Павала.** Выцягнулі з балота паваліну, *В. Вострава, Сьміл. р.*

**Павалі́ць,-цца,** *дзс.*—повалить,-ться. Ён міне ня паваліць. Ішоў ды паваліўся. *В. Старына.*

**Павалодаць,** *дзс.*—осилить. Вот дзе калода: удвух яе ня павалодаць, каб палажыць на калёса! *В. Старына.*

**Павалтузіць,-цца,** *дзс.* — потаскать что, потаскаться с кем в драке. Парасюк павалтузіў пасьцелку. Мужчыны павалтузіліся загрудкі. *В. Старына.*

**Павалэндацца,** *дзс.*—поканителиться, потягаться. Ці мала я павалэндаўся з етым судом? хай яго параду! *В. Старына.*

**Паварачвацца,** *дзс.*—бывать, ходить где. А ён часьцяком тут паварачваяцца. *В. Старына.*

**Паварочаць,** *дзс.*—*гл.* **Паварушыць.** Паварочалі сена, каб лепяй сохла. *В. Старына.*

**Паварочацца,** *дзс.*—повозвращаться. Шмат хурманак паехала ў Рудзенск па соль, ды паварочаліся пустыя. *В. Старына.*

**Павартаваць,** *дзс.* — посторожить. Павартуй, браток, за міне адну ноч коняй! *В. Старына.*

**Паварушыць,** *дзс.* — поворошить. Каб трошка паварушыць канюшыну, дык сягоньня за дзень і прасохла-б. *В. Старына.*

**Павар'яцець,** *дзс.*—посойти с ума. Павар'яцялі вы, ці што? што вы робіця? *В. Старына.*

**Павахтаваць,-цца,** *дзс.* (*прм.* **павахтованы)**—нарушить определенное положение. Павахтавоў шула, дык варота ня прыстаюць. Паскідаяцца, бо кола павахтавалася. Балька павахтована—ціпер трудна яе будзя зьняць. *В. Старына.*

**Павашаваць,** *дзс.*—глубоко порыть. Чужыя сьвіньня павашавалі картоплю за гумном. *В. Старына.*

**Павек,** *прс.*—вечно, во-век. Павек ня забуду твае ласкі. *В. Старына.*

**Павеньдзіць,-цца,** *дзс. (прм.* **павенджаны)** — покоптить,-ться. Павеньдзілі сьцягняке к сьвяту. Каўбасы блага павеньдзіліся. Прадоў павенджаны кунпяк. *В. Старына.*

**Павесма,** ы, *ж.*—мера льна, равная 6 „ручайкам“. Пастуху далі павесму лёну. *В. Матарова, Сьміл. р.*

**Паветрая,** аі, *ж.* — мор, поветрие. Каб на цібе паветрая найшла с такім чалавекам. І паветраі німа ня яго! *В. Старына.*

**Павець,** і, *ж.* (*пам.* **паветка**)—навес для складки дров, а также и хозяйствен. инвентаря. Усю павець завалілі дрывамі да карчамі. Закаці калёса пад павець. Барана пад паветкаю. *В. Старына.*

**Павіваць,** *дзс. (зак.* **павіць**)—перевивать третьей веревочкой свитую веревку или кнут. Павівая вяроўку, каб крэпкая была. Паві мне пугу, ты лепяй умеяш. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Павідлівы,** *прм.* — завистливый. Ай які-ж ён павідлівы: што ўбачыць, усё каб яму! Павідлівая яна жанчына. *В. Старына.*

**Павідна, павінна,** *прс.* — должно. Павідна быць усё добра. Павінна свайго аўса хваціць на насеньня. *В. Старына.*

**Павіднець,** *дзс.* — посветлеть. На дварэ троха павіднела. Павіднелі ночы. *В. Старына.*

**Павінен,** *прм. скар.* — вынужден, должен. Павінян зараз Цімох сюды прыці. Яна ашчэ павінна нас там чакаць. *В. Старына.*

**Павітацца,** *дзс.*—поздороваться. Ня хоча ён і павітацца са мною, мусіць—сярдзіт. *В. Старына.*

**Павітуха,** і, *ж.*—повивальная бабка. Марына ўжо пашла ў павітухі. *В. Старына.*

**Паводка,** і, *ж.*—полноводье. Паводкаю падняло сена іс пакосаў. *В. Старына.*

**Павойкаць,** *дзс.* — поохать. Павойкала яна, ік схапіў жывот яе! *В. Старына.*

**Паволі,** *прс.*—не спеша. Паволі едзь, ня разганяйся надта! *В. Старына.*

**Павоўчаму,** *прс.* — поволчьи. Наш сабака павоўчаму выя. *В. Старына.*

**Павук,** а̀, *м.* — 1) паук. Вэньдзяка павук злавіў муху ды смокча яе.— 2) павлин. У Дукоры ў саўхозя водзяцца павуке. *В. Старына.*

**Павучыньне,** я, *зб. н.*—паутина. У хаця чоршта павучыньня вісіць. *В. Старына.*

**Павывучваць,-цца,** *дзс.* — повыучить, -ться. Павывучваў ён сваіх дзяцей, ік падрастуць, ня будуць клясьці. Усе сынэ яго павывучваліся: хто на каваля, хто на шаўца. *В. Старына.*

**Павыкасоўваць,** *дзс.* — повычеркнуть. Павыкасоўвалі ўсіх, толька пяцёх пакінулі ў сьпіску. *В. Старына.*

**Павытузваць,** *дзс.* — повыдернуть. Дзеці ўсю брушку павытузвалі з град. Каб с цібе зубы паватузвала! *В. Старына.*

**Павыцягваць, - цца,** *дзс.* — повытащить,-ться, издохнуть. Павыцягвалі дохлых кацянят у яму. Каб яны павыцягваліся, такія парасяткі! *В. Старына.*

**Павярнуцца,** *дзс.* — повернуться. У хаця цесна, німа дзе й павярнуцца. *В. Старына.*

**Павярнуць,-цца,** *дзс.* — поворотить, -ться. К сабе павярні каня. Надзеўся, аж ня павярнуцца. *В. Старына.*

**Павячэраць,** *дзс.* — поужинать. Павячэраям ды атразу спаць палягам. Павячэраўшы, прыду к вам. *В. Старына.*

**Пагабляваць,** *дзс.* (*прм.* **пагаблёваны**) — постругать рубанком. Пятрок пагаблявоў свае лаўкі. Зуслончык пагаблёваны. *В. Старына.*

**Пагадзіць,** *дзс.* — пообождать. Пагадзі з мінуту—зараз прыду. Твой пагадзі, як яго пачакай. *Прык. В. Капейна, Пух. р.*

**Пагадзя,** *прс.* — обождавши. Троха пагадзя, заходзь па міне ды пойдам разам. *В. Старына.*

**Пагаласіць,** *дзс.* — поголосить. Ой пагаласіла яна па свайму мужыку! *В. Старына.*

**Пагалець,** *дзс.*—обеднеть. Пагалелі яны, ліха іх матары, картоплі й тае німа! *В. Старына.*

**Пагалоўшчына,** ы, *ж.*—подушная подать (от времени крепостного права). За паншчынаю плацілі пагалоўшчыну. *В. Старына.*

**Пагаманіць,** *дзс.* — 1) поговорить. Мужчыны пагаманілі ды разышліся. — 2) побранить слегка. Троха пагаманіў на етага шэльму, а боляй што ты яму зробіш. *В. Старына.*

**Паганашыць,** *дзс.*—ощипать до чиста. Бяз пары дзеці паганашылі ўсе яблыкі. *В. Старына.*

**Паганец,** нца, *м.*—скверный, мерзкий человек. От такі-ж паганяц еты хлопяц: пастаянна ўвядзецца с канём у шкоду! *В. Старына.*

**Пагань,** *прм.*—скверный, мерзкий. Які паганы чалавек ён: ні за што з ім ты ня згаворысься! *В. Старына.*

**Паганяты,** ага, *м.*—погонщик. Які с цібе паганяты, калі ты ня ўмеяш на каня пугаю махнуць! *В. Старына.*

**Пагарэлае,** ага, *як ім. н.*—нищенствование по причине пожара. Цэлаю восянь усе езьдзяць на пагарэлая. Ік настаня тоя лета, дык усё на пагарэлая ходзяць ды ходзяць. *В. Старына.*

**Пагаспадарыць,** *дзс.* — похозяйничать. Ня доўга пагаспадарыў ён: хутка памёр. *В. Старына.*

**Пагатове,** *прс.*—тем более. Ён і пагатовя ня пойдзя, калі яму ашчэ й ня сказалі. *В. Старына.*

**Пагібель,** і, *ж.*—1) гибель. Пагібяль на яго найшла: ад жывата кончыўся.—2) в смысле наречия: весьма много. А ягад у леся—пагібяль што іх робіцца! *В. Старына.*

**Пагінуць,** *дзс.*—погибнуть. Пагінулі нейдзя ў траве пылянята. Пагінулі агурке ат мароза. *В. Старына.*

**Пагледзіць, паглядзець, палядзець, -цца,** *дзс.* — посмотреть, -ться. Ня хоча й пагледзіць сюды. Пагледзь сабе, калі хочаш, я пакажу. Купіш, ня купіш, а паглядзець можна. Паглядзісься, што на маём будзя! Ну палядзіся-ж ціперака ў люстэрак, які ты харошы! *В. Старына.*

**Паглум,** у, *м.*—порча. Шмат дубцоў у паглум пашло—пасохлі. *В. Старына.*

**Паглуміць, -цца,** *дзс.* — попортить, -ться. Талька дарам паглуміў дошкі, а нічога ня зрабіў. Паглумілася шмат дабра етаю возкаю. *В. Старына.*

**Паглытаць,** *дзс.*—поглотать, жадно поесть. Адзін паглытоў усё, нікому ня пакінаў. *В. Старына.*

**Пагладаць,** *дзс.*—посматривать. Нешта ён скоса паглядая на міне. *В. Старына.*

**Пагнацца,** *дзс.*—1) погнаться, побежать. Сабака пагноўся за зайцам. *В. Старына.* Хацеў за ім пагнацца, але ж усяроўна ня дагоню. *В. Крамяні, Пух. р.*— 2) увлечься чем. Дурань ён, пагноўся на чужоя дабро, а сваё пратраціў. Пагноўся за лёгкімі заработкамі, ды сваё прарабіў. *В. Старына.*

**Пагнесьці,** *дзс.*—потолочь. Якая ета каша: з большага пагняла картоплю ды падае есьці. *В. Старына.*

**Пагнілак,** лка, *м.*—гнилое бревно, чурбан. Пагнілак парэзалі на дрова. *В. Старына.*

**Пагнільле,** я, *н. зб.* — гниль. Бярвеньня ў хаця—адно пагнільля. *В. Старына.*

**Пагной,** ю, *м.*—поле, удобренное навозам **(гноем).** На пагної пасеялі картоплю. *В. Старына.*

**Пагнойка,** і, *ж.* — гриб шампиньон, навозник. Чоршта пагнояк у іржышчы. *В. Лядцо, Пух. р.*

**Пагнюсіць,** *дзс. (прм.* **пагнюшаны)**—загадить. Кот пагнюсіў ваду—ня пі. Зацірка пагнюшана. *В. Старына.*

**Пагнявіць,** *дзс.*—угневить многих. Хаця-ж каб гасьцей ня пагнявіць! *В. Старына.*

**Пагода,** ы, *ж.* — 1) погода, вёдро. Ах, пагода, аж зьвініць! (знач., очень хорошая, ясная погода). За пагодаю парабілі сена.— 2) благоприятные обстоятельства. Уцякайма ат'етуль за пагодаю, ато 'к нойдзя хто, дык ашчэ наўскідая! *В. Старына.*

**Пагортаць,** *дзс.* — перевернуть. Пагортай картоплю ў печы, каб лепяй пяклася. *В. Старына.*

**Пагоршаць,** *дзс.* — стать хуже. Нашаму хвораму ашчэ погоршала. *В. Старына.*

**Паграбец,** бца, *м.* — погребок. Цэлы паграбец насыпалі картоплі. *В. Старына.*

**Пагрубець,** *дзс.*—потолстеть от беременности. Матруна шмат пагрубела: мусіць, хутка абродзіцца. *В. Старына.*

**Пагрукацець,** *дзс.* — поехать, стуча телегою. Ён аж вэнь дзе ўжо пагрукацеў! *В. Старына.*

**Пагрызьціся,** *дзс.* — сильно поссориться. Пагрызьліся, ік тыя сабакі, і гаварыць ня хочуць адзін з другім. *В. Старына.*

**Пагрэбіны,** аў, *мн.* — клочья при огребаньи стога или воза. Пагрэбіны ўскінь на воз. *В. Старына.*

**Пагудзіць,** *дзс.*—похулить. Пагудзь аднаго з іх, дык нядобра й пярад другім. *В. Старына.*

**Пагукацца,** *дзс.* — иметь случку (о свинье) Свіньня пагукалася, дык і ня лётая боляй. *В. Старына.*

**Пагукаць,** *дзс.*—позвать. Трэба бацьку пагукаць, хай ідзе сьнедаць. *В. Старына.*

**Пагуляць,** *дзс.*—1) погулять в обыкн. см. Пагулёў троха, а ціпер і за работу! — 2) поиграть, позабавляться. У коні пагулялі, а ціпер давайця ашчэ ў гусака пагуляям. *В. Старына.*

**Пагурак,** рка, *м.* *(польск.* pagórek)— холмик. Вятрак стаіць на пагурку. Іх хата на пагурку. *В. Старына.*

**Пагыркаць,** *дзс.*—побюржжать. Ня бойся ты яго: пагыркая ды сьціхня. *В. Старына.*

**Падабацца,** *дзс.* — нравиться. Ня вельма што мне падабаюцца тваe выкрунтасы! *В. Старына.*

**Падавальня,** і, *ж.* — длинный шест с крючком для подавания снопов в „азярод“. Зрабіў ёмкаю падавальню: снапэ будзя добра падаваць. *В. Старына.*

**Падавацца,** *дзс.* *(зак.* **падацца**)— 1) подвигаться вперед. Падайся с сваім возам троха наперад.—2) поступать на службу, или в учебное заведение. Кончыў вучэньня ў Сьмілавічах ды падоўся вўчыцца ашчэ ў Мінск. *В. Старына.*

**Падаваць** *статку* — кормить скот. Падаю статку ды будам сьнедаць. *В. Старына.*

**Падаглядаць,** *дзс.*—досмотреть, покормить скот. Людзі даўно ўжо падаглядалі сваю скаціну, а ты ашчэ вылежваяськя! *В. Старына.*

**Пададзьмуць,** *дзс.* — поддуть. Пададзьмі цяпло на комінку, ато нешта тухня. *В. Старына.*

**Падазроны,** *прм.*—подозрительный. Еты чалавек падазроны, лепяй ня зьвязвайся ты з ім. *В. Старына.*

**Падакпіць,** *дзс.* — подшутить, подсмеяться над кем. Троха падакпілі с таго дурня. *В. Старына.*

**Падараваць,** *дзс.* — простить. Я-ж табе ня падарую, гіцаль, боляй ты ня будзяш заводзіцца з дзецьмі! *В. Старына.*

**Падаражэць,** *дзс.* — подорожать. Крамніна падаражэла, а жыта падзяшавела. *В. Старына.*

**Падарожнік,** а, *м.* — подорожник большой (Plantago major L); прикладывают к порезам, чирьям. Падарожнікам прылажы скулу, дык хутчэй праrве. *В. Старына.*

**Падарожны,** ага, *м.*—подорожный. Заехаў к нам на нач нейкі падарожны. *В. Старына.*

**Падасінавік,** а, *м.* — гриб осиновик. Падасінавікі са два паднёў, а больш німа. *В. Старына.*

**Падаткі,** аў, *мн.* — подати. Прадоў цялушачку на падаткі. Аддоў падаткі—ды лезь на палаткі. *Прык. В. Старына.*

**Падаць,** *дзс.*—1) падать. Дзіця ня ўмея хадзіць, усё падая.—2) слишком вдаваться в какое дело, работу. Падаў, падаў за работаю, пакуль ня падарвоўся. *В. Старына.*

**Падбавіць,** *дзс.* — подбавить слегка, прибавить. Падбаў цяпло, каб ·відней было. *В. Старына.*

**Падбасоўка,** і, *ж.* — третья струна в скрипке—„ре“. Ты вадзі цмыкам толька па басу й падбасоўца. *В. Старына.*

**Падбіваць,** *дзс.* (*зак.* **падбіць**)— 1) прикреплять, прибивать что снизу. Падбіў падноскі.—2) подбить (глаз). Нехта падбіў яму вока. — 3) подстрекать. Падбілі другія, а ён дурань паслухаў.— 4) взбивать подушку. Падбі троха падушку, мякчэй будзя спаць. *В. Старына.*

**Падбел,** у, *м.* — 1) мать и мачеха (Tussilago farfara L). — 2) тысячелистник обыкновенный (Achillea Millefolium L). *В. Старына.*

**Падбіцца,** *дзс.*—слишком устать от ходьбы. Саўсім падбіўся я: шмат прайшоў, ня думайся! *В. Старына.*

**Падбіцьцё,** я, *н.*—подкладка. Парвалася ў катанца подбіцьцё. *В. Старына.*

**Падбор,** а. *м.*—каблук. У тваіх ботах высокія падборы. Пастроіў адзін падбор. *В. Старына.*

**Падбрушнік,** а, *м.*—чересседельник. Тужэй падцягні падбрушнік каню. *В. Вострава, Сьміл. р.* (*Пр.* **Падпінак**).

**Падбрушша,** а, *н.*—брюшина. У вярэпаўкі серая падбрушша. *В. Старына.*

**Падбухторваць,** *дзс.* (*зак.* **падбухторыць**) — подстрекать. Няхай сабе свараццa, а ты ня падбухторвай, тваё дзела старана! Етаж ён іх падбухторыў, каб пабіліся. *В. Старына.*

**Падбылы,** *прм.* — гл. **Паджылы**. А ўжо яна падбылая дзеўка. *В. Старына.*

**Падваротніца,** ы, *ж.* — подворотня. Залажы падваротніцу, каб чужыя парасята ня лазілі на двор. У ток нехта ўлез праз падваротніцу. *В. Старына.*

**Падводзіць,** *дзс.* (*зак.* **падвесьці**) — 1) подводить кого к чему. Падводзьця коняй к вазом, — запрагаць будам. — 2) обманывать. Я етага ня бяруся зрабіць і ня хочу дарам падводзіць людзей, каб міне клялі. Лоўка падвёў ён міне, прахвост! *В. Старына.*

**Падвучваць,** *дзс.* (*зак.* **падвучыць**)— подучивать, наускивать. Маладзец, добра робіш: падвучыў, каб дзеці кралі чужоя. *В. Старына.*

**Подвячорак,** рка, *м.* — закуска перед ужином. Ета ў нас падвячорак, а вячэра ашчэ будзя. *В. Старына.*

**Падвячоркаваць,** *дзс.* — закусывать перед ужином. Жалі, жалі ды селі падвячоркаваць. *В. Старына.*

**Падгаляакнуць,** *дзс.* — подбросить вверх. Высока падгаляакнаў мячык. *В. Скрыль, Пух. р.*

**Падгіньдзіцца,** *дзс.* — потощать. Нешта-ж ты, дзяціна, саўсім падгіньдзіўся за лета! *В. Старына.*

**Падглядаць,** *дзс.* (*зак.* **падглядзець, падгледзіць**) — 1) подсматривать. Падкроўся ды падглядая, што мы робім. Нехта падгледзіў, дзе ляжалі грошы, ды ўкроў. — 2) о пчелах вынимать мёд из ульев. Сьцяпан падглядая пчолы. *В. Старына.*

**Падгузы,** аў, *мн.* — шлея. На кані новыя раменныя падгузы. *В. Турэц, Сьміл. р.* (*Пр.* **Нарытнікі**).

**Падагэрц,** ца *м.* — железный крюк, притягивающий шкворень к „трайні“. Падгэрц пагнуўся, нельга зачапіць за шворан. *В. Матарова, Сьміл. р.*

**Паддаваць,** *дзс.* (*зак.* **паддаць**)—подсоблять поднять на плечи тяжесть. Я буду насіць мяшке, а ты будзяш паддаваць мне на плечы. Ну паддай-жа, панясу! *В. Старына.*

**Падданы,** *прм.* — подданный. Нечага вельма камандаваць мною: я ня твой падданы. *В. Старына.*

**Паддаць** *духу, ахвоты,* — придать охоты, подзадорить в артельной работе. Ашчэ паддай духу, каб аж грымела! Паддай ахвоты, хлопцы! *В. Старына.*

**Паддобрывацца,** *дзс.* (*зак.* **паддобрыцца**) — поддабриваться, подольщаться. Бачыш, чуя, што трэба будзя прыці ў пазыку, дык стоў паддобравацца. Паддобрыўся к етаму дурню ды выманіў у яго ножык. *В. Старына.*

**Паддрыпацца,** *дзс.* — обрызгаться грязью. Дзе-ж ты етак паддрыпаўся: уся сьвіта ў гразі? *В. Старына.*

**Паджылы,** *прм.* — пожилой. Ён так сабе, паджылы чалавек, ня малады ўжо. *В. Старына (Пр.* **Падбылы).**

**Падзейкаць,** *дзс.* — поговорить. Падзейкаюць троха людзі ды сьціхнуць. *В. Старына.*

**Падзёньнік,** а, *м. (жан.* **падзёньніца)** —поденщик. На работу давядзецца ўзяць аднаго падзёньніка. Падзёньніцам ашчэ трэба заплаціць. *В. Старына.*

**Падзівавацца, падзівіцца,** *дзс.* — подивиться, поизумляться. Ё, на што тут падзівавацца! Падзіваліся людзі, паглядзелі ды пашлі. *В. Старына.*

**Падзіў,** ва, *м.* — порча глазом; лечат заговорами. Дзіця хворая на падзіў, дык і ня сьпіць уночы. „Няхай ат Рамана атойдуць падзівы, і падумы, і урокі". З загавору. *С. Навасёлкі, Пух. р.* (*Пр.* **Урок).**

**Падзьмуць,** *дзс.* — подуть. Вой які ён слабы: вецяр падзьме, дык і паваліцца! *В. Старына.*

**Падзяка,** і, *ж.* — благодарность. Ні якаі падзякі табе ніхто ня дасьць за тваю турботу. *В. Старына.*

**Падзякаваць,** *дзс.* — поблагодарить. Падзякуй цётца за гасьціняц. Ніхто й падзякаваць ня хоча за маё дабро. *В. Старына.*

**Падзяўбці,** *дзс.* — поклевать. Вяраб'е напалі на каноплі, мусіць хочуць даўшчэнту падзяўбці іх. *В. Старына.*

**Падказваць,** *дзс.* (*зак.* **падказаць**)— 1) подсказывать. Другім ён умея падказваць, а ік самому прыдзяцца гаварыць, дык маўчыць. Яму з боку падказоў нехта, што казаць. — 2) доносить. І мая-ж другі ахвоту падказваць, дзе што робіцца. Людзі падказалі, дзе ён пахавоў крадзяная. *В. Старына.*

**Падказчык,** а, *м.* — 1) подсказчик. Хаця ты ня будзь падказчыкам, ня гавары за яго. — 2) доносчик. Ігнат першы паказчык у сяле: ета ён выдаў усіх, хто езьдзіў у лес. *В. Старына.*

**Падкалотка,** і, *ж.* — кусочки мяса и сала, изжаренные в жидком тесте. На сьнеданьня была паткалотка з блінамі. *В. Старына. (Пр.* **Мачаньне).**

**Падкасваць,-цца,** *дзс. (зак.* **падкасаць, -цца)** — подбирать низ одежды. Тут ня глыбокая вада: можна й ня падкасваць сарочкі. Падкасала яна спадніцу аж па пуп. Падкасвайся каб ня замарацца. ды йдзе так! Так ня йдзі, падкасайся, каб у гразь ня ўробіцца. *В. Старына.*

**Падкаціцца,** *дзс.* — 1) подкатиться. Аж пад ганак падкацілася палена. — 2) перен., подольститься. Падкаціўся, каб абдурыць яго *В. Старына.*

**Падкі,** *прм. (скар.* **падак)** — падкий. Ого, які ён падкі на чужоя! На чужоя дабро ўсякі падак. *В. Старына.*

**Падкідаць,** *дзс. (зак.* **падкінуць)** — 1) подбрасывать. Ён умея віска падкідаць каменчыкі ўгару. Падкінь бліжай палена. — 2) незаметно класть что во дворе или в избе. Нехта нарадку падкінаў нам у хлеў. Нашто ты падкідаяш мне чужоя, я ня хачу. — 3) класть, давать корм домашним животным. Падкінь каню сена. *В. Старына.*

**Падкрапіцца,** *дзс.* — слегка подкрепить силы едою. Падкрапіўся троха, ашчэ парабпю з гадзіну. *В. Старына (Пр.* **Пакрапіцца).**

**Падла,** ы, *ж.* — 1) падаль. Сабакі нейкаю падлу папалі ды цягаюць. — 2) бран. слово. Падла сьмярдзючая, што ты з міне кпіш! *В. Старына.*

**Падласіца,** ы, *ж.* — ласка, ласочка. Ня дала карова малака: мусіць, падласіца выссала. *В. Старына.*

**Падласы**, *прм. (пам.* **падласенькі**) — с белыми боками и грудью. Падласая цялушка хоча бегаць. Прадоў падласянькага бычка. *В. Старына.*

**Падлетак**, тка, *м. (польск.* podlotek) — подросток. А дзеці яго ўжо падлёткі — шмат што падсобяць рабіць. *В. Старына.*

**Падлётваць**, *дзс. (зак.* **падляцець**) — подлётывать. Вярабейчыкі ашчэ ня лятаюць, а так падлётваюць. — 2) подбегать, быстро подскакивать. Усё падлётвая да яго, каб зачапіцца ды пабіцца. Падляцеў к яму с кулакамі. *В. Старына.*

**Падліза**, ы, *аг.* — подлиза. Падліза ета да ўсякага ўмея падлізацца, каб што выманіць сабе. *В. Старына.*

**Падлога**, і, *ж. (польск.* podłoga) — пол. Паклалі новаю падлогу ў сенцах. *В. Старына.*

**Падлубаць**, *дзс.* — поковырять. Чаму-ж ты ня еў кашы, толька падлубаў? *В. Старына.*

**Падлюка**, і, *аг.* — подлец. Вот падлюка еты Пятрок, трэба-ж яму так абманіць міне! *В. Старына.*

**Падман**, у, *м.* — обман. Падману тут німа: купляй сьмела. *В. Старына.*

**Падманіцца**, *дзс.* — обмануться. Падманілася дзеўка, думала лепшага жаніха выбяра. *В. Старына.*

**Падманьваць**, *дзс. (зак.* **падманіць**) — 1) обманывать. Ня люблю я падманьваць, каб лаялі міне людзі. Такі падманіў ён міне, шэльма! — 2) подзывать собаку. Падмані к сабе сабаку. *В. Старына.*

**Падміргваць**, *дзс. (зак.* **падміргнуць**) — моргать кому с определенным значением. Нечага падміргваць яму: я ўсё бачу. Падміргнуў яму ды пашлі разам! *В. Старына.*

**Падмурак**, рка, *м.*, **падмуроўка**, і, *ж.* — фундамент из камня. У хаця трэба строіць падмурак. Высокая падмуроўка, — дык ня так хутка пагніюць падрубы. *В. Старына.*

**Падмянташыць** *касу*, — немного поточить косу „мянташкаю". Падмянташыў касу, дык лепяй стала браць. *В. Старына.*

**Паднімаць**, *дзс. (зак.* **падняць**) — подымать. Ня трэ'бала аднаму паднімаць: я памог-ба. Пакажы, што ты паднёў? *В. Старына.*

**Падносак**, ска, *м.* — подмётка. Адзін падносак стаптоўся, а другі, ік камянь. Ік ботам доў новыя падноскі. *В. Старына.*

**Паднябеньне**, я, *н.* — 1) нёбо. Нешта аблезла шкура на паднябеньні. — 2 свод извнутри в кухонной печи. У печы атвалілася паднябеньня. *В. Старына.*

**Падобны**, *прм.* — подходящий, соответствующий. Калі дзе трапіцца падобны конік, дык купляй. Калі будзя што падобная, дык бяры. *В. Старына.*

**Падол**, а, *м.* — нижний край юбки, женской рубахи. Забрызкаўся падол у спадніцы. Вытрыся падолам. *В. Старына.*

**Падолець**, *дзс.* — одолеть. Ня табе, чалавеча, яго падоляць! *В. Старына.*

**Падонкі**, аў, *мн.* — подонки, — нижняя худшая часть жидкости в сосуде. Які там булён — адны падонкі! *В. Старына.*

**Падосак**, ска, *м.* — 1) подосина — железная полоса, предохраняющая деревянную ось от изнашивания. Купіў зялеза на падоскі. Нож тупы, ік падосак. — 2) перен., нож тупица. Падоскам етым і хлеба ня ўрэзаць. *В. Старына.*

**Падпал**, у, *м.* — поджог. С падпалу загарэлася гумно. За падпал строга судзяць. *В. Старына.*

**Падпалка**, *ж.* — подтопка. На падпалку насек дробных дрэвак. *В. Старына.*

**Падпальваць**, *дзс. (зак.* **падпаліць**) — 1) затапливать в печке. Буду падпальваць у печы. У печы падпалілі, а гаршке ня гатовы. — 2) учинять поджог. Падпаліў нехта, дык і пагарэлі. *В. Старына.*

**Падпасак,** ска, **падпасыч,** а, *м.* — подпасок, помощник пастуха. Падпасак чуць цягаяцца за пастухом. *В. Бор, Сьміл. р.* Падпасыч адзін лётая за статкам, а а пастух ляжыць. *В. Старына.* Мой Юрка сягоньня пашоў у падпасычы. *В. Старына.*

**Падперці,-ціся,** *дзс.* — подпереть, -ться. Хіба калом падперці варота, каб ня паваліліся. Падпёрся сабе кіёчкам ды стаіць. *В. Старына.*

**Падпечак,** ка: *м.* — помещение для кур под печкаю. Загоні куры пад печак. *В. Старына.*

**Падпінак,** ка, *м* — чересседельник. На кані слабы падпінак. *В. Галац, Сьміл. р. Пр.* **Падбрушнік).**

**Падпіць,** *дзс.* — достаточно выпить вина. Нейдзя-ж такі ён падпіў, што язык яго блутаяцца! *В. Старына.*

**Падплятаць,** *дзс.* (*зак.* **падплесьці)** — наметывать лыком падошву лаптя. От такі гультай: лянуяцца сабе й лапця падплесьці. За раньніцу падплёў дзьве пары лапцей. Янушка ўмея крэпка падплятаць лапці. *В. Старына.*

**Падпора,** ы, *ж. (пам.* **падпорка)** — подпора из нетолстого бревна для „азярода"; подпора вообще. У вазяродзя падгніла падпора. У ета шула трэба падпорка. *В. Старына.*

**Падправіць,** *дзс.* — дать немного приправы к пище. Падпраўця капусту алеям. *В. Старына.*

**Падпусьціць,** *дзс.* — испортить воздух. Ці ня ты ета тольна падпусьціла, што аж нос верня? *В. Старына.*

**Падпяразваць,-цца,** *дзс.* (*зак.* **падпярзаць,-цца,** *прм.* **падпяразаны)** — подпоясывать,-ться. Бяры ты падпярзвай яго. Ой, як доўга ты падпяразваясься! Німа паяска, чым дзіцяці падпяразаць. Падпяразоўся папружкаю. Ходзіць падпяразаны нейкім лыкам. *В. Старына.*

**Падпяразка,** і, *ж.* — шнурок из веревочки или иное что для подпоясывания. На табе еты канчар на падпяразку. *В. Старына.*

**Падрабіцца,** *дзс.* — управиться по возможности с работаю. Ік с полям падробімся, тады будам пярасыпаць істопку. *В. Старына.*

**Падрабляць,** *дзс.* (*зак.* **падрабіць,** *прм.* **падроблены)** — подделывать. Умея падрабляць чужую подпісь. Сам падрабіў ключык да замка. Мусіць падробляным ключыкам атамкнулі ток ды ўлезьлі. Нехта ўсунаў мне падроблянаю бумажку. *В. Старына.*

**Падрабязкі,** аў, *мн.* — всякие мелкие предметы. Кублэ на' дзін воз паклоў, а падрабязкі на другі. *В. Старына.*

**Падражніваць,-цца,** *дзс.* (*зак.* **падражніць, -цца)** — поддразнивать, -ться. Ня падражнявай ты яго! Ік той дурань, падражняваяцца з дзіцям. Тольна падражніў іх, а нічога ня доў. *В. Старына.*

**Падраіць,** *дзс.* — посоветовать. Дзядзька мне падраіў купіць етага жарабочка. *В. Старына.*

**Падратаваць** *сьвіней,* — попротягивать свиньям в рыла кольца из проволоки (дроту), чтобы они не рылись. Трэба сьвіньней падратаваць, каб ня рылі. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Падрашэтнік,** а, *м,* — губчатый с'едобный гриб, подобный маслянику. Адных падрашэтнікаў назьбіроў каробку. *В. Старына.*

**Падруб,** а, *м.,* **падруба,-іна,** ы, *ж.* — подвалина, нижнее бревно в строении. Ета калода добра будзя на падруб. *В. Старына.* Адна падруба ў хляве саўсім уехала ў зямлю. У хату трэба даваць новыя падрубіны. *В. Забалоцьце, Сьміл. р.*

**Падрымоўка,** і, *ж.* — вторая струна в скрипке. Ік дзёрнаў цмыкам, дык аж падрымоўка лопнула! *В. Старына.*

**Падрыпаць,** *дзс.* — потащиться, поплестись. Падрыпаў па етакуй гразі ды ашчэ ўвечара! *В. Старына.*

**Падрэпаць,** *дзс.* — подрать когтями, а также граблями. Куры падрэпалі грады. Вазьмі хіба граблямі

падрэпай троха, параўні зямлю. *В. Старына.*

**Падсабляць,** *дзс.* — помогать. Сяголята мне будзе падсабляць і Рыгор мой — ужо падрос хлопяц. *В. Старына.*

**Па'дсаджваць,** *дзс.* — поотбивать, поотрывать, поотсекать. Ня лезь сюды, абы ногі па'дсаджвая! *В. Старына.*

**Падсалоджваць,** *дзс. (зак.* **падсаладзіць)** — подслащивать. Падсалоджваць ня трэба і так салодка. Падсаладзіўшы сталі есьці, а так ня хацелі. *В. Старына.*

**Падсілкавацца,** *дзс.*—подкрепиться пищею. Я падсілкавоўся на ўсю раньніцу. *В. Старына.*

**Падсітак,** тка, *м.* — сито. Прасеяла мукі на падсітак, каб былі блінэ лепшыя. *В. Старына.*

**Падскок,** а, *м.*—подпрыгивание. Ідзе с падскокамі. *В. Старына.*

**Падскробак,** бка, *м.* — последыш. Глядзі, што еты падскробак вытварая! Ты-ж пасьледнім радзіўся, дык ты й падскробак! *В. Старына.*

**Падслухоўваць,** *дзс. (зак.* **падслухаць)**—подслушивать. А ён стоў пад вакном ды падслухоўвая, што яны гавораць. Да славечка падслухаў, што яны казалі. *В. Старына.*

**Падсобіць,** *дзс.*—помочь. Падсоб мяшок ускінуць на плечы. *В. Старына.*

**Падстрэшнік,** а, *м.* (*пам.* **падстрэшнічак**) — место под крышей „пуні" или „тока"; служит для временного складывания снопов, соломы и проч. За лета стравілі патстрэшнік канюшыны. Наклалі патстрэшнічак пшаніцы. *В. Старына.*

**Подсяванка,** і, *ж.*—хлеб, приготовленный из непровеенного, а просеенного на решете зерна. Яўхімавы ядуць падсяванку, абы хлеба мала. *В. Старына.*

**Падтыка,** і, *аг.*—тот, кто подзадоривает. Маўчы ты лепяй, падтыка! табе хочацца, каб яны сварыліся! *В. Старына.*

**Падтыкаць,** *дзс.* (зак. **падаткнуць**) —подзадоривать. Падтыкаць ня трэба, хай самі ці сварацца, ці што хочуць робяць. Каб ня падаткнулі, дык бойкі-б ня было. *В. Старына.*

**Падубець,** *дзс.* — покоченеть. Такі холад, аж ногі падубелі. Сядзяць на вазох усе падубеўшы. *В. Старына.*

**Подужаць,** *дзс.*— осилить, преимуществ. при состязании силами Думаясься, ня падужаю цібе? Атразу!.. Ты етага несьці ашчэ ня падужаяш: мал. *В. Старына.*

**Падужацца,** *дзс.* — посостязаться силами. Ну, хлопцы, хто хоча са мной падужацца, падхадзі сюды! *В. Старына.*

**Падужэць,** *дзс.*—стать сильнее. Падрасьце, дык падужэя. *В. Старына.*

**Падумкі,** мак, *мн.*—помыслы, мысли. У яго нядобрыя падумкі: ік гляня на скаціну, дык захварэя. *В. Старына.*

**Падупасьці,** *дзс.*— 1) притти в бедность. Падупоў ён етыя гадэ: навят хлеба свайго ня хапая.— 2) притти в слабость, ослабеть. Падупоў здароўям ат работы. *В. Старына.*

**Падурнець,** *дзс.*—поглупеть (говор. о многих). Падурнелі вы ці што: што вы робіця? *В. Старына.*

**Падхадзя,** *прс.* — удовлетворительно. Зрабіла добра, падхадзя. *В. Старына.*

**Падхопліваць,** *дзс.* (*зак.* **падхапіць**) — подхватывать. Я буду кідаць, а вы падхоплівайця. Вецяр падхапіў шапку ды панёс. *В. Старына.*

**Падхватка,** і, *ж.*—маленькая сетка, употребляемая для ловли рыбы зимой. Пайду рыбу лавіць падхваткаю — шмат задушкавалася каля мосту. *В. Лядцо. Пух. р.*

**Падхінаць,** *дзс.* (*зак.* **падхінуць**)— подбирать под себя края одежды. Каб ня подхіноў пад сібе сьвіты, дык ня памароў-ба. Падхіні пад сібе кажух, мякчэй будзя сядзець. *В. Старына.*

**Падходзіць,** *дзс. (зак.* **падыйці***)* — 1) подходить. Падходзьця ўсе сюды. Падыйдзі бліжай.—2) приличествовать. Саўсім ня падходзіць табе етак лапатаць языком! *В. Старына.*

**Падходны,** *прм.* — подходящий. Во еты апалачак будзя сюды падходны. *В. Старына.*

**Падхупацца,** *дзс. (зак.* **падхупціся***)* — охотно из'являть желание и обещать что-либо сделать. Мне німа часу, і я ня хочу падхупацца на ету работу. Быў падхупся, а ціпер ня хоча мне памагчы. *В. Старына.*

**Падцікаваць,** *дзс.*—подстеречь. Падцікавоў, ік нікога ня было дома, ды ўбіўся ў наш садок. *В. Старына.*

**Падцінаць,** *дзс.*—подпевать тонким голоском. Тыя пяюць, а яна падціная тонянькім галаском. *В. Старына.*

**Падчапіцца,** *дзс.* — подсесть на телегу. Падчапіся хоць іззаду, усё будзяш ехаць, а ня йці. *В. Старына.*

**Падчапіць,** *дзс.*—подцепить. Падчапіў за ногу яго ды паваліў. *В. Старына.*

**Падчапурыцца,** *дзс.* — принарядить, -ться. Ыш, як старая падчапурылася! К сьвяту трэба будзя падчапурыцца. *В. Старына.*

**Падчарэвак,** рэўка, *м.*—сало из подбрюшья свиньи. Буракоў зварылі с падчарэўкам. *В. Старына.*

**Падшукаць,-цца,** *дзс.* — обмануть, -ться. Падшукоў міне Іцка: задарам, можна сказаць, купіў сем'я. Падшукоўся я на бычку: дзешава прадоў. *В. Старына.*

**Падшчаміць,** *дзс.* — поджать. Падшчаміў кол пад корч. *В. Старына.*

**Падшыванец,** нца, *м.*—плут, шельмец. Сабраліся самыя падшыванцы ды пашлі ў мой гарох. *В. Старына.*

**Падшэрхнуць,** *дзс.* — о снеге: покриться настом, слегка заледениться по верху после оттепели. За нач падшэрхла — добра будзя йці. *В. Старына.*

**Падыбаць,** *дзс.*—поковылять. Стары падыбаў с кійком памаленьку. *В. Старына.*

**Падыліць,** *дзс.*—слегка попорошить снежку. Падыліў троха сьняжок. *В. Старына.*

**Падыспад,** *прс.*—на дно, вниз под что. Палажы яблыкі падыспад, каб ня выцяг хто. *В. Старына.*

**Падыспадам,** *прс.* — на дне, внизу под чем. Сала ў кадоўбчыку падыспадам, а зьверху здор. *В. Старына.*

**Падыхаць,** *дзс.*—повевать (о ветре). Падыхая сьвежы ветрык. *В. Старына.*

**Падыходзіць,** *дзс. (зак.* **падыйці***)*,— о тесте: подниматься. Як доўга сягоньня хлеб ня падыходзіць, пара-б ужо саджаць яго! Хлеб падышоў, будам саджаць. *В. Старына.*

**Пад'есьці,** *дзс.*—под'есть, покушать. Каб чаго смашнянькага пад'есьці! *В. Старына.*

**Паенчыць,** *дзс.* — постонать, помучиться. Паенчыў ён добра з нагою, ік расьсек! *В. Старына.*

**Пажабіцца,** *дзс. (прм.* **пажаблены***)* —*гл.* **Жабіцца.** Думаў добрая будзя дуга, а яна пажабілася, ік гнуў. Ня добра выткала палатно: пажабілася. Адзін полаз добры, а другі пажабляны. *В. Старына.*

**Пажаліцца,** *дзс.*—пожаловаться. Сіраціня дык німа каму й пажаліцца. *В. Старына.*

**Пажалкаваць,** *дзс.* — посожалеть. Прапала ў няс цялушачка леташка—ну й пажалкавоў я! *В. Старына.*

**Пажартаваць,** *дзс.*—пошутить. Пажартаваць можна, абы ня біцца. Пажартавалі троха з дурня. *В. Старына.*

**Пожаўцець, пажоўкці,** *дзс.*—пожелтеть. Пажаўцела трава. Могуць пажоўкці агурке: німа калі іх выбіраць. Пажоўкла лісьця. *В. Старына.*

**Паждаць,** *дзс.* — подождать, обождать. Пажджы міне, я зараз прыду. *В. Старына.*

**Пажлукціць,** *дзс.* — позолить. Пажлукцілі пасьцелкі, дык будуць белыя. *В. Старына.*

**Пажоўклы,** *прм.* — пожелтевший. Пажоўклы ліст. Пажоўклыя гарбузэ. *В. Старына.*

**Пажураць,** *дзс.* — попригореть. Пажуралі насеньнікі ў печы. *В. Старына.*

**Пажурыць,** *дзс.* — побранить. Троха пажурыў я свайго хлопца за такую работу! *В. Старына.*

**Пажурыцца,** *дзс.*—попечалиться. Ён такі чалавек: пажурыцца троха ды зноў павясялея. *В. Старына.*

**Пажыва,** ы, *ж.*—корм, еда. Німа на етуй пашы ніякаі пажывы для статку. *В. Старына.*

**Пажывіцца,** *дзс.*—покормиться. Ведама, галодны сабака, дык цягаяцца па чужых дварох, каб дзе чым пажывіцца. *В. Старына.*

**Пажынаць,** *дзс.*—жать недолгое время. Пажынала дзянёк у дзядзіны. Пажынала да паўдня. *В. Старына.*

**Пажытак,** тку, *м.* — корысть, питательность. С аднаго сялядца ня вялікі пажытак. У етум кормя мала пажытку. *В. Старына.*

**Пажыткі,** аў, *мн.* — скарб, пожитки. Сабірай свае пажыткі ды выбірайся вон! *В. Старына.*

**Пажыўнасьць,** ці, *ж.* — питательность. Адзін хлеб бяз сала ня мая пажыўнасьці. *В. Старына.*

**Паз,** а, *м.* — паз. Трэба пазамазваць пазэ, каб цяплей было ў хаця. *В. Старына.*

**Пазагоджваць,** *дзс.*—задобрить взятками. Усім пазагоджваў, дык усе за ім і цягнуць—вот і судзіся з багатыром! *В. Старына.*

**Пазадзьдзе,** я, *н.* — сорное зерно, отделенное от лучшего зерна при веянии. З ячменю вышла шмат пазадзьзя. *В. Старына.*

**Пазайздросьціць,** *дзс.* — позавидовать. Нехта, мусіць, пазайздросьціў: папярхнуўся куском. *В. Старына.*

**Пазалетась,** *прс.* (*прм.* **пазалеташні**)—третий год тому назад. Ён ашчэ ўспамінае, што пазалетась было. Пазалеташні быў мокры год. *В. Старына.*

**Пазалкі,** лак, *мн.*—грязная вода после мойки белья. Выляйце із начовак пазалкі. *В. Старына.*

**Пазалота,** ы, *ж.*—позолота. Купіў вобраз с пазалотаю. *В, Старына.*

**Пазаркі,** *прм.*—взрачный, красивый на вид. Якія-ж пазаркія твае, дзеўка, рушніке, аж ня нагля-дзецца на іх! *В. Старына.*

**Пазарыцца,** *дзс.* — позариться. Пазарыўся на чужоя, дык і папоўся. *В. Старына.*

**Пазаўчора,** *прс.*—третьего дня. Пазаўчора езьдзілі ў лес. *В. Старына.*

**Пазаходзіцца,** *дзс.*—потерять чувствительность от холода. Пазаходзіліся пальцы ат холаду. *В. Старына.*

**Пазваленьне,** я, *н.*—позволение. Ніхто ня доў яму на ета пазваленьня, самавольна робіць. *В. Старына.*

**Пазваляць,** *дзс.* (*зак.* **пазволіць**)—позволять. Калі ваша ласка пазволіць, дык вазьму. Ня можна пазваляць так дзецям дурэць. *В. Старына.*

**Пазёмкі,** мак, *мн.*—земляника (Fragaria vesca L). Пасьпелі ў леся пазёмкі. *В. Клятное, Пух р.* (*Пр.* **Суніцы**).

**Пазіраць,** *дзс.*—смотреть. Ня туды пазіраяш, кот ты сьляпы! Пазірая ў вочы, ік той дурань. *В. Старына.*

**Пазнавата,** *прм.*—довольно поздно. Пазнавата прышлі дамоў. *В. Старына.*

**Пазнаваты,** *прм.* — довольно поздний. Ячмень пазнаваты, але дарма будзя. *В. Старына.*

**Пазнакоміцца,** *дзс.*—познакомиться. Я яго ведаю: я з ім пазнакоміўся ашчэ летась у млыня. *В. Старына.*

**Пазначыць,** *дзс.*—пометить. Пазначылі свае авечкі. *В. Старына.*

**Пазногаць,** гця, *м.*—ноготь. Але пазногці вялікія ў цябе на пальцах! Задраўся пазногаць на меншум цальцы. *В. Вострава. Сьміл. р.*

**Пазорны,** *прм.*—*гл.* **Пазаркі.** Вот пазорны пояс: аж у ваччу мяняяцца! *В. Старына.*

**Пазыка**, і, *ж.*—заём. Ён вечна ходзіць у пазыку к людзям. *В. Старына.*

**Пазычаць**, *дзс. (зак.* **пазычыць**, *прм.* **пазычоны***)* — отдолжать; брать в долг. Каб ня людзям пазычаць, дык сабе-б надоўга хваціла хлеба. Каб дзе пазычыць рубля грошай. На пазычоныя грошы справіў малатарню. *В. Старына.*

**Пазьвягаць**, *дзс.*—поругать. Дарма, пазьв.ягая ды сьціхня. *В. Старына*

**Пазьдзеквацца**, *дзс.*—поиздеваться. Пазьдзекваліся з яго людзі, колька хацелі. Пазьдзеквацца с чалавека вя наўда. *В. Старына.*

**Пазьміраць**, *дзс.*—поумирать. Пазьмірала ўся яго радня. *В. Старына.*

**Пазьней**, *прс.*—позже. Сягоньня троха пазьней усталі. Пазьней прышлі з работы. *В. Старына.*

**Пазьніцца**, *дзс.* — опаздывать. Ня пазьніся надта, раней прыходзь да хаты. Позьняцца часэ. *В. Старына.*

**Пазябнуць**, *дзс.*—зазябнуть. Пазяблі рукі. От пазяб: аж і сьсінеў! *В. Старына.*

**Пазяваць**, **пазяхаць,-цца**, *дзс.*—позёвывать. Абы вечар, дык ён ужо й пазяхае. Нешта сягоньня мне пазяхаяцца, мусіць ня выспаўся. Пара спаць, калі пазяхаяш. *В. Старына.*

**Паікнуцца**, *дзс.*—икнуть. Ці ня паміная міне хто, што паікнуўся? *В. Старына.*

**Паімжэць**, *дзс. безас.*—поморосить. Паімжэў дробны дожджык. *В. Старына.*

**Паіскаць** *у галаве,*—поискать в волосах головы вшей. Паішчы у міне ў галаве. *В. Старына.*

**Пайма**, ы, *ж.*—прядь. Ік тузянуў яе за валасэ, дык цэлаю пайму вырваў. У каня с хваста выразаў пайму на цмык. *В. Старына.*

**Пайсьці, пайці**, *дзс.*—пойти. Трэба пайсьці пратапіць у варыўні. *С. Амельна, Пух. р.* Пара пайсьці да хаты. *В. Старына.*

**Пак**, а, *м.*—пенал. Згубіў пак з грыхвялям. *В. Старына.*

**Пакаеўка**, і, *ж.*—горничная. Вазьмі сабе пакаеўку ды няхай табе прыбірая ў хаця, а мне некалі! *В. Старына.*

**Пакаленьне**, я, *н.*—поколение. Ета хвароба йдзе аж у дзісятая пакаленьня. *В. Старына.*

**Пакалечыць,-цца**, *дзс. (прм.* **пакалечаны***)*—изувечить,-ться. Глядзі-ж памалу едзь па мосьця, ато скаціну пакалечыш, і сам пакалечысься. Пакалечыў нагу тапаром. У яго пакалечаныя пальцы на правуй руцэ. *В. Старына.*

**Пакамячыць,-цца**, *дзс. (прм.* **пакамечаны***)* — помять. Пакамячыў шапку, аж нельга надзець. Пакамячылася жакетка валяючыся. Уся адзежа пакамечана. *В. Старына.*

**Пакараціць**, *дзс. (прм.* **пакарочаны***)*—укоротить. Пакараціў дошку. Сьвітка добрая, але пакарочана. *В. Старына.*

**Пакарчэць**, *дзс.*—обратиться в корч, сильно промерзнуть. Такі холад, аж рукі пакарчэлі. *В. Старына.*

**Пакасаваць**, *дзс.* — поуничтожать, ануллировать. Даўнейшая ціпер усё пакасавалі. *В. Старына.*

**Пакасьць**, і, *ж.*—1) пакость. Жыў ня будзя, каб ня ўчыніць другому пакасьці.—2) ничтожество. Ета ня чалавек, а пакасьць нейкая. *В. Старына.*

**Пакаціць,-цца**, *дзс. (прм.* **пакочаны***)*—1) покатить,-ться. Пакаціў кацёлку. Пакаціўся клубочак.—2) повалить,-ться. Пакаціўся на падлогу ды дрыгая нагамі. Ляжыць пакочаны. *В. Старына.*

**Пакаштаваць**, *дзс.* — попробовать вкус чего. Пакаштуй, ці смашная капуста. Пакаштуй нашых бліноў. *В. Старына.*

**Паквапіць,-цца**, *дзс.* — позариться. Паквапіў чалавек на чужыя грошы ды папоўся. *В. Старына.* Паквапісься на чужоя, то й сваё згубіш. *Прык. х. Самін, Пух. р.*

**Пакволна**, *прс.*—осторожно, не торопясь. Пакволна, глядзі, едзь па грэблі. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Пакволны**, *прм.*—свободный. Зробіш, як будзя пакволны час. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Пакінуць**, *дзс.*—оставить. Пакінулі дома адных дзяцей. *В. Старына.*

**Пакірмашаваць**, *дзс.* — долго или удачно побывать на базаре. Сягоньня я добра пакірмашавоў! *В. Старына.*

**Пакладаць**, *дзс. (прм.* **пакладаны***)*— кастрировать, холостить. Вясною будам пакладаць жарабка. Пакладаны парсючок. *В. Старына.*

**Паклапатаць**, *дзс.* — похлопотать. Чаму, каб паклапатоў разумны чалавек, дабіліся-б свайго. *В. Старына.*

**Паклапаціцца**, *дзс.* — позаботиться. Аб дзіцяці німа каму й паклапаціцца. *В. Старына.*

**Пакласьці**, *дзс.* — положить. Трэба так пакласьці, каб кот ня дастоў. Паклоў, і сам ня ведая дзе. *В. Старына.*

**Пакласьціся**, *дзс.* — полечь. Усе разам пакляліся спаць. *В. Старына.*

**Паклеска**, і, *ж.*—палка для закручивания веревки при увязке воза с дровами или бревнами. Высячы пакляску закруціць вяроўку ды паедам. Маўчы, арыштант, ато пакляскі заробіш! *В. Старына.*

**Паклікаць**, *дзс.* — позвать. Пакліч дзяцей на дварэ, хай у хату бягуць. *В. Старына. (Пр.* **Пагукаць.**

**Паклызьніць**, *дзс.*—помять в зубах, покачать. Кот паклызьніў мяса, а ён хацеў есьці. *В. Старына.*

**Паклыпаць**, *дзс.*—поглотать. Адзін паклыпаў усю зацірку. *В. Старына.*

**Пакой**, я, *м.* — 1) дворец, большой барский дом. Уперад тут стаеў панскі пакой, але спалілі яго. — 2) комната. У палацы пакояў, аж заблудзіцца можна! *В. Старына.*

**Пакорны**, *прм.*—покорный, смиренный. Пакорная цялятка дзьве маткі йсьсе. *В. Старына.*

**Пакос**, а, *м.*—скошенный ряд травы или хлеба. Ад дарогі забяры два пакосы, каб хто ня ўкроў. *В. Старына.*

**Пакот**, а, *м.*—щит, заделанный бревнами. Шчыт у гумне зрабілі пакотам. *С. Амельна, Пух. р.*

**Пакоўзацца**, *дзс.* — покататься на коньках, на салазках. Пакоўзаліся з гадзіну, дык марш дамоў, нечага мерзьці! *В. Старына.*

**Пакоўзаць**, *дзс.* — 1) повозить, покатать на санках. Уперад ты міне пакоўзай на санькох, а тады я цібе.—2) попачкать. Нашто ты пакоўзаў штанэ! *В. Старына.*

**Пакоўтаць**, *дзс.* —*гл.* **Коўтаць.** Пакоўтаў усе крышанэ. *В. Старына.*

**Пакрапіць**, *дзс.* — побрызгать. Дожджык троха пакрапіў зямлю. *В. Старына.*

**Пакрапіцца**, *дзс. (польск.* pokrzepić się*)*—основательно подкрепить силы едою. Пакрапіўся добра: магу цярпець аж да вечара. *В. Старына (Пр.* **Падкрапіцца***)*

**Пакрасьці**, *дзс.*—своровать. Зладзеі хацелі ўсё пакрасьці ў клеці. Пакралі сала ў каморца. *В. Старына.*

**Пакратаць**, *дзс.* — тронуть с места, сдвинуть. На што-ж ты пакратаў часэ — ціпер ня будуць іці. *В. Старына.*

**Пакрыўдавацъ**, *дзс.* — пообижаться. А дарма: ён пакрыўдуя, ды на том і кончыцца. *В. Старыан.*

**Пакрыўдзіць,-цца**, *дзс. (прм.* **пакрыўджаны***)*—обидеть,-ться. Пакрыўдзіў ён міне, хай яго бог пакрыўдзіць! Напрасна ты на міне пакрыўдзіся, нічога я табе благога ня зрабіў. Ён пакрыўджаны сваімі братамі. *В. Старына.*

**Пакрыцьцё**, я, *н.* — покрытие. Атрэзалі кавалак палатна на пакрыцьцё дамавіны. *В. Старына.*

**Пакрэмзаць**, *дзс. (прм.* **пакрэмзаны***)*—исчиркать. Пакрэмзаў тольна паперу, а нічога ня напісоў. Узёў пакрэмзаны ліст. *В. Старына.*

**Пакрэмсаць**, *дзс.* — изрезать, порезать полосками. Пакрэмсаў пальцы нажом. *В. Старына.*

**Пакудлачыць,-цца**, *дзс. (прм.* **пакудлачаны***)* — всклокочить, покомкать, помять,-ться. Пакудла-

чыў валасэ. Пакудлачылася кудзеля, аж нельга й прыступіцца да яе. Уся воўна пакудлачана. Лён пакудлачаны. *В. Старына.*

**Пакуль,** *прс.*—пока, покуда. Пакуль што, ўсё добра. Пакуль-жа я буду цярпець твае сьмехі, а? *В. Старына.*

**Пакульле,** я, *н. зб.*—пакля. Пакульлям пазатыкалі дзіркі. *В. Старына*

**Пакунак,** нка, *м.* — запакованный связок. Пакункі паўкідоў у пярадок, а сам сеў у задку. А што ў етум пакунку? *В. Старына.*

**Пакурэць,** *дзс.*—1) повалить столбом (о пыли). Аж пыл пакурэў, ік панесьліся коні! — 2) быстро побежать. Пакурыш ты ат'етуль у міне хутка! *В. Старына.*

**Пакута,** ы, *ж.*—мучение. Пакута мне адной з малымі дзецьмі. *В. Старына.*

**Пакутваць,** *дзс.* — страдать. Пакутваў, пакутваў век свой ды памёр. *В. Старына.*

**Пакутнік,** а, *м. (пам.* **пакутнічак***)*— страдалец. Вот дзе пакутнік: увесь век свой гаруя! Хварэў, хварэў ды памёр мой пакутнічак! *В. Старына.*

**Пакутніца,** ы, *ж.*—страдалица. Нацярпелася яна, пакутніца, усяго за сваім п'яніцаю! *В. Старына.*

**Пакуцьце,** я. *н.*—красный угол. Сватоў пасадзілі на пакуцьці. *В. Старына.*

**Пакуцьце,** я. *н.*—мучение. Пакуцьця будзя з етым жнівом: дабро ня ўрадзіла, рэдкая. *В. Старына.*

**Пакуштаць,** *дзс.*—испробовать, стуча о зубы, крепость яйца (мацака̀). На, ты пакуштай майго мацака, ці крэпкі. *В. Старына.*

**Пал,** у, *м.*—жара от повышения температуры. У хворага вялікі пал, проста бяз памяці ляжыць. *В. Старына.*

**Паладзіцца,** *дзс. безас.*—посчастливиться. Калі паладзіцца, дык хутка кончу работу. *В. Старына.*

**Паладзіць,** *дзс.* — помириться. Пасварыліся, але йзноў паладзілі. *В. Старына.*

**Палазок,** зка, *м.* — 1) уменьш. от **полаз.** Зграбныя палазке ў тваём вазку.—2) полозак у плуга. У плузя сшаравоўся палазок. *В. Старына.*

**Палайкі, паланкі,** аў, *мн.*—небольшое, лёгкое корытцо для выпалывания семян. Прынясі палайкі: трэба куцьцю спалаць. *В. Старына.* У паланках спалай гарбузікі. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Паласкаць,** *дзс.* — полоскать. Маці каля калодзіжа плацьця палошча. *В. Старына.*

**Палаткі,** аў, *мн.* — полати, которые подвешиваются к стане по высоте кухонной печки; пад німи **пол.** Стары ляжыць на палатках *В. Старына.*

**Палатнішча,** а, *н.*—большое, длинное полотно. Вялізная палатнішча: усім хваціць на сарочкі. *В. Старына.*

**Палатно,** а, *н.*—1) холст. Выткала тры губкі палатна. Ня хватая палатна на сарочку.—2) плоскость косы. Нейкая вузкая палатно ў тваёй касе. *В. Старына.*

**Палахлівы,** *прм.*—пугливый. Палахлівая дзіця: абы што, дык і спужалася. *В. Старына.*

**Палац,** а, *м.*—дворец, хоромы. Разбурылі панскія палацы. У палацы ціпер школа. *В. Старына.*

**Палаць,** *дзс.* — 1) очищать зерно пропалыванием. Насеньні чыстыя: ня трэба й палаць. — 2) полыхать, пылать. Агонь аж у комін палая. *В. Старына.*

**Палаяць,-цца,** *дзс.* — побранить, -ться. От чалавек: жыў ня будзя, каб с кім ня палаяцца. Пайду хоць палаю таго шэльму! *В. Старына.*

**Палёгка,** і, *ж.*—облегчение. Сынэ растуць—на старасьць будзя палёгка. *В. Старына.*

**Палёглы,** *прм,* — полегший. Пагніў палёглы лён. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Паленьне,** я, *н. зб.*—поленья. У садок накідалі чоршта паленьня, абіваючы дулі. *В. Старына.*

**Палепшаць,** *дзс.* — улучшиться. Быў слаб, але троха палепшаў ціпер. Жыць ціпер шмат палепшала. *В. Старына.*

**Палету**, *прс.*—летом. Палету хадзілі ў ягады. *В. Клятное, Пух. р.*

**Палец**, па́льца і па́лца, *м.* (*мн.* **пальцы** і **палцы**)—1) палец. Які паляц ня ўкалі, ‘сяроўна баліць. *Прык. С. Амельна, Пух. р.* У яго на руцэ німашака аднаго палца. Тапаром па‘тсякоў пальцы. Папухлі палцы. *В. Старына.* — 2) тонкий, специально обделанный конец столба — **шула** или бревна, всаживаемый в другой столб или бревно для притачивания. Падсячы паляц, каб улез у бярвіно. Доўгі паляц ты зарубіў, ня сойдуцца канцэ. *В. Старына.*

**Паліва**, ы, *ж.*—глазурь, мурава. На жбанку мала палівы. *В. Старына.*

**Паліванік**, а, *м.*—муравленный горшок или кувшин. Малако стаіць у паліваніку. *В. Старына.*

**Паліваны**, *прм.*—муравленный. Паліваны жбаночак купіла. *В. Старына.*

**Палік**, а, *м.*—столбик, межевой знак. Убіў на мяжы палік. Навяжы каня на палік. *В. Старына.*

**Паліца**, ы, *ж.*—валик, прицепливаемый к дышлу плуга, к бороне или к дышлу в молотилке. Паліца адчапілася ад бараны, дык конь і пабег. Паліца б‘е каню па нагах: каротка пабаке зачапіў. *В. Старына.*

**Паліца**, ы, *ж.*—1) полка. Хлеб ляжыць на паліцы. Талеркі пакладзіця на паліцу.—2) полиция. За царом ён у паліцы служыў і шпер хоча камандаваць—ня будзя етак! *В. Старына.*

**Паліцікант**, а, *м.*—политик. Нашоўся етакі-то паліцікант: вельма ведая, што ў газэтах пішуць! Глядзі, каб етакага паліціканта за рашотку ня павалалі! *В. Старына.*

**Паліць,-цца**, *дзс.*—1) жечь,-чься. Паляць дрова, ня шкадуючы. Каб твая шкура палілася!—2) топить, -ться в печке. У печы паліцца—хучэй стаўця, што варыць. *В. Старына.*

**Палічыць**, *дзс.*—посчитать. Палічыў, ці ўсе грошы. За каго-ж ты міне палічыў? *В. Старына.*

**Палка**, *прс.*—жарко. Сягоньня сонца палка грэя. *В. Старына.*

**Палозьзе**, я, *н. зб.*—полозья. У нядзельку на месьця шмат прадавалася палозьзя. *В. Старына.*

**Палок**, палка́, *м.* — малые полати около печи. Анучы ляжаць на палку. *В. Старына.*

**Палоса**, ы, *ж.* (*пам.* **палоска**)—полоса. Дзьве палося закаціў аўса. Адну палоску пасеяў пшаніцы. *В. Старына.*

**Палосіна**, ы, *ж.*—одно лыко. Вот доўгая палосіна: хваціць на ўвесь лапаць! *В. Бор, Сьмл. р.*

**Палосьсе**, я, *н. зб.*—лыки. Купіў палосьсся на лапці. *В. Старына.*

**Палохаць,-цца**, *дзс.* — пугать,-ться. Ня палохай ты малых дзяцей. Дзіця вельмі часта палохаецца. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Палуднаваць**, *дзс.* — обедать. Пара ўжо палуднаваць. *В. Старына.*

**Палузаць**, *дзс.* — полущить. Палузалі пасолю ды палажылі ў торбацца сушыць. Хутка ты палузоў свае насеньнікі! *В. Старына.*

**Палуйка**, і, *ж.* (*пам.* **палуечка**) — половинка квашеной капустной головки. Ядуць картоплю с палуйкамі. Пакрышыла ў гаршчок адну палуячку. *В. Старына.* (*Пр.* **Апалойка**).

**Палукатак**, тка, *м.* — каток из прутьев прямоугольный, без передней стенки; укладывается в крестьянскую телегу для удобства езды. У палукатку лепяй ехаць: сабе нічога ня выкідацца. *В. Старына.*

**Палумісак**, ска, *м.*—неглубокая миска. У полуміску сьпяклі яешню. *В. Старына.*

**Палучаць**, *дзс.* (*зак.* **палучыць**)—получать. Палучыў свае грошы. Получыў пісьмо ат сына. А што: палучыў! я казоў, ня чапайся. *В. Старына.*

**Палын**, у, *м.*—полынь горькая (Artemisia Absinthium L). Накідалі на̀ нач у хату палыну, каб блохі ня кусаліся. Рэцька горкая, ік палын. *В. Старына.*

**Палыніць,** *дзс.*—1) *гл.* **Лыніць.** Дурань еты ўсе дзяге мне палыніў. 2) пожевать мясо. Палыніў, палыніў мяса ды выкінаў із рота. *В. Старына.*

**Пальчатка,** і, *ж.* — перчатка. Адна пальчатка ікраз на руку, а другая мала. К етуй зіме параблю сабе пальчаткі. *В Старына.*

**Палюбоўнік,** а, *м.* — полюбовник. У яе мужык ё, але й палюбоўніка мая. *В. Старына.*

**Палюбоўніца,** ы, *ж.*—полюбовница. Палюбоўніца яму мілей, як свая жонка. *В. Старына.*

**Палюдзкаваць,-цца,** *дзс.* — побыть среди хороших людей, в хорошем обществе. Хай палюдзкуя дзеўка сьветам. Мала полюдзкавоўся ён там: хутка справадзілі. *В. Старына.*

**Палюдзку,** *прс.*—палюдзки. Рабі ты палюдзку, а ня'бы з рук збыць. *В. Старына.*

**Палюк,** á, *м.* — *гл.* **Палік.** Атвядзі мяжу да таго палюка. *В. Лядцо, Пух. р.*

**Палюляць,** *дзс.*—поколыхать. Палюляй дзіця, пакуль я з работаю ўпраўлюся. *В. Старына.*

**Паля,** і, *ж.*—свая. На мост ужо пабілі палі. *В Старына.*

**Паляваньне,** я, *н.*—охота. Ня тады сабак карміць, ік на паляваньня йці. *Прык. В. Старына.*

**Паляваць,** *дзс.*—1) охотиться. Пайду паляваць на вутак. — 2) быть в случке (о корове). Наша коророва палюя. *В. Старына.*

**Палявец,** паляўцá, *м.*—полевой сторож. Палявец пазабіроў коні на канюшынец. *В. Старына.*

**Палявік,** á, *м.*—житель сухого края, места. Сёньня прыяджалі к нам палявікі па сена. *С. Амельна, Пух. р.*

**Палягчаць,** *дзс.*—выхолостить. Палягчалі сваіх парсючкоў. *В. Старына.*

**Палягчэць,** *дзс.* — стать легче. Палягчэла жыць, дык і вясялей стала. *В. Старына.*

**Паляк,** á, *м.* — 1) поляк. Ік прышлі былі паляке, дык усім далі бізуноў. Ік тыя палякі: ні хлеба, ні табакі. *Прык.*—2) католик. Ён у касьцёл ходзіць, абы паляк. *В. Старына.*

**Палянтаваць,** *дзс.*—орать и браниться во всю. Палянтуя, ік шалёны, на ўсё сяло. *В. Старына.*

**Паляпіць,** *дзс.* — падать хлопьями (о снеге). Зараз ік палепіць сьнег, дык нікуды й ня паедзяш. Паляпіў сьнег, аж сьвету божага ня відаць. *В. Старына.*

**Паляскаць,** *дзс.* — пощелкать. Ня ляскай ты пугаю,—я табе паляскаю! *В. Старына.*

**Палячка,** і, *ж.*—1) полька. Ажаніўся на палячца.—2) католичка. Яна палячка—нашых пастоў ня пілнуецца. *В. Старына.*

**Памагаць,** *дзс. (зак.* **памагчы***)* — помогать. Зяць будзя памагаць крыць пуню. Німа каму памагчы с сенам управіцца. *В. Старына.*

**Памаему,** *прс.*—помоему. Усё тут робіцца ня памаёму. *В. Старына.*

**Памак,** à, *м.*—1) вымокший связок конопли. Еты памак ціпер трэба пацерці на пяньку.—2) насмешливо,–неповоротливый толстяк. Паварачвайся хутчэй, памак ты. *В. Старына*

**Памалесеньку,** *прс.* — помаленьку. Памалесяньку гукая, каб далёка чуць ня было. *В. Старына.*

**Памаліць,** *дзс.*—уменьшить. Шавец памаліў боты, што й на ногі ня лезуць. *В. Старына.*

**Памалу,** *прс.*—не скоро, исподволь. Помалку ты едзь, ня ляці етак *В. Старына.*

**Паманіць,** *дзс.*—позвать собаку. Памані сабаку ў хату, хай ідзе есьці. *В. Старына.*

**Паманка,** і, *ж.* — предмет забавы, развлечения. Дайця дзіцяці якую паманку, каб ня плакала. *В. Старына.*

**Паманьваць,-цца,** *дзс. (зак.* **паманіць,-цца***)* — дразнить,-ться. Ня паманьвай ты сабакі, ато ўкусіць. Ік малы ўсяроўна, паманьваяцца з дзіцям. Талькі паманіўся, а нічога ня доў яму. Нашто ты паманіў цацкаю дзіця, каб плакала. *В. Старына.*

**Памараць,-цца,** *дзс. (прм.* **памараны***)*—запачкать. І собіла табе етак памараць хусту! Сам еш сваю булку памаранаю. *В. Старына.*

**Памарскаць,** *дзс.* — редко посеять. Як ён там пасеяў — памарскоў троха! *В. Старына.*

**Памасьціна,** ы, *ж.*—доска для пола. У падлогу палажылі новаю памасьціну. *В. Старына.*

**Памаўза,** ы, *аг.*—проныра. Памаўза ета ўсюды дапне. *В. Старына.*

**Памаўзьлівы,** *прм.*—пронырливый. Памаўзьлівы нейкі хлапец, усюды лезя, дзе трэба й дзе ня трэба. *В. Старына.*

**Памаўчаць,** *дзс.* — помолчать. Памаўчы ты ўжо, хай другія гавараць. *В. Старына.*

**Пама(э)цаць,** *дзс.* — пощупать. Памацай у пячурца, ці німа там маіх рукавак. Памэцаў запазуху, ці ня згубіў грошай. *В. Старына.*

**Памерг(к)аваць, -цца,** *дзс.*—1) прикинуть в уме, сообразить. Памяргавоў так і етак—усё ня выходзіць.—2) разделаться с кем. Памяргуйцеся паміж сабою харашэнька, каб ня сварыцца. *В. Старына.* З ім яшчэ можна памяркавацца. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Памерзьці,** *дзс.*—померзнуть. Чаго. стаіце на дварэ—хочаця памерзьці? Памерзьлі ногі ў ботах. *В. Старына.*

**Памерці,** *дзс.* — умереть. Лягчэй-ба ўжо было, каб памерці. *В. Старына.*

**Паміж(з),** *прыйм.*—между. Ніяк яны ня падзеляцца паміж сабою. Бегая паміз платоў. *В. Старына.*

**Памінаваць,** *дзс.* — обогнать при езде. Памінавоў усе хурманкі ды паехаў наперад. *В. Старына.*

**Памінаць,** *дзс.* — поминать, вспоминать. Нечага таго памінаць, што прайшло. Паміная леташні сьнег (знач., весьма давнее). *В. Старына.*

**Памінкі,** нак, *мн.*—поминки, по умершем с угощением. Справілі па бацьку памінкі. Німа каму па ёй і памінак спраўляць. *В. Старына.*

**Памінтрэжыць,** *дзс. (польск.* mitrężyć) — потревожить. Прабачайця, што памінтрэжыў вас! *В. Старына.*

**Памiркатаваць,** *дзс.* — принять барана-производителя (об овцах). Памiркатавала наша чорная авечка. *В. Старына.*

**Памост,** а, *м.*—пол, деревянный настил вообще. У хаця паклалі новы памост. У пуні пад сена палажыў памост, дык сена ня будзя псавацца. *В. Старына.*

**Памоўка,** і, *ж.* — молва, слух. На воўка памоўка, а мядзьведзь с падцішка, *Прык. В. Старына.*

**Памочнік,** а, *м. (ж.* **памочніца***)*—помощник. Пісара ня было ў канцыляры, а помочнік. Мая Домначка ўжо мне памочніца: картоплі набірая й сьвіньням дасьць есьці. *В. Старына.*

**Памуляваць,** *дзс.* — покрасить. Сам памулявоў вазок,—ік яечка зрабіў. *В. Старына.*

**Памыі,** яў, *мн.*—помои. Зьлі ваду ў памыі. Етыя памыі дайця каровя выпіць. *В. Старына.*

**Памякчэць,** *дзс.*—помягчать. Нябось, ік прабралі яго людзі, дык памякчэў! *В. Старына.*

**Памянтаць,** *дзс. (польск.* pamiętać*)*—попомнить (при угрозе). Памянтай-жа ты сабе ета добра! *В. Старына.*

**Памянташыць, памяньціць** *(касу), дзс.*—поточить косу „мянташкаю". На мянташку, памяньці касу. Ня трэба етаі касы мянташыць, яна памянташана. *В. Старына.*

**Памяншаць, -цца** *дзс. (зак.* **паменшыць, -цца***)*—уменьшать, -ться. У стопца трэба вакно паменшыць, каб холад так ня цягнуў. Ня трэ'бала шмат памяншаць коробкі, ато ўжо саўсім малая. Паменшыўся дзянёк. *В. Старына.*

**Памярг(к)оўны,** *прм.* — уступчивый. Ён ашчэ дарма, памяргоўны чалавек: згаварыцца з ім можна. *В. Старына.*

**Пан,** а, *м.*—1) господин. Ня вялікі с цібе пан: і сам можаш сабе вады прынесьці ды напіцца. *В. Ста-*

*рына.* — 2) помещик. Ік прышлі бальшавіке, дык усе панэ паўцякалі да Варшавы. *В. Старына.* Дзе мужыку здорава, там пану сьмерць. *Прык. Х. Самін. Пух. р.*

**Панаваты,** *прм.*—похожий на пана. Бачыш, пажыў троха ў горадзя, дык стоў панаваты. *В. Старына.*

**Панаваць,** *дзс.*—барствовать, жить роскошно. Німа тут яму за кім панаваць, трэба самому рабіць. *В. Старына.*

**Панавучвацца,** *дзс.* — научиться (говор. о многих). Чаму добраму, а на сабак дык панавучваліся брахаць етыя шэльмы! *В. Старына.*

**Панавязваць,** *дзс.*—понавязать, попривязывать. Панавязвалі коняй на жнеўніку ў лагчыня. *В. Старына.*

**Панадворку,** *у сэнсе прыслоўя*—по двору, на дворе. Сьвіньня шляюцца панадворку. *В. Старына.*

**Панажэ,** оў, *мн.* — педали в кроснах. Пасьцелкі выткала ў чатыры панажэ. Па'трываліся панажэ ат нітоў. *В. Старына.*

**Паназначаць,** *дзс.*—пометить. Паназначалі сваіх ягнятак—па'тразалі ім кончыкі вушак. *В. Старына.*

**Панарад,** а, *м.* — рабочая телега в крестьянском хозяйстве, — для возки навоза, лесоматериала и проч.; раньше боковицы устраивались из четырех дуг. Трэба справіць сабе асобянны панарад на гной, і на іншае што, каб ня ламаць драбінкі. *В. Старына.*

**Паненка,** і, *ж.* — барышня. Етыя сьмілаўскія мяшчанкі дык строяць с сібе вельма вялікіх паненак. *В. Старына.*

**Паненка** *нітак,* — моточек покупных ниток с маркою. Купіла паненку чырвоных нітак вышываць рушніке. *В. Старына.*

**Панетаваць,** *дзс.* — осматривать и оценивать потраву, покражу и проч. с понятыми. Міхаль узёў панятых авёс панятаваць, што начлезьнікі стравілі. *В. Старына.*

**Пані,** і, *ж.* — 1) госпожа. Вышла замуж за'дукованага чалавека—будзя пані. — 2) помещица. Пан быў благі і пані халерная. *В. Старына.*

**Панікаць,** *дзс.—гл.* **Нікаць.** Панікаў, панікаў па куткох, але нічога ня нашоў. *В. Старына.*

**Паніч,** а, *м.* — барчук. Ты, хлопча, ня паніч, каб пахаджаць с палачкаю — во йдзі гной накідаць! *В. Старына.*

**Панок,** нка, *м.* — 1) уменьш. **пан** в 1 знач. Ня крыўдуйця, панок, на міне! — 2) небольшой помещик. Ат так сабе, ён ня вялікі панок быў. *В. Старына.*

**Паночак,** чка, *м.* — ласкат. **пан** и обоих знач. Ціпер ня трэба казаць ні пан, ні паночак, а таварыш. І панке, і паночкі—ўсе далі драла, ік пачулі над сабою ліха! *В. Старына.*

**Панскі,** *прм.* — барский. У яго ўсе панскія манеры, мусіць чалавек адукованы. Уперад тут былі панскія пакоі, а ціпер школа. *В. Старына.*

**Панства,** а, *н.*—1) господство, властвование. Ня ўмеў чалавек шанавацца, — прагналі іс службы і ўсё панства яго прапала.—2) роскошное житьё. Ат панства — да барабанства. *Прык. С. Навасёлкі, Пух. р.*

**Пантопля,** і, *ж. (польск.* pantofel *з ням.* Pantoffel*)* — туфля. Цягаяцца, як пантопля. *В. Бор, Сьміл. р.* Пагублёў пантоплі ўцякаючы. *В. Старына.*

**Панцак,** у, *м.(польск.* pancak*)* — перловая крупа. Купілі панцаку с паўпуда. *В. Старына.*

**Панчохі,** х, *мн.*—чулки. Парабіла сабе на зіму суконныя панчохі. *В. Старына.*

**Паншчына,** ы, *ж.*—крепостное право. Даўно ета было: людзі ашчэ паншчыну рабілі. *В. Старына.*

**Паныгаць,** *дзс.*—поперебирать, потыкать пищу. Парасюк паныгаў, паныгаў цеста, і ў рот ня ўзёў. Ядун с цібе: паныгаў толька мачаньня, а й крошкі ня йзьзеў. *В. Старына.*

**Паняты,** ога, *м.*—понятой. Пазвалі панятых, каб шкоду аценаваць ды на суд падаць. *В. Старына.*

**Паняцца,** *дзс.* — уразуметь что. Ніяк яму ня паняцца з етаю работаю. Трудна будзя, пакуль поймяцца. *В. Старына.*

**Папа,** ы, *м. (пам.* **папка***), дзіцяч.*— хлеб. Алёксачка, с папаю еш малачко! Ня плач-жа, на табе папкі. *В. Старына.*

**Пападзьдзя,** і, *ж.*—попадья. Во як ціпер стала: наша пападзьдзя ў царкве пяе за дзяка. *В. Старына.*

**Папаласкаць,** *дзс. (прм.* **папалосканы***)* — пополоскать. Каля калодзіжа папаласкала рушнікe. Усё плацьця папалоскана,—ціпер трэба вешаць, каб сохла. *В. Старына.*

**Папаліць,** *дзс.* — пожечь. Папалілі за зіму і дрова, і карчэ. *В. Старына.*

**Папалуднаваць,** *дзс.* — пообедать. Папалуднуям ды зноў пойдам на поля. *В. Старына.*

**Папаляваць,** *дзс.*—*гл.* **Паляваць** (2). Папалявала наша цялушачка, і карова ўжо папалявоўшы. *В. Старына.*

**Папанаваць,** *дзс.* — пороскошествовать. Папанавоў ён тут, — даволяй з яго! *В. Старына.*

**Папар,** у, *м.*—паровое поле. Узароў ганьке папару. Лубін пасеяў на папары. *В. Старына.*

**Папараць,** і, *ж.*—папоротник (Filices). Вялікая папараць парасла, ік лес усяроўна. *В. Старына.*

**Папасваць,** *дзс.* — немного попасти. Вядзі, сынку, папасвай троха да вечара каня! *В. Старына.*

**Папаска,** і, *ж.*—кормёжка лошадей в дороге. Аж два разы да Мінску рабілі папаску—такая цяжкая дарога! *В. Старына.*

**Папасьціць, - цца,** *дзс.* — попасти, -стись. Каб дзе на лепшуй траве папасьціць каня. Ашчэ троха папасіма коні. Тут добра папасьліся каровы. *В. Старына.*

**Папаўдні,** *прс.* — пополудни. Папаўдні сталі на работу. Папаўдні пашоў сьнег. *В. Старына.*

**Папера,** ы, *ж.*—1) бумага. Папераю абклеілі хату. Зьбялеў, ік тая папера.—2) деловая бумага. Згарэла канцыляра, і ўсе паперы пагарэлі. *В. Старына.*

**Папераду,** *прс.* — впереди. Ты едзь папераду: твой конь ямчэйшы. *В. Старына.*

**Паперка,** і, *ж.* — 1) бумажка. Атадраў кавалак паперкі.—2) записка. С сельсавету пярадалі члену нейкаю паперку. *В. Старына.*

**Паперці,** *дзс.*—1) попереть что. Ня паперці аднаму воза.—2) быстро побежать, поехать. Папёр—тольгка й бачылі яго! — 3) с трудом понесть тяжелую ношу. Чуць папёр ношку саломы. *В. Старына.*

**Папесьціць, -цца,** *дзс.* — *гл.* **Песьціць.** Німя ў яго бацькоў, і німа ў каго песьціцца. А чаму аднаго свайго дзіцяці ня папесьціць? *В. Старына.*

**Папіхаць,** *дзс. (зак.* **папхнуць***)* — 1) *каго, што:* подталкивать. Я буду цягнуць воз, а ты папіхай. Здаровы воз, аж ня папхнуць.—2) *кім, чым:* посылать кого по своему желанию куда угодно, командовать. Хто хоча, той і папіхая етым дурням. *В. Старына.*

**Папіхач,** à, *м.* — тот, которым все командуют. Ведама дурань: служыць ў братоў за папіхача. *В. Старына.*

**Паплавец,** аўцà, *м.* — палочка с заостренным концом для печения на огне сала. На паплаўцы сьпёк скварку сала. *В. Турэц, Сьміл. р.*

**Паплёт,** у, *м. зб.* — жердочки для прикрепления соломы в соломенной крыше. На хату навазілі паплёту. *В. Старына.*

**Паплецiна,** ы, *ж.* — одна тонкая длинная жердь, которой прикрепляется солома к стропилам. Выцяг іс страхі паплеціну. *В. Старына.*

**Паплысьці,** *дзс.*—поплыть. Каб хіба на чоўня паплысьці. Паплыў проці вады. *В. Старына.*

**Паплэвуха,** і, *ж.* — осока, появляющаяся ранней весной на лугах и болотах в воде. На возяры зазялянела паплэвуха. *В. Старына.*

**Паплюхаць**, *дзс.* — *гл.* **Плюхаць** (2). Некуды-ж ён паплюхаў па дажджы? *В. Старына.*

**Папнуцца**, *дзс.* — *гл.* **Пнуцца**. Ня вельмі што ты папнесься сюды! *В. Старына.*

**Папокаць**, *дзс.*—потрескаться (о многих предметах или-же об одном в нескольких местах). Аж два камінке папокалі. Папокала шклянка. *В. Старына.*

**Паполудні**, *прс.* — после обеда. Паполудні і паедам па снапэ. *В. Старына.*

**Папомніць**, *дзс.* — вспомянуть, припомнить. Папомніш-жа ты маё слова, чалавеча! скажаш, што проўду табе Васілёк казоў! *В. Старына.*

**Папонка**, і, *ж.*—*гл.* **Лясёнка**. Прынесла каровя папонку травы. *С. Амельна, Пух. р.*

**Папоркаць**, *дзс.* — попороть, потревожить. Папоркаў чмялькоў пад мяжою,—дык яны гудуць! Ня еў ён яешні, а толька папоркаў. *В. Старына.*

**Папрадаць**, *дзс.* — прясть относительно непродолжительное время. Хоць увечара ўжо папрадаю, ато ўдзень усё некалі было. *В. Старына.*

**Папраніць**, *дзс.*—побить белье вальком — „пранікам". Папраніла пасьцелкі й дзяругі, дык будуць бялейшыя. *В. Старына.*

**Папраўляцца**, *дзс.* (*зак.* **папрaвіцца**)—1) поправляться. Ціпер яны паправіліся: лепяй жывуць. — 2) выздоравливать. Наша хворая ўжо паправілася: сама ходзіць. *В. Старына.*

**Папраўляць**, *дзс.* (*зак.* **паправіць**, *прм.* **папраўлены**)—исправлять. Ніхто ня просіць цібе папраўляць тут. Боты папраўляны, ня павінны ціснуць ног. *В. Старына.*

**Папрацаваць**, *дзс.*—поработать, потрудиться. Даволяй папрацавоў ён за свой век. *В. Старына.*

**Папруга**, і, *ж.*—подпруга. Парвалася конская папруга, — трэба ісшыць. *В. Старына (Пр.* **Пасак**).

**Папружка**, і, *ж.* — ременный пояс. Падпяразоўся папружкаю. Ушпыліў яму добра папружкі! *В. Старына.*

**Папрышчыцца**, *дзс.* — покрыться прыщами. У нашуй Алены ўвесь твар папрышчыўся. *В. Старына.*

**Папрэгчы**, *дзс.*—пожарить (о зерне и маслах). Крошку ё бобу, дык і той вам хочацца папрэгчы. *В. Старына.*

**Папсаваць**, *дзс.*—попортить. Майсьцяр с цібе—толька дошчачкі папсавоў мне! *В. Старына.*

**Папудзіць**, **-цца**, *дзс.* — попугать, -ться. Бяжы, сынку, папудзь там курэй на каноплях! Коні папудзіліся ды ік пабягуць!.. *В. Старына.*

**Папускаць**, **-цца**, *дзс.* (*зак.* **папусьціць**, **-цца**)—поддаваться кому, уступать. Свайго ня трэба папускаць задарам нікому. Ня папускайся яму, глядзі! Калі раз папусьцісься сваім братом, дык абдураць яны цібе, ік будзяць дзяліцца. *В. Старына.*

**Папутаць**, *дзс.*—спутать (говорится о многих). Коні папуталі, а самі прыляглі. *В. Старына.*

**Папушынка**, і, *ж.*—почка. На вярбе вялікія ўжо папушынкі. На яблыня нешта мала відаць папушынак. *В. Старына.*

**Папхнуцца**, *дзс.* — потащиться. Папхнуўся с клункамі па гразі. *В. Старына.*

**Папырскаць**, *дзс.*—побрызгать. Слабы быў дождждык — толька што зямлю папырскаў. *В. Старына.*

**Папытаць**, *дзс.*—спросить (кого). Папытай брата, мо' ён броў мой тапор. *В. Старына.*

**Папытацца** *дзс.*—спроситься (у кого). У людзей папытайся, калі сам ня ведаеш. *В. Старына.*

**Папэцкаць**, *дзс.* (*прм.* **папэцканы**)—попачкать. Рукі папэцкаў у цеста. Хлеб папэцканы, а ён есьць. *В. Старына.*

**Папярок**, *прс.*—1) поперек. Як ты лёг — папярок ложку? — 2) наперекор (говорить). Нечага казаць папярок свайму бацьку. *В. Старына.*

**Папярхнуцца**, *дзс.* — поперхнуться. Папярхнуўся ядучы. *В. Старына.*

**Папярэдзіць**, *дзс.*—опередить. Ён на кані, дык дагноў нас і папярэдзіў. *В. Старына.*

**Пара**, ы, *ж.*—пар, пары, испарение, З гаршка пара паваліла. Якая табе там душа: пара вышла, і кончыўся чалавек. Ад зямлі пара пашла. *В. Старына.*

**Пара**, ы, *ж.*—время. Пара ўжо ўставаць. Бяз пары кончыўся чалавек. За парою прыехалі дамоў. *В. Старына.*

**Парабак**, бка, *м.* (*пам.* **парабэчак**)—батрак. Я табе ня парабак дарам рабіць! Узёў к сабе на лета парабэчка. *В. Старына.*

**Парабіць,-цца**, *дзс.* — сделать,-ться. Сена ўжо парабілі. Паробіцца ашчэ ўсё, ня давіся ты вельма! *В. Старына.*

**Парабляць**, *дзс.*—поделывать. Кум, што ты сягоньня парабляяш? *В. Старына.*

**Парагатаць**, *дзс.*—посмеяться. Ну й парагаталі з яго — проста баке пападрывалі! *В. Старына.*

**Парада**, ы, *ж.* (*пам.* **парадачка**)—совет. Пайду к добрым людзям на параду. Хто-ж мне дасьць, беднуй, парадачку! Ні радачкі, ні парадачкі! *В. Старына.*

**Парадзіха**, і, *ж.* — родильница. Парадзіха ашчэ ляжыць у полазя. *В. Старына.*

**Парадзіць,-цца**, *дзс.*—посоветовать, -ться. Мусіць, нехта разумны яму етак парадзіў. Німа с кім парадзіцца. *В. Старына.*

**Паразбрыньваць**, *дзс.*—поразбухать от сырости, от воды. Паразбрыньваў гарох, лежачы на таку. Ячмень паразбрыньваў. *В. Старына.*

**Паразбураць,-цца**, *дзс.* — паразрушать,-ться. Коні паразбуралі ўсе нашы крыжыкі. Будынак стары, бяз дагляду, дык і паразбуроўся. *В. Старына.*

**Паразумнець**, *дзс.* — поумнеть. Падрасьце—паразумнея, а ціпер ашчэ дзіця. *В. Старына.*

**Параіць**, *дзс.*—посоветовать. Добрыя людзі параілі етак зрабіць. *В. Старына.*

**Паралюш**, у, *м.*—паралич. Хай цібе паралюш возьмя с такім чалавекам! *В. Старына.*

**Паралюшкі**, аў, *мн.* — бранное от **паралюш**. А каб яго паралюшкі з мяшком: забыўся ўзяць на воз, дык во варочайся за ім! *В. Старына.*

**Паранае** *малако*,—паренное молоко. Дзіцяці на дзень будзя параная малако ў горшчыку. *В. Старына.*

**Паранка**, і, *ж.* — запаренные „умеці", перемешанные с мукой и вареным картофелем. Замясіма каровам паранку. *В. Старына.*

**Параскашацца**, *дзс.* — пороскошествовать. Параскашоўся ён тут даволяй, а ціпер нейдзя, мусіць, з голаду пухня. *В. Старына.*

**Парасклясьці**, *дзс.* — поразложить. Ведама дзіця: хача ўсе цацкі кала сібе парасклясьці. *В. Старына.*

**Парасон**, а, *м.*—зонтик. Вэнь нейкія шляхцянкі пад парасонам ідуць. *В. Старына.*

**Параспутваць**, *дзс.* — поразвязать путы у лошадей. Нехта параспутваў нашы коні на начлезя. *В. Старына.*

**Парастыцкаваць**, *дзс.* — пораздать что кому. Былі ў запася цьвіхе, але парастыцкваў суседзям. *В. Старына.*

**Парасьцілаць**, *дзс.* — порозостлать. На гумне парасьцілалі палотна бяліць. *В. Старына.*

**Парасьцягваць**, *дзс.* (*прм.* **парасьцягваны**) — порастаскать. Сынке парасьцягвалі ўсю гаспадарку. Авёс так і ляжыць парасьцягваны. *В. Старына.*

**Парасюк, парсюк**, а, *м.* (*пам.* **парасючок, парсючок**)—кабан. Аднаго парасюка заколям, а другога прададом. Парсюк нешта ня бярэ есьці, хаця каб ня захварэў. Сьвіньня прывяла чатыры сьвінкі і два парасючке. Спакладалі свайго парсюка. *В. Старына.*

**Парася, парасё**, сяці, *н.* — поросёнок. Закалолі к калядам парася. Вэнь парасё ўбілася ў грады. *В. Старына.*

**Паратунак**, нку, *м.* — спасение, помощь. Загіня чалавек посьля пажару, — трэ'бала-б даць яму які паратунак. *В. Старына.*

**Параўніць**, *дзс.* — 1) сравнить. Параўні тоя яго поля і маё, чыё лепшая?—2) один раз поводить бороной по вспаханному полю, чтобы сравнять его перед посевом. Да сьнеданьня параўню, а тады буду сеяць. *В. Старына.*

**Парахвя**, і, *ж.* *(польск.* parafja) — приход церковный. Поп ат нас пяраехаў у другую парахвю. *В. Старына.*

**Парахня**, і, *ж.*—гниль. Пунька твая адна парахня: кранi, дык і рассыпляцца. *В. Старына.*

**Парваць**, *дзс.*—1) порвать, изорвать что. Чыста ўсю сарочку парвоў, возячы бярвеньня.—2) покусать. Сабакі хацелі міне парваць, але не'к адбараніўся. *В. Старына.*

**Паркалёвы**, *прм.*—сделанный из белого ситца. Надзеў паркалёваю рубашку. *В. Старына.*

**Паркаль**, ю, *м.*—ситец (белого цвета). Паркаль стоў саўсім дзяшавы. Набрала паркалю на сьвяточнаю сарочку. *В. Старына.*

**Паркан**, а. *м.*—бревенчатый забор. Садок ат вуліцы загарадзіў парканам. *В. Старына.*

**Парна**, *прс.* — знойно. Ну сягоньня й парна было ўдзень: пот аж ручаём леяўся! *В. Старына.*

**Парны**, *прм.*—насыщенный парами. Парныя ночы—агурке будуць добра расьці. *В. Старына.*

**Парожны**, *прм.*—порожний. Еты мех парожны. Парожная кадушка. *В. Старына.*

**Паросная** *(сьвіньня)*, — беременная. Пярапялёстая сьвіньня ўжо ходзіць паросная. *В. Старына.*

**Пароцька**, і, *аг.*—1) тот, кто копошится, порется. Куды палез, пароцька, твайго там нічога німа! Усё нешта поркаяцца—от дзе пароцька! — 2) плохой работник. Які з яго работнік — пароцька нейкі дый й годзя! *В. Старына.*

**Пароюю**, *прс.* — 1) порою, иногда. Часам з квасам, а пароюю з бядою. *Прык.*—2) в свое время. Работу кончылі й ашчэ пароюю дамоў прышлі. *В. Старына.*

**Партабак**, а́, *м.*—портсигар. Згубіў партабак с цюцюном. *В. Старына.*

**Парупіцца**, *дзс.* — позаботиться. Ты браця, рана парупіўся ўстаць! *В. Старына.*

**Паручыць**, *дзс. безас.* — повестись удачно (рукой). Суседу паручыла: завяліся ў яго добрыя сьвіньня. *В. Старына.*

**Парушына**, ы, *ж.* — порошина. У вока ўляцела парушына. *В. Старына.*

**Парушыць**, *дзс.* — порошить. Сьняжок парушыць. *В. Старына (Пр.* **Паршэць**).

**Парушэньне**, я, *н.*—болезнь живота от чрезмерной работы. На етуй сібернуй рабоцця дастоў парушэньня жывата. *В. Старына.*

**Парх**, а, *м.* — паршивец. С пархам і гаварыць ня хочу! *В. Старына.*

**Пархі**, аў, *мн.* — парши. Вот і нясе ат яго пархамі—аж нудзіць. *В. Старына.*

**Пархуцька**, і, *ж.* — *гл.* **Парх.** Вот пархуцька: хацеў міне абдурыць, ня дадоў быў залатоўкі! *В. Старына.*

**Парця**, і, *ж.* — партия. Ужо адну парцю навабранцаў атправілі. Хведар запісоўся ў парцю. *В. Старына.*

**Парцяны**, *прм.* — из льняной ткани, из льна. Парабіла свайму Рыгору парцяныя шкарпэткі. Парцяныя ніткі. *В. Старына.*

**Паршывы**, *прм.* — скверный. У яго злосьць паршывая. Яна паршывая дзеўка—яе ніхто й замуж ня возьмя. *В. Старына.*

**Паршэць**, *дзс.* — порошить. Сьнег пачыная паршэць. *С. Амельна, Пух. р. (Пр.* **Парушыць**).

**Парывацца**, *дзс.* — порываться. Парывоўся трэсьнуць яму ў морду, але ня дапусьцілі. *В. Старына.*

**Парызыкаваць**, *дзс.* — *гл.* **Рызыкаваць.** Доўга ён ня парызыкуя, калі с каждым будзя чапацца! *В. Старына.*

**Парыла**, ы, *ж.* — медуница (Spiraea Ulmaria L). *С. Блужа. Пух. р.*

**Парыць**, *дзс.* — 1) запаривать что. Буду парыць мякіну.—2) сильно бить кого. І давай яго парыць, падаброўшы пад сібе! *В. Старына.*

**Парышчыцца**, *дзс.* — иметь случку (о суке). Парышчылася наша сука. *В. Старына.*

**Парэчкі**, чак, *мн.*—смородина красная (Ribes rubrum L). Завялі ў садку сваіх парэчак. *В. Старына.*

**Пас**, а, *м.*—ременный или веревчатый провод в машыне. Пас скінаўся с кола, дык і малатарня стала. *В. Старына.*

**Паса**, ы, *ж. (польск.* fosa, faska)— кадушка для ссыпания зерна. Насыпалі пасу жыта. *В. Турэц, Сьміл. р.*

**Пасага**, і, *ж.*—приданное. У пасагу дацэ далі карову і сто рублей. *В. Старына.*

**Пасад**, а, *м.* — 1) ряд хлебных снопов, положенных от стены до стены для обмолота цепами. За дасьвецьця пасад жыта змалацілі. — 2) в свадебном обряде,—место, куда сажают невесту. „Ацец і маці, і добрыя людзі! благаславіця маладую на пасад завесьці". *В. Старына.*

**Пасак**, ска, *м.—гл.* **Папруга**. У сядзёлца ашчэ крэпкі пасак. *В. Старына.*

**Пасакатаць**, *дзс.*—1) пощебетать (о курице). Куры пасакочуць ды сьціхнуць. — 2) быстро поехать. Ік сеў на драбінкі, дык і пасакатоў! *В. Старына.*

**Пасарамаціць**, *дзс.* — постыдить. Што,—але хоць ужо пасарамачу етага прахвоста пярад людзьмі! *В. Старына.*

**Пасасьцягваць**, *дзс.* — стягивать, посшивать дыры в одежде. Німа часу пасасьцякваць кажух. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Пасачыць**, *дзс.*—последить. Пасачы, куды курыца пойдзя несьціся. *В. Старына.*

**Пасварыцца**, *дзс.*—поссориться. Ну й чалавек ён: кругом с усімі суседзямі пасварыўся! Яны пасварыўшыся, дык ня гавораць. *В. Старына.*

**Пасеі**, яў, *мн.* — шелуха от просеивания муки. Ня добра памолата: з мукі шмат вышла пасеяў. *В. Старына.*

**Пасека**, і, *ж* — поле, расчищенное от леса. Выкарчавалі пасяку пад жыта. На пасяца пасеялі пшаніцу. *В. Старына.*

**Пасёрбаць**, *дзс.*—похлебать. Пасёрбай крупнічку з малаком. *В. Старына.*

**Пасердаваць**, *дзс.*—посердиться. Ён такі чалавек: пасярдуя троха ды атойдзя. *В. Старына.*

**Пасівець**, *дзс.*—поседеть. Пастарэў; пасівеў Трапан, і ня пазнаць яго. *В. Старына.*

**Пасількавацца**, *дзс.*—подкрепиться пищею. Пасілкавоўся троха: скварку сала з блінам ізьзеў. *В. Старына.*

**Пасілкаваць**, *дзс.*—осилить. Аднаму, браця, ня пасілкаваць тут. *В. Старына.*

**Паска**, і, *ж.*—пасха. На паску салдат наш дамоў прышоў. Паска йдзе, трэба растарацца мукі на піраге. *В. Старына.*

**Паскакаць**, *дзс.* — поплясать. Ці паскачаш, ці паплачаш. *Прык. Х. Самін, Пух. р.*

**Паскалак**, лка, *м.* — отломок полена. Маўчы ты, халера, ато паскалкам у зубы суну! *В. Старына.*

**Паскародзіць**, *дзс.* — поборонить зябь, пар. Пад авёс паскародзіў ужо. *В. Старына.*

**Паскароміцца**, *дзс.* — покушать скоромного. Забыўся, што сягоньня пятніца, узёў ды паскаровміўся. *В. Старына.*

**Паскідаць,-цца**, *дзс.* — посбрасывать,-ться. Кот паскідоў жбанке с паліцы. Гарбузэ паскідаліся іс страхі ды пабіліся. *В. Старына.*

**Паскрыгаць**, *дзс.* — поскрежатать. Толька зубамі паскрыгаў ад злосьці. *В. Старына.*

**Паскуда**, ы, *аг.* — нечистоплотный человек. Паскуда й рук ня памыя есьці. *В. Старына.*

**Паскудзіць**, *дзс.*—1) грязнить, пачкать. Ня паскудзь вады рукамі— 2) неаккуратно делать. Ня робіць ён, а толька паскудзіць. *В. Старына.*

**Паскуднік**, а, *м.*—пакостник, сквернавец. Паскудніка етага ня трэба пускаць есьці з аднае міскі. *В. Старына.*

**Паскудніца**, ы, *ж.* — пакостница. Паскудніца ты, што ты бярэсься ня за сваё дзела! *В. Старына.*

**Паскудны**, *прм.*—1) нечистый. Паскудны ён чалавек: што ні папоў, дык есьць! — 2) скверный, плохой. Паскудная яго натура: абы што, дык і сварыцца! *В. Старына.*

**Паслаць**, *дзс.* (*прм.* **пасьцелены**)— постлать. Цьвёрда ты паслала мне спаць. Дзеці, ідзіця спаць— вам ужо пасьцеляна! *В. Старына.*

**Паслухацца**, *дзс.* — послушаться, оказать послушание. Нябось, ік прыгразіў, дык паслухаўся! Вот якоя благоя дзіцянё: ні за што яно цібе ня паслухаяцца! *В. Старына.*

**Паслухаць**, *дзс.* — послушать. Пайду паслухаю, што гаворaць мужчыны. *В. Старына.*

**Паслухмяны**, *прм.* — послушный. Твае дык дыбрыя дзеці—паслухмяныя. *В. Старына.*

**Пасма**, ы, *ж.*—связка ниток. Аснавала кросна на тры пасмы. *В. Старына.*

**Пасоўваць,-цца**, *дзс.* (*зак.* **пасунуць, -цца**)—подвигать,-ться, посовывать,-ться. Асьцярожна пасовай у цапэ, ато руку хваціць. Ашчэ адзін вугал пасунуць,—дык зруб і роўна будзя стаяць. Пасунься наперад: я тут сяду. *В. Старына*

**Пасоля**, і, *ж.* (*пам.* **пасолька**)—фасоль обыкнов. (Phaseolus vulgaris L.). Уставілі на дзень картоплі с пасоляю. Дробнінькая пасолька ўрадзіла. *В. Старына.*

**Паспавядаць,-цца**, *дзс.* — поисповедывать,-ться. Бацюшка ік бачыш усіх паспавядоў — доўга ня прымая ціпер! Паспавядоўся ў прошлаю нядзельку. *В. Старына.*

**Паспробаваць**, *дзс.* — попробовать. Паспробуй, зачапіся з ім, дык палучыш! *В. Старына.*

**Паспытаць**, *дзс.* — попробовать на вкус. На паспытай, ці смашныя бураке. Ня паспытоўшы ня будзя есьці. *В. Старына.*

**Пассаць**, *дзс.*—пососать. Цялё пассала матку. *В. Старына.*

**Паставіць** *на сваём*,—сделать посвоему. Ён калі захоча, дык усяроўна на сваём паставіць. *В. Старына.*

**Пастаў**, ва, *м.*—1) ткацкий станок с основою. Я ўжо выткала адзін пастаў. — 2) пара жерновов. У Дукоры меля на два паставы. *В. Старына.*

**Пастаўшчына**, ы, *ж.* — пастуший сбор весною от селян перед выгоном скота в виде яиц и денег. Мы пастуху далі пастаўшчыны дзесяць яец і залатоўку грошай. *В. Навасёлкі, Пух. р.*

**Пастаяньне**, я, *н.* — долгое стояние постройки. Пуньку добра зрабілі,—хай толька бог дае на пастаяньне! *В. Сшарына.*

**Пастка**, і, *ж.*—1) мышеловка. Мыш папалася ў пастку.—2) в переносн. см., большой рот. Што ты расчыніў сваю пастку? чаго ты зяваяш? *В. Старына.*

**Пастроіць**, *дзс.*—починить. Пастроіў свае боты: доў новыя прышвы. Трэба пастроіць сенцы: пакласьці новаю падлогу. *В. Старына.*

**Падсронак**, нка, *м.*—постромок. Тонкія пастронкі ты зьвіў: хутка парвуцца. *В. Старына.*

**Пастух**, а̀, *м.*—пастух. Зоўтра ў нас пастух будзя. *У па́стух*—в поле под надзор пастуха. Цялё прагналі ў пастух. *Перад пастуха̀мі*—подвечер. Каня прывядзеш дамоў так пярад пастухамі. *В. Старына.*

**Пастушок**, шка, *м.*—мальчик пастушок. На лета ўзёў сабе к каню пастушка. *В. Старына.*

**Пасудак**, дку, *м. зб.*—посуда. Гарасім за зіму нарабіў сабе ўсякага пасудку. *В. Старына.*

**Пасудзіна**, ы, *ж.* (*пам.* **пасудзінка**) — посудина. Німа жадная пасудзіны, у што сала пакласьці. Каб дзе дастаць пасудзінку на'гурке. *В. Старына.*

**Пасуседзку,** *про.* — пососедски. Ня пасуседзку зрабіў ты: — нашто за'роў узьмежак? *В.Старына.*

**Пасыхаць,** *дзс.* — сохнуть непродолжительное сравнительно время. Сена хай ашчэ троха пасыхая ды будам насіць у пуньку. *В. Старына.*

**Пасыцець,** *дзс.* — пожиреть. Ік стала боляй мукі даваць, дык і парасята пасыцелі. *В. Старына.*

**Пасьвіць,-цца,** *дзс.* — пасти,-тись. Сямён нанёўся ў сяле пасьвіць сьвіньня. Сягоньня добра пасьвіцца статак. *В. Старына.*

**Пасьвяньціць,** *дзс.* — освятить. На пакровы пасьвяньцілі новаю хату. *В. Старына.*

**Пасьледкі,** аў, *мн.* — остатки. Заброў с пунькі й пасьледкі. Пасяў пасьледкамі — наўрад ці будзя што. *В. Старына.*

**Пасьля,** *прс.* — после. Ужо пасьля сьвята возьмямся за поля. *В. Старына.*

**Пасьмяяцца,** *дзс.* — посмеяться. Пасьмяёўся гаршчок с катла, а тут сам такі. *Прык. В. Белае, Пух. р.*

**Пасьнедаць,** *дзс.* — позавтракать. Пасьнедай ды хутчэй бя жына поля. *В. Старына.*

**Пасьпець,** *дзс.* — 1) успеть во времени. Ашчэ пасьпееш, ня ляці вельма. — 2) созреть. Пасьпела ўжо садавіна. Пасьпелі вішні. *В. Старына.*

**Пасьпільваць,** *дзс.* — поспилить. Каровя пасьпільвалі рогі, каб ня калолася. *В. Старына.*

**Пасьпірацца,** *дзс.* — поспорить. Ніякаі сваркі ня было, а так сабе пасьпіраліся троха. *В. Старына.*

**Пасьпіхаць,** *дзс.* — поспихнуть, посталкивать. Сідар усіх дзевак пасьпіхоў з воза, а сам паехаў. *В. Старына.*

**Пасьцелка,** і, *ж.* — 1) простыня. Выткала пасьцелку ў шэсьць нітоў. — 2) цыновка из ивовых прутьев для покрытия саней. Сплёў на сані пасьцелку. *В. Бор. Сьміл. р.*

**Пасьціць,-цца,** *дзс.* — пасти,-тись. Пагноў цялята пасьціць. Падвечар коні лепяй сталі пасьціцца. *В.Старына.*

**Пасьцягваць,** *дзс.* — 1) постаскивать что в одно место. Пасьцягвай картаплянік у кучу. — 2) поснимать что, стаскивая. Пасьцягвала на нач плацьця з жэрдкі. — 3) стащить, уворовать. У ночы нехта палатно пасьцягваў з гумна. *В. Старына.*

**Пасэсар,** а, *м.* — арендатор. Да етага году хваліварак трымоў пасэсар, а ціпер аддалі яго калякціву. *В. Старына.*

**Пасярод,** *прс.* — посреди. Стой, ік слуп, пасярод хаты: німа дзе й сесьці. *В. Старына.*

**Пасярэдзіня,** *прс.* — посредине. Пасярэдзіня вуліцы паклалі бярвеньня, ашчэ хто ногі паломіць. *В. Старына.*

**Патаенна,** *прс.* (*польск.* potajemnie) — тайно, скрытно. Вот дачушка: патаенна ат маткі продала палатно! *В. Старына.*

**Патаенны,** *прм.* — тайный. С пад цэрквы аж у пакоі ё патаенны ход. *В. Старына.*

**Патанець,** *дзс.* — стать тоньше. Ік вышла замуж дзеўка, дык пахудзела й патанела. *В. Старына.*

**Патанцаваць,** *дзс.* — потанцевать. Перш папрацуй, а тады патанцуй. *Прык. Х. Самін, Пух. р.*

**Патаўчы,** *дзс.* — 1) потолочь. Патаўчы лепяй кашу, ато ня добра патаўкла. — 2) побить кого. Патоўк яму ўсю морду. — 3) поразбивать что. Напіўся ды патоўк усе міскі. *В. Старына.*

**Патваему,** *прс.* — потвоему. Патваёму мо'й так, а памаему — дык не! *В. Старына.*

**Патвараць,** *дзс.* — потворствовать. Нашоў ён каму патвараць: распусьніку етаму! *В. Старына.*

**Патлуміць,-цца** *дзс.* - подавить,-ться (в бранном смысле). Хай ваша маць патлуміць, якія-ж вы благія дзеці! Каб ваша маць патлумілася, чаго вы сюды лезяця?! —

2) усердно и много поработать. Мала ён патлуміўся за етаю работаю? — дык ціпер во хварэя. *В. Старына.*

**Патлусьцець**, *дзс.* — пожиреть. Кабану ік сталі лепяй даваць есьці, дык атразу патлусьцеў. *В. Старына.*

**Патоля**, і, *ж.* — поблажка. Дзіцяці раз, другі дай патолю, дык посьля бяда з ім будзя. *В. Старына.*

**Патом**, *прс.* — 1) потом, после. Патом прыдзяш — ня дзе дзеняська. 2) всетаки. Дарма, што ён благі чалавек, а патом у яго хутчэй што дастаняш. *В. Старына.*

**Паторкаць**, *дзс.* — поторкать. Паторкай яго пад бок, хай прачынаяцца. *В. Старына.*

**Патоўпіць,-цца**, *дзс.* — поместить, -ться. Ты-ж етых яблыкаў ня патоўпіш у свой кадоўбчык. Сабралася народу, аж чуць патоўпіліся ўсе ў хаця. *В. Старына.*

**Патрабаваць**, *дзс.* — требовать. Німа каму ў нас патрабаваць школы ў сяло. *В. Старына.*

**Патрактаваць**, *дзс.* — угостить. Міне швагір добра патрактавоў гарэлкаю ды каўбасаю. *В. Старына.*

**Патрапаць**, *дзс.* — потрепать. Патрапала ўвесь лён свой. *В. Старына.*

**Патрапеняць**, *дзс.* — посходить с ума. Хлопцы, што вы робіця? хіба вы патрапенялі?! *В. Старына.*

**Патрапіць**, *дзс.* — попасть. Ён адзін ня патрапіць дамоў. *В. Старына.*

**Патрашыць**, *дзс.* — потрошить. Буду патрашыць рыбу. *В. Старына.*

**Патроху**, *прс.* — понемногу. Усяго саброў патроху: сена, канюшыны, вікі. *В. Старына.*

**Патрошку**, *прс.* — понемножку. Патрошку ты бяры, каб лягчэй было несьці, ато падарвесься. *В. Старына.*

**Патрухаць**, *дзс.* — побежать трусцой. Во як хутка патрухаў — і ня дагнаць яго. *В. Старына.*

**Патрыножыць**, *дзс.* — стреножить, спутать три ноги. Коні патрыножылі, а самі паселі. *В. Старына.*

**Патрысьціць** *дзс.* — *гл.* **Трысьціць.** Патрысьціла два клубке нітак. *В. Старына.*

**Патрэба**, ы, *ж.* — надобность. Няхай валяяцца кавалак дзерава на ўсякаю патрэбу. За ўсякаю патрэбаю ўсё бяжы к людзям. *В. Старына.*

**Патрэбна**, *прс.* — нужно. Патрэбна ета яму было рабіць, — мог абыйціся! *В. Старына.*

**Патрэбны**, *прм.* (*скар.* **патрэбен**) — необходимый, нужный. Ён патрэбны чалавек у міне. Патрэбян ён тут, ік сабаку пятая нага. *В. Старына.*

**Патрэт**, а *м.* (*пам.* **патрэцік**) — портрет. Зьняліся па патрэт. Стаіць на партрэця, усяроўна, ік жывы. *В. Старына.*

**Патужыцца**, *дзс.* — посилиться. Патужыўся ды вырваў кол. *В. Старына.*

**Патузаць, - цца**, *дзс.* — подёргать, -ться (особенно в борьбе, в драке). Біць ня біў, а так троха загрудкі патузаў яго. Ведама выпіўшы абудва: патузаліся загрудкі. *В. Старына.*

**Патуль**, *прс.* — потуда, до тех пор. Патуль чапіўся, пакуль ня надавалі ў каршэнь. *В. Старына.*

**Патупаць**, *дзс.* — 1) потиху пойти. Падзакусіў ды патупаў сабе памаленьку.—2) побранить слегка кого, тупая при этом ногами. Троха натупаў на сваю бабу. *В. Старына.*

**Патурыць**, *дзс.* — 1) пойти быстро. Закурым ды патурым. — 2) погнать быстро. Ік патуру — аж закурым! *В. Старына.*

**Патухляць**, *дзс.* — сделаться тухлым. Патухлялі яйца, ведама доўга ляжаць. *В. Старына.*

**Патухнуць**, *дзс.* — погаснуть. Патухлі дрова ў печы. Патухла цяпло на комінку. *В. Старына.*

**Патыліца**, *дзс.* — затылок. Стукнаўся патыліцаю аб вушак. *В. Старына.*

**Патэльня**, і, *ж.* — противень. На патэльні буду пячы піраге. На патэльні сьпякла парасё. *В. Старына.*

**Паўгода**, — полгода. Наняўся служыць на паўгода. *В. Старына.*

**Паўгоні**, ней, *мн.* (*пам.* **паўганьке**) — половина **гоняй**. Лёну с паўгоней будзя. Паўганьке пакінаў канюшыны на насеньня. *В. Старына.*

**Паўз**, *прыйм. з вінав. скл.* — возле. Ідзі так паўз плот. *В. Старына.*

**Паўзьці** *дзс.* — ползти. Мурашка ўчапілася за вялікаю саломіну, аж ня можа паўзьці. Дзіця паўзе пад ногі. *В. Старына.*

**Паўкварта**, ы, *ж.* — половина **кварты**=около $^1/_{20}$ ведра водки=0,60 литра. Захундуй мне паўкварты, дык памагу дакасіць. *В. Старына.*

**Паўкручок**, чка, *м.* — половина **крючка**, =$^1/_{200}$ ведра водки = около 0,06 литра. Паўкручка выпіў, дык і цяплей стала. *В. Старына* (*Пр.* **Шкалік**).

**Паўлоньне**, я, *н.* — полохапки. Паўлоньня травы назьбірала парасятам. *В. Старына.*

**Паўломваць,-цца**, *дзс.* — поуломливать,-ться. Нехта жэрдкі ў плоця паўломваў. Паўломваліся бакі ў абячайца. *В. Старына.*

**Паўморга**, — половина **морга**=0;35 гкт.=$^1/_3$ дес. У людзей дастоў на часьць паўморга сянакосу. Пасеяў паўморга вікі. *В. Старына.*

**Паўпадаць**, *дзс.* —подохнуть (в бранном смысле). Каб вы паўпадалі етакія парасяткі, ік вы усюды ў шкоду ўлезяця! *В. Старына.*

**Паўпіраць**, *дзс.*—1) пораздавать. Маці ўсе рушнікe паўпірала дочкам, а сабе дык і німа чым выцярціся. 2) в безличном значении—повыпирать, повыпучивать, вздуть. Аж баке каровя паўпірала — так наелася! *В. Старына.*

**Паўпіхаць**, *дзс.* — повпихнуть. На той сьвет табе ўсяго ня паўпіхаюць. *В. Старына.*

**Паўплятацца**, *дзс.* — вцепиться (говорится о многих). Паўпляталіся ўсе за яго ды валакуць. *В. Старына.*

**Паўрубель**, бля, *м.* — полтинник. На паўрубля купіў солі. *В. Старына.*

**Паўсараке**, оў, *мн.* — 20-тый день по смерти кого; справляются поминки. У тую нядзелю будам спраўляць па бацьку паўсараке. *В. Старына.*

**Паўставаць**, *дзс.* — вставать (говорится о многих). Ужо ўсе суседзі паўставалі, будам і мы ўставаць. *В. Старына.*

**Паўстанец**, нца, *м.* — мятежник. Мой дзед расказваў, як панэ даўней хадзілі ў паўстанцы. *В. Старына.*

**Паўстаньне**, я, *н.* — восстание, мятеж. Я ашчэ быў малы, ік было паўстаньня, да панэ ўцякалі ў лес. *В. Старына.*

**Паўсьцягваць**, *дзс.* — повтаскивать. Дошкі трэба паўсьцягваць на вышкі, каб ня псаваліся на дварэ. Паўсьцягвайця цабрэ на гару. *В. Старына.*

**Паўтарачка**, і, *ж.* —доска толщиною $1^1/_2''$. Паўтарачак нарэзалі на падлогу. *В. Старына.*

**Паўтраця**, — два с половиной. Зарабіў паўтраця рубля. *В. Старына.*

**Паўцякаць**, *дзс.* — поудирать. Усе паўцякалі іс садка, нікога й ня злавілі. *В. Старына.*

**Паўчварта**,—три с половиной. Пазычыла на блінэ паўчварта хунта мукі. *В. Старына.*

**Паўшоры**, аў, *мн.* — шоры. Трэба спраўляць каню новыя паўшоры. *В. Голацак, Сьміл. р.*

**Паўшуронак**, нка, *м.* — половина шурки или $^1/_6$ сажени дров. Нарэзалі паўшуронак дроў. *В. Старына.*

**Паўшывацца**, *дзс.* — попрятаться. Паўшываліся пылянята ў каноплі й ня знайці іх. *В. Старына.*

**Пах**, у, *м.* — запах. Які добры пах ат мурага! Каб твойго й паху тут ня было! *В. Старына.*

**Пахаваны**, *прм.* — погребенный. Бацька пахаваны каля маткі. Ня ў добрум месьця яна пахавана: ля самаі дарогі. *В. Старына.*

**Пахаваць,-цца**, *дзс.* — 1) попрятать, -ться. Усё пахавалі—нідзе нічога й ня відаць. А мы ў салому пахаваліся й ня знашлі нас.—2) похоронить кого, быть погребену. Дзіця ў той-жа дзень і пахавалі,

ік памерла. Хай будзя адна чыстая сарочка, каб было ў чом пахавацца. *В. Старына.*

**Пахаладзець,** *дзс. безас.* — похолодать. Шмат ужо пахаладзела: зараз, мусіць, выпадзя сьнег. *В. Старына.*

**Пахапаць,** *дзс.* — порасхватать. Вот дзе дзеткі: усе яблыкі пахапалі! *В. Старына.*

**Пахарчаваць,-цца,** *дзс.*—покормить, -ться. Трэба заехаць к каму на двор каня пахарчаваць і самім пахарчавацца. *В. Старына.*

**Нахвастаць,** *дзс.* —побить. Ня кіньсі, ато галаву пахвошчаш! *В. Краняні, Пух. р.*

**Пахвіна,** ы, *ж.* — часть тела животного от ног до ребер. Карова есьць у праваю пахвіну. У каня ўпалі пахвіны. *В. Старына.*

**Пахібіць,** *дзс.* — сплоховать. Пахібіў наш лён: нешта ня ўдоўся. *В. Старына.*

**Пахіліць,-цца,** *дзс.*—наклонить,-ться, накренить,-ться. Пахілі воз на бок. Пахілілася рашэціна ў вазяродзя. *В. Старына.*

**Пахінуць,-цца,** *дзс.* — нагнуть,-ться. Пахіні на бок пляшку ды лей. Лейка пахінулася на бок, дык газа й разьлілася. *В. Старына.*

**Пахіснуцца,** *дзс.* — накрениться, поскользнувшись. Пахіснуўся ды чуць ня скінаўся ў раку. *В. Старына.*

**Пахмурнець,** *дзс.* — стать пасмурным. Пахмурнела — ці ня будзя дождж? *В. Старына.*

**Пахованы,** *прм.* — спрятанный. Вобыск зрабілі ў яго: усё было пахована, але пазнаходзілі. Нейдзя добра пахованы яблыкі, йгрушы, што ня знайці іх. *В. Старына.*

**Паход,** у, *м.* — 1) отправка, поход. Пашоў у паход на вайну. — 2) избыток, излишек. Атважыў пяць пудоў с паходам. Яму шэйдзісят год с паходам. *В. Старына.*

**Паходаць,-цца,** *дзс.* — одолеть, побороть,-ться. Вот дужы ён: чуць паходаў яго! *В. Старына.* Калі хочаш, давай паходацца. *В. Краняні, Пух. р.*

**Пахрапастаць,-цца,** *дзс.* — 1) побить, поломать на мелкие части. Ік шпурнуў, дык на дробныя кавалачкі пахрапастоў міску!—2) поесть. Глядзі, каб карова ня пахрапастала капусты ў возя. *В. Старына.*

**Пахрустаць,** *дзс.* — поесть с хрустом. Сьвіньня пахрустала ўсе яблыкі. *В. Старына.*

**Пахукаць,** *дзс.* — подышать на член тела для согревания его или на какой-либо предмет, чтобы покрыть его парами. Пахукай, нагрэй рукі. Пахукай на люстэрак ды вытры. *В. Старына.*

**Пахучы,** *прм.* — душистый. Якія пахучыя краскі! Пахучая сена. *В. Старына.*

**Пацапаць,** *дзс.* — похватать что. Усё пацапалі й палапалі — мне нічога ня пакінулі. *В. Старына.*

**Пацеляпацца,** *дзс.* — поплестись. Ці ня Базыль ета там пацяляпоўся к Ганьня? *В. Старына.*

**Пацеркі,** рак, *мн.* — бусы. Купіла дзьве нізкі пацярак. *В. Старына.*

**Пацеха,** і, *ж.* — 1) утешение. Вот паслухмяныя дзеткі — адна пацеха з іх! — 2) умора. Пацеха з ім дый годзя, з етым чалавекам! *В. Старына.*

**Пацікаваць,** *дзс.* — последить, постеречь. Думаю, пацікую, дзе-ж ты дзенясься? *В. Старына.*

**Паціснуць,-цца,** *дзс.* — подавить, -ться. Пацісьні вяроўку мацней, ато воз раскідаяцца. Паціснуліся яблыкі ў возя. *В. Старына.*

**Паціху,** *прс.* — 1) потихоньку, тихо. Паціху ты гавары, ня крычы етак! — 2) медленно. Ня ляці-ж ты, паціху едзь! *В. Старына.*

**Пацмакваць,** *дзс.*—почмокивать. Завідна яму стала, толька пацмаквая. *В. Старына.*

**Пацук,** а̀, *м.* — крыса (Mus decumanus). У каморца завяліся пацуке. *В. Старына.*

**Пацыбаць,** *дзс.*—о длинноногом: пойти. Рыгор пацыбаў на места. *В. Старына.*

**Пацыркаць,** *дзс.* — немножко подоить корову, когда она мало дает малока. Троха пацыркала ка-

роўку, але малака ня больш шклянкі дала. *В. Старына.*

**Пацьвісьці,** *дзс.* — поплесневеть. У стопца ня кладзіця хлеба: ён там можа пацьвісьці. Пацьвілі сухарэ. *В. Старына.*

**Пацэліць,** *дзс.* — попасть в цель. Ік раз пацэліў у вока. *В. Старына.*

**Пацяг,** а, *м.* — тот, кто потягивается. Вот пацяг: пацягваяцца ды пацягваяцца. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Пацягнуцца,** *дзс.* — потащиться. Карова набралася, аж чуць пацягнулася. *В. Старына.*

**Пацягнуць,** *дзс.* — 1) потащить. Етага бярвіна я адзін ня пацягну. — 2) ударить чем-либо длинным. Пацягнуў яму па сьпіне чыстаколінаю! *В. Старына.*

**Пацяжка,** і, *ж.* — поленце. Падай мне танейшую пацяжку падлажыць на комінак. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Пацяроб, поцяраб,** у, *м.* — сенокос, очищенный от кустов. С пацяробу прывёз калясьнічок сена. *В. Старына.* Пойдам касіць на поцяраб. *С. Амельна, Пух. р.*

**Пацяруха,** і, *ж.* — измельченные остатки корма: сена, клевера и проч. Прынясі каровам хоць якоі пацярухі. *В. Старына.*

**Пацярушыць,-цца,** *дзс.* — 1) попорошить. Пацярушыўся нявялічкі сьнег. — 2) поморосить. Пацярушыў дожджык. *В. Старына.*

**Пачай,** *прс.* (старо-славянск. *паче*) — лучше. Баба, а рабіць пачай мужчыны. *В. Старына.*

**Пачакаць,** *дзс.* — подождать. Пачакай міне, разам пойдам. Пачакай-жа ты ў міне, і я табе етак дам што! *В. Старына.*

**Пачапіць,-цца,** *дзс.* — нацепить,-ться. Пачапіў на сібе нейкія плюндры. Чаго ты пачапіўся там на плот, — хочаш абламаць? *В. Старына.*

**Пачасваць,** *дзс.* — хлестать. На чорта мне пачасваць яе: у суд лепяй падам. *В. Старына.*

**Пачаставаць,** *дзс.* — угостить. Міне кум пачаставоў гарэлкаю. *В. Старына.*

**Пачасьсе,** я, *н. зб.* — очёски льна. Напрала хунтаў з дзесяць пачасьця. *В. Старына.*

**Пачатак,** тку, *м.* — начало. Ашчэ на самы пачатак пасьпеў. *В. Старына.*

**Пачканос,** а, *м.* — лилия пёстрая, царские кудри (Lilium Màrtagon L). *Х. Самін, Пух. р.*

**Пачостка,** і, *ж.* — угощение. На вясельлі была добрая пачостка. *В. Дукарка, Сьміл. р.*

**Пачувацца,** *дзс.* — чувствовать себя. Як-жа пачуваясься ты: у баку ня баліць? *В. Старына.*

**Пачуцца,** *дзс.* — почувствовать себя. Пачулася маладзіца, што стала ўцяжку. *В. Старына.*

**Пачуць,** *дзс.* — 1) послышать. Усё расскажа, дзе што пачуя. — 2) почувствовать, почуять. Пачуў на сібе бяду—ды драла! *В. Старына.*

**Пачыкільгаць,** *дзс.* — поковылять. Антон ужо некуды пачыкільгоў с сваею крывою нагою. *В. Старына.*

**Пачынак,** нка, *м.* — большое веретено ниток, свитых с „двух адкідзічаў". Палажы за комін пачынкі, хай там прасохнуць. *В. Старына.*

**Пачынаць,** *дзс. (зак.* **пачаць,** *прм.* **пачаты)** — начинать. Разам пачынайма. Работу мы разам пачалі, разам і кончылі. Рэж пачатаю булку, а ня цэлаю. *В. Старына.*

**Пачырванець,** *дзс.* — покраснеть. Вот сором яму стала, — аж пачырванеў увесь! *В. Старына.*

**Пачэзнуць,** *дзс.* — подохнуть. Пачэзьлі парасята бяз сьвіньні. *В. Старына.*

**Паша,** ы, *ж.* — 1) подножный корм. У етум гаду ані німа пашы скаціня. — 2) пастбище. Сяло вялікая, а пашы мала. *В. Старына.*

**Пашамятаць,** *дзс.* — порвать что на мелкие кусочки. Ад злосці аж сарочку пашамятоў на сабе. *В. Старына.*

**Пашанцаваць,** *дзс. безас.* — посчастливиться. Пашанцавала яму: двух зайцоў забіў. *В. Старына.*

**Пашараваць,** *дзс. (прм.* **пашараваны)** — почистить что песком или

золою. На дварэ пашаравала лыжкі. Самавар пашарованы,—аж блішчыць! *В. Старына.*

**Пашарпаць,** *дзс. (прм.* **пашарпаны)** — подрать на мелкие кусочки. 'К відзіш пашарпаў жакетку ў карчох! (знач., выкапывая корчи, пни). Надзеў пашарпаныя штанэ. *В. Старына.*

**Пашкадаваць,** *дзс.* — пожалеть. Пашкадуяш посьля, чалавеча, але позна будзя. Пашкадавоў мне куска хлеба даць. *В. Старына.*

**Пашкодзіць,** *дзс.* — повредить. Мусіць яда пашкодзіла, што жывот баліць. *В. Старына.*

**Пашмат,** *прс.* — помногу. Ня бяры зараз пашмат, а патрошку. *В. Старына.*

**Пашня,** і, *ж.* — пахота. Сваю пашню й адным канёмураблю. *В. Старына.*

**Пашпурляць,** *дзс.* — пошвырять. Пашпурлёў каменьня ў вадну кучу. *В. Старына.*

**Паштырхаць,** *дзс.* — потолкать кого в драке. П'янага паштырхалі троха ды пусьцілі. *В. Старына.*

**Пашукаць,** *дзс.* — поискать чего. Пашукай, дзе мая сьвіта. *В. Старына.*

**Пашчасьціць,-цца,** *дзс. безас.* — посчастливиться. Пашчасьціла яму: брат з Амэрыкі прыслаў таляраў. Пашчасьцілася маладзіцы: папала сабе добрага прымака. *В. Старына.*

**Пашэньціць,** *дзс. безас.* — посчастливиться. Але пашэньціла Юрку: з лесу прыцёг калоду й ніхто ня злавіў. *В. Старына.*

**Паямчэць,** *дзс.* — стать быстрейшым, более лёгким. Мая баба паямчэла, ік атсьцёбаў яе. *В. Старына.*

**Певень,** пеўня, *м.* — петух. Наш певянь адбіўся ат сваіх курэй. Панясу пеўня на места прадаваць. *В. Старына.*

**Пекануць,** *дзс.* — 1) быстро коснуться горячим или раскалённым железом. Ня тарчы тут пад рукамі, ато ашчэ гарачым шылам пякану. —2) быстро ужалить, укусить. Пчала пяканула жалам. Блыха нейдзя пяканула за нагу. *В. Старына.*

**Пекла,** а, *н.* — 1) ад. Будзяш ты за сваю работу ў пекля чэрцям сма лу вазіць. — 2) тяжелое житье. Ета ня жыцьцё, а пекла нейкая. *В. Старына.*

**Пелька,** і, *ж.* — прорубь в реке. Чуць быў ня ўтапіўся: ускочыў у пельку, але людзі выратавалі. *В. Старына.*

**Пена,** ы, *ж.* — 1) пена. Пена із рота пашла. — 2) пеня. На стрыхоўку пена нарасла. *В. Старына.*

**Пенчаны,** *прм.* — пеньковый. Парваліся пянчаныя набярдкі. *В. Старына.*

**Перабежышча,** а, *н.* — место перебегания. У раўку воўчая пярабежышча. *В. Старына.*

**Перабівацца,** *дзс. (зак.* **перабіцца)** — 1) понапрасну ездить или ходить куда и утомляться. Скажы, хай людзі зоўтра ня пярабіваюцца і напрасна ня едуць сюды. Дарам толька пярабіўся: у сяльсавеця нікога ня было. — 2) перебиваться — бедствовать. Пярабіваямся с хлеба на квас. *В. Старына.*

**Перабіваць,** *дзс. (зак.* **перабіць)** — расстраивать сделку, прерывать разговор, работу и проч. Чалавек угаварыўся купіць, дык нечага яму пярабіваць. Ня пярабівай яго, хай кажа. *В. Старына.*

**Перабіраць,** *дзс. (зак.* **перабраць,** *прм.* **перабраны)**— отбирать лучшие экземпляры. Зоўтра будам пярабіраць картоплю на насеньня. Пяраброў крупы ат усякаі бузы. У каламашца пярабраная картопля. *В. Старына.*

**Перабірачка,** і, *ж.* — переборчивость. За пярабірачку выбраў гарачку (або: выбраў няўставачку, нябарачку). *Прык. В. Лядцо, Пух. р.*

**Пяраборлівы,** *прм.* — привередливый. Які-ж ты пяраборлівы: што ні дай, усё ня смашная яму! *В. Старына.*

**Перабытны,** *прм.* — могущий быть пережитым. Дзела гэта пярабыт-

ноя. Пярабытна, але ня забытна. *Прык. С. Навасёлкі, Пух. р.*

**Перабыць,** *дзс.* — прожить, перенесть. Каб як зіму пярабыць,—а там што-небудзь прыдумаям. *В. Старына.*

**Праворваць** *картоплю,* — перепахивать поле после выборки картофеля. Нашы паехалі пяраворваць картоплю. *В. Старына.*

**Перавярнуць,-цца,** *дзс.* — 1) перевернуть,-ться на другую сторону. Пяравярнуўся на другі бок ды зноў заснуў. — 2) принять другое вероисповедание. Пяравярнуўся на каталіка. *В. Старына.*

**Перавясло,** á, *н.* — связь для снопов. Малы авёс парос, німа с чаго й пяравясла зрабіць. *В. Старына.*

**Перагартаваць,** *дзс.* (*прм.* **перагартаваны**) — перекалить. Трэба пярагартаваць сякерку, ато надта мяккая сталь. Серп пярагартаваны. *В. Старына.*

**Перагатаваць,** *дзс.* (*прм.* **перагатаваны**) — вскипятить. Пярагатавала малако, каб сырога ня пілі да жыватэ ня балелі. Пі пярагатаванаю ваду, а сыроі ня можна. *В. Старына.*

**Перагнюсіць,** *дзс.* —перепачкать. Усе міскі пярагнюсілі — і німа ў чом есьці. *В. Старына.*

**Перадок,** дкá, *м.* — передняя часть телеги, повозки. Ты садзіся ў пярадку, дык ямчэй будзя паганяць. *В. Старына.*

**Перадоўка,** і, *ж.* — короткая веревка, которая концами прикрепляется к передней части телеги, а сама накладывается в виде петли на „рубель" при увязке воза. Чапляй пярадоўку за рубяль, будам ціснуць воз. *В. Старына.*

**Ператочча,** а, *н.* — площадка, выбитая глиной, находящаяся перед „токам". На пяраточчы будам лён абіваць. *В. Старына.*

**Перадэ,** оў, *мн.* — кожа, которая пришивается к голенищам и образует ступню сапога. Шавец сапсавоў мне пярадэ, і ботаў ня пашыў. *В. Старына.*

**Пераж*а*біцца,** *дзс.* — покоробиться, искривиться. Добрая арэшына была на‘бруч, але пяражабілася. *В. Старына.*

**Перайм*а*ць, перанім*а*ць,** *дзс.* (*зак.* **пераняць**) — 1) перенимать кого, перехватывать. Бяжыма на вуліцу пяраймаць авечкі. Пяранімайця — ета-ж ваша цялё. — 2) заимствовать. Нейдзя ўжо новаю песьню пяранёў. *В. Старына.*

**Перайм*о*,** á, *н.* — вознаграждение за найденную вещь или перенятое животное. Ты знашоў мой ножык, — аддай, дык дам пярайма. Хлопцам трэба даць пярайма, што каня ўлавілі. *В. Старына.*

**Перайн*а*чваць,** *дзс.* (*зак.* **перайн*а*чыць**) — делать иначе, переделывать. Як ё, хай так і будзя, пярайначваць ня трэба. Ён у хаця ўсё пярайначыў на свой манер. *В. Старына.*

**Перайц*і*** *на веру,* — принять католическое или иное вероисповедание. Васілёк пярайшоў на каталіцкаю веру. *В. Старына.*

**Перакав*і*к, пяр*а*к,** à, *м.* — грядка, что вспахивается поперек полосы, когда нельзя проводить плугом по длине до самого конца. На пяракавік ня хваціла насеньня. Даляй там пасеян лён, дык ты зробіш пяракавік. *В. Старына.* Каля ракі пярак картоплі стаптaлі. *С. Навасёлкі, Пух. р.*

**Перакал*е*чыць,** *дзс.* — искалечить многих. Ета вайна чоршта людзей пяракалечыла! *В. Старына.*

**Перак*і*дацца,** *дзс.* — прожить коекак, перебиваясь (о прошедшем времени). Зімку сяк-так пяракідаліся, а вясною бог бацька. *В. Старына.* (*Пр.* **Прак*і*дацца**).

**Перакід*а*ць,-цца,** *дзс.* (*зак.* **перак*і*нуць,-цца,** *прм.* **перак*і*нуты**) — перебрасывать, -ться. Дошкі прыдзяцца цяраз плот пяракідаць. Снапэ лёгкія, дык аж нет куды пяракідаюцца. Пяракінь мех на еты бок. А жэрдка пяракінутая

так і ляжыць на Паўлюковум гумне. *В. Старына.*

**Перакіднік**, а, *м.* — тот, кто легко меняет вероисповедание. Вот дзе пяракіднік: учора быў рускі (православный), а сягоньня пяравярнуўся на каталіка! *В. Старына.*

**Перакорыць**, *дзс.* — противоречить. Што ты пяракорыш, нічога ня ведаючы? *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Перакрыўляць**, *дзс. (зак.* **перакрывіць**) — передразнивать. Сядзіць ды пяракрыўляя ўсіх. Яно ўмея каждага пяракрывіць, як хто гаворыць. *В. Старына.*

**Перакулдыкнуцца**, *дзс.* — перекувыркнуться. Запарам пяракулдыкнаўся тры разы. *В. Старына.*

**Перакуліць,-цца**, *дзс.* — опрокинуть, -ться. Пяракуліў чаркі дзьве гарэлкі (знач., выпил). Пяракуліўся воз у выбоіня. *В. Старына.*

**Пералёт**, у, *м.* — язвенник обыкновенный (Anthyllis vulneraria L). Назьбіралі пяралёту пасьвяньціць. *С. Блужа, Пух. р.*

**Пераліўкі**, (*польск.* przelewki)—пустяковина, шутки; употребляется с отрицанием. Бачыць, што ня пяраліўкі, ды давай прасіцца *В. Старына.*

**Пераліцаваць**, *дзс.* (**пераліцаваны**)— перевернуть на другой бок. Пяраліцавалі малому сьвітку. Ня пазнаць, ці новая жакетка ці пяраліцаваная. *В. Старына.*

**Пералічваць**, *дзс. (зак.* **пералічыць**, *прм.* **пералічаны**) — пересчитывать. Даволяй табе ўжо пяралічваць етыя грошы. Два разы пяралічыў пылянята,— і аднаго такі ня хватая. Снапэ хай сабе будуць на полі — яны пяралічаны, мо' ніхто ня ўкрадзя. *В. Старына.*

**Пералог**, у, *м.* — луг среди поля или среди леса. Коні пасуцца на пяралозя. *В.Падбярэжжа, Пух.р.*

**Пералузаць**, *дзс.*—очистить от скорлупы, перебирая каждый стручок, семячко. Адзін усе насеньнікі пяралузоў. Пяралузала пасолю. *В. Старына.*

**Перамагаць**, *дзс. (зак.* **перамагчы**) — осиливать, одолевать. Яго ніхто ня пяраможа: што захоча, тоя й будзя рабіць. Ня пярамагчы табе яго, браця! *В. Старына.*

**Перамалоцца**, *дзс.* — перемолоться. Пярамеляцца ўсё, — мука будзя. *Прык.* А, пяройдзя ета ліха, пярамеляцца ўсё — і забудзяцца. *В. Старына.*

**Перамот**, у, *м.* — 1) заграждение впереди саней из переплетенного в разные стороны шнура; то же в телеге для укрепления сиденья. У сані трэба даць новы пярамот. Зрабі ў перад пярамот у драбінца, тады накладзеш саломы на сядзеньня. — 2) ошибка при сновании тканья. Насновала пярамотаў, снуючы кросна. *В. Старына.*

**Пераносіць,-цца**, *дзс. (зак.* **пера несьці,-ціся**) — переносить,-ться. Нашто пераносіць еты зуслон? —хай стаіць на месьця. Мы будам пярасыпаць сваю хату, дык пяраносімся ў клець. Муку трэба пяранесьці ў каморку. Табе давядзецця пяранесьціся с сваімі паперамі на другі стол. *В. Старына.*

**Перападаць**, *дзс. безас.* (*зак.* **перапасьці**) — перепадать, перепасть. Яго добрая служба: сяды-тады й гасьцінца пярападая ат каго. *В Старына.*

**Перапасьціся**, *дзс.* — о животном: от голода похудать. Каніна галодная, саўсім пярапалася .*В. Старына.*

**Перапечка**, і, *ж.* — лепешка из пшеничной, ячменной или гречневой муки. Дайця мне пяряпечку, дык я скажу вам праз печку. *Прыгав. В. Дайнава, Пух. р.* Напяклі с пшанічнаі мукі пірапечак. *В. Раўнапольле, Сьміл. р.*

**Пераплёт**, а, *м.* — часть „азярода" между столбами — решетинами. Жыта нажалі два пяраплёты. —2) скверное положение. Глядзі, чалавеча, ато пападзесься ты ў пяраплёт,— тады паскачаш! *В. Старына.*

**Пераплысьці**, *дзс.* — переплыть. Каб як пяраплысьці на той бок. Пя-

раплыў самы глыб,— ціпер сьмела! *В. Старына.*

**Перапляс,** у, *м.* — скверное, щекотливое положение. Во папоўся ў пяраплясі ты,— ціпер я пасьмяюся с цібе. *В. Старына.*

**Перапой,** ю, *м.* — взаимные подарки в начале свадьбы жениха и невесты. Женіх доў Парасца ў пярапоі чаравікі й спадніцу, а яна пашыла яму кужэльныя штанэ й сарочку. *В. Старына.*

**Перапрашаць,** *дзс. (зак.* **перапрасіць)** — извиняться, просить извинения, прощения. Ня думайся, пярапрашаць цібе ня буду. Пярапрасіў, каб на суд ня падавалі за патраву. *В. Старына.*

**Перапрагаць,** *дзс. (зак.* **перапрэгчы,** *прм.* **перапрэжаны).** — перепрягать лошадь. Нічога ня будзя, трэба каня пярапрагаць. Пярапрэжаны конь. *В. Старына.*

**Перапрэгчы,** *дзс.*— пережарить. Трэба пілнаваць, каб не пярапрэгчы гароху. Пярапрогся алей. Вот пярапрэжаны боб — аж пагарэў. *В. Старына.*

**Перапуд,** у, *м.* — перепуг. Аж ня ведая, што рабіць з вялікага пярапуду! *В. Старына.*

**Перапужаць,-цца,** *дзс. (прм.* **перапужаны)** — перепугать,-ться. Сабака пярапужоў дзіця. Маладзіца пярапужалася на пажары ды захварэла. Наша малоя хворая — пярапўжаная. *В. Старына.*

**Перапялёсты,** *прм.* — кабан или свинья, с поперечными белыми и чорными вперемежку полосами. Пярапялёстая сьвіньня гукацца хоча. *В. Старына.*

**Перарабляць** *дзс. (зак.* **перарабіць,** *прм.* **парароблены)** — переделывать. Ня так зрабіў ты, прыдзяцца перарабляць. Пярарабілі мы сваю грубку. Ета тыя самыя калёса, але пяраробляныя. *В. Старына.*

**Перарывацца,** *дзс.* — 1) перерываться. Тонкая нітка, дык пярарываяцца. — 2) сильно кричать, орать. Крычыць, аж пярарываяцца. *В. Старына.*

**Перарэза,** ы, *аг.*—недоедливый до невозможности. Маўчы ты пярарэза, ня рэж ты майго сэрца! *В. Загай, Пух. р.*

**Перасіліцца,** *дзс. (прм.* **перасілены)**—подорвать силы. Пярасіліўся паднімаючы бярвіно, дык жывот баліць. Атрахім быў здаровы мужчына, але ціпер пярасіляны. *В. Старына.*

**Перастарык,** а, *м.* — престарелый. Ведама, пярастарык: узьлез на печ ды качаяцца! *В. Старына.*

**Перастарыца,** ы, *ж.*—престарелая. Ашчэ ты, маладзіца, ня пярастарыца — мужык, нябось, трэба!.. *В. Старына.*

**Перасыпаць,** *дзс. (зак.* **перасыпаць,** *прм.* **перасыпаны)**—ремонтировать строение, разбирая брёвна и заменяя подгнившие из них новыми. Вясною будам пярасыпаць сваю хату. Хлеў добра пярасыпаны: скаціня будзя цепла. *В. Старына.*

**Перасьпеліваць,** *дзс. (зак.* **перасьпеліць)** — допустить до перезревания. Хай ашчэ сьпеюць дулі, але пярасьпеліваць іх ня можна—пагніюць посьля к ‘бачыш. Пярасьпеліў я сваю грэчку, ціпер асыпаяцца косячы. *В. Старына.*

**Перасьпелы,** *прм.* — перезревший. Пшаніца аж крышыцца—ведама, пярасьпелая. Пярасьпелы ячмень асыпаўся. *В. Старына.*

**Перасьпяваць,** *дзс. (зак.* **перасьпець)**—перезревать. Пара касіцьканюшыну,—нашто, каб пярасьпявала. Пярасьпеў авёс. *В. Старына.*

**Перасьцерагаць,** *дзс. (зак.* **перасьцерагчы)** — предостерегать. Я яго пярасьцярагоў, каб ня броўся ня за сваё дзела. Ня было каму пярасьцярагчы яго, ён ня пашоўба туды к п‘яным. *В. Старына.*

**Перасьцярога,** і, *ж.* — предостережение. Ня памагла яму ніякая пярасьцярога. *В. Старына.*

**Перасядаць,** *дзс. (зак.* **перасесьці)**— о пище: задерживаться в глотке. Сопкая картопля, аж у горла пярасядая. Ігруша пярасела ў горля. *В. Старына.*

**Ператраіць,** *дзс.*—вспахать в тре-

тий раз. Пяратраіў два загоны пад ячмень. *В. Старына.*

**Пэратрэсьці,** *дзс.*—1) переколотить что. Ашчэ раз пяратрасі салому.—2) произвесть обыск. Міліца ў Пятрыка ўсё пяратрэсла й нідзе ня знашла самагонкі. *В. Старына.*

**Пэратужыць,-цца,** *дзс. (прм.* **пэратужаны)**—*гл.* **Перасіліцца.** Ня кладзі шмат на воз, ато каня пяратужыш. Добры быў конік, але пяратужыўся. Прыдзяцца збываць кабылу: пяратужаная, у работу ня гадзіцца. *В. Старына.*

**Перахацецца,** *дзс. безас.*—пройти желанию чего. Мне піць ужо пярахацелася. *В. Старына.*

**Перахібіць,** *дзс.*—сплоховать. Ён табе й на валасок ня пярахібіць. *В. Старына.*

**Перахіліць,-цца,** *дзс.*—перевесить, -ться через что. Конь пярахіліў галаву цяраз плот. Каб пярахіліцца цяраз плот, дык падняў-ба яблык. *В. Старына.*

**Перахлябісты,** *прм.*—1) лошадь или корова с большими „пахвінами" и тонкая в об'еме живота. Нейкая пярахлябістая кабыла: баке, ік дошкі.—2) с кривою спиной. У Васілёваі каровы пярахлябістая сьпіна. *В. Старына.*

**Перац,** *м. (пам.* **перчык)**—перец (Piper). У каўбасы палажыла перцу й сялітры. Люблю булён с перчыкам.—*Пёрцу даць*—дать взбучку, нагоняй. Дам табе перцу, дзяціна, добрага! Ну й доў-жа яму перцу, закаяцца боляй етак рабіць! *В. Старына.*

**Перацінаць,** *дзс.* (*зак.* **перацяць**)—пересекать, перерезать. Ня трэ'бала пярацінаць етага шнура, хай-бы цэлы быў. Калясом пярацяло яму нагу. *В. Старына.*

**Перацягваць,-цца,** (*зак.* **перацягнуць,-цца**),–перетаскивать,-ться. Будам ношкамі пярацягваць сена на курган ды кідаць стог. Карова чуць пярацягнулася на другі бок балота. Усё дабро пярацягнуў к сабе ад брата. *В. Старына.*

**Перацягнуць,** *дзс.*—нанесть удар чем-либо длинным. Каб пярацягнуў чыстаколінаю, дык ведаў-ба! *В. Старына.*

**Перашкода,** ы, *ж.*—препятствие. Каб хаця ня сустрэлася па дарозя якоі пярашкоды нам. *В. Старына.*

**Перашмуляць,-цца,** *дзс. (прм.* **перашмулены)**—перетереть,-ться. Пярашмуляў важке аб колца. Пярашмуляўся повад аб палена. Ляйчына пярашмуляна. *В. Старына.*

**Пернік,** а, *м.*—пряник. Дзецям купіў гасьцінца па перніку. *В. Старына.*

**Перхаць,** *дзс.*—сухо кашлять. Перхая, ік тая авечка,—прастудзіўся нейдзя. *В. Старына.*

**Перці** (пру, прэш), *дзс.*—1) переть что. У зад трэба перці воз.—Ня туды прэш.—2) быстро бежать, ехать. Прэ, аж пыл курыць!—3) с трудом нести тяжелую ношу. Чуць прэ мяшок.—4) выпирать назад пищу. Аж прэ з яго,—так наброўся! *В. Старына.*

**Перш,** *прс.*—сперва, первоначально. Перш так хацеў, а посьля так—вот і разьбяры ты яго! *В. Старына.*

**Першая прачыстая,**—праздник 15 августа. На першаю прачыстаю паедам у Дукору на кірмаш. *В. Старына.*

**Першы,** *прм.*—первый. Які ён ёмкі: усюды хоча быць першым! *В. Старына.*

**Першым чынам,**—первым долгом, сперва. Першым чынам узяліся за лупцоўку, а пасьля за дапрос. *В. Старына.*

**Перыць,** *дзс.*—избивать. Давай перыць яго паленам. Пер яго, гада, пер! *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Песьціць,-цца,** *дзс.*—нежить,-ться. Залішня вы ўжо песьціця сваіх дзяцей. А што яму рабіць: толька песьціцца ў бацькоў. *В. Старына.*

**Пеўнік,** а, *м.*—петушок. Прапоў наш адзін пеўнік. *В. Старына.*

**Пеўнікі,** аў, *мн.*—погремок обыкнов. (Alectorolophus L.) На гумне ё

шмат пеўнікаў і ўсякіх красак. *В. Старына. (Пр.* **Званец).**

**Пець,** *дзс.* — петь. Пець, скакаць— вот на ета яна дык маладзец! Ня пей ты етак жаласна! Пейма, дзевачкі, другую песьню! *В. Старына.*

**Печыва** (*хлёба)*, а, *н.*, — выпечка хлеба на один раз. Мукі ашчэ хваціць на ‘дно печыва. Разышлося печыва хлеба. *В. Старына.*

**Піка,** і, *ж.*—копье. Паехалі казакі з доўгамі пікамі. *В. Старына.*

**Пілаваць,-цца,** *дзс.*—1) пилить,-ться. Пойдам дрова пілаваць. Ня пілуяцца тоўстая палена.—2) мучить словами кого, попрекать. Пілуя, грызе сваю жонку. — 3) плохо играть на музыкальном инструменте. Пілуя на скрыпца, толька струны ірве. *В. Старына.*

**Пілавіньне,** я, *н.* — опилки. Пілавіньням пашаравалі падлогу. *В. Старына.*

**Піластаў,** ва, *м.*—рабочий, настраивающий и правящий пилы. Па сяле ходзяць піластавы,—трэба й нам аддаць сваю пілу павастрыць. *В. Старына.*

**Пілёсіць,** *дзс.*—1) пилить тупою пилою. Што пілёсіш етаю тупіцаю?— ня парэжаш.—2) бранить, надосаждать. Вечна ён пілёсіць сваю Зосю. *В. Старына.*

**Пілiпаўка,** і, *ж.* — филиппов пост. Маці памерла не‘к у Піліпаўку. *В. Старына.*

**Пілнавацца,** *дзс.* — придерживаться чего. Ты ўжо аднаго чаго пілнуйся: ці ў іх хэўру йдзі, ці ў нашу. *В. Старына.*

**Пілнаваць, пільнаваць, -цца,** *дзс.* — стеречь,-чься. Пільнуй, каб коні ня лезьлі ў шкоду. *В. Скрыль, Пух. р.* Пілнуй гаспадаркі—будуць у гаршку скваркі. *Прык.* Трэба пілнавацца, каб ня памачыцца. *В. Старына.* Піннуй канапель ат курэй, дык дам табе яйцо. *В. Крамяі, Пух. р.*

**Пілны,** *прм. (прс.* **пілна**)—усердный, старательный. Які ён пільны на работу: ік возьмяцца, дык і мінуты ня ‘дыхне. Так-жа пілна яго просіць! *В. Старына.*

**Пільсьць,** і, *ж. (польск.* pilść) — очески с пылью от шерсти. Якая там воўна—адна пільсьць. З воўны шмат вышла пільсьці. *В. Лядцо, Пух. р.*

**Пінжак,** à, *м.*—пиджак. Справіў сабе новы пінжак. *В. Старына.*

**Піпа,** ы, *ж. (пам.* **піпка**), *дзіц.*— мужской половой орган. Ня бярыся за піпу, сорам! Ня чапай піпкі. *В. Старына:*

**Піргаць,-цца,** *дзс. (аднакр.* **піргануць** і **пірнýць**) — порывисто толкать. Стаіць з боку ды піргаяцца з усімі. Ік піргануў яго, дык атразу атляцеў! *В. Старына.* Пірнуў яго ў дзьверы галавою. *В. Старына.*

**Пірог,** пірагà, *м. (пам.* **піражок**)— пшеничный хлеб, кулич. К вяликаньню напяклі пірагоў. На, йзьзеш піражка! *В. Старына.*

**Пісака,** і, *аг.* — писец. Пісоў пісака, што ня разьбярэ й чытака. *В. Старына.*

**Пісаньне,** я, *н.* — писание, письмо. Яго якоя чытаньня, такоя й пісаньня. *В. Старына.*

**Піскліві,** *прм.*—пискливый. Пісклівая нейкая дзіця ўдалося. *В. Старына.*

**Піскля,** і, *ж.* — женщина плаксивица, с слабым тонким голосом. Ведама піскля ета: абы-што, дык і плача. *В. Старына.*

**Пісулька,** і, *ж.* — записка,записочка. Во ат сына табе нейкая пісулька. *В. Старына.*

**Пісяг,** à, *м.*—шрам от удара кнутом и проч. подобного. Уся карова ў пісягох. *В. Старына.*

**Пісяжыць,** *дзс.* — бить кнутом или чем подобным, нанося шрамы. Ік узлавоўся пастух на цялушку,—давай яе пісяжыць! *В. Старына.*

**Піткі, пітачкі,** *дзіц.*—пить. Хачу піткі. На-ж табе пітачкі. *В. Старына.*

**Піхаць,-цца,** *дзс. (аднакр.* **піхнуць**)—толкать кого, толкаться. Што-ж ты піхаяш яго, ён-жа цібе ня чапая?! Ня піхайся, чалавеча, абы ік піхну, дык аж прах цібе возьмя! *В. Старына.*

**Піценьне,** я, *н.*—питьё. Хватая яму і ядзэньня і піценьня. *В. Старына.*

**Піць,** *дзс.*—пить. Пі ты ўсю чарку, ня пакідай. Піця, госьцікі, ды закусвайця. Піма, хлопцы, ды пойдам парою дамоў! *В. Старына.*

**Пішчом,** *прс.*—насильно с писком, с криком иногда. Парасята пішчом лезуць у хату. Вот пішчом лезя: дай яму ету цацку дый годзя! *В. Старына.*

**Пішчык,** а, *м.*—дудочка (из гусиного пера, кости) для подражания писку птенцов и приманивания их с целью ловли или стреляния. Пішчыкам прыманіў сіўцоў. *В. Старына.*

**Плаксун,** а́, *м.* (*ж.* **плаксуха**)—плакса. Плаксун еты вечна плача ды плача. Нечага глядзець на ету плаксуху: паплача ды сьціхня. *В. Старына.*

**План,** а, *м.*—1) план-карта небольшого участка земли в увеличенном масштабе. Па плану ў нас зямлі павінна быць боляй. Па плану тут дарогі німа.—2) географическая карта. Зірні ў план, дзе тая Сібір. *В. Старына.*

**Планэта,** ы, *ж.*—планета. Мусіць, ня ў добраю планэту ён радзіўся, што такі няшчасьлівы. *В. Старына.*

**Пласконны,** *прм.*—посконный. Надзеў пласконнаю сарочку. *В. Старына.*

**Пласконьне,** я, *н.*—посконь. Іс пласконьня наткала пасьцелак. *В. Старына.*

**Пласкуха,** і, *ж.*—рыба плотва. Налавіў торбачку пласкухі. *В. Раўнапольле, Сьміл. р.*

**Пласт,** а, *м.*—пласт. Пазыч, кум, мне сена пластэ два. Пластамі пярабірай салому ды падавай на стог. *В. Старына.*

**Плаціна,** ы, *ж.*—небольшой кусок полотна, тряпки. Каб якою плаціна́ю абвязаць руку. *В. Старына.*

**Плацьце,** я, *н.*—бельё. Пастуху пашыла асобянная плацьця. Плацьця сохня пад страхою. *В. Старына.*

**Плашка,** і, *ж.*—половинка от полена дров. Пакалоў тры плашкі ў печ. *В. Старына.*

**Плёвалка,** і, *ж.*—плевательница. У плёвалку ты смаркайся, а ня на падлогу. *В. Забалоцьце, Сьміл. р.*

**Плёнка,** і, *ж.*—силок. Злавіў сініцу ў плёнку. От папоўся ў плёнку! (говорят насмешливо про того, кто в затруднительном, безвыходном положении). *В. Старына.*

**Плёскі,** *пром.*—плоский. Падай плёскі каменчык падлажыць пад вугал. Лякарства ў плёскай пляшачца. *В. Старына* (*Пр.* **Пляскаты**).

**Плесьці,** *дзс.*—плесть. Макар умея плесьці ёмкія кошыкі. Пляту сабе лапці. Каму пляцеш еты бізун? *В. Старына.*

**Плёткі,** так, *мн.*—сплетни. Ета-ж ня проўда—плёткі! *В. Старына.*

**Плеўка,** і, *ж.* (*пам.* **плевачка**)—1) перепоночка. Якоя ета мяса—адны плеўкі!—2) пенка, пленка, как накипь на жидкости. Усе плеўкі пацягоў з малака ды пажроў. Дай дзіцяці ету плевачку. *В. Старына.*

**Плёхацца,** *дзс.*—плескаться Мыйся ты хутчэй, ня плёхайся, седзячы ў вадзе. *В. Старына.*

**Плёхнуць,** *дзс.*—плеснуть в воде. У рацэ плёхнаў шчупак. *В. Старына.*

**Пліскаўка,** і, *ж.*—трясогузка (Budytes). Вунь скача пліскаўка. *С. Дукора, Сьміл. р.*

**Плісьнік,** а, *м.*—*гл.* **Плюшчай** (Sparganium ramosum L). У сеня адзін плісьнік. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Плітаваць,** *дзс.*—обтёсывать камень в виде плитки. На, во плітуй гэты камянь. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Плойма,** ы, *ж.*—уйма. Ета ня жарты: етакая плойма курэй—дзіва што выдзяруць грады! *В. Старына.*

**Плот,** а, *м.*—забор из жердок. У гумне трэба новы плот ставіць, а то сьвіньня лазяць ды рыюцца. Нехта йз нашага плота выцяг дзьве жэрдкі. *В. Старына.*

**Плужыць,** *дзс.* — пахать (насмешливо). Малы яшчэ, а добра плужыць! *В. Старына.*

**Плысьці,** *дзс.*—1) плыть. За вадою лёгка плысьці.—2) медленно итти. Плыве, ік няжывы,—ідзі хутчэй! Будзя плысьці з гадзіну табе. *В. Старына.*

**Плыт,** а, *м.* — плот. Па рацэ плытэ пагналі. Мужчыны пашлі на плытэ. *В. Старына.*

**Плытнік,** а, *м.* — плотовщик. Ік маладзейшы быў, дык і я хадзіў у плытнікі. *В. Старына.*

**Плюндры,** аў, *мн.* — отрепье. Падаброў свае плюндры — ды ходу! *В. Старына.*

**Плюскатаць,** *дзс.*—плескать (о волнах). Рака саўсім ціхінька плюскоча. *В. Старына.*

**Плюскаць,** *дзс.* (*зак.* **плюснуць**)—1) плескать (о воде в обуви). У бот вады набралася, аж плюская.—2) целовать. Усе падходзяць да папа ды плюскаюць яму ў руку. Плюснаў цетца ў руку. —2) моргать веками глаз. Чаго ты плюскаяш вачымі? *В. Старына.*

**Плюснуць,-цца,** *дзс.*—плеснуть, бултыхнуться. Шчупак плюснаў у рацэ. Плюснаўся ў ваду. *В. Старына.*

**Плюсь!** *выкл.*—для передачи звука при поцелуе. Узёў ды плюсь дзядзьку ў руку! *В. Старына.*

**Плюх!** *выкл.* — для передачи звука при плевании. Іс шапку—плюх яму ў морду! *В. Старына.*

**Плюхаць,-цца,** *дзс.* — 1) плескать, -ться. Качкі плюхаюцца сабе ў вадзе. — 2) шлёпать по грязи. Плюхая па гразі.—3) плевать. Ня плюхай ты на падлогу, а ў куток. *В. Старына.*

**Плюшчай,** ай, *м.*—ежеголовка (Sparganium ramosum Huds.). Нарвалі плюшчаю раскідаць па хаця. Каля ракі толька адзін плюшчай парос, а травы ані німа — вот табе й сянакос! *В. Старына.*

**Плюшчыць,** *дзс.*—закрывать глаза. Дзіця спаць хоча: ужо плюшчыць вочкі. *В. Старына.*

**Плява,** ы, *ж.* — 1) перепонка. На жываце лопнула плява, дык кішкі самі й выяхалі.—2) очень тонкая пленка, покрывающая какую-либо жидкость. Скінь пляву с квасу, ато як-жа піць! *В. Старына.*

**Плявузгаць,** *дзс.*—говорить вздор, чепуху. Нечага плявузгаць на чалавека дарэмна! *В. Старына.*

**Пляга,** і, *ж.* (*польск.* plaga *з лац.* plaga)—в ругат. смысле: наказание. Ну й каніна: пляга нейкая, — што ўбіў, то і ўехаў! *В. Старына.*

**Пляжыць,** *дзс.*—1) с большим размахом сечь, рубить. Пляжыць дрова, аж лоб мокры. — 2) сильно бить кого. Увaброў у свае лапы ды давай пляжыць паскалкам! *В. Старына.*

**Пляма,** ы, *ж.* — пятно. Чыста ўся спадніца ў плямах. *В. Старына.*

**Пляменьнік,** а, *м.*, **пляменьніца** ы, *ж.*—племянник, племянница. Пляменьнік пасобіць вазіць бярвеньня, а пляменьніца пажыная дзяньке два. *В. Старына.*

**Пляскаты,** *прм.*—плосковатый. Нейкі пляскаты твой нос. *В. Слопішча, Шацк. р.* (*Пр.* **Плёскі**).

**Пляскаць,** *дзс.*—1) шлёпать чем по жидкости. Ня пляскай па вадзе, ня пудзь рыбы. — 2) издавать ртом особый звук, закрывая и раскрывая губы и действуя языком. Ці ня ясі ты, што пляскаяш ротам?. Пляская, ік тая сьвіньня. *В. Старына.*

**Пляскаць,** *дзс.*—1) бить в ладони. Пляшчы ў ладкі. Усе давай пляскаць у ладкі.—2) ковать молотом. Малатком ня лёгка пляскаць цэлы дзень на кавадля. — 3) говорить вздор. Плешча яна, чорт ведая што,—німа чаго й слухаць! *В. Старына.*

**Плясьці,** *дзс.* — лгать, наговаривать на кого. Слухай, што ён табе будзя плясьці! Пляце абы што й абы на каго. *В. Старына.*

**Плях,** —1) бултых! У самаю лужыну плях!—2) шлёп! Плях яму ў морду раз, другі! *В. Старына.*

**Пляхаць,** *дзс.* (*зак.* **пляхнуць**) — 1) шлёпать. Усю дарогу ён п'яны

пляхая ды пляхая. Пляхнаў у гразь аж расплыўся. Што ты пляхаяш зра гразь?!. *В. Слопішча, Шацк. р.*—2) наносить сильные удары. І давай пляхаць яму ў морду. Пляхнаў яму кулаком разоў са тры. *В. Старына.*

**Пляхнуцца,** *дзс.*—шлепнуться. Пляхнаўся пузам аб лёд, аж чуць устоў! *В. Старына.*

**Пляц,** а, *м.* — усадебный участок земли. У Сьмілавічах усім даюць пляцэ, хто хоча сяліцца. Ён мая ў горадзя свой дом і пляц. *В. Старына.*

**Пляцень,** плятнѝ, *м.* — плетень. У вагародзя ат Паўлюковага боку пастаўлю пляцень. *В. Старына.*

**Плячук,** а̀, *м.* — плечо. Баліць рука ў плячуку. Плячуке намуляў важкамі, носячы салому. *В. Старына.*

**Пляша,** ы, **пляшка,** і, *ж.* (*ням.* Flasche) — бутылка. Вазьмі вады с сабою хоць у пляшку. Пастаў мне пляшку гарэлкі, дык памагу стога кідаць. *В. Старына.*

**Пнуцца,** *дзс.*—просовываться вперед, пролезать. Ня пніся ты сюды, ато раздавяць. Пнецца, ік тая жаба на корч. *В. Старына.*

**Побак, побач,** *прс.* — рядом. Сеў побак з ім. Яны жывуць побач з намі. *В. Старына.*

**Повад,** а, *м.* — 1) повод (у лошади) Конь парвоў повад.—2) отрезок веревки. Повадам увязоў калоду. Павадамі зьвязалі яму рукі й ногі. *В. Старына.*

**Повіду, повідам,** *прс.* — в явности, на вид. Нашых парасят тут і повіду німа, — дзе-ж яны дзеліся? Іх нідзе й повідам ня відаць. *В. Старына.*

**Пагаласка,** і, *ж.* — слух. Пусьціў пагаласку, што дачцэ дае вялікаю пасагу,—хаця каб сваталіся. Я ня ведаю, ці проўда, але такая пагаласка ё. *В. Старына.*

**Погань,** і, *ж.* — мерзость, пакость. Заваліця хвортачку, каб погань якая й ступіць на двор ня сьмела! *В. Старына.*

**Под,** а, *м.* — помост кирпичной печи. У печи выдраўся под: нельга хлеба пячы. *В. Старына.*

**Подаўна,** *прс.* — довольно давно. А подаўна ўжо, ік пашлі нашы. *В. Старына.*

**Подбіўка,** і, *ж.* — кайма, обшивка (только снизу платья). К чырвонай спадніцы дала аксамітаваю подбіўку. *В. Старына.*

**Подвязка,** і, *ж.* — узкий поясок для привязывания „калош", обыкнов. бывает в паре. Кароткія мае подвязкі: нельга добра абвязаць калош. Згубілася адна подвязка, — трэба новаю выткаць. *В. Старына.*

**Подмазка,** і, *ж.* — мазок из тряпки и сала для подмазывания сковороды, когда пекут блины. Нешта ня ўстаюць блінэ: мусіць у подмазца німа здору. *В. Старына.*

**Подплетка,** і, *ж.* — специальное костяное широкое шило для ковыряния лаптя, при его подплетании. Подпляткаю толька раскавіроў лапаць. *В. Старына.*

**Подсьвінак,** нка, *м.*—молодая, еще не приводившая поросят, свинья; молодой кабанчик. Аднаго подсьвінка закалолі, а другога ашчэ будам карміць. *В. Старына.*

**Подцелак,** лка, *м.* — телёнак. Маю дзьве каровя й аднаго подцялка. *В. Старына.*

**Подсьцілка,** і, *ж.* — подстил для скота. На подсьцілку каровам пры нёс вязку саломы. У сьвіньней мокра, аж нельга ступіць — трэба зноў даць подсьцілку. *В. Старына.*

**Подцмык,** а, *м.*—приспособление для вытаскивания сена из болотного сенокоса; состоит из длинной палки, на которую накладывается копна сена и увязывается веревкою; к более свободному концу палки прикрепляется валик с постромками для впрягания лошади. З возам нельга было ўехаць, дык подцмыкам выцягаў сена. *В. Старына.*

**Пожня,** і, *ж.* — жниво. Статак ік папашоў на пожню, дык лепяй стоў пад'ядаць. *В. Старына.*

**Позна** *прс.* — поздно. Позна я вы-

шаў з дому, хаця каб пасьпець. *В. Старына.*

**Позны,** *прм.* — поздний. Позны авёс ашчэ лепяй удоўся за раньні. *В. Старына.*

**Поіла,** а, *н.* — пойло. Целяці ашчэ даём поіла. *В. Старына.*

**Покаць,-цца,** *дзс. (зак.* **покнуць**) — трескать,-ться, лопать,-ться. Што ета такое: нешта ўсё покаюць у нас камінке? Яйцо покнула. Шкура кала болькі стала покацца. *В. Старына (Пр.* **Шпокаць,** 1).

**Поклад,** а, *м.* — яйцо, подкладываемое под несушуюся домашнюю птицу. Ня забяры толька з яйцамі і поклада. У гнязьдзе аж два пакладэ. *В. Старына.*

**Пол,** пала̀, *м.* — полати. У Вяраб'ёвых дык сьпяць на ложку і на палу. *В. Старына.*

**Полаг,** у, *м.* — навес из простынь над полатями; в нем спят летом, чтобы избавиться от мух. Дзеці сьпяць у полазя. *В. Старына.*

**Полам*я***, я, *н.* — пламя. Полам*я* аж у юшку шыбая! *В. Старына.*

**Поле,** я, *н.* (ужыв. толькі ў адзін. л.) — поле. Людзі ашчэ поля ня засеялі. *В. Старына.*

**Поліва,** а, *н.* — полотье. Поліва етага ў нас — аж ня 'бабрацца! *В. Старына.*

**Поліўка,** і, *ж.* — жижка в бульёне или „заціpцы". Усю картоплю пацягалі, а мне адна поліўка асталася. *В. Старына.*

**Полка,** і, *ж.* — 1) кусок материи, который вшивается в женское платье. У спадніцу ня хватая аднае полкі. Спадніца шырокая, аж у пяць полак. *В. Старына.*

**Полудзень,** дня, *м.* — обед. На полудзянь уставіла куцьці з затаўкаю. Па полудні паедам па снапэ. *В. Старына.*

**Помач,** ы, *ж.* — помощь. Помачы ат сыноў я мала бачу. *В. Старына.*

**Понаж,** панажа́, *м.* — педаль в кроснах. Пашукай якоі вяровачкі прывязаць понаж. Дзе ён дзеўся: ня відаць нешта аднаго панажа? *В. Старына.*

**Попарску,** *прс.* — неожиданно. Бег ды попараску кінуўся. *В. Дайнава, Пух. р.*

**Попел,** у, *м.* — зола. У печы шмат попялу, дык дрова блага гараць. *В. Старына.*

**Поплаў,** ву, *м.* — заливной луг. Сена прывезьлі с поплаву. *В. Старына.*

**Поплеч,** *прс.* — плечо-о-плечо, рядом. Якія-ж ета пашлі сялом два хлопцы попляч? *В. Старына.*

**Попрадкі,** дак, *мн.* — посиделки. Пайду к нашым на попрадкі. Я дома боляй напрадаю, ік на попрадках. *В. Старына.*

**Поркацца,** *дзс.* — копошиться с работою. Поркаяцца цэлы дзень чорт ведая с чым! *В. Старына.*

**Поркаць,** *дзс.* — пороть, тревожить. Узёў кій ды поркая ў гняздо. *В. Старына.*

**Порсткі,** *прм.* — быстро выражающий неудовольствие. Надта порсткі еты Сідар: нічога й ня скажы яму! *В. Старына.*

**Порт,** у, *м.* — льняная ткань. Шмат порту у сукне. *В. Старына.*

**Поруч,-чкі,** *прс.* — рука об руку, рядом. Ета вэнь тыя самыя, што стаяць поруч. Яны вэнь пашлі поручкі. *В. Старына.*

**Порхаўка,** і, *ж.* — дождевик (Lycoperdon gemmosum Batsch). Раздушыў нагою порхаўку. *В. Старына.*

**Порца,** ы, *ж. (пам.* **порцайка**) — порция. Ты-ж ізьзеў сваю порцу ды ашчэ лезяш! Мне папалася маленькая порцайка. *В. Старына.*

**Поршы,** аў, *мн.* — парши. Ат нуды завяліся ў галаве поршы. *В. Старына.*

**Посік,** а, *м.* — мочевой пузырь. Надзьмуў с парасюка посік. С посіка зрабіў капшук на цюцюн. *В. Старына.*

**Посілка,** і, *ж.* — веревочка для носки ведра. На вядро пачапіў новаю посілку — ня парвецца. *В. Старына.*

**Посны,** *прм.* — постный. Посны полудзянь ня смашны. *В. Старына.*

**Пост,** у, *м.* — 1) пост, воздержание в пище и образе жизни. Забылася, што сягоньня пост ды забяліла крупнік. Хлеба свайго хва-

ціла да вялікага посту.—2) сама постная пища. Ядуць яны круглы год с постам. *В. Старына.*

**Пострык,** а, *м.—гл.* **Падавальня.** Короткі пострык: ніяк ня падаць снопа. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Посьніца,** ы, *ж.*— постная пища. Цэлая лецячка посьніца, і скварачкі німа сала. *В. Старына.*

**Потарч, потырч,** *прс.*— вниз головой, стремглав. Паляцеў потарч, чуць галавы ня скруціў. *В. Старына.* Потырч так і паляцеў. *В. Матарова, Сьміл. р. (Пр.* **Тарчма***).*

**Поўдзень,** паўдня, *м.*— 1) полдень (время). С паўдня дождж пашоў. У самы поўдзянь зрабілі перадышку.— 2) юг. Будзя цёпла: вецяр завярнуўся с паўдня. *В. Старына.*.

**Поўна,** *прс.*—полно, много. На што-ж етак поўна наброў, што ня падняць? *В. Старына.*

**Поўнач,** ы, *ж.*—1) полночь. Аж да поўначы мужчыны таўкліся ў хаця.—2) север. Вецяр завярнуўся с поўначы. *В. Старына.*

**Поўнік,** а, *м.,* **поўня,** і, *ж.* *(польск.* pełnia*)*—вторая четверть луны. Ці ня ведаяш ты, калі будзя наставаць поўнік? *В. Скрыль, Пух р.* Ужо падбіраяцца пад поўню. *В. Старына.*

**Поўпрыца,** ы, *ж.*— попурышка. Удаласі яна маленькая, як поўпрыца. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Поўсьць,** і, *ж. (польск.* pilść*).*— вылазящая шерсть из кожи животного. С каня набралася чоршта поўсьці. *В. Старына.*

**Поўха,** і, *ж.*— удар кулаком по уху. Доў яму дзьве поўхі. Доў яму поўхі на закуску. *В. Старына.*

**Поўшыць,** *дзс.* — наносить удары кулаком по уху. Згроб яго загрудкі ды давай поўшыць. *В. Старына.*

**Почапка,** і, *ж.*— веревочка для подвешивания чего. Дай мне ету почапку павесіць клубок. *В. Старына.*

**Почут,** у, *м.*— слух о ком. Тых людзей тут і почуту німа. *В. Старына.*

**Пошасьць,** і, *ж.*—повальная болезнь. Ходзіць па людзях нейкая пошасьць: усе хварэюць на галовы да на жыватэ. *В. Старына.*

**Прабарабаніць,** *дзс.*—провесть время за пустыми разговорами. Ета ня жарты: цэлы дзень прабарабаніў на вуліцы, а к рабоця й ня прыкрануўся! *В. Старына.*

**Прабасьці,-ціся,** *дзс.*— бодать, проколоть,-ться. Ня ступай сюды на на суччa: нагу можна прабасьці. Ня лез цяраз плот: ашчэ на цьвіх тут прабадзесься! *В. Старына.*

**Прабаўляцца,** *дзс.*— кое-как проживать. Ат, памаленьку так і прабаўляямся! *В. Старына.*

**Прабачаць,** *дзс. (зак.* **прабачыць***)*— извинять. Прабачайця, госьцікі, на боляй: ік кажуць— чым хата багата!.. За ета дзядзька, німа чаго сварыцца, трэба каб прабачылі! *В. Старына.*

**Прабачэньне,** я, *н.*— извинение, прощение. Папрашу прабачэньня, мо' даруюць: я нарочна ня хацеў шкоды рабіць. *В. Старына.*

**Прабіраць,** *дзс. (зак.* **прабраць***)*— пробирать, давать нагоняй. Ік прабярэ раз, другі, дык і перастаня етак рабіць. Праброў я Пятрыка, ік таго цюцьку!—2) пронизывать тело холодом. У хаця холадна— так і прабірая. Ведама ў вадной жакетачца: холад праброў, дык і захварэў. *В. Старына.*

**Праборка,** і, *ж.*— проборка, нагоняй. Доў таму гіцлю добраі праборкі! *В. Старына.*

**Прававаццa,** *дзс.*— оправдываться. Ашчэ ён хоча прававаццa! Ашчэ ён тут правуяцца! *В. Старына.*

**Праваленны,** *прм.*— в смысле жадный, окаянный. Яму ўсё мала: вядома праваленны! *В. Лядцо, Пух. р.*

**Праведкі,** дак, *мн.*— навещение родильницы. Пайду к куме ў праведкі. Баба пашла ў праведкі (знач., да парадзіхі). *В. Старына.*

**Праведна,** *прс.*—по совести. Я пра-

вядна кажу, а ты дык маніш. *В. Старына.*

**Праведны,** *прм.* — честный, поступающий по совести. Сямён Яўсеяў — правядны чалавек: чужога ня возьмя. *В. Старына.*

**Правідла,** а, *н.* — правило, форма для выгибания кожи. Халява нацягнута на правідла. *В. Матарова, Сьміл. р.*

**Правінавацiцца,** *дзс.* — провиниться. Правінаваціўся ён здорава, — мусіць уляціць яму за ета! *В. Старына.*

**Правіцца,** *дзс.* — поправляться. Ну як ты: правісься ўжо ці не? *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Правіць,** *дзс.* — 1) совершать богослужение. Поп ашчэ правіць службу ў царкве.—2) управлять. Разумны ён чалавек быў: усімі правіў, і ўсе яго слухаліся. Адзін хоча ўсім сьветам правіць.—3) говорить, твердить. Слухай ты яго, што ён правіць і правіць сваё. Яму так кажуць, а ён сваё ўсё правіць. *В. Старына.*

**Праводная нядзеля, праводніца,** ы, *ж* — фомино воскресенье. праводнаю нядзелю пойдам у Дукарку на кірмаш. *В. Старына.* Ат праводніцы стала на службу. *С. Навасёлкі, Пух. р.*

**Правучыць,** *дзс.* — проучить. Німа каму правучыць етага злодзяя, каб ня рабіў ён етак. *В. Старына.*

**Правэндзацца,** *дзс.* (*замест* **прашвэндацца**) — протаскаться без дела. Правэндзаўся от так цэлы дзень, навят і лапця ня сплёў. *В. Старына.*

**Правэндзіць,** *дзс.*—прокоптить. Трэба правэндзіць кумпяк і каўбасы. *В. Старына.*

**Правядзець,** *дзс.* — слегка просохнуть. Хай правядзяя канюшына, тады будам у кучкі ставіць. Сьвежаі каўбасы я ня хочу, — хаця троха няхай правядзяя. *В. Старына.*

**Праг,** у, *м.* — сильное желание, вожделение. Аж праг яе бярэ, як яна хоча на сваём пастаціць! *В. Старына*

**Прагавіты,** *прм.* — жадный. А які-ж ён прагавіты чалавек: усё-б сабе загроб! *В. Старына.*

**Прагаліна,** ы, *ж.* — прогалина. Заяц выскачыў на прагаліну. *В. Старына.*

**Прагарэць,** *дзс.* — сгореть (в бран. см.). А няхай ты прагары з етакаю работаю! Хай яно ўсё прагарыць тут, пакуль я прыцу сюды! *В. Старына.*

**Прагнуць,** *дзс.* (*польск.* pragnąć) — сильно желать. Чаго ты гэтак прагняш за ім? *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Прагонка,** і, *ж.* — широкая дорога, образованная из отрезов полос, для прогона скота на пастбище. Дзеці цялята пасуць на прагонца. Прагонку правялі ат сяла аж да Доўгага Балота. *В. Старына.*

**Прагоцаць,** *дзс.* — прогулять. Прагоцаў усе свае грошыкі. *В. Старына.*

**Прадзіва,** а, *н.* — прядение. У міне ашчэ свайго прадзіва хваціць на тыдзянь. *В. Старына.*

**Прадушына,** ы, *ж.* — отдушина. У капцы трэба зрабіць добраю прадушыну, каб дух сыходзіў, — ато картопля папсуецца. *В. Старына.*

**Пража,** ы, *ж.* — пряжа. У цібе, дзеўка, нейкая тоўстая пража выходзіць! *В. Старына.*

**Пражытак,** тку, *м.* — *гл.* **Пражыцьцё.** Хлеба толька сабе на пражытак, продаць німа чаго. *В. Старына.*

**Пражыць,** *дзс.* — жарить. Даволяй табе ўжо пражыць ета сала — аж пагарэла! *В. Старына.*

**Пражыць,** *дзс.* — прожить. А, ня бядуй: пражывом як-небудзь! *В. Старына.*

**Пражыцьцё,** я, *н.* — прожитие. Ня ганюся я за вялікімі запасамі: абы сабе на пражыцьцё было. *В. Старына.*

**Праз,** *прыйм. з вінав.* — 1) в знач. о, об. У газэтах ізноў піша праз вайну. — 2) в знач. через, чрез, — сквозь, насквозь, по толщине. Пуля прайшла праз усю нагу. Пазірая праз вакно. *В. Старына.*

**Празваньне,** я, *н.* — прозвание кличка. Ета яго такоя празваньня, а ня прозьвішча. *В. Старына.*

**Празябнуць,** *дзс.*—промерзнуть. Празяб у вадной сьвітца, аж дрыжыць. *В. Старына.*

**Прайдзі-сьвет,** а, *м.* — проходимец, мошенник. Ой еты прайдзі-сьвет табе ўсё гатоў зрабіць! *В. Старына.*

**Прайсьці,** *дзс.* — пройти. Трэба прайсьці паглядзець гавяды. *С. Амельна, Пух. р.*

**Пракaзваць,** *дзс. (зак.* **праказаць***)* —1) говорить что несколько раз, повторять слова. Ета самая ён часта праказвая. Аж два разы праказоў мне, каб хаця ня забыўся. — 2) помогать ученику в чтении. Ціпер настаўнік праказвая чытаньня, а патом будзя пісаньня. *В. Старына.*

**Пракідацца,** *дзс.* — прожить кое-как, перебиваясь (о будущем времени). Ня ведаю, як мы пракідаямся еты год с хлебам, што жыта ня ўрадзіла? *В. Старына (Пр.* **Перакідацца***).*

**Праклён,** у, *м.* — проклятие. Цёнгля слухай праклён ат яе. Праклёнаў тваіх ніхто ня баіцца! *В. Старына.*

**Пракос,** у, *м.* — пространство между рядами скошенной травы или хлеба („между пакосамі"). Шырокі ў яго пракос. *В. Старына.*

**Пракоўтаць,** *дзс.* — с трудом проглотить. Ніяк ня пракоўтаць картопіны. *В. Старына.*

**Пралеска,** і, *ж.* — пролеска, печоначница (Anemone Hepatica L). Пралескі ўжо распусьціліся. *Х. Самін, Пух. р.*

**Пральля,** і, *ж.* — пряха. Во ета дык пральля — дзьве шпулі за вечар! *В. Старына.*

**Прамарудзіць,** *дзс.* — промедлить, протянуть время. Толька час прамарудзіў і нічога ня дабіўся. *В. Старына.*

**Прамількнуць,** *дзс.*— промелькнуть. Толька ў вакне прамількнуў паляцеўшы. *В. Старына.*

**Пранізаць,-цца,** *дзс.* — проколоть, -ться. Хай яно прагарыць: ета-ж я чыста ўсю нагу на цьвіх пранізоў! Конь персямі на плот пранізоўся. *В. Старына.*

**Пранік,** а, *м.* — валёк для белья Пранікам добра выбіла плацьця— будзя белая. *В. Старына.*

**Пранімаць,** *дзс. (зак.* **праняць***)* — 1) пронизывать. От дзе дождж: аж да касьцей пранімая! Вецяр пранёў, дык і прастудзіўся. — 2) втягивать нитку в иглу. Ня праняць ніткі праз вушка. *В. Старына.*

**Праніць,** *дзс.*— выбивать белье или холст „пранікам"—вальком. Маці панесла плацьця праніць. *В. Старына.*

**Пранцаваты,** *прм. (лаянка)*—скверный (в перен. см.). Які пранцаваты хлапец: ні за што ня паслухая! Пранцаватая тваё насеньня! *В. Старына.*

**Пранцы,** аў, *мн.*— сифилис; в ругат. см. Каб цібе пранцы елі! Пранцаў табе дам! А пранцаў табе, да ня есьці! *В. Старына.*

**Праныра,** ы, *аг.*—проныра. А, праныра, усюдых яно табе дапне! *В. Старына.*

**Пранюхаць,** *дзс.*—пронюхать. Дзе-б што ні рабілася, ён усё пранюхая. *В. Старына.*

**Прападаць,** *дзс. (зак.* **прапасьці***)*— 1) пропадать. Што з возу ўпала, то прапала. *Прык.* Прапасьці можна ў такую няпагоду. Дзе маё ня прападала!— 2) в перен. см.: кое-как перебиваться. От жывуць! прападаюць на дной картоплі. *В. Старына.*

**Прапаліць,** *дзс. (прм.* **прапалены***)*— протопить. А ня мяшала-б на нач троха прапаліць у печы. Добра прапаляна ў грубца, але ў хаця нешта холадна. *В. Старына.*

**Прапіцца,** *дзс.* — пропить свое состояние. Прапіўся ён у дошку. *В. Старына.*

**Праплысьці,** *дзс.*—проплыть. Цярэшка можа вярсту праплысьці ня'ддыхаючы. *В. Старына.*

**Прапытваць,** *дзс. (зак.* **прапытаць***)*— расспрашивать. Трэба дзе даляй прапытваць: тут, мусіць, ня бачылі нашых коняй. Каб дзе прапытаць у людзей скарасьпелкі пасадзіць с асьміну. *В. Старына.*

**Прарэх,** у, *м.*—прореха. Разадроўся ў вандараку прарэх. *В. Старына.*

**Прас,** a. *м.*—утюг. Прасам пагладзіла хусты. *В. Старына.*

**Прасаваць,** *дзс. (прм.* **прасаваны)**—утюжить. Хадора прасуя рушніке. Заслалі стол прасаванаю скацярсьцяю. *В. Старына.*

**Прасівераць,** *дзс.* — проветриться, побыть на свежем воздухе. Павешала ўсю адзежу на дварэ, каб прасівярала, ато моль есьць. *В. Старына.*

**Прасітак,** тка, *м.*— сито. Прасітак парваны: нядобра мука сеяцца. *В. Забалоцьце, Сьміл. р.*

**Прасла,** а, *н.*—часть забора между кольями. Абламаласі цэлая прасла плоту. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Праслухоўваць,** *дзс. (зак.* **праслухаць)** — разузнавать по слухам. Трэба праслухоўваць, мо' дзе зруб на хату прадаецца. Каб дзе праслухаць сабе маладзейшую карову. *В. Старына.*

**Праснок, -нык,** а, *м.* — лепешка в виде блина, испеченная из хлебного теста. Смашны праснок, але гарачы. Хлеба німа, дык ядом прасныке. *В. Старына.* Каб па табе напяклі праснықоў! (знач., каб памёр той, каго клянуць). *В. Крамяні, Пух. р.*

**Праставалосая** *(жанчына)* — с непричесанными и не покрытыми волосами на голове. А яна праставалосая выскачыла на двор. *В. Старына.*

**Прастарэка,** і, *м.*—краснобай, шутник, балагур. От дзе прастарэка: чаго ён толька ня выдумая! *В. Старына.*

**Прастарэкваць,** *дзс.* — балагурить, шутить. А што яму: прастарэквая сабе лежучы на печы. Чаго ня ўмея, а прастарэкваць дык умея! *В. Старына.*

**Прасьвістаць,-цца,** *дзс.*—промотать имущество, промотаться. Паўлючок прасьвістоў сваю гаспадарку. Прасьвістоўся—боляй німа за што піць! *В. Старына.*

**Прасьніца,** ы, *ж.*— прялка. Увязала ў прасьніцу новаю кудзелю. *В. Старына.*

**Прасьці,** *дзс.*—прясть. Німа калі й прасьці: яшчэ каля печы тупаю. Увечары ўжо ня прала, а ніткі сукала. *В. Старына.*

**Прасьціральла,** ы, *ж. (польск.* prześcieradło)—простыня. Заслала пожак крамнаю прасьцірадлаю. *В. Старына.*

**Пратануць,** *дзс.*—утонуть (в бран. см.). Хай ты пратані с такою работаю! *В. Старына.*

**Пратрубіць** *вушы* — прожужжать уши. Ну й благі-ж ён чалавек: усе вушы пратрубіў мне сваею платаю! *В. Старына.*

**Пратхланьне,** я, *н.*—передышка. І пратхланьня яму німа, усё п'е ды п'е. *В. Старына.*

**Пратэса,** ы, *ж.*—церковная хоругвь. Вэнь панесьлі іс Сьмілавіч воббраз і пратэсы: па сяле будзе поп хадзіць. *В. Старына.*

**Прахапіцца,** *дзс.*—очнуться со сна. Прахопіцца са сну ды крычыць. *В. Старына.*

**Прахарчаваць,-цца,** *дзс.* — прокормить,-ться. Прахарчавоў зіму каня й дзьве каровя. Сваім сенам прахарчавоўся толька да вялікага посту. *В. Старына.*

**Прахвастацца,** *дзс.* — *гл.* **Просьвістаць,-цца.** Прахвост еты прахвастоўся: німа ні коніка, ні калёс—нічога! *В. Старына.*

**Прахтыка,** і, *ж.*—практика. На ўсё людзі маюць прахтыку. Я ўжо зьнёў прахтыку, што ўвосянь класьці гной на'гарод лепяй. *В. Старына.*

**Прахтыкоўны,** *прм.* — практичный. Ён прахтыкоўны: зробіць табе акурат. *В. Старына.*

**Праца,** ы, *ж. (польк.* praca)—труд. За працаю німа калі й аддыхнуць. Бяз працы ня есьці калачы. *Прык. Х. Самін, Пух. р.*

**Працаваць,** *дзс.* — трудиться. Працуюць людзі да поту, а маюць ня вельма што. *В. Старына.*

**Працавіты,** *прм.* — работящий. Ого! яна працавітая, ік тая мурашка, *В. Старына.*

**Працісиуцца,** *дзс.* — протолкаться вперед. За народам чуць працізнаўся наперад! *В. Старына.*

**Працьвераз*і*цца,** *дзс.*—протрезвиться. Хай паляжыць на дварэ, дык хутчэй працьвярэзіцца. *В. Старына.*

**Працярэбліваць,** *дзс. (зак.* **працераб*і*ць***).* делать просеку для дороги. Працярабілі лазу на сынажаці. *В. Старына.*

**Прачн*у*цца,** *дзс.*—проснуться. Ня крычы, ато малоя прачнецца. Толька што прачнуўся. *В. Старына.*

**Прач*у*хацца,** *дзс.* — протрезвиться. Ік напіўся, дык аж на другія суткі толька прачухаўся! *В. Старына.*

**Прач*у*ць,** *дзс.*—узнать по слухам. Прачуў, што будуць лес даваць на бедных. *В. Старына.*

**Прачын*і*ць,** *дзс.*—немножко приотворить. Прачыніця троха дзьверы, хай дым сойдзя. *В. Старына.*

**Пра(ы)ч*ы*стая,**—праздник 15 авг. К прачыстай напяклі пярапечак. *В. Старына.* На прычыстую паедам у Пухавічы. *В. Клятное, Пух. р.*

**Прашмарав*а*ць, - цца,** *дзс.* — протереть,-ться насквозь. Прашмараваў калені ў штанох. Патэльня не'к прашмаравалася. *В. Старына.*

**Праш*ы*кацца,** *дзс.* — промотаться. Прашыкаўся наш Халімонка, німа за што боляй гуляць. *В. Старына.*

**Пра*я*ва,** ы, *ж.* — необыкновенное происшествие. Ці чулі вы етакаю праяву: у Пудзіцку дзіця радзілася с хвастом? *В. Старына.*

**Пр*о*даж,** а, у, *м.*—продажа. Што сабе пакінам дабра, а што будзя на продаж. *В. Старына.*

**Пр*о*даць,** *дзс. (зак.* **прад*а*ць***)*—продавать. Пяраціў будзя продаць муку толька на кніжкі. Прадоў асьміну аўса. *В. Старына.*

**Пр*о*зьвішча,** а, *н.*—фамилия. Усіх мужчын пяраклікалі па прозьвішчу. Як тваё прозьвішча? *В. Старына.*

**Пр*о*кляць,** і, *ж.*—проклятие. Прокляць нейкая еты сабака: жраць жарэ, а брахаць дык ня хоча. *В. Старына.*

**Пр*о*скурка,** і, *ж.*—просфора. У цэрквя купіў сьвянцонаю проскурку. *В. Старына.*

**Пр*о*ста,** *прс.* — прямо. Проста йдзі етаю дарогаю, дык і пападзеш. *В. Старына.*

**Пр*о*тар,** а, *м.*—игла с отломанным ушком; служит для прокалывания. Протарам пракалола скулу, дык яна ашчэ горай нарвала. *В. Старына.*

**Пр*о*ўда,** ы, *ж=літ.* **пр*а*ўда**—правда. Проўду табе кажу. Проўда твая, ік у рэшаця вада. *Прык.* Проўда твая, ік на вярбе ігрушы. *Прык. В. Старына.*

**Пр*о*ўдзіць,** *дзс.*—говорить правду, истину. Ня проўдзіць твой каляндар: пісалі, што будзя пагода, а на табе—дождж! Вот тая гадалка проўдзіць. *В. Старына.*

**Пр*о*ціў,** *прс.* — против, насупротив. Яны жывуць проціў нас. *В. Старына.*

**Пр*о*ціў,** ва, *м.*—тот, кто противится, упрямец. Проціў еты халерны толька наругаяцца, а йці рабіць ня хоча! *В. Старына.*

**Пр*о*цьма,** ы, *ж.*—пропасть. У хлеў падсьцілай салому, ік у процьму: усяроўна мокра. Ета-ж процьма, што пашло тых дошчак на шчыкет! *В. Старына.*

**Пр*о*ша,** *(польск.* proszę*)*—пожалуйста. Проша, сядайця! Проша за стол! *В. Старына.*

**Пр*о*шлы,** *прм.*—прошедший. Прошлы год быў лепшы, ік сяголята: ня вельма што сухі і ня мокры *В. Старына.*

**Пр*о*шча,** ы, *ж.*—место с камнем, или иконой обыкн. около родника или в лесной чаще, признаваемыми чудодейственными, куда стекаются богомольцы и происходят крестные ходы. У маладзікову нядзельку пайду к прошчы. *В. Старына.*

**Пруг*е*,** оў, *мн.*—кресты для напяливания холста в кроснах. Пруге выскачылі іс палатна. *В. Старына.*

**Пруд,** а, *м.*—мельница. Павезьлі ў пруд сьвіньням малоць. *В. Старына.*

**Пруданы,** аў, *мн.*—гости со стороны невесты, сопровождающие её в дом жениха. Паеду ў пруданы. „Пруданачкі, за стол, за стол, а курачкі пад стол, пад стол“! Вясельн. п. *В. Старына.*

**Прус,** а, **прусак,** а, *м.* — прусак. (Phyllodromia germanica). У запячку чоршта прусоў. Прусэ паелі картоплю ў гаршку. У хаця прусаке завяліся. *В. Старына.*

**Пруткі,** *прм.*—упругий. Хартон пруткі ў руках. Сюды трэба кусок пруткага зялеза. *В. Старына.*

**Пруток,** тка, *м.*—1) вязальная спица. Прутке тарчаць пад трамаю. —2) прут, который кладется в жолоб „навоя“ для прикрепления холста. Зламоўся пруток ат навоя. *В. Старына.*

**Прыбегчы,** *дзс.*—прибежать. Ня можа ён хутчэй прыбегчы назад! *В. Старына.*

**Прыбіраць,** *дзс.* — убирать прочь, снимать. Прыбірайця пасуду іс стала. *В. Старына.*

**Прыбіраць,-цца,** *дзс. (зак.* **прыбраць,-цца,** *прм.* **прыбраны)** — наряжать,-ться, прибирать,-ться. Маладую прыбіраюць да вянца. Прыброўся ты, ік на баль. Прыбіраяцца ўжо з гадзіну! Як ён хораша прыбраны. *В. Старына.*

**Прыбіцца,** *дзс.*—1) пристать к дому или к стаду. Нейчая авечка прыбілася к нашым. К нашуй чарадзе прыбілася чужая карова. —2) прирваться к корму. Ік прыб'ецца кабыла к канюшыня, дык ня тарваць. *В. Старына.*

**Прыблудак,** дка, *м.*—животное, отставшее от своей семьи и зашедшее на чужой двор. Ета ня наша ягнё — нейчы прыблудак. *В. Старына.*

**Прыборы,** аў, *мн.* — наряды. Нaспраўляла дзеўка сабе ўсякіх прыбораў цэлы купар: можна й замуж іці. *В. Старына.*

**Прыбраньне,** я, *н.* — наряд. Вынясі свае прыбраньня ў каморку. *В. Старына.*

**Прыбудаваць,** *дзс.* — пристроить. Прыбудавоў к хаця новыя сенцы. *В. Старына.*

**Прыбытак,** тку, *м.* — прибыль. Ат прыбытку галава ня баліць. *В. Старына.*

**Прывалакці,-цісся,** *дзс.*—притащить, -ться. Прывалокся к нам нейчы кот. Чуць прывалок з гумна вязку саломы. *В. Старына.*

**Прыварак,** рку, *м.*—приварок к пище (запасы крупы, капусты и проч.). Бяз прыварку боляй хлеба выходзіць. Нарабілі круп—ціпер будзя прыварак. *В. Старына.*

**Прывеньдзіць,** *дзс. (прм.* **прывенджаны)**—слегка прокоптить. Троха прывеньдзіў сьцягняке—есьці можна. Каўбасы чуць прывенджаны, але чярвяк мо' ня завядзецца. *В. Старына.*

**Прыверадзіць,** *дзс. (прм.* **прывярэджаны)** — слегка свихнуть. Прывярадзіла руку жнучы. Прывярэджана троха сьпіна мая. *В. Старына.*

**Прывітацца,** *дзс.* — поздороваться. Такі-ж харошы чалавек ён: пастаянна, ік убачыць, прывітаяцца. *В. Старына.*

**Прывядзёнак,** нка, *м.* — ребенок, приведенный в дом второй женою. Яна-ж табе ня прывядзёнак, а родная дачка: чаму ты ня глядзіш яе? *В. Старына.*

**Прывязка,** і, *ж.*— ветка для привязывания решетины к стропилам в соломенной крыше. Во із етага дубчыка будзя добрая прывязка. Ня хваціла на хлеў прывязак. *В. Старына.*

**Прыгадаць,** *дзс.* — придумать. Ня прычуя, дык прыгадая. *В. Старына.*

**Прыгаіць,** *дзс.* — слегка залечить. Саўсім ня вылячыў, але троха прыгаіў рану, каб ня гніла. *В. Старына.*

**Прыгалак,** лку, *м.*—небольшая полянка в лесу после пожара. Дрова пасьцягвалі на прыгалак. *В. Старына.*

**Прыганяты,** ага, *м.*—надсмотрщик, пригонявший к работе крестьян во время крепостного права; переносно: всякий, кто понуждает к работе. К яму прыганя-

тага ня трэба: ён добры работнік. Ты за прыганятага ня стой, а бярыся сам рабі! *В. Старына.*

**Прыгарка,** і, *ж.* — пригоревшая часть картофеля, сала или каши. Дзеці паелі ўсе прыгаркі. Выбірая ўсё, каб дзе прыгарачку. Скваркі парабіліся на прыгаркі. *В. Старына.*

**Прыгарнуць,-цца,** *дзс.*—1) пригрести,-тись. Прыгарні картоплю бліжай к цяплу, хай добра выпякаяцца. Галавешка прыгарнулася ў цялешнікі.—2) прижать, приласкать,-ться. Прыгарнуліся дзеці да маткі. Прыгарнуў яе да сібе. *В. Старына.*

**Прыгаршчы,** аў, *мн.* — пригоршни. С прыгаршчы пасыпаў курам ячменю. *В. Старына.*

**Прыгарэняць,** *дзс.*—о пище: приобресть горьковатый вкус во время варки. Прыгарэнялі бураке, аж нельга есьці. *В. Старына.*

**Прыгатаваць,-цца,** *дзс.* — приготовить,-ться. Прыгатавоў трушанкі на зоўтра. Прыгатаваліся гасьцей прынімаць, але яшчэ нікога німа. *В. Старына.*

**Прыгаць,** *дзс.*—жадно пить. Сялядца йзьзеў, дык прыгая ваду ды прыгая. *В. Старына.*

**Прыгнаіць,** *дзс.*—унавозить землю. Дзе прыгнаілі, дык там лепшая жыта. *В. Старына.*

**Прыгоркнуць,** *дзс.* — пригоркнуть. Вот прыгорклі яблыкі, дык саўсім ня той смак! *В. Старына.*

**Прыгруніць,** *дзс.* — принудить. Ня хацеў сам, дык сілаю прыгрунілі, каб ішоў. *В. Старына.*

**Прыгубіць,** *дзс.*—только взять рюмку в губы, но не выпить вина. Яна-ж ня выпіла гарэлкі, толька прыгубіла чарку. *В. Старына.*

**Прыгуменьне,** я, *н.* — край гумна, — место, поросшее травой и занятое постройками. Навязоў каня на прыгуменьні. *В. Старына.*

**Прыдабыць** *дзіця,—гл.* **Дабыць** *дзіця.* Хадзіў, хадзіў да яе, пакуль ня прыдабыў дзіцяці, а патом і кінаў. *В. Старына.*

**Прыдача,** ы, *ж.*—придача. Ашчэ ў прыдачу ўзёў рубля. *В. Старына.*

**Прыдбаць,** *дзс.*—доставить на место. Ледзь прыдбоў тую крошку сена дамоў. *В. Старына.*

**Прыдзіраць,** *дзс. (зак.* **прыдраць***)*—обозначать линии паза в бревне „драпачом“. Я буду прыдзіраць бярвеньня, а ты бартуй пакуль. Ня гэтак ты прыдраў бярвяно. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Прыдзе** *крута* — придут, настанут стеснительные (крутые) обстоятельства. Ік прыдзя крута, дык папросісься ты ў міне! *В. Старына.*

**Прыдзяўбці,** *дзс.*—заклевать. Курыца прыдзяўбла пылянё. *В. Старына.*

**Прыдрапаць,** *дзс.*—припереть. Чуць прыдрапаў да хаты. *В. Старына.*

**Прыдушыць,** *дзс.*—задавить. Яго ў леся прыдушыла калодаю. *В. Старына.*

**Прыжмурыць,-цца,** *дзс.* — прижмурить,-ться. Прыжмурыўся, ік той кот. Адно вока прыжмурыць, а другім пазірая. *В. Старына.*

**Прызапасіць,** *дзс.*— наготовить на запас. Прызапасіў корму на ўсю зіму. *В. Старына.*

**Прызба,** ы, *ж.*—заваленка. Абсыпалі на зіму прызбу, каб цяплей было ў хаця. *В. Старына.*

**Прызначаць,** *дзс. (зак.* **прызначàць,** *прм.* **прызначаны***)*—предназначать, определять. Так яму судзьбою прызначана: ня мець шчасьця на сваём вяку. Так яму бог прызначыў: пахаваць другую жонку. Хай сабе тоя й бярэ, што яму ў судзе прызначылі, а што мне прызначана, — то я ня папушчу. *В. Старына.*

**Прызырыць,** *дзс.* — принудить. Як прызырыла, дык выпіў зельля, а так ня хацеў. *В. Клятное, Пух. р.*

**Прызыў,** зыву, *м.*—призыв на военную службу. Сяголята нашаму Алёксу трэба йці на прызыў. *В. Старына.*

**Прыйціся,** *дзс. безас.* — прийтись. Прыдзяцца, мусіць, самому ехаць у Сьмілавічы ды зрабіць, што трэба. *В. Старына.*

**Прыказка,** і, *ж.*—пословица. Здацян на прыказкі, як чорт ня прывязкі. *Х. Самін, Пух. р.*

**Прыкаратак,** *прм. скар.*—короток, коротковатый. Еты кол сюды ня гадзіцца: прыкаратак. Бярвенца добрая, але прыкаратка. *В. Старына.*

**Прыкаратка,** *прс.* — недостаточно, мало. Свайго хлеба будзя на год прыкаратка, прыдзяцца дакупіць. *В. Старына.*

**Прыкарэць,** *дзс.* — пристать плотно к коже, ране или чему иному. Завязка прыкарэла к больца. Ануча аж прыкарэла к лаўца. *В. Старына.*

**Прыкідвацца,** *дзс. (зак.* **прыкінуцца***)* — 1) притворяться кем. Прыкідваяцца, нібыта ён дурны. Нечага прыкідвацца на дурачка! —2) приставать болезни. Вот ета хвароба часта прыкідваяцца да малога. Прыкінулася нейкая ліха: дзіця ўжо другія суткі хворая. *В. Старына.*

**Прыкладаць,** *дзс.*—шутить, говорить с прибаутками. Ік стоў ён прыкладаць на Альхіма, дык чыста ўсе жыватэ парвалі з рогату! *В. Старына.*

**Прыкладна,** *прс.* — красноречиво, искусно. Так прыкладна гаворыць, ік с кніжкі чытая *В. Старына.*

**Прыклюнуцца,** *дзс.*—приключиться. Прыклюнулася нейкая хвароба да курэй. *В. Старына.*

**Прыкра,** *прс.*—1) приторно. Салодка, аж прыкра.—2) противно, неприятно. Гаворыць чорт ведая што, аж прыкра слухаць яго! *В. Старына.*

**Прыкрануцца,** *дзс.* — дотронуться. Да яго й прыкрануцца нельга: такі далікатны. *В. Старына.*

**Прыкуксіць,** *дзс.* — приколотить. Саўсім прыкуксілі яго, чуць жывога пакінулі. *В. Старына.*

**Прыламацца,** *дзс.* — приучиться к чему. Во ік пабыў троха ў горадзя, дык прыламоўся жыць далікатней. *В. Старына.*

**Прылатка,** і, *ж.*—тонкая жердочка для прикрепления соломы в крыше. Насек прылатак на ток. Падай даўжэйшаю прылатку. *В. Старына.*

**Прылашчыць,** -цца, *дзс.* — приласкать, -ться. Прылашчыў сабаку,—і ня брэша. Прылашчыўся к ёй, заброў грошы, ды ўцёк сам. *В. Старына.*

**Прылегчы,** *дзс.*—прилечь. Каб хаця троха прылегчы аддыхнуць: мо'б галава ня так балела. *В. Старына.*

**Прылучыць, -цца,** *дзс.* — присоединить, -ться. Прылучыў свае каровы к іх статку. Чужая авечка прылучылася к чарадзе. *В. Старына.*

**Прымайстраваць,** *дзс. (прм.* **прымайстраваны***)* — 1) мастерски приделать что. Прымайстравоў ручку к дзьвярам. К сталу прымайстравана новая ножка. — 2) устроить, пристроить. Прымайструй, каб добра было сесьці на возя. *В. Старына.*

**Прымак,** *а,* **прымака,** і, *м.*—зять, принятый на житье в дом тестя. У сваю хату прымака браць ня буду. Адну дачку замуж аддалі, а к другой прымаку ўзялі. *В. Старына.*

**Прыманіць,** *дзс.* — 1) подманить. Нашто прыманіў сабаку сюды?— 2) подолгать. А ён такі: што проўду скажа, а што прыманіць. *В. Старына.*

**Прымаразак,** зка, *м.* — утренник. Ужо пачаліся прымаразкі. *В. Старына.*

**Прымацаваць,** *дзс. (прм.* **прымацованы***)*—прикрепить. Прымацавалі ў кутку карціну. Добра прымацована вядро ік круку—ня'тарвецца. *В. Старына.*

**Прымерна,** *прс.*—примерно. У яго, прымерна, будзя сянакосу тры дзісянціны. *В. Старына.*

**Прымудраваць,** *дзс.* — хитро что устроить. Вот як ён здаўмеўся прымудраваць сядзеньня ў каламашца! *В. Старына.*

**Прымураваць,** *дзс.*—пристроить что из кирпича. К пакою прымуравалі ашчэ адзін канец. *В. Старына.*

**Прымудрыцца,** *дзс.* — ухитриться, умудриться. Але-ж і прымудрыўся ён сесьці на самум кончыку! *В. Старына.*

**Прымурак,** рка, *м.* — карниз у кухонной печи; служит местом для спичек, мыла, лучинок. Запалкі ляжаць на прымурку. *В. Старына.*

**Прымушаць,** *дзс. (зак.* **прымусіць***) (польск.* przymuszać) — принуждать. Ня хоча чалавек, дык і нечага яго прымушаць. Вот благоя дзіцянё: яго і ня прымусіш, і ласкаю ня ўпросіш. *В. Старына.*

**Прынада, ы,** *ж.*—прыманка. І якую ён там прынаду чуя, што вечна туды валачэцца? *В. Старына.*

**Прынадзіць, -цца,** *дзс.* — привлечь, -чься, приручить, -ться. Прынадзіў Хвадзей к сабе нашага сабаку,—і дамоў ня хоча йці. Нейчая авечка прынадзілася к нам і заўсёды начуя ў нас. *В. Старына.*

**Прыніклы,** *прм.* — подслеповатый; близорукий. Прынікл ы—дык усё прыглядаяцца. *В. Скрыль, Пух. р.*

**Прыпадак,** дку, *м.* — приключение. С чалавекам усякі бывая прыпадак. *В. Старына. (Пр.* **Прыпадзь***)*

**Прыпадаць,** *дзс. (зак.* **прыпасьці***)*— 1) о хлебе: не подниматься во время печения в печке. Нешта хлеб прыпоў: мусіць, ня падышоў добра. Вот ужо другі раз прыпадая наш хлеб. — 2) прирваться к корму. Вот прыпала чарада да'тавы: ходзіць, ік пабітая! — 3) в безлич. знач.,—доставаться. Што каму прыпадая, тоя й бяры—атказвацца німа чаго. Так яму прыпала, нічога ня паробіш. *В. Старына.*

**Прыпадзь,** і, *ж.,* **прыпадак,** дку, *м.*—различные нервные припадки: крики по ночам и иные физические недомогания, главной причиной которых является испуг; лечат заговорами. Различаются: 1) *прыпадзь вадзяная*— от испуга при виде своего образа в воде; 2) *прыпадзь земляная*—от простуды вследствие лежания на земле (боль ног, головы и проч.); 3) *прыпадзь падумная* — недомогание от мыслей, пожеланий; 4) *прыпадзь вётраная* — ломота в костях ног и рук от действия ветра; 5) *прыпадзь падзіўная* — недомогание от удивления, сглазу; 6) *прыпадзь прыпадная*—от неустановленной причины. Баба Марыся лечыць ат усякаі прыпадзі. Дзіця захварэла на прыпадак. *В. Старына.*

„Лячу Саўку дванаццаць прыпадкаў
і дванаццаць пярапалохаў:
і ветраных, і зямляных, і вадзяных,
падумных, падзіўных і прыпадных". (З загавору). *С. Навасёлкі, Пух. р.*

**Прыпадкам,** *прс. (польск.* przypadkiem*)* — случайно, при случае. Прыпадкам ён калі і к нам заглянbackward. *В. Старына.*

**Прыпазычыць,** *дзс.* — приодолжить. Троха сваіх ё грошай, а троха прыпазычу. *В. Старына.*

**Прыпазьніцца,** *дзс.* — немного опоздать. Троха прыпазьніўся прыці. *В. Старына.*

**Прыпарыць,** *дзс. безас.*—подпарить. Мусіць на дождж етак прыпарыла! *В. Старына.*

**Прыпасаць,** *дзс.* — припасать, запасать. Лета прыпасая, а зіма зьядая. *Прык. В. Дайнава, Пух. р.*

**Прыпацемкам,** *прс.*—в пору, когда слегка станет темнеть. Прыпацямкам кончылі работу. *В. Старына.*

**Прыперці, -ціся,** *дзс.* — 1) припереть, -ться к чему. Каб к сталу прыперціся, дык ямчэй-ба пісаць было. Прыпры зуслон к сьцяне, каб ня ківоўся.—2) быстро притти, приехать. 'К відзіш, туды схадзіў і назад прыпёр. Чаго ты йзноў прыпёрся сюды? *В. Старына.*

**Прыпечак,** чка, *м.* — площадка перед входом в самую печку; на ней обыкнов. стоят горшки, сковороды и проч. Скаравада стаіць на прыпячку. Падай гаршчок на прыпячку (знач., тот горшок, который стоит на „прыпечку"). *В. Старына.*

**Прыпечча,** а, *н.*—место около боковой стенки печи. Дзежку з блінямі пастаў ля прыпяччa. *В. Дукарка, Сьміл. р.*

**Прыпілнаваць,** *дзс.* — подстеречь. Прыпілнавоў яго крадучы снапэ. *В. Старына*

**Прыплодак,** дка, *м.*—приплод. Еты жарабочак—прыплодак ад гнядоі кабылы. *В. Старына.*

**Прыплюшчыць,** *дзс.* — прищурить. Нашто прыплюшчыў вока? ты-ж і так нічога ня бачыш! *В. Старына.*

**Прыпляскаць,** *дзс.* — приколотить. Прыпляскоў цьвіх і ні знаку. *В. Старына.*

**Прыпнуць,** *дзс.*—прицепить, подвязать. Прыпні хвартух, — ня так памараясься. *В. Старына.*

**Прыпол,** у, *м.* — приподнятая нижняя часть одежды (юбки, фартука, полы). Назьбірала ў прыпол яблыкаў. *В. Старына.*

**Прыполак,** лка, *м.*—доска горбыль. Каб прыполкамі якімі забіць дзірку. *В. Старына.*

**Прыправіць,** *дзс.*—положить в пищу приправу. Прыправіла сялядца с цыбулькаю, перчыкам і алеям. *В. Старына.*

**Прыпяць,** *дзс.*—скоро притти. Сюды, нябось, 'к бачыш прыпёў! *В. Старына.*

**Прырабіць,** *дзс.* — 1) приделать. Прырабіў сам цыбук к люльца.— 2) подработать. Сена прырабілі троха на чужом. *В. Старына.*

**Прырахманіць,** *дзс.* — приручить. Прырахманіў к сабе жарабётка,— дык яно йдзе к яму. *В. Старына.*

**Прырэзак,** зка, *м.*—добавленная полоса земли. У нас у сяле дык чуць ня кажды палучыў прырэзак. На прырэзку пасеяў авёс. *В. Старына.*

**Прысада,** ы, *ж.* — аллея; вообще древесные насаждения по сторонам дороги. На Чэрвень ехаць скрозь прысадаю. Прысада йдзе аж да самага пакоя, дзе ціпер школа. *В. Старына.*

**Прысак,** ску, *м.* — горячая зола. С прыску ды ў вагонь. *Прык. В. Старына.*

**Прысаліць,** *дзс.*—немного добавить соли. Прысаліця троха капусту: смашней будзя. *В. Старына.*

**Прысачыць** *курыцу,* — приучить к гнезду курицу. Добрая суседка: прысачыла маю курыцу ў сваіх сенцах несьціся! *В. Старына.*

**Прысварыцца,** *дзс.* — пригрозить. Ік прысварыўся на дзяцей, дык і пярасталі дурэць. *В. Старына.*

**Прысвойчыць,** *дзс.*—1) приручить. Прысвойчылі к сабе чужога ката. — 2) присвоить чужое. Прысвойчыў мой ножык. *В. Старына.*

**Прысельле,** я, *н.*—поселение. Во дзе добрая прысельля: тут табе й лес, і рака. *В. Старына.*

**Прысіліць,** *дзс.*—принудить насильно. Ніяк ня хацеў, але прысілілі выпіць. *В. Старына.*

**Прыскварыць,** *дзс.*—немного залить пищу жиром с мелкими кусочками сала. Троха прыскварылі булён—і то лепяй. *В. Старына.*

**Прысмакі,** аў, *мн.* — сласти. Прысмàкі—во ета ён дык любіць. Жыве на прысмаках. *В. Старына.*

**Прысмалак,** лка, *м.*—земля видимая из-под снега на зимней дороге. Ну й дарога: як толька полаз узышоў на прысмалак, дык конь і стоў! *В. Старына.*

**Прысмаліць,** *дзс.*—1) прижечь. Прысмаліў валасэ. У паўдні сонца прысмаліла. — 2) слишком настойчиво пристать к кому. Ік прысмалілі былі ваўке, дык чуць абараніўся! *В. Старына.*

**Прыспаць** *дзіця,*—приспать ребенка во время сна. Пятрычыха прыспала сваё дзіця. *В. Старына.*

**Прыстарацца,** *дзс.*—раздобыть что. Каб прыстарацца дзе грошай на падаткі, ато ганяюць ужо несьці. *В. Старына.*

**Прыстаўленьне,** я, *н.* — постановка пьесы. У Сьмілавічах у суботу ўвечара будзя прыстаўленьня. *В. Старына.*

**Прыстаўляць,** *дзс.*—1) шутить, представлять кого-н. А ён ік пачне прыстаўляць с каго—дык усе аж кладуцца ат сьмеху!—2) играть на сцене, ставить пьесу. Нагля-

дзеўся я ў ціятры, як там прыстаўлялі. *В. Старына.*

**Прыстаць,** *дзс.* — устать. Чыста прыстоў за дзень за етаю работаю. *В. Старына.*

**Прыстол,** у, *м.*—престол. Поп стаіць ля прыстолу. *В. Старына.*

**Прыстоліць,** *дзс.* — положить потолок. Каб дзе дастаць дошчак: трэба сенцы прыстоліць. *В. Старына.*

**Прыстроіцца,** *дзс.*—принарядиться. Ых, Мархва прыстроілася, усё надзела новая! *В. Старына.*

**Прысунящь,** *дзс.* — приостановить лошадь на короткое время. Прысунімі каня, пагаворым троха. *В. Старына.*

**Прысьвялепіцца,** *дзс.* — пристать, прицепиться к чему. Прысьвялепіўсі, як старац, ік плоту. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Прысьвятак,** а, *м.* — полупраздник. Сягоньня ня вялікая сьвята: так сабе, прысьвятак. *В. Старына.*

**Прысьпець,** *дзс.* — попасть во время. Прысьпеў ік раз на полудзянь. *В. Старына.*

**Прысьпічыць,** *дзс. безас.* — приспичить. Вельма табе прысьпічыла йці на места — дома аддыхні. *В. Старына.*

**Прысьценак,** нка, *м.*—боковая пристройка при гумне. Зрубілі прысьценак к току. *В. Дукоршчына, Сьміл. р.*

**Прытаіцца,** *дзс.* — притаиться. У баразну ўскочыў, прытаіўся—і ніхто яго ня зьмеціў. *В. Старына.*

**Прытаміцца,** *дзс.*—утомиться. Прытаміліся ногі ходзячы. *В. Старына.*

**Прытаўчы,** *дзс.* — приколотить на смерть. Яго мо' дзе п'янага прытаўклі на месьця—і ведаць ніхто ня будзя. Хацелі на сьмерць прытаўчы яго, але абаранілі. *В. Старына.*

**Прыткі,** *прм.*—прыткий. Ой які ты пряткі! Прыткая баба! *В. Старына.*

**Прытулак,** лку, *м.* *(польск.* przytułek*)*—приют, убежище. Німа яму беднаму нідзе й прытулку. *В Старына.*

**Прытуліцца,** *дзс.* — прислониться к чему. Мусіць, нейдзя за вугал прытуліўся, абы нідзе ня відаць. *В. Старына.*

**Прытупацца,** *дзс.*—устать от ходьбы. Прытупаўся за дарогу. Прытупалася за дзень, трэба пасядзець хоць увечара. *В. Старына.*

**Прытупваць,** *дзс. (зак.* **прытупаць***)*— 1) притаптывать, топтать. Прытупай зямлю нагамі.—2) притопывать (танцуя). Так прытупвая ботамі, аж пол гнецца! *В. Старына.*

**Прытухнуць,** *дзс.*—немного протухнуть. Мука прытухла, хлеба нельга пячы. *Старына.*

**Прытыкам, прытычкамі,** *прс.*—урывками. Ета ня работа прытакам. Памаленьку, прытычкамі, так і зрабіў калёса. *В. Старына.*

**Прытыкаць,** *дзс. (зак.* **прыткнуць***)*— 1) прикасаться. Ня прытыкай пальцаў к скаварадзе, бо гарачая.—2) вмешивать кого в какое-либо дело. Што ты прытыкаяш міне сьветкаю, калі я нічога ня ведаю?! Ня трэ'бала сюды прытыкаць старога. *В. Старына.*

**Прыўдалы,** *прм.*—удалой, удачный в высшей ст. Ну й прыўдалая-ж дзяўчына яна! Прыўдалы наш лён сяголята! *В. Старына.*

**Прыхваціць,** *дзс.*—слегка повредить (о морозе). Мароз прыхваціў градку агуркоў, дык і прапалі. *В. Старына.*

**Прыхіляць, -цца,** *дзс. (зак.* **прыхіліць, -цца***)*—1) пригибать, -тьcя. Ня прыхіляй да самаі зямлі вішні: ашчэ зломіш. Во ета нейкая крывая галінка, дык усё к другой прыхіляяцца. — 2) прислонять, -тьcя к чему. Прыхіліўся к сьцяне ды стаіць, ік сіраціна. — 3) прижимать, -тьcя. Німа ў сіротак маткі, німа да каго прыхіліцца. *В. Старына.*

**Прыхінуцца,** *дзс.* — 1) прижаться, приклониться. Прыхінуліся адно да другога ды гавораць ціхінька.— 2) оказать расположение к кому. Хутчэй ён прыхінецца к чужому, а ня к свайму. — 3) при-

сесть в защищенном месте. Каб дзе прыхінуцца каля дрэва ды папалуднаваць. *В. Старына.*

**Прыхісьць,** і, *ж.*—пристанище, место, где можно приклонить голову. Ведама, чыстая поля: нідзе ніякаі прыхісьці німа. *В. Старына.*

**Прыходна,** *прс.*—прилично. Прыбралі хату як трэба: стол заслалі, лаўкі памылі, — дык і прыходна стала. Ета пальто яму прыходна, а табе нешта ня ліпня. *В. Старына.*

**Прыці,** *дзс.*—прийти. Павінян дзядзька к нам прыці. Зоўтра прыдам к вам гуляць. *В. Старына.*

**Прыцікаваць,** *дзс.* — подстеречь. Ік раз калі прыцікуя да дасьць пуду, дык боляй ніхто ня палезя ў яго садок. *В. Старына.*

**Прыціскаць,** *дзс.* (*зак.* **прыціснуць,** *прм.* **прыціснуты**)—прижимать. Ня прыціскай надта, і так будзя трымацца. Прыціснаў паляц дзьвярамі. Быў прыціснуты возам, дык і памёр ат таго. *В. Старына.*

**Прыцмыкаць,** *дзс.*—затаскать кого работою. Прыцмыкаў каня, што нельга й ехаць. Прыцмыкаў ён сваю жонку. *В. Старына.*

**Прыцыбаць,-цца,** *дзс.* — прийти (о длинноногом). Прыцыбаў к нам Базыль і Даніла прыцыбаўся. *В. Старына.*

**Прыцягнуць,-цца,** *дзс.* — притащить, -ться. Начорта вы ету заразу прыцягнулі ў хату?! Ледзь прыцёгся дамоў: так-жа быў прыстоў! *В. Старына.*

**Прычакаць, - цца,** *дзс.* — дождать, -ться. Ня прычакаць нам тае пары. Чакалі, чакалі яго дый ня прычакаліся. *В. Старына.*

**Прычапіцца,** *дзс.*—пристать, привязаться к кому. Прычапіўся, ік сьляпы к плоту. *Прык. В. Старына.*

**Прычапіць,** *дзс.* (*прм.* **прычэплены**)—прицепить. Ік круку прычапілі новая вядро. Там вяроўка за колца прычэпляна. *В. Старына.*

**Прычапка,** і, *ж.* — придирка. Яму абы якую прычапку знайці ды сварыцца. *В. Старына.*

**Прычварыць,** *дзс.*—притравить животное собакою. Нехта прычварыў нашу сьвіньню—і вушы апусьціла. *В. Старына.*

**Прычмарыць,** *дзс.*—излишне поджарить. Троха прычмарыла сала на скаварадзе. *В. Старына.*

**Прычмуціць,** *дзс.* — приворожить. Прычмуціла яна к сабе чужога жаніха. *В. Старына.*

**Прычыніць,** *дзс.*—призакрыть. Троха прычыні юшку: хай чад сыходзіць. *В. Старына.*

**Прычытваць,** *дзс.* — причитать по покойнику. А як-жа яна галосіць да прычытвая—аж самому шкода слухаць! *В. Старына.*

**Прышвы,** ваў, *мн.* — часть сапога, пришиваемая к голенищам. Ік ботам доў новыя прышвы. *В. Старына.*

**Прышлы,** *прм.*—пришедший. Ён ня тутэйшы,—прышлы чалавек, ашчэ нічога тут ня ведая. *В. Старына.*

**Прышрубаваць,** *дзс.* — привинтить. Прышрубуй капу ў малатарні добра, каб вымалачвала лепяй. *В. Старына.*

**Прышчунуць,** *дзс.* — дать нагоняй. Прышчунаў дзяцей, дык ціхінька сядзяць!.. *В. Старына.*

**Прышчурыцца,** *дзс.* — сʼёжиться и приникнуть к чему, чтобы быть не заметным. Сеў ў запячку, прышчурыўся і маўчыць ціхінька. *В. Старына.*

**Прышчынак,** нка, *м.* — прыщик. На шчацэ ўсхапіўся прышчынак. *В. Старына.*

**Прышчыцца,** *дзс.* — покрываться прыщами. У Валены твар прышчыцца. *В. Старына.*

**Прышчэп,** а, *м.*—привитое молодое деревцо. У садку пасадзілі тры прышчэпы. *В. Старына.*

**Прышчэпліваць,** *дзс.* (*зак.* **прышчапіць**)—прививать оспу или дичок. Наш дзед добра ўмея прышчэпліваць яблыны й грушы. Малога трэба везьці ў больніцу воспу прышчапіць. *В. Старына.*

**Прышчэць,** *дзс.* — сильно рдеть. Кроў на шчаках аж прышчыць. *В. Старына.*

**Прэгчы,** *дзс.* — жарить (о зернах и маслах). Будам боб прэгчы *В. Старына.*

**Прэгчыся,** *дзс.*—1) жариться. Цыбуля пражэцца ў валеі.—2) сильно желать чего. Аж пражэцца, хоча паглядзець. Чаго ты вельма пражэсься за ім?! *В. Старына.*

**Прэнт,** а, *м. (польск.* pręt) — толстый железный прут. Прэнтам выламалі дзьверы ды ўлезьлі ў хату. *В. Старына.*

**Прэрва,** ы, *ж. (польск.* przerwa)— прорва. Ік у прэрву якую, садзі, садзі—і ўсё мала з яго! *В. Старына.*

**Прэць,** *дзс.*—преть. У вапрэлі зямля прэя. *В. Старына.*

**Прэч!** *выкл.*—прочь. Прэч вы атсюль, гадаўё! *В. Старына.*

**Псаваць,-цца,** *дзс.* — портить,-ться. Нічога ня будзя, дзяціна, с твае работы, толька начыньня мне псуеш! Шмат псуецца дабра пры етакуй рабоце. *В. Старына.*

**Псёль!** *выкл.*—междом. для призывания жеребёнка. Псель! псёль! псёль! бяжы сюды, чаго там асталося! *В. Старына.*

**Псёлька,** і, *ж. (дзіц.)* — маленький жеребенок. Псёлька іржэ. *В. Старына.*

**Псець,** *дзс.* — стареть (о собаке), а презрит. и о человеке. Наш Рабчык стоў псець. От чалавек: псець стоў, а думая чорт ведая праз што! *В. Старына.*

**Псіна,** ы, *ж.*—собачий запах. Мяса аддае нейкаю псінаю,—я ня буду яго есьці. *В. Старына.*

**Пстрыкаць,** *дзс.*—1) щелкать пальцами. Ня пстрыкай мне па носу. Пстрыкнаў яму па лбу. *В. Старына.*—2) понемножку бросать, или сыпать что-н. Што ты пстрыкаяш: ты добра сып. Пстрыкая па жменьцы. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Пстрычка,** і, *ж.*—щелчок. Доў яму пстрычкі, аж гузяк усхваціўся. *В. Старына.*

**Псярня,** і, *ж.* — помещение для собак; презр.,—толпа гуляк. С усяго сяла саброў у хату псярню. *В. Старына.*

**Псяюха,** і, *аг.* (*польск.* psiajucha)— собачья кровь. Ах ты псяюха, што-ж ты мне тут нарабіў?! Псяюха яна старая, сарамà ёй німа самой лезьці да мужчын! *В. Старына.*

**Птаства,** а, *н. зб. (польск.* ptactwo) — птицы. Усякага птаства водзіцца ў том леся. *В. Старына.*

**Пташка,** і, *ж.* — птичка. Якая пташка, такая й песьня. *Прык. Х. Самін, Пух. р.*

**Птушка,** і, *ж. (пам.* **птушачка**)— птица. Папрылятаалі з выраю птушкі. Вэнь якая харошынькая птушачка пяе! *В. Старына.*

**Птушыны,** *прм.* — птичий. Хлапцэ пабралі птушыныя яйца. Знашлі птушыная гняздо. *В. Старына.*

**Пуга,** і, *ж.* (*пам.* **пужка**) — кнут. Ета такая каніна, што бяз пугі ня паедзяш. Пужкаю яго сьцябані. *В. Старына.*

**Пугаўё,** я, *н. (пам.* **пугавейца**)— кнутовище. Выразаў ялаўцовая пугаўё. Ёмкая пугавейца зрабіў. *В. Старына.*

**Пуд,** у, *м.*—страх. Доў яму добрага пуду! *В. Старына.*

**Пудзіла,** а, *н.* — пугало. На'гародзя паставілі пудзіла, каб вяраб'е канапель ня грэблі. Пудзіла ета ўсунаўся ў хату ды дзяцей папужоў. *В. Старына.*

**Пудзіць,-цца,** *дзс.* — пугать, -ться. Нашто пудзіш авечкі? Конь нешта пудзіцца: ці ня чуя ён ваўка ў кустох? *В. Старына.*

**Пудлівы,** *прм.* — пугливый (о животных). Пудлівы конь—проста бяда з ім! Вот авечкі пудлівыя! *В. Старына.*

**Пужаць,-цца,** *дзс.* — пугать, - ться. Дзіця пужаяцца чужых. *В. Старына.*

**Пужлівы,** *прм.* — пугливый. Пужлівая варона куста баіцца. *Прык.* Нейкая-ж пужлівая тваё дзіцянё! *В. Старына.*

**Пуза,** а, *н. (пав.* **пузішча**) — пузо, брюхо. Разбухаў сваё пуза расолам да картопляю. Пузішча, ік начоўкі. *В. Старына.*

**Пузатая** — беременная женщина. Гарасіміха добра пузатая, зараз абродзіцца. *В. Старына.*

**Пузаты,** *прм.*—толстобрюхий. Грузны такі мужчына, пузаты. Карова нейкая маленькая, пузатая. *В. Старына.*

**Пузацець,** *дзс.* — брюхатеть. Дзіця пузацея: мусіць, што картоплі шмат есьць. *В. Старына.*

**Пузыр,** а̀, *м.* — резервуар. Налеялі пузыр газы. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Пук,** а, *м.*—пачка, пучок. Нацерлі пук лёну. Пук лык купіў. *В. Старына.*

**Пукаты,** *прм.*—с выдающимися боками. Пукатая кадушачка. Цялё наелася, дык пукатая зрабілася. *В. Старына.*

**Пукацца,** *дзс.*—1) покаться. Вярба ўжо пукаяцца. *В. Слопішча, Шацк. р.*—2) орать, сильно кричать. Пукаяцца там, аж с шкуры вылазіць. *В. Старына.*

**Пуня,** і, *ж.* (*пам.* **пунька**) — сарай для складывания сена и соломы. Цэлаю пуню навалілі канюшыны. Бацька сьпіць у пуньца на сеня. *В. Старына.*

**Пуп,** а, *м.*—пуповина. Сьсінеў, ік пуп гусіны. *В. Старына.*

**Пупачка,** і, *ж.* — всякое небольшое твердое вздутие, бородавочка, почечка. Сарві ету пупачку с шыі, ато нядобра пазіраць. *В. Старына.*

**Пупок,** пка, *м.*—1) уменьш. **пуп.** У дзіцяці маленькі пупок. — 2) ручка в рукоятке косы. Тужэй трэба завязаць пупок, ато кратаяцца, дык нельга касіць. *В. Старына.*

**Пурыць,** *дзс.*—гнать быстро. Пугаю пуры чужыя сьвіньня з двара. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Пуставаць,** *дзс.* — пустовать. Хата пустуя: ніхто ў ёй і ня жыве. *В. Старына.*

**Пустадомак,** мка, *м.* (*ж.* **пустадомка**) — ветренник, пустая голова. Пустадомак еты ня глядзіць работы, а ўсё круціцца нейдзя. Ведама пустадомка: кінула адных дзяцей у хаця, а сама барджэй паперлася на места. *В. Старына.*

**Пустамалот,** а, *м.*—пустомеля, болтун. Пустамалот еты толька языком меля. *В. Старына.*

**Пустамалоціць,** *дзс.*—болтать. Кінь ты пустамалоціць, ато абрыдала слухаць! *В. Старына.*

**Пустапасам,** *прс.* — без пастуха. Нейчыя цялята ходзяць па полі пустапасам. *В. Старына.*

**Пустка,** і, *ж.*—1) пустошь. Уперад Сіман ат пана трымоў пустку, а ціпер ета зямля яму так дасталася. — 2) неурожайное поле. Вот дзе пустка: нічога ня расьце! *В. Старына.*

**Пустошыць,** *дзс.*—опустошать. Пустошыць гаспадарку, а посьля пойдзя красьці. *В. Старына.*

**Пустэльнік,** а, *м.* (*польск.* pustelnik)—отшельник. Жыве адзін, ік той пустэльнік. *В. Старына.*

**Пустэльня,** і, *ж.* — пустыня. Ік у пустэльні, холадна ў хаця. *В. Старына.*

**Пустэча,** ы, *ж.* — пустота. На полі пустэча: німа чаго есьці скаціня. *В. Старына.*

**Пусьціцца** *сарамà*,—потерять стыд. Пусьціўся сарама чалавек: кінаў сваю жонку, а жыве з другою. *В. Старына.*

**Пута,** а, *н.*—путо. Конь згубіў новая пута на начлезя. *В. Старына.*

**Путаніна,** ы, *ж.*—путаница. Нарабілі вы тут путаніны, ціпер разьбірайся. *В. Старына.*

**Путаць,** *дзс.*—1) путать, связывать лошади передние ноги путами. Блізка путай нага каля нагі, дык лепяй будзя хадзіць.—2) сбивать с толку. Што путаяш яго, калі ён проўду кажа.—3) говорить сбивчиво, непоследовательно. Путаў ён, путаў,—так і ня дабіліся ў яго толку. *В. Старына.*

**Пуха,** і, *ж.*—пустота в пятке яйца. У яйцы вялікая пуха. *В. Старына.*

**Пухкі, пухòны,** *прм.*—пухлый, рыхлый. Пухкі, смачны хлеб. *В. Слопішча, Шацк. р.* Пухоны хлеб. Пухоная булка. Пухоняnькі піражок. *В. Старына.*

**Пухліна**, ы, *ж.*—опухоль. Па целя пухліна пашла. *В. Старына.*

**Пухныр, а́**, *м.*—толстомордый. Каб натоўк етаму пухныру ў морду, дык ведаў-ба! *В. Старына.*

**Пухнуць, пу́хці**, *дзс.*—пухнуть. Пухнуць дзеці з голаду. Ціпер жыта гойшая, а посьля будзя пухці бяз хлеба. *В. Старына.*

**Пуц!** *кор. слова*—выражает быструю остановку. Пуц!—ды стоў конь. *В. Старына.*

**Пушка, і**, *ж.* (*пам.* **пушачка**)—коробка. Ніткі ляжаць у пушца. Гузікі схавоў у пушачку. Іголкі ў пушачца. *В. Старына.*

**Пушча, ы**, *ж.*—пуща. Ваўке ў пушчы задавілі карову. *В. Старына.*

**Пушчаць**, *дзс.* (*зак.* **пусьціць**)—пускать. Ня пушчайця сваіх сьвіньней на картоплю. Хоць трашчу, да ня пушчу. *Прык. В. Старына.*

**Пушыць**, *дзс. безас.*—вздувать (от об'ядения или болезни). Абышто йзьзеў, дык і пушыць яго. *В. Старына.*

**Пхаць**, *дзс.*—пихать, толкать. Усё пхая ў сваё горла. *В. Старына.*

**Пшаніца**, ы, *ж.*—пшеница обыкнов. (Triticum vulgare Vill.). Намалацілі свае пшаніцы с паўбочкі. *В. Старына.*

**Пшоньнішча**, а, *н.*—поле, бывшее под пшеницею. Узаралі пшоньнішча. *В. Старына.*

**Пыкаць**, *дзс.*—1) говорить с запинками, особ. при вранье. А што ён: пачырванеў, пыкая нешта. *В. Старына.*—2) неумело читать. Пыкая нешта: ведама, ня ўмея чытаць, ніхто яго й ня поймя. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Пыл**, у, *м.*—пыль. Чоршта пылу нарабілі ў хаця. Пыл на дарозя аж курыць! *В. Старына.*

**Пылі, пылі!** *выкл.*—для приманивания цыплят. Пылі, пылі, пылі! *В. Старына.*

**Пыльнуць**, *дзс.*—1) быстро побежать, моментально удрать. Ік пыльнаў шчупак, дык і ўцёк. *В. Лядцо, Пух. р.*—2) сильно ударить. Ік пыльня яму ў морду, аж зубы павыкрышваліся! *В. Старына.*

**Пылянё, няці**, *н.* (*пам.* **пылька, пылянётка**)—цыплёнок. Пылянята згубіліся ат курыцы. На, падзяржы пыльку, пашкадуй яе! Прапала адно наша пылянётка. *В. Старына.*

**Пынялка, і**, *ж.*—*гл.* **Хлыстак.** Пынялкаю пяранёў кацёлку. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Пыр!** *выкл.*—звукоподражание при взмахивании крыльями птички. Пыр, пыр вярабейчык—ды паляцеў! *В. Старына.*

**Пырнік**, у, *м.*—пырей ползучий (Triticum repens L). На папары ўзёўся пырнік. Нарвала лясёнку пырніку. *В. Старына.*

**Пырскаць**, *дзс.* (*аднар.* **пырснуць**)—брызгать. Пырская маленькі дожджык. Вада пырснула на стол. *В. Старына.*

**Пырскі**, аў, *мн.*—брызги. Аж пырскі ляцяць ва усе бакеі *В. Старына.*

**Пырхаць**, *дзс.*—порхать. Сініцка пырхая ў клетца. *В. Старына.*

**Пыршчаць**, *дзс.*—брызгать (о дожде). Чуць, чуць пыршчыць дожджык. *В. Старына.*

**Пысы**, пыс, *мн.*—конец морды с губами. Ня бі каня па пысах. У белаі каровы чорныя пысы. *В. Старына.*

**Пыталь**, тлю, *м.*—1) лучшего сорта помол предварительно очищенного зерна. Засыпаў пшаніцу на пыталь.—2) побранка. Доў сваёй бабя добрага пытлю, ціпер будзя маўчаць! *В. Старына.*

**Пытаць,-цца**, *дзс.*—спрашивать. У людзей пытай, дык скажуць. Ня буду ні ў кога пытацца, абы й сам патраплю зрабіць. *В. Старына.*

**Пытлёўка**, і, *ж.*—пеклеванная мука. Зьмяшоў пшаніцы троха, ячменю ды зьмялю пытлёўкі на блінэ. *В. Старына.*

**Пытляваць**, *дзс.* (*прм.* **пытляваны**)—пеклевать. Павязу пытляваць пшаніцу ў Ноўбяла: там добра пытлююць. Скачковы дык ядуць хлеб пытляваны. *В. Старына.*

**П'янюга,** і, *ж.*—пьянчуга. П'янюга мой усё дабро пярацёг на гарэлку. *В. Старына.*

**Пэйсы,** аў, *мн.*—пейсы. Пэйсы табе па'брываю за твае хітрыкі. *В. Старына.*

**Пэкаць,** *дзс.*—1) неумело, неразборчиво читать. Ня вялікі ён грамацей: павестку й то пэкая, пэкая,—чуць разьбярэ.—2) курить трубку. Сядзіць сабе на ганку, пэкая люльку. *В. Старына.*

**Пэндзаль,** дзаля, *м. (польск.* pędzal або pendzel)—большая кисть. Пазыч хоць у каго пэндзаля ды харашэнька пабялі печ. *В. Старына.*

**Пэнся,** і, *ж.*—жалованье. Жыве на пэнсі, дык лацьвей яму. *В. Старына.*

**Пэўня, пэўня-ж,** *прс.*—верно, достоверно. Ну пэўня ета яго работа! Пэўня-ж яно етак і было. *В. Старына.*

**Пэцкаль,** я, *м.*—1) пачкун. Пэцкаль памароў ужо рукавэ.—2) портач. Пэцкаль ты с сваею работаю! *В. Старына.*

**Пэцкаць,** *дзс.*—пачкать, марать. Ня пэцкай ты пальцаў у мачаньня. *В. Старына.*

**Пяк!** *выкл.*—для выражения звука при падании на землю плодов и др. мелких предметов. Яблык пяк на зямлю. Цукерка йз рук пяк у гразь! *В.Старына.*

**Пякаць,** *дзс. (зак.* **пякнуць)**—падать (о фруктах и др. мелких предметах). Дулі ўжо пасьпелі, дык самі пякаюць ды пякаюць. Чуяш: мусіць, яблык пякнаў? *В. Старына.*

**Пякельнік,** а, *м.*—мучитель. Вот пякельнік: малых дзяцей сваіх етак катаваць! *В. Старына.*

**Пякельны,** *прм.*—адский, мучительный. Пякельная ета праца, хай яна лепяй цяміцца! *В. Старына.*

**Пяколак,** лка, *м.*—выемка по ребру печи в виде лавочки. Палезу на пяколак пагрэцца. Што ета за печ бяз пяколка? *В. Старына.*

**Пякота,** ы, *ж.*—изжога. Нешта йзьзеў гнюсноя, дык пякота пячэ. *В. Старына.*

**Пялегваць,-цца,** *дзс. (польск.* pielęgować)—няньчить,-ться. Надта пялегваюць яны сваіх дзяцей. Адна дачка ў бацькоў, дык і пялегваяцца сабе. *В. Старына.*

**Пялёнка,** і, *ж.*—пелена, пелёнка. Дзіця ўмаралася ў пялёнкі. *В. Старына.*

**Пянчук,** à, *м.*—1) одно дерево. Добры папоўся пянчук: выйдзя тры бярвіны й вярхавіна.—2) торчащий остаток срубленного или сломанного бурею дерева. Зачапіўся калясом за пянчук. *В. Старына.*

**Пяраз,** *прыйм.*—через. Пяраз плот скочыў, ік той сабака. *В. Старына.*

**Пярдун,** нà, *м.*—1) тот, кто портит воздух. Вот еты Хведар пярдун: пуская ды пуская!—2) слабосильный. Пярдун еты адзін і рады ня дасьць бярвіну. *В. Старына.*

**Пярнаты,** таў, *мн.*—подушки. Добрыя пярнаты парабіла сабе Ганна. *В. Клятное, Пух. р.*

**Пярочка,** і, *ж.*—1) *гл.* **Ляска.** Пярочкі ляскаюць у драбінца.—2) перемычка в мебели. У сталe зламалася пярочка. *В. Старына.*

**Пярсьцёнак,** нка, *м.*—перстень. Пакуплёў к вянцу залатыя пярсьцёнкі. *В. Старына.*

**Пярун,** à, *м.*—удар молнии. Пярун спаліў абору ў саўхозя. Пяруном расчапіла елку. *В. Старына.*

**Пяршак,** ў, *м.*—первак, лучший сору товара. Дастоў пляшку пяршаку (самагонкі). *В. Старына.*

**Пяршыня,** і, *ж.*—первый раз. Ета яму рабіць ня пяршыня. *В. Старына.*

**Пяршэць,** *дзс. безас,*—щекотать, беспокоить в глотке. Ат насеньнікаў толькі ў горля будзя пяршэць. Нешта пяршыць у горля—мусіць ад булёну. *В. Старына.*

**Пярэбіранка,-бірка,** і, *ж.*—нагребенное (перабранное) к ноге от общей кучи граблями сено или солома. Бэрку за дзёгаць доў дзьве пярэбіранкі сена. *В. Старына.* Палажы ету пярэбярку на рэзьгіны. *С. Дукора, Сьміл. р.*

**Пярэвітка,** і, *ж.* — березовая или иная хворостинка для перевязывания (перевивания) кольев в изгороди. Дай сюды крапчэйшаю пярэвітку. Пайду ў пярэвіткі: буду плот гарадзіць. *В. Старына.*

**Пярэдайка,** і, *ж.*—второй год доящаяся корова без теленка. Наша пярэдайка ашчэ дарма дае малака. *В. Старына.*

**Пярэдзіркі,** рак, *мн.*—лучшего сорта лён (аккуратно, несколька раз прочесанный,—передранный). Папрала свае пярэдзіркі на рушніке. С пярэдзірак выткала адну скацярсьць. *В. Старына.*

**Пярэдніца,** ы, *м.* — *гл.* **Перадоўка.** Кароткая пярэдніца: нельга будзя ўціснуць воза. *В. Дукарка, Сьміл. р.*

**Пярэзвы,** ваў, *мн.*—последняя свадебная беседа, когда невеста с мужем приезжает в дом отца,—ровно через неделю после венчания. У Якубовых у нядзелю будуць пярэзвы. *В. Старына.*

**Пярэкляцьце,** я, *н.*—широкие подмостки по длине всей стенки амбара, в которой имеется дверь. Пасып курам ячменю на пярэкляцьці. *В. Старына.*

**Пярэкуль,** *прс.*—кувырком. Ік штырхнуў яго, дык пярэкуль і паляцеў! *В. Старына.*

**Пярэсты,** *прм.* — полосатый. Ваўке задавілі нашу пярэстаю сьвінку. *В. Старына.*

**Пярэсуха,** і, *ж.*—мелкое место на реке от высыхания воды. На рацэ Птычу шмат пярэсух. *С. Амельна, Пух. р.*

**Пярэсьціць,** *дзс.* — избивать поленом, палкою. Узёў ды давай пярэсьціць яго паленам! *В. Старына.*

**Пярэхрыст,** а, *м.* — перекрещенец. Ня пазнаць, што ён пярэхрыст. *В. Старына.*

**Пярэчыць,** *дзс.*—прекословить, противоречить. Ніхто ня пярэчыць табе; рабі, як сам хочаш. *В. Старына.*

**Пястун,** а̀, *м.* (*ж.* **пястуха**)—баловень. Трэба купіць гасьцінца сваму пястуну. Наша пястуха абычаго табе ня возьмя есьці. *В. Старына.*

**Пятка,** і, *ж.*—пятка, тупой конец яйца. Пятка ашчэ крапчэйшая за насок! *В. Старына.*

**Пятраць,** *дзс.* — сохнуть от истощения. Пятраюць яны цэлая лецячка на'дной цыбулі. *В. Старына.*

**Пятроўка,** і, *ж.*—петров пост перед 29 июня. Карова пабегала ў пятроўку. Жаніцца хоць і ў пятроўку, а лапця сплесьці ня ўмея! *В. Старына.*

**Пяць,** цёх, *ліч.*—пять. *Ні ў пяць, ні ў дзѐвяць,*—сделать что-л. совершенно пло́хо, негодно и при том непоправимо. Зрабіў ты, чалавеча, так, што ціпер ні ў пяць, ні ў дзевяць! *В. Старына.*

**Пячатка,** і, *ж.*—печать. Хай-жа ашчэ старшыня падложыць на паперу пячатку. *В. Старына.*

**Пячонка,** і, *ж.*—печень. С пячонкаю мачаньня зрабіла. Адбіў пячонкі, дык і хварэя. *В. Старына.*

**Пячора,** ы, *ж.*—пещера. Пяску прывёз аж із Лісыччых пячор. *В. Старына.*

**Пячу(о)рка,** і, *ж.*—1) норка. Дзеці наробілі ў гліні́шчы пячурак. *В. Старына.*—2) небольшая духовочка в печи на уровне начала дымохода. У нашай печы шмат пячорак. *В. Турэц, Сьміл р.* Пала́жы рукаўкі ў пячурку, хай там прасохнуць. *В. Старына.*

**Пячы,-чыся,** *дзс.* — печь, жарить, -ться. Пячы яешню госьцю. Нічога ня паробіш: пячыся на сонцы цэлы дзень. *В. Старына.*

**Пяшкур,** а̀, *м.*—рыба бычок (Gobio gobio L.). Вялізнага пяшкура злавіў. *В. Жораўкі, Сьміл. р.*

## Р.

**Рабаваць,** *дзс.* (*польск.* rabować) грабить, опустошать. Бандзіты раз былі ўскочылі ў Шацак ды давай усіх біць, усё рабаваць. Вэнь куры канопліі рабуюць. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Рабак, а́, м.**—червяк, глист. Рабаке ўспалі на капусту, — зараз усю паядуць. Ад глісьніку ў малога рабаке пашлі; адзін рабак вышаў с паўаршына. *В. Старына.*

**Рабаліцы,** *прм.* — рябой (человек). Тарас рабаліцы, але яго дзеўкі любяць. *В. Старына.*

**Рабаціньне,** я, *н.*—пятна от оспы, а также веснушки и пятна от загара. Увесь твар пакрыўся рабаціньням. *В. Старына.*

**Рабін,** а. *м.*—раввин. Рабін у Дукорах дык вельма навучны. *В. Старына.*

**Рабіна,** ы, *ж. (пам.* **рабінка**)—рябина (Sorbus aucuparia L). Расьцьвіла наша рабіна. Пасадзіў пад вакном рабінку. *В. Старына.*

**Рабінавая ноч,** — грозовая ночь. Адзін год часта былі рабінавыя ночы: дождж, ік з вядра, лея, пярун, маланка — проста страх! *В. Старына.*

**Рабіць,-цца,** *дзс.* — 1) работать,-ться. Рабі да поту, зьясі ў вахвоту. *Прык.* Час ё, але нешта работа ня робіцца.—2) делать,-ться. Ня рабі ты людзям блага, дык і табе ніхто нічога ня зробіць. Само табе рабіцца ня будзя. *В. Старына.*

**Работа,** ы, *ж.*—работа. Абы здароўя да рукі, а работы хваціць. *Прык. В. Запярыньне, Пух. р.*

**Работнік,** а, *м.* — работник (в см. рабочий). На сянакос узялі двух работнікаў чужых. *В. Старына.*

**Работніца,** ы, *ж.*—работница (в см. рабочая). Агата ёмкая работніца: работа ў яе руках аж гарыць! *В. Старына.*

**Рабочы,** *прм.*—работящий. Ён рабочы чалавек: ня згуляя табе й мінуціны. *В. Старына.*

**Рабрына,** ы, *ж.*—одно ребро. Яму на'пярацы вынялі рабрыну. *В. Старына.*

**Рабы,** *прм.*—рябой в см. пёстрый, яркопятнистый. Прадалі рабага бычка. *В. Старына.*

**Равесьнік,** а, *м.*—ровестник, сверстник. Мы-ж с Прахорам равесьнікі: разам на прызывя былі. *В. Старына.*

**Равесьніца,** ы, *ж.* — ровестница, сверстница. Наша Мар'я і Ганна Ляўшунова дык равесьніцы: аднаго году параджаліся. *В. Старына.*

**Равок,** раўка́, *м.*—небольшой овраг. У Казакоўца ўзароў аж да раўка. Вада ў раўку аж гудзе! *В. Старына.*

**Рагавы,** *прм.*—угловой. Пяраціў аж вэнь там, у рагавом домя. *В. Старына.*

**Рагатаць,** *дзс.* — громко смеяться. Рагоча, ік той дурань. *В. Старына.*

**Рагатлівы,** *прм.*—склонный смеяться. Які ты, дзяціна, рагатлівы: усё рагочаш ды рагочаш! *В. Старына.*

**Рагатун,** а̀, *м. (ж.* **рагатуха**)—хохотут,-нья. Вот дзе рагатун: абы што, дык рагоча ды рагоча, ік малы ўся роўна. Рагатуха ета толька рагатаць умея, а да работы ня гадзіцца. *В. Старына.*

**Рада,** ы, *ж. (пам.* **радачка**)—1) совет. Добрыя людзі далі раду, як рабіць. Ні радачкі, ні парадачкі.—2) средство, способ действия. Рады ня даць етаму дзіцяці: усё плача ды плача. *В. Старына.*

**Радабодзьдзе,** я, *н.*—очень редкий холст или фабричная ткань. Выткала губкі дзьве радабодзьдзя—будуць мяшке на картоплю. Набрала ты, дзеўка, нейкага радабодзьдзя: ік станяш шыць, дык яно будзя разлазіцца. *В. Старына.*

**Радаўніца,** ы, *ж.*—радоница. На радаўніцу пойдам на могілкі памінаць бацькоў. *В. Старына.*

**Радзей,** *прс. в. ст.*—реже. Дзе радзей картопля, дык там лепшая. *В. Старына.*

**Радзейшы,** *прм. в. ст.*—более редкий. Наш авёс гусьцейшы, а 'Мяльлянаў радзейшы. *В. Старына.*

**Радзімы** *знак.*—родимка, родинка. У яго на руцэ радзімы знак. *В. Старына.*

**Радзім(н)а,** ы, *ж.*—родные, родня. Паеду пабачыць сваю радзіну. *В. Старына.* Пазвалі на бяседу ўсю радзіму. *В. Лядцо, Пух. р.*

**Радзіны**, ін, *мн.*—родины. Кума абрадзілася—будам гуляць радзіны. *В. Старына.*

**Радзіць**, *дзс.* — о земле: приносить хороший урожай. Тут і бяз гною будзя радзіць, абы зямля добрая. *В. Старына.*

**Радно**, à, *н.*—холст худшего качества. Сяголята кепскі лён: увесь пашоў у радно. Наткала нейкага радна ды ашчэ хваліцца. *В. Старына.*

**Радня**, і, *ж.—гл.* **Радзім(н)а.** Ён-жа табе ня радня, што ты яго поіш. Етакаі радні ў міне шмат знойдзяцца! *В. Старына.*

**Раднянка**, *і, ж.*—тряпка из „радна“. Укруціла дзіця ў нейкаю раднянку. *В. Старына.*

**Радняны**, *прм.*—сделанный из холста худшего качества (радна). Ведама, радняны мех,—дык ён хутка й парвоўся. *В. Старына.*

**Раз**, у, *м. (пам.* **разочак**)—1) раз. Два разы хадзіў к кавалю плуг накладаць. Ні разу ён ня папоўся мне ў рукі—доў-ба я яму! Хаця каб разочак калі мне зьезьдзіць праведаць сваю дачушку, як яна жыве там замужам.—2) если. Раз я кажу, значыцца проўда. *В. Старына.*

**Радоўка**, і, *ж.*—очередь. Твая радоўка сягоньня вартаваць на начлезя. *В. Старына.*

**Разак**, ў, *м.*—неровно замерзшая поверхность земли. Сёньня зусім стаптаў лапці, бо на дварэ разак. *С. Амельна, Пух. р.*

**Разбазыраць**, *дзс.* — разбаловаться, зазнаться. Вельма ўжо разбазыраў і гаварыць ня хоча са мною! *В. Старына.*

**Разбароньваць**, *дзс. (зак.* **разбараніць**) — разводить дерущихся. Стоў іх разбароньваць, дык яны мне надавалі. *В. Старына.*

**Разбарсаць**, *дзс.*—вытянуть из лаптя „аборы“. Разбарсай свае лапці: яны ўжо патапталіся. *В. Старына.*

**Разблутаць**, *дзс.* — распутать. Вот зблутаў нехта ніткі,—і ня разблутаць іх! *В. Старына.*

**Разбойства**, а, *н.*—разбой. Адно разбойства настала на сьвеця ды годзя! *В. Старына.*

**Разборны**, *прм. (прс.* **разборна**)—разборчивый. Разборны ваш суд. Разборная тваё дзела. Як ён разборна кажа, аж люба слухаць! Маладзец Лявонаў хлапец: разборна чытая! *В. Старына.*

**Разбракці**, *дзс.* — размокнуть и разбухнуть. Вокна чыста разбраклі. *В. Старына.*

**Разбрыньваць**, *дзс. (зак.* **разбрыняць**) — разбухать. Ляжыць на таку гарох ня сабраны, — разбрыньвая. Агурке толька ашчэ разбрынялі, але ня прарасьлі. *В. Старына.*

**Разбураць,-цца**, *дзс. (зак.* **разбурыць,-цца**, *прм.* **разбураны**) — разрушать,-ться, разбрасывать, -ться. Старую страху трэба разбураць. Разбурылі пуню. Хлеў так і ляжыць разбураны. Разбурыўся наш стог. *В. Старына.*

**Разбухаць,-цца**, *дзс.* — расширить, набить пищей желудок; располнеть. Пузішча сваё разбухаў, ік у каровы. Разбухаўся на чужых харчох ік той вол. *В. Старына.*

**Разважаць**, *дзс. (зак.* **разважыць**)—рассуждать, обдумывать. Німа чаго тут доўга разважаць: бярыся за работу дый толька. Сьпярша хацеў, а посьля разважыў ды ня пагноўся за тымі заработкамі. *В. Старына.*

**Разваліка**, і, *ж.*—одна искривленная жердочка, прикрепляемая к краю саней для расширения их. Выбраў крываватаю бярэзінку на развалку. *В. Старына.*

**Развалкі**, лак, **развалы**, *л, мн.*—рамка, накладываемая на сани для расширения их. Зачапіўся санямі ў леся ды развалкі паламоў. *В. Старына.* Зрабіў к саням новыя развалы. *В. Дукоршчына, Сьміл. р.*

**Разварушыць,-цца**, *дзс.*— расшевелить,-ться. Разварушы яго, хай прачынаяцца да ўстае. Пакуль разварушыўся,—а тады, ‘к відзіш, работа пашла! *В. Старына.*

**Разводзьдзе**, я, *н.*—весеннее половодье. У самая разводзя прышлося ехаць. *В. Старына.*

**Развэдзгаць**, *дзс. (прм.* **развэдзганы***)*—размазать что-либо клейкое, густое. Малы развэдзгаў усю кашу па лаўца. Па ўсём стале развэдзгана мачаньня. *В. Русаковічы, Пух. р.*

**Разгаманіцца**, *дзс.* — разговориться. Разгаманіліся мужчыны—і дамоў ня йдуць. *В. Старына.*

**Разгарнуцца**, *дзс.* — развернуться. Німа на чом тут мне разгарнуцца, каб добра гаспадарыць. *В. Старына.*

**Разгарнуць**, *дзс.* — разгрести, развернуть. Разгарні жар ды пастаў там на гарачум гаршчок. *В. Старына.*

**Разгароджваць**, *дзс. (зак.* **разгарадзіць***)* — разгораживать. Трэба плот разгароджваць, каб ямчэй было хадзіць. Нехта ў гумне чыстакол разгарадзіў, дык праз дзірку сьвіньня лазяць. *В. Старына.*

**Разгаты**, *прм.*—ветвистый. Пастушке селі пад разгатаю бярозаю. *В. Міхалова, Пух. р.*

**Разглядаць**, *дзс. (зак.* **разглядзець, разгледзіць***)* — рассматривать. Што ты там разглядаяш? Добра трэба разгледзяць, а тады браць. Уперад ніколі ня мяшая разгледзіць, як што рабіць. *В. Старына.*

**Разглядзецца**, *дзс.* — осмотреться. Ня было калі й разглядзецца. *В. Старына.*

**Разгортваць**, *дзс.*—грести что-либо в стороны, разворачивать. Ячмень хай так з боку і ляжыць у кучы,—ня разгортвайця яго. *В. Старына.*

**Раздабарваць**, *дзс.*—калякать, болтать. Раздабарвая цэлы вечар, ік яму німа чаго рабіць. *В. Старына.*

**Раздабрэць**, *дзс.* — раздобреть. Бачыш, як ён годзіць мне, раздабрэў вельма! *В. Старына.*

**Раздражніваць**, *дзс. (зак.* **раздражніць**, *прм.* **раздражнены***)* — раздразнивать. Надта ня раздражнівай сабакі, ато хутка парве! Раздражнілі каня, дык ціпер і ня ўлавіць яго. Ня падходзь к быку: ён ціпер раздражняны, гатоў атразу на рогі ўзяць. *В. Старына.*

**Раздумоўваць**, *дзс.* — раздумывать. Нечага тут доўга раздумоўваць: як пачалі, так і рабіця. *В. Старына.*

**Раздурваць**, *дзс. (зак.* **раздурыць**, *прм.* **раздураны***)* — разбаловывать. Ня раздурвайця вы дзіцяці ўсякімі гасьцінцамі. Раздурылі ката ў хату пускаць,—ціпер ня хоча ў гумно йці мышэй лавіць. Эй, якія-ж раздураныя вашы дзеці: маці ашчэ ня ўсьпела бліна с скаравады зьняць, а яны барджэй хапаюць! *В. Старына.*

**Разжаліць,-цца**, *дзс. (прм.* **разжалены***)* — разжалобить,-ться. Разжаліў ты ўсіх нас, чалавеча, сваімі расказамі! Ік разжалілася яна да стала плакаць,—і рады ня даць ёй! Калі чалавек прышоў етакі разжалены, дык, мусіць, нешта ё ў яго. *В. Старына.*

**Разжыцца**, *дзс.*—разжиться; достать, раздобыть что нужное. Каб як разжыцца на грошы. Разжыўся я ўжо на сваё калёса. Год, два пагаруя, а патом і разжывецца. *В. Старына.*

**Раззлаваць,-цца**, *дзс.* — разозлить, -ться. Раззлуеш яго,—дык і етага ня палучыш. Глядзі, ік раззлуецца бацька, дык дасьць табе! *В. Старына.*

**Разінкі**, нак, *мн.* — изюм. Пірагe сьпяклі з разінкамі. *В. Старына.*

**Разлапатацца**, *дзс.* — разболтаться. Сьціхні ты, разлапатоўся на ўсю хату! *В. Старына.*

**Разлупіць,-цца**, *дзс. (прм.* **разлуплены***)*—разодрать,-ться. Не'к за цьвіх зачапіўся ды ўсю рубашку разлупіў. Ік тузянула, дык хуста й разлупілася, — ціпер хадзі ў разлуплянай. *В. Старына.*

**Размулёўваць**, *дзс. (зак.* **размуляваць**, *прм.* **размулёваны***)*—раскрашивать что, расписывать красками. Ня размулёўвай надта

брамы, пакрась троха дый добра будзя! Як лоўка размулявоў ён куфар! У іх хаця вокна размулёваныя. *В. Старына.*

**Разок,** зка̀, *м.* — уменьш. от **рэз.** Добры яму папоўся разок: вазоў пяток дае сена. *В. Старына.*

**Раз-па-разу,** *прс.* — непрерывно, за каждым разом сейчас-же повторяясь. А пярун раз-па-разу жарыць ды жарыць! *В. Старына.*

**Разрагатацца,** *дзс.* — сильно расхохотаться. Чаго вельма разрагаталіся, дурны сьмех папалі! *В. Старына.*

**Разробіцца,** *дзс.*—растолстеть, разжиреть. Во разробіўся ваш парсюк, ік вол! *В. Старына.*

**Разрохкацца,** *дзс.*—расхрюкаться (о свинье). Аюсь у хлеў, чаго ты разрохкалася тут! *В. Старына.*

**Разрэзваць,** *дзс. (зак.* **разрэзаць)**—разрезывать. Ня трэ'бала разрэзваць етаі дошкі, дык і ня сапсавоў-ба яе. Яблык разрэж напал. *В. Старына.*

**Разумець,** *дзс.* — разуметь, понимать, постигать. Ён нічога ня разумея, што ты яму кажаш. *В. Старына.*

**Разумнець,** *дзс.*—умнеть. С каждым днём хлопчык разумнея, пачыная гаварыць. *В. Старына.*

**Разумны,** *прм.* — умный. Разумная галава ў яго. *В. Старына.* Лепяй з разумным згубіць, чым з дурным знайці. *Прык. В. Загай, Пух. р.*

**Разьбедавацца,** *дзс.*—сильно разжалобиться, загоревать. Разжаліўся, разьбядавоўся чалавек,—ну мусіў-жа пазычыць яму с пуд мукі, хоць і ў самога вобмаль. *В. Старына.*

**Разьбіваць,** *дзс. (зак.* **разьбіць)** — о травах: расстилать их, колотя для просушки. Пойдам зараз сена разьбіваць, мо' да вечара ашчэ высахня. *В. Старына.*

**Разьвівацца,** *дзс.*—расти и укрепляться (о растениях). Разьвівайся, малады дубочак, — заўтра мароз будзя. *В. Забалоцьце, Сьміл. р.*

**Разьвіднець,** *дзс. безас.*—рассвести. На дварэ ўжо разьвідняла. *В. Старына.*

**Разьвіднюваць,** *дзс.* — рассветать. Паўставалі, ік пачало разьвіднюваць. *В. Старына.*

**Разьесьціся,** *дзс.* — 1) раз'есться. Парасюк разьеўся, аж ня паверняцца.—2 сильно рассердиться. От чалавек: разьеўся, ік той зьвер! *В. Старына.*

**Разьленавацца,** *дзс.* — разлениться. Нешта ты разьлянавоўся, нічога ня хочаш рабіць. *В. Старына.*

**Разьлягацца,** *дзс.*—давать эхо. Гукая, аж лес разьлягаяцца! *В. Старына.*

**Разьмяргоўваць,** *дзс. (зак.* **разьмергаваць)** — распределять. Глядзі-ж, так разьмяргоўвай, каб нікому крыўды ня было. Бацькаўшчыну падзялілі, разьмяргавалі бяз жаднаі сваркі. *В. Старына.*

**Разьюшыцца,** *дзс. (прм.* **разьюшаны)** — раз'яриться, страшно разозлиться. Так-жа быў разьюшыўся сабака,—чуць ня загрыз таго сьвінчаці. Вот чалавек дзе: ік той зьвер разьюшаны кідаяцца біцца! *В. Старына.*

**Разявака,** і, *м.* — розиня, ротозей. А што, палучыў аглабні, — ня будзь разявакаю, ня стой на самуй дарозя! *В. Старына.*

**Разяўляцца,** *дзс.*—кричать на кого, бранить. Што ты разяўляяська на дзіця малоя: яно ашчэ нічога ня разумея! *В. Старына.*

**Разяўляць,** *дзс. (зак.* **разявіць)** — розевать, раскрывать рот, пасть. Ня разяўляй рота, а то муха ўляціць. Дурніла нейкая: разявіў рот ды пазірая. *В. Старына.*

**Райтузы,** оў, *мн.* — лоскутки из старья. Алена надрала райтузоў на пасьцелкі. *В. Старына.*

**Райтузьнік,** а, *м.*—босяк; ходящий в лохмотьях. Ах, райтузьнік еты абдурыў міне! *В. Старына.*

**Раіць,** *дзс.*—советовать. А мне людзі раілі вот етак зрабіць. *В. Старына.*

**Ральля,** і, *ж.*—вспаханное поле. Па ральлі етага воза конь ня пацёгба. *В. Старына.*

**Раматус**, а, *м.* — ревматизм. Бяда з маею рукою: раматус убіўся, дык баліць і ня падняць. *В. Старына.*

**Раменка**, і, *ж.* — ременная веревочка для лаптя. Уцягні ў лапаць раменку. *В. Вострава, Сьміл. р.*

**Рамон**, у, *м.* — ромашка обыкнов. (Matricaria Chamomilla L.). Стала купаць дзіця ў рамоня, дык і залатуха прайшла. *В. Старына.*

**Рана**, *прс.*—рано. Ашчэ рана: дамоў пасьпееш. *В. Старына.*

**Рана**, ы, *ж.* — рана, язва. Нагу пабіла на раны. *В. Старына.*

**Ранак**, нку, *м.* — утро. Увечара падавоў каровам і на ранак ашчэ будзя корму. *В. Старына.*

**Рандэльчык**, а, *м.* — *гл.* **Рондаль.** Малако стаіць у рандэльчыку. *В. Старына.*

**Раней**, *прс.* — раньше. Сягоньня ўсталі раней, ік учора. *В. Старына.*

**Раненька**, *прс.*—ранёшенько. Устоў ранінька, ашчэ да сонца. *В. Старына.*

**Раніца**, ы, *ж.*—утро. За раніцу толька пару лапцей сплёў. *В. Старына.*

**Раньне**, я, *н.* — утро. Цэлае раньня пратоўкся, і нічога ня зрабіў. *В. Старына.*

**Рапараца**, ы, *ж.*—операция. Ільлюка павезьлі ў Мінск на рапарацу. *В. Старына.*

**Раптам, раптоўна**, *прс.* — нечаянно, вдруг, внезапно. Раптам ік доў дождж, дык чуць дамоў дабраліся. Раптоўна наскочыла сьмерць на яго. *В. Старына.*

**Раптоўны**, *прм.* — нечаянный, внезапный, неожиданный. Раптоўны мароз наскочыў, дык і памерзла картопля на полі. *В. Старына.*

**Рапуха**, і, *ж.* — 1) жаба полевая (Bufo). Вэньдзяка рапуха скача.— 2) бранное, — на некрасивую, рябую женщину, особенно, злую, Пачакай-жа, рапуха ты халерная, прыдзяш ты ка мне ў пазыку, — я цібе вон патуру! *В. Старына.*

**Расада**, ы, *ж.* — рассада. Сяголята мы пасеялі свае расады,—ня трэба будзя бегаць у Сьмілавічы. *В. Старына.*

**Расаднік**, а, *м.* — небольшой садик под окнами, служащий местом для посева рассады (капусты), а также и цветником. Куры выграблі ў расадніку ўсю расаду. *В. Старына.*

**Расахаціна**, ы, *ж.*—суковатая хворостина. Конь прабіўся на расахаціну. *С. Дукора, Сьміл. р.*

**Раскашацца**, *дзс.* — роскошествовать, роскошничать. Адзін раскашаяцца на цэлуй палавіня. *В. Старына.*

**Расквасіць**, *дзс.*—размозжить (голову). Усю галаву расквасілі яму. *В. Старына.*

**Расквітацца**, *дзс.* — рассчитаться, расплатиться, взаимно свести какие-либо счеты. Ціпер мы с табою расквіталіся: ні ты мне ня вінават, ні я табе. *В. Старына.*

**Расквэцаць**, *дзс.* — *гл.* **Развэдзгаць.** Расквэцаў па ўсёй скаварадзе яешню. *В. Старына.*

**Раскепа**, ы, *ж.* (*лаянка*) — неповоротливый и притом малоспособный. Ат, нейкая раскепа ўдалася: да работы ані ня гадзіцца! *В. Старына.*

**Раскідацца**, *дзс.*—расстроиться. Раскідалася ў Вандзулявых вясельля: мусіць яны дачцэ мала пасагі даюць. *В. Старына.*

**Раскідаць,-цца**, *дзс.* (*зак.* **раскідаць,-цца**, *прм.* **раскіданы**) — разбрасывать,-ться. Што там трудна дзяліць сена: узёў раскідаў па пярэбіранца ды ўсё. Як ты носіш сена, што яно ў цібе раскідаяцца? У хаця ўсё раскідана, і ня знайці, дзе што ляжыць. *В. Старына.*

**Раскірака**, і, *ж.*—раскоряка. Куды яна варта раскірака ета,—яе ніхто й замуж ня возьмя! *В. Старына.*

**Раскірачваць,-цца**, *дзс.*—раскорячивать (ногі). Раскірачыў свае ногі ды стаіць. Ня раскірачвайся ты, роўна стой! *В. Старына.*

**Раскірмашавацца**, *дзс.* — зачастить на базар,—на „кірмаш". Бачыш

ты яго, як ён раскірмашавоўся: што нядзелі йдзе ў Сьмілавічы ды йдзе! *В. Старына.*

**Раскол**, а, *м.*—буян, нахал в сильной степени. Раскол еты ашчэ галаву табе расхвошча. *В. Старына.*

**Раскоша**, ы, *ж.* — 1) простор, приволье. Каровы ходзяць па раскошы, дык і малака даюць.—2) изобилие, богатство, роскошь. Жыве ён у раскошы: нічому ня жадзён. *В. Старына.*

**Раскудактацца**, *дзс.*—раскудахтаться. Раскудакталася курыца: рада, мусіць, што яйцо зьнесла. *В. Старына.*

**Раскумекаць**, *дзс.*—с большим трудом прочитать что, сообразить, разобраться в чем. Чытоў, чытоў, — чуць раскумекаў. Пакуль ён раскумекаў, — тады ўжо згадзіўся. *В. Старына.*

**Расол**, у, *м.*—рассол. Ядуць картоплю з расолам. *В. Старына.*

**Распавіць**, *дзс.* — распеленать. Распаві дзіця, няхай так ужо паляжыць. *В. Старына.*

**Распагодзіцца**, *дзс.* — развёдриться. Трэба пачакаць, мо' удзень распагодзіцца,—тады сена будам сушыць. *В. Старына.*

**Распанець**, *дзс.*—приобрестьбарские замашки. Пабыў троха ў брата ў Мінску, дык распанеў: лянуяцца сам сабе вады прынесьці. *В. Старына.*

**Распасорваць**, *дзс.* (*зак.* **распасорыць**) — расстрачивать необдуманно. Што ён робіць: распасорвая дабро, раздае каму трэба й каму ня трэба? Распасорыў усе грошыкі,—ціпер сьвішча ў кулак! *В. Старына.*

**Распасьціраць,-цца**, *дзс.* (*зак.* **распасьцерці,-ціся**)—1) расстилать, развёртывать что-л. широкое. Дай распастрыма коўдру, пагледзім ці харошая. Пускай, ато пасьцелка ня распасьціраяцца.—2) щироко занимать место, владение. Надта ня распасьцірайся тут, ато, 'к бачыш, сьпякуць! Адзін распасьцёрся, а другім дык і німа дзе дзецца. *В. Старына.*

**Расплікаць,-цца**, *дзс.* (*зак.* **расплікнуць,-цца**) — расстёгивать,-ться. Гузікі маленькія, дык само й расплікаяцца. Расплікайця яму хутчэй каўнер да вады ў рот улейця! *В. Старына.*

**Распрагаць,-цца**, *дзс.* (*зак.* **распрэгчы,-чыся**, *прм.* **распрэжаны**) — распрягать, - ться. Распрагайця коняй ды ў хату йдзіця. Што такоя: другі раз конь у дарозя распрагаяцца? Хай ня стаіць распрэжаная каніна, вядзі пасьціць. *В. Старына.*

**Распрэчыся**, *дзс.* — лопнуть, пропасть. А няхай ты распражыся, такоя дзіцятка! *В. Старына.*

**Распусны**, *прм.* — 1) распутный, развратный. Распусная яго баба: п'е, с чужымі мужчынамі цягаяцца.—2) самовольный, чрезмерно шаловливый. Які ён распусны хлапец: моркаўка ашчэ, ік ніткі, а ён чуць ня цэлаю граду вытузаў яе. *В. Старына.*

**Распуста**, ы, *ж.* — распутство, разврат. З етымі дзеўкамі ціпер адна распуста: на сяле ўжо трэйцяя ходзіць с пузам. — 2) самовольство, баловство, чрезмерная шалость. Ці бачылі вы етакаю распусту: дачка бацькоў ня хоча слухацца! Ці ета-ж ня распуста — зялёнаю дульку абкалаціць? *В. Старына.*

**Распусьнік**, а, *м.* **распусьніца**, ы, *ж.*—1) развратник, развратница. Распусьніца яна: бегая за чужымі хлопцамі, пакуль ня дабегаяцца да чаго!—2) разбалованное дитя. Ну й распусьнік еты Сакаў хлапец абы ўбачыў чужоя дзіця, дык і біцца!.. Распусьніца яна добрая: каждага пярадражніць і пяракрывіць. *В. Старына.*

**Распытваць,-цца**, *дзс.* (*зак.* **распытаць,-цца**)—расспрашивать кого или у кого. Ты-ж харашэнька распытай яго, дзе ён быў, што бачыў. Каб стоў распытваць людзей, дык мо' хто й сказоў-ба. Убачыў дзядзька міне, ды давай распытвацца, як мы жывом. Распытоўся ў хлапцоў, дык яны ска-

залі, хто набіў майго Васіля. *В. Старына.*

**Рассаб*а*чыцца,** *дзс.* — распуститься, потерять стыд. Рассабачыўся ён да пасьледняга: людзей ня саромяяцца, робіць, што хоча. *В. Старына.*

**Рассас*у*льваць,** *дзс.* — рассказывать с прикрасами. Пакінь ты лепяй рассасульваць пра свае салдаты: служыў, ік усе—дый толька. *В. Старына.*

**Расстар*а*цца,** *дзс.*—раздобыть, приобрести. Каб дзе расстарацца дваццатку рублёў — трэба сына жаніць. Расстароўся сабе бярвеньня на хату. *В. Старына.*

**Рассуп*о*ньваць,-цца,** *дзс. (зак.* **рассуп*о*ніць,-цца)**—развязывать супонь. Рассупоньвай ты каня. Ня ўмееш ты добра завязваць супонькі, што ў цібе хамут рассупоньваяцца. Рукі пакрэплі—ня магу каня рассупоніць. *В. Старына.*

**Растван*е*ць,** *дзс. безас.* — разлиться жидкой, непролазной грязи. На дарозя растванела: нельга й прайці, ня то што праехаць. *В. Старына.*

**Растрас*а*ць,** *дзс. (зак.* **растрэсьці)**— растрясывать, терять дорогою от тряски: сено, солому. Ня ўціснаў добра воза, ды растрасая сена дарогаю. Трошка ўскінаў саломы на воз і тую хоча растрэсьці, етак хутка едучы. *В. Старына.*

**Растрыбуш*ы*ць,** *дзс.* — растребушить, раскідать. Конь растрыбушыў бабку аўса. *В. Старына.*

**Расх*о*дзіцца,** *дзс. (зак.* **разыйц*і*ся)**— расходиться. Во калі ён прышоў на сход, ік усе сталі расходзіцца. Ужо нікога німа: усе разышліся. *В. Старына.*

**Расх*о*дзіцца,** *дзс.* (*зак.* **расхадз*і*цца)** —1) входить в азарт. Ня расходзься вельма: ніхто цібе ня баіцца! Ік расхадзіўся, дык чыстая бяда з ім! — 2) разбушеваться (о буре). Расхадзілася бура, аж стрэхі ірве! *В. Старына.*

**Расхваст*а*ць, -цца,** *дзс.* — разбить, -ться. Ужо ўсьпеў расхвастать новы люстэрак. Расхвастоў галаву. Расхвасталася талерка. *В. Старына.*

**Расхіл*і*ць,** *дзс.* — раздвинуть. Расхілі калѐ ды сунь жэрдку. *В. Старына.*

**Расхін*у*ць,** *дзс.* — раскрыть, развернуть что. Расхіні кніжку да пачытай. *В. Старына.*

**Расхіст*а*ць,** *дзс.*—расшатать. Расхістоў ножкі ў заслоне. *В. Старына.*

**Расхіхат*а*цца,** *дзс.*—расхохотаться. Расьхіхатаўся, як Сідар на базары. *Прык. В. Белая, Пух. р.*

**Расхлюп*а*цца,** *дзс.* — сильно расплакаться. Расхлюпаўся, ік па нябожчыку. *В. Старына.*

**Расхр*ы*стацца,** *дзс. (прм.* **расхр*ы*станы)** — раскрыть грудь. Холад, а ён расхрыстаўся. Ходзіць расхрыстаны. *В. Старына.*

**Расх*у*таць,-цца,** *дзс. (прм.* **расх*у*таны)**—раскутать,-ться. Холадна, а яна расхутала малога. Дзіця расхутана. *В. Старына.*

**Расчыня*ць*,-цца,** *дзс. (зак.* **расчын*і*ць,-цца,** *прм.* **расч*ы*нены)** — растворять,-ться. Расчынілі варота, дык поўны двор сьвіней набегла. Лёгка расчыняяцца ваша брама. Вакно ўсю ноч было расчыняна. *В. Старына.*

**Расчырван*е*цца,** *дзс.* — раскраснеться. Расчырванелася яна, дык аж гарыць. *В. Старына.*

**Расшал*о*паць,** *дзс.* — уразуметь, раскусить. Ніяк дурань етага ня расшалопая. *В. Старына.*

**Расшчэпліваць,** *дзс. (зак.* **расшчап*і*ць)**—1) раскрывать, разнимать. Расшчэплівайця яму рот вады ўліць, мо‘ачнецца. Ня расшчапіць яго рук—вот крэпка сашчапіў.— 2) расколоть (о дровах, голове). Ік хвазануў яму калом—дык і расшчапіў галаву! Расшчапі палены са два дроў у печ. *В. Старына.*

**Расш*ы*(э)ўка,** і, *ж.* — кружева, вшиваемые в средину скатерти или простыни. Яўгіньня зрабіла ў скацярсьць нейкаю моднаю расшэўку. *В. Матарова, Сьміл. р.* Вот харошая пасьцелка твая — з расшыўкаю! *В. Турэц, Сьміл. р.*

**Расьляк,** а *м. (пам.* **расьлячок)** — росток. Картопля ў стопца пусьціла расьляке. Во ў вагурку маленькі расьлячок. *В. Старына.*

**Расьперазаць,** *дзс.* — распоясать. На, расьпяражы мне чажух. *В. Старына.*

**Расьпесьціць,-цца,** *дзс. (прм.* **расьпешчаны)** — избаловать, изнежить. Расьпесьцілі вы сваіх дзяцей: хлеба з малаком ня хочуць есьці. Такая расьпешчаная дзяўчына — проста бяда з ею! *В. Старына.*

**Расьпілаваць,** *дзс. (прм.* **расьпілованы)** — распилить. Пойдам расьпілуям палена дроў. Дошка расьпілована. *В. Старына.*

**Расьцерабіць,** *дзс.* — очистить сенокос или поле от заросли. Да паўдня ўсяго расьцярабілі, ік на хату — так-жа зарасла сынажаць кустамі! *В. Старына.*

**Расьцьвітаць,** *дзс. (зак.* **расьцьвісьці)** — расцветать. Ужо пачалі расьцвітаць садке. Расьцьвіла наша яблынка. *В. Старына.*

**Расьцяпа,** ы, *ж.* — неповоротливый, ротозей. Расьцяпа ён: возьмя ў рукі тапор ды пазірая. *В. Старына.*

**Расьцярушваць,** *дзс. (зак.* **расьцярушыць)** — рассеивать, разбрасывать. Нясі акуратна, ня расьцярушвай умецьця. Расьцярушыў сена па ўсяму гумну. *В. Старына.*

**Рата,** ы, *ж.* — срок уплаты податей. Адну рату падаткаў ужо заплаціў. *В. Старына.*

**Ратаваць,-цца,** *дзс.* — спасать,-тться. Ратуйця, людзі! Барджэй трэба ратавацца, усё выносіць, абы пагарыць. *В. Старына.*

**Ратунак,** нку, *м.* (*польск.* ratunek, *з ням.* Rettung) — спасение, помощь. Трэба-ж даваць яму які ратунак, ато памрэ. Німа нам ратунку ад етага ліха. *В. Старына.*

**Раўнаваць,** *дзс.* — выравнивать. Трэба раўнаваць дарожку, ато сьвіньня зрылі. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Раўнуючы,** *прс.* — сравнивая. Нага распухла, ня раўнуючы, ік калода. Яму руку атрэзалі, ня раўнуючы, вот па етуль. *В. Старына.*

**Раўніць,—цца,** *дзс.* — 1) сравнивать, -ться. Ня роўнячы, ета й гразі ня варта. Раўніся, што у гаршку, а што ў міся. *Прык.* — 2) выравнивать. Бацька гумно роўніць. *В. Старына.*

**Раўня,** і, *ж.* — ровня. Ён табе ня раўня. *В. Старына.*

**Раўці,** *дзс.* — реветь. Раве, ік той мядзьведзь. Ік парэжаш паляць, ізноў будзяш раўці. *В. Старына.*

**Раўчук,** а, *м.* — *гл.* **Равок.** Вада бяжыць раўчуком. *В. Старына.*

**Рахаваць,** *дзс.* — считать. Ціпер давай рахаваць, колька табе плаціць. *В. Старына.*

**Рахманы,** *прм.* — кроткий, спокойный. Рахманы конік: і малоя дзіця можа яго ўвесьці. Рахманая дзяўчына яна: хлопцаў к сабе падпускае. *В. Старына.*

**Рахуба,** ы, *ж.* (*польск.* rachuba) — счет, рассчет. Па маёй рахубя, дык мне трэба дабавіць. *В. Старына.*

**Рахунак,** нку, *м.* (*польск.* rachunek) — счет. Добры твой рахунак: як-жа ета ты налічыў мне етулька платы? *В. Старына.*

**Раца,** ы, *ж.* — причина, резон. Што за чалавек: ка ўсякаму чэпіцца бяз дай рацы? *В. Старына.*

**Рачок,** чка, *м.* — палочка с расчепленным концом: для швыряния вверх камушков — короткая и для снимания плодов — длинная. У рачок дык я віcока пускаю каменчыкі. Так ня дастаць вішань — трэба рачком. *В. Старына.*

**Рашаць,** *дзс. (зак.* **рашыць)** — сбывать, спускать, тратить. Ня трэ‘бала рашаць свае гаспадаркі, дык ня цягоўся-б ціпер па людзях. Рашыў усе свае грошыкі, і капейкі ня мая за душою. *В. Старына.*

**Рашотка,** і, *ж.* — 1) решетка в ограде. У ваградзя рашотку абламалі. — 2) арестантская. За такія штукі, чалавеча, пападзеш за рашотку. *В. Старына.*

**Рашэціна,** ы, *ж.* — столб с дырами, в которые вкладываются жерди для „азярода". У вазяродзя згніла рашэціна. *В. Старына.*

**Ржэўнік,** у, *м.* — жнивьё. Скаціна пашла па ржэўніку. *В. Лешніца. Сьміл. р.*

**Рзаць,** *дзс.* — ржать. Коні рзуць на начлезя. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Рог,** у, *м.* *(пам.* **ражок)** — 1) рог у животных. Каровя трэба рогі пасьпілоўваць, каб ня калолася. У баранчыка ашчэ маленькія рожкі. — 2) угол. Ідзі к таму Абраму, што жыве на рагу. *В. Старына.*

**Рогат,** у, *м.* — громкий смех. Рогату нарабілі з яго — вуй скольки! *В. Старына.*

**Родны,** *прм.* — родной. Родныя братэ, а етак сварацца. *В. Старына.*

**Рожа,** ы, *ж.* — 1) роза (Rosa L). У расадніку цьвіце рожа. *В. Старына.* — 2) рожистое воспаление. „Рожа - ражыца, добрая ты маладзіца! Усе табе гасьцінцы: булкі да абаранкі, замаўляю цябе калядным і славамі!" З загавору. *С. Навасёлкі, Пух. р. (Пр.*Ружа*).*

**Розгалас,** у, *м.* — эхо, отзвук. Ік крыкнаў — толька розгалас пашоў па леся. *В. Старына.*

**Розка,** і, *ж.* *(пам.* **розачка)** — розга. Добрых розак нарэзаў на венік. Так чым ня можна біць малога, а розачкаю сьмела насьцёбай. *В. Старына.*

**Розум,** у, *м.* — ум, разум. Людзей слухай, а свой розум май. *Прык.* Што галава, то й розум. *Прык. В. Старына.* Чужога розуму лыкам ня мерай. *Прык. С. Дукора, Сьмілав. р.*

**Розьмін,** у, *м.* — раз'езд в дороге. На дарозя розьміну німа: усё едуць ды едуць. *В. Старына.*

**Рондаль,** аля, *м.* — кастрюля. Зварылі вішні ў рондалі. *В. Старына.*

**Рослы,** *прм.* — 1) быстро растущий. Рослая твая дзяўчына: дзесяць гадкоў, а якая ўжо вісокая. — 2) спец. — о хлебах: проросший в снопах. Ячмень рослы — на крупы ня гадзіцца. Жыта было рослая, дык хлеб салодкі. *В. Старына.*

**Роскідка,** і, *ж.* — борозда, которая образуется посреди полосы во время пахоты. Палоса ня шырокая — ня трэба двух роскідак. *У рòскідку арàць (узарàць),* — пахать, начиная от меж полосы и отбрасывая землю от средины к межам. У роскідку ары, — ета-ж на зіму. Ганьке узароў у роскідку, а даляй пашло ў склад. *В. Старына.*

**Росна,** *прс.* — мокро от росы. Уранку сягоньня было росна. *В. Старына.*

**Росны,** *прм.* — росистый. Росная сягоньня раніца. *В. Старына.*

**Рот,** рòта, *м.* — рот. Сам ня можа й рота расчыніць — такі слабы. Усе ратэ паразяўлялі, што чалавек аправіўся ды троха лепяй стоў жыць. *В. Старына.*

**Роў,** рòва, *м.* — ров. Етага рова мы з возам, мусіць, ня пяраедам. Вада парабіла равэ. *В. Старына.*

**Роўны,** *прм.* *(прс.* **роўна)** — равный. Роўны роўнага шукая. *В. Слопішча, Шацк. р.* Роўна ты цягай пілу, у бок ня крыві. *В. Старына.*

**Рохканьне,** я, *н.* — хрюканье. Парасята цэлы хлеў нарабілі рохканьня. *В. Старына.*

**Рохкаць,** *дзс.* — хрюкать. Сьвіньня галодная рохкая на дварэ. *В. Старына.*

**Руб,** а, *м.* — грубый рубец у шитья. Дождж прамачыў аж да руба. *В. Старына.*

**Рубанак,** нка, *м.* — фуганок. Рубанкам спусьціў дошку. *В. Старына.*

**Рубеж,** рубяжà, *м.* — граница. На рубяжы пасеяў насенны лубін. *В. Старына.*

**Рубель,** бля, *м.* — жердь для увязки снопов или сена, соломы. Рубля забыўся ўзяць с сабою: німа як уцісн уць воза. *В. Старына.*

**Рубель,** блѝ, *м.* *(пам.* **рубельчык)** — рубль. Зарабіў цэлага рубля. Ня лёгка дастоўся мне еты рубельчык. *В. Старына.*

**Рубіць,** *дзс.* — складывать из бревен постройку. Пачалі ўжо хату рубіць. *В. Старына.*

**Рублёўка**, і, *ж.* — рублёвая бумажка. На сталe палажыў рублёўку. *В. Старына.*

**Рудзець**, *дзс.* — рыжеть, темнеть. Сена мокня на дажджы, рудзея, — посьля яго й сабака ня возьмя есьці. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Руды**, *прм.* — темнорыжий. Руды цюцька. *В. Старына.*

**Ружа**, ы, *ж.—гл.* **Рожа** 2 зн. У яго на назе вельма сярдзітая ружа. *В. Старына.*

**Ружжо**, à, *н.* — ружье. Дастоў сабе ружжо, — буду хадзіць зайцоў страляць. *В. Старына.*

**Ружовы**, *прм.* — розовый. Набрала сабе ружовага на гестку. *В. Старына.*

**Рука**, і, *ж.* — 1) рука. Рукі твае, браця, ік граблі. Ат нас у Дукоршчыну блізінька, ік рукою падаць.— 2) сподручно. Мне ня рука туды йці. — 3) линия родства. Ета-ж Аньціп з бабінай рукі радня мне. *В. Старына.*

**Рукаў**, вà, *м.* (*пам.* **рукавец**) — 1) рукав. Уся жакетка ашчэ цэлая, толька рукавэ троха па‘брываліся. У дзяцінаю сарочачку ашчэ засталося адзін рукавец ушыць. — 2) мешочек из рукава рубашки. Іграш насушыла два рукавэ. Мак усыпала ў рукавец. *В. Старына.*

**Рукаўка**, і, *ж.* (*пам.* **рукавачка**) — рукавица. Прышоў Іспас — гатуй рукаўкі ў запас. *Прыказка. В. Скрыль, Пух. р.* Цёплыя мае рукавачкі. Згубіў адну рукаўку. *В. Старына.*

**Рукі** *залажыць, зацяць,*—руки приложить (к работе). Беднаму чалавеку німа за што й рук залажыць. Сядзіць бяз хлеба, гаруя, німа за што й рук зацяць. *В. Старына.*

**Рукою**, *прс.* — удачно. Усё ік пойдзя рукою, дык будам добра жыць. Рукою пашлі мае парасяткі. *В. Старына.*

**Рулі**, лéй, *мн.* — тюря со сладкой или засоленой водой. Налейця рулей — есьці хачу. *В. Дайнава, Пух. р.*

**Руля**, і, *ж.* — дуло. Із жменю ўсыпаў шроту у рулю. *В. Старына.*

**Рум**, у, *м.* — место на берегу реки, куда свозят лес для сплава. Завёз на рум тры вазы бярвеньня. *С. Амельна, Пух. р.*

**Румза**, ы, *аг.* — плакса. Румза еты толька ўмея румзаць. *В. Старына.*

**Румзаньне**, я, *н.* — плач навзрыд. Ну й надаела тваё румзаньня! *В. Крамяні, Пух. р.*

**Румзаць, румаць**, *дзс.* — плакать навзрыд. Сьціхні, даволі ўжо румзаць! *В. Крамяні, Пух. р.* Румая, чорт ведая чаго, цэлаю раніцу! *В. Старына.*

**Рунцо** *(воўны)*, а, *н.* — количество овечьей шерсти с одной стрижки. У мяне ўсяго адно рунцо воўны. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Рунь**, і, *ж.* — озимые всходы. Добрая рунь парасла. *В. Старына.*

**Рунець**, *дзс.* — зеленеть, становиться пушистым (о всходе засеянного хлеба). Зямля прасохла, жытцо стала руняць добра. *В. Старына.*

**Рупасьлівы, руплівы, рупны**, *прм.* — заботливый. Рупасьлівы гаспадар ня ўпозьніць свае сяўбы. Нябось, калі руплівы, дык хоча, каб скарэй кончыць работу. *В. Старына.* Рупны гаспадар ня будзя табе ляжаць да сьнеданьня. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Рупасьць**, і, *ж.* — заботливость. Рупасьці німа ў яго ані. *В. Старына.*

**Рупесьнік**, а, *м.* — заботник. Які з яго рупясьнік, калі ён вечна сьпіць. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Рускі**, *як ім.* — великорус. Замуж вышла за рускага. *В. Старына.*

**Рупіцца**, *дзс.* — заботиться. Чалавек усё рупіўся, староўся, каб як ляпяй жыць. *В. Старына.*

**Рупіць**, *дзс. безас.* — заботить. Яму нішто ня рупіць. *В. Старына.*

**Рута**, ы, *ж.* — рута пахучая (Ruta graveolens L). Дзеўкі нарвалі руты. *В. Старына.*

**Рухавы**, *прм.* — подвижной. Ён — хлопяц рухавы. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Рухнуцца**, *дзс.* — шевельнуться, двинуться. Ляжыць і ня рухнецца. *В. Старына.*

**Ручаіна**, ы, *ж.*, **ручай**, я, *м.* — ручей. А ладная ручаіна цячэ. Там трэба пераяжджаць цяраз ручай. Ручаём з яго пот леяцца. *В. Старына.*

**Ручайка**, і. *ж.* (*пам.* **ручаечка**) — мера льна, пеньки, пучок волокон, которые можно захватить в одну руку. Абтрапала ручайкі са тры лёну. Каб дзе дастаць ручаячку пянькі на пута *В. Старына.*

**Ручачка**, і, *ж.* — рученька. У дзіцяці маленькія ручачкі. *В. Старына.*

**Ручыцца, ручыць**, *дзс. безас.* — вестись удачно (рукой). Нешта ня ручацца нам сьвіньня. 'Мяльляну ня ручыць на скаціну, усё здыхая: то конь, то карова. *В. Старына.*

**Ручышча**, ы, *ж.* — ручища. Ручышча тая, ік лапа ў мядзьведзя. *В. Старына.*

**Рушаць**, *дзс.* (*зак.* **рушыць**) — 1) трогаться с места. Ну, рушай, паедам! Калі мая рушыць маладзік? — 2) трогать что. Ня руш на стале нічога. *В. Старына.*

**Рушнік**, а̀, *м.* — полотенце. Дайця чысты рушнік уцерціся. *В. Старына.*

**Рыгаць**, *дзс.* — 1) рыгать. Рыгая ік тая карова. — 2) блевать. Ік стоў рыгаць, дык усю хату запаскудзіў — 3) сильно рыдать. Годзя табе ўжо рыгаць, сьціхні! — 4) скрипеть. Варота рыгаюць. *В. Старына.*

**Рыдаць**, *дзс.* — подавать признаки к какому-либо действию. Употребляется с отрицанием не(ня). Зруб і ня рыдаў гніцьці. Авёс тут і ня рыдаў расьці. *В. Старына.*

**Рыдлёўка**, і, *ж.* — железная лопата. Рыдлёўка паламалася, капаючы гліну. *В. Старына.*

**Рыжавацца**, *дзс.* — разгораться (о пламени). Ну й пожар: агонь рыжуяцца, і рады ня даць, каб утушыць яго! *В. Старына.*

**Рыжок**, жка̀, *м.* — гриб рыжик. Мала грыбоў назьбіроў; толька падрашэтнікаў троха, а рыжка дык і аднаго ня папалася. Чырвоны ён, — ік той рыжок. *В. Старына.*

**Рызіна**, ы, *ж.* (*пам.* **рызінка**) — тряпка. Німа ў хаця ніякаі рызіны, чым стол сьцерці. Падай во ету рызінку гаршчок узяць. *В. Старына.*

**Рызман**, а́, *м.* — одна порванная одежда. Якая ета сарочка — рызман нейкі, ня хочу надзяваць яе. Ходзіць у рызманох. *В. Старына.*

**Рызы**, рыз, *мн.* — отрепья. Скідай етыя сваe рызы. *В. Старына.*

**Рызыка**, і, *ж.* — хвастовство, заносчивость. Аткуль тая рызыка ў яго бярэцца?! І ўся рызыка яго прапала, ік засудзілі. *В. Старына.*

**Рызыкаваць**, *дзс.* — форсить, хвастаць. Лішняя ты ўжо рызыкуяш! *В. Старына.*

**Рызыкант, рызыканьцік**, а, *м.* — форсун, хвастун. Слухай ты етага рызыканта, што ён табе будзя маніць!.. Ого, які знашоўся рызыканьцік! *В. Старына.*

**Рызыкоўны**, *прм.* — форсистый, заносчивый. Ня будзь етакі рызыкоўны, дык лепяй будзя. *В. Старына.*

**Рызьзё**, я, *н. зб.* — лохмотья. Рызьзё паскідалі ў кучу. *В. Старына.*

**Рызьняк**, а́, *м.* — порванная верхняя одежда. Начапіў на сібе нейкі рызьняк, ік той старац. *В. Старына.*

**Рык**, у, *м.* — рык, рычание. Усяго там было, на пажары: і плачу, і крыку, і рыку. *В. Старына.*

**Рыкаць**, *дзс.* — рычать. Карова галодная стаіць у хлевя, рыкая. *В. Старына.*

**Рыла**, а, *н.* (*пам.* **рылца**) — 1) горлышко бутылки. У пляшца адбілася рыла. Што ета за пляшка: рылца нейкая маленькая, што нельга й вады наліць? — 2) рыло, морда. А ты куды лезяш с сваім рылам? *В. Старына.*

**Рылаты**, *прм.* — толстомордый, с полными, отвисшими губами. Дурань ты рылаты! *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Рымар**, а, *м.* — шорник. У рымара купіў гатовы хамут. *В. Старына.*

**Рымарнічаць**, *дзс.* — заниматься шорничеством. Ён нічога ня робіць, толька рымарнічая. *В. Старына.*

**Рымка,** і, *ж.* — первая струна в скрипке-„ми“. Удалася ета рымка: із кішкі, але моцная. *В. Старына.*

**Рынак,** нку, *м.* — рынок. Купляй на рынку, а прадавай дома. *Прык. С. Дукора, Сьміл. р.*

**Рынуць,-цца,** *дзс.*—1) броситься. Ня лезь сюды, абы рынясься галавою. Рынаў галавою вобзямлю.—2) устремиться. Рынаўся уцякаць, але яго тут жа затрымалі. *В. Старына.*

**Рыпацца,** *дзс. (зак.* **рыпнуцца)**—намериваться итти. Сядзі і ня рыпайся нікуды. Рыпнаўся пайці, ды прыастанавіўся. *В. Старына.*

**Рыпаць,** *дзс.* — скрипеть чем. Ня рыпай ты дзьвярамі! *В. Старына.*

**Рыпець,** *дзс.* — скрипеть (об обуви). Надзеў новыя боты,—дык рыпяць. На назе галёш рыпіць. *В. Старына.*

**Рыса,** ы, *ж.* (*пам.* **рыска)** — черта. Правядзі добра рысу, каб знаць было. Я ня бачу, дзе тут тая рыска. *В. Старына.*

**Рыхтаваньне,** я, *н.* — сборы, подготовка. Доўгая тваё рыхтаваньня, аж абрыдала ждаць. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Рыхтаваць, -цца,** *дзс.* — готовить, -ться, собираться. Пайду рыхтаваць калёса. Рыхтуйся ў дарогу,—зараз паедзям. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Рыхтык, -тыкам,** *прс.* *(яўрэйск.* rychtyk, *з ням.* richtig*)*—точь в точь. Чый ета сабака — рыхтык ік наш. А ён-жа рыхтыкам бацька. *В. Старына.*

**Рыцына,** ы, *ж.* — касторка. У бальніцы мне далі ад жывата рыцыны. *В. Старына.*

**Рыцьвіна,** ы, *ж.* — яма от дождей или воды. Калёса залеяліся ў рыцьвіня. *В. Старына.*

**Рыштаваньне,** я, *н.* — леса при постройке. Скінаўся з рыштаваньня ды на сьмерць забіўся. *В. Старына.*

**Рышчыцца,** *дзс.*—о суке, бегать с собакою — самцом. Сука некуды пабегла рышчыцца. *В. Старына.*

**Рэбры,** аў, *мн.* — ребры. Кабыла худая, толька тыя рэбры тырчаць. *В. Старына.*

**Рэдзька,** і, *ж.* — редька огородная (Raphanus sativus L). Што яны ядуць: рэдзьку ды картоплю. *В. Старына.*

**Рэз,** у, *м. (пам.* **разок)** — полоса пахоты или сенокоса. С аднаго рэзу наброў пудоў пяцьдзісят сена. Ашчэ асталося скасіць адзін разок у Быстрыцы. *В. Старына.*

**Рэзнуцца,** *дзс.* — удариться (собственно головою) об что -н. острое или торчащее. Рэзнаўся галавою аб вушак. *В. Старына.*

**Рэзьгіны,** н, *мн.* — приспособление для носки корма скоту; состоит из двух сетчатых полукругов. Прынёс жарабку нанач рэзьгіны мурагу. *В. Старына.*

**Рэйка,** і, *ж.* — рэльса. Каб дзе дастаць мне кавалак рэйкі. Рэйкі паклалі, зараз і машына будзя хадзіць. *В. Старына.*

**Рэкнуць,** *дзс.* — сказать, проговорить. Рэкні ты мне ашчэ слова!.. І рэкнуць каб мне ня сьмеў! *В. Старына.*

**Рэпа,** ы, *ж.* — репа огородная (Brassica гара L). Вельма ж удалая наша рэпа: вялікая да салодкая! *В. Старына.*

**Рэпка,** і, *ж.*—1) репка. Маленькая рэпка парасла.—2) маленькое толстое сплошное колесо в машине. Пас скідаяцца з рэпкі (у малатарні). *В. Старына.*

**Рэха,** а, *н.* — эхо. Па леся пакацілася рэха. *В. Старына.*

**Рэхва,** ы, *ж. (пам.* **рэхвачка)** — небольшой железный обруч, надеваемый на колесную ступицу, а также на конец палки, рукоятки и проч. для скрепления их. Уперад трэба рэхвы набіць на калёса, тады стаў іх сушыць, а так паколюцца. Рэхвачку набіў на полаз, каб ня калоўся боляй. *В. Старына.*

**Рэхт!** *выкл.* — достаточно, довольно. Рэхт, я больш ня буду чапаць! *В. Старына.*

**Рэч,** ы, *ж.*—1) разговор. С першай стрэчы ды ня добрыя рэчы. *Прык.* На печы — добрыя рэчы. *Прык.*— 2) предмет вообще. Усякая рэч у хаця патрэбна: тапор, вілкі, качарга... *В. Старына.*

**Рэчыцца,** *дзс.* — случиться. Мо' дзе рэчыцца дастаць у людзей лепшага насеньня, а сваім пакуль сеяць ня буду. *В. Старына.*

## С.

**Сабака,** і, *м.*—1) собака, пёс. Брэша, ік той сабака. — *У сабакі вачэй пазычыць (пазычыўшы),*— делать что-нибудь без стыда. Хіба ў сабакі вачэй пазычыць ды йці к ім прасіць хлеба.—2) переносн., скверный человек. Слухай ты етага сабакі!—3) мерка для равномерного набивания на крышу — решетин. Памерай сабакам, як класьці лàціну. *В. Старына.*

**Сабакар,** а, *м.* — тот, кто дразнит собак. Ведама сабакар: ні'днаго сабакі ня прапусьціць, каб ня выцяць чым. *В. Старына.*

**Сабаччая мята,** — мята полевая (Mentha arvensis L). На, панюхай сабаччай мяты!. *Х. Самін, Пух. р.*

**Сабаччы,** *прм.* — собачий. Сабаччая будка. Сабаку й сабаччая сьмерць. *Прык. В. Старына.*

**Сабачы вузел,** — неправильно завязанный узел, когда он легко развязывается. Завязоў вяроўку на сабаччы вузял, дык яна сама й разьвязалася. *В. Старына.*

**Сабаччы рамон,** — пупавка вонючая (Anthemis Cotula L). Вот дурань: нарвоў сабаччага рамону ды носіцца. *В. Старына.*

**Сабрацца,** *дзс.* — собраться. Народу сабралася, аж німа дзе й яблыку ўпасьці. *В. Старына.*

**Савець,** *дзс.* — опускаться, ослабевать от сна. Чаго ты савеяш, ідзі спаць. *В. Старына.*

**Саглас,** у, *м.*—согласие. Німа ў іх сагласу: усё спорацца ды спорацца. *В. Старына.*

**Садавіна,** ы, *ж.* — фрукты. Сяголята нешта садавіна ня ўрадзіла. Леташні год быў добры на садавіну. *В. Старына.*

**Садзіць,** *дзс.* — итти на кого напролом. Мядзьведзь проста так і садзіць на яго. *В. Старына.*

**Садок,** дкà, *м. (пам.* **садочак***)*—сад. Трэба свой садок завесьці, каб дзеці па чужых ня лазілі. Добра мець хоць маленькі свой садочак. *В. Старына.*

**Садрыгнуцца,** *дзс.* — содрогнуться, поколебаться. Аж зямля садрыгнулася! *В. Старына.*

**Сажа,** ы, *ж.*—1) сажа. У коміня загарэлася сажа.—2) головня. У ячмені шмат сажы. *В. Старына.*

**Сажалка,** і, *ж.* — яма с водою. Намачыў пяньку ў сажалца. *В. Старына.*

**Сак,** а, *м.* — рыболовная снасть. Паўлюк пашоў рыбу лавіць сакам. *В. Старына.*

**Сакавік,** ў, *м.* — древесны сок березы, клёна. Зрабіў лоцік, каб спусьціць сакавік. Накапала вядро сакавіку. *В. Вострава, Сьміл. р.*

**Сакатаць,** *дзс.* — кричать подобно курице. Курыца сакоча: мусіць, хоча несьціся. *В. Старына.*

**Сакатлівая** *(жанчына),* — женщина, склонная к брани или любящая много и быстро поговорить. Ох, якая яна сакатлівая! *В. Старына.*

**Сакатуха,** і, *ж.*—1) курица, которая много „сакоча“. Пусьці ў хату ету сакатуху: мо з яйцом.— 2) женщина много и быстро говорящая. От дзе сакатуха: вечна лапоча й лапоча языком! *В. Старына.*

**Сакрэт,** у, *м.* — секрет. Нейкія ў іх там сакрэты завяліся. *В. Старына.*

**Сакун,** á, *м.* — белорус, который возвратное, местоимение *ся* выговаривает, как *са* (напр., *павалiўса*). От сьмешныя гэтыя сакуны: купілі абаранкаў ды с хлебам ядуць! *С. Амельна, Пух. р.*

**Тыцкаць,** *дзс.*—1) совать. Парасюк ня есьць цеста, а толька тыцкая лычам.—2) давать что кому, особ. скоро. А яна яму тоя й ета—ўсё тыцкая ды тыцкая. *В. Старына.*

**Тычка,** і, *жс.* — длинная палка для подпоры вьющихся растений. На пасолю трэба нарабіць тычак. *В. Старына.*

**Тычка,** і, *жс.* — приспособление из шеста и шнура с крючком для ловли рыбы: шест вбивается в реке в землю. Паставілі ў рацэ тычку на рыбу. *В. Жораўкі, Сьміл. р.*

**Тычына,** ы, *жс.* — длинная палка. Тычынаю спароў гняздо з дулі. *В. Старына.*

**Тышчыцца,** *дзс.* — проталкиваться, протискиваться среди толпы вперед. Вот дзе хлапчанё: ззаду ня хоча пастаяць, а тышчыцца наперад. *В. Старына.*

**Тышчыць,** *дзс.* — совать. Куды ты тышчыш сваю руку? *В. Старына.*

**Тэпаць,** *дзс.* — ходить (о детях и слабых взрослых). Наш хлопчык ужо трошка тэпая. Старая сабе тэпая ў валёначках па хаця. *В. Старына.*

# У.

**Убаёдаць,** *дзс.* — убить, укокошить. Нешта-ж німа с суда нашага бацькі, — ці ня ўбаёдалі яго дзе тыя зладзеі? *В. Старына.*

**Убараніць, -цца,** *дзс.* — защитить, -ться. Чуць убаранілі каноплі ат вяраб'ёў. Ня ўбараніцца нам ат мышэй. *В. Старына.*

**Убачыць,-цца,** *дзс.* — увидеть,-ться. Пазіроў ты, да нічога ня ўбачыў. Каб як нам с табою ўбачыцца. *В. Старына.*

**Убіваць,** *дзс. (зак.* **убіць***)* — насильно давать что, навязывать. Ня хоча браць грошай, дык сілаю нечага ўбіваць. І ня было ў міне ахвоты купляць ета парасё, але проста не'к убілі яго мне. *В. Старына.*

**Убірацца,** *дзс.* — наряжаться. Толька любіць цёнгля ўбірацца. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Убіраць,** *дзс.* (*зак.* **убраць,** *прм.* **убраны**)—1) прибирать. Убірайця ўсё іс стала.—2) наряжать, украшать. І мы к сьвяту сваю хату ўбралі. Сам ходзіць убраны, і жонка ўбраная. *В. Старына.*

**Убіцца,** *дзс.* — влезть, насильно войти куда. Чаго ты ўбіўся сюды, каб замінаць тут? Блыха ўбілася ў сарочку ды кусая. *В. Старына.*

**Ублутацца,** *дзс.* — запутаться. Курыца ублуталася ў кудзелю. *В. Старына.*

**Убогі,-гая,** *прм. у сэнсе ім.* — нищий, нищая. У хату зайшоў убогі. Адзін піражок маці дала на ўбогіх. Па сяле ходзіць убогая. *В. Старына.*

**Убоіна,** ы, *аг.* — бранное,—ленивый и не боящийся побоев. Вот убоіна еты конь: пугі ані ня слухая! Убоіна ета дзеўка: ці ты ёй кажы ці не, дык рабіць ані ня хоча, *В. Старына.*

**Убок,** *прс.* — в сторону. Атышоў далёка ўбок. *В. Старына.*

**Убраньне,** я. *н.* — наряды. Што таго ўбраньня робіцца ў яе!.. *В. Старына.*

**Уброд,** *прс.* — вброд. Раку пярайшлі ўброд. *В. Старына.*

**Убрыкнуць,** *дзс.*—улягнуть. Жарабок чуць ня ўбрыкнуў міне. *В. Старына.*

**Убырскаць,-цца,** *дзс.* — обрызгать, -ться. Спадніцу ўбырскала ў гразь. Ішоў па вадзе, дык увесь убырскаўся. *В. Старына.*

**Увагнаць,** *дзс.* — нагнать, догнать. Прэ й ня ўвагнаць яго! *В. Старына.*

**Увадраць** *штуку*—выкинуть коленце. Ну й увадроў-жа ён штуку, прахвосьціна! *В. Старына.*

**Уважаць,** *дзс.* — обращать внимание. Ня ўважай ты на міне, што я раблю. *В. Старына.*

**Уважыць,** *дзс.* — уступить, оказать снисхождение. Трэба чалавеку ўважыць: ён ня вінават. *В. Старына.*

**Увазярэдзіць,** *дзс. (прм.* **увазярэджаны)** — навешать снопы в „азярод" Увазярэдзілі вазок ячменю. Наш авёс увазярэджаны. *В. Старына.*

**Уваліцца,** *дзс.* —1) ввалиться. Асьцярожна йдзі, ато ў яму ўвалісься.—2) напасть болезни, несчастью Увалілася ў сяло нейкая пошасьць. *В. Старына.*

**Увамнуць,** *дзс.* — сожрать что-либо в роде блина, пирога. От дзе жлукта: аж тры скараводнікі ўвамнуў. Адзін усю сітніцу увамнуў. *В. Старына.*

**Уварвацца,** *дзс.*—ворваться. П'яные ік уварваліся ў хату, дык усё паламалі й пакрышылі. *В. Старына.*

**Увартаваць,** *дзс.*—устеречь. Ня ўвартавоў ён коняй на начлезя: усе пашлі былі ў шкоду. *В. Старына.*

**Уварыцца,** *дзс.* — свариться. Мяса добра ўварылася. *В. Старына.*

**Уваччу,** *прс.* — в глазах, перед глазами. Вот так уваччу ён і стаіць. *В. Старына.*

**Уведзяньнё,** я, *н.* — праздник 21 ноября. На ўвядзяньнё памерла наша маці. *В. Старына.*

**Уверадзіць,** *дзс. (прм.* **увярэджаны)** — переутомить работою суставы в костях рук или позвоночник. Увярадзіла сярэдзіну жнучы. Увярэджаная рука, дык нельга нічога рабіць. *В. Старына.*

**Увечара,** *прс.* — вечером. Увечара прышоў дамоў. *В. Старына.*

**Увільнуць,** *дзс.* — уклониться, избечь. Юрка хітры: не'к-жа ўвільнуў ат хурманкі, каб ня везьці салдатаў у Рудзенск. *В. Старына.*

**Увіхацца,** *дзс.* — старательно что делать. Гаспадыня ўвіхаяцца каля печы. А ён увіхаяцца каля скварак. *В. Старына.*

**Уводзіны,** ін, *мн.* — введение родильницы с ребенком в церковь и угощение по этому случаю. Майсеіха ў ету нядзельку будзя спраўляць уводзіны—пазвала ўсіх сваіх кумоў. *В. Старына.*

**Уводзіць** *у вушы,* — часто говорить, напоминать о чем кому. Нечага яму ўводзіць у вушы, што ён тут удзельнік. *В. Старына.*

**Увоінка,** і, *ж.* — продольный край берда, в который увивается, всаживается „трысьцё". Пяраламаласі ў бёрдзі ўвоінка. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Уволю,** *прс.* — вволю, досыта. Уволю наеўся. Уволю пагулёў. *В. Старына.*

**Увосень,** *прс.* — осенью. Увосянь той плача, хто вясною скача. *Прык. С. Дукора, Сьміл. р.*

**Увярнуцца,** *дзс.*—обойтись без чьейлибо помощи. Увернамся й бяз цібе тут. *В. Старына.*

**Увяро(э)д,** у, *м.* — переутомление суставов в кистях рук или позвоночника от работы. Лечат заговорами. „Лячу Тяцяня увярод,

пабег ён у гарод,
по роўнінькум полячку.
на чырвонум конічку".

*З загавору. С. Навасёлкі, Пух. р.* Нарвала травы ат увярэду. *В. Старына.*

**Уговоры,** аў, *мн.* — убеждение, уговаривание. І ўгаворы яму ня памаглі — па-сваёму зрабіў. *В. Старына.*

**Угадзька,** і, *аг.* — угадчик. Ну, угадзька, адгадай, што ў міне ў руцэ?! *В. Старына.*

**Угадніца,** ы, *ж.* — гадалка, всегда верно угадывающая. Пайду да ўгадніцы, каб яна адгадала, хто ўкроў нашу карову. *В. Старына.*

**Угаіць,** *дзс.* — излечить. Бяда: ніяк ня ўгаіць мае болькі. *В. Старына.*

**Угаманіцца,** *дзс.* — успокоиться. Малы ужо ўгаманіўся — сьпіць. *В. Старына.*

**Угаманіць,** *дзс.* — уговорить. Чуць угаманілі яго, ато хацеў ужо біцца. *В. Старына.*

**Угарадзіць.-цца,** *дзс.*—обнесть оградой, огородиться. Ціхон аполкамі ўгарадзіў гумно сваё. Нашы суседзі кругом угарадзіліся. *В. Старына.*

**Угару, угору,** *прс.* — вверх. Шпурнуў камянь угару. Угору падымі галаву, дык убачыш. *В. Старына.*

**Угары**, *прс.* — вверху. На яблынца толька ўгары штук пяць яблыкаў вісіць. *В. Старына.*

**Угатавацца**, *дзс.*—хорошо сварится. Крупнік добра ўгатавоўся. *В. Старына.*

**Угіраваць**, *дзс.* — суметь управить лошадью. Ён ашчэ ня ўгіруя каня. *В. Старына.*

**Угледзець**, *дзс.* — увидеть, заметить. І ня ўгледзяў, калі ён вышаў с хаты. *В. Старына.*

**Угнойваць**, *дзс. (зак.* **угнаіць**, *прм.* **угноены***)* — удобрять. Мала ў іх гною, німа чым угнойваць поля. Добра ўгнаілі адну палоску. Угнояная поля дык і родзіць. *В. Старына.*

**Угнявіць**, *дзс.* — разгневить. Ціпер, ік угнявілі яго, дык лепяй ня падхадзі к яму. *В. Старына.*

**Угодкі**, аў, *мн.* — годовина. Справілі па бацьку ўгодкі. *В. Старына.*

**Угрэцца**, *дзс.* — сильно согреться, разогреться. За работаю так угрэўся, аж пот пашоў. *В. Старына.*

**Удалы**, *прс. (прм.* **удала***)* — ловкий, красивый, удачный. Удалая яна дзяўчынка: і работніца, і стройная... Удалы яго плужок: роўна йдзе й добра сьцеля. Так удала пяе, аж люба слухаць! *В. Старына.*

**Удар**, у, *м.* — недомогание от ушиба. Лечат заговорами.

„Сіні - камянь разьбівайся,
і удар мінайся!".

*З загавору С. Навасёлкі, Пух. раён.*

**Ударнік**, а, *м.* — колючник обыкнов. (Carlina vulgaris L.); парят в нем побитые места на теле. Трэба ўдарніку назьбіраць ды выпарыць ў ём руку, што пабіў, ато баліць. *В. Старына.*

**Удача**, ы, *ж.* —1) удача. Ні ў чом німа ўдачы.—2) неудачник. От дзе ўдача сынок: ні ён табе араць, ні ён табе касіць—нічога ня ўмея і ня здалея! *В. Старына.*

**Удвая**, *прс.*—вдвойне. Удвая злупілі з міне за работу. *В. Старына.*

**Удвух**, *прс.* — вдвоем. Пойдам мы ўдвух. *В. Старына.*

**Удзельнік**, а, *м.* — соучастник. Які ты тут удзельнік — тут нічога твайго німа. *В. Старына.*

**Удзень**, *прс.* — днём. Удзень прыходзь ка мне, абы ўвечара я ня буду дома. *В. Старына.*

**Удоўж**, *прс.* — вдлину. Удоўж пабаранавоў па два разы, а ўпапярок па разу. *В. Старына.*

**Удражніць**, *дзс.* — раздражить болячку, нарыв. Удражніў скулу, дык яна аж есца! *В. Старына.*

**Удрызіну**, *прс.* — вдребезги. Патапталіся мае лапці ўдрызіну. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Удубальт**, *прс.* — вдвойне. Удубальт заплаціў кавалю, што плуг настроіў, *В. Старына.*

**Удушша**, а, *н.* — удушье, астма. Вот удушша — ніяк ня дасьць здыхацца! *В. Старына.*

**Удырыць**, *дзс.* — ударить; употребляется редко, преимущественно, когда говорится о холоде, морозе. Удырыў холад, аж ня вытрымаць! *В. Старына.*

**Уесьціся**, *дзс.*—1) врезаться. Вяроўка ўелася ў цела.—2) сильно надоесть. Уеўся ён мне ў косьці!..—3) с аппетитом есть что; в данном скучае слово употребляется с отрицанием **не.** Капуста смашная, аж ня ўесьціся! *В. Старына.*

**Уехаць**, *дзс.* — проехать. Сягоньня я здорава ўехаў на кані — вёрст сорак. *В. Старына.*

**Ужо**, *прс.* — уже. Ужо й ты тут! Ужо ўсё кончана. *В. Старына.*

**Ужываць**, *дзс.* — употреблять. Ік пастарэў Язэп, дык меняй стоў ўжываць гарэлкі. Яны ўжываюць яду! (Знач., хорошо едят). *В. Старына.*

**Уз**, *прыйм. з він. скл.* — возле. Ідзі так уз дарогу. Пілуй уз рысу. *В. Старына.*

**Узапасіць**, *дзс.* — призапасить. Узапасілі дроў на зіму. *В. Старына.*

**Узараць**, *дзс. (прм.* **узораны***)* — вспахать. Да полудню ўзароў усю палоску. За гумном аж да гары ўзорана. *В. Старына.*

**Узахвоціцца**, *дзс.* — изъявить желание. Сам узахвоціўся паехаць, я яго ня гноў. *В. Старына.*

**Узбок,** *прс.* — стороною. Вядзi каня ўзбок, а ня мяжою. *В. Старына.*

**Узгадавацца,** *дзс.* — возрасти, воспитаться. Каб ты ня ўзгадавалася еткая дзiцятка! *(Кляцьба). В. Старына.*

**Узгадаць,** *дзс.* — вздумать что капризничая. Чаго толька ня ўзгадая — дай ёй. *В. Старына.*

**Узглёнд,** у, *м.* *(польск.* wzgląd) — взгляд. Яго ўзглёнд нейкi сярдзiты. *В. Старына.*

**Узгорак,** рка, *м.* *(пам.* **узгорачак)** — холм. Вятрак стаiць на ўзгорку. Дажалiся аж да ўзгорачка. *В. Старына.*

**Уздаражэць,** *дзс.* — вздорожать. Хлеб iзноў уздаражоў. *В. Старына.*

**Уздужаць,** *дзс.* — осилить что. Ужо ня ўздужаю адзiн мяшка падняць. *В. Старына.*

**Уздумаць,** *дзс.* — вспомнить. Нiяк ня ўздумаць, дзе ета было. *В. Старына.*

**Уздыхаць,** *дзс.* *(зак.* **уздыхнуць)** — вздыхать. Нiчога ня кажа ён, толька цяжка ўздыхая. За работаю нiма калi лягчэй i ўздыхнуць. *В. Старына.*

**Узiрацца,** *дзс.* — пристально всматриваться. Нечага ўзiрацца на мiне! Чаго ты ўзiраясься—ня бачыў мiне цi што? *В. Старына.*

**Узлаваць, - цца,** *дзс.* — рассердить, -ться. Узлавоў ты бацьку—чыстая бяда з iм! Узлавоўся ён, аж кiпiць! *В. Старына.*

**Узнасiцца,** *дзс.* — прийти в сильную радость. Чаго ты ўзнасiўся, зараз будзяш плакаць! *В. Старына.*

**Узор,** а, *м.* — образец для вышивок. Мархва вышыла рушнiк с узораў. Во пазiрай на ўзор ды вышывай. *В. Старына.*

**Узрасьцi,** *дзс.* — возрасти. Каб ты ня ўзрасло, ашчэ маладзенькая! *(Кляцьба). В. Старына.*

**Узьбiцца,** *дзс.* — 1) взобраться на верх чего. Узьбiўся на печ ды сядзiць.—2) зажиться чем. Каб як узьбiцца на другую кароўку. Каб узьбiцца на сваю гаспадарку. *В. Старына.*

**Узьвiжаньне,** я, **узьдзьвiжаньне,** я, *н.* — Воздвижение (14 сентября). На ўзьвiжаньня зьежджу к цешчы ў госьцi. *С. Амельна, Пух. р.* На ўзьдзьвiжаньня павяду карову прадаць у Сьмiлавiчы. *В. Старына.*

**Узьдзябурыцца,** *дзс.* — вскарабкаться, с трудом взобраться, взлезть. Чуць узьдзябурыўсi на каня. Няможа ён сам узьдзябурыццы на воз. *В. Крамянi, Пух. р.*

**Узьдзябурыць,** *дзс.* — одеть, напялить на себя что. Узьдзябурыў мой кажух ды пашоў. *В. Старына.*

**Узьёхацца,** *дзс.* — рассердиться и кричать. Чаго ты етак узьёхаўся, што аж людзi папужалiся?! *В. Старына.*

**Узьяжджаць,** *дзс.* *(зак.* **узьехаць)** — вз'езжать. Хурманкi ўзьяжджаюць на мост. Узьехаў з возам на дзiця. *В. Старына.*

**Узьмежак,** жка, *м.* — полоса вдоль межи. Ня йдзi самаю мяжою, а ўзьмежкам. *В. Старына.*

**Узьмяшаць,** *дзс.* *(прм.* **узьмешаны)** — вспахать поле под посев. Узьмяшоў пад ячмень. На грэчку ўжо ўзьмешана. *В. Старына.*

**Узяць,** *дзс.* — взять. Голымi рукамi ты яго ня возьмяш. Нехта ўзёў мой тапор. *В. Старына.*

**Узяць** *на цыгуньдзер* — сделать кому нагоняй. Я-ж яго вазьму на цыгуньдзяр! *В. Старына.*

**Указiк,** а, *м.* — маленькая указка для букваря. Хведар указiкам папароў усе буквы. *В. Старына.*

**Укакацца,** *дзс.* *(дзiцяч.)* — о ребенке, — испражниться, опачкаться. Дзiця ўкакалася ў пялёнкi. *В. Старына.*

**Укапнуць,** *дзс.* — 1) пролиться большому дождю. Сягоньня ўночы здаровы дождж укапнаў!—2) сильно похлестать кого. Iк укапнаў каню пугi, дык панёсься, аж ня стрымаць! *В. Старына.*

**Укаранiцца,** *дзс.* — укорениться. Укаранiлiся ў гумне вiшнi й нiяк iх ня вывясьцi. *В. Старына.*

**Укарацiць,** *дзс.* — обкоротить. Трэба ўкарацiць канец, ато доўгi. *В. Старына.*

**Укарміць,** *дзс.* — накормить. Вот есьць кабыла — ета-ж яе й ня ўкарміць нам! *В. Старына.*

**Уквэцаць,-цца,** *дзс. (прм.* **уквэцаны)** — умарать,-ться. Рукі ўквэцаў і ўвесь уквэцаўся нейдзя ў дзёгаць. Так і ходзіць уквэцаны. *В. Старына.*

**Укеміць,** *дзс.* — запомнить, заметить. Ня ўкеміў я, каторы з іх там быў. *В. Старына.*

**Укінуцца,** *дзс.* — 1) впасть. Укінулася дзіця ў калодзіж. — 2) появиться болезни, несчастью. Укінулася ў статак нейкая хвароба. *В. Старына.*

**Укленчыць,** *дзс. (польск.* uklęczyć*)* — стать на коленях. Укленчыў пярад ім ды давай прасіцца! *В. Старына.*

**Уклюнуцца,** *дзс.* — напасть болезни. Уклюнулася нейкая хвароба ў нашы куры. *В. Старына.*

**Укляпацца,** *дзс.* — 1) сделать промах, не разобравшись в чем. Добра трэба разглядзець, каб ня ўкляпацца. — 2) неудачливо влюбиться. Укляпаўся ў старую дзеўку. *В Старына.*

**Украдке,** *прс.* — украдкою. Усё робіць украдке ад бацькоў. Украдке купіў сабе стрэльбу. *В. Старына.*

**Украсьці,** *дзс. (прм.* **украдзены)** — уворовать. Уночы ў нас з двара нехта хацеў калёса ўкрасьці. Ты ўкроў мае грошы! Нож быў востры, ік брытва, але ўкрадзяны. *В. Старына.*

**Укроп,** у *м.* — укроп огородный (Anethum graveolens L.). У вагурке трэба ўкропу палажыць, дык будзя расол смашнейшы. *В. Старына.*

**Укрывулю,** *прс.* — зигзагом. Ходзіць укрывулю, усяроўна ік п'яны. *В. Раўнаполле, Сьміл. р.*

**Укрыўдзіць,** *дзс.* — сильно обидеть. Малога ўкрыўдзілі, дык горкамі сьлязьмі плача. *В. Старына.*

**Уладзіць,** *дзс.* — угодить кому. Хіба ты етуй скуле ўладзіш? *В. Старына.*

**Улазіны,** ін, *мн.* — новоселье. Кончым хату ды справім улазіны. *В. Старына.*

**Улегца,** *прс.* — налегке, порожняком. Улегца й паехалі дамоў, нічога ня набралі. *В. Старына.*

**Улетку,** *прс.* — летом. Улетку можна й босаму бегаць. *В. Старына.*

**Улоньне,** я, *н.* — 1) лоно. Узяла дзіця на ўлоньня. — 2) охапка. Прынёс у хату ўлоньня дроў. *В. Старына.*

**Улукаткі,** *прс.* — *гл.* **Укрывулю.** Бегая ўлукаткі, і ніяк яго ня зlavіць. *В. Старына. (Пр.* **Лукатка***)*.

**Улучыць часіну,** — улучить время. Улучы часіну ды прыходзь ік нам. Во аж калі ўлучыў мінутку, каб праведаць бацькоў. *В. Старына.*

**Улягаць,** *дзс. (зак.* **улегчы***)* — 1) упорно гнаться за кем, преследовать. Сабакі ўляглі за зайцам. Ік улёг да ўлёг за ім, дык і дагноў.—2) усердно браться за работу. Ік улягу вот етак, дык, ік пабачыш кончу работу. — 3) настойчиво ухаживать. Вельма-ж ён улягая за Тэкляю! *В. Старына.*

**Улякнуць,-цца,** *дзс.* — сильно испугать,-ться. Улякнуў дзіця. Улякнулася дзеўка ды захварэла. *В. Старына.*

**Уляцець,** *дзс.* — 1) влететь. У сенцы вярабейчык уляцеў. — 2) быстро вбежать. Уляцеў у хату ён, ік шалёны.—3) в перен. см. Уляціць табе за ета—вот пабачыш! *В. Старына.*

**Умалёгаць,** *дзс.* — с трудом упросить. Чуць умалёгалі музыку, каб пайгроў на вячарынца. *В. Старына.*

**Умалот,** у, *м.* — умолот. Жыта сёголята мая слабы ўмалот. *В. Старына.*

**Умалотны,** *прм.* — умолотный. Умалотны наш авёс. Умалотная пшаніца. *В. Старына.*

**Умарацца,** *дзс.* — обмараться. Умароўся ў гразь. Дзіця ўмаралася ў люльца. *В. Старына.*

**Умараць,** *дзс.* — обмарать. Рукі ўмароў у сажу. *В. Старына.*

**Умасьціцца,** *дзс.*—усесться в тесноте. Тут і так цесна, — ашчэ ён умасьціўся... *В. Старына.*

**Умасьціць,** *дзс.* — 1) вставить какойлибо предмет в тесноте. Куды ты ўмасьціў свой мех: тут і так

нельга...—2) устроить кого в должности, в учебн. заведение. Такі ўмасьціў ён свайго дурня нейдзя ў Мінску на службя. *В. Старына.*

**Умацаваць,-цца,** *дзс.* — укрепить, укрепиться чему, войти в силу. Умацавоў шула на сто гадоў. Умацавоўся тут ды сядзіць ужо гадоў з пяць. Квас добра ўмацавоўся. *В. Старына.*

**Умежак,** жка, *м.* — межа. Конь грызе умежак. Схавоўся пад умежак. *В. Старына.*

**Умеру,** *прс.* — вмеру. Усё трэба ўмеру рабіць: і есьці, і рабіць, і гуляць. *В. Старына.*

**Умесны,** *прм.* — совместный, общий. У іх малатарня умесная. *В. Старына.*

**Умесьнік,** а, *м.* — участник в чем. Хіба-ж ён ня ўмесьнік у сваёй бацькаўшчыня? *В. Старына.*

**Уметнік,** а, *м.* — закром в гумне для крупной мякины из колосьев. З уметніка ўжо ўсё выбралі. *В. Старына.*

**Умеці,** яй, *мн.* — крупная мякина из колосьев. Гнілыя ўмеці: карова ня хоча есьці. *В. Старына.*

**Умецьце,** я, *н. зб.* — мякина. Дробная, харошая наша ўмецьця. *В. Старына.*

**Умітуські,** *прс.* — поворачиваясь в различные стороны. Умітуські бегаюць дзеці, і ня разабраць іх. *В. Старына.*

**Умлець,** *дзс.* — сильно обомлеть. Ат страху так умлеў, аж валасэ дыбам пасталі. *В. Старына.*

**Умомант,** *прс.*—моментально, в один момент. Умомант прыскочыў сюды. *В. Старына.*

**Умураваць,** *дзс. (прм.* **умураваны***)*— замуровать в кирпичую стену. У ету сьцяну, кажуць, пан быў дзеўку ўмуравоў. Знашлі грошы, умураваныя ў сьцяне. *В. Старына.*

**Умурзацца,** *дзс. (прм.* **умурзаны***)* — обпачкаться (собственно лицом около рта). Дзіцянё ўмурзалася ў кашу. Малога трэба абмыць, ато ўвесь умурзаны. *В. Старына.*

**Унадзіцца,** *дзс.* — повадиться. Унадзіліся чужыя парасята ў вагарод лазіць. *В. Старына.*

**Унаравіць,** *дзс.* — угодить. Ік ліхой скуле той, ня ўнаравіць яму. *В. Старына.*

**Уніз,** *прс.* — вниз. Злазь з вішні ўніз. *В. Старына.*

**Унізу,** *прс.* — внизу. Картопля, што ляжала ўнізу ў пограбя, дык уся пагніла. *В. Старына.*

**Уночы,** *прс.* — ночью. Уночы прыехалі с поля. *В. Старына.*

**Унук,** а, *м. (пам.* **унучак***)* — внук. Даждалася ўжо Паладзьдзя і ўнукаў. Унучак мой, падай мне піць! *В. Старына.*

**Унука,** і, *ж. (пам.* **унучка***)*—внучка. Да бабы прыехала ўгосьці ўнука. Унучца баба дала гасьцінца. *В. Старына.*

**Уныць,** *дзс.* — замереть от страха. Ік крыкнаў, аж усе ўнылі! *В. Старына.*

**Упадак,** дку, *м.* — упадок, понижение; употребл. при клятьбе. Каб на цібе ўпадак найшоў! *В. Старына.*

**Упадобаць,** *дзс.* — полюбить. І стройнаю-ж дзяўчыну ўпадобаў ён! *В. Старына.*

**Упазьніць,** *дзс.* — с опозданием произвесть посев. Упазьніў авёс, дык і прапоў. *В. Старына.*

**Упаліць,-цца,** *дзс.* — разжечь,-чься. Трэба, каб ужо сьнеданьня было гатова, а тут ня ўпаліць дроў у печы. Чуць упаліліся дрова ў печы. *В. Старына.*

**Упамкі,** *прс.* — в память. Мне ета й ня ўпамкі. *В. Старына*

**Упапялець,** *дзс.* — обратиться в пепел, прах (клятьба). Каб ты ўпапялела етакая дзіцятка! *В. Старына.*

**Упапярок,** *прс.* — вопоперек. Палажы дошку ўпапярок. *В. Старына.*

**Упарты,** *прм.* — упрямый. Упарты, ік казёл. *В. Старына.*

**Упарціна,** ы, *аг.* — упрямец,-мица. Упарціна ета ня вельма што паслухая цібе. *В. Старына.*

**Упатрэбіцца,** *дзс.* — пригодиться. Уськінь на воз ету вярхавіцу: дома на што ўпатрэбіцца. *В. Старына.*

**Упатрэбіць,** *дзс. (прм.* **упатрэблены)** — употребить. Усяе мукі на пірагѐ ня ўпатрэ̀біла, ашчэ троха выстаrлася. Усе цьвіхе ўпатрэбляны й ашчэ мала *В. Старына.*

**Упаўголаса,** *прс.* — вполголоса. Упаўголаса прагаварыў, і ніхто ня чуў. *В. Старына.*

**Упачатку,** *прс.* — вначале. Упачатку й нам трудна было, ік абзаводзіліся сваею гаспадаркаю. *В. Старына.*

**Уперад,** *прс.* — прежде, раньше. Мы ўперад прышлі, а вы посьля. *В. Старына.*

**Упікаць,** *дзс. (зак.* **упікнуць)** — попрекать. Нашто усякі раз упікаць тым самым? Во чым ён упікнуў — прыпомніў тоя, што нет ведама калі было. *В. Старына.*

**Упілнаваць,-цца,** *дзс.* — устеречь, -чься. Хіба ня ўпілную злодзяя, ік злаўлю, дык будзя помніць! Ня ўпілнавацца ат курэй: усе грады пагрэблі. *В. Старына.*

**Упіраць** *(з чым),* — испытывать в чем-либо крайнюю нужду. Ашчэ аддам табе грошы, ня вельма-ж табе ўпірая. Яму ўпірая с хлебам. *В. Старына.*

**Упіхаць,** *дзс. (зак.* **у(ва)пхнуць)** — впихивать. Сілаю нечага ўпіхаць, калі ніхто ня хоча браць. Увапхнуў сена ў мех. Зараз я табе ложку ўпхну ў горла! Маўчы лепяй! *В. Старына.*

**Уплесьці,** *дзс.* — 1) вплесть. Упляла ў касу істужку. — 2) обхватить руками. Уплёў яго аберуч ды трымая. *В. Старына.*

**Управа,** ы, *ж.* — управа. Думаяш, я на цібе ўправы ня найду, ці што? *В. Старына.*

**Упраўка** і, *ж.* — успех в работе. Аднаму ня ўпраўка ў рабоця. Ашчэ ў нас ня ўпраўка с сенам. *В. Старына.*

**Упраўны,** *прм.* — скоро, с успехом справляющийся с делом. Які ты ўпраўны ў міне! *В. Старына.*

**Упроч, упрочкі,** *прс.* — прочь, куда глаза глядят. Упроч зьбірайся, а жыта сей. *Прык. В. Загай, Пух. р.* Ці ня хочаш ты міне выправіць упрочкі, што ясіся кажды дзень? *В. Старына.*

**Упыліцца,** *дзс. (прм.* **упылены)** — запылиться. Увесь упыліўся ў муку. Ня бяры дзіцяці: ты ўвесь упыляны. *В. Старына.*

**Упэўніць,-цца,** *дзс.* — уверить,-ться. Ён уперад быў упэўніў міне, што пазычыць грошай, а ціпер ня хоча. Трэба самому ўпэўніцца, ці так яно, як кажуць. *В. Старына.*

**Упэцкаць,-цца,** *дзс. (прм.* **упэцканы)** — обпачкать,-ться. Сабака ўпэцкаў морду ў цеста. Упэцкаўся, ік той чорт. Рукі ўпэцканыя ў гной, а ён хлеб бярэ. *В. Старына.*

**Урабляць,** *дзс. (зак.* **урабіць,** *прм.* **уроблены)** — обрабатывать землю, тщательно ее разрыхляя и достаточно удобряя. Адным канём урабляям сваю палавінку, няўзаметку. Во, калі добра ўрабіў зямлю, дык і радзіць стала. *В. Старына.*

**Ураджэнец,** нца, *м.* — уроженец. Ён з другоі губэрні ўраджэняц. *В. Старына.*

**Урадлівы,** *прм.* — урожайный. Урадлівы сяголята год. Наша картопля ўрадлівая. *В. Старына.*

**Ураз,** *прс.* — сразу, моментально. Ураз ізьдзелаў і гатова. *В. Старына.*

**Уракаць,** *дзс. (зак.* **уракнуць)** — изурочивать. Вы-ж глядзіця на маю карову, ды хаця ня ўракайця. Парасючка нехта ўрок, дык і прапоў. Каб хаця-ж ня ўракнуць яго! *В. Старына.*

**Уранку,** *прс.* — рано утром. Уранку малацілі. Уранку паказвала на дождж, а посьля распагодзілася. *В. Старына.*

**Урасіцца,** *дзс.* — обмочиться росой. Аж па калені ўрасіўся. *В. Старына.*

**Уратаваць,-цца,** *дзс.* — защитить, -ться. Людзі найшлі ды ўратавалі ат ваўкоў карову с целям. Чуць ураталіся ат пажару. *В. Старына.*

**Уробіць,-цца** *дзс. (прм.* **уроблены)** — обпачкать,-ться. Урабіў рукі ў дзёгаць. Уробіўся нейдзя ў гразь. Кажух уробляны ў цеста. *В. Старына.*

**Урода**, ы, *ж.* — природа, характер. Яго ўрода такая, каб сьцягнуць, калі што ёмка ляжыць. *В. Старына.*

**Урок**, у, *м.* — недомогание от плохого глаза; лечат заговорами. Баба Марыся лечыць ат усякага ўроку. Дзіця баіцца ўрокаў. *В. Старына.*

**Урунець**, *дзс.* — зазелениться. Жыта добра ўрунела. *В. Старына*

**Уручкі**, *прс.* — вровень с верхними краями телеги. Сена наброў усяго уручкі. Снапоў там было ўручкі. *В. Старына.*

**Урыжавацца**, *дзс.* — об огне: сильно разгореться. Страшэнны пажар быў: агонь ік урыжаво̆ўся, дык чуць рады далі. *В. Старына.*

**Урэзаць**, *дзс.*—1) обрезать Доўгая дошка, трэба троха яе ўрэзаць. — 2) отрезать. Урэж мне хлеба *В. Старына.*

**Урэпіцца**, *дзс.* — пристать к чему-либо одному. Урэпіўся ў вадно места ды пазірая. Ня знойдзя ён сабе лепшаі дзеўкі — урэпіўся ў нейкаю падлу. *В. Старына.*

**Усердзіць,-цца**, *дзс.* — рассердить, -ться. Усердзілі прадсядацяля — ціпер і ня патыкайся к яму! Ік усердзіўся ён, дык чуць ня йзьзеў міне! *В. Старына.*

**Усесьціся**, *дзс.* — усесться. Каб як добра тут усесьціся. Усеўся й ані скранецца з места. *В. Старына.*

**Ускінуць**, *дзс.* — 1) взбросить. Ускінь ета палена на воз. Клёпкі ўскінаў на гару (на чердак). — 2) побить кого. Ускінаў яму чыста-коліны, ня шкадуючы. *В. Старына.*

**Ускладаць**, *дзс.* (*зак.* **ускласьці**) — взводить напраслину, клевету. Нечага на міне ўскладаць бяды. Сам шкоду зрабіў, а на другога ўскладая. На міне ўсклоў сваю віну. *В. Старына.*

**Ускорасьці**, *прс.*— вскоре. Ускорасьці й мы вярнуліся. *В. Старына.*

**Ускрасаць**, *дзс.* (*зак.* **ускрэснуць**) — 1) воскресать. Ці-ж ета проўда, што мяртвыя будуць ускрасаць?— 2) перен. подниматься, поправляться в материальном отношении. Ты там ня прападзеш, але й ня ўскрэсьняш. *В. Старына.*

**Ускруціцца**, *дзс.* — рано встать. Ускруцілася сягоньня мая гаспадыня ашчэ да пеўняў. *В. Старына.*

**Ускруціць**, *дзс. безас.* — рано поднять со сна. Ускруціла яго нячыстая да поўначы. Чаго цібе етак рана ускруціла! *В. Старына.*

**Усмакавацца**, *дзс.* — войти во вкус. Хай усмакуяцца, дык будзя есьці. *В. Старына.*

**Успамінаць**, *дзс.* (*зак.* **успомніць**) — вспоминать. Нечага ўспамінаць пра леташні сьнег! *В. Старына.*

**Успаўзьці**, *дзс.* — всползти. Мурашка хоча ўспаўзьці на грудку. Малы ўспоўз на стол. *В. Старына.*

**Усплавіна**, ы, *ж.* — мох и трава, плотно сросшиеся и окаймляющие озеро или берега реки, а также находящиеся среди болота. Ня лезь даляй — там усплавіна! Карова ўзьбілася на ўсплавіну — ашчэ ўтопіцца. *В. Лядцо, Пух. р.*

**Усплысьці**, *дзс.* — всплыть. І на верх усплысьці ня ўсплыве. *В. Старына.*

**Усрацца**, *дзс.* — 1) внезапно испражниться. Бедны, с таго сполаху аж у штанэ ўсроўся! — 2) осрамиться. Узёўся за работу — ды ўсроўся. *В. Старына.*

**Устадоліцца**, *дзс.* — успокоиться. Прадсядацяль нічога ня гаварыў, пакуль народ ня ўстадоліўся. *В. Клятное, Пух. р.*

**Установа**, ы, *ж.* — установленный, заведенный порядок, обычай. Дурная ўстанова етыя хрэзьбіны: толька патрата адна. *В. Старына.*

**Устаўляць**, *дзс.* (*зак.* **уставіць**) — вставлять. Шкляр устаўляя нам новыя вокна. Уставілі падвойныя рамы. *В. Старына.*

**Устрымацца**, *дзс.*—удержаться. Ня мог ты ўстрымацца, узёў ды ляпнаў. *В. Старына.*

**Устрэнчыць**, *дзс.* — угодить капризам. Ліха яму ўстрэнчыць,—такоя благоя дзіцянё! *В. Старына.*

**Усхадзіцца,** *дзс.*—разбушеваться. Усхадзілася бура, аж дрэвы крышыць! *В. Старына.*

**Усхапіцца,** *дзс.*—взняться. Усхапілася скула на руцэ. Усхапіўся раптам вецяр. *В. Старына.*

**Усход,** у, *м.*,—1) восход. Устоў пярад усходам сонца.—2) восток. Араплан проста так і паляцеў на ўсход. *В. Старына.*

**Усцацца,** *дзс.*—умочиться. Ня было тае ночы, каб еты сікун ня ўсцоўся. *В. Старына.*

**Усыпаць,** *дзс.*—1) всыпать. Картоплю ўсыпалі ў яму.—2) побить кого хорошенько. Усыпалі яму па першая числої *В. Старына.*

**Усьпіраць,** *дзс.* (*зак.* **усьперці**)—1) поднимать. Стоў на плечы ўсьпіраць мех, а ён парвоўся. Аднаму ня ўсьперці шаснасткі з жытам на кош (у млыня).—2) напяливать на себя одежду. Нашто табе ўсьпіраць на свой маздан дзяцінаю шапку,—каб парваць яе? Усьпёр на сібе мой кажух. *В. Старына.*

**Усьпісваць,** *дзс.* (*зак.* **усьпісаць**)—отписывать имущество. На'днаго сына ня трэ'бала ўсьпісваць усяе гаспадаркі. Усьпісоў на дачку палавіну будоўлі. *В. Старына.*

**Усьцерагчы,-чыся,** *дзс.*—устеречь, -чься. Каб як усьцярагчы каноплі ат курэй. Ня ўсьцярагчыся ат чужых сьвіньней: усё гумно парылі. *В. Старына.*

**Усьцюбіцца,** *дзс.*—взлезть, взобраться. Каню й так цяжка, а ён ашчэ ўсьцюбіўся на воз. *В. Старына.*

**Усюды, усюдых,** *прс.*—везде. Усюды ён табе трапіць, проста дзіва! Усюдых ён пабывоў. *В. Старына.*

**Усядно,** *прс.*—всёравно. Усядно мне —ці тут, ці там. *В. Старына.*

**Усяк,** *прс.*—всяк,—о. Усяк бывая. *В. Старына.*

**Усякі,** *прм.*—всякий. Хочаш каб усякі на цібе пальцам паказваў. *В. Старына.*

**Усяночная,** ае, *ж.*—всенощная. Нашы паехалі ў Сьмілавічы на ўсяночнаю. *В. Старына.*

**Усяроўна,** *прс.*—всеравно. Усяроўна—ці так, ці етак. *В. Старына.*

**Усячына,** ы, *ж.*—всячина. Усякая ўсячына там была. *В. Старына.*

**Утарэпіцца,** *дзс.* (*літ.* **утаропіцца**)—вперить взор. Чаго ты ўтарэпіўся, ці ты ня бачыў? *В. Старына.*

**Утлумачыць,** *дзс.*—вбить в голову знания, раз'яснить что. Вот галава! ніяк ня ўтлумачыць яму. *В. Старына.*

**Уток,** у, *м.*—уток. Нітак хваціла толька на'дзін уток. *В. Старына.*

**Утрата,** ы, *ж.*—потеря. Вялікая ўтрата мне была з етаю купляю. *В. Старына.*

**Утраціць,** *дзс.*—потерять на чем. Ня зарабіў, а ўтраціў на парсюку. *В. Старына.*

**Утрая,** *прс.*—втрое. У яго ўтрая усяго боляй, ік у нас. *В. Старына.*

**Утупіцца,** *дзс.*—заупрямиться и стать на месте. Утупіўся, ік казёл той, і ня кранецца. *В. Старына.*

**Утушыць,** *дзс.*—погасить. Ня ўтушыць пажару—вецяр кідая цяпло нет ведама куды! Чуць утушылі пажар. *В. Старына.*

**Утыкаць,** *дзс.* (*зак.* **уваткнуць**)—втыкать, всаживать. Ня ўтыкай іголкі ў падушку. Уваткні свой язык—ведаяш, куды! *В. Старына.*

**Утыкаць, уваткнуць нос,**—соваться в чужое дело. Нечага ўтыкаць свайго носа ў наша дзела! І ты ашчэ ўваткні сюды свой нос! *В. Старына.*

**Утышчыцца,** *дзс.*—всунуться, пролезть. Народу етулька сабралася, цясната, а ён-жа вот не'к утышчыўся аж у самаю сярэдзіну. *В. Старына.*

**Ухадзіцца,** *дзс.*—управиться с работою, с делом. Чуць ухадзіўся с сваею работаю. *В. Старына.*

**Ухапіць,-цца,** *дзс.*—1) ухватить что, ухватиться, взяться быстро за что. Ня вельма што ты там ухопіш. Ухапіўся за жэрдку. —2) получить от кого побранку, неприятность. А што—ухапіў? я казоў, ня чапайся лепяй з ім! *В. Старына.*

**Ухібіць,** *дзс.*—сделать ошибку, промах. Ніколі ён табе ня ўхібіць. *В. Старына.*

**Ухмыляцца,** *дзс.*—ухмыляться, тихо смеяться. Ухмыляяцца сабе ў бараду. *В. Старына.*

**Уходаць,** *дзс.*—1) убить кого. Завялі нейдзя аднаго, ды ўходалі.—2) сожрать что, Адзін уходаў етакі кусок сала! *В. Старына.*

**Уцерпіць,** *дзс.*—утерпеть. Ня ўцерпіў—такі выпіў. *В. Старына.*

**Уцерціся,** *дзс.*—1) вытереться полотенцем. Хай-ба ты ўцёрся лепяй, ато хутчэй есьці. На, во рушнік, утрыся.—2) надоесть кому в высш. степ. От дзе злодзяй: усяму сялу ўцёрся! *В. Старына.*

**Уцеха,** і, *ж.*—утешение. Дзеткі іх—адна ўцеха. *В. Старына.*

**Уціра,** ы, *ж.*—потеря, урон. Усім уціра ат етаі вайны. *В. Старына.*

**Уціральнік,** а, *м.* — полотенце для утирания. Дайця чысты ўціральнік пацерціся. *В. Старына.*

**Уціраха,** і, *ж.*—снаряд для терки льна, с двумя языками. Наша ўціраха добра ўціраяя лён. *В. Вострава, Сьміл. р. (Пр.* **Церніца, Ламаха***).*

**Уціраць,-цца,** *дзс. (зак.* **уцерці,-ціся***)* — утирать, вытирать, - ться. Павесьця рушнік рукі ўціраць. Уціраясься ты з гадзіну. Дзіцяці німа чым уцерці. Утрыся-ж ты харашэнька! *В. Старына.*

**Уціскаць,** *дзс. (зак.* **уціснуць,** *прм.* **уціснуты***)*—увязывать воз с сеном, соломою и проч. подр. посредством веревки и жердки—„рубля". Зараз накладом вазэ ды будам уціскаць. Добра ўцісьні воз, каб сена ня раскідалася. Слаба быў уціснуты воз, дык снапэ й раз'ехаліся. *В. Старына.*

**Уціхаміныць,-цца,** *дзс.*—успокоить, -ться. Німа каму етых дзяцей уціхамірыць. Хай хвіля ўціхамірыцца. *В. Старына.*

**Уцяжку,** *прс.* — быть беременной. Альжбета ходзіць уцяжку. Наша нявестка ўжо йзноў уцяжку. *В. Старына.*

**Уцякаць,** *дзс. (зак.* **уцячы***)* — удирать. Уцякайма, хлопцы, ат'етуль! Вот папоўся—і ўцячы німа куды! Уцёк—і памінай, як звалі яго! *В. Старына.*

**Уцям,** *прс.*—в память; употребл. с отр. **не (ня).** Нешта ета мне ня ўцям. *В. Старына.*

**Уцяміць,** *дзс.*—уразуметь. Ніяк ня можа ўцяміць нічога. *В. Старына.*

**Уцямнець,** *дзс.*—сильно почернеть. Уцямнеў ён і ўчарнеў ад гора. *В. Старына.*

**Уцяць,** утну, утнеш, *дзс.*—1) усечь, урвать. Ні ўцяць, ні ўзяць яго!—2) укусить, угрызть. Цьвёрды яблык—аж зубамі ня ўцяць яго. —3) больно ударить. Такі ўцяў яго! *В. Старына.*

**Учадзець,** *дзс.*—угореть. Учадзяў, аж у вушшу зьвініць. *В. Старына.*

**Учапіцца** *дзс.*—уцепиться. Учапіўся за сук ды парвоў жакетку. *В. Старына.*

**Учарнець,** *дзс.*—сильно почернеть, потемнеть. Учарнеў чалавек, ік галавешка. *В. Старына.*

**Учацьвярых,** *прс.*—вчетвером. Учацьвярых чуць паднялі калоду. *В. Старына.*

**Учуць,** *дзс.*—услышать, послышать. Дзе што ўчуя, дык і пяракажа бацьком. *В. Старына.*

**Учыняць,** *дзс. (зак.* **учыніць***)*—заквашивать хлеб или блины. Зоўтра йзноў прыдзяцца ўчыняць хлеб. Учыніла цеста на хлеб. Учыніла картапляных бліноў. *В. Старына.*

**Ушалопацца,** *дзс.*—опознаться. Ушалопаўся ў чужую каніну, узёў яе ды вядзе. *В. Старына.*

**Ушалопаць,** *дзс.*—1) уразуметь. Добра ня ўшалопаў ды кажа посьля чорт ведая што.—2) взять что на ум. Дурань што ўшалопая ды ляпая. *В. Старына.*

**Ушпыліць,** *дзс.*—нахлестать хорошенько. Ушпыліў яму папружкі добра! *В. Старына.*

**Ушчаць,** *дзс.* — почать. Ізноў яны ўшчалі сварку. *В. Старына.*

**Ушчуваць,** *дзс. (зак.* **ушчунуць***)*—усмирять, вразумлять. Німа каму етых дзяцей ушчуваць, дык і

ходзяць на галаве. Бяда з етымі малымі, ніяк іх ня ўшчунуць. *В. Старына.*

**Ушчыкнуць,** *дзс.*—ущипнуть. Ушчыкнуў яго, аж сіняк усхапіўся. *В. Старына.*

**Ушчэнт,** *прс. (польск.* wszczęt)—до тла. Ушчэнт сьвіньня зрылі картоплю. *В. Старына.*

**Ушыркі,** *прс.*—вширину. Палатно ўшыркі будзя локці два. *В. Старына.*

**Ушэсьце,** я, *н.*—Вознесение (праздник). На ўшэсьця майму хлапцу кончыцца дзісяты год. *В. Старына.*

**Уядлы,** *прм.*—завзятый в работе. Уядлы с цібе лазавік: усю лазу выкараніў. *С. Амельна, Пух. р.*

## Ф.

**Фанабэрысты,** *прм.*—спесивый, горделивый, чванливый. Такая фанабэрыстая дзеўка, што й ня падхадзі! От дзе фанабэрысты хлопяц! *В.Старына.*

**Фанабэрыцца,** *дзс.* — спесивиться, гордиться, чваниться. Ашчэ фанабэрыцца — падумаяш, етакая цацка! *В. Старына.*

**Фанабэрыя,** і, *ж.* — фанаберия, спесь, чванство, гордость. Усю фанабэрыю зьбілі яму. *В. Старына.*

**Фарангелька,** і, *ж. (польск.* chorągiewka)--хоругвь церковная. Пабралі фарангелькі, будуць хадзіць кругом царквы. *С. Дукора, Сьміл, р.*

**Фатыга,** і, *ж. (польск.* fatyga)—беспокойство. Ня варта й фатыгі траціць, абы ўсяроўна ня выпрасіш. *В. Старына.*

**Філіжанка,** і, *ж. (пам.* **філіжаначка**)—чайная чашечка. Ён п'е малако с філіжанкі. Малому купілі белаю філіжаначку. *В. Вострава, Сьміл. р.*

**Фуліган,** а, *м.*—хулиган. Ета-ж пярвейшы на сяле фуліган. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Фуліганскі,** *прм.*—хулиганский. Фуліганскі ты хлапец! *В. Слопішча, Шацк. р.*

## Х.

**Хаваньне,** я, *н.* — прятание. Якоя тваё хаваньне: пахавоў ігрушы, а нехта знашоў ды паеў. *В. Старына.*

**Хаваць,-цца,** *дзс.*—1) прятать,-ться. Німа куды дабра хаваць. Ня хавайся: усяроўна знайду.—2) хоронить покойника. Ужо павезьлі хаваць Вінцэся. *В. Старына.*

**Хада,** ы, *ж.*—ход. Ну й хада яго: чуць валачэцца! *В. Старына.*

**Хадак,** à, *м.* — 1) ходок, пешеход. Выправілі хадакоў у Сібір агледзіць зямлю.—2) приспособление для упражнения ребенка в ходьбе; состоит из шеста и обруча. Дзіця вучыцца хадзіць у хадаку. *В. Турэц, Сьміл. р.*

**Хаджалы,** *прм.*—бывалый. Ён чалавек хаджалы, шмат дзе чаго бачыў. *В. Старына.*

**Хадзіць,** *дзс.*—ходить. Ходзіць цэлы дзень, нічога ня робіць. Хаджу ўсё ды гляджу, дзе што робіцца. Хадзём пагуляям. Хадзім разам. *В. Старына.* Хаім на вуліцу. Куды ты хаіла? *В. Крамяні, Пух. р.* *—Да вѐтру хадзіць,*—ходить в отхожее место. Хворы сам ня можа й да ветру хадзіць. *В. Старына.*

**Хадуха,** і, *ж.*—*гл.* **хадак,** 2. Дзіця ў хадуся ходзіць, а так ня ўмея ашчэ. *В. Старына.*

**Хай,** *выкл.*—пусть, пускай. Хай сабе етак і будзя! Хай яно лепяй усё праваліцца! *В. Старына.*

**Хакаць,** *дзс.* — позёвывать. Сабака хакая на сонцы. *В, Слопішча, Шацк. р.*

**Халадок,** дку, *м.*—тень. Давай прысядам у халадку. Толька ведая, 'к халадке выціраць, а ня работу рабіць! *В. Старына.*

**Халадэча,** ы, *ж.* — сильный холод. Такая халадэча на дварэ—проста бяда! *В. Старына.*

**Халепа**, ы, *ж.*—снег с дождем. Вот халяпа паваліла — будзя цяпер гразі! *С. Амельна, Пух. р.*

**Халера**, ы, *ж.*—1) холера. Халера схваціла яго.—2) в бранном см. Ты сама халера, нечага чапацца! *В. Старына.*

**Халерны**, *прм.*—(бранное) скверный, противный. От такоя-ж халерная дзіцянё, усё раве ды раве! *В. Старына.*

**Халодная**, ае, *ж.* — холодная, арестантская. Во і папоўся: на суткі пасадзілі яго ў халоднаю. *В. Старына.*

**Халява**, ы, *ж.* — голенище сапога. Халявы парваліся ў ботах. Дурны, ік халява. *В. Старына.*

**Халяўка**, і, *ж.*—короткое голенище в женск. обуви. На гузіках пашыла халяўкі. Доўгія ў тваіх чаравіках халяўкі. *В. Старына.*

**Халяўны**, *прм.* — кожевен. товар, приготовленный для голенищ. Мне трэба дастаць халяўнага тавару на бсты. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Хамут**, à, *м.* — кроме прямого значения, перен.—грубиян, невежа. Хамут ты, што ты зубы скаліш с старога чалавека! *В. Старына.*

**Хамуцік**, а, *м.* — ремешок в виде кольца для прикрепления бича к цепу. Зарубі ў бічу добра галоўку, каб ня сарвоўся хамуцік. *В. Старына.*

**Хапацца**, *дзс.*—1) хвататься за что. Барджэй за хлеб хапаяцца. Ік топісься, дык за брытву хопісься. *Прык.*—2) спешить, стараться в работе. Ня хапайся надта, ато падарвесься. *В. Старына.*

**Хапаць**, *дзс. (зак.* **хапіць***)*—хватать. Проста йз рук хапая, ік сабака. Хапіў мой кусок ды пабег. *В. Старына.*

**Хапіцца**, *дзс.*—1) быстро ухватиться за что. Хапіўся за нож.—2) спохватиться. Хапіўся, да позна ўжо, па чася. *В. Старына.*

**Хапун**, à, *м.* — по народному поверью: чорт, хватающий евреев в ночь под новый год. Прапоў. Абрам: нейдзя хапун яго схапіў. *В. Старына.*

**Харч**, ы, *ж.* — продовольствие. На нёў жней на сваёй харчы. Так служыць там ня цяжка, але на харч блага. *В. Старына.*

**Харчаваньне**, я, *н.*—продовольствование. У дарозя дорага харчаваньня абышлося. *В. Старына.*

**Харчавацць,-цца**, *дзс.* — продовольствовать,-ться. Німа чым скаціну харчаваць. Слаба яны харчуюцца. *В. Старына.*

**Хата**, ы, *ж. (пам.* **хатка, хатачка***)*— изба. Ідзі ў хату, там пагаворым. *В. Старына.* Чужая хата такая, як сьвякруха ліхая. *Прык. С. Новасёлкі, Пух. р.* Цёплая ваша хатка. А хатачка тая маленькая— як яны там і жывуць?! *В. Старына.*

**Хатковы**, *прм.*—помещичий батрак, живший в дворовой избе. Макар даўней па дварох ўвесь час служыў хатковым. *В. Старына.*

**Хаўрус**, у, *м.* — 1) таварищество, союз. Ня прымайма яго ў свой хаўрус.—2) дружба. Які чорта ў вас хаўрус: то б'юцца, то йзноў міраццa! *В. Старына.*

**Хаўрусавацць**, *дзс.*—дружить. Вельма ты ўжо хаўрусуяш з імі! *В. Старына.*

**Хаўрусьнік**, а, *м.*—товарищ, союзник. С хаўрусьнікам сваім усё прагулёў, што зарабіў. *В. Старына.*

**Хаўрусьніца**, ы, *ж.* — подруга, союзница. Ня хаўрусьніца яна табе, і нечага гуляць з ею. *В. Старына.*

**Хвабрыка**, і, *ж.* — фабрика. Наш Палікар служыць на хвабрыца. Хвабрыкі сталі боляй выпушчаць тавару. *В. Старына.*

**Хваёвы**, *прм.* — сосновый. Нарэзалі хваёвых дошчак. Хваёвая шула. *В. Старына.*

**Хваер**, у, *м. (яўрэйск.* fajer, з *нямецк.* Feuer. — огонь), — перен. жар., строгое взыскание. Ну й доў-жа я яму хваяру! будзя ведаць другі раз, як чапацца з малымі дзецьмі! *В. Старына.*

**Хвазануць**, *дзс.*—хватить. Хвазануў кслом по галавя. *В. Старына.*

**Хвала**, ы, *ж.* — хвала, слава. Адзін зьеш вала—усёроўна адна хвала. *Прык. В. Загай, Пух. р.*

**Хваліварак**, рка, *м.* — фольварок, небольшое имение. Каля нас дык усе панскія хваліваркі па'ддавалі на пасёлкі, толька большыя дварэ пакінулі на саўхозы. *В. Старына.*

**Хваліць,-цца**, *дзс.* — хвалить, - ться. Хоць за плот валіць, але сваё хваліць. *Прык. С. Навасёлкі, Пух. р.* Сябе ня хвалі і людзей ня гань. *Прык. В. Капейна, Сьміл. р.* Німа тут чым хваліцца. *В. Старына.*

**Хвальч**, ы, *ж.*—фальщ, порок. Конь бяз хвальчы, купляць можна сьмела. *В. Старына.*

**Хвальчывы**, *прм.*—фальшивый. Нехта на месьця ўсунаў мне хвальчывага рубля. *В. Старына.*

**Хванар**, à, *м.*—фонарь. Запалі хванар схадзіць у стопку. *В. Старына.*

**Хванда**, ы, *ж.*—фалда. Даўней сьвіты насілі с хвандамі, а ціпер етак ня шыюць *В. Старына.*

**Хвараві́ты**, *прм.*—болезненный. Нейкая хваравітая іх дзеўка. *В. Старына.*

**Хварба**, ы, *ж.*—краска. Купіла сіняі хварбы на спадніцу. *В. Старына.*

**Хварбаваць**, *дзс.* — красить, окрашивать. Мы свае вокна будам хварбаваць. Хварбуя яйца. *В. Старына.*

**Хвароба**, ы, *ж.* — болезнь. Па людзях ходзіць усякая хвароба. *В. Старына.*

**Хварсіць**, *дзс.* — форсить. Німа ўжо ў яго чым хварсіць. *В. Старына.*

**Хварсун**, á, *м.* (*ж.* **хварсуха**)— франт. Нашоўся етакі хварсун, думая, яго ніхто ня ведая! Хварсуха наша дык ня ведая, якія прыборы сабе вымышляць. *В. Старына.*

**Хвартух**, á, *м.* — передник. Набрала сабе на хвартух. *В. Старына.*

**Хварэць**, *дзс.* — болеть. Дзеці хварэюць на прастуду. *В. Старына.*

**Хвастаць**, *дзс.* — 1) хлестать кого. Хвошча яго трапкачом па чом папала. — 2) бить. І давай хвастаць яго чыстаколінаю. —3) разбивать что. Уп'ецца ды хвошча пасуду. *В. Старына.*

**Хвасьліва**, *прс.*— красиво, приятно. Хвасьліва слухаць, як ты кажаш, сынку! кажы, кажы етак на бацьку! *В. Старына.*

**Хвасьлівы**, *прм.* — красивый, форсистый. Хвасьлівы вазок ён зрабіў. Хвасьлівыя драбінкі. *В. Старына.*

**Хватацца**, *дзс.* — торопиться. Ня хватайся, да вечара ашчэ пасьпееш кончыць сваю работу! *В. Старына.*

**Хвільгаваць**, *дзс.* (*польск.* figlować)— плутовать, мошенничать. Ты яму ня'ддавай работы: ён такі чалавек, што ўмея й хвільгаваць. *В. Старына.*

**Хвіля**, і, *ж.* — 1) буря. На дварэ ўзьнялася хвіля.—2) **в бранном см.** Куды цібё гоніць чортава хвіля? Хвіля якая ў яго ёсьцяка! *В. Старына.*

**Хвіранка**, і, *ж.* (*польск.* firanka)— оконная занавеска. Зацягні на вакно хвіранку. *В. Старына.* Вокна пазавешвалі фіранкамі. *В. Вострава, Сьміл. р.*

**Хвойнік**, а, *м.*—сосновый лес. Ваўке ў хвойніку парвалі кабылу. *В. Старына.*

**Хвортка**, і, *ж.* (*польск.* furtka, *з ням.* Pforte) — калитка. Хвортку зачыняй, ато чужыя сьвіньня на двор налезуць. *В. Старына.*

**Хвортачка**, і, *ж.*—*пам.* **Хвортка**,— оконная форточка. Заказоў сталяру новыя вокна рабіць і каб у вадном вакне была хвортачка. *В. Старына.*

**Хворы**, *прм.* — больной. Ён ашчэ ляжыць хворы, мо' зараз паправіцца. *В. Старына.*

**Хвоя**, і, *ж.* (*пам.* **хвойка**) — сосна обыкнов. (Pinus silvestris L). С аднае хвоі вышла тры бярвіне й вярхавіна. Араць пайду пад хвойку. *В. Старына.*

**Хвэйчар**, а, **хвэльчар**, а, *м.*—фельдшер. Хвэйчар даў зельля. *В. Клятное, Пух. р.* К хвэльчару павезьлі дзіця лячыць. *В. Старына.*

**Хіб**, а, *м.* — хребет. На хібу ашчэ сала дарма. *В. Старына.*

**Хіба**, *злуч.*—разве. Хіба-ж я ведаю, што табе трэба? *В. Старына.*

**Хібіць**, *дзс.* — 1) делать ошибку, промах, выявлять недохват в чем. Роўна хунт—вага ня хібіць ані.—2) не уродить. Хібіў наш ячмень. Хібіла картопля. Жыта сяголята хібіўшы. *В. Старына.*

**Хікаць**, *дзс.* — хихикать. Ужо пачалі хікаць. *В. Старына.*

**Хіліць,-цца**, *дзс.* — наклонять, -ться; накренять,-ться. Елка сама ўжо хіліцца, ня падразайма боляй. Хілі шула ў еты бок ды абсыпай зямлею. *В. Старына.*

**Хінуць,-цца**, *дзс.*—1) наклонять,-ться. Бяроза хінецца ат ветру, як ня зломіцца. — 2) питать к кому благорасположение. Ня хінецца ён к сваім—чуроўся ўжо. *В. Старына.*

**Хістаць,-цца**, *дзс.* (*зак.* **хіснуць,-цца**) —качать,-ться в стороны. Ня хістай стала. Аж іці ня можа—хістаяцца. Ета ён хіснуў зуслон, дык вядро й скінулася. Ішоў, не'к хіснуўся ды паваліўся. *В. Старына.*

**Хітраваць**, *дзс.* — хитрить. Вельмі стоў ты хітраваць! *В. Старына.*

**Хітры**, *прм.* — хитрый. У Хідры людзі хітры. *Прык.* (Хідра — в. Пух. р.). *Х. Самін, Пух. р.*

**Хітрыкі**, аў, *мн.* — обман, плутовство. Хітрыкамі ўвесь сьвет пройдзяш, ды назад ня вернясься. *Прык. В. Старына.*

**Хлапец**, пца́, *м.*—отрок, подросток. Які ён нягодны хлапец: ні за што ня паслухая. *В. Старына.*

**Хлапецкі**, *прм.* — относящийся к парню. Ета хлапецкая гульня. Хлапецкая шапка. *В. Старына.*

**Хлапчанё**, няці, *н.* мальчуган. Абрыдоная нейкая хлапчанё: усё лезя ды лезя, каб яму што даць. *В. Старына.*

**Хлапчук**, а́, *м.* — подросток. Ладны ён ужо хлапчук: сам арэ й троха косіць. *В. Старына.*

**Хлапчына**, ы, *м.*—детина. Еткі вялікі хлапчына лезя к малым гуляць —ета-ж сорам! *В. Старына.*

**Хлеб у сваём пуся (паловы)**,—хлеб, приготовленный из муки, зерно для которой не провеивалось. Ціпер яны сталі лепяй жыць, а ўперад дык тлуміліся адною картопляю ды хлеб елі ў сваём пуся. *В. Старына.*

**Хлёбаць**, *дзс.* — хлебать, есть жидкое. Хлёбая нішчымныя бураке. *В. Старына.*

**Хлёпаць, хлюпаць**, *дзс.*—плескаться, идя по воде, по грязи. Ня падкасоў штаноў ды хлёпая па вадзе. Абыйдзі бокам, ня хлюпай па гразі. *В. Старына.*

**Хліпаць**, *дзс.* — всхлипывать, плакать. Годзя табе ўжо там хліпаць, ідзі есьці! *В. Старына.*

**Хлістаць**, *дзс.*—1) хлестать. Хлішчы яго пугаю. *В. Слопішча, Шацк. р.*— 2) есть что жидкое. Хлістая адну поліўку, а густышу ня хоча. *В. Старына.* (*Пр.* **Сёрбаць**).

**Хлопчык**, а, *м.* (*пам.* **хлопчычак**)— мальчик. Ладны вырас ваш хлопчык. Стройны ваш хлопчычак. *В. Старына.*

**Хлопец**, пца, *м.* — парень. Гарасіму лацьвей: яго хлопяц усюды йдзе ды йдзе. Сяголята буду жаніць свайго хлопца. *В. Старына.*

**Хлуд**, а, *м.* — деревянные стенки колодца. У калодзіж упусьцілі дубовы хлуд. *В. Старына.*

**Хлусіць**, *дзс.*—лгать. Што мне хлусіш, я сам ведаю. *В. Старына.*

**Хлыстак**, а̀, *м.*—палка для перенимания катаемого круга (**кацёлкі**). Хлыстаком доў ня па кацёлца, а па нагах. *В. Старына.*

**Хлюндра**, ы, *аг.* (*польск.* flondra, flundra) — неряха, нечистоплотный. Ну й хлюндра: увесь у гразь убырскаўся! *В. Старына.*

**Хлюст**, а, *м.*—лгун и подлиза. З яго толька добры хлюст, а больш нічога. *В. Старына.*

**Хляпа**, ы, *ж.* (**ляпа**) — широкий рот. Усё ўваброў-ба ў сваю хляпу! *В. Старына.*

**Хляўчук**, а̀, *м.* — хлевок. Сьвіньней заганіця ў хляўчук. *В. Старына.*

**Хмара**, ы, *ж.* — туча. Насунула вялікая хмара — будзя здаровы дождж! *В. Старына.*

**Хмурнець,** *дзс.*—пасмурнеть. Пачало хмурнець, хутчэй трэба згрэбці сена. *В. Старына.*

**Хмурны,** *прм.*—1) пасмурный. Хмурны сягоньня дзень. Хмурная раніца.—2) печальный. Сядзіць ён хмурны ды жалкуя. *В. Старына.*

**Хмурыцца,** *дзс.* — о небе: покрываться тучами. Нешта хмурыцца,— ці ня пойдзя с паўдня дождж? *В. Старына.*

**Хмыліцца,** *дзс.*—о лошади: заворачивать назад уши. Хмыліцца кабыла, ашчэ ўбрыкне. *В. Старына.*

**Ходацца,** *дзс.* — бороться. Хлопцы ходаюцца, а дзяўчата радуюцца. *Прык. В. Белае, Пух. р.*

**Ходу (даць),**—дать тяги, дать стрекача. А ён барджэй ходу с хаты! Вырваўся ды ходу! *В. Старына.*

**Хопаць,** *дзс.* — *гл.* **Хапаць.** Нечага надта хопаць! *В. Старына.*

**Хораша,** *прс.* — 1) красиво. Хораша зроблян тапчан.—2) осторожно. Хораша лезь с печы, ня кінься. *В. Клятное, Пух. р.*

**Хорма,** ы, *ж.*—1) форма—внешний вид, очертание. Хормы ня мая твой сундук.—2) установленный порядок, образец. Прашэньня па хормя напісоў. — 3) платье официального образца. Ета ў іх такая хорма — шапкі бяз казыркоў. 4) гнездо для отливки. Жуковіну выліў на хорму. *В. Старына.*

**Хоць,** *злуч.* — хоть. Бяда: хоць ты лажыся ды памірай! Хоць ты жывы ў яму лезь! *В. Старына.*

**Хоцькі - ня - хоцькі,** *прс.*—хочешь— не хочешь. Хоцькі - ня - хоцькі, а трэба йці. *В. Старына.*

**Храбрасьць,** і, *ж.* — храбрость. Чалавек ат воўка бароніцца ня сілаю, а храбрасьцю. *Прык. В. Белае, Пух. р.*

**Храбры,** *прм.* — храбрый. Храбры ён ваяка. *В. Старына.* У сярэдзіня хоць д'ябал, абы на верся храбяр. *Прык. В. Загай, Пух. р.*

**Храбустаць, храпастаць,** *дзс.*— жрать, что, раскалывая зубами. Сабака храбушча косьці. *В. Слопішча, Шацк. р.* Сьвіньня храпошча жалудэ. *В. Старына.*

**Храплівы,** *прм.* — храпящий. Купіў ты сабе нейкага храплівага каня, *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Храпці,** *дзс.* — храпеть. Кінаўся на ложак ды давай храпці, ік пшаніцу прадоўшы. *В. Старына.*

**Хрупцець,** *дзс.*—хрустеть. Вот есьць моркву, аж хрупціць у роця! *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Хрустаць,** *дзс.* — хрустеть кушая. Ён толькі хрушчыкі любіць хрустаць. Хрустая сухары. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Хрусткі,** *прм.* — хрустящий. Хрусткія вашы хрушчыкі. *В. Старына.*

**Хрушчык,** а, *м.* хрустик, хворост, (печенье). К хрэзьбінам напяклі хрушчыкаў. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Хрысьціны,** ін, **хрэзьбіны,** ін, *мн.*— крестины. Пайду к куму на хрысьціны. На хрэзьбінах у Сідара ўсе папіліса, аж ног пад сабою ня чулі. *В. Старына.*

**Хрысьціць, -цца,** *дзс.* — крестить, -ться. Хай сабе сердзіцца, я ня бядую: хрысьціць дзяцей у яго ня буду! Ён даўно ўжо ў царкву ня ходзіць і хрысьціцца, мусіць, забыўся—во як ціпер! *В. Старына.*

**Хрышчоны бацька, (хрышчоная маці)** — крестный. Хрышчонага бацькі трэба паслухаць, памагчы яму. Хрышчэнік прышоў у госьці да хрышчонаі маткі (мацяры). *В. Старына.*

**Хрышчэнік,** а, *м.* (*ж.* **хрышчэніца**) — крестник, Хрышчэніку доў пару яец на вяліканьня. Мая хрышчэніца ўжо вялікая: гасьцінцы ёй ня трэба. *В. Старына.*

**Хрэст,** храста (хрыста) *м.* (*пам.* **хрэсьцік**)—1) крест. Бацюшка с храстом пашоў ваду сьвяньціць. Бацюшка расьсердзіўся на яго ды ня доў храста пацалаваць. У яго німа на шыі хрэсьціка.—2) крещение. Дзіця ўжо павезьлі да хрыста. *В. Старына.*

**Хрэсты,** аў, *мн.* — трефы, масть карт. Хадзі хрэсты! *В. Старына.*

**Хрэсцы,** аў, *мн.* — среда на „крестопоклонной неделе". Трэба маку ў каго дастаць да сьпячы хрэшчыкаў к хрэсцам. *В. Старына.*

**Шнарыць,** *дзс.* — шнырять. Чаго ты тут шнарыш? *В.Слопішча,Шацк.р.*

**Шнураваць,** *дзс.* — ходить взад и вперед. Чорт ведая, чаго шнуруя па хаця! *В. Старына.*

**Шну(ы)роўка,** і, *ж.* — женская одежда без рукавов, вроде жилетки, корсет. Падыспад надзела шнуроўку. *В. Бор, Сьміл. р.* Пашыла сабе новаю шнуроўку. *В. Старына.*

**Шныпарыць,** *дзс.* — искать. Усё шныпарыць у сваіх манатках. *В. Старына.*

**Шолудзь,** я, *м.*—парш. Шолудзі ўспалі на яго. *В. Старына.*

**Шопа,** ы, *ж.* — посудный шкафчик. Пасуду схавалі ў шопу. *В. Старына. (Пр.* **Шафа***).*

**Шоргаць,-цца,** *дзс. (зак.* **шаргануць, -цца**) — тереть,-ться. Ня шоргай ты нагамі. Спакойна сядзі, ня шоргайся. Ішоў ды шарганууся аб маё плячо. *В. Старына.*

**Шорсткі,** *прм.* — колючий. Шорсткі сівец, ік шчаціньня. *В. Старына.*

**Шпак,** а, *м.* — скворец (Sturnus). Завёўся шпак у нашум садку. Шпаке прыляцелі. *В. Старына.*

**Шпаркі,** *прм. (прс.* **шпарка**) — быстрый. Шпаркі конік яго. Ня йдзі етак шпарка, ато я й ня спраўляюся с табою. *В. Старына.*

**Шпарыць,** *дзс.* — 1) быстро итти. Шпарыць, аж пыл толька курыць. *В. Старына.* — 2) быстро бросать что. Шпар дрова вот сюды. *В. Слопішча, Шацк. р.*

**Шпокаць,** *дзс. (зак.* **шпокнуць***)* — 1) лопать, трескать. Камінке на ляпя шпокаюць ды шпокаюць. Шпокнула шклянка. — 2) бить по чему, чтобы получался звук, подобный хлопанью. Узёў яго харашэнька ды давай шпокаць. *В. Старына.*

**Шпонка,** і, *ж.* — 1) *гл.* **Шпуга.** Дзьверы зрабіў на шпонках. *С. Навасёлкі. Пух. р.* — 2) запонка. Сарочку заплікнуў шпонкаю. *В. Старына.*

**Шпуга,** і, *ж.* — планка, врезаемая в дверь для скрепления досок. Моцна пазаганёў шпугі ў дзьверы. *В. Старына.*

**Шпуля,** і, *ж.* — катушка в самопрялке. Напрала дзьве шпулі за вечар. *В. Старына.*

**Шпурляць,-цца,** *дзс. (зак.* **шпурнуць***)* — бросать,-ться чем. Ня шпурляй ты ў садок усякага паленьня! Хлопцы шпурляюцца грудкамі. Вісока шпурнуў камянь. *В. Старына.*

**Шпылька,** і, *ж.* — шпилька. Купіла сабе шпыляк у галаву. *В. Старына.*

**Шпыляць,** *дзс.* — хлестать. Шпыляя ды шпыляя яму цярэз галаву. *В. Старына.*

**Штанэ,** оў, *мн.* — штаны. Чуць штаноў ня згубіў сваіх уцянаючы. *В. Старына.*

**Штапаваць,** *дзс.* — 1) делать шов швейной машиной. Нешта машына добра ня штапуя. — 2) руками делать шов, подобно швейной машине. Рукамі штапуя усяроўна, ік машынаю. *В. Старына.*

**Што-году,** *прс.* — ежегодно. Штогоду мы тут накошваям вазоў пяць сена. *В. Старына.*

**Што-дзень,** *прс.*—ежедневно. Штодзень лея дождж ды лея. *В. Старына.*

**Што-нёбудзь**—что-нибудь. Купі ты там што-небудзь дзіцяці, цацку якую. *В. Старына.*

**Штроп,** у, *м. (польскае* sztrof) — часть, колено кадрили. Іграй трэйці штроп! *В. Старына.*

**Штука,** і, *ж.* — кроме прямого значения, в переносном. Вот урэзаў ён штуку, дык ўрэзаў! *В. Старына.*

**Штукар,** а, *м.* — шутник, весельчак. Ну й штукар ён: ік прыложыць—усе й паедуць ат рогату! *В. Старына.*

**Шту(ы)рхаць, - цца,** *дзс. (зак.* **шту(ы)рхануць, штырыць***)* — толкать. Штурхая яго пад бок, каб маўчаў. Штырхая ў грудзі. Памалу ня штырхайся надта! Ік штырхануў, дык і паляцеў потырч! Штырыў яго к чортавуй мацяры! Ета-ж ты міне штурхануў. *В. Старына.*

**Штучка,** і, *аг.* — перен.,—своенравный, злой и хитрый человек — Ну й штучка ета Агапка: ты ёй слова, дык яна табе дзесяць! Ох і штучка-ж ён: ласачкамі с цібе духе вымя! *В. Старына.*

**Штых,** а̀, *м.* — штык. Штыхамі яго закалолі. *В. Старына.*

**Шуга̀ць,** *дзс.* (*зак.* **шутнуць**) — полыхать. Агонь аж у неба шугая. А цяпло ік шугне да шугне, аж у самы строп! *В. Старына.*

**Шука̀ць,** *дзс.* — искать. Шукай тут, яно сюды паляцела! *В. Старына.*

**Шу̀ла,** а, *н.* (*пам.* **шулца**), **шуло,** *а, н.* — столб в постройке или ограде. Аб‘ехала шула (знач., шула ўвайшла ў зямлю падгніўшы). Дастоў пару дубовых шулцаў. *В. Старына.* Згніло шуло ў пуні. *В. Бор, Сьміл. р.*

**Шула̀к,** а̀, *м.,* (*пам.* **шулачок**) — небольшой столбик для ограды или в постройке. Паваліўся шулак у плоця. Із етага кавалка ашчэ выйдзе шулачок. *В. Старына.*

**Шума̀,** ы, *ж.* — 1) навоз из сухой мелкой соломы и проч. остатков на гумне, слегка подгнивших. На загон навазіў шумы.—2) накипь в горшке при варке пищи. Скінь ложкаю ету шуму. *В. Старына.*

**Шумава̀ць,** *дзс.* — кипеть ключом, производя пену. Зацірка ў гаршку шумуе. *В. Старына.*

**Шумѐць,** *дзс.* — 1) шуметь, производить шум. Шуміць у вушшу.—2) бранить кого. Шуміць ён часьцяком на сваю бабу. *В. Старына.*

**Шумэркаць,** *дзс.* — и в ус не дуть, не печалиться, не заботиться. Жонка захварэла, а ён і ня шумэркая. *В. Старына.*

**Шумя̀та,** ят, *мн.* — мята (Mentha L). Дай мне панюхаць шумят. *В. Старына.*

**Шу̀п(ф)ель,** пля, *м.* — большой совок для зерна, находящийся в гумне. Шуплям насыпай у мех. *В. Старына.* На шуфяль зьмяці зярняткі ды ўсып у мех. *В. Забалоцьце, Сьміл. р.*

**Шупі̀ць,** *дзс.* — понимать, разуметь. І яно ўжо нешта шупіць!.. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Шупляваць,** *дзс.* — ссыпать, сгребать зерно „шуплям“. Шуплюй на бок, каб прайці можна было. *В. Старына.*

**Шупляда,** ы, *ж.* — подоконник. У вокнах пагнілі шупляды. *В. Вострава, Сьміл. р.*

**Шуплядка,** і, *ж.* — ящик в столе. Ножыкі ў шуплядца. *В. Старына.*

**Шу̀рпа,** ы̀, *аг.*—гниль, перен.,—сильно дряхлый. Яна ўжо, як шурпа, зрабіласі. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Шуста̀ць,** *дзс.,* (*зак.* **шуснуць**) — действовать быстро и с шумом: падать, бросать, напирать. Вада проста й шустая цяраз заставы. Не‘к ня нарокам выняў затычку ў бочца, дык газа ік шусьня —уся й выляцяла! Сьнег іс крышы ік шусьня, дык я аж іспужоўся! *В. Старына.*

**Шу̀стры,** *прм.* — шустрый. Ён дарма, што малы, але шустры хлапец. *В. Старына.*

**Шусь, шусьцы!** *выкл.* — междом. для обозначения сильного движения или действия вообще с шумом. Заяц проста с пад ног шусь цяраз дарогу! Шусьць яму пад ногі—ды ўцёк! *В. Старына.*

**Шут-шут!** *выкл.* — междометие для подзывания овец. Шут-шут-шут!.. Авечачка мая, авечачка! *В. Старына.*

**Шу̀тка, шутачка,** і, *ж.* — ласкат. название овцы. Шуткі мае, шутачкі! Чаго вы пудзіцяся?! Шутка мая, шутачка. *В. Старына.*

**Шчакоўкнуць,** *дзс.* — произнести слово. Маўчыць і слова ня шчакоўкня. *В. Старына.*

**Шчанѐ,** ня̀ці, *н.* — 1) щенок. Сука нараджала шчанят. — 2) бранное на малых. Маўчы ты, шчанё аблезлая! *В. Старына.*

**Шчанюк,** а̀, *м.* — *гл.* **Шчанѐ** *ў 2-ім знач.* Ты ашчэ шчанюк—ня лезь, куды ня трэба! *В. Старына.*

**Шчапа̀ць,** *дзс.* — щепать. Бацька лучыну шчапая. Драбней дрэўкі шчапай. *В. Старына.*

**Шчапіць,** *дзс.* — делать прививку. Агароднік дулю шчэпіць. *В. Бор, Сьміл. р.*

**Шчасьце,** я, *н.* — счастье. Як чыё шчасьця: каму добра папала, а каму не. Ня вялікая ты ў міне шчасьця!.. *В. Старына.*

**Шчаціньне,** я, *н. зб.*—щетина. На шчаціньня купіла мыла. *В. Старына.*

**Щчокат,** у, *м.*—щекотка. Вот ён баіцца шчокату: проста ня дакрануцца да яго! *В. Старына.*

**Шчоўе,** я, *н.* — щавель обыкновенный (Rumex Acetosa L.). Наварылі маладзенькага шчоўя. *В. Старына.*

**Шчупак,** а, *м.* (*пам.* **шчупачок**) — щука (Esox lucius L.). Злавіў пару шупакоў. Во ета дык шчупачок: адзін заважыў хунтаў дзесяць! *В. Старына.*

**Шчупаць,-цца,** *дзс.* — щупать,-ться; ощупывать. Шчупае, ці гладка зробляна. Любіць ён шчупацца з дзяўчатамі. *В. Старына.*

**Шчуплы,** *прм.* (*пам.* **шчупленькі**) — щуплый, мизерный. Вот нейкая шчуплая іх дзіцянё. Шчупленькі хлопчык. *В. Старына.*

**Шчурачка,** і, *ж.* — клочок. Загіб чалавек і шчурачкі ня знашлі. *В. Старына.*

**Шчуць,** *дзс.* — почуять. Ік шчуў сабака воўка, дык ня ведаў, дзе дзецца! *В. Старына.*

**Шчыкатаць,-цца,** *дзс.* — щекотать, -ться. Ня шчыкачы дзіцяці. Шчыкочацца за шыю. *В. Старына.*

**Шчыкотна,** *прс.*—щекотно. Шчыкотна, аж ня вытрымаць! *В. Старына.*

**Шчыліна,** ы, *ж.*—щель. Вот шчыліны ў хаця—па кулаку! *В. Старына.*

**Шчылна,** *прс.* — плотно. Шчылна дзьверы прыстаюць. *В. Старына.*

**Шчымець,** *дзс.* — болезненно сжиматься. Паляц так баліць, аж шчыміць. *В. Старына.*

**Шчыры,** *прм.* (*пам.* **шчыранькі**) — дорогой, очень близкий к сердцу. Браток ты мой шчыры! Дзядзюшка міляанькі, шчыранькі, ня бібся! *В. Старына.*

**Шчэп,** а, *м.* — прививка. Пасадзіў два шчэпы. *В. Бор, Сьміл. р.*

**Шчэтка,** і, *ж.* — домашнего изделия щетка для чесания волос, в виде помазка. Добра вычасалася шчэткаю. *В. Старына.*

**Шыба,** ы, *ж.* (*пам.* **шыбка**) — отдельное стекло в оконной раме. Парабілі вокна на тры шыбы. Трэба ўставіць адну шыбку ў вакно. *В. Старына.*

**Шыбельнік,** а, *м.* — висельник. Шыбяльнік еты хутка галаву сабе скруціць! *В. Старына.*

**Шыбзьдзік,** а, *м.* — слабосильный или малопонимающий. Шыбзьдзік ты ашчэ, браця, калі етага ня падымяш! *В. Старына.*

**Шыдэлак,** лка, *м.* — вязальный крючок. Куплю сабе шыдэлак ды нараблю анталяжаў. *В. Матарава, Сьміл. р.*

**Шылёўка,** і, *ж.* — обшивка дома из досок. Нарэзалі дошчак на шылёўку. *В. Старына.*

**Шыляваны,** *прм.* — обшитый досками (о доме). Яго хата заметная — шыляваная. *В. Старына.*

**Шыляваць,** *дзс.* — обшивать досками (дом). Вясною і мы будам шыляваць сваю хату. *В. Старына.*

**Шындзёлы,** аў, *мн.* — колючие травы на песчаной, малоплодородной почве. У жыця адны толька шындзёлы —усе рукі імі пакалола. *В. Старына.*

**Шынка,** і, *ж.* — засоленный, копченный окорок. К сьвяту зьвеньдзілі адну шынку. *В. Старына.*

**Шынкаваць,** *дзс.* — торговать водкою. Даўней ён шынкавоў гарэлкаю, а ціпер зямлю трымая. *В. Старына.*

**Шынкар,** а̀, *м.* (*ж.* **шынкарка**) — кабатчик, целовальник. Яго бацька тут быў за шынкара ашчэ ат пана. У гаі даўней стаяла карчма, а ў ёй сядзела шынкарка. *В. Старына.*

**Шынок,** нка́, *м.* — питейный дом. Заехалі ў шынок пагрэцца. *В. Старына.*

**Шырай,** *прс. в. ст.* — шире вообще, относительно самого себя. Шырай трэ'бала рукавэ шыць. *В. Старына.*

**Шырозны**, *прм.*—широченный. Якоя тваё шырозная палатно вышла! *В. Старына.*

**Шыршы**, *прм. в. ст.* — более широкий. Мяльлянаў загон шыршы за наш. *В. Старына.*

**Шырыня**, і, *ж.* — ширина. Мерай удоўж і ў шырыню. *В. Старына.*

**Шырэй**, *прс. в. ст. — гл.* **Шырай.** Шырэй капай яму. *В. Старына.*

**Шыцца**, *дзс.* — пролазить, проталкиваться в толпе. Куды ты шыяська, тут і так цесна?! *В. Старына.*

**Шышка**, і, *ж.* — 1) шишка древесная. Нараілі яму парыць ды піць хваёвыя шышкі. — 2) желвак. У яго на галаве шышка ўсхапілася. — 3) в перен. см. — персона, особа. Ня думайся, ён вялікая шышка ціпер! Ня вялікая ты шышка у міне, цібе ніхто ня баіцца! *В. Старына.*

**Шыя**, і, *ж. (пам.* **шыйка**) — шея. Абы галава, шыя будзя. *Прык.* Тонкая ў дзіцяці шыйка. *В. Старына.*

**Шэлег**, а, *м.* — $^1/_8$ доля медной копейки. І шэляга ты ня палучыш ат міне! *В. Старына.*

**Шэльма**, ы, *аг.* — шельма. Пачакай-жа ты, шэльма, пападзесься ты ў мае рукі! *В. Старына.*

**Шэньціць**, *дзс. безас.* — счастливиться, везти (везёт). Яму нешта саўсім ня шэньціць. *В. Старына.*

**Шэпт**, у, *м.* — шопот, шептание. Нешта шэптам кажа яму на вуха. Ня люблю я етых вашых шэптаў! *В. Старына.*

**Шэпты**, аў, *мн.* — перен. наговоры, сплетни. Шэпты хату губяць. *Прык. В. Старына.*

**Шэршань, шня**, *м.* — 1) шершень, насекомое (Vespa crabro L) Шаршне чуць ня заелі яго! — 2) презр. шляхтич, а также небольшой чиновник. Вэнь паехаў на бядзе нейкі шэршань. Бачыш, які шэршань: і гаварыць с чалавекам ня хоча! *В. Старына.*

**Шэўчык**, а, *м.* — *пам. ад* **шавец.** Мікіта дарма сабе шэўчык: шыя добра боты і дзешава. *В. Старына.*

## Ы.

**Ыт!** *выкл.* — междометие презрения, негодования. Ыт, падла нейкая сьмярдзючая! *В. Старына.*

**Ых!** *выкл.* — междометие презрения. Ых, як прэ яблыкі, аж нос гнецца! *В. Старына.*

**Ыш!** *выкл.*! — междометие зависти, негодования. Ыш ты які хват! Ыш ты яго! *В. Старына.*

## Э.

**Эй!** *выкл.* — эй (слушай). Эй, ты там, хадзі сюды! *В. Старына.*

**Эт!** *выкл.* — междометие, выраж. безразличие, презрение. Эт, мне ўсяроўна! Эт, пісар з яго! *В. Старына.*

## Ю.

**Юда**, ы, *ж.* — предатель (Иуда). Ня вер яму: ён усяроўна, юда, скруціць табе! Бачыш—юда які, як лоўка падвёў!.. *В. Старына.*

**Юрэць**, *дзс.* — вожделеть. Дарма: яна табе атойдзя ды ізноў будзя юрэць. Баба юрыць. *В. Старына.*

**Юр'я**, я, *м.* — праздник 23 апреля. На Юр'я пастухе пагоняць пасьціць. *В. Старына.*

**Ютрань**, і *ж.* — утреня. На ютрань ня пасьпела: позна з дому вышла. *В. Старына.*

**Юха**, і, *ж.* — кровь из разбитого носа. З носа аж юха пацякла. *В. Старына.*

**Юхта**, ы, *ж.* — юфть. Наброў юхту на боты. Крэпкая юхта ўдалася. *В. Старына.*

**Юшка**, і, *ж.* — 1) жидкость в бульоне. Картоплю паелі, а мне юшку пакінулі. — 2) вьюшка. Залажы ў печы юшку, каб ня вышаў дух. *В. Старына.*

# Я.

**Ябеда,** ы, *ж.*—ябеда. Нацягнулі ябяду на чалавека саўсім дарэмна. *В. Старына.*

**Ябеднік,** а, *м.*—ябедник. Ябядніку свайму ня зычу етакага ліха! *В. Старына.*

**Яблык,** а, *м.,* **яблыка,** а, *н.*—яблоко. Кіслы яблык папоўся. Зьбіў яго на горкая яблыка. *В. Старына.*

**Яблына,** ы, *ж. (пам.* **яблынка**)—яблоня (Pirus Malus L). С аднае яблыны натрэсьлі ўсяго адну шаснастку яблыкаў. Яблынка ашчэ маладая, але яблыкаў шмат ё. *В. Старына.*

**Явар,** у, *м.*—аир (Acorus Calamus L.) Нарвалі явару хлеб пячы. *В. Старына.*

**Ягадка,** і, *ж.*—кроме прямого значения в перен. см.,—злая женщина. Ну й ягадка ета Матрунка: абы што, дык есца ды есца с сваею сьвякрухаю! *В. Старына.*

**Ягіня,** і, *ж.*—злая женщина (баба яга). От дзе ягіня: ад злосьці, аж кіпіць! Рашчырванелася, ік ягіна. Пэч нагарэла, ік ягіня. *В. Старына.*

**Ягомасьць,** я, *м.*—его милость, сударь. Сядайця, ягомасьцы! *В. Старына.*

**Яда,** ы, *ж.*—еда. Якая яда, такая й работа. Каб яму доў добраю яду, от бы ён разробіўся! *В.Старына.*

**Ядзеньне,** я, *н.*—яство. Было на вясельлі ядзеньня й піценьня. *В. Старына.*

**Ядкі,** *прм.*—с аппетитом ядущийся. Сена сьвежанькая, зялёнянькая, дык вельма-ж ядкоя. Авес залежаўся дык нешта й няядкі. *В. Старына.*

**Ядра,** аў, *мн.*—ятра, яички самца. У барана вялікія ядра. *В.Старына.*

**Ядраны,** *прм.*—1) довольно свежий, холодноватый. Ядраная раніца была. Ядраная ноч.—2) крупный, полный (от ядра). Ядраная жыта ўрадзіла; ядраная пшаніца. *В.Старына.*

**Ядун,** а, *м.*—едок. Ядун с цібе, чалавеча: скваркі сала й то ня йзьзеў. *В. Старына.*

**Ечка,** а, *н.*—яичко. Хоча яечка ды ашчэ аблупляная. *Прык. В. Старына.*

**Яешня,** і, *ж. (пам.* **яешанька**)—яичница. Сьпяклі скавараду яешні. Усю яешаньку адзін паеў, а мне ня пакінуў. *В. Старына.*

**Яжджалы,** *прм.*—хорошо об'езженный (конь). Еты добры конік—яжджалы. *В. Старына.*

**Язык,** а, *м.*—1) язык—орган речи. У яго цялята язык аджавалі. *Прык.* (знач., маўчыць).—2) у льномялке двигающаяся доска. У церніцы язык зламоўся. *В. Старына.*

**Языкаты,** *прм.*—занимающийся сплетнями. Языкатая яна баба: такога табе нагаворыць, чаго й на сьвеце німа. *В. Старына.*

**Язычок,** чка *м.*—1) *пам.* **язык.** Маленькі язычок—2) в перен. см. для выражения остроты слова и сплетничества. От дзе язычок: ік скажа, дык у самаю точку й пападзе! Ну й язычок у яе: усіх табе абгаворыць, абмыя—і ні лыса! *В. Старына.*

**Яйцо,** а, *н.*—яйцо. Купіла соды на дзьве яйцы. Куры зьнесьлі чатыры яйцы. Прадала на мыла пяць яец. *В. Старына.*

**Як,**—1) *прс.*—как. Як ты робіш? А ты як хочаш?—2) частица сравнения, причем в данном случае—**ік.** (главн. образ. в Смиловичск. р.). Халодны, ік лёд. Чырвоны, ік рак. *В. Старына (Пр.* **Ік.**)

**Як раз,** *прс.*—точь в точь. Як раз, як кроў, чырвоны. *В. Крамяні, Пух. р.*

**Ялавец,** ялаўцу, *м.*—можжевельник обыкнов. (Juniperus communis L). Ялаўцу трэба насеч, будам каў басы веньдзіць. *В. Старына.*

**Ялавіна,** ы, *ж.*—пустующая полоса, поросшая травой. На ялавіня напасьціў каня. *В. Старына.*

**Ялаўка,** і, *ж.*—яловая корова. Ялаўка наша зараз саўсім запусьціцца. *В. Старына.*

**Ялаўцовы,** *прм.* — можжевельниковый. Ялаўцовых лапак насеклі комін выцірадь. *В. Старына.*

**Яліна,** ы, *ж.*—большая ель. Етаі аднае яліны хваціць на дошкі. *В. Старына.*

**Ялчаць,** *дзс.* — приобретать особый пригорьклый вкус. „Ялчāе" обыкнов. сало и масло. Сала ў кубельчыку стала ялчаць. *В. Старына.*

**Ямчыня,** і, *аг.*—проворность, быстрота; перен.—скороход. То ямчыня; 'к бачыш зьбегаў! *В. Старына.*

**Ямчэй,** *прс. в. ст.*—быстрее, скорее. Ямчэй бяжы ты! *В. Старына.*

**Ямчэйшы,** *прм. в. ст.*—быстрейшый. Ён самы ямчэйшы хлапец. *В. Старына.*

**Ярдан,** у, *м.* — иордань, — место на реке, где освящают воду 6 января. Захавай ваду з ярдану, каб пчолы вяліся. *Народ. прым. В. Старына.*

**Ярчанё,** няці, *н.*—подросток с визгливым, крикливым голосом. Вот дзе ярчанё! німа спакою на яго! *В. Старына.*

**Ярчук,** á, *м.*—визгливая злая собака. Такі-ж ярчук іх сабака: хто ні йдзе, дык усё брэша. *В. Старына.*

**Ярыня,** і, *ж.*—яровые посевы, хлеба. Сяголята добрая ярыня, толька картопля троха схібіла. Німа дажджу на ярыню. *В. Старына.*

**Ярыць,** *дзс.*—об яйце: издавать чистый звук. Мацак, мусіць, крэпкі, абы добра ярыць. *В. Старына.*

**Ясна,** *прс.*—светло. Сярод ночы стала ясна, ік удзень. *В. Старына.*

**Ятроўка,** і, *м.*—жена одного брата по отношению к жене другого брата. Братэ дарма, але ятроўкі ўсё йграюць дзяліцца. *В. Старына.*

**Яхкаць,** *дзс.* — особо лаять собаке при погоне за зайцем. Нейдзя сабака яхкая на зайца. *В. Старына.*

**Ячмень,** ю, *м.*—1) ячмень обыкнов. (Hordeum vulgare L). Згарэў сяголята ячмень: год сухі.—2) ячмень на глазе. Пара твой ячмень жаць на воку! (Кажуць у насьмешку). *В. Старына.*

**Ячніца,** ы, *ж.* — ячменная солома. Ячніцу каровы добра ядуць. *В. Старына.*

**Ячнішча,** *і, н.*—земля, бывшая под засевом ячменя. На ячнішчы жыта ня ўрадзіла. *В. Старына.*

**Ячны,** *прм.*—ячменный. Нарабілі на ўсю зіму ячных круп. Сьпяклі сабе ячнага хлеба *В. Старына.*

**Яшчарка,** і, *м.*—1) ящерица (Lacerta). У яшчаркі дык хвост сам атрастая, калі атарвуць яго. — 2) бойкая девочка с жывыми глазами. Ашчэ етаі яшчаркі ня хватала тут! *В. Старына.*

---